


Бібліятэка Бацькаўшчыны

Міжнароднае грамадскае аб’яднанне
«Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»



КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА

*Людзі Беларусі*

КНІГА III

**Рыгор Барадулін**

# Дзённікі і запісы

*Выпуск 4*

*1983–1988*

*Выданне 2-е*

Мінск, «Кнігазбор», 2020

УДК 821.161.3.09+929 Барадулін
ББК 83.3(4Беи)
Б24

Укладанне, прадмова і тэксталагічная падрыхтоўка
Наталлі Давыдзенка

Заўвагі
Наталлі Давыдзенка і Ірыны Сляповіч

*У тэксце захоўваюцца некаторыя асаблівасці аўтарскай мовы.*

**Барадулін, Р.**
**Б24** Дзённікі і запісы. Выпуск 4. 1983–1988 / Рыгор Барадулін ; укл., прадм., Н. Давыдзенка. 2-е выд. — Мінск : Кнігазбор, 2020. — 380 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны. Людзі Беларусі : кн. 3).

ISBN 978-985-7227-78-5.

Чацвёрты выпуск «Дзённікаў і запісаў. 1983–1988» народнага паэта Беларусі Р. Барадуліна адметны запісамі пра яго ўдзел у працы XXXIX сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у складзе дэлегацыі БССР і пра паездку ў далёкія і загадкавыя Індыю і Непал, а таксама не менш цікавыя — у Францыю, Балгарыю, Польшчу і пра больш звыклыя — у рэспублікі Савецкага Саюза і дарагія сэрцу родныя мясціны.

Таксама ў гэтую кнігу, выдадзеную ў серыі «Людзі Беларусі», як і тры папярэднія, увайшлі вершы, раней не друкаваныя ў зборніках паэта, а таксама вясёлыя сяброўскія віншаванні, прысвячэнні і малюнкі.

**УДК 821.161.3.09+929 Барадулін**
**ББК 83.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-7180-78-5**

## Ад укладальніка

*Надышоў час пазнаёміцца чытачам з чарговым, чацвёртым, томам «Дзённікаў і запісаў. 1983–1988» народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна. Найбольш насычаныя замежныя паездкі гэтага шасцігоддзя, па-свойму адмысловыя, непаўторныя, яскравыя: у ЗША як удзельніка XXXIX сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у складзе дэлегацыі БССР (верасень — снежань 1984), дзе яму давялося двойчы выступіць, а таксама наведаць Вашынгтон, Філадэльфію і ўпадабаны Ніягарскі вадаспад; у Францыю, разам з рускімі паэтамі і перакладчыкамі (1987); у Польшчу, на сустрэчы з беларусамі Беластока і Гайнаўкі; у добра знаёмую Балгарыю і, у тым жа 1988 г., у непараўнаныя сваімі дзівосамі Індыю і Непал.*

*Не радзелі паездзіны паэта і па рэспубліках Савецкага Саюза: на Дні савецкай літаратуры ў Латвію (1983), ва Украіну (1984), у паўночны Мурманск і Маскву (1985) — на нараду перакладчыкаў і нараду, прысвечаную пытанням перакладу «Слова пра паход Ігаравы», у Талін (1986), Пскоў і пушкінскае Міхайлаўскае (1987); у Таджыкістан, на юбілей паэта Лахуці (1987).*

*Нястомны Рыгор Іванавіч выпраўляўся і ў беларускія гарады і мястэчкі — Бярэзінскі запаведнік і Бягомль Ю. Свіркі, Баранавічы і Гомель на Дні паэзіі П. Броўкі (1983), у Полацк на свята Скарынаўскай кнігі (1984), Белавежу і Гродна (1986), Віцебск, Барысаў, Магілёў, Бялынічы, Кублічы, Пуцілкавічы, ва Ушачы — не толькі да родных, але і з мангольскімі пісьменнікамі, асабліва часта разам з В. Быкавым.*

*Працягваліся сустрэчы з У. Лабанком і збор матэрыялаў пра партызанскую Ушаччыну. Рупліва запісваліся размовы з П. Панчанкам, А. Вялюгіным, адказы на пытанні на сустрэчах з чытачамі В. Быкава, І. Шамякіна, В. Казько. Занатаваны цікавы аповед А. Вольскага пра 1-ю нараду пісьменнікаў Далёкага Усхода (1949) з удзелам А. Твардоўскага і М. Луконіна і мудрыя падказкі маладому паэту А. Твардоўскага і К. Чорнага.*

*А яшчэ — запісаны шчодра насычаны зместам план, задуманы (у кастрычніку 1983 г.) разам з М. Стральцовым, але, на жаль, не спраўджанай «Кнігі дружбы», які хочацца прывесці цалкам: «... проза, вершы, экспромт, Прыбалтыка, Азія, Усход, партрэт сяброў, характар культуры, застолле, вяселле, дарога, прывал, самалёт, на валах,*

*начлег, пра пераклады, эпіграмы, партрэты людзей, сяброў, рэчаў (студня, клець, дрэва ля кляштара), нешта з песняў праз рэаліі, Германаў, Куляшоў, Броўка, пра шапку ці пра аборы». І дадаць: дзённікі і запісы паэта ці не працягваюць ствараць год за годам менавіта падобную кнігу?..*

*«Шасцігодка» паэта была плённай на творчыя здабыткі: выйшла кніга вершаў «Маўчанне перуна» (1986), зборнік артыкулаў і эсэ «Парастак радка, галінка верша» (1987) і нарэшце альбом «Вяртанне» (разам з фотамайстрам В. Ждановічам; 1988); малафарматная кніжачка эпіграм і шаржаў «Абразы′ без абра′зы» (з шаржамі К. Куксо; 1985), кнігі гумару і сатыры «Бервенізацыя» (Бібл-ка «Вожыка») і «Мудрэц са ступаю» (абедзве 1988); дзіцячыя: «Азбука не забаўка» (1985) і «Індыкала-кудыкала» (1986). Выдадзены некалькі зборнікаў перакладаў паэзіі: Г. Містраль «Ветраліст» і К. Шэрмана «Дождж у Караліщчавічах» (абедзве 1984), С. Паптонева «Беларусь — белая балада» (з В. Нікіфаровічам; 2-е выд., 1985), «Слова пра паход Ігаравы», «Кахаць — гэта значыць...: Старонкі паэзіі свету» (абедзве 1986) і «Беларусь — маё слова і песня: Паэты свету пра Беларусь» (1987).*

*Адной зорачкай пазначаны дадатковыя запісы з дакладнай датай, трыма — толькі годам. Курсівам выдзелены занатаваныя аўтарам рыфмы, асобныя радкі, назвы гарадоў і вёсак, дзе паэт пабываў. У квадратовых дужках — паясняльныя словы, прозвішчы ці пытальнік пры няпэўна расчытаным слове.*

*І зноў том папоўнілі вершы, якія не друкаваліся ў зборніках паэта, а таксама віншаванні і прысвячэнні сябрам і знаёмым.*

*Ужо ведаючы змест наступнага тома, можна сказаць, што чацвёртым томам амаль падыходзіць да заканчэння перыяд нашай агульнай савецкай гісторыі. Перабудова, распачатая ў СССР, і памкненне да незалежнасці рэспублік выклікаюць іншыя рэаліі, погляды і галасы...*

Наталля ДАВЫДЗЕНКА

## 1983

*6 студзеня, чацвер*

Каменны век
За пазухаю з каменем
Хадзіў,
Пакуль не ўбранзавеў[1].

*г. Бягомль*. Глазко Віктар, в. Ускром'е. Ю. Сапажкоў[2]: «Забыто красиво лошадка стоит». *Валера з вальера.*

Едзе воз з сенам. Жэня[3]: «Ці можна Рыгору сесці?» — «Не магу, каню цяжка, сам іду. Дайце закурыць».

Намеснік дырэктара Бярэзінскага [біясфернага] запаведніка Міхаіл Васілевіч Кудзін[4]. На возе едзем, конь Зацірка. У 1925 годзе да гэтага часу знік бабёр. А тут знайшлі чатыры хаткі баброў. Нацыянальны беларускі паляўнічы запаведнік 67-га года, працавала 20–25 чалавек. У 1927 годзе [праведзена] лесаўпарадкаванне. Бабры пачалі рассяляцца. Прамысловы адстрэл бабра дазволены. Бабразнаўства. 600–700 звяркоў, запаведнік, асабліва біясферны, павінна быць выразная ўзаемасувязь. Не важна, колькі звера (спажывецкі інтарэс), а колькі раслін. Прыродаахоўная арганізацыя.

У час вайны — база партызанскага руху. Мінскі брыгадны шпіталь, бо забалочана, ≈ 60 % балотаў. Горкі вопыт Палесся. Ніколі нашы балоты не асушаліся. Толькі некалі Бярэзінская сістэма прайшла. Брыгада «Дзядзькі Колі» і бягомльскі аэрадром партызанскі, усё дзякуючы балотам. Барысаўскі і Лепельскі райкомы партыі.

30 ліпеня 1944 г. адноўлены, у 1951-м ліквідаваны. Леспрамгасы вынішчылі шмат. У пачатку 60-х [адноўлены] як запаведнік. У 1977 г.

---

[1] Гл.: Вякі (10.02.85) // Маўчанне перуна. Мінск, 1986. С. 135.

[2] Сапажкоў Юрый Міхайлавіч (1940–2013), рускі паэт, журналіст. У 1986–1992 гг. заг. карэспандэнцкага пункта Усесаюзнага агенцтва друку «Навіны» ў Індыі.

[3] Магчыма, Янішчыц Яўгенія Іосіфаўна (1948–1988), беларуская паэтэса. У 1983–1988 гг. заг. аддзела паэзіі час. «Маладосць». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1978), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1986). Гл.: Радкі на добры настрой (02–04. 84) // Маўчанне перуна. С. 73.

[4] Кудзін Міхаіл Васільевіч (н. 1949), нам. дырэктара Бярэзінскага біясфернага запаведніка. Кандыдат сельскагаспадарчых навук (1980).

ЮНЕСКО[1] [зарэгістравала] як біясферны запаведнік. У рамках ЮНЕСКО: 1) Ахова прыроднага комплекса; 2) навуковая праца; 3) прапаганда аховы прыроды. Буферная зона, эксперыментальна-гаспадарчая, экскурсійная зона, ахоўная зона ≈ 33 га. Вакол запаведніка гідралагічная зона ≈ 5 км. Як нулявая кропка забруджвання паветра. У цэнтры — прамысловай насычанасці.

Жывёла-фонавыя віды — воўк, вяпрук, балотныя комплексы, якія [уяўляюць] вялікую цікавасць, бо ўнікальныя зоны, унікальныя, бо не парушана і рэпрэзентатыўнасць, лабараторыя балотазнаўства і гідралогіі, якую ўзначальвае Кудзін. Інвентарызацыя хрыбетнікавых жывёл і флоры, у Чырвонай кнізе што [зафіксаваны]. Назіранне за забруджваннем акаляючага асяроддзя, назіранне за асноўнымі экалагічнымі [паказчыкамі]. Доследы па развядзенні і памнажэнне практыкуецца. Ёсць стацыянары, картаванне траў, глеб. Першаснае — расліна, а лось, глушэц — другаснае, бо гэта біясферны запаведнік. Уплыў балот на сухадолы, разбалочванне. Сувязь з Інстытутам торфу, універсітэтам, з Цэнтральным батсадам. Лабараторыя для АН. Не можам на прамы дослед [ісці], не ведаючы экалогіі. Раней ля хат лес, лужок, пералесак, гэта рэгулятар. Раней раставанне снегу да 15 дзён, для нас гэта вегетатыўны перыяд.

Які запаведнік [бярэцца] за эталон? — Бярэзінскі. Дагаворы, сувязь з АН. Не замкнуты запаведнік. Зубры выйшлі за межы запаведніка. Да кожнага запаведніка свой падыход, вёскі Домжарыцы, Крайцы ≈ 500 чалавек, тыя кадры, якія хочам, няма, а хто не трэба — шмат. Трэба эколаг, а іх ніхто не выпускае.

Што такое ахаваць рэдкі від? — гэта не значыць абгарадзіць. Возьмем трыпутнік, косім луг і скошваем рэдкія расліны, а перастанем касіць, ён зусім можа згінуць. Можам спачатку знішчыць ваўка, а потым [унесці] у Чырвоную кнігу. З-за няведання экалогіі не ведаем, што́ ёсць воўк, як жыве. Воўк як сабака, колькі за дзень — і вылічыць. Можам і жабу, і мышку. Смела сказаць, чым займаюся, калі час застаецца. Малых мядзведзікаў [прывезлі] з Барысаўскага лясгаса, з дзецьмі барукаліся.

Захаванне балотных комплексаў і лясоў, не так вагаецца ўзровень грунтовых вод. Натуральныя ўмовы самыя трывалыя пры неспрыяльных кліматычных умовах. Выразная сувязь распаўсюджвання жывёльнага свету з раслінным. Нельга ў натуральных умовах развесці болей звера пры няпэўных умовах выпасаў.

Інвентарызацыя жывёльнага і расліннага свету. Нулявая кропка адліку, і праз 100 год будзе ясна. Як захаваць балоты? Больш нашыя ма-

[1] ЮНЕСКО — United Nations Educational, Scientific and Cultural Organization = Арганізацыя Аб’яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (з 1946).

тэрыялы будуць выкарыстаны будучымі вучонымі. Лічу, што нельга стварыць мурашыны запаведнік, птушыны. Усе павінны быць комплекснымі, адно захаваем, другое загубім. Нельга захаваць тое, што не ведаем. Нельга палепшыць умовы жывёл, якія спакон жывуць на гэтай зямлі, а мы паляпшаем. За 10 год балота расце на 1 мм, 3-метровыя балоты 3–4 тысячы год [назапашваюцца]. Мы палепшым балота, а як перавільгочаныя землі — што гэта такое? Чарнавольхавыя лясы. 40 рэк і ручулак на тэрыторыі запаведніка.

*7 студзеня, пятніца*

Бярэзінскі запаведнік. Жэня [Янішчыц?]: «Ці можна да аленяў заскочыць?» — «Калі ўмееце выскачыць». Лаваў[1] Міхаіл Аляксандравіч, паляўнічазнаўства. У глушца ў клетцы двойчы [здарыўся] інфаркт. 4 м клетка. Глушцоў, як і аленяў, лавіць [нельга] — нельга прыручыць.

Магазін паўсядзённага попыту: боты, пілы, хлеб, гарэлка і тэатральны бінокль. Дзень зарплаты: «Сёння дзень пяхоты».

*Янку Брылю*[2]

Не на парады — ў снегапады
Спяшайце, дзе святло наўкол.
Прывеціўшы як след Каляды,
Сядайце з Балтыкай за стол.
За навагодні стол пісьмовы,
Каваль нястомны роднай мовы.

*13 студзеня, чацвер*

[Дом творчасці пісьменнікаў БССР] «Каралішчавічы».

*Міколу Чарняўскаму*[3]

Віншую з датай дружбака:
Цягні яшчэ да сарака,
А потым два чырвонцы
Працуй пры любай жонцы!

---

[1] Лаваў Міхаіл Аляксандравіч (н. 1927), ст. навуковы супрацоўнік Бярэзінскага біясфернага запаведніка. Кандыдат біялагічных навук.

[2] Брыль Янка (Іван Антонавіч; 1917–2006), беларускі празаік, крытык, перакладчык. Народны пісьменнік БССР (1981). Ганаровы акадэмік НАНБ (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1963), Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1982). Гл.: На радзіме Янкі Брыля (8.08.84) // Маўчанне перуна. С. 176.

[3] Чарняўскі Мікола (Мікалай Мікалаевіч; н. 1943), беларускі паэт, перакладчык. У 1966–1988 гг. літсупрацоўнік, ст. рэдактар аддзела, адказны сакратар час. «Бярозка».

Са школы: Грыбаедаў[1] «Гора ад розуму», Пушкін[2] і Маякоўскі[3], вяршыннасць талентаў, абодва вырашалі праблемы новага часу, выражалі словатворчасць, глыбінныя пласты мовы і тэм. Пазней Ясенін[4] — двухадзінства, жалезныя канструкцыі Маякоўскага, сагрэтыя сэрцам думкі, кранам [?] час выбраў, ведаў, каго выбіраць: Пушкіна і Маякоўскага — Ясеніна, як Эйфелева вежа прыжылася ў адухоўленым Парыжы сваёй металічнай канструкцыяй. Зазелянела, як дрэва лірыкі, так і вершы Маякоўскага. Ясенін абнавіў новым сэнсам вясковае слова, адухатварыў іх сваім смуткам. Арытмія паэзіі. Без 10 стогадовы юбілей.

*А ведаеце*... (Ст. Шушкевіч[5]). Ад доўгамаўчання словаахвочасць, двойка [неразб. 1], як бы чытае ўрок, сам паўтараючы нанова матчыну мову. Кактэбель.

Пераклад. Аўтар — госць у іншамоўнай краіне. Санавіцейшы, багацейшы ці бяднейшы за перакладчыка, і на перакладчыка кладзецца ўся адказнасць за кожны крок госця, і не да твару, вядома, жыць гаспадару за кошт славы госця.

Ой, барыня пышна
На вуліцу вышла,
Полы падкасала.
Нешта паказала.

(Ушацкая [частушка].)

*Чэргі, як куля — меткія, радзілі шарэнгі.*

---

[1] Грыбаедаў Аляксандр Сяргеевіч (1795–1829), рускі паэт, драматург, дыпламат.

[2] Пушкін Аляксандр Сяргеевіч (1799–1837), рускі паэт. Гл.: Прарок (1982) // Парастак радка, галінка верша. Мінск, 1987. С. 132.

[3] Маякоўскі Уладзімір Уладзіміравіч (1893–1930), рускі паэт. Гл.: Дыктатура вока (1983) // Тамсама. С. 195.

[4] Ясенін Сяргей Аляксандравіч (1895–1925), рускі паэт. Гл.: Блакітнавокая паэзія (1985) // Тамсама. С. 258.

[5] Шушкевіч Станіслаў Пятровіч (1908–1991), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР (1983). Быў рэпрэсаваны. Гл.: Рука, пададзеная светлай раніцы (1983) // Тамсама. С. 224.

*21 студзеня, пятніца*

Секцыя паэзіі.

*Ала Сямёнава*[1] пра Алеся Емяльянава[2]: «Смялей уводзіць гарадскі рабочы вопыт, — «па сэрцы б'е кола вагона».

*Дайнека*[3]: «Емяльянаў — паэт традыцыйна беларускі».

*Ал. Гарадніцкі*[4]*: «*Бачыць сутнасць».

*Т. Чабан*[5]: «Шчырая роздумнасць. Тэма шагрэневай шкуры жыцця».

*Фёдар Яфімаў*[6]: «Не магу прыняць самы прыгожы манекен як жанчыну, адчуць агіду мастацтва ў мастацтве — цяжка, анёл простых чалавечых спраў».

*А. Сідарэвіч*[7]: «Дзе прапісана душа паэта? Напісаны верш паводле прачытанага».

*Рос дымнасць — роздумнасць.*

Таня Трубач, Люда Мануленка, Яня Харко, Аня Глушчанка[8]. «Калі далі чытаць Васіля Быкава[9], я ехала на працу і хвалявалася. Вы такі беларус, вы наш шчыры чалавек». Аб'ектыўна-прыдзірлівая крытыка. Хто-хто, а карэктары чытаюць.

* * *

Ные высока самалёт,
Як зуб сцямнелага неба.
Ноч захварэла
Забытай хваробай —

---

[1] Сямёнава Ала (Альбіна Іванаўна; н. 1938), беларускі крытык, празаік. У 1972–1986 гг. рэдактар, ст. рэдактар рэдакцыі крытыкі, літаратуразнаўства і драматургіі выд-ва «Мастацкая літаратура», з 1986 г. літсупрацоўнік, з 1987 па 1994 г. заг. аддзела мастацтва, крытыкі і бібліяграфіі час. «Нёман».

[2] Емяльянаў Алесь (Аляксандр Міхайлавіч; 1952–2005), беларускі паэт. У 1983–1987 гг. рэдактар на Беларускім тэлебачанні, з 1987 г. літкансультант СП БССР.

[3] Дайнека Леанід Марцінавіч (н. 1940), беларускі пісьменнік. У 1972–1989 гг. адказны сакратар час. «Маладосць». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1988), Дзяржаўнай прэміі БССР (1990).

[4] Дакладней, Гарадніцкі Яўген Андрэевіч (н. 1951), беларускі крытык.

[5] Чабан Тамара Канстанцінаўна (1952–1992), беларускі крытык, літаратуразнавец. У 1981–1992 гг. навук. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ. Кандыдат філалагічных навук.

[6] Яфімаў Фёдар Архіпавіч (н. 1933), беларускі паэт, перакладчык, крытык.

[7] Сідарэвіч Анатоль Міхайлавіч (н. 1948), беларускі гісторык, крытык, палітолаг. У 1981–1987 гг. супрацоўнік газ. «Літаратура і мастацтва», у 1987–1992 гг. — час. «Крыніца».

[8] Карэктары выд-ва «Мастацкая літаратура».

[9] Быкаў Васіль Уладзіміравіч (1924–2003), беларускі пісьменнік, палітычны і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік БССР (1980). Герой Сацыялістычнай Працы (1984). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1964), Дзяржаўнай прэміі СССР (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1978), Ленінскай прэміі (1986).

Паветранай трывогай,
Дакладней, не ноч,
А я
Ніяк не магу супакоіцца[1].

*24 студзеня, панядзелак*

[ДТ] «Каралішчавічы». Apsolítā zeme (латыш.) — обетова́нная земля, даслоўна — абяцаная.

Ласкавасцю зялёнай сніцца
Дасюль Ліменьскае лясніцтва.
Маю берэтку ўважыў бусел,
Узяўшы у гняздо сваё…

Ні разу не прамазаў
Віктар Карамазаў[2].

*

Ашчаджайце ветэранаў,
Хрэснікаў вайны.
Лёс на іх спадлоб'я глянуў,
Позірк ледзяны.
Адчуваюць маладыя
Некалі хлапцы…
Парaслі капцы.

Віктар Шклоўскі[3] (24.1.83 па тэлефоне): «Патрабуйце з сябе звычайных подзвігаў».

Зрэнка — сінічка вока,
Кажуць здаўна латышы.

Вачэй тваіх дзве сінічкі
Жывуць у маёй душы.
Жораў у небе высока,
Сіні пажар не тушы,
Сіні пажар сінічак,
Сіні пажар прадоння,
Полымя сініх хваль.

---

[1] Гл.: Высока (21.01.83–30.04.92–1.05.92, «Каралішчавічы») // Евангелле ад Мамы. Мінск, 1995. С. 369.

[2] Карамазаў Віктар Філімонавіч (н. 1934), беларускі пісьменнік, сцэнарыст. У 1982–1986 гг. кансультант СП БССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя К. Каліноўскага (1990).

[3] Шклоўскі Віктар Барысавіч (1893–1984), рускі пісьменнік, літаратуразнавец. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1979).

Я не кажу пра тое,
Як абдымае жаль[1].

*Мікалаю Казлову*[2]

Не дом Романовых — Романова изба
Взрастила славодержца Николая,
Его сама заметила судьба,
На подвиг в край Купалы[3] посылая.
Теперь без Николая как без рук
Печать,
По-белорусски твёрже —
Друк!

У 1438 г. друкар., у 1452–53 [55] гг. [упершыню надрукавана] лацінская Біблія. Іаган Гутэнберг[4], выд[авец], эўрапейскі спосаб друкарства, рухомы мет[алічнымі] лініямі.

[У «Братэрства-83»[5]:]

1) Алесь Адамовіч[6];
2) Булат Акуджава[7];
3) Генадзь Бураўкін[8];
4) Васіль Быкаў;

---

[1] Параўн.: Вока Балтыкі (12.03.79, Дубулты) // Маўчанне перуна. С. 101.

[2] Казлоў Мікалай Раманавіч (1945–2011), беларускі кніжны графік. У 1981–1989 гг. гал. мастак выд-ва «Юнацтва».

[3] Купала Янка (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 1882–1942), беларускі паэт, драматург, публіцыст. Народны паэт БССР (1925). Акадэмік АН БССР (1928) і АН УССР (1929). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941).

[4] Гутэнберг Іаган (1399–1468), нямецкі вынаходца кнігадрукавання.

[5] «Братэрства», штогоднік перакладаў з літаратур народаў СССР (1982–1990); выданне выд-ва «Мастацкая літаратура». Гал. рэдактар А. Русецкі, потым Р. Барадулін. Сяброўскія эпіграмы, напісаныя для «Братэрства-83» на А. Адамовіча, А. Вялюгіна, У. Караткевіча (без варыянтаў) гл.: Барадулін Р., Куксо К. Абразы́ без абра́зы. Мінск, 1985.

[6] Адамовіч Алесь (Аляксандр Міхайлавіч; (1927–1994), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, крытык, выкладчык, грамадскі дзеяч. У 1976–1983 гг. заг. сектара літаратурных узаемасувязяў Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР. З 1987–1994 гг. дырэктар Навукова-даследчага Інстытута кінамастацтва (Масква). Доктар філалагічных навук (1963). Прафесар (1971). Член-карэспандэнт АН БССР (1980). Лаўрэат прэміі Міністэрства абароны СССР (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1976).

[7] Акуджава Булат Шалвавіч (1924–1997), рускі паэт, празаік, бард.

[8] Бураўкін Генадзь Мікалаевіч (1936–2014), беларускі паэт, празаік, перакладчык, кінасцэнарыст. У 1978–1990 гг. старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1972), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1980).

5) Анатоль Вялюгін[1];
6) Данііл Гранін[2];
7) Яўген Еўтушэнка[3];
8) Уладзімір Караткевіч[4];
9) Давід Кугульцінаў[5];
10) Пімен Панчанка[6];
11) Уладзімір Салаухін[7];
12) Ігар Шклярэўскі[8].

*Пімен Панчанка*

Ад першага ўпіменання
У загсавых кнігах Талінам,
Жыццё,
Надзяліўшы талентам,
Нічым яго не абмінае —
Ні ведамі,
Ні франта́мі,

---

[1] Вялюгін Анатоль Сцяпанавіч (1923–1994), беларускі паэт, перакладчык, кінасцэнарыст. У 1946 —1984 гг. з невялікімі перапынкамі працаваў рэдактарам аддзела паэзіі час. «Полымя». Заслужаны дзеяч культуры БССР (1969). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1964), Дзяржаўнай прэміі БССР (1968). Гл.: Партрэт у верасе пчаліным (1982) // Парастак радка, галінка верша. С. 152.
[2] Гранін Данііл Аляксандравіч (сапр. прозв. Герман; 1919–2017), рускі пісьменнік. Герой Сацыялістычнай Працы (1989). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1978), Літаратурнай Бунінскай прэміі (2011).
[3] Еўтушэнка Яўгеній Аляксандравіч (1933–2017), рускі паэт, празаік, кінасцэнарыст, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1984), Дзяржаўнай прэміі РФ (2010). Тройчы намінаваўся на Нобелеўскую прэмію.
[4] Караткевіч Уладзімір Сямёнавіч (1930–1984), беларускі паэт, празаік, драматург, нарысіст, публіцыст, крытык, кінасцэнарыст. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1983), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1984, пасмяротна). Гл.: Партрэт Уладзіміра Караткевіча ў унтах з двума сабакамі (28.11.83) // Маўчанне перуна. С. 110; Успамін пра Уладзіміра Караткевіча (20.07.88) // Міласэрнасць плахі. С. 172.
[5] Кугульцінаў Давід Нікіціч (1922–2006), калмыцкі паэт. Народны паэт КАССР (1969). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1976).
[6] Панчанка Пімен Емяльянавіч (1917–1995), беларусі паэт, перакладчык, крытык. Народны паэт БССР (1973). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1967), Дзяржаўнай прэміі СССР (1981). Гл.: Маўчанне перуна (7.01.86) // Маўчанне перуна. С. 9; Удзельнік дзеяў і летапісец: Жыццё пачынайце ізноўку любіць! (1987) // Аратай, які пасвіць аблокі. Мінск, 1995. С. 44.
[7] Салаухін Уладзімір Аляксеевіч (1924–1997), рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Горкага (1979).
[8] Шклярэўскі Ігар Іванавіч (н. 1938), рускі паэт, перакладчык. Ураджэнец Беларусі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1987), Пушкінскай прэміі Расійскай Федэрацыі (1999).

Ні бедамі,
Ні літбратамі.

*Васіль Быкаў*

Наперад ратны подзвіг клікаў.
І ў мірны час не дрэмле Быкаў.
Не верыць надта ў цішыню
Той,
Хто на лініі агню.

*Генадзь Бураўкін*

На клопатаў маштабны вір,
І на палёт за небасхілы,
І на экран, і на эфір —
На ўсё стае ў Паэта сілы.
Дзе іншы век будзе ад спраў канаць,
Управіцца мігам Бураўкін Генадзь.

*Яўгеній Еўтушэнка*

Свет увесь аб'ехаць мусіў,
Славу ўзяўшы пры жыцці,
Каб нарэшце ў Беларусі
Карані радні знайсці.
Дзе Дастоева, Завоссе
Здымуць шмат з чаго двукоссе.

*Давід Кугульцінаў*

Зноў дрэвам стала продкаў дзіда,
Скарылася пяшчоце сіла,
Калі няўрымснага Давіда
«Святло жанчыны» асляпіла.

*Булат Акуджава*

Ніколі залы саладжава
Не песціў песняй Акуджава.
Сам Пушкін быў прадбачыць рад:
«Дробя стекло, куёт Булат…»

*Ігар Шклярэўскі*

З Беларусі ў Расію паром
Ён вядзе, ўзгадаваны Дняпром.

Аб палку свайго цёзкі «Слова»[1]
Зразумеў як ніхто адмыслова.

*Уладзімір Салаухін*

Беларускія прысады
Засенню прывеціць рады,
Не нагнаўшы скрухі на
Музу Салаухіна.

*Данііл Гранін*

У Данііла Граніна,
Вернага Ленінграду,
Памяць, вайной параненая,
Дасюль прарывае блакаду.
Нікчэмнасцю не пратаранена
Шматраннасць шматграннасці Граніна.

* * *

Адчуць, што лес шуміць,
Што снег бязважківаліцца,
Што ў небе недзе ные самалёт,
Што радасць азяблымі пальцамі
Абмацвае прошласці лёд;

І словам сум прагнаць,
Як даўняю замоваю,
Дзяліць трывогу ўснежанай зямлі,
Прахукваць дарогу зімовую,
Дзе зоркі яшчэ не ўзышлі, —
добра!

*27 студзеня, чацвер*

* * *

Трымае доўга кубак пах віна,
І на губах маўчыць гаркавы прысмак.
Пяшчоты забаронная віна
Успыхне крыўдай у пакайных прызмах,
Каб спапяліць наноў душу датла
Іскрынкай палынова-незагойнай.
І памяць змроку пудзіцца святла,
Каб не адкласці ўчора на сягоння…

---

[1] «Слова пра паход Ігаравы» — помнік старажытнарускай культуры XII ст.

*28 студзеня, пятніца*

*У альбом Г. А. Ш.*[1]

Дзе бог знайшоў такую гліну,
Такую шчодрую зямлю,
Каб гожа вылепіць Галіну,
Пасля даверыць Васілю?!
Дзе лес вякоў люляў галіны —
Спачынак салаўёў душы? —
Каб, глянуўшы ў пагляд Галіны,
Маліць: — Світанне патушы…
Відаць, гадзінай шарай Гоя
Імгненне ўсё чакаў адно,
Калі Галінай Шаранговіч
Сваё асветліць палатно?..
Маэстра-муж люцее ціха:
— Далей ад ліха, Васіліха!

*«Караліішчавічы»*
*Антыбайка*

Загадкаю аглушаны, як громам,
Стаяў адзін чытач у кніжнай краме.
Не назавеш «Раман-газету» Ромам,
А вось Тармолу[2] можна іншай даме.
Вядома ж, розныя паняцці гэта —
Раман Тармола
І «Раман-газета».

*31 студзеня, панядзелак*

СП. Секцыя [паэзіі]. Пятро Ламан[3]. «Няпамяць. Над урвішчам ракі стромы бераг ракі».

З шафёрам таксі з-пад Вілейкі. [Расказвае:] «Абломяць лядзяк (ледзякí) і палітуру льюць на яго, на лядзяк нарастае ўся чарната, а ў місцы — чысценькая. Міску на лоб — і пайшоў. Да маці брыгадзір прыхадзіў

---

[1] Шаранговіч Галіна Андрэеўна (н. 1939). У 1984–1997 гг. заг. рэдакцыі літаратуры народаў СССР выд-ва «Мастацкая літаратура». Жонка В. Шаранговіча. *Шаранговіч* Васіль Пятровіч (н. 1939), беларускі мастак, графік, педагог. У 1986–1989 гг. прарэктар Беларускай акадэміі мастацтва. Прафесар (1981). Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1978). Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1986). Народны мастак Беларусі (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[2] Тармола Раман Якаўлевіч (1936–2011), беларускі паэт, кінасцэнарыст. У 1980–1996 гг. член сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі тэлевізійных фільмаў Беларускага тэлебачання.

[3] Ламан Пятро (Пётр Аляксандравіч; н. 1949), беларускі паэт, акцёр. З 1971 г. акцёр Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа (г. Віцебск).

гнаць на працу. Яна кажа: «Трэба сына накарміць, спарадкаваць». — «Тады дай паўшклянкі той сінюгі (дэнатурату)», — пакруціць, буль-буль, драбком цукру загрызе і як дурны ходзіць цэлы дзень».

«Мастацтва» [у «Братэрства-83»]: 1) Расціслаў Янкоўскі[1], слава Расціслава, і сын акцёр[2], і малой[3] [закрэслена]; Генадзь Аўсяннікаў[4]; 2) Анікейчык[5]; 3) (Багатыроў[6] [закрэслена]), Семяняка[7]; 4) Дабралюбаў[8]. *Каб пераклад на лад ішоў — латышоў.* Сёмуха[9].

*8 лютага, аўторак*

Прэзідыум [СП]. Васіль Быкаў перад пачаткам дорыць мне ручку і яшчэ пакуначак, саромеючыся, па-быкаўску шчыра: «Гэта чаёк замежны». Папрасіў яго мне намаляваць, намаляваў, потым глядзіць том Пастарнака[10] (проза). Яго чакае Куксо[11], Васіль выходзіць. Застаецца кніга, акуратна загорнутая ў ліст паперы, які ляжыць у стосе перад кожным за

---

[1] Янкоўскі Расціслаў Іванавіч (1930–2016), беларускі акцёр. Народны артыст БССР (1967). Народны артыст СССР (1978). З 1957 г. акцёр Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1998), прэміі «За духоўнае адраджэнне» (2003).

[2] Янкоўскі Ігар Расціслававіч (н. 1951), рускі акцёр. Сын Р. Янкоўскага. У 1974–1996 гг. акцёр Тэатра на Малой Броннай (Масква). Кандыдат палітычных навук.

[3] Янкоўскі Уладзімір Расціслававіч (н. 1960), беларускі акцёр. У 1982–1990 гг. акцёр Рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага. Сын Р. Янкоўскага. Лаўрэат прэміі «Залаты грамафон» (1999, Масква).

[4] Аўсяннікаў Генадзь Сцяпанавіч (н. 1935), беларускі акцёр. З 1957 г. акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Народны артыст БССР (1974). Народны артыст СССР (1991).

[5] Анікейчык Анатоль Аляксандравіч (1932–1989), беларускі скульптар, педагог. Прафесар (1981). У 1978–1989 гг. заг. кафедры Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Народны мастак БССР (1972). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967), Дзяржаўнай прэміі БССР (1974). Гл.: Асколак аглухлага грому (1.04.83) // Маўчанне перуна. С. 212.

[6] Багатыроў Анатоль Васільевіч (1913–2003), беларускі кампазітар, педагог. Прафесар (1960). У 1944–2003 гг. выкладчык Беларускай кансерваторыі. Народны артыст БССР (1968). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941), Дзяржаўнай прэміі БССР (1969).

[7] Семяняка Юрый Уладзіміравіч (1925–1990), беларускі кампазітар. Народны артыст БССР (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1972).

[8] Дабралюбаў Ігар Міхайлавіч (1933–2010), беларускі кінарэжысёр, сцэнарыст. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1974). Народны артыст БССР (1985). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1970).

[9] Сёмуха Васіль Сяргеевіч (н. 1936), беларускі перакладчык. У 1972–1997 гг. ст. рэдактар рэдакцыі перакладаў выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1992). Гл.: Хто лепіць гаршкі (30.11.85) // Маўчанне перуна. С. 165.

[10] Пастарнак Барыс Леанідавіч (1890–1960), рускі паэт, празаік, перакладчык. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1958, ад якой быў вымушаны адмовіцца).

[11] Куксо Канстанцін Мікітавіч (н. 1954), беларускі мастак-карыкатурыст, кніжны графік. Жыве ў Маскве.

сталом прэзідыума. Перакладзена кніга картай славутых мясцін Мінска і рэспублікі. На кнізе акуляры, дужкі, як бы аглоблі чакаюць выпражанага каня, які ўвогуле на волі. Калі б ні нахінаўся Васіль, заўсёды пяшчотай дыхае.

*Канэ*[1]: «Як быццам не трэба неаднолькавых і розных паэтаў».

*Васіль [Быкаў]*: «Чым болей аднолькавых, тым лепей, як салдаты».

*Вітка*[2]: «Метро забыліся».

*Васіль [Быкаў]*: «Метро трэба ездзіць, а не казаць пра яго шмат».

У вайну [казалі жанчыны]: «Хай бы вярнуўся без рук, без ног, абы не калека».

Жораў у небе высока,
Сіні пажар не тушы.
Зрэнка — сінічка вока,
Кажуць здаўна латышы.
Сіні пажар прадоння,
Полымя сініх хваль.
Я не кажу пра тое,
Як абдымае жаль.
Жаль развітання з вамі...

*

У рукавах драўляных вулак
І снегавіцей, і цішэй,
І кот, што мае свой прытулак,
Яшчэ слыве як біч мышэй.
Платы з усёмагчымай тары,
Дзе пільнасць слоў «Не кантаваць!».

Пімен [Панчанка]: «Калі робіцца, тады і настрой добры».
[Аўтограф П. Панчанкі 1973 г.]

* * *

*Рыгору Барадуліну*

З нас многія прагнуць разумнага,
Сапраўднага і чалавечнага.

---

[1] Канэ Юлія Міхайлаўна (н. 1931), беларускі літаратуразнавец, крытык, перакладчык. З 1992 г. жыве ў Ізраілі.

[2] Вітка Васіль (сапр. Крысько Цімох Васільевіч; 1911–1996), беларускі паэт, празаік, дзіцячы пісьменнік, драматург, крытык і публіцыст, перакладчык. У 1974–1987 гг. член сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі «Беларусьфільм». Заслужаны дзеяч культуры БССР (1970). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1972). Узнагароджаны міжнародным ганаровым дыпломам імя Х.-К. Андэрсена (1978).

А восень, цяжкая і сумная,
Шпурляе ліствой пакамечанай.

З нас многія прагнуць праўдзівасці,
Звычайнай людской натуральнасці.
Для радасці мы нарадзіліся,
А гора ізноў паўтараецца.

І знікнуць адразу дарадчыкі,
І ластаўкі пырхнуць у Крым.
У радасці — звонкая складчына,
У горы — самотна гарым…

Хлусня да хапугі прыцерлася,
Зрадніўся ён моцна з рублём.
Бязлітасным смехам хацелася б
Такога прабіць.
Ці праб'ём?

А можа, пытанне замажам?
Дадзім адпачыць і радку.
Далей ад кулацкіх замашак —
Па першым нясмелым лядку.

А верш адпачынку не просіць,
Імкнецца да лепшых людзей.
Хай ластаўкі зноўку прыносяць
У дзюбах драбочкі надзей.

*22 лютага, аўторак*

Вечар [С. П.] Шушкевіча. Сам: «Калі я бываю адзін, я адчуваю, што разам з вамі. Ні ў адным маім радку няма фальшу. Першы верш, які напісаў, — на смерць Леніна[1]. 27 студзеня прагучала песня на музыку Жыновіча[2]. Янка Купала не раз запрашаў мяне, бываў і ў Ляўках. Гагарын[3] жадаў здароўя і поспехаў. Буду пісаць для вялікіх і для маленькіх да апошняга свайго дня».

На банкеце: «Вашы цёплыя словы мяне не сапсуюць, я не ў тым узросце.

[1] Ленін Уладзімір Ільіч (сапр. Ульянаў; 1870–1924), расійскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, стваральнік Савецкай дзяржавы.

[2] Жыновіч Іосіф Іосіфавіч (сапр. Жыдовіч; 1907–1974), беларускі цымбаліст, дырыжор, кампазітар, педагог. Прафесар (1963). Народны артыст БССР (1955). Народны артыст СССР (1968). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1968).

[3] Гагарын Юрый Аляксеевіч (1934–1968), першы лётчык-касманаўт СССР. Герой Савецкага Саюза (1961).

Калі ляцелі над Сібірам, [бачыў] і дамы, якія я будаваў, у іх жывуць, з маіх студняў п'юць. Жонка тая прыслала тэлеграму.

Маці карміла іголкаю — шыла для людзей. Уся наша сям'я загартавана цяжкім, нялёгкім жыццём».

*11 сакавіка, пятніца*

* * *

Нібы ідзём па волкім сене,
І мёдам пахнуць верасы.
У творах Янкі Пратасені[1]
Край родны райскае красы.

*

Што трэба, каб жыццё цябе любіла?
Тваёй любові неўзаемнай мала.
Жыццё цябе не раз ламала, біла,
На валаску танюсенькім трымала.

*15 сакавіка, аўторак*
Мушынскаму[2] — пра нараду. Машкову[3] наконт Іванчанкі[4].

* * *

Ударыў учора аб камень я збан паліваны.
Быў дужа п'яны і ўчынак зрабіў раззлаваны.
А збан мне прамовіў на мове патайнай сваей:
«Ты стаў, як і я, мы абодва не варты пашаны»[5].

*24 сакавіка, чацвер*
Віктар Шніп[6] расказваў, што ў ракаўскую раённую газету шафёр аўтобуса прыслаў мой верш («Дачушка, ты расцеш штодзень трывогай ува

---

[1] Пратасеня Янка (Іван Міхайлавіч; н. 1931), беларускі мастак.

[2] Мушынскі Міхась (Міхаіл Іосіфавіч; н. 1931), беларускі крытык, літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук (1978), член-карэспандэнт (1991). У 1979–2002 гг. заг. аддзела выданняў і тэксталогіі Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ.

[3] Машкоў Уладзімір Георгіевіч (1938–2000), беларускі пісьменнік, сцэнарыст. У 1981–1986 гг. заг. рэдакцыі выд-ва «Юнацтва». У 1986–2000 гг. рэдактар аддзела прозы час. «Нёман».

[4] Магчыма, Іванчанка Раман Якаўлевіч, народны разьбяр (г. Магілёў). Гл.: Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Выпуск 3. 1979–1982. Мінск, 2016. С. 73.

[5] Гл.: «Як бразнуў учора аб камень я збан паліваны...» (15.03.83) // Хаям А. Рубаі. Мінск, 1989. С. 30. Пер. Р. Барадуліна, уклад. і даслоўнікі В. Чамбарысава. *Чамбарысаў* Валерый Яўгеньевіч, знаўца іранскіх моваў.

[6] Шніп Віктар Анатольевіч (н. 1960), беларускі паэт. Працаваў цесляром, літкансультантам у час. «Неман», газ. «Вячэрні Мінск». У 1987 г. скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы

мне...[1]»), дадаў, што ён прысвяціў яго сваёй дачце. А мне дужа прыемна, што хоць пачытаў, бо ў абарыгенным становішчы і так добра.

Мне пашанцавала быць у майстэрні майстра [Азгура[2]]. Гэтыя скульптуры, якія адчуваюць сябе халаднавата ў музейнай строгасці, па-хатняму сагрэты ягонай цёплынёй. «Юнацтва» — дакладнае і цнатлівае. Ягоныя гутаркі — універсітэт. Ён апошні час больш задумваўся, углядаўся, прыцэньваўся і перацэньваў створанае. У Полацку, першы горад майго юнацтва і горад гарадоў усходнеславянскіх, сустракаў глебаўскі Георгій Францыск Скарына[3]; апошні творчы клопат майстра «Элігія» [?]. *Стэка — чалавека.*

*Азгур*: «Анікей [Анікейчык], ім рухае нечаканасць, не ведае, чым заўтра здзівіць. Гэта сапраўднае жыццё. Калі [мастак] плануе творчасць, няма больш сумнай асобы, гэта не мастак, а дзялок, які заканамерна плануе сваю славу. Я таксама незаканамерны, у мяне таксама няма планаў. Мне здавалася, што ягоны настаўнік зайздросціць, аж ён баіцца яго. Партрэт Купалы ў Нью-Йорку дасканалы, хай хто бачыў, скажуць, дзенідзе дэталь не так, гэта дробязь.

Настаўніка хвалююць ягоныя адкрыцці, якіх ён баіцца. Тут не зайздрасць, а разуменне самога мастацтва, сам не люблю, калі супярэчаць маім поглядам. Палітрук толькі ва ўпор, бо ніцавокі, а Анікей на сабіранні, на абагульненні, на экспрэсіі. Ён нечаканы паўсюль.

Страта бачанага свету з прадметам, які [абарваны сказ].

Я ведаю, што я ўчора, але трэба прызнаваць сённяшні [дзень], каб не заляцеў за далягляд. Заўтра трэба бачыць на даляглядзе, гэта і ёсць сёння.

---

ў Маскве, з 1987–1991 гг. супрацоўнік час. «Беларусь». Лаўрэат прэміі імя У. Маякоўскага Савета Міністраў Грузіі (1987). Гл.: Паспрыяй, удача!.. // Парастак радка, галінка верша. С. 247.

[1] Гл.: Ілоне (12.04.78) // Белая яблыня грому. Мінск, 1979. С. 167.

[2] Азгур Заір Ісакавіч (1908–1995), беларускі скульптар. Народны мастак БССР (1944). Народны мастак СССР (1973). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1939). Заслужаны дзеяч мастацтваў Дагестанскай АССР (1960). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1948). Гл.: «Натуршчыкі, падзёншчыкі мастацтва...» (5.01.84–21.12.86) // Самота паломніцтва. Мінск, 1990. С. 252. У рабочым блакноце верш прысвечаны З. Азгуру; Заір Азгур (2004) // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск:] Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода. 2004. С. 154.

[3] Помнік-бюст Ф. Скарыне ў Полацку (1975. Скульптары А. Глебаў, І. Глебаў, А. Заспіцкі). *Скарына* Францыск (да 1490 — каля 1541), беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, перакладчык Біблії на беларускую мову, мысліцель-гуманіст, асветнік, пісьменнік. *Глебаў* Аляксей Канстанцінавіч (1908–1968). Народны мастак БССР (1955). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976, пасмяротна). *Глебаў* Ігар Мікалаевіч (1923–1986). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976). *Заспіцкі* Андрэй Міхайлавіч (н. 1924). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976), Дзяржаўнай прэміі СССР (1977).

За майго тайнага вучня Анатоля Анікейчыка, я бачыў яго маці, знаём з дзедам. Бембель[1] пабаяўся яго прымаць з самага пачатку. Я быў толькі як прас».

! Анікей: «Вучняў не выбіраюць, а настаўніка можна выбраць».

*** Пасля Ушаччыны 16 волатаў — спытаць у Лабанка[2].

З налопу (з ходу). *У ракурсе — уляпаўся.*

Дайна:

Хто вадзіцу замуціў
Ля самага млыну?
Замуціў ваду Янулька,
Чэрпаючы сына.

*Пераклад Пятра Масальскага*[3]

І чытач не тое каб селянін, не тое каб гараджанін.

Еднасць чытача з паэтам. Як расце трава, як звоніць заранiца, як пылам зор небасхіл абсявае, як свежа стог пахне, чуў паэт, і чытачу гэтае перадавалася праз рукі, босыя ногі, вочы. Зараз назіраецца — [пішуцца] сінтэтычныя радкі паэзіі.

Бацька Шніпа: «Ластаўкі заляцелі, дык зачынялі хлеў». Раніцай выпускаюць. Увесь дзень хлеў адчынены.

(Ушацкая [частушка]:)

Ой ты мілачка мая,
Каб цябе халерыя,
Колькі мыла ні купляў,
А ты ўсё не белая!

*Віктар Шніп*

На рыштаванні ўзняўся Шніп,
А вершы просяць: «Вышыні б!»,
І цягнуць рыфмы-цягачы
Дадому — ў вёску Пугачы.

*[1984]*

---

1 Бембель Андрэй Ануфрыевіч (1905–1986), беларускі скульптар. Прафесар (1962). Народны мастак БССР (1955). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1970).

2 Лабанок Уладзімір Елісеевіч (1907–1984), камандзір беларускага партызанскага злучэння (1941–1944), дзяржаўны дзеяч. Герой Савецкага Саюза (1943).

3 Масальскі Пётр Аляксандравіч (псеўд. Сакол Пятро; 1905–1985), беларускі паэт і перакладчык. Жыў у Латвіі.

[Адрас:] T. Chróścielewski[1]. Al. Kościuszki, 98, m. 5. 90–442, Łódź. [Тэл.] 234–16–50 Мажаеў[2].

*16 красавіка, субота*

*Анатолю Клышку[3]*
*[на дзень нараджэння]*

Пан Бог на небе,
А на доле —
Гаспода пана Анатоля,
Што голас у красавіку
Падаў таму мацерыку,
Які назвалі Белай Руссю.
Да скону будзе Анатоль
За Беларусь у вечнай скрусе,
Бо матчын боль —
Ён сынаў боль.
Каб край надзеяй абнадзеіць,
Ён рупнай працаю нядзеліць
Пісьменства роднае,
Таму
На ўсе вякі хвала яму.
І сёння ў дзень з'яўлення Клышкі
Напоўнім з радасцю кілішкі,
Краплінаю на дне са столі
Падзелімся, —
Хай Анатолю
Заўсёды будзе дапамога
Ад кону і ад пана Бога.

*19 красавіка, аўторак*

Нашае нам, а лёсу астатняе[4].

*** З 2-х да 3-х Барыс Аляксеевіч Глаголін[5], Рускі тэатр. Тэл. 22–15–62 хатні, 20–12–53 службовы.

---

[1] Хрусцялеўскі Тадэвуш (1920–2005), польскі паэт, перакладчык.

[2] Мажаеў Барыс Мікалаевіч. Доктар геолага-мінералагічных навук; Генеральны дырэктар Аб'яднання «Аэрогеалогія» Міністэрства геалогіі СССР (Масква). Яго жонка Валянціна Рыгораўна Барадуля (так было зменена прозвішча) — радня Рыгора Іванавіча па бацьку.

[3] Клышка Анатоль Канстанцінавіч (н. 1935), беларускі пісьменнік, крытык, перакладчык, педагог. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1994). У 1986–1990 гг. заг. аддзела крытыкі час. «Полымя».

[4] Гл.: «Верым, што лепшая частка жыцця...» (19.04.83) // Самота паломніцтва. С. 133.

[5] Глаголін Барыс Аляксеевіч (н. 1929), рускі акцёр, рэжысёр. У 1981–1983 гг. гал. рэжысёр Дзяржаўнага рускага драматычнага тэарта БССР імя М. Горкага.

*22 красавіка, пятніца*

Панчанка: «Ці ёсць 2 капейкі? (Адвёў унучку, зачыніў дзверы.) За рыфму: *акупацыя — акапацца*».

Вёска Шунейка. Успамінае, у захапленні ад вечара, прывітанне і юбіляраў верш, якога любіць і высока цэніць, і ўсім землякам гэтай гераічнай зямлі.

«Ты ўсё заўважаеш. А вясну не заўважаеш — бэз і пралескі.

Быў сад у вакне, а зараз высеклі і дзіцячы сад будуюць.

Чытаю нарысы пра сельскую гаспадарку і прамысловасць, аж курыць пачнеш.

Новых маладых не разумею, што да чаго». Чытае вытрымкі рэцэнзіі на Марука[1] («Маладосць», № 4), цытаты ўсе непісьменныя.

«Пачынаю часопіс з нарысаў, пасля прозу і потым вершы, бо іх мала. У Вярцінскага[2] дурны ментарскі тон у дыялогу з Марціновічам[3]. Мы заўсёды берaглі крытыку і публіцыстыку і пры Асіпенку[4], і пры Бураўкіну, і пры Зуёнку[5].

Можна [параўнаць] памідор, як сонца, а нельга сонца, як памідор.

Як непальскую дэлегацыю [сустракалі], удасужыліся звароту: «Ваша Высокасць (пры Вашай занятасці — дэпутатша-сакратар), Вы нам удзялілі столькі часу...»

У Англіі нагаварыўся па-англійску. Алеі, ружы, англічанін: «Well» [?], а я: «Nice!» — і раскланяліся. Для англічан даволі»[6].

*23 красавіка, субота*

*г. Бягомль*, *в. Маргавіца*. Юркава[7] хата замкнёна, студню назад забрала зямля. Ліпа, якую ў 1951 г. садзіў малы. На ёй шпакоўня, шпак пры-

---

[1] Марук Уладзімір Антонавіч (1954–2010), беларускі паэт. У 1986–1998 гг. рэдактар, заг. рэдакцыі выд-ва «Юнацтва».

[2] Вярцінскі Анатоль Ільіч (н. 1931), беларускі паэт, перакладчык, крытык. У 1986–1990 гг. гал. рэдактар газ. «Літаратура і мастацтва». Заслужаны работнік культуры БССР (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

[3] Марціновіч Алесь (Аляксандр Андрэевіч; н. 1946), беларускі літаратуразнавец, крытык, журналіст. З 1981–1999 гг. заг. аддзела інфармацыі газ. «Літаратура і мастацтва». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя К. Каліноўскага (1998).

[4] Асіпенка Алесь (Аляксандр Харытонавіч; 1919–1994), беларускі пісьменнік, сцэнарыст. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1981).

[5] Зуёнак Васіль Васільевіч (н. 1935), беларускі паэт, крытык. У 1982–1989 гг. сакратар СП БССР. Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1982).

[6] Гл.: Удзельнік дзеяў і летапісец: Паслядоўнік (1987) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 50.

[7] Свірка Юрась (Юрый Мікалаевіч; 1933–2010), беларускі паэт. З 1975 г. заг. аддзела прозы і паэзіі газ. «Літаратура і мастацтва». Гл.: Свая баравіна (1983) // Парастак радка, галінка верша. С. 207.

ляцеў. Васьмёра дзяцей, Юрка самы маладзенькі. Рачулка ў лагчыне ў хмызняку.

*в. Мажа́йка*. Над ёй да вайны вольхі як сосны стаялі. Салаўёў да д’ябла. Утравелы гарод да рэчкі вядзе. На гары буслянка, буслы ўнізе за клопатам.

Едзем назад у клуб аўтобусам. Едзе старэйшая сястра, тлумачыць: тут ляды (бульбу на зіму хавалі), тут магільнік.

Шасцікласнік (голас пастаўлены па-бягомельскі) хвалюецца, чытае «Маё мястэчка», нібы выйшаў сам Юрась упершыню на сцэну. Зноў 6-класнік чытае «Мая 105-я вярста». Губаты, вушасты, і невыказна беларускае вымаўленне. А Юрась: «Слова не так прачытаў. Як цецярук на суку, толькі сябе чуе».

Юрась у заключным [слове]: «Ад высокіх слоў аж у пот кінула. Не праязджайце каля сваёй вярсты, каля чужога радасці і гора. Дзякую тым, хто прыйшоў, і тым, хто не прыйшоў. Яны, відаць, перагортваюць старонкі маіх кніг. Крылы я яшчэ не складваю».

[Адрасы:] Бягомль, вул. Кірава, д. 21, кв. 1. Прадзед Марыя Іосіфаўна; Павел Сямёнавіч Мікуленка, сакратар РКПБ, у Лабанка быў маленькі. Шунёўка[1]. Помнік — яго ініцыятыва.

*** Быкаў на беразе. Брыль — зялёная школа. Алексіевіч[2] — расказы пра жанчын. 1) Не аберагайце людзей ад шкоднай памяці. 2) Хачу забіць і не магу. 3) Зялёная школа, яўрэйка вучыла. 4) Пра жанчын для зачэпкі. 5) Чалавек без мінулага не чалавек, хоць трошкі на будучае пагляд. 6) [абарваны запіс.]

Лариса Жарова[3] [Масква] 252–01–63 службовы. СП Латвии. Дни литературы.

*27 красавіка, серада*

Вечар [час.] «Полымя». Косця Кірэенка[4] ўсё ніяк не мог насыпацца попелу на сваю ўжо аблыселую галаву.

---

[1] Гл.: Надпіс на помніку ў вёсцы Шунёўка (23.04–3.05.83) // Маўчанне перуна. С. 36.

[2] Алексіевіч Святлана Аляксандраўна (н. 1948), беларуская пісьменніца. Лаўрэат літаратурных прэмій СП СССР імя М. Астроўскага (1984), імя К. Федзіна (1985), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Нобелеўскай прэміі (2015).

[3] Жарава Ларыса Анатольеўна, кансультант па пытаннях літаратуры Усесаюзнага Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП СССР.

[4] Кірэенка Кастусь (Канстанцін Ціханавіч; 1918–1988), беларускі паэт, дзіцячы празаік, перакладчык. У 1972–1986 гг. гал. рэдактар час. «Полымя». Заслужаны дзеяч культуры БССР (1970). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1964), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1972).

Пасля канцэрт. Марыя Захарэвіч[1] чытае куляшоўскі[2] «Ліст з палону». Янка Брыль кажа, што ў партызанскім лесе — гэта першы верш Куляшова, які ён прачытаў у лістоўцы. Калі Марына дайшла «пацалую твой след», на вачах у Брыля слёзы. Словы Карызны[3] — «сунічнымі барамі». Брыль: «Суніцы ці на ўзлеску, ці на лядах». Бураўкінавы словы «матылі з выраю». Брыль: «Матыль жыве адзін [дзень]».

*29 красавіка, пятніца*

Паседжанне секцыі паэзіі. Яфімаў: «Хто ставіць над паэзіяй жыццё, той даб'ецца нечага. Пачуццёвая думка».

Хоць бык
Да крыўдных ярлыкоў прывык,
Што ён упарты,
Што з ім, раз'юшаным,
Благія жарты.

*3 мая, аўторак*

У Пімена [Панчанкі]. «Лета ў асецішчы пахавана». Асець, дзе снапы сушаць, яшчэ ёўня. Запытаў у дзяцей, што [гэта] — не ведаюць.

Раней прыцягненне па святах, а зараз не тое. Добра, што ўжо лапаты не носяць, лозунгі.

Класікі пішуць лёгка, надумана, толькі Дастаеўскага[4] і Талстога[5] яшчэ берагу. Як да размоў з людзьмі — надумана. Нічога жывога няма.

Адкрыты славянскі верш выклікае адкрытыя пачуцці, а асацыятыўны — алгебраічную задачу.

Стараюся ў Максіма[6] знайсці нешта добрае, каб пахваліць пры сустрэчы. Паўтарае скрыпкі, зоркі, сярпы, цымбалы як вядомы прыём. Думаю — пахвалю гэта, а пасля забудуся, як з запісных кніжак.

Як прыеду раней з раёна, а мяне з усіх кашоў нагрузяць.

---

[1] Захарэвіч Марыя Георгіеўна (н. 1936), беларуская актрыса, выкладчык. З 1957 г. у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы. Прафесар (1999). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1984).

[2] Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч (1914–1978), беларускі паэт, перакладчык, кінасцэнарыст. Народны паэт БССР (1968). Заслужаны работнік культуры УССР (1973). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1949), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1970).

[3] Карызна Уладзімір Іванавіч (н. 1938), беларускі паэт, перакладчык. У 1981–2001 гг. ст. рэдактар, заг. рэдакцыі выд-ва «Юнацтва». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).

[4] Дастаеўскі Фёдар Міхайлавіч (1821–1881), рускі пісьменнік, публіцыст, крытык.

[5] Талстой Леў Мікалаевіч (1828–1910), рускі празаік, драматург, публіцыст, крытык.

[6] Танк Максім (сапр. Скурко Яўген Іванавіч; 1912–1995), беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Народны паэт БССР (1968). У 1971–1990 гг. старшыня праўлення СП БССР. Акадэмік АН БССР (1972). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР

А Броўка[1], Кулеш [Куляшоў], Максім зусім іншыя, хоць у кожнага свае мухі.

Трэба ўзлавацца і сесці за вершы, год прайшоў.

Вока адно ў мяне пагасла, вечарам не магу хадзіць — каб не весці вечары. У Міхася Падгорнага[2] ў Броўкі: «Тупым калом», слухай, пэўна кол не можа быць тупы.

Учора перачытаў «Падзенне» Камю[3], «Вікторыю» і «Пана». Паэзію мала хто разумее, нават любіць. Чыноўнікі не любяць. На працы і маладым лепш доўгая [?] да часіны [?], а каб зразумелі, што ж такое паэзія. З-за неразумення паэзіі быў пры жыцці неацэнены Пысін[4].

Калі Твардоўскі[5] рэдагаваў анталогію, дык: «Не завіце маю рэспубліку толькі пачаткі».

Кірэенка, ён як бы на хадулях ходзіць, і яго паслядоўнік Арочка[6]: «Купала з «Полымя» выходзіў».

Мне здаецца, што не ў сваім часе жыву, перайшоў сябе — ні траў маіх, ні лясоў, грыбы гляджу ў даведніках «Грыбы нашых лясоў». Не вучаць мову, не вучаць мінулае, таму ім ужо незразумелыя [творы] ні Чорнага[7], ні Коласа[8].

Мінск раней славіўся хлебам, а цяпер рэдка калі [добры трапіцца], на другі дзень засыхае і крышыцца. Хрэн фабрычны не могуць сапсаваць, а на рынку невядома як.

---

(1948), Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1966), Ленінскай прэміі 1978).

[1] Броўка Пятрусь (Пётр Усцінавіч; 1905–1980), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Народны паэт БССР (1962). Акадэмік АН БССР (1966). Герой Сацыялістычнай Працы (1972). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1975). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1947, 1951), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1959), Ленінскай прэміі (1962), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я Купалы (1970), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[2] Герой оперы Я. Цікоцкага «Міхась Падгорны» (1939). Аўтар лібрэта П. Броўка. *Цікоцкі* Яўген Карлавіч (1893–1970), беларускі кампазітар. Народны артыст СССР (1955).

[3] Камю Альбер (1913–1960), французскі пісьменнік і філосаф-экзістэнцыяналіст. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1957).

[4] Пысін Аляксей Васільевіч (1920–1981), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1968).

[5] Твардоўскі Аляксандр Трыфанавіч (1910–1971), рускі паэт, празаік, крытык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1946, 1947, 1971), Ленінскай прэміі (1961).

[6] Арочка Мікола (Мікалай Мікалаевіч; 1930–2013), беларускі паэт, крытык, літаратуразнавец, перакладчык. Доктар філалагічных навук (1981). У 1966–1999 гг. навук. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ.

[7] Чорны Кузьма (сапр. Раманоўскі Мікалай Карлавіч; 1900–1944), беларускі пісьменнік. Быў рэпрэсаваны.

[8] Колас Якуб (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882–1956), беларускі пісьменнік. Народны паэт БССР (1926). Акадэмік АН БССР (1928). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1944).

Высеклі сад, некалькі яблынь зацвілі, цяпер [?] адбіваюцца ў шкле, як у чыстай вадзе вымыўся. Трава, вада, лісце зялёнае, што бог прыдумаў, тое і ёсць, а мы пускаем тыя ракеты ды самалёты.

Цыганская 5-хвілінка. У скверы Купалы. «А мой жа ты прыгожанькі, чаго ж ты рукі сашчапіў, яшчэ [неразб. 1] жыцця», — па-беларуску з даў[няга ?] і пайшоў.

*** М. Стральцоў[1] пра Янку Сіпака[2]: «Кухонная эротыка».

Пятро[3]: «Рускі салдат есці не хоча, а толькі адпачыць, бо ён ведае, што есці яму ніхто не дасць, а адпачыць трэба».

Скоро кончится труба,
Повезут вагоны,
Как коровы заревут
Временные жены.

Дарваўся, як правінцыял да службовага тэлефона.

*10 мая, аўторак*

*Карласу Шэрману*[4]

Люблю я Карласа заўжды
Ад барады да барады
За вершы і за пераклады,
Як той мароз з Ушач Каляды.

*** Няўжо такая дэбільная нацыя, што дзве мовы.

Пра дрэва лепей сказалі горцы, у якіх лес знік.

! Па адносінах да фальклору [вызначаецца] паэт, што бярэ з яго!

[Адрас: Мінск], Казінца, 122–13. Калеснік Яўген (Гена) Іванавіч; Гардзеева Галіна Мікалаеўна, 383; Ханина Татьяна Михайловна 27–36–27 дом.; вул. Голубева, д. 9, кв. 23. Бысік (Бычык) Валянціна Уладзіміраўна.

---

[1] Стральцоў Міхась (Міхаіл Лявонцьевіч; 1937–1987), беларускі паэт, празаік, крытык, перакладчык. У 1984–1987 гг. заг. аддзела мастацтва, крытыкі і бібліяграфіі час. «Неман». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1988, пасмяротна). Гл.: На маладую завею (12.83); Дыпціх прысвячэння (6–19.05.85) // Маўчанне перуна. С. 75, 153; Міхась Стральцоў (2004) // Дуліна ад Барадуліна. С. 26.

[2] Сіпакоў Янка (Іван Данілавіч; 1936–2011), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1973–1989 гг. заг. аддзела мастацтва, крытыкі і бібліяграфіі час. «Маладосць». Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1997). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[3] Трафімаў Пётр Аляксандравіч (1924–1998), стрыечны пляменнік, сын М. Р. Трафімавай.

[4] Шэрман Карлас Рыгоравіч (1934–2005), беларускі перакладчык, іспанамоўны паэт. У 1956 г. пераехаў у Беларусь з Аргенціны. У 1977–1989 гг. заг. рэдакцыйна-выдавецкага сектара Фундаментальнай бібліятэкі імя Я. Коласа АН БССР. Гл.: Пра сябра (1984) // Парастак радка, галінка верша. С. 247; Як на споведзі (20.08.87) // Самота паломніцтва. С. 255.

*12 мая, чацвер*

Москва, 121069, Воровского, 52. СП СССР. Андрею Андреевичу Вознесенскому[1]: «Дорогой Андрей! С первой превознесенской половиной будущих столетий бессмертия слова твоего. Живи! С давней любовью *Рыгор Бородулин*».

*14 мая, субота*

Дзядзька Стах!
Культурным змалку
Вы былі.
Далі заслужанага ўрэшце.
Вядзіце рэй свой на зямлі
І сэрца роднай мовы цешце!

*

Умомант пыха ўстане з лаў
І зайздрасць шапку здыме,
Як зойдзе шчыры Станіслаў
Сказаць сваё «люблю» Радзіме[2].

*15 мая, нядзеля*

*Віктару Шніпу*

Не засыхалі карані б
Пісьменства крэўнага,
Калі б
Усе ішлі у глебу вернасці,
Углыб,
Як Віктар Шніп!

*22 мая, нядзеля*

*Riga, Юрмала*. [Дні савецкай літаратуры ў Латвіі.]

У Васіля Быкава дзед быў управляющим цагельнага завода ў Мітаве.

Ранішняя Рыга. (У Васіля) 7 гадзін, у Яніса[3] пахмелле. І ўсе некуды валам ідуць. Васіль: «Куды яны?» А гэта ў кіно (7 раніцы) чарга. І тады Васіль падумаў — «краіна кінаманаў».

---

[1] Вазнясенскі Андрэй Андрэевіч (1933–2010), рускі паэт, публіцыст, мастак, архітэктар. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1978), прэміі Ураду Расійскай Федэрацыі (2010, пасмяротна). Ганаровы член 10-ці акадэмій свету.

[2] З выпадку надання С. П. Шушкевічу звання заслужанага работніка культуры БССР.

[3] Рокпелніс Яніс (н. 1945), латышскі паэт.

У канцы ліпеня Юлі Ванагу[1] 80 год. Яшчэ бадзёры, праўда, шчокі і вочы гады выдаюць. Шчокі крыху абвіслі. Вочы з пагаслым бляскам, сумнаваты. Ён першы ўварваўся ў Саласпілс[2]. Штабелі параненых, немцы не паспелі падпаліць. Жыхары выцягвалі на траву (сонечны дзень), спрабавалі ліць малако.

Надпіс на помніку ягоны. Адну [ягоную] песню запісалі як народную, словы не так. Ён сумуе.

На Украіне [Ванаг] выступаў па-ўкраінску. І ў адным [сяле] сялянскі хлопчык: «А гэта слова вы па-беларуску сказалі!»

Юры Туулік[3] прыехаў адзін з Эстоніі, быў у «прыгарадзе» Таліна — Хельсінкі, ягоная радыёп’еса ішла. На два дні. Арка-транспарант ягоны — 8 метраў, на бервяне ў выглядзе фаласа.

*23 мая, панядзелак*

Каротыч[4] прыехаў. Са Слуцкісам[5] размова. Узяў ягонае апавяданне з кнігі ў «Совписе» [«Советском писателе»] «Приглашение к танцу».

Ля мора на скамеечцы хлапчук, не болей 16 год, у белай курортнай шапачцы, чытае загорнутую ў сінія сінтэтычныя вокладкі Біблію. Антырэлігійная прапаганда часу.

Па шчыкалаткі ў вадзе
Адмелам ступаюць чайкі.
Прыбой
Дакладна падлік вядзе.

Прыём у ЦК. [Выступае] Вос[6], уступнае слова. Разам з Эстоніяй апошняе месца па дзецях і адно з першых па разводах (самая высокая занятасць жанчын у грамадскім жыцці). Звыш 20 рублёў [выдаткуе] кожны жыхар на газеты і часопісы.

---

[1] Ванаг (Ванагс) Юлій (1903–1986), латышскі паэт, драматург. Заслужаны дзеяч культуры ЛатвССР (1953). Заслужаны работнік культуры БССР (1970). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Фадзеева (1980).

[2] Саласпілс — фашысцкі канцэнтрацыйны лагер у гады Вялікай Айчыннай вайны каля станцыі паблізу Рыгі.

[3] Туулік Юрый (н. 1940), эстонскі празаік, драматург. Гл.: Суладнасць (12.03.84) // Маўчанне перуна. С. 49.

[4] Кароціч Віталій Аляксеевіч (н. 1936), украінскі паэт, перакладчык, публіцыст. Лаўрэат Рэспубліканскай прэміі імя М. Астроўскага (1972), Рэспубліканскай прэміі імя П. Тычыны (1978), Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі (1981), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985).

[5] Слуцкіс Міколас (1928–2013), літоўскі пісьменнік. Заслужаны дзеяч мастацтваў ЛітССР (1978). Народны пісьменнік ЛітССР (1984). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛітССР (1966).

[6] Вос Аўгуст Эдуардавіч (1916–1994), латышскі партыйны і дзяржаўны дзеяч, 1-шы сакратар ЦК КП ЛатвССР (1966–1984).

Falimint, Faringosept — Ларысе[1]! Кавалюк[2], тэл. 52–44–28.

*24 мая, аўторак*

[Аўтограф М. Сама[3]:]

Гори мої, гори,
Мальовані верхи,
Поки вас перейде,
Будуть темні смерки.
Поки по вас пройду,
Будуть темні смерки.

*Ціха плача на ўвесь свет…*

*25 мая, серада*

Гарком (Riga). Сакратар дакладвае пра горад. Нейкае слова не помніць па-руску. Пытае ў сваіх паплечнікаў. Старшыня гарвыканкома Гарбуноў — латгалец, сакратар. «У 2001 годзе — 800 год [гораду]. Усіх вас запрашаю на юбілей».

1914 г. — 600 тыс. насельнікаў. 1939 г. — 350 тыс. Сёння — 870 тыс., практычна — 1 млн. (адпачываючыя праз Рыгу едуць і ў Юрмалу, і назад).

Прыёмнік [радыёпрыёмнік] — кожны 3-ці ў краіне, тэлефон — кожны 2-гі. Мала метала- і энергаёмістых тавараў. Завод прамысловых робатаў (Міністэрства авіяпрамысловасці). Сацбыт у 3 разы даражэй, чым завод, але выгадней — на жыхара прыходзіцца тавараварот 2-е месца, бытпаслугі — 2-е месца ў краіне. За год 2200 млн. гледачоў, музей — 2 млн.

Калі б расшырыць вуліцы, дык у Рызе не будзе праблем з захаваннем горада. Захаваецца цалкам сярэдневякоўе, перш капіталістычная Рыга. (5–6-павярховыя) дамы трэба рэканструяваць, яшчэ не адно стагоддзе прастаяць. Рэстаўрацыя старога горада [разлічана] да 90-га года. Польскія рэстаўратары запрошаны. Рызе не лёгка ў параўнанні з іншымі. Адной Рызе — амаль палова ўсёй рэспублікі. Працоўныя рэсурсы [неабходныя], паколькі многа вольных месцаў (≈ 20 тыс.) — куды хачу, туды і пайду працаваць. У культуру, абслугоўванне — неахвотна ідуць, і ў царскі час [адзначалася] самая нізкая нараджальнасць. 1980 г. — 1,1, цяпер — 1,5.

---

[1] Горцава Ларыса Мікалаеўна (н. 1942), беларуская актрыса. З 1963 г. у Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача (ТЮГе). Заслужаная артыстка Беларусі (1997). Жонка А. Вольскага. Гл.: Прыміце! (24.07.85) // Маўчанне перуна. С. 235.

[2] Кавалюк Аўгіння Трахімаўна (1934–2007, Санкт-Пецярбург, РФ), беларуская паэтэса; настаўніца. Жыла ў Рызе.

[3] Сом Мікалай Данілавіч (1935–2013), украінскі паэт.

Ахова акаляючага асяроддзя — праблема, 60 тыс. аўтамабіляў, 10 тыс. матацыклаў. Утрыманне ў чысціні вадаёмаў. Захаванне зялёнага ўбору. Садовыя ўчасткі, машыны і г. д., таму не ўдзельнічаюць у добраўпарадкаванні горада. Другое месца па забеспячэнні жыллёвай плошчай (хоць падчас гэта вялікае, але нязручнае памяшканне). Дырэктар: «За связь без брака!» (Запрашальны білет быў такі.) Музычна-мастацкае вучылішча (каб муж ахвотна ішоў на працу і з працы дамоў). Дырэктар: «Школа будучага — прафтэх. Яны канкрэтна працу адчуваюць. На апошнім курсе многія замуж ідуць. Вучылішча фей», — (агітбрыгада пра чароўны кубак).

Э. Смільгіс[1] (два мяхі векселяў) 20-я гады.

[Аўтограф:]

На столі самагону сулія,
Значить, дома, в селі я.

*Мікола Сом*

Армянін *Грыгарыян*[2]: «Калі не было дзяржавы, замянялі царквой, калі не было дзяржавы і царквы, — літаратурай». Кіраўскі р-н. Па дарозе Грыгарыян: «Пяльмені — падрадкоўнік далмы».

* * *

Не гне перад начальствам карак
Латгалец горды, як зямля.
Трымае Андрыс моцна «Kārogs»[3],
Стаіць трывала ля руля!
P. S.
Так і трымаць!
P. P. S.
І не драмаць!

Рыга разлічвалася на 200–250 тыс. [жыхароў]. Комплексны капітальны рамонт з перабудовай, ранейшых асобна, і новымі засяляюць. На ўліку па горадзе 32 тыс. сямей. Па 17 год на ўліку, каб атрымаць кватэру. Не ўсім дадуць, яшчэ з уліку 1964 года, а ім многім 80–90 год, не ўсе інваліды, забяспечваюць маладых, запрошаных на працу ў 70-х гадах. Тэрыторыя раёна 0,95 % горада, а тавараварот $^1/_3$. Падвалы пад кафэ,

[1] Смільгіс Эдуард (1886–1966), рэжысёр і акцёр. Народны артыст СССР (1948). Адзін з заснавальнікаў Мастацкага тэатра імя Я. Райніса (1920). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1947).

[2] Магчыма, Грыгар’ян (Тэр-Грыгар’ян) Камсар Нерсесавіч (1911–2004), расійскі літаратуразнавец (г. Ленінград).

[3] Веян Андрыс (сапр. Калнач Данат; н. 1927), латышскі паэт, празаік. Гл.: На ўзмор’і (14.03.79–10.03.86, Дубулты — Мінск ) // Самота паломніцтва. С. 221. «Kārogs» — напой.

маленькія кафэ пад зямлёй. Усе будаўнічыя трэсты ў гэтым раёне, але яны не тут, а ўсе шышкі на раён.

Экспартная база ў Вентспілсе. 30 тыс. моладзі і студэнтаў у раёне, трэба дапамагаць сельскай гаспадарцы. Моладзь тут па 10 тыс. вучняў, са школ да 70 % і болей [паступаюць] у ВНУ. 15 праектных інстытутаў, 0,016 працэнтаў раёна.

Vēga Rīga [Старая Рыга] — помнік усесаюзнага значэння. 75 млн. рублёў уся рэканструкцыя Vēga Rīga. Усе склады са старога горада вывесці і там [адкрыць] музеі, дзіцячыя тэатры. 52 % па гораду разводаў. Модна [мець]: 1 дзіця, машыну, дачу і сабаку.

Мастакі ў вёсках — выстаўкі, дапамога самадзейным мастакам. Прэміі мастакам ад калгасных аб'яднанняў. Інстытут фізікі цвёрдага цела ўніверсітэта імя П. Стучкі. 10 факультэтаў: эканамічны, наргас і іншыя; навуковадаследчы інстытут у сістэме ВНУ. Сённяшняя навука галіновая і другая навука (вучоны з вучнем), і акадэмічная навука, інстытут, фундаментальная навука.

Цвёрдыя целы валодаюць памяццю. Дыялагавы варыянт машын. Тое, што дужа ўпарадачана, не мае жыццёвай трываласці.

Інстытут фізікі цвёрдага цела. «Ідзі з літаратуры ў навуку. Тая толькі навука, што з нармальнымі людзьмі я шукаю кантакты, з людзьмі іншых прафесій. Навука — навука, а літаратура…» — дырэктар інстытута Заціс.

Язэп Яніс. Выстаўка: «Бывай, маладосць ў 35 год».

Латвія, як бурштынавая сакта, блізка ля сэрца на грудзях Еўропы.

Лісты ў абарону міру ва ўніверсітэце, вядзе Вія Артманэ[1], Андрыс, Лукс[2], Зіедоніс[3], Каротыч, Кастроў[4]; Майрака Касымава пяе.

*Шкло, а стекло, што сцякло.*

«Мы лічым, што праводзім час…»[5]

---

[1] Артманэ Вія (Аліда; 1929–2008), латышская актрыса. Заслужаная артыстка ЛатвССР (1956). Народная артыстка ЛатвССР (1965). Народная артыстка СССР (1969). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛатвССР (1980).

[2] Лукс Валдыс (Вальдэмарс; 1905–1985), латышскі паэт; партыйны і грамадскі дзеяч. Заслужаны дзеяч культуры ЛатвССР (1955).

[3] Зіедоніс Імант (1933–2013), латышскі паэт і празаік. Народны паэт ЛатвССР (1977).

[4] Кастроў Уладзімір Андрэевіч (н. 1935), рускі паэт. Лаўрэат прэміі «Залатое цяля» (1987), прэміі імя А. Твардоўскага (1998), прэміі імя І. Буніна (2000), «Вялікай літаратурнай прэміі Расіі» СП РФ (2002), прэміі Ураду РФ (2006), Літаратурнай Бунінскай прэміі (2010, 2014), Міжнароднай Лермантаўскай прэміі (2012).

[5] Гл.: «Мы лічым, што праводзім час…» (25.05.83, Рыга) // Маўчанне перуна. С. 112.

*26 мая, чацвер*

Урач вока-вуха. Размова з Юнай Морыц[1]. (Янка Сіпакоў, балады — лікбез. Навязала перакладаць Залатухіна[2]. Пакуль будзе жыць, не можа чуць і бачыць Янку, бо сам непісьменна правіў пераклады).

Чаклайс[3] і Зіедоніс (паездкі за мяжу, адкуль і ўзвышэнне).

Па радыё пад віск чаек — «Ой рэчанька, рэчанька, а чаму не поўная…». Бо войнамі Беларусь мая… Няхай не ўсе гавораць па-беларуску, калі маўчаць па-беларуску, калі баліць па-беларуску, дык, можа, і па-беларуску загавораць.

У электрычцы аб'яўляе: «У нас спецабсталяванне: пасажыр — машыніст — міліцыя! Націскайце на кнопку і выклікайце міліцыю».

*Даручэнне*

Даручылі грому — шкляру нэрвоваму
Зашкліць нябёсы,
Ды на шкляра напаў тарапат.
І выпусціў скрыню з шыбінамі.
(Чуеш грукат?)
І на зямлю пасыпаліся аскялёпкі.
(Чуеш, як шалее залева,
Шпурляе сцюдзёны боб?)
І толькі некалькі шыбін
Уцалелі, але надтрэснуліся.
(Бачыш, маланкі жыгаюць?)
Так і засталіся нябёсы
Незашклёныя —
Вятрам на пацеху.

[Адрас чужой рукой:] Ашхабад, 10 мкр., ул. Худайбердиева, 74, кв. 18. Нурыев[4] Италмаз. Тел. 3–32–32; Міронава Тацяна Ільінічна. Москва, 121069, Воровского, д. 52. Инкомиссия.

*27 мая, пятніца*

Нінэль Касьянава[5], д. 28–27–10. Корпунк ЦТ и ВР [Усесаюзнае радыё]. 28–26–36, 22–94–05.

---

[1] Морыц Юнна Пятроўна (н. 1937), руская паэтэса.

[2] Залатухін Валерый Сяргеевіч (1941 —2013), рускі акцёр і пісьменнік. Заслужаны артыст РСФСР (1981). Народны артыст РСФСР (1987).

[3] Чаклайс Марыс (1940–2003), латышскі паэт.

[4] Нурыеў Італмаз (н. 1937), туркменскі паэт.

[5] Касьянава (Мешкун) Нінэль Якаўлеўна, заг. Цэнтральным карэспандэнцкім пунктам Дзяржтэлерадыё СССР у Латвіі.

Калгас рыбалавецкі «9 Мая». «Падзелена Балтыка на сектары. І ўлоў скараціўся на ½. Мінога не заходзіць на нерасцілішча, ласось скараціўся. Тут некалі рыбачыў Віліс Лацыс1. Тут Дайна Авотыня2 разам са старшынёй калгаса напісалі раман «Вольная хваля». СССР мае ліцэнзіі на працу ў польскай і шведскай зонах.

Электрастанцыі на рэках шкодзяць рыбе, забруджванне акаляючага асяроддзя. Балтыка — самае бруднае мора. У нас з ачыстных збудаванняў вада выходзіць чысцей, чым у Даўгаве.

Малькоў уночы выпускаюць, каб чайкі іх не з'елі. Летась прыбытак 2 млн. 360 тыс. рублей. Ёсць плыўдок, сударамонт, судны робіць калгас. Гародніна, кветкі. Калгас у падпарадкаванні Кіраўскага раёна г. Рыгі. Ласасёвыя рыбы дужа капрызныя. Адмовіцца ад акіяна калгас не можа».

*Г. Віеру[3]:* «А я пакінуў такую мову. Апостал Пётр шэпча, — і па-руску: — Ладно».

*Чабан[4] Спяван [?]*: «Пісталетам слёзы выціралі. Капіталізм без меж згіне, хачу застацца пабачыць».

«Вясновы дзень год корміць, а Дні літаратуры сыцяць гады нашай дружбы. Першыя птушкі — замежныя турысты, яны ва ўсіх краінах і нам пракорм далі».

«100 год Ояру Вацыецісу[5] і Ояру Вацыецісу без 20-ці 100 год», — Юлі Ванаг.

*28 мая, субота*

Ад'езд (адлёт). Званок у Мінск. Лепей бы не званіў.

Па-латышску перагукваецца Dzimtenē [вяртацца на радзіму] — dzintare. [Неразб. сказ.]

*3 чэрвеня, пятніца*

Перадаць Міклашэўскаму[6] рэкамендацыю Пятру Ламану. 64–74–24 Марына Мартынюк. У «Стойле Пегаса». У Вялюгіна баптысцкая песенка:

---

[1] Лацыс Віліс (1904–1966), латышскі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік Латвійскай ССР (1947). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1949).

[2] Авотыня Дайна (н. 1926), латышская паэтэса, празаік, журналіст.

[3] Віеру Грыгорэ Паўлавіч (1935–2009), малдаўскі паэт.

[4] Магчыма, Чабан Іван (сапр. Чабану Іон Канстанцінавіч; 1927–2001), малдаўскі празаік і палітычны дзеяч. Народны пісьменнік МССР (1984). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі МССР (1970).

[5] Вацыецiс Ояр (1933–1983), латышскі паэт, празаік. Народны паэт ЛатвССР (1977). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1982).

[6] Міклашэўскі Яўген Васільевіч (н. 1936), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1981–1988 гг. літкансультант СП БССР.

Не любите мира,
Ни того, что в мире.
Проходите мимо
Мили за четыре.

У дзённіку Вялюгіна рэпрадукцыя гняздзечка птушкі. Партрэт Паўла Васільева[1].

Хай крытыка гундосіць безгалова
Са звілінкай слабой у галаве.
Пакуль гучыць вялюгінскае слова,
Датуль паэзія ўладаркаю слыве!

Страты насельніцтва Беларусі ў выніку войнаў:
1700 г. — да 3 млн.
1725 г. (шведы) — загінуў кожны трэці.
Напалеон[2]. Было 4 млн., загінула 1 млн., кожны 4-ты.
1914–1918 гг. 7 млн., загінула 4 млн., кожны 5-ты.
Назва кнігі «Катэхізіс» ад грэчаскага *слоўнік.*
З вершам пра нясвіжскі час (Будны[3]).
Бабка пупарэзная.

Шура вертится в любви,
Как берёста на огне.

*

Скручу я шыю шэйку,
І, твіст-прасвіст, не лезь!
Я дзьму хвалу ў жалейку
Самому ўсеМажэйку[4],
Таму, што пан Алесь.

32–82–10 служэбны з 15.00–24.00, [дні]: 7, 9, 11, 13. Стральцова[5] Лена.

*7 чэрвеня, аўторак*

* * *

Шапчу я музе:
— Не памрэм,

---

[1] Васільеў Павел Мікалаевіч (1910–1937), рускі паэт. Рэпрэсаваны.
[2] Напалеон I (Напалеон Банапарт; 1769–1821), французскі імператар (1804–1814 і 1815).
[3] Будны Сымон (каля 1530–1593), дзеяч беларускай культуры, друкар і выдавец.
[4] Мажэйка Алесь, беларускі журналіст.
[5] Стральцова Алена Дзмітрыеўна (н. 1945), фотааператар Дома друку. Жонка М. Стральцова.

Пакуль сябруе з намі Рэм[1].
На ўсёй зямлі няма гарэма
На ўсіх любімых думак Рэма.
Не веру ў сілу тэарэм —
Ва ўсіх пытання ТЭО — Рэм.

Ан. Вялюгін: «Галубка, калі ў няволі, няма галуба, паглядзіць у люстэрка і яечка знясе абавязкова».

Самаробак — байструк.

*12 чэрвеня, нядзеля*

«Слова [пра паход Ігаравы]» напісана верлібрам славянскім.

Цэнтральны кніжны. Шыльда «Кнігі», над «і» няма кропкі, і галуб як бы кампенсуе — сядзіць якраз на «і».

*в. Лядкі*. На вуліцы:

— Давай на лейцы памяняемся.

— Гэта на каб нічога.

* * *

Пакуль лунае бусел,
Шугае гай радкоў,
Хай муза дорыць буську
Шаноўнаму Бусько[2].

*15 чэрвеня, серада*

*г. Баранавічы.* У кватэры Міколы Бусько рукапісы вершаў, і галоўкі на палях, як у Пушкіна.

*в. Пагарэлка*. Хата Міколы, як у нашай. Маці з бульбы выходзіць — зарасла. Фота на сцяне за шклом. Маці Міколава — 75 год, праз год маёй было б столькі, было б. Кураняты, як ртуць з пабітага градусніка. Крыжык бацькаў на вайну, кулямётчыкам быў: «Усіх паб'юць, не ведаю, куды падацца». За Берлін два медалі за храбрасць.

Стары партызан, 72 гады: *выкруці* вады са студні; даўней такія сільныя вішні, а сягоннячы шпакі не даюць нават закраснець; мы праседзелі да 7-мі вечара (прачакалі); выганяюць на *пасвішча*; сабакі *заляхаталі;* увесь палетак *збушава́лі* (збаёдалі); ой, божа, смяхоты! Хай ідзе Бусько,

[1] Нікіфаровіч Ванкарэм Валяр'янавіч (1934–2011, ЗША), беларускі літаратуразнавец, перакладчык, кінасцэнарыст, публіцыст. У 1983–1987 гг. пам. галоўнага рэжысёра па літаратурнай частцы Тэатра-студыі кінаакцёра пры Дзяржкіно БССР.

[2] Бусько Мікола (Мікалай Іосіфавіч (н. 1940), беларускі паэт. З 1976 г. мастак-афарміцель аўтобуснага парка г. Баранавічы.

ён такі ахóтны — любіць гаварыць; палажыўся на мяне; я там курсіраваў у сыраварстве; я коней пугамі сёрбну; учорачы, цяперачы.

Дачцэ паслала сала ў Магілёў ў бібліятэку. Тоўстае — усе думалі — клеенае сала.

Ёсап Бусько — стары партызан, падрыўнік, да Зосі (1918 год) сватаўся: «Да цябе пайду — 100 вуллёў і рыба ў Нёмане».

г. Гомель. Палац культуры, вытворчае аб'яднанне «Гомельпромбуд», вул. Першамайская, 16.

*23 чэрвеня, чацвер*

*[г. Гомель.]* 19.00. Агітпляцоўка Петруся Броўкі.

Аднойчы ўбачыць
І тады
Вачыма згубленай пяшчоты
Усе астатнія гады
Шукаць забытыя сляды,
Як той агонь глыток вады.

Волатава, мікрараён. Дзень паэзіі Петруся Броўкі ў мікрараёне. Ніна Шклярава[1]: «Першы паэт, якога я ўбачыла, быў Анатоль Грачанікаў[2]».

*в. Шарпілаўка* [радзіма А. Грачанікава]. Стукалі-грукалі, я не ўчула (маці Толі), адчыніла. Дзве *кулíткі* хлеба; так на зямлі пукі раскіну; голасу нарабіла; таму я і села макам; родны зяць і родная дачка не маглі забраць маму; у мяне няма ўжо роду ніякага, апрача дзетак; такі справы не харошы; ты склаў і слончык і ў гумно аднёс бы; Спасіцель ў віры рыбу лавіў і з *брохалам;* камсамолы кінулі ў раку.

Студня, вочап, капаюць калодзеж, верш.

179 [чалавек] загінула з Шарпілаўцы [у Вялікую Айчынную вайну]. Школа, дзе вучыўся. Ходзіць пасажырка (рэйсавы аўтобус) і стаіць 15 мінут.

Маці: не дзівіцеся, калі што не так; як трапіць — заязджайце; ешце ягадкі — паспытайце лесавога; Тольчык, я закрыю сама[3].

*Кабета — камета. Казік[4] — класік.*

---

[1] Шклярава Ніна Іосіфаўна (н. 1947), беларуская паэтэса.

[2] Грачанікаў Анатоль Сымонавіч (1938–1991), беларускі паэт, перакладчык. У 1982–1991 гг. гал. рэдактар час. «Маладосць». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР (1984).

[3] Гл.: Начлег у Шарпілаўцы (11.02.84) // Маўчанне перуна. С. 10. Верш з прысвячэннем «Памяці Дамінікі Нічыпараўны Грачанікавай».

[4] Камейша Казімір Вікенцьевіч (н. 1943), беларускі паэт, перакладчык. У 1981–1988 гг. супрацоўнік час «Вясёлка». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1989).

…або вязкамі
Мы надзяляем шчодра старых
Правамі і абавязкамі.
Старых бацькоў правамі і абавязкамі
Любіць зямлю,
Любіць
фарпостамі пакідаем…

*30 чэрвеня, чацвер*

СП БССР. «Пішы: XX стагоддзе», — [сказаў] Танк, калі спытаў пра даты вершаў ў зборніку Хелемскага[1].

*** [Аўтограф А. Вялюгіна.]

Залатухіна[2] 208–93–01, 123–32–82. Раман Мікалаевіч Катушанец 29–37–52, 17–17.30; Лях Мікалай Аляксандравіч 20–82–01, 9 раніцы. Вакар[3] 32–95–99; Караленка[4] Вольга Васілеўна (жур. [неразб. 2]); [вул.] Сурганава, 86–25, Журовіч [сям'я У. Журовіча[5]]; Павел Міхайлавіч Шруб[6] 33–15–26, працоўны, 36–01–48.

*1 ліпеня, пятніца*

*в. Лядкі.* Перавоз дома. Шафёр: «Доўгае так-сяк, а *караццё* лягчэй грузіць на машыну».

Вялюгін (садзімся на скамеечку): карова каравік паклала; а хто там? — качка шыю, як змяя, выцягнула з бульбы; на Шчадра (Шчадрэц); пазіраў на той лясок цямненькі; калгасы злучылі; язык у роце не вернецца.

*Міколу Грынчыку[7]*

Вам сто гадоў без сарака,
Шаноўны акадэмік,
Хай не стамляецца рука
Ад важкаглыбага радка,

---

[1] Хелемскі Якаў Аляксандравіч (1914–2003), рускі паэт, празаік, перакладчык.

[2] Залатухіна Тамара Фёдараўна, руская перакладчыца, супрацоўніца «Литературной газеты» (Масква).

[3] Вакар Сяргей Міхайлавіч (1928–1998), беларускі скульптар. Аўтар помніка М. Багдановічу і скульптурных партрэтаў Я. Купалы, П. Панчанкі, У. Караткевіча, Р. Барадуліна.

[4] Караленка Вольга Васільеўна, беларуская журналістка.

[5] Журовіч Уладзімір (пам. 7.02.79), беларускі музыкант, кампазітар; сябар Р. Барадуліна.

[6] Шруб Павел Міхайлавіч (н. 1955), беларускі паэт. З 1983 г. выкладчык-метадыст Мінскай спецыяльнай сярэдняй школы міліцыі.

[7] Грынчык Мікола (Мікалай Міхайлавіч; 1923–1999), беларускі крытык і літаратуразнавец. У 1980–1999 гг. заг. кафедры літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Доктар філалагічных навук (1970). Прафесар. Заслужаны дзеяч навукі БССР (1977).

А думка — ад палемік.
Вы звыклі ўсё спляча сячы,
Хай зайздрасць гоніць клінчык,
А ў Вас, як сокал на плячы,
Дапытлівасць,
Ад мар ключы
Заўсёды там, дзе Грынчык!
Я ўдзячны лёсу, што ў сябры
Да Вас мяне пасватаў.
Хай Вам над Шчараю ў бары
Зязюлі ўцешнае пары
Акругляць многа датаў.

*** [№ гас.] 714, 22–12–55 Тамара Фёдараўна [Залатухіна].

1) пра армію, пра вызваленне Ушаччыны, 2–3 стар, 3 ст.; 2) канкрэтны матэрыял і [неразб. 2]. Дзе салют быў, стар. 3 тэксту; 3) верш на адкрыццё, апяванне края, 4–5. Як было з апошнім патронам, праверыць [неразб. 2]. Сцяг брыгады, крэпасць не трапіла да ворага.

[Брэсцкая крэпасць.] 1) перазахаваны; 2) на адной з пліт «Невядомы» і новае прозвішча (азербайджанец, прыехалі родныя, дзеці і ўнукі (8 чалавек). Бакінец, быў настаўнікам, можа, ён і ягоныя вучні [прыехалі]).

*Рэквіем.* Іван Іванавіч Долатаў, лоцман, з Папаніным[1] плаваў. Алесь Махнач[2], Смірноў[3] С. С., К. Сіманаў[4], Іван Бондар (Украіна [неразб. 2]). Армянін (жыве ў Малдавіі). Адзін быў фельчар, а другі ўрач, у палоне адзін аднаго выручаў. Субхарханаў («Бандэра роса»[5]). Яфім Ліс (з музузвода). Узбек (Бухара).

Над магілай Яфіма Ліса і пахаванне Раманава. Кюнк, папаўненне, у палоне падполле. Два браты Эспалатавы, дачка нарадзілася пасля 41-га года. Кашкараў. У даўгу перад героямі. На хаўтурах словы на плёнку ма-

---

[1] Папанін Іван Дзмітрыевіч (1894–1986), рускі палярны даследчык. Доктар геаграфічных навук; контр-адмірал (1943). Герой Савецкага Саюза (1937, 1940).

[2] Махнач Аляксандр Іванавіч (1922–2001), беларускі драматург, празаік, публіцыст. Заслужаны работнік культуры БССР (1980).

[3] Смірноў Сяргей Сяргеевіч (1915–1976), рускі пісьменнік. Аўтар дакументальнай аповесці «Брэсцкая крэпасць» (1957). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1965).

[4] Сіманаў Канстанцін (сапр. Кірыл) Міхайлавіч (1915–1979), рускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1942, 1943, 1946, 1947, 1950). Па завяшчанню прах ягоны быў развеяны над Буйніцкім полем пад Магілёвам.

[5] «Бандэра роса» («Чырвоны сцяг»), папулярнейшая песня італьянскіх камуністаў 20–30-х гг. XX ст. Першапачатковы тэкст 1908 г. К. Туццы на мелодыі дзвюх ламбардскіх народных песень.

гнітафона [запісвалі]. Раман Левін — слова на пахаванні. Шэварднадзе[1], родны брат [Э. Шэварднадзе], на пліце імя ягонае.

Верлібр, як збудаванне інкахрамаў [храмаў інкаў], камень да каменя прыгнаны дакладна (раствор, цэмент, гэта ўжо рыфма і памер).

[Падрахункі адбудовы дома ва Ушачах:]

1. Заканапацілі мох звонку і знутры.

2. Растворам забіў шчыліны паміж падмуркам і першым вянком з адкосамі.

3. Смецце і раствор убраць на дарогу.

За ўсю работу 1110–1200 [руб.]. Даць 50%. На раствор даваў. За працу 300–350 руб. і на раствор даваў 250 руб. Падмурак са скляпеннем 600 руб. Скласці хату — 600–700 руб.

*6 ліпеня, серада*

Отта Фернандэс[2]. Нумар Unión'а балгарскія «пінaчэтаўцы»[3] палілі.

Залатухіна Т. Ф. [гас.] «Кастрычніцкая», № 702 (22–19–36), 22–51–89 Тамара Фёдараўна.

Крытыка, як дождж, няма — просяць, густа ідзе — клянуць.

Хоць з гранітам туга тады было, але кавалачкі знайшлі.

Мікалай Іванавіч Дземянцей[4] [пабываў] на брацкім магільніку ў Рызе і тады ў нас ва Ушачах могілкі ў парадак прывёў. У дзень аб'яўлення раёна нанова павесіў сцягі.

Пасля вечара да Танка падходзіць узбекскі паэт Мухтар[5], які сам сеў у прэзідыум:

— Я пісаў запіс, мне не далі слова.

— Упушчанае можна дагнаць на 100-годдзі паэта.

---

[1] Шэварднадзе Акакій Амўросіевіч загінуў пры абароне Брэсцкай крэпасці (1941), дзе і пахаваны. Старэйшы брат Эдуарда А. Шэварднадзе (1928–2014), 1-га сакратара ЦК Грузіі (1972–1985).

[2] Фернандэс Отта, выдавец кубінскага час. Unión.

[3] Пінaчэт Аўгуста Хасэ Рамон Угартэ (1915–2006), чылійскі дзяржаўны і ваенны дзеяч, які захапіў уладу ў выніку ваеннага перавароту (1973).

[4] Дземянцей Мікалай Іванавіч (н. 1930), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. У 1979–1989 гг. сакратар ЦК КПБ.

[5] Мухтар Аскад (Мухтараў; 1920–1997), узбекскі паэт, празаік. Лаўрэат Рэспубліканскай прэміі імя Хамзы (1973).

*9 ліпеня, субота*

*Кайсыну Куліеву*[1]

І на пытанне, хто іх сын,
Адкажуць стольны Мінск і Кіеў:
— Кайсын на свеце ўсім адзін —
Паэт сапраўднейшы Куліеў!

*5 ліпеня, пятніца*

З Быкавым. [Быкаў:] «Хутка пабіла. На вайне я сваё жыццё планаваў да вечара, а цяпер да суботы.

2 гады не пісаў, суцэльная радасць: ніхто не вучыць, не крытыкуе. Адпачывай, хадзі ў магазін. А як напішаш, і пайшло.

Дождж і хмары. А чаму хмары, нейкі дождж.

Я не чытаю сваіх карэктур — абрыдла. Аднойчы ўзяў кнігу — правачка. [Неразб. 1] на золак, акружаны, застрэліўся камандзір дэсанту. А ў тэксце — з'явіўся. Адны рэдактары ўламваюць аўтара, а другія перад здачай ў друк — праўкі.

Самы першы прызнак псеўдадакументальнасці — гэта дыялогі. Можна падумаць, што Чакоўскі[2] быў пад ложкам Гітлера[3], але маленькі чалавек любіць… Шамякін[4] піша: Троцкі[5] вяртаўся з Брэста, прадчуваў сустрэчу з жонкай».

У Арэхаўне ў [піянер]лагеры быў Васіль, [спяваў] «Шёл отряд по берегу… след кровавый стелется»[6]. Як возера заснула, з … берага па [неразб. 1].

---

[1] Куліеў Кайсын (1917–1985), балкарскі паэт, празаік. Народны паэт КБАССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1974).

[2] Чакоўскі Аляксандр Барысавіч (1913–1994), рускі празаік, публіцыст. Герой Сацыялістычнай Працы (1973). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1978), Дзяржаўнай прэміі СССР (1950, 1983).

[3] Гітлер Адольф (сапр. Шыкльгрубер; 1899–1945), фашысцкі дыктатар Германіі (1933–1945), нацысцкі ваенны злачынец.

[4] Шамякін Іван Пятровіч (1921–2004), беларускі пісьменнік. Народны пісьменнік БССР (1972). Член-карэспандэнт АН БССР (1980). У 1980–1992 гг. гал. рэдактар выд-ва «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі» (БелЭ»). Герой Сацыялістычнай Працы (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР (1982).

[5] Троцкі Леў Давыдавіч (сапр. Бранштэйн; 1879–1940), расійскі палітычны і дзяржаўны дзеяч. Забіты ў Мексіцы.

[6] «Песня пра Шчорса», муз. М. Блантэра, сл. М. Галоднага. *Блантэр* Матвей Ісакавіч (1903–1990), рускі кампазітар. Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1947). Народны артыст РСФСР (1965). Народны артыст СССР (1975). Герой Сацыялістычнай Працы (1983). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946). *Галодны* Міхаіл (сапр. Эпштэйн Міхаіл Сямёнавіч; 1903–1949), рускі паэт, перакладчык. *Шчорс* Мікалай Аляксандравіч (1895–1919 ), герой Грамадзянскай вайны (1918–1922).

*16 ліпеня, субота*

*п. Ушачы.* У Марыі Рыгораўны[1]: пайла нейкага, трыбушша наварыла, і свежае ёсь; так і святкі́ прашлі; той-ткі пала́таваўся; аднаго заўчора (індычка) шашок цягнуў; у мяне такія хазяйствы; і вокны абстроіў, і вушакі прыманцярыў; точна Васількі зубы ашчэраны, і ў Бутавым сяле сын, і ў Ліпаўках сын.

Быкаў: «У Селішчанскай пушчы прывязвалі да елей, аўчаркі, кулямётныя чэргі, птушкі вочы [павыдзеўбалі], і бялеюць косці».

У Доме прыстарэлых пабыла група пісьменнікаў; абед, чаёк чабаровы, блінчыкі ў масле плавалі. Бабка падыходзіць:

— Вы радзей да нас прыязджайце.

— Чаму?

— Пасля вас нас цэлы тыдзень пярловай кашай кормяць.

Ушаччына — беларуская Саксонія.

Сураўцаў[2] Юры Іванавіч [Масква, тэл.] 280–08–01.

*22 ліпеня, пятніца*

*Валянціну Тарасу[3]*
*(на «Амплітудзе смеласці»)*

Абтрасу з куста расу
Як дукаты ўдзякі
Валянціну Тарасу,
Хай маўчаць сабакі
Зайздрасці і хцівасці,
Хай сяброўству здзівяцца!
Год з паўсотні мару сам
Парасаваць з Тарасам!

*27 ліпеня, серада*

*Анатолю Анікейчыку*

Усявышні творыць нетрывала,
Анатоль увішны — на вякі.

---

[1] Трафімава Марыя Рыгораўна (1902–1997), стрыечная сястра па бацьку.

[2] Сураўцаў Юрый Іванавіч (1931–2001), рускі крытык, літаратуразнавец.

[3] Тарас Валянцін Яфімавіч (1930–2009), беларускі і рускі паэт, празаік, перакладчык, кінасцэнарыст.

Вечныя Гастэла[1] і Купала
З цвёрдае маэстравай рукі.

* * *

Дагэтуль набожна гляджу на сухар
Вачыма голаду незабытага,
Як звера гадамі ўва мне не забітага.
Гляджу на сухар,
Як на грошы ліхвяр.

Калі чалавек сухар. Максімасць.
«Ішоў сабака цераз моста…»[2]

* * *

Дзе карані твае,
Адкуль твой род пачаўся,
Адкуль прыйшоў,
Ідзе куды?
Пытанне паўстае
Балючае па часе,
Пытаючы гады
На могілках старых.

* * *

На даніну з садоў і гародаў
Падняўшы тарыф,
Мы перавозім у горад вёску
Авоськамі або вяʼзкамі
І па-маладому ахвотна
Надзяляем старых
Правамі трывалымі
І канкрэтнымі абавязкамі.

*2 жніўня, аўторак*

Пімен [Панчанка]: «Больш пісаць не буду, нацыі няма, каму пісаць. Нельга кепскія кнігі ставіць ля добрых — валяцца.

Паўпацелыя чаркі; яны абрýшаны (смаленцы)».

*Пімену Панчанку*

Як плотка плыткая са спінінга
У вопытнага рыбака,

[1] Гастэла Мікалай Францавіч (1907–1941), беларускі лётчык. Герой Савецкага Саюза (1941).
[2] Гл.: Ішоў сабака цераз мост (2.08.83) // Індыкала-кудыкала. Мінск, 1986. С. 11.

Ніколі рыфма ў мэтра Пімена
Ані зрывалася з радка.
І ў акіянскай глыбіні
Нырюць думак акуні.

*1983*

*4 жніўня, чацвер*

*Даатамная ідылія*

Змрок
дзьмухаўцоў газоўкі
задзьмухвае.
Луг адчувае спіною цемру.
Дзеліцца цішай радасць са скрухаю,
І спавядаецца цела целу.

*Трамвай, Зялёны Луг*

*

Метрабудаўцы —
Нетрабудаўцы,
Будзяць нетры, дзе спяць вякі.

Уладзімір Конан[1], 48–49–77 хат., Лола[2], 421–37–09 (Масква). Гришанович[3] Валерий Николаевич, 29–37–33 раб., 20–42–34 дом.

[Накід верша:] Кобра ў торбе[4]. На нябеснай кватэры веснавой гром перацягвае мэблю.

*7 жніўня, нядзеля*

*п. Ушачы.* Мітынг на «Прарыве»[5]. Малады лётчык з Мурманска. Сустрэча з жывымі помнікамі.

[1] Конан Уладзімір Міхайлавіч (1934–2011), беларускі філосаф і літаратуразнавец. У 1964–1990 гг. навуковы, вядучы супрацоўнік, заг. сектара эстэтыкі і сацыяльнай псіхалогіі Інстытута філасофіі і права АН БССР. З 1990 г. заг. аддзела Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. Доктар філасофскіх навук (1982). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1984).

[2] Званарова Лола Уткіраўна (н. 1957), аспірантка. Жонка У. Конана. Рускі літаратуразнавец, гісторык, крытык, мастацтвазнавец. Доктар гістарычных навук.

[3] Грышановіч Валерый Мікалаевіч (1947–2007), беларускі паэт. У 1983–1987 гг. інструктар сектара газет і часопісаў ЦК КПБ, у 1987–1993 гг. дырэктар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[4] Барадулін Р. Кобра ў торбе. Мінск: «Юнацтва», 1990.

[5] «Прарыў» (1974) — мемарыяльны комплекс у гонар легендарнага прарыву нямецкай блакады партызанамі ў красавіку — маі 1944 г. (Ушацкі р-н Віцебскай вобл.) Скульптар А. Анікейчык, архітэктары Ю. Градаў, Л. Левін. *Градаў* Юрый Міхайлавіч (н. 1934), беларускі

* Яблыкі прынеслі пленныя [?] Лабанка. Броўкава крынічка. Мост партызаны падпалілі, браты Армонікі. Паліцэйскія спалі (у кожным вакне партызан). Томчанка П. А., [ордэны] Кастрычніцкай [рэвалюцыі], Суворава; акружэнец, добры чалавек. Спачатку папом [быў], а потым партызан. Вярнуўся. «А гэта ж наш бацюшка!»

11.30 — «Прарыў». Фактычна прарыў ішоў з 1-га. Лабанок пра Радзіонава[1]: «Баязлівы быў. Загад быў захаваць двух, але афіцэр, блізкі да Радзіонава, застрэліў [неразб. 1]. Ордэн далі, каб заахвоціць пераходзіць назад. Жонка Радзіонава болей агітавала. Жонка лётчыка, патрыётка. Тры кулі ў жывот з нямецкага аўтамата, быццам перакуліліся і выпадкова.

Калі адліваўся помнік, фігуры «Прарыва», ленінградцы без плана [узялі], усё адкінулі.

450 км сувязі [у партызан], самадзейнасць, вершы друкавалі, карцінная галерэя была.

Помач арміі, Баграмян[2], Курасаў[3] па нашай просьбе наносілі ўдар па скапленні [нямецкай тэхнікі]. Пад крыламі зрабілі кантэйнеры.

Самы малады Аляксандр Мамкін[4], 45 рэйсаў [зрабіў]. Размова з Мамкінын апошняя:

— Дзе раненыя?

— Сур’ёзна раненых няма, але ёсць 200 дзяцей дзетдомаўскіх, якіх немцы хацелі зрабіць донарамі.

---

архітэктар. Заслужаны архітэктар Беларусі. Лаўрэат Ленінскай прэміі (1970). *Левін* Леанід Мендзелевіч (1936–2014), беларускі архітэктар. Заслужаны архітэктар Беларусі. Лаўрэат Ленінскай прэміі (1970), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, Дзяржаўнай прэміі РБ (2003, 2011).

[1] Гіль-Радзіонаў Уладзімір Уладзіміравіч (1906–1944). Вайсковец, раненым трапіў у палон. З 1942 г. камандзір «дружыны», палка, брыгады «Рускай нацыянальнай народнай арміі», сфарміраванай гітлераўцамі з ваеннапалонных. 16 жн. 1943 г. у поўным складзе перайшлі да партызан; атрымалі назву 1-я Антыфашысцкая партызанская брыгада.

[2] Баграмян Іван Хрыстафоравіч (1897–1982), савецкі военачальнік. Маршал Савецкага Саюза (1955). Герой Савецкага Саюза (1944, 1977).

[3] Курасаў Уладзімір Васільевіч (1897–1973), савецкі военачальнік, генерал арміі (1948). Прафесар (1963). Герой Савецкага Саюза (1965). У Вялікую Айчынную вайну нач. штаба Калінінскага і 1-га Прыбалтыйскага франтоў.

[4] Мамкін Аляксандр Пятровіч, гвардыі лейтэнант, лётчык 105-га гвардыі авіяпалка ГВФ [гражданского воздушного флота] у ноч з 10 на 11 красавіка 1944 г. вывез сёмым рэйсам з партызанскай зоны дзяцей Полацкага дзіцячага дома, якіх намерваліся зрабіць донарамі для раненых фашыстаў. На лініі фронта самалёт быў абстраляны. Лётчык гарэў зажыва, але змог пасадзіць самалёт на лёд возера паблізу г. Вележа. Пахаваны ў в. Маклок, а ў 1960-х гг. перапахаваны ў Вележы, у брацкай магіле мемарыяла «Лідова гара». Гл.: «Воля партызанская канкрэтная…» [у рабочым блакноце «Мамкінава балада»] (30.01.82, Каралішчавічы) // Р. Барадулін, В. Ждановіч. Вяртанне: Альбом. Мінск, 1988. С. 127. *Ждановіч* Валянцін Ісакавіч (1938–1992), беларускі журналіст і фотамастак.

105-ты авіяполк вялікую дапамогу [аказаў]. 1-шы Прыбалтыйскі фронт блізка.

У першыя дні вайны Волкаў, Федура [?], браты Хахелі [?] з супрацьтанкавых ружжаў. «Віцебск. Барацьба і гібель 3-яй арміі»[1].

Вечарам 4 мая ўсе сілы для штурму [сабралі].

Стараўся штоноч [на] новую яўку [пераходзіць], падполле, не затрымлівацца [на адным месцы]. Завея. Паяўляецца [? на] кані. «Ты чый?» — «Свой. У пісталеце 3 патроны», — два самарцы.

«На гэтым месцы 12 верасня 1942 г. партызанская брыгада «Дубава» пад кіраўніцтвам камісара Лабанка разграміла калону фашыстаў».

Стрэліў, а тут калона, за хлеў і ў лес, завея сляды [занесла]. [Неразб. палова сказа] зверху з макаронам (перахапілі потым два вагона). У лазні абсох крыху. Бочку дубовую [неразб. 1] дзвярыну — не пераплыў.

Тут, дзе калона немцаў: «Не страляйце, мы свае — узбекі». Заўсёды рабіў далей, а сам наперадзе ў засадзе, каб паказаць, што інструктары і сакратары ваююць. Сам павёў, гэта каля Бароўкі. [Далей запісы некалькіх эпізодаў прапушчаны як малачытэльныя.]

*Валянцін Тарас*

Як двухбаковавостры меч,
Духоўна-спрытны Тарас
Перакладзе любую рэч —
Лукшу[2], Маркеса[3] ці Бондар[4],
Нават сам сябе свабодна.

[Адрас:] Пікман 64–21–09, [Мінск], Ленінск пр-кт, 94, кв. 21.

*** Ушачы. Камбінат камунальных прадпрыемстваў, Федарэнку Міхаілу Іосіфавічу 185 руб.

Да 40-годдзя вызвалення Беларусі паказаць масавы гераізм Савецкай Арміі і беларускіх партызан, а таксама памятныя мясціны баявой славы, знаёмства з імі замежных турыстаў. 4 стар. машынапісу, што дало 40-годдзе рэспубліцы, пра жыццё, сённяшні дзень, дружба народаў.

---

[1] Heildkämper O. Witebsk. Kampf und Untergang der 3 Panzerarmee. Heidelberg, 1956 [1954]. [Хайдкемпер О. Віцебск. Барацьба і гібель 3-й танкавай арміі. Гейдельберг, 1954.]

[2] Лукша Валянцін Антонавіч (1937–2012), беларускі паэт, драматург. У 1980–1998 гг. дырэктар выд-ва «Юнацтва». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя П. Броўкі (1994), Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).

[3] Маркес Г. Осень патриарха. М.: «Художественная литература», 1978. Пер. В. Тараса, К. Шермана. *Гарсія Маркес* Габрыель (Габрыель Хасэ дэ ля Канкордзія; 1928–2014), калумбійскі празаік. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1982).

[4] Бондар Таіса Мікалаеўна (1945–2005), беларуская паэтэса, празаік, перакладчык. У 1981–1985 гг. заг. аддзела культуры, адказны сакратар, у 1985–1991 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Беларусь».

*18 жніўня, чацвер*

Што доўг з працэнтам, што доўг свой з гакам аддае адплата[1].

Сыход XX стагоддзя.
Рэтра.
Варта
Да зямлі,
Да вады,
Да паветра…

*25 жніўня, чацвер*

*Генадзю Шупеньку[2]*

Серафімаў сын Генадзь,
Шэфе даражэнькі,
На зямлі не адшукаць
Лепшых ад Шупенькі
Крытыкаў, кіраўнікоў —
Вечных дум рухавікоў.

*4 верасня, нядзеля*

*Пімену Панчанку*
*(на «Амплітудзе смеласці»)*

Хоць з даўнасці перапалачаны
Гарод паэзіі, аднак
На непаўторных лехах Панчанкі
Гарыць Бягомельшчыны мак,
Ды так, што светла ўсім наўкол,
Надзейны шчырасці падзол.

*20 верасня, аўторак*

39–40–86 [час.] «Мастацтва [Беларусі]», Валянціна Андрэеўна Трыгубовіч[3], 3–8 [старонак] пра Рагалевіча[4].

*Міхасю Рагалевічу*

Наша мастацтва, доўга галеючы,
Цягнучы сум, як за хвост парася,

---

[1] Гл.: «А трэба так…» (19.08.83; верш з думкай пра С. Г.) // Маўчанне перуна. С. 142.

[2] Шупенька Генадзь Серафімавіч (1936–2010), беларускі крытык і літаратуразнавец. У 1982–1996 гг. заг. рэдакцыі серыйных выданняў выд-ва «Мастацкая літаратура».

[3] Трыгубовіч Валянціна Андрэеўна (н. 1947), беларускі журналіст, мастацтвазнавец, палітычны дзеяч. У 1983–2002 гг. заг. аддзела час. «Мастацтва Беларусі».

[4] Рагалевіч Міхаіл Вікенцьевіч (1932–2010), беларускі мастак.

Зрэшты выдыхнула Рагалевіча,
Сына Вікенція, Міхася.

Буслы на слупах слухаюць, як тэлефаністы, куды несці дзяцей; дэмаграфічны выбух.

Аб’едкі дазвалялі даядаць
З таго стала, дзе грызліся разлады,
Але памылкі, як з-пад пліт трава,
Ўбіваліся ў высокі стыль дзяржавы,
І мова
З вякамі, як забытая ўдава,
Звыкала да чужога дзеяслова.

*** У 50-я гады і ў канцы 50-х канцоўка верша, як табурэцік для павешанага. Выбіваецца з-пад ног — і чытач баўтаецца ў пятлі.

Наіўны лук з даверлівай стралою,
Даўно з уліку знятыя яны.
Як застарэлаю для бою зброю
Іх перадаў Амуру бог вайны.
Ужо сваё адкашлялі гарматы…

Планета наша яблыкам разладу
Быць не павінна ні ў чыіх руках.

І*стэрыя*музыка. *Імгла*тэрапія[1]. Адлюдны нейкі; устрашэў.

*16 кастрычніка, нядзеля*

Наша бабіна лета ў сярэдзіне кастрычніка, пазней на тыдні за рускі.

Твардоўскі: «Цаніць чалавека як селяніна, прыроду як сілу».

З Мішэлем [Стральцовым задума]. «Кніга дружбы» — проза, вершы, экспромт, Прыбалтыка, Азія, Усход, партрэт сяброў, характар культуры, застолле, вяселле, дарога, прывал, самалёт, на валах, начлег, пра пераклады, эпіграмы, партрэты людзей, сяброў, рэчаў (студня, клець, дрэва ля кляштара), нешта з песняў праз рэаліі, Германаў[2], Куляшоў, Броўка, пра шапку ці пра аборы.

---

[1] Гл.: Імглатэрапія (20.02.86) // Мудрэц са ступаю. Мінск, 1988. С. 104.

[2] Германаў Андрэй Дзімітраў (1932–1981), балгарскі паэт і перакладчык. Заслужаны дзеяч культуры Балгарыі (1977).

*21 кастрычніка, пятніца*

*Міхасю Пушкарову*[1]

Любаму Міхасю Пушкарову —
Сябру бесклапотна-светлых дзён.
Хай жыцця апошнюю палову
Нам паспагадае шчодры плён!

* * *

Уладазадая дзяржава
Рассядзецца,
Дзе ёй зручней,
Дзе ёй мякчэй,
Каб злева, справа
Ці груба кужучы,
Срачней.

*[1983]*

*23 кастрычніка, нядзеля*

*Карласу Шэрману*

Асвоіўшы пласты вякоў,
Не трэба соннай мухай соўгацца.
Свяці — і ніякіх цвікоў, —
Вось лозунг Карласа і сонца.
P. S.
Пакуль астыне кіпяцільнік,
Што круціць кіпецень радкоў,
Хай Карлас,
Так, як і свяцільнік…

*15 лістапада, аўторак*

Первая конференция дальневосточных писателей в сентябре 1949 года.

* 1-я пасляваенная нарада пісьменнікаў Далёкага Усходу. Твардоўскі, Луконін[2], Э. Казакевіч[3]. Старшына першай стацці Артур Вольскі[4]: «Трэ-

[1] Пушкароў Міхаіл, беларускі оперны спявак.

[2] Луконін Міхаіл Кузьміч (1918–1976), рускі паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1949, 1973).

[3] Казакевіч Эмануіл Генрыхавіч (1913–1962), рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1948, 1950).

[4] Вольскі Артур Вітальевіч (1924–2005), беларускі паэт, драматург, перакладчык. У 1981–1984 гг. ст. рэдактар выд-ва «Юнацтва».

ба дабірацца з базы флатыліі да Хабараўска. На папутных, хвіліны на 2 спазніўся. Дубовы стол на ўвесь пакой. Уваходжу ў форме, медалі падзынкваюць на грудзях. І адразу пагляд Твардоўскага: «Вось з цябе, старшына, і пачнем».

Разгубіўся. Падыходжу як школьнік. (Твардоўскі і Луконін.) Каб прачытаў вершы. На рускай мове з зарыфмаванай марской тэрміналогіяй:

Словно чайка на просторе,
Белый парус над водой,
И весёлый звон шкаторин
Слился с песней боевой.

Твардоўскі з усмешкай малой слухаў іранічна. Адзін больш падабаўся (пра Амур), прачытаў 3 вершы.

— А гавораць, старшына, ты і на беларускай пішаш, — (нехта, відаць, з тамашніх паэтаў сказаў).

— Пішу.

— Давай чытай па-беларуску.

Прачытаў два вершы (пра ранеты адзін і потым у «Полымі» быў надрукаваны).

На стыках стукоча, грукоча цягнік,
А хлопцы ў матроскай форме
Глядзяць, як шлях асвятляюць агні
У будучае семафорамі.

Твардоўскі ацэнак не даваў, але ўважліва слухаў, пагляд нейкі глыбока-празрысты, глядзіць, здаецца, праз цябе.

— А ці друкаваліся Вашы вершы ў Беларусі?

Сабраўся са словамі і па-беларускі:

— Некаторыя друкаваліся, некаторыя не.

Усіх абвёў паглядам і пераклаў па-руску, і перайшоў да другога: — Чытай раздзелы.

— «Георгій Халялецкі».

Перапыніў:

— Всё от среднего образования.

Душа пад лёдам. Ацэнкі не даў:

— Сядзі і маўчы».

У перапынку ў кулуарах. Прыгожыя дзяўчаты. Убачыў. Артуру:

— А ты, старшына, не валяй дурака, пішы па-беларуску.

Назаўтра пачаў разбіраць «Славное море, священный Байкал…»[1], гаварыў цэлую гадзіну.

«Першую кансультацыю даваў Кузьма Чорны[2]. У Віцебску ставілі «Ірынку». Бацька запрасіў у вучылішча (дырэктар Ахрэмчык[3]), нехта зазірнуў у аўдыторыю:

— Артура да дырэктара.

Сядзіць Мікалай Карлавіч.

Заўтра пасля заняткаў у гасцініцу. Перадаў ад бацькі грошы, прывітанне.

— Чытаў твае вершы ў «Піянеры Беларусі». А што цяпер?

— Насіў у «Віцебскі рабочы». Адзін узялі, астатнія абвінавацілі ў ясеніншчыне. А прачыталі верш «Узор».

— Ну, чытай.

— Знаеш, Алік, што гавораць. Як хочаш напісаць, так і пішы, не слухай, што табе хто гавора, пішы, як табе хочацца.

І пайшоў ад Чорнага акрылены. Вера была, што можна пісаць, як хочаш».

Крытычны дар у гаспадарцы літаратурнай адчувае сябе ўтульна.

Недзе зубраў угадаў. Пакаленне Лось[4], Гаўрука[5], Дракахруста[6].

Кожны абавязаны [напісаць] кніжачку для дзяцей. Першы «Мы са Слаўкам»[7] з дарослых адкрыў дарогу [у час.] «Вясёлку» — адзін з заснавальнікаў. Пра рэцэнзіі, пра сяброў толькі. А мала пра сябе. З Рымай Шаршнёвай[8] у паралельных класах [вучыўся]. Эдзі Сямёнаўна[9] вучыла, Аляксандр Міронаў[10], а Янка Маўр[11] выкладаў геаграфію. Пасля вайны

---

[1] «Славное море, священный Байкал…», руская народная песня, у аснову якой былі пакладзены вершы (1848) Дзмітрыя Паўлавіча Давыдава (1811–1888), пляменніка Дзяніса Васільевіча Давыдава (1784–1839), рускага паэта, героя Айчыннай вайны 1812 г.

[2] Чорны Кузьма (сапр. Раманоўскі Мікалай Карлавіч; 1900–1944), беларускі пісьменнік. Быў рэпрэсаваны. «Ірынка» — п’еса К. Чорнага.

[3] Ахрэмчык Іван Восіпавіч (1903–1971), беларускі мастак, педагог. Прафесар (1964). Народны мастак БССР (1949).

[4] Лось Еўдакія Якаўлеўна (1929–1977), беларуская паэтэса, празаік.

[5] Гаўрук Юрка (Юрый Паўлавіч; 1905–1979), беларускі перакладчык, паэт. Быў рэпрэсаваны.

[6] Дракахруст Аляксандр Абрамавіч (1923–2008), рускі паэт, перакладчык.

[7] Верш А. Вольскага з яго кніжкі «Маленькім сябрам» (Мінск, 1955). Гл.: Шукаць, здзіўляцца і здзіўляць!.. (1983) // Парастак радка, галінка верша. С. 214.

[8] Шаршнёва Рыма Іванаўна (1925–1942), беларуская партызанка і падпольшчыца.

[9] Агняцвет Эдзі (сапр. Каган Эдзі Сямёнаўна; 1913–2000), беларуская паэтэса.

[10] Міронаў Аляксандр Яўгеньевіч (1910–1992), беларускі пісьменнік, перакладчык.

[11] Маўр Янка (сапр. Фёдараў Іван Міхайлавіч; 1883–1971), беларускі пісьменнік, драматург, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1972, пасмяротна).

[зайшоў] у госці да Юзіка Пучынскага[1], а ў яго карціна «Подзвіг Рымы Шаршнёвай».

Твардоўскі вяртаў з выраю, на зямлю [роднай] мовы.

Старшы лейтэнант Дракахруст.

*Аляксандр Дракахруст*

Слава Аляксандру Дракахрусту
Не старалася адкроіць лусту,
Шчодраю была адна вайна —
Усяго адмерыла спаўна.
І Берлін і Порт-Артур павінны
Помніць колісь чорную чупрыну!

*[1984]*

*Эдзі Агняцвет*

У паэзіі першаю лэдзі
Быць стараецца вершамі Эдзі,
А ў запасе зарукаю ўдач
Ёсць цярплівы маленькі чытач!

*[1986]*

*16 лістапада, серада*

Вялюгін: «На вакзальнай плошчы стрэлкі засінелі, а сініцы ў скверы, у садзе, — я ж не з пальца высмактаў».

*** Цюльпаны заспаныя сціснулі пялёсткі, як пальцы ў праваслаўным кшчэнні[2].

*1 снежня, чацвер*

[У. Лабанок:] «Лягчэй ваенную тэму [раскрыць], а партызанская тэма — невычэрпная, і тыя матэрыялы, якія маюцца для гісторыі Беларусі, партызаншчына — яркае святло, што асвятляе Беларусь. Важна ацэнка ваенных. Хачу [паказаць], як Баграмян ацэньваў нашую [барацьбу]. Кніга Баграмяна «Так шли мы к победе»: «Дорогому мне Владимиру Елисеевичу — талантливому вожаку партизанской массы в борьбе против фашистов. На добрую память о былом и никогда не забываемом.

*И. Баграмян. 13 июля 1978 года*».

[1] Пучынскі Юзеф Вульфавіч (1922–2007, ЗША), беларускі графік, мастак.
[2] Гл.: Ясачкі: «Ноч — пасланая небам ісціна...» (7.05.97) // Збор твораў: У 4-х т. Мінск, 1999. Т. 3. С. 331.

«Освобождение Белоруссии», стар. 282. [М.] І. Крылоў[1], маршал Савецкага Саюза: «95-я пехотная дивизия противника, дислоцировавшаяся в районе Бешенковичи — Лепель, больше всего тяготела к Витебской группировке гитлеровцев, но и она тоже была скована борьбой с партизанскими бригадами В. Е. Лобанка и В. В. Мельникова Полоцко-Лепельской зоны. Тем не менее мы должны были позаботиться о том, чтобы в ходе развития наступления западнее Богушевска у нас была возможность упредить удар этих сил противника».

Ва Ушачах выходзіла 6 газет. Выдавала газету кожная брыгада. Прырода — вось што абаранялі».

Партызанскі паэт К. Пацэйка, в. Старынка, Ушацкі раён, 22.03.1944 г. [напісаў] верш, прысвечаны Лабанку, а Лабанок не даў гэты верш у газету.

«5 мая 1975 года выступленне ў апараце ЦК КПСС.

У Маскву [выклікалі] ў 1943 г., сустрэўся з Калініным[2].

— А болей сур'ёзныя аперацыі могуць быць?

— Могуць».

Сіламі партызан узяць Лепель. 6000 партызан, але каб узяць Лепель — [трэба] разбіць Чашнікі. Лабанок распрацоўваў канкрэтна Дзяржплан. Было задзейнічана 17 партызанскіх [брыгад]. 20.X.43 у Лепель зайшлі партызаны. 6 гарнізонаў ў студзені ў 43-м годзе разбілі. Не тое каб ударыць і ўцячы. Дужа зацікавіла. А пад бокам Белавежа. Ушацкая партызанская зона болей, чым Люксембургская дзяржава.

Лабанок прапаноўваў фарсіраваць Заходнюю Дзвіну і за ноч 16 км прайсці і прарваць нямецкі фронт на 25 км (маглі). Не далі ўмацавацца немцам на Заходняй Дзвіне, 60 тыс. немцаў, і трымалі, і ў хвост давалі.

У Бешанковічах атрад «Разгонись да е…сь». Нам аўтамат, а яны піль[?], а дзе аўтамат, лейтэнант п'яніца. Кацёл акружылі, у каго боты — з ног, кажух — з плячэй. Расстралялі. Барацьба з марадзёрствам».

Быкава [аповесць «Знак бяды»] падабалася, як Сцепаніда тал[?]. Пра Быкава, пра людзей на паўшляху.

Ва ўсіх газетах 16-ці брыгад змясцілі гэты верш П. Панчанкі.

6 райкомаў, 6 газет і 16 брыгад — 22 газеты.

---

[1] Крылоў Мікалай Іванавіч (1903–1972), савецкі военачальнік, Маршал Савецкага Саюза (1962). Двойчы Герой СССР (04 і 09.1945). Удзельнік Беларускай аперацыі 1944 г.

[2] Калінін Міхаіл Іванавіч (1875–1946), савецкі грамадскі і партыйны дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1944). У 1938–1946 гг. старшыня Прэзідыума ВС СССР.

*9 снежня, пятніца*

*Анатолю Вялюгіну*

Паэт — юнак і ў шэсцьдзесят
Дапытлівасцю ўедлівы.
Не любіць думка жэсціцца,
Не трызніць дзёрзкасць зэдлямі
Пасаднымі, дубовымі,
Дзе пыха раскашуецца,
А слову верасоваму
Пад крыгалом бушуецца.

Загартаваны ў «Полымі»
Нагрузкамі шалёнымі,
Паэт
радкі таполямі,
Ракетамі зялёнымі
У неба ўдзячнай памяці
Шле з блаславеннем майстравым.

Смялей дружнее памаладзь,
А песня з зорнай кайстраю
Вандруе як абранніца
Вясны душы паэтавай.
Абнашчыўшыся раніцай,
З багатым плёнам летуе.

Ідзе з нялёгкай ношкаю
Няўрымслівасць няўседаю
Бяссонніка-ўсяношніка,
Бунтоўніка, кіношніка, —
Свет — сведка часу —
Ведае!

*13 снежня, аўторак*

Кампаньера Альба Северыні[1]. На сіверах[2]. Сіверыны́. Сіверын — бог сцюжы.

[ДТ «*Каралішчавічы».* Семінар маладых пісьменнікаў.]

*Васіль Быкаў*: «Літаратура — зменлівая справа, цякучая. Спачатку шум, а пасля — наадварот. Бывае, каб творчасць аўтара заняла пэўнае месца, трэба, каб яго не стала (Булгакаў[3]).

---

[1] Северыні Альба (н. 1926), італьянскі паэт.

[2] Гл.: На сівярах ([1986]) // Маўчанне перуна. С. 230.

[3] Булгакаў Міхаіл Афанасьевіч (1891–1940), рускі пісьменнік.

Пачаў новую аповесць, бо «Знак бяды» да ладу не даведзена і не выходзіць, бо яна на грані адтаржэння, але не адторгнута. Пасля як ВААП [УААП[1]] у нас арганізавана, [з’явілася] зацікаўленасць. Думаю, што ёсць аўтары, якія сталі бліжэй да сучаснасці, хай і пішуць раман.

Звычайна друкаваўся ў «Маладосці». Што для літаратара самае цяжкое? Не надрукуюць твор. Адхілены ў выдавецтвах, часопісах, а калі твор таленавіты, калі ў ім нешта ёсць, ён з’явіцца на старонках друку».

*Іван Пятровіч [Шамякін]*: «Я рады, што мяне чыталі. Пры ўсіх адхіленнях «Глыбокую плынь», выйшла праз год. Цяпер гэтага няма. Народ хацеў чытаць. З Германіі прывёз прыёмнічак, але ён хутка сапсаваўся. Па гарачых слядах быў напісаны раман. У век радыё і тэле толькі так чыталася «Сэрца на далоні». З тэле і радыё, кіно — паток масавай культуры, які захлынуў не толькі на Захад. Празаіку трэба даць сюжэт, каб прымусіць чытаць. Так як сюжэт робіцца ў Васіля Быкава ці ў Бондарава[2].

У нас слаба развіваецца дэтэктыў і прыгодніцкі жанр. Сярод вас большасць паэтаў, гэта і хораша, і не вельмі. Хацелася б, каб [звярталіся] да сур’ёзных жанраў як проза і драматургія. Каб паставіць праблемы. Вы яшчэ не дужа адарваныя ад жыцця, што ў нас адбываецца ў літаратуры.

Нядрэнна напісалі пра вайну. Творамі пра вайну [выйшлі] да ўсесаюзнага чытача, а таксама да сусветнага чытача.

Я тэарэтыкам не быў, я болей быў прапагандыстам, рэзка не крытыкаваў ў сілу свайго мяккага характару, і сама пасада вымушала падтрымліваць добрыя адносіны з усімі. З СП, ЦК. І чытачы могуць патрабаваць як з добрага калгаса ці прадпрыемства. Актор, што вырас у Сібіры, не можа перадаць беларускую атмасферу».

*Гайцюкевіч*: «Чаму Вы не напісалі ніводнага прыгодніцкага рамана?»

*[Шамякін]*: «Я імкнуўся пабудаваць сюжэт. Працую на рэальным матэрыяле. Але ёсць элемент вельмі вострага сюжэта. Цягнула да рэальных сур’ёзных рэчаў, пісаў пра вайну. Важна таксама гісторыя, хоць невялікі час яшчэ прайшоў. Раман быў мой грамадзянскі водгук на ўсё, што перажываецца цяпер, «Петраград — Брэст». Пісаць успаміны рэч сумная.

Макаёнак[3], па сутнасці, сам ставіў свае п’есы. Я на рэпетыцыі не хаджу. І на здымкі фільмаў выязджаў разы 2 і [неразб. 2]».

*Васіль Быкаў*: «Папаўненне літаратуры прапускаецца праз «Каралішчавічы». Тут многія былі, і я гадоў 25 назад сярод самых пачынаючых [быў]. Які б ні быў талент таго, хто ўваходзіў у літаратуру, але важна са-

[1] УААП — Усесаюзнае агенцтва па аўтарскіх правах.

[2] Бондараў Юрый Васільевіч (н. 1924), рускі пісьменнік. Герой Сацыялістычнай Працы (1984). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1977, 1983).

[3] Макаёнак Андрэй Ягоравіч (1920–1982), беларускі драматург. Народны пісьменнік БССР (1977). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1962), Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1974).

мае дачыненне да літкухні. Твардоўскі [казаў]: «Для мастацтва патрэбна жыццё, але яшчэ і мастацтва».

Як кожная творчасць, літаратура мае таксама сваю тэхналогію. Гэтыя семінары далучаюць да тэхналогіі літаратуры. З вопыту сустрэч рэдка хто пытае пра жыццё, бо лічаць, што ведае яго там, дзе жыве. Болей цікавіць тэхналогія. Думаюць — важней: як пісаць — удзень ці ўночы, на якой паперы, якой ручкай ці адразу на машынцы, бо гандаль цяпер забяспечвае ўсім дастаткова. Але не гэта важна — са свайго вопыту — у мяне ён чыста празаічны — нараджэнне літтвора, нараджаецца глыбока інтымна, недзе ў падкорцы чалавечага мозгу. Пасля першага штуршка ідзе далейшае развіццё. Ведаю па сабе, калі твор цалкам нараджаецца ад занатоўкі на паперы да апошняга слова. Не ведаю, як раманістам, але мне важна. Тады лёгка пішацца, не трэба выкідваць, дадаваць. Немагчыма ўсё трымаць у сваім уяўленні дэтальна, многае [дадаецца] ў ходзе працы. Але ідэя, асабліва характары, павінны быць гатовыя да пачатку працы. Змены не пажадана [уносіць].

У рамане сам характар чалавечы па гадах мяняецца, а што тычыць аповесці, важна характар бачыць і да канца правесці. Заканамернасці цяжка вылучыць. Бывае, характар мяняецца на працягу аднаго дня, але гэта трэба абгрунтаваць. Важна і адкрыццё характара, гэта цяжка, але літаратура павінна імкнуцца да гэтага. Звычайна пішу, калі ёсць нешта ў межах задуманага, што гатова і можна выкласці на паперы. Веру — ні дня без радка — малаэфектыўна. Кожны пісьменны чалавек можа пісаць штодзень, але не гэта важна. Думаю, у канцы дня ў мяне найлепш пішацца. Калі віднее, дзень з мітуснёй, раніцу аддаць справе, якой ёсць хлеб. У мяне гэта з даўняй пары. Вечар, ноч належаць чалавеку — усё ягонае. Важнае — цішыня. Вядома, калі ў туалеце пішуць няблага, знайсці ціхі куток. Не так зрокавыя вобразы вырываюць з атмасферы, куды пагружаецца пісьменнік, як гукавыя. Паэты могуць і ў самалётах нізкі пісаць. Калі пачынаў, шукаў мясціны, ездзіў, і нічога не атрымлівалася. І зразумеў — павінна пісаць у сваім кутку, у сваім мерлагу, у звычным. Важна, каб быў свой стол, свой абмыты кут, куточак, дзе ўсё адбываецца.

Колькі? Не мае значэння. Калі натхненне, думкі, калі ўсё падрыхтавана ў падкорцы для перанясення на паперу. Але не больш 4–5 стронак, можа, і абзац. Перапынкі справа непажаданая, але непазбежная. Пераход як найменшы. Інерцыя, відаць, іграе сваю ролю, і гэта вельмі важна. Трэба назапашванне, падрыхтоўка. У часе перапынку і новы памер, і новая сістэма, але можа змарнець, памерці. Усё трэба ў сваю пару. Якая пара? У Якожнага па-рознаму.

Вельмі важна ў сваёй галіне працаваць, свая галіна па-рознаму зразумета. Рэалізаваць агульначалавечае можна толькі на нейкім канкрэтным

матэрыяле. Няма агульнага кахання. Але не тэхналогію [апісваць], як заточваць разцы, гэта вузка, незразумела і не кранае чытача. Хто не мае канкрэтнага вопыту, карыстацца агульным жыццём — магазін, чарга, цырульня, — з аднаго боку быт універсальны, даступны, але і ўязвімы, калі яго многа, калі пачынаецца педаліраванне на гэтыя дэталі, зніжаецца вартасць усяго твору. Гэтага не расказваю чытачам, а вам карысна.

Я працаваў у газеце. Многія любяць пісаць на газетнай паперы. Уладзімір Караткевіч — пер'явой наліўной ручкай і на лепшай паперы. Але цяпер прадаюцца лісты мелаванай паперы. Разразаў. Маленькімі літарамі [пісаў] прозу. Думка сцелецца.

Вельмі важна ў прозе жыццёвы вопыт. Не ў сэнсе — жыць у вёсцы і займацца сельскай гаспадаркай. Жыццёвы вопыт — чыста духоўны вопыт жыцця. Чалавеку, у якога складваецца ўсё лёгка ў жыцці, нават з талентам, няма чаго рабіць у літаратуры. Твардоўскі [спытаў] ў Еўтушэнкі:

— У вас хто паміраў?

— Не.

— Гэта кепска, што мала жыццёвага вопыту.

У традыцыях нашай літаратуры народныя пакуты і прычаснасць аўтара да гэтых пакут. Купала, Бурачок[1]. Тое, дзеля чаго яны пачыналі, было перажыванне народных пакут, яго драм. Паэзія робіцца эгацэнтрычнасцю. Гэта не блага. Але асабістыя пакуты, не далучаныя да лёсу народа, не могуць быць паўнацэннымі. І гэта адбіваецца [на творчасці]. Не ўсе надзеленыя ўменнем бачыць у жыцці народа, што народ сам не ўбачыў. А літаратар павінен гэта ўмець, гэта найгалоўная місія літаратуры. Ну вось некалькі думак урасплох, што хацеў сказаць».

— *Ці выходзяць героі з-пад кантролю?*

— Яшчэ Пушкін з Тацянай [Ларынай гэта адчуў]. У маёй практыцы адхіленняў не было. Я вытрымліваў вобраз, які абіраў напачатку, і гэты характар дзейнічаў пад маёй уладай.

— *У «Знаку бяды» ўзрослае моўнае багацце.*

— Слова не самамэта. Яна сродак. У мяне розныя праблемы. Калі пісаў вайсковы [твор], то ўсе [гавораць] па-руску, вайсковая тэрміналогія не знаходзіла эквівалентаў. Паколькі жыццё ў «Знаку бяды» (на мяжы Лепельшчыны і Ушаччыны), лёгка было карыстацца тамашняй мовай, тамашнім дыялектам. Усё было на мове, якая там прынята. Тут вялікія цяжкасці. У гарадах трэба ствараць нанова мову, хто піша на гарадскую тэму, хоць гэта бывае рэдка.

— *Калі па-руску ў Беларусі — на мове герояў?*

[1] Багушэвіч Францішак Бенядыкт (псеўд. Мацей Бурачок; 1840–1900), беларускі паэт, празаік, публіцыст, перакладчык.

— Гэта ў мове горада і натуральна. Гэта вызначае меру, каб не апынуцца на мяжы разбурэння беларускай літаратурнай мовы. У нас аўтары [карыстаюцца] толькі мясцовай гаворкай. У нас ў Беларусі ў любой вёсцы можна нахапаць колькі хочаш. Але зноў жа — мера [патрэбна]. Аўтар над мовай, як жывадзёр, — перспектыва захавання тады, калі мова развіваецца, калі народ карыстаецца ёю. У нас многа непажаданага. Некаторыя рэгіёны пераходзяць на сумесь, а пасля на іншую [мову]. Ёсць рух. Шмат кніг на мове. Прагнозы рэдка збываюцца, гісторыя мае сваю ходу, і ў яе пранікнуць цяжка.

— *Ці ўплывае на вашую творчасць філасофія?*

— У кожнага твора ёсць філасофія. Калі нават і не выкладзеная. Экзістэнцыялізм спасцігаў на канкрэтных творах. Не прызнаючы пастулатаў, вымушаны імі карыстацца ў мастацтве. Сартр[1], Камю — выдатныя рэчы. Твардоўскі высока [ціаніў] «Чуму» Камю.

Менш чытаю маладой беларускай прозы, гэта мой недахоп, і ў ім я вінюся. Але ўзровень культурнасці, адукацыі значна падняўся, далучаны да сусветнай культуры, больш разумення, хоць арэал роднай мовы змяншаецца.

Старэйшыя пакаленні хоць з вопытам, яны даўно адарваліся ад сацыяльнасці, цяжка нешта важнае падняць на аг[ульным]. Але ёсць недахопы. Не хапае смеласці. Тады, калі ёсць, — менш майстэрства, але болей смеласці. Не толькі аўтары вінаваты, тут і агульная атмасфера. Бялінскі[2] [пісаў]: «Сацыяльнасць альбо смерць». Дамагацца сацыяльнасці. Пра каханне шмат напісана, па форме кожны раз сваё, а па сутнасці мала. У сацыяльнасці маладыя бліжэй. Сацыяльнасць у шырокім сэнсе. Пачаткоўцам болей.

Экранізацыя — гэта іншыя творы. Творы іншага мастацтва. Кіно нейкім чынам паразітуе на літаратуры, каб займацца сваім, а бегае па вярхах літаратуры, каб хапала. Экранізацыя пра тое ж, толькі іншай мовай, не лепшы прыклад з літаратурнай мовы на мову кіно. Важна, каб стваралі на сваёй мове літаратуры. Рабіць гэта як можна лепш. Можа, страчаны час, упушчаны момант, а можа, ён яшчэ не настаў. Кожна аўтар павінен пакласціся на ўласны вопыт.

*** Пімен Панчанка званіў наконт літкіраўнікоў нашых. Фраза: «Трэба, каб была *душэўная далікатнасць*».

[Адрас чужой рукой:] Київ-53, провулок Нестерівський, 4. Гуртожитск ВПШ при ЦК Компартії України. Дригейко Вячеслав. Книги і словник. Чабаненку Алёна на МТС.

---

[1] Сартр Жан Поль (1905–1980), французскі пісьменнік, публіцыст, філосаф-экзістэнцыяліст.

[2] Бялінскі Вісарыён Грыгор’евіч (1811–1848), рускі крытык.

*17 снежня, субота*

А. Вялюгін: «Хопіць гаварыць пра мяне, а то магу патануць у салаце славы».

*21 снежня, серада*

Новы год! Новы снег, новы лёд.
Сугалоссе, сузор'е, суполле.
Глухату, марнату навылёт
Працінай, думкі ўзлёт!
Новы ход,
Першы след на няходжаным полі.
Небасхіле, трымайся, стары,
На буграх мазалёў,
На магілах —
Не на дзюбах ракет,
Паўтары
Радасць грому і яснасць зары,
Развініся нясхілена ў крылах.
Разбірае гады гараскоп:
Год Канягі, і Пеўня, і Мышы.
Кожны новы, нясі горы коп,
Хай спачне далакоп,
Долекоп,
Святкавацьме
Год згоды і цішы!

*24 снежня, субота*

*Івану Драчу*[1]
*(на «Амплітудзе смеласці»)*

Зямной пашане даручу
У пояс кланяцца Драчу
І дзякаваць, што ён такі.
З ім будуць вечныя вякі!

[1] Драч Іван Фёдаравіч (н. 1936), украінскі паэт, крытык, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі (1976), Дзяржаўнай прэміі СССР (1983). Герой Украіны (2006).

*Вячаславу Адамчыку*[1]
*(на «Амплітудзе смеласці»)*

Без потаек —
Як ёсць увесь —
Ты ў слове,
Ў рупнай працы,
Пане Чэсь,
Шаноўны Вячаславе.

*25 снежня, нядзеля*
«Зімародак яшчэ не з'явіўся на свет» (А. Вялюгін).

*29 снежня, чацвер*
Уладзімір Караткевіч (па тэлефоне): «У цябе — ты злы, але не такі, як Вялюгін. Мы не хлопчыкі на пабягушках у яго» (у Вялюгіна).

*31 снежня, субота*

*Пімену Панчанку пад 1984 год*

Ты, родная паэзія,
Яшчэ не ўшчэнт зжалезіла.
Ты і ў бетоне росная,
Яшчэ дачка — не падчарка,
Яшчэ пакуль што розная.
Бунтоўніна,
Цярпімена
Жыве ў табе ад Пімена,
Ад праўдасека Панчанкі.

*[Снежань]*

*Адаму Мальдзісу*[2]

Ты старасці скажы:
— Мадам,
Я малады,
Бо я — Адам,

---

[1] Адамчык Вячаслаў Уладзіміравіч (1933–2001), беларускі пісьменнік. У 1982–1993 гг. гал. рэдактар час. «Бярозка». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1980), Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).
[2] Мальдзіс Адам Восіпавіч (н. 1932), беларускі пісьменнік, вучоны-філолаг. У 1981–1991 гг. заг. аддзела беларускай дакастрычніцкай літаратуры Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР. Доктар філалагічных навук (1987). Прафесар (1990). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1980).

З мяне пачаўся род людскі,
Я спаконвечны, як вякі.
Я малады, вякі старыя.
Са мною любая Марыя.

*Міхасю Стральцову*

Ёсць сузор'е Стральца,
А яшчэ ёсць сузор'е Стральцова.
Хай пад ім
                імем Сына, Айца
Мовіць з вечнасцю родная мова.

*Івану Шамякіну*

Гамяльцы — малайцы!
Гэта племя старэннікаў —
Воля цвёрдая,
Сэрца дружбістасцю мяккае.
Хай расце аддзяленне Саюза пісьменнікаў
На кватэры руплівай Івана Шамякіна.

## 1984

*1 студзеня, нядзеля*

У Караткевіча. «Патрэбна інтэнсіўная работа думкі. Стамляемся, але гэта добрая стома».

734012, Душанбе, вул. Шапкіна, 116, корп. 2, кв. 7. Дзямідчык[1] Уладзімір Паўлавіч, Ларыса Мікалаеўна. Знаўца персідскай мовы і арабскай і самы буйны спецыяліст па каліграфіі (слова можна так напісаць, што яно ўяўляе карціну), у арнаменце, у шрыфце.

Фота выкладчыкаў Кіеўскага ўніверсітэта: «Любимому ученику от стареющей учительницы».

*[12 студзеня, чацвер]*

Еду да Драча на стары Новы год. У Мінску ў купэ. Вялікія чамаданы. Знаёмае аблічча, па-польску [размаўляе]. Раптам да мяне па-беларуску. Лучыц, пані Ева, аспірантка і ўраджэнка Варшавы. Дастае картатэку, пытаецца ў мяне, чаму ўжываю дзеяслоў панав*я*дзе, а не панав*е*дзе?

Нідзе, як у Беларусі, так гасцінна не прымаюць (а аб’ехала Еўропу). Лучыц, як прыехала, — хаты, каўбасы, сам прабіў кам[посцер]; праводзілі — сталы ссунулі, шампанскае, касцёр [?], бутэрброды. Лучыц палец парэзаў, як чамадан пёр.

***Газетны кіёск. Жанчына купляе канверт:

— Што вы мне гэтага лысага даеце, у мяне свой лысы.

— Гэта ж герой!

— Усё роўна лысы, свой надакучыў.

Грукапіс гром нясе ў рэдакцыю[2].

Са слоў самога Сёмухі: цыбулька-дымка — сама гаспадынька. Дагадзіў, як ксёндз Магдзе.

*13 студзеня, пятніца*

[Аўтограф І. Драча:]

У Киаві на дзвіниці
Поліз чернець до черниці.
— Що ти робиш, ченче?

---

[1] Дзямідчык Уладзімір Паўлавіч (1930–1987), савецкі ўсходазнавец, лінгвіст і літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук (1981). Прафесар (1982). Ураджэнец Беларусі.

[2] Гл.: Жарт (30.11.85) // Маўчанне перуна. С. 166.

— Топчу тебе, серце!
Корень в глибину пускаю,
Може, доберусь до раю…

*(Автор — народ. Підслухаві Грицеві.*
*Записав Іван Драч)*

*14 студзеня, субота*

*с. Тэліжэнцы [роднае сяло Драча*]. 1340 душ, усяго ў школе 157, а першы клас 13 вучняў. Каліна Івана Драча. Выраслі тапалі побач, перагналі куст. Ручаёк падмывае карані, ён пад ільдом. Дзедзіна (горад пра бляху), усе вітдалень, гаспадар хаты новай, дзе было котлішча Івана, дворышча, толькі ігрушына [засталася]. Гаспадар пад мухай, запрашае. Паказвае ляжанку ад радыкуліта.

Вечар Івана. Выступае першая настаўніца. Першая настаўніца Драча, як школьніца, хвалюецца на сцэне.

*15 студзеня, нядзеля*

*г. Цеціеў.* Райком. Сакратар пра тое, што землі благія, гаворыць той факт — нашы землі не належылі славутым панам — [атрымлівалі] падпанкі, далёкая радня магнатаў, каханкі і г. д.

Не ў Доме культуры справа, калі моладзь бяжыць з сяла, а ў тых умовах працы і побыту. 600 чалавек у год, 800 машын.

Дом культуры. Вечар Івана Драча, першая гранільня таленту, як Ламаносаў[1], тэліжэнец хадзіў толькі штодня. Выступае Г. [?] Каркеі [?] (Рыга), Сакрат ХХ стагоддзя.

*Ворина — праварына,* югá.

Настаўніца ўкраінскай мовы ў Тэціеве — Бялевуш, вучыла Драча. Ніна: «Няхай нашым ворагам пер’е ў горле вырасце».

На ўкраінскай мове ў калгасе разнарадкі, выпіскі. На вечарыне не далі слова адстаўніку — прадстаўніку кнігароў, каб не чуваць было расійскай мовы.

*16 студзеня, панядзелак*

*Кіеў.* Захаранка, Машчанка. Выстаўка. Балгарка, вачмі балгаркі [глядзіць] на кветкі Украіны. Дзівосны сплаў радасці, святла.

Едзем з Драчом у трамваи, невялікім, утульным. «Шаноўныя пасажыры, каб не ўпасці ў салоне, трымайцеся за поручэнь!» — лозунг. Раптам: «Добры вечір!» Кабета з кошыкам, у плюшаўцы, як да кумы.

---

[1] Ламаносаў Міхаіл Васільевіч (1711–1765), рускі вучоны-прыродазнавец, паэт, мастак, гісторык, асветнік; нарадзіўся ў сям’і памора.

Кума ці да кумы,
Расплюшчана вачам здзіўлёным.
І ўсе нібыта ў хаце мы.
І тому дзядзьку, што суседзіцца
З нудой,
І кабеце
Святлей і весялее едзецца.

Паўлычка[1] на шчасце б'е самую дарагую чарку сервізную.

[Адрас:] Київ — 40, вул. Васильківська, д. 8, кв. 197. Литвин[2] Микола.

*17 студзеня, аўторак*

Іван [Драч] праводзіць. У трамваі цыбуліну як гераіню верша падымае.

Безабаронны, як помнік.

*19 студзеня, чацвер*

«Мутнае вока»[3]. Вечар Куляшова. Артыстка (заслужаная артыстка) Таццяна Назараўна Аляксеева[4] прачытала «Ліст з палону». [Вялюгін:] «Добра. Але тут павінен чуцца перастук колаў. Няхай ірвецца [радок], але павінен [чуцца] стук колаў».

! Яшчэ жывая мама Куляшова, як працяг жыцця сына, які не дажыў. «Пагляжу ў альтанку — там пісаў «Толькі ўперад», плачу. Калі душа плача, мыю падлогу».

*20 студзеня, пятніца*

*Анатолю Александровічу*[5]

Начальству збоку,
Як з Баку
Ці з Уладзівастоку,
Відаць усё,
І «Азбуку»

---

[1] Паўлычка Дзмітро (Дзмітрый Васільевіч; н. 1929), украінскі паэт, перакладчык, крытык, палітычны дзеяч, дыпламат. Лаўрэат Рэспубліканскай камсамольскай прэміі імя М. Астроўскага (1961), Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі (1977). Герой Украіны (2004).

[2] Літвін Мікалай Раманавіч (н. 1957), украінскі гісторык. Доктар гістарычных навук (1999). Прафесар (2001). Заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі Украіны (2007).

[3] Так паміж сабой называлі кафэ Дома работнікаў мастацтва.

[4] Аляксеева Таццяна Назараўна (1922–1996), беларуская актрыса. У 1952–1996 гг. у Нацыянальным тэатры імя Я. Купалы. Заслужаная артыстка БССР (1955).

[5] Барадулін Р. Азбука не забаўка. Мінск: «Народная асвета», 1985. *Александровіч* А. В., беларускі кніжны графік, мастацкі рэдактар выд-ва «Народная асвета».

Напяліць хочуць мастаку,
Як мулкі той хамут быку.
Вышэйшы кожны — дока.
*P. S.*
Прыміце, любы Анатоль,
Маёй удзячнасці хлеб-соль.

*[25 студзеня, серада]*

Падыходзіць дзядзька:

— Дзе тут Колас сядзіць?[1] Такі вялікі. Я не прайшоў?

— Ідзіце проста.

*9 лютага, чацвер*

Дом Урада. [Лабанок расказвае:] «Размова з Коласам.

— Як у вас выходзіць?

— Як пачну, дык як вада льецца. У галаву лезе, лезе, і атрымліваецца твор.

Двойчы сустракаў у Мазыры, ён любіў Мазыр».

Падае [неразб. 1] «Совесть века»: «Пачытайце Далтатоўскага [?] пра яе». Падае стос кніг. «Некаторых прачытаў. Многіх ведаў: Коласа, Броўку, Вас».

Прачытаў «Партызанская балада»[2]: «Магутная рэч».

Вы маглі напісаць верш, як мы ішлі на помач Ленінграду. З Вільна на Ленінград падкідвалі па чыгунцы немцы сілы. На Кульчай [?] прайшлі чыгунку, шашу, сто чалавек, каля Зябак, Відзы (яны ведалі, што мы рухаемся. Гарнізон выйшаў на досвітку, падыйшлі, засаду [зрабілі], ішоў паляк, «дзе немцы на засадзе?», прайшлі каля дамоў (іх у Відзах чалавек 5), яны наўздагон і прыціснулі да Дзясны, радзей лёд паднізом, км паўтара. Раздзяю людзей, здымаюць штаны, дзяўчаты таксама, цераз ледзяную Дзісну, падыйшлі лясы ў раён Ігналіна.

Мэта за ракою, ды няма маста пад рукою. Падыйшлі [немцы] да ракі — няма [партызан]. Як у воду канулі. Падыйшлі да Ігналіна, замініравалі. Адзін поезд узарвалі, а другой стукнулі, значыць, два разбілі. Падыйшлі, а немцы дарогу асядлалі. Разведка стралялі — знак, што немцы. Мы ў засаду. Немцы па нас, а ў мяне ≈ 80 аўтаматчыкаў, а машыны з Вільна прыбываюць. Забілі кулямётчыка і аднаго паранілі. Мы ў кустах, пад мост, хутар быў (Елісеевіч паказвае алоўкам), яны з сабакамі ала-ла́, прачэсваюць лес, а я на хутары сяджу.

Падыйшоў да Замошша (вырашыў рабіць тут гарнізон), каля Браслава. Разбілі частку ў полі. Мітынг: «Іуды тут ёсць?» Забілі начальніка аку-

[1] Гл.: Каля ліставейнага вогнішча (3.10.82) // Маўчанне перуна. С. 117.

[2] Балада У. Караткевіча.

паваных абласцей (разбілі вагон). Адзеў партызан у нямецкую форму, немцаў расстрэльваем, а літоўскіх паліцаеў адпускаю, іх усё роўна немцы расстралялі.

Рэйс на Літву, помач Ленінграду, пад Даўгаўпілс. Калі давалі Героя Лабанку, улічылі і гэты паход, бо тады не дужа хадзілі. Выматаў мяне гэты паход.

У Каз’янскіх лясах брыгада Маркава, злосць, што ён адпачыў і счапіўся з немцамі. 6 октября 1943 г. «Правда» — [дала артыкул] «Народные герои».

Дачка ў Маскве за лётчыкам-выпрабавальнікам, ён Герой Савецкага Саюза за выпрабаванні».

*11 лютага, субота*

* * *

Славутыя людзі,
Да вечнасці набліжаючыся штогод,
Ахвотней хадзіць пачынаюць
Да скульптараў-малатабойцаў,
Каб прыкінуць, якімі
У бронзе ўбачыць народ
Іх, задаволеных нарэшце сабою.

*13 лютага, панядзелак*

Час, патрачаны на сяброў, гэта боскі час.

Васіль [Быкаў]: «У вайну: дажыў да вечара, вечарам перадых, а ноч цішэй; а цяпер як той яўрэй — да суботы. Адмыўся ад [неразб. 1].

У мяне босы [герой], а ён у ботах малюе».

*14 лютага, аўторак*

Маглі [?]: «Дык вось як вы мяне чытаеце. У мяне ў рамане…»

*Міхасю Стральцову*
*(экспромт)*

Ты нарадзіўся на Грамніцы,
Калі не спіцца перунам,
Калі мароз яшчэ грозіцца,
Як некалі мужык панам.
І ў першы дзень свой,
Даўні люты,
З-пад стрэх збівае ледзяшы,
Мой друг,

Твой горды дух раскуты
Адно сабе казаў: — Крышы!
Крышы аковы ледзяныя,
Будзі да радасці траву,
Няхай надзеяй сэрца ные
І сонца поўніць галаву.
Збівай знямеласці аковы,
Будзі спакой,
Віруй ракой.
Чаляднікамі роднай мовы
Нам добра —
Слова пад рукой!

*15 лютага, серада*

Дык вазьмі Насовіча[1].

*16 лютага, пятніца*

Дом урада. У Лабанка. Аддае мне прадмову да «Партызаны, партызаны»[2], дзве кнігі з аўтографамі, фотакопію артыкула з «Праўды» за 43-ці год, дзе пра Героя СССР Лабанка піша Малін.

«Мы займалі 2 % тэрыторыі Беларусі, 4212 кв. км тэрыторыя [неразб.1] па граніцы вакол 230 км наваколле. Люксембург 270 — паўтара Люксембурга.

Не даць магчымасці немцам умацавацца на Заходняй Дзвіне. Днём чакаем, міны аб'язджаем — уночы ўзрываем (а прыгадай — на Дняпры чаго каштавала), і таму без стрэла.

[Аперацыя] «Баграціён», і ад Вулы да Бешанковіч не далі ўмацаванні грабіць немцам, не далі і на Бярозе (згадайце, як Напалеон), акрамя таго што захавалі людзей (хоць і загінула [нямала]), мы ж ваявалі. Мы ж трапалі ўсе часці, якія былі».

Паказвае новую кнігу, дзе выкладзена «нацыянальная палітыка...». «Хацелі на працягу 7 дзён, хацелі па частках брыгады адразаць, а ў мяне ў запасе смаленцы. Пазіцыйная і партыйная барацьба. Занялі немцы вёску, а мы ў іх у тыле ноччу. Многія здзіўляюцца, як вы ўтрымаліся, немцы думалі, што ваенныя, а гэта камсамольцы з вёсак. Абараняе вёску за 5 км, а ў сваю не ідзе, у гэтым хітрасць.

---

[1] Насовіч Іван Іванавіч (1788–1877), беларускі мовазнавец-лексікограф, фалькларыст, этнограф, складальнік «Словаря бѣлорусскаго нарѣчія» (1870; факсімільнае выданне: Насовіч І. І. Слоўнік беларускай мовы. Мінск: «БелСЭ». 1983).

[2] Верш Я. Купалы.

Мачульскага[1] загналі на [возера] Палік. Многія [здзіўляліся]: «Як маглі вырвацца?» — і сам не ведаю. Разведка добра папрацавала. Яны, немцы, не ведалі, што ў нас. 2 брыгады пусціў у раён возера Шо. Немцы думалі, што ўсе брыгады ў нас».

*[19 лютага, нядзеля]*

Слова! Ты адценняў многа тоіш!
Заяц і свіння — адно і тое ж!

Ноеў каўчэг. Карова, куры, толькі голуб прыляцеў.

Ал. Русецкі[2], вершы М. Старшынава[3] у «Братэрства — 85». Ст. Шушкевіч пра А. Твардоўскага ў «Братэрства».

Якая павінна быць стома
Ў старога шара зямнога,
Пра гэта долу знаёма
Цяжэй за сябе самога.

*Аляксей Русецкі*

Не звык Русецкі да апек,
Працуючы ўвесь век заўзята,
«Яго Вялікасць» Чалавек
У ім прызнаў свайго сабрата.

*[1984]*

*[М. Дубянецкаму[4]]*

Гожа па-святочнаму адзенься
І дырэктара свайго ў ахвоту
Павіншуй у Дзень Савецкай
Арміі і флоту.

Алай[5] Анатоль Іванавіч, 32–36–13, фота.

---

[1] Мачульскі Раман Навумавіч (1903–1990), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Герой Савецкага Саюза (1944). З 1943 г. камандзір партызанскага злучэння Барысаўска-Бягомльскай зоны.

[2] Русецкі Аляксей Сцяпанавіч (сапр. Бурдзялёў; 1912–2000), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР (1983). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (1981).

[3] Старшынаў Мікалай Канстанцінавіч (1924–1998), рускі паэт, перакладчык.

[4] Дубянецкі Міхаіл Фёдаравіч (1927–1990), беларускі перакладчык. У 1979–1986 гг. дырэктар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[5] Алай Анатоль Іванавіч (н. 1940), беларускі кінааператар і рэжысёр студыі «Беларусьфільм». Лаўрэат прэміі А. Адамовіча (1992).

1) Цімашэнка[1] Іван Восіпавіч, нам. міністра МУС, генерал (вуч. у парт.);
2) Бронік Спрынчан[2];
3) доктар тэхнічных навук Генадзь Ждановіч[3];
4) Пётр Васілеўскі[4];
5) Грамовіч[5] Іван Іванавіч; Петрашкевіч[6];
6) Казько[7] Віктар;
7) Марыя Захарэвіч;
8) Грачанікаў;
9) Зуёнак[8];
10) Дубянецкі;
11) Адамчык;

Каваль, рэктар педінстытута, Караткоў[9] Аляксандр Цімафеевіч, Бугаёў[10], Жук[11] Аляксандр, Эдуард Мартынавіч Скобелеў[12],Таццяна Кузьмінічна[13], Леаніла Сямёнаўна.

---

[1] Цімашэнка І. В. (1922–1990), нам. міністра МУС БССР (1979–1984).
[2] Спрынчан Браніслаў Пятровіч (1928–2008), рускі паэт і перакладчык. У 1966–1991 гг. заг. аддзела паэзіі час. «Нёман».
[3] Ждановіч Генадзь Міхайлавіч (н. 1933), беларускі вучоны ў галіне парашковай металургіі. Доктар тэхнічных навук (1970). Прафесар (1973). У 1972–1998 гг. заг. кафедры Беларускага політэхнічнага інстытута.
[4] Васілеўскі Пятро (Пётр Савельевіч; 1922–2002), беларускі празаік, драматург, рэжысёр, сцэнарыст. У 1953–1988 гг. рэжысёр кінастудыі «Беларусьфільм».
[5] Грамовіч Іван Іванавіч (1918–1986), беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры БССР (1978).
[6] Петрашкевіч Алесь (Аляксандр Лявонцьевіч; 1930–2012), беларускі пісьменнік, драматург, сцэнарыст. Кандыдат гістарычных навук (1967). У 1979–1991 гг. адказны сакратар, нам. галоўнага рэдактара выд-ва «БелЭ». Заслужаны работнік культуры БССР (1975). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).
[7] Казько Віктар Апанасавіч (н. 1940), беларускі празаік. У 1986–1988 гг. сакратар праўлення СП БССР. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1977), Дзяржаўнай прэміі БССР (1982).
[8] Гл.: Як маланка, нечаканы… (1984) // Парастак радка, галінка верша. С. 232.
[9] Караткоў Аляксандр Цімафеевіч (н. 1939), беларускі архітэктар. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1984).
[10] Бугаёў Дзмітрый Якаўлевіч (н. 1929), беларускі крытык і літаратуразнавец. З 1964 г. выкладчык філфака БДУ. Кандыдат філалагічных навук (1960). Прафесар (1987). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1984).
[11] Жук Алесь (Аляксандр Аляксандравіч; н. 1947), беларускі празаік, перакладчык. У 1980–1986 гг. гал. рэдактар газ. «Літаратура і мастацтва», у 1986–1989 гг. сакратар праўлення СП БССР. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1978), Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1982), Дзяржаўнай прэміі РБ (1992).
[12] Скобелеў Эдуард Марцінавіч (н. 1935), беларускі пісьменнік. У 1966–1991 гг. супрацоўнік апарата ЦК КПБ. Заслужаны дзеяч культуры РБ (1996).
[13] Іваніцкая Таццяна Кузьмінічна, кансультант па арганізацыйнай рабоце СП БССР.

*«Братэрства»*

1) Вокладка;
2) нам [засталася] спадчына [Купала];
3) Туулік!
4) бібліяграфія трэба;
5) конкурс перакладаў;
6) падборка вершаў і апавяданняў у адным перакладзе;
7) арыентавацца на рэспубліканскія часопісы;
8) рэгіёны даваць пажадана;
9) складаць план-праспект.

*Змітрок Бугаёў*

Як той мядзведзь каля раёў,
Ля прозы ходзіць Бугаёў,
І ад паэзіі Змітрок
Не адступае ні на крок.
Дзе белы снег, дзе сажа,
Адкрыта крытык скажа.

*[1986]*

*24 лютага, пятніца*
[Аўтограф М. Стральцова:]

*Рыгору Барадуліну*
*ў дзень нараджэння*

Вол бушуе,
Вясну чуе —
Прэч, халады!
Апоўдні певень
Нап’ецца, пэўна,
Пад стрэшкай вады.
— Дзень добры, Рыгорка!
Вясна за пагоркам
Б’е ўжо крылом.
Пупышак салюты
Спіць месяц Люты —
Спіць крыгалом!
Чалом табе, браце,
Чалом!

[Аўтограф С. Панізніка[1]:]

*Рыгору Барадуліну*
*на дзень нараджэння*

Рыгор!
Паэтародны
узводзь Ушацкі замак!
Ты ходзіш між Народных
у званні «... а таксама...»
Акаліна
узросту —
двухтомны
у руках...
Цвярозым вінцаносцам
застанься
у вяках!

*Сяргей Панізнік*

Сяргей змікіціў на хаду,
«Адкуль вясёлка п’е ваду»,
Адкуль бярэ кнігарня кнігі,
Чаму Двіна цячэ да Рыгі,
Чаму вярба расце з дубца, —
Адкрыццям не ідаць канца!

*[1984]*

*** Пімен [Панчанка]: «Памёр Шолахаў[2] — адзін аўтарытэт. Пачнуць грызціся кожны за сваю костку і нават чужую вырываць.

Усю ноч правёў з Шолахавым у Казахстане. Я загарачыўся. Ад’язджаючы, Шолахаў: «Добры чалавек, толькі дарэмна так гарачыцца». Невысокага росту, лабаціна аграмадная, такі сімпатычны і ўмее слухаць. А мы перабіваем адзін другога».

У. Караткевіч: «Доведём мы Быкова до стыда великого».

*4 сакавіка, нядзеля*

А. Вялюгін: «Гангстэрскі фільм на сабаках [правяраюць]: у пустой зале сабак [пасадзяць], калі выюць — фільм удаўся».

---

[1] Панізнік Сяргей Сцяпанавіч (н. 1942), беларускі паэт, перакладчык. З 1982 г. рэдактар, у 1984–1989 гг. заг. рэдакцыі выд-ва «Юнацтва».

[2] Шолахаў Міхаіл Аляксандравіч (1905–21.02.1984), рускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Акадэмік АН СССР (1939). Герой Сацыялістычнай Працы (1967, 1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941), Ленінскай прэміі (1960), Нобелеўскай прэміі (1965).

*28 сакавіка, серада*

З Піменам [Панчанкам] па тэлефоне: «Слухаў шпакоў, так верашчаць, так гамоняць…»

*1 красавіка, нядзеля*

*Нэлі Каханаўне Тулупавай*[1]

Загінуць можна ад бяды,
Ад сухавею, ад вады,
Ад бомбы, кулі, ад шрапнэлі,
Ды лепш згубіць свае сляды
На гэтым доле назаўжды
Пад позіркам чароўнай Нэлі.
Яна на карце далані
Чытае нашай долі дні.

*5 красавіка, чацвер*

Пімен [Панчанка] па тэлефоне: «Ад душы адлягло».

*6 красавіка, пятніца*

*Сучасны*

Прыцемак. Скамейка. Дзве русалкі.
Не з нябёс дзве зоркі ад знямогі
Ўпалі —
Два акуркі-недасмалкі
Дзве русалкі кінулі пад ногі.

*10 красавіка, аўторак*

Мастацтва інтэрнацыянальна спаміж нацый, а не наднацыянальна.

У яго была неад'емная рыса — самаіронія[2].

*12 красавіка, чацвер*

У Пімена [Панчанкі]. Голыя ногі. Ступні праз шкарпэткі. Фота маці ў акулярах і ўнучка з паднятай рукой. Адчынены балкон, чыркат і свіст. «Кулеш [Куляшоў] зрабіў папраўкі ў «ЛіМе», я скумекаў, чаго мне не хапае».

---

[1] Тулупава Нэлі Іванаўна (Лісоўская; 1938–2001), беларуская паэтэса, перакладчык. У 1977–1988 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[2] Хведаровіч Мікола (сапр. Чарнушэвіч Мікалай Фёдаравіч; 1904–1982), беларускі паэт, перакладчык. Быў рэпрэсаваны. Лаўрэат прэміі венгерскага агенцтва па літаратуры і мастацтву «Артысіуз» (1981). Гл.: Здарожаны посах (10.04.84) // Маўчанне перуна. С. 72.

*19 красавіка, чацвер*

МИС = МВС. Дырэктар Караткевіч[1], парторг Шабан. «5 год выпрабаванне ідзе, можа ўстарэць. Цяжкасці ўсе, што ён у нас, не пералічыш. Першая наша рэкамендацыя: няма такой машыны, у якой не было б недахопаў».

*23 красавіка, панядзелак*

У Пімена. За шклом стэлажа пласцінка да 70-годдзя Патрыярха ўсяе Русі Пімена[2]. Школьны сшытак абгорнуты цэлафанам, і Аксінка-ўнучка падпісала па-беларуску: «Дзядулі Пімену Панчанку для новых вершаў».

Ларэлея ў суседнім доме расчэсвае косы. Два разы ў дзень, асабліва раніцай, у сарочцы. Прыгадвае, як Наташа ў Англіі спявала царкоўныя песні.

*2 мая, серада*

У «Песнярах»[3] адзін Дзямешка[4],
А ўсе астатнія — дамешка
Да музыкі чысцейшай пробы,
Ён вылечыць усе хваробы.

Такая глыбокая музыка, што аж вушы закладвае.

*7 мая, панядзелак*

Пімен [Панчанка]: «Качкі на бераг выбіраліся і церабілі пер’е — на дождж!»

*22 мая, аўторак*

На *Ушачы* з манголамі. Конь спакойны, як стол.

Залаты Кол — Палярная зорка. Млечны Шлях — Нябеснае Шво, Малочны Шлях.

---

[1] Караткевіч Аляксандр Вікенцьевіч, дырэктар Беларускай машынавыпрабавальнай станцыі (1981–2001). Доктар тэхнічных навук (1991). Член-карэспандэнт Акадэміі аграрных навук (1992). Прафесар (1992). Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі БССР (1989).

[2] Пімен (Ізвекаў Сяргей Міхайлавіч; 1910–1990), Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі (1979–1990).

[3] «Песняры» — беларускі вакальна-інструментальны ансамбль (з 1969). Мастацкі кіраўнік У. Мулявін. *Мулявін* Уладзімір Георгіевіч (1941–2003), беларускі артыст эстрады, кампазітар. Народны артыст БССР (1979). Народны артыст СССР (1990). Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1980). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1976).

[4] Дзямешка Аляксандр Сяргеевіч (н. 1947), беларускі эстрадны артыст, выканаўца на ўдарных і струнных інструментах. У 1969–1988 гг. ударнік і вакаліст ансамбля «Песняры». Заслужаны артыст БССР (1979).

С. Лочин — Доржин Даржаа[1], С. Бадраа[2], Д. Миегомбо[3]. Лочын у застоллі падчас і ў нас не ўсё разумее, што гавораць за сталом, у асноўным разумеў. А наогул цяжка разабраць, хто госць, хто гаспадар, дык ваша здароўе, дарагія госці.

Едзем назад, мангол спіць, а Марк Ісаакавіч не можа рабіць даслоўнікі. Пока спал оригинал, бодрствовал подстрочник.

*23 мая, серада*

У Лабанка. Верш Панчанкі пра Броўку перапісаў ад рукі і чытае: «І нават выбух ліпы», — здорава напісаў «Стары партызан», песня пра ветэрана. Цяпер партызан засталося мала, на мяне такі націск».

Звоніць Броннікаў[4], каб сустрэць Кім Ір Сена[5], трэба а 8-ай, але раней.

— У 7 гадзін.

— Апалове 8-ай хопіць.

Як юны разведчык новы аўтамат здабыў, — Юлік Кошка.

В. Ждановічу: 1) За гадзіну да прарыву № 10 [фота]; 2) з Броўкам (трымаецца за пінжак) № 5.

*25 мая, пятніца*

*Леаніду Дранько-Майсюку*[6]

Мечтаю на склоне своим об одном,
Глядя на суету свысока, —
Чтоб каждый четвёртый
на шаре земном
Читал Леонида Дранько-Майсюка.

[1] Доржын Даржаа (сапр. Сонамын Лочын), мангольскі паэт. Кандыдат філалагічных навук. Гл.: Кукаванне (1.06.84) // Маўчанне перуна. С. 18.
[2] Бадраа Самбуугійн (н. 1923), мангольскі пісьменнік, перакладчык.
[3] Міегомбо Д., мангольскі паэт.
[4] Броннікаў С. А., супрацоўнік ЦК КПБ.
[5] Кім Ір Сен (сапр. Кім Сон Чжу; 1912–1994), дзяржаўны, партыйны і ваенны дзеяч КНДР. Генералісімус КНДР (1992).
[6] Дранько-Майсюк Леанід Васільевіч (н. 1957), беларускі паэт, празаік. 1982–2002 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

*6 чэрвеня, серада*
*Карласу Шэрману з падзякай за даслоўнае першапрачытанне Габрыелы Містраль*[1]

А пані рыфма маладая
Ва ўсе часы, ва ўсе вякі.
І хто яе перакладае,
Напрашваецца ў сваякі.
Ганяеш слоў свавольны мячык,
Нармальны бы сказаў, што псіх,
Ды перакладчык, ці тлумаччык,
Хоць міг
Жыве адзін за ўсіх.
То ён адных уваскрашае,
То заганяе ў цёмны дол,
То запрашае вас да чаю.
То плаха, то гняздоўе — стол.
Жывы з нябес смяецца поўнік,
І шэпча параўнанняў шал:
«Дзядоўнік —
Як бы той даслоўнік,
А вожык — сам арыгінал».
За аднаго і за другога
Найлепей голаю рукой
Не брацца.
Ну, а ўсё ад Бога,
А перакладчык — сам сабой.

*Кемеры*

*9 чэрвеня, субота*

* * *

У стылым сусвеце з камення
Шукаюць сябе галасы,
Прамень утрапёна нямее,
Прарэзаўшы змрок наўскасы.
Тут гукі, як цені, ўсляпелі,
Знайшоўшы сябе ўпершыню.
На кончыках пальцаў скляпення
Трымае сабор вышыню.

*Рыга, Doma baznīca [Домскі сабор]*

---

[1] Містраль Г. Ветраліст. Мінск, 1984. Пер. Р. Барадуліна. *Містраль* Габрыела (сапр. імя Гадой Алькаяга; 1889–1957), чылійская паэтэса; дыпламат. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1945).

*29 чэрвеня, пятніца*
Панчанка ў «Каралішчавічах»: «Пасу ўнукаў».

*3 ліпеня, аўторак*

* * *

Паліць масты — няхітрая навука.
Маста няма,
Але, пакуль цячэ
Нястрымная рака,
Ці ёсць зарука,
Што не ўзвядзецца новы мост яшчэ.

Цячэ рака,
Паддадзеная руху,
Мінулае вяртае з небыцця.
І чуе крыўда даўняя шчыруху,
Працятую дакорамі трысця.

І, неабачлівы, ў сляпым запале
Хутчэй гашу ўзаемнае святло.
Палю масты,
Ды пакідаю палі,
Каб новы мост
Наслаць на чым было.

* * *

Я не ведаю, як арлы паміраюць,
Ды ёсць паданне,
Што яны перад сконам
Па даўняй завядзёнцы
З цвярдой скалы
Абрываюцца каменем долу.
Безахвярнага арэолу
Не бывае.
Калі зямлі
Свой апошні ўзлёт давяраюць,
Нам, бяскрылым,
Узняцца раяць,
Дзе яны пабыць не змаглі.
І калі мы назаўсягды
Пакідаем свае апоры,
Нас высока чакаюць зоры,
Доўга стыгнуць на небе сляды.

Летуценні лятуць арламі
Ў вечным перад зямлёй даўгу.
І, набыўшыся ў тлуме, ў хламе,
Мы ўступаем жывым чаргу.

*[7 ліпеня, субота]*

*Яўгену Курто[1] [да 60-годдзя]*

Выдавецкае манто хто накінуў?
Я. Курто.
Хто гуляе ў спортлато
З лёсам?
Ветэран Курто.
Хто душэўнасці плато
Ашчадзіў?
Яўген Курто.
Смела з лесу выйшаў хто?
Партызан Яўген Курто.
Самапіскі далато
Сціснуў хто?
Спецкар Курто.
Заказаў хто
Сто па сто?
Член СП Эжэн Курто.

*16 ліпеня, панядзелак*

*Алесю Жуку*

Жадаю рупнаму Жуку,
Шаноўнаму Алесю,
Як слуцаку,
Як важаку
Гусці, расці ў літлесе.
Хай хцівасць парасце быллём,
Хай звада згіне ў гліне.
Не будзь апошнім жураўлём
У любым краю Кліне!

---

[1] Курто Яўген Іванавіч (1924–1993), беларускі пісьменнік, перакладчык. У 1972–1987 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

*18 ліпеня, серада*

*Ілоне[1] [на дзень нараджэння]*

Да будет счастье благосклонно
И упредительным успех
К тебе,
Мой ранний свет, Илона.
Переживи мой гнев и смех!

*10 жніўня, пятніца*

*На Ушачу з Быкавым.* Васіль Быкаў: «Белгарад. Дзядзькі ў лапцях бягуць.

Фруктовы чай на цаглінках [заварваем] у незавершанай будыніне. Патруль. Брызентавая сумка, анучы і карта. Еўрапейская частка памечана хімічным алоўкам.

— Адкуль ведаеш, што забралі немцы?

— Па радыё.

— Дык ты яшчэ і радыё слухаеш?

Я мала пражыў на гэтай зямлі, але дзе б я ні быў, вобраз гэтага краю маленства — гэта нейкая дарожка, ручаёк, дуб і, вядома, людзі. Заўсёды ў творчасці карыстаешся тым, што заклала родная мясціна, людзі.

Птушыны сон, праз кожную гадзіну прачынаешся.

Да вайны Ушачы — людзей шмат, снуюць мястэчкоўцы, яўрэі, сяляне. У культмаг заходзіў на рэпрадукцыю [паглядзець] — як у музей.

Рэчка была, мост. На Беларусі па прынцыпу сярэдневяковага горада сяліліся малымі тэрыторыямі, але тут…»

*11 жніўня, субота*

*с. Кублічы.* Рэшткі царквы, дзе ксцілі Васіля [Быкава], поп Забэла.

Жаўранак не запяяў да Саракі, да Іллі не зажаў.

Яму ў рогі заліць, дык да зямлі не датыкацца будзе.

Васіль расказвае пра вобразы. «Празаік, актор. Лойка, вобраз хар[акта]ра [?], Джулія ў Італіі ў аэрапорце, перакладчыца, дакладна такая, як у аповесці».

Адзін з тостаў: «Каб наш Васіль, сёння болей дасягнуўшы, мог клёцкі з душой з'есці і пераварыць». Цешча пляменніка пяе пра самагонку. Настаўнік Караблёў — перад школай хлеб-соль [паднёс].

«Сёлетні, — і на рукі ўзяў пляменніка, — 17-га будзе годзік».

---

[1] Барадуліна Ілона Рыгораўна (н. 1962), мастачка; дачка. Гл.: Паштоўка Ілоне (18.04.87) // Самота паломніцтва. С. 184; Страх (15.11.88) // Міласэрнасць плахі. С. 133.

Едзем на Пліна. [Васіль:] «Нашыя назвы каверкалі і палякі, і рускія».

Тут недалёка вёска маці [Быкава], у Глыбоцкім раёне, Завулак. Заўтра пахаванне. Пляменнік з Афганістана. Два гады назад закончыў Кубліцкую школу.

Згарэлыя вёскі: Жарэнькава, Гараўцы.

Да Лабанка. Архіўную даведку пра бацьку[1]. Загінуў 5 мая, а ў даведцы — 17 чэрвеня.

*13 жніўня, панядзелак*

*Але Сямёнавай*

Пусть счастье ниспошлёт Бог Алле,
Как дань, на всех материках.
Пусть мысли хмель,
Как грог в бокале,
Кипит во всех её строках.

*

Ад магіі імя чароўнай Алы
Раптоўна робіцца эпітэт сталы
Наіўна-закаханым юнаком.
І зоры — гледачы сусветнай залы
Зайздрослівых вачэй не зводзяць з Алы.
А мой радок?
Яму хоць вый ваўком.
І я, па-ўшацку ў неадумным шалу
Да дна галублю Вечалле за Алу!

*1984*

*14 жніўня, аўторак*

У Пімена [Панчанкі]. Калі зорка ляціць — загадаць жаданне. Раней вадзіў дачку ў жыта — паказаць.

*** Былі самабытнікі, а засталіся саматужнікі. Рука Масквы.

Не перакладваць на спіну перакладчыка цяжкасці ўласных агрэхаў. Робатам не трэба графа нацыянальнасць, перакладаць лёгка, а фальклор [цяжка].

---

[1] Барадулін Іван Рыгоравіч (1908–1944). Ваяваў у партызанскай брыгадзе імя В. Чапаева. Лічылася, што загінуў пад час прарыву блакады ў мая 1944 г. у раёне Паперына — Пліна Ушацкага раёна; па архіўных звестках — у чэрвені яшчэ ўдзельнічаў у аперацыях атрада ў іншых мясцінах. Гл.: Бацькава імя на пліце мемарыяла «Прарыў» (13.09–19.05.85) // Маўчанне перуна. С. 210.

Верлібр, вольны верш — піраміды, складзеныя, падагнаныя камянямі без замазкі, без раствору.

*Трысцінка — хісцінка, хусцінка — хісцінка.*

*21 жніўня, аўторак*

У Лабанка. «Трэба «Песнярам» даць пісьмо партызан[1].

Чаму мы не ўспамінаем пра [паэму] Чарота[2] «Босыя на вогнішчы», я і зараз помню. Фашысты ў вобразе нашых разведчыкаў яго прадавілі.

Рачыцкі[3] Піліп Мікалаевіч быў міністрам с. х. [сельскай гаспадаркі] Беларусі — з Лепеля.

Прачытай Леніна «Матэрыялізм і эмпірыакрытыцызм», як ён Міхайлава разделвае. «Коммунист», № 11, 84».

*23 жніўня, чацвер*

Званю Пімену [Панчанку], віншую з днём нараджэння. Жадаю ўшацкае: «Дай Бог здароўя ў ручкі, у рожкі і паміж ног трошкі». Жартуе. Кажу: «Да свайго дня падарунак самі [зрабілі] — зборнік "Лясныя воблакі"[4]». Пімен: «Яны, лясныя воблакі, асаблівыя, куды б ты ні ішоў, ні ехаў, яны за табой, дзе б ні быў, яны — з табой!»

*24 жніўня, пятніца*

У Лабанка. «Я магу паказаць рашэнне бюро, едзеце, значыць [на Кубу]». Правіць пісьмо Гірсе[5] наконт бацькі. Проста і пашанліва. Наконт кнігі ўспамінаў звоніць у «Беларусь», каб да 40-годдзя Перамогі [выйшла].

* 1) Пачатак фільма — песня пра маці;

2) матчына песня, ад імя маці;

3) магільнік і дзяды.

Зямля да гэтага часу ў траншэях, у шрамах.

*Карласу Шэрману*

Чтобы критикам икалось
И за Летою-рекой,
Поражает души Карлос
Шерманядерной строкой.

---

[1] Гл.: Пісьмо з партызанскага бору (25.12.83) // Маўчанне перуна. С. 226.

[2] Чарот Міхась (сапр. Кудзелька Міхаіл Сямёнавіч; 1896–1937), беларускі паэт, драматург, празаік, рэдактар, грамадскі дзеяч. Рэпрэсаваны. Гл.: Ясенін слухае Чарота (6.10.85) // Маўчанне перуна. С. 188.

[3] Рачыцкі Піліп Мікалаевіч (1893–1937), наркам земляробства БССР (1929–1933).

[4] Панчанка П. Лясныя воблакі. Мінск, 1985.

[5] Гірса Ніканор Міхайлавіч, сакратар Ушацкага РК КПБ.

*2 верасня, нядзеля*

*г. Полацк.* Свята Скарынаўскай кнігі. Дождж. Салдаты, літмантаж. Маленькія дзяўчаткі дрыжаць.

Сафійка[1]. Ніжнія пласты пад паркетам, яны ў зямлю ідуць. Кладка відаць усіх вякоў, як і ў жыцці.

Вада — зямлі знямелай кроў,
Якая са страху перастыла.
Зямля — калыска і магіла
З заходаполымных муроў.

*10 верасня, панядзелак*

У міністра. [Масква, аэрапорт] Шарамецьева-2, 9.30 (17.IX). Дэкаланізацыя.

*** [Нумары тэлефонаў:] Барыс, Валя Мажаевы; 319–05–09. 972–60–33 — Тамара Фёдараўна Залатухіна; Бурсаў[2]; — 192–77–27. Ганад Бадрыевіч Чарказян[3], 96–51–05, хата. Ізя Якаўлевіч [майстар па рамонце друкаваных машынак], 65–54–68; 28–95–22 — Лявон Дранько-Майсюк; Куйбышава, 44–101, Рыбчык Уладзімір Аляксандравіч.

*14 верасня, пятніца*

* * *

*Рыгору Барадуліну*

Мой мілы Грыша Барадулін,
Апроч пасад, усё спасціг,
Насмешнік музы беспрытульнае
І заадно — рэдактар кніг.

Сяброўства наша падазронае,
Хіба што паэтычны фон,
Факір размовы тэлефоннае,
Ты адключаеш тэлефон.

Дні аклікаюць паняверкаю,
Мне фінішам здаецца старт,

---

[1] Сафійскі праваслаўны сабор, помнік архітэктуры XI–XVIII стст., пабудаваны пры князі Усяславе Брачыславічу паміж 1044–1066 гг. (паводле іншых звестках 1050–1060). Неаднаразова перабудоўваўся.

[2] Бурсаў Іван Цярэнцьевіч (н. 1927), рускі паэт, перакладчык. Ураджэнец Беларусі. З 1965 г. жыве ў Маскве.

[3] Чарказян Ганад Бадрыевіч (н. 1946), курдскі паэт, празаік. У 1982–1993 гг. інжынер-тэхнолаг мінскага ўчастка Слонімскай фабрыкі «Гасцінічная мэбля».

І час, праведзены з люстэркамі,
Аддам за твой імгненны жарт.

Адны над намі зоркі з поўняю,
Ды ўсё ж з жыццёвай прастаты
Табой мінулае запомню я,
І ў будучым — са мною ты.

Не ўсім да славы ў ладкі пляскаюць.
Пад вершаваны разнабой.
Я блытаю вядомых класікаў,
Але нікога з іх — з табой.

І лёс мой ласкавы згрызотамі,
І шчасце мроіцца яшчэ…
Запомню першаю пяшчотаю
Апошні сум тваіх вачэй.

Як пры сустрэчы выпадковае,
Звярнуся лішні раз на дні
Знаёмымі такімі словамі:
— Мой мілы Грыша, пазвані!

*Вера Вярба*[1]

*16 верасня, нядзеля*

Цягнік — 4. Каралёў[2] Уладзімір Раманавіч 22–52–27.

Mister Смерць[3]. Паўднёвая Афрыка, Намібія, «Новое время», апошні № 1983 г.

[Чужой рукой:] Санникова[4] Алла Владимировна 20–80–24, 22–45–26.

121200, Москва, МИД СССР, Представительство СССР в Нью-Йорке + 30 капеек марак на канверт.

А. Грачанікаву: 2 батарэйкі для жаночых гадзіннікаў (японскія, як 2 капейкі).

Тое, што РУД [?], для дзяўчат сувенір.

Himenez, Miguel Hernández. Іспанскі слоўнік Rosé Maria Moliner!

Прыправы (як РУД). Карэктар (прычындалле для друкавання).

---

[1] Вярба Вера (сапр. Сакалова Гертруда Пятроўна; 1942–2012), беларуская паэтэса.

[2] Каралёў У. Р., беларускі дыпламат.

[3] Яўменаў Леанід Фёдаравіч (н. 1932), беларускі пісьменнік. У 1982–2002 гг. заг. аддзела навуковай інфармацыі НАНБ. Доктар філасофскіх навук (1977). Прафесар (1979). Член-карэспандэнт НАНБ (1991).

[4] Саннікава Ала Уладзіміраўна (н. 1933), выкладчык. У 1975–1999 гг. заг. кафедры беларускай і рускай моваў Мінскага дзяржаўнага медінстытута. Маці А. Саннікава.

Зайчыку[1] цёплыя пальчаткі № 17, доўгія ці халодныя, светлыя, каляровыя.

Англійская фірма «Flamaster», корпус металічны. Фетры (цюбікі — закрытыя, зменныя) і запраўка для яго, альбо тонкі фламастэр з запраўкай, тонкі металічны.

Ала Гіршфельд, Дэвід Лейван, Шароны.

0,35 леска 2 маткі, 2 вяртушкі, бляшня «Salman».

Олі Рэмавай [дачцы Нікіфаровіча] — карабок з-пад запалак.

Шаранговічавай[2] дачцы дробныя манеткі.

Дразду[3] алоўкі графітныя чорныя 5В, 6В, 7В, 8В (чым болей лічба — лепей). В — black.

Раісе Панцялееўне[4] джынсы (лепей з замкамі — 44, 170–176 даўжыня).

[Адрасы, тэлефоны, даты дзён нараджэння:] А. В. Вольскі 23.9.84; Рэм [Нікіфаровіч] 15.XI.34; Карлас [Шэрман] 25.Х.34; Пімен [Панчанка]; Стральцоў; Вялюга [Вялюгін]; 123458, Москва, ул. Твардовского, д. 23, кв. 302 Ів. Бурсаў.

[Рукой Валянціны Міхайлаўны:] Я. Рост 156, […]. Футра натуральнае, кароткае ці штучнае доўгае, светлае. Касцюм скураны ці пад скуру або асобна пiджак светлы, каляровы, акрамя чорнага і карычневага. Кофтачкі белыя, каляровыя. […] Масажор для твару і для шэі. Маме[5] што-небудзь цёплае, прыгожую кофту ці блузку голубую ці белую, […]. Гадзіннік, што-небудзь добрае. Акуляры -3,5, расст[ояние] 68, бліжэй да мужчынскага тыпу, але вялікія.

[Рукой Ілоны:] !!! 1. *Кінакамера* «Kodak». *Касетная*. Японская. Шыракаплёначная. Каб запраўляць касетамі, а не плёнкамі. Спытаць, каб разлічана была на касеты сусветнага стандарту, каб і нашы падыходзілі. !!! 2. Магнітафон «Шарп». Японскі. *Касетны*. Зашпільваючыміся калонкамі. Каб можна было яго пакласці ў сумку тыпу «Дыпламат» або несці ў руках. *З навушнікамі.* Можна 2 [малюнак] — калонкі. 3. *Боты вышэй калена*, да бёдзер амаль. Паляўнічага тыпу. Лепш скураныя і зімнія. *Без замка і без абцаса*. Або маленькі абцас [малюнак]. 4. Пэндзлі чым паболей. Плоскія, каланковыя, розных нумароў. Фірма «Rembrant». Галандыя або іншыя.

---

[1] Барадуліна Валянціна Міхайлаўна (н. 1939), беларускі філолаг; жонка. У 1967–1994 гг. ст. рэдактар выд-ва «БелЭ». Зайчык, Заяц, Зая — хатняя мянушка. Гл.: «Залётныя хмаркі крыўдаў і слёз…» (1.01.83) // Маўчанне перуна. С. 40; Валі (29.11.86, Бараўляны) // Самота паломніцтва. С. 168.

[2] Шаранговіч Наталля Васільеўна (н. 1967), студэнтка журфака БДУ (1984–1989). Дачка В. і Г. Шаранговічаў.

[3] Дрозд Аляксандр, мастацкі рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[4] Хмялеўская Раіса Панцялееўна, заг. вытворчага аддзела выд-ва «Мастацкая літаратура».

[5] Сталярова Таццяна Харлампіеўна (1914–2005), маці В. Барадулінай.

5. Эцюднік [малюнак]. Перанасны, як у мяне, толькі лёгкі. 6. !!! *Джынсавы касцюм* (44–46 памер). Куртка на касцюме не піджачнага тыпу, а куртачнага. Арыгінальнага фасону. З зашпільваючымся горлам і кішэнямі збоку. Мноства кішэняў. (Wrangler.) 7. Асобна джынсы. Фірма *Wrangler лепш за ўсё* (Вранглер). Або Mantana. 8. Штаны-камбінізон з мноствам кішэняў. Джутавыя тыпу вайсковых паўдзённых войск. Можна і інш. фасону, але каб на штанах кішэняў паболей [малюнак]. 9. *Капелюшы*. Некалькі. *З шырокімі палямі* і тульей [малюнак]. Цікавых фасонаў. Можна мужчынскіх, але *палі* вялікія. 9. Туфлі. Святочныя. Лодачкі, без або з маленькім абцасам. 10. Сукенку Прыгожую. Можна джынсавую. Лепш за ўсё. 11. Сумку *скураную*. Вялікую. З карманамі. Фотакарэспандэнцкага тыпу. Цвёрдая. 12. Красоўкі на вельмі тоўстай падошве. Трактары. 13. ! *Белыя*, мужчынскага тыпу, туфлі. Вузкія, доўгія. Як у цябе чорныя. Асенне-вяснова-летнія. 14. Лялечкі. Тыпу ганконгскіх. 15. Паштоўкі. Паштовы набор з канвертамі (2). Прыгожы. Рост — 163, [...].

[Рукой Валянціны Міхайлаўны:] Эльк[інд][1], Грынчык, Мальдзіс, для краўчыхі купіць сантыметры.

103055, Масква, Новалясная, д. 6ф, кв. 138. Міцкевіч[2] Любоў Міхайлаўна.

*17 верасня, панядзелак*

[*Масква*.] Шарамецьева, адлёт. Чаканне. Ляцім Капенгаген — Лондан.

[Аэрапорт] *Шэнан*. Стракаты палавічок, плот. Дрэвы жывыя адгароджваюць участкі. Кава, [неразб. 2].

*Нью-Йорк*. 23.30 па Маскве. Мост на Манхэтан — грошы. Мыта, як у сярэдневякоўі (вадзіцель наш дае 1,5 долара і просіць квіток). У аэрапорце на поясе ў палісмена поўны набор і ключоў, і наручнікаў, і, выдома, пістоль[3].

*18 верасня, аўторак*

*Нью-Йорк*. Адкрыццё 39-ай сесіі ААН[4]. Удар малатка. Хвіліна. Малітва. Ці на роздум, ці бітва, ці розум. І ўдар малатка, як на рынгу ці на сусветным рынку. На рынку, дзе праўда і мана. На балансе жаху. Ад навушніка, у які ўкладваеш вуха, можна стаць аблавухім.

---

[1] Элькінд Сямён Саламонавіч, супрацоўнік СП БССР.

[2] Сыцкевіч (Васманава) Л. М., стрыечная сястра Рыгора Іванавіч па бацьку. Міцкевіч — дзявочае прозвішча бабулі.

[3] Гл.: Ад каго? (9.10.84, Нью-Ёрк) // Маўчанне перуна. С. 248.

[4] ААН — Арганізацыя Аб'яднаных Нацый, міжнародная арганізацыя дзяржаў, створаная ў мэтах падтрымання і ўмацавання міру, бяспекі і развіцця супрацоўніцтва паміж дзяржавамі (з 1945; СССР, УССР і БССР уваходзілі як асобныя прадстаўніцтвы). Р. Барадулін у складзе дэлегацыі БССР прымаў удзел у рабоце XXXIX сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

Ад навушнікаў зусім
Станеш аблавухім,
То пяецца гімн глухім,
То хоць мры ад скрухі.

* Прачынаўся ўсю ноч. А па-хатняму — усю раніцу, [глядзеў] то на амерыканскі гадзіннік, то на свой па-нашым часе, пакуль не перавёў, каб не блытацца.

*ААН*. Тлум, гул. Як перад з'ездам СП. На стале нашай дэлегацыі і іншых пра няўплату членскіх узносаў: Сальвадор — 60 727 долараў, ПАР [Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка; ПдАР] — 17 910 970 [дол.].

*19 верасня, серада*

Выхавалі 2 пакаленні, якія ніколі не працавалі, [жылі] на дапамогу па беспрацоўю. Апытанне: [на]колькі працуе інтэлект, здароўе кандыдата на пасаду прэзідэнта. Патрык[1] называюць madam; долар пакуль ідзе ўгору. Тры кіты: інфляцыю, сацыяльны быт, беспрацоўе, — усё, што абяцаў Рэйган[2], пакуль здзяйсняецца.

Амерыканец на паветраным шары [пераляцеў] цераз Атлантыку. Begmen, begwomen — людзі, якія носяць усё з сабой, вандроўныя жабракі. Бензін 3,7 л 1,18–1,50 дол. Наяўныя грошы — кэш, а ў асноўным [жывуць] у крэдыт усе, таму ў кабале самі рабочыя да канца. Трымаюцца за работу. Можна крыху выпіць за рулём, у залежнасці ад вагі даецца графік, калі і колькі можна выпіць. Фільмы толькі амерыканскія, эстрада толькі свая, асвятляецца толькі амерыканскае.

5 маракоў [зайшлі] у нашы воды; падкрэслена захапілі мы і трымаем у Сібіры, вядома.

Адкрытае тэлебачанне пурытанскае, а кабельнае літаральна ўсё — і секс, і жахі. Спецпрыстасаванне для прагляду перадач, ёсць 13-ты канал без рэкламы за рэдкім выключэннем. Папулярны футбол, баскетбол, бейсбол. Былы [кніжны магазін] «Чатыры кантыненты» цяпер Вік. Камкін[3] узяў 25 тыс. Выгонка [?] ў 50 тыс.

* Трохі горада. Паход у горад. Веліки прымкнуты, як сабакі, знята пярэдняе кола і прымкнута. На ланцугах прымкнуты і сметніцы. У бляшанкі звоняць дробныя манеты — жабракам кідаюць. Падыходзіць час абеду, шмат народу. Настолькі галодныя, што ядуць «гарачых сабак» (хот-дог, бутэрброды).

---

[1] Кіркпатрык Джын Дуэйн (1926–2006), прадстаўнік ЗША ў ААН (1981–1985).

[2] Рэйган Рональд Уілсан (1911–2004), прэзідэнт ЗША (1981–1989).

[3] Камкін Віктар Пятровіч (1902–1974), амерыканскі выдавец і кнігагандляр рускай літаратуры.

Шумны горад цягнецца паверхамі ў неба, хоць там мае надзею ўперціся ў цішыню. Нешта пасля Рыма ўсе гарады не робяць на мяне ўражання. Нью-Йорк асабліва. Гавана куды цяплейшая і ўтульнейшая. Дужа ўсе спяшаюцца. Холад адносін ці дзелавітасць, але няма нейкага кантакту паміж людзьмі.

Былі ў саборы, які першы наведаў Папа Павел[1]. Настолькі танюткія свечкі, што да іх і падумаць дакрануцца страшна. Звышашчаднасць. Амерыканцы і бога хочуць прывучыць да бізнесу.

Уся кіна-фота-апаратура японская. Гадзіннікі таксама. У кніжных магазінах практычна няма перакладной літаратуры. Толькі амерыканская. Шмат жахаў, забаўнай літаратуры.

Едзем пад вечар. Шыкоўны мужчынскі магазін зачыняецца. Напаследак збоку варушацца карабкі вялікія з кардону, адзін у адзін, думаў, кот ці хто гуляе. Аж гэта нейкі валацуга ўладкоўваецца на начлег. Недзе ў Мурманску не паляж ў бы так. Каб паляжаць, трэба выпіць, а каб выпіць, трэба папрацаваць, каб на гарэлку было. У крамах прадуктовых, як ў лядоўнях, — умеру ахалодна. Здаецца, усё хочуць замарозіць. Ахаладзіць, такая чысціня, аж хочацца муху ўбачыць, каб па-хатняму.

*20 верасня, чацвер*

*Агляд газет ранішні*. Перамовы Кітая з Англіяй наконт Ганконга, суверэнітэт будзе дадзены ў 1997 г. У Фларыдзе рак цытрусавых, вучоныя прапануюць спаліць. Сёння ≈ + 26$^0$.

*Артуру Вольскаму*

Артур, і ў 60 гадоў
Ты верны шчырасці дзіцячай.
Хлеб, дружа, з 40 падоў
Цягні,
Які завецца ўдачай.
Да ста —
І меней ні на год —
Свой творчы
Не спыняй паход,
Бо дабрынёю,
Кожнай рысай
Ты апраменены Ларысай.
Аж з небаскробнага Нью-Йорка
Віншую шчыра, —
твой Рыгорка.

---

[1] Іаан Павел ІІ (свецк. Вайтыла Кароль Юзаф; 1920–2005), Папа Рымскі (1978–2005).

*21 верасня, пятніца*

*Агляд газет*. Выбух у Бейруце [Ліван] ў пасольстве. Камікадзэ — аўтамабіль [узарваў]. ЮНЕСКО фінансы. Пентагон пераплачвае прыватным асобам за запчасткі.

*ААН*. Прымаюць новых у члены. Старшыня[1] віншуе, прапаноўвае заняць месца. Бруней — 159-ты член ААН. Пытанне пра курэнне ў залах паседжання. Прамоўца з красамоўствам у гонар старшыні ААН.

Краіны, якія пацярпелі ад апусташэння і засухі. Пленарныя паседжанні, як планетарныя. Сядзіць побач з чэхамі лысаваты, бурундучкованадзьмуты Сіянук[2]. Як гранд-дама ўперадзе злева сядзіць у светлым касцюме жонка Генсека[3]. Прадстаўнік Ірака (без гальштука ўсе, як прызнак рэвалюцыі). Падпарадкаванне богу толькі адно правільнае.

Амерыканцы любяць чырвоны колер у адзенні, але не ў ідэі. Пані Кіркпатрык (у насычана-чырвонай куртцы-пінжаку і такой жа спадніцы) у час вайны (пасля) дапытвала ваеннапалонных. Вітае прыём Брунея. Калі выступаюць кіраўнікі дзяржаў, па баках два паліцыянты. Бо быў выпадак, калі выступаў іранец, падбег студэнт, выхапіў прамову і кінуў на падлогу.

Старшыня заклікае быць пунктуальнымі, каб кворум быў, забараняе віншаванні, каб эканоміць час.

Выступае прадстаўнік *Афганістана* супроць уключэння на абвестку дня становішча ў Афганістане. Адзін з пунктаў: эфектыўная мабілізацыя жанчын для ўдзелу ў развіцці.

Старшыня пункты работы прадае з малатка.

*Крыху паперадзе.* Метро. Вагоны так распісаны, што і ў страшным сне не прысніцца. Душнавата. Публіка сярэдняя, у асноўным негры і белыя. Наша мінскае [метро] лялечнае ў параўнанні з іхнім.

*Брадвей*. Днём не такое, як у традыцыі, уражанне. Шум. Шмат людзей. І страшэнныя сірэны. Здаецца, пажарныя машыны спяшаюцца тушыць пажар усёй сістэмы.

*Парк*. Цікава агароджана, як у нас, тынам. Толькі дрот і дашчаныя планачкі. Сажалка — натуральныя качкі кракаюць. У вадзе бляшанкі з-пад усяго, што можна выпіць. Наогул, уражанне — амерыканцы, на ўвазе ў мяне Нью-Йорк, дагэтуль як прышэльцы паводзяць сябе.

---

[1] Лусака Пол Джон Фірміна, старшыня ГА ААН (і прадстаўнік Замбіі; 1984–1985).
[2] Нарадом Сіянук (1924–2012), камбаджыйскі прынц. У 1982–1988 гг. узначальваў Народны нацыянальна-вызваленчы фронт супраць ўрада Народнай Рэспублікі Кампучыя.
[3] Куэльяр дэ Хасэ Перэс, Генеральны сакратар ААН (1982–1991).

Бегаюць з празмерна пушыстымі з сіваватым алюмініевым адлівам хвастамі вавёркі. І на лапіклу зялёным дзятлінка крыху пабляклая, але ўсё ж знаёмка. Дрэвам, наогул, няма месца. Усе нейкія чахлыя. На стрэхах небаскробаў часам ёсць, — такія дамы даражэй, бо там можна дыхнуць нібыта.

*22 верасня, субота*

Першая субота тут. Па горадзе на машыне. «Блізняты»[1]. Выгляд з 107-га паверха. 100 паверхаў за хвіліну. Адзін скандынаў па канаце перайшоў. Для дзяцей выступіў — і на гэтым паліцыя адпусціла. Аглядная пляцоўка далёка ад краёў, і ўсё ўнізе [апавіта] калючым дротам, каб не кінуўся хто (клопаты), дрот пад высокім напружаннем.

Здалёк відаць статуя Свабоды[2] (падарунак французаў), яна ў рыштаваннях, як у кратах.

The World Trade Center New York (гандлёвы цэнтр). У памяшканнях унізе нейкі форум юрыстаў. Там што-небудзь бывае, арганізуецца. Castle Clinton, адкуль пачынаўся горад, першы форт. Тут перасяленцы каранцін вытрымлівалі. Цяпер музей эмігрантаў. Біблія пад шклом. З чым ехалі. Скульптурная група «Эмігранты». Непадалёк, на 67 St., быў мярлог мядзведзя.

*Чайнатаўн*. Кітайскі квартал. Шыльды па-кітайску. Пярэста. Вісяць у вітрынах традыцыйныя качкі. Flea market — блашыны рынак. Усё вісіць, ляжыць, прадаецца.

На вуліцы 66° па-амерыканскі праездам Гарлем. Трушчобы, дамы па 5–8 паверхаў з ацяпленнем, з вадой, але без ліфтаў і кандышана. Чорненькія дзеткі жвавыя, рухавыя. Цікаўныя, бегаюць, рухаюцца, жывуць.

*Рывердэйл.* Выступаюць скальныя пароды, і дрэвы аголенымі каранямі, як аголенымі правадамі, цягнуцца праз камяні ў зямлю, за зямлю. А значыць, за жыццё хапаюцца.

Ансамбль «Журавінка»[3] выступае. «Купалінка» расчуліла. Карызна з імі.

Зямля цэніцца ў цэнтры на см. І адпаведна ўгору лезуць, цягнуцца, можа, там спакой, можа, там паветра. У цяснінах небаскробаў амаль няма дрэў. Калі дзе і ёсць, дык чахлыя. Не разумею, як тут можна жыць гадамі.

---

[1] Вежы-блізняты — два з сямі будынкаў Усясветнага гандлёвага цэнтра. Архітэктар Мінору Ямасакі (1912–1986). Разбураныя ў выніку тэрарыстычнай атакі 11 верасня 2011.

[2] Статуя Свабоды — падарунак Францыі да 100-годдзя прыняцця Дэкларацыі незалежнасці ЗША (1876). Аўтар Бартольдзі Фрэдэрык Агюст (1834–1904). Апору і каркас статуі спраектаваў інжынер Гюстаў Эйфель (1832–1923).

[3] «Журавінка» — жаночы вакальны квартэт у складзе ансамбля «Харошкі» (1966–1987), створаны пры Дзяржаўным народным хоры Беларусі па ініцыятыве Г. Цітовіча.

Гэта як бясконцая камандзіроўка ці ў арміі. Настальгія — гэта ўсё ж не выдумка. Яна ёсць, існуе[1].

*23 верасня, нядзеля*

Трохі па горадзе. Зноў flea market. Увесь набытак. Што прывезена, што набыта, чаго толькі няма. І самавары, і забытыя ўпрыгожванні. І самі, хто прадае, як тавары, што выйшлі з ужытку.

Нядзельны «Таймс» 738 стар., цэлая дыскусія, ці памагаць памерці безнадзейным, ці працягваць іхняе існаванне. Медтэхніка дазваляе працягнуць, большасць за тое, каб не цягнуць гэтую безнадзейнасць, — багацейшыя і адукаваныя, белыя, і наадварот — меншы працэнт.

Газета блокамі: рэклама, бізнес, нерухомая маёмасць, багатыя нявесты выйшлі замуж, заручыліся, мастацтва і забавы (плёткі пра актрыс — з кім у кафэ, з кім спала), кніжны агляд, рэклама кніг, некалькі рэкламных часопісаў, блок вандраванняў, забілі жанчыну-паліцыянта (першы выпадак), забілі негры. Рэклама ў слупок, як вершы здалёк выглядае.

Каля сінагогі крыкуны з партрэтамі. Трэба адзначыць — стараюцца крычаць, як толькі самім не надакучыць. Адгароджаны паліцэйскімі лініямі. Прахожыя ідуць як нішто не здарылася. Кожны зарабляе грошы па-свойму.

Каля форта непадалёк адзін іграе, і рукі, і ногі, і губы заняты, madam паважнага ўзросту танцуе з цыгарай у зубах, з ёй сівы, але падхартаны дзед таксама танцуе, стараецца рабіць як меней і рухаў і прытым рухацца ўвесь час; сумна пазвоньваюць дробныя манеты ў скрынцы.

На адным балконе супраць нас убачыў кветкі, як дома. Можа, эмігранты.

* *Рывердэйл.* Ансамбль «Журавінка» выконвае «Купалінку»:

Купалінка, купалінка,
Цёмная дочка...[2]

Ва Ушачах. Малая Ілонка. Мама[3] пяе, Ілонка падпявае: «Белы ручкі коліць...» А мама калола рукі і асотам, і дзядоўнікам, і іголкамі.

---

[1] Гл.: Дзень добры! (2.10.84, Нью-Ёрк) // Маўчанне перуна. С. 242.

[2] Апіска: трэба — ночка.

[3] Барадуліна Акуліна Андрэеўна (1909–1971). Гл.: Слова (1.06.84), Веды (10.06.84, Кемеры) // Маўчанне перуна. С. 57, 6; Парашутны шоўк (10.03.86), «Ступае грузна мажная кабета...» (18.01.87), У адкрытым космасе (17.12.87) // Самота паломніцтва. С. 92, 65, 62.

*24 верасня, панядзелак*

*Агляд газет*. Рэйган сустрэўся з Грамыкам[1]. Рост самазабойстваў сярод мужчын у гадах, ад 60-ці да 74-х гг., да 40 % — 74–85, чым старэй — большы; ад 15 год да 24-х — 18 %. Кароль Марока клянецца ў вернасці Амерыцы. Кіркпатрык супроць нападу на паддадзеных ЗША (Бейрут). У Джоржыі бяруць выкладчыкаў з ФРГ матэматычных і натуральнай навукі.

*ААН.* Следам за Рэйганам рэанімацыйная машына. Дзве зялёныя калонкі, маніторы, аглядзела жанчына. Сабака вынюхвае дынаміт — 1600 дол. Садзіцца ў крэсла. Старшыню [Лусаку] запрашае. Вітае абранне старшыні. «Дзве праблемы: мір і права наша прынадляжаць да людскога роду. Спыненне вайны і прыцясненне духу чалавека. Што раздзяляе нас і аб'ядноўвае. Будучае блізка. У сярэдзіне эканамічнага развіцця». Па баках два звераватыя ахоўнікі ўнізе, уверсе 2 паліцыянты. «Творчы дух чалавека развівае эканамічны прагрэс. Расшырэнне гандлёвых рынкаў ва ўсім свеце». Жонка ў чырвоным, падцягнуты, падмасажырваны твар (нешта ад Юлі[2] Генкавай).

«Саюз з Кітаем. Наша нацыя нарадзілася ў рэвалюцыі, і мы ганарымся гэтым. Мы не баімся тэндэнцый гісторыі. Дапамога ўсім». Жонка аднachасова любуецца мужам і штохвіліны гатова да кіна- фотакамер, позіркаў. Не сядзіць, а працуе на публіку; сядзіць побач з жонкай Генсека ААН, таксама і тая ў чырвоным колеры.

«Нашы месцы ў ААН побач, так і ў палітыцы павінна быць». У зале пляскаюць ў ладкі. Насупроць жонкі Рэйгана губаты чорны мардаварот, пінжак не сходзіцца, адтапырваецца ад гаўбіц.

Прыгожыя фразы, цытуе Гандзі[3]. «Будзем карыстацца дарамі, якія даў нам пан бог. Нам пад сілу стварыць наноў увесь свет. Дзякуй вам усім, і шануй вас бог».

Старшыня забараняе віншаванне поціскам рук.

Прадстаўнік *Бразіліі*, гульня ў словы: «Свет нельга перастварыць з мірам, у эпоху крызісу пануе нацыянальны эгаізм».

Прадстаўнік *Брунея* 1млн ЮНЕСКО і 0,5 млн Нью-Йорку на бяздомных падарыў.

---

[1] Грамыка Андрэй Андрэевіч (1909–1989), савецкі дзяржаўны дзеяч, дыпламат. У 1957–1985 гг. міністр замежных спраў СССР. Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР (1985–1987). Герой Сацыялістычнай працы (1969, 1979). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1982), Дзяржаўнай прэміі СССР (1984). Ураджэнец Беларусі.

[2] Бураўкіна Юлія Якаўлеўна (н. 1940), беларускі філолаг. У 1979–1988 гг. гал. рэдактар, у 1988–1990 гг. дырэктар выд-ва «Народная асвета». Жонка Г. Бураўкіна.

[3] Гандзі Махамдас Карамчанд (1869–1948), адзін з лідэраў індыйскага нацыянальна-вызваліцельнага руху, яго ідэолаг.

*Ісландыя*: «Малаточак [зроблены] ісландскім скульптарам, галоўка выяўляе вікінга, які моліцца за мір».

Дэлегаты навязаны за вуха, як цяляты пры лужках сталоў.

Прэзідэнт *Аргенціны*[1]. Яго спачатку садзяць у крэсла. Потым просяць выступіць. Па традыцыі 2 паліцыянты як галасы ўрада.

*4-ты Камітэт*. Побач Burundi (злева), справа Cameroon. Манголка па-руску лёгка гаворыць. Пачынаюцца выступленні. Прадстаўнік Yemen насупраць злева чысціць кончыкам гальштука свае зіхоткія акуляры.

*Партугалец*. Засуха. Апустэльванне.

Прыехалі нашыя хлопцы. Рудольф[2] прывёз ліст ад Валі. Хлопцы, як асеннія мухі, сонныя — ляцелі доўга. Мне давядзецца сядзець на пленарных пасяджэннях да пасінення. Камітэт толькі з 15.X.

Любая высокая цана і абавязкова 98, 99 цэнтаў, хоць цэнт, ды пакупніку [прыемна], псіхалагічны трук.

*25 верасня, аўторак*

*Агляд прэсы*. Каментар прамовы Рэйгана ў ААН. Сацкраіны адзначылі ўмеранасць прамовы. Індыя ≈ 40 нашых «ястрабкоў» [самалётаў] атрымае. Агульны доўг краін, якія развіваюцца, краінам 8500 млрд дол., развітым толькі працэнтаў 13. Усё ідзе на даўгі, у Лацінскай Амерыцы на 10 % параўн. 80-х гг. знізіліся прыбыткі на [неразб. 1] [ал]каголь.

[*ААН.*] *Сіянука* вязуць нейкія шкілэндзікі, загасцяваўся, перасядзеўся ў прынцах, як у дзеўках. Як пацук палыселы.

Арабы патрабавалі крэсла *Арафату*[3], а заходнікі: ён не дзяржаву прадстаўляе, а рух, пасля доўгіх спрэчак вырашылі, крэсла будзе стаяць, але Арафат у яго садзіцца не будзе.

*Прэзідэнта Венесуэлы*[4] [саджаюць] ў крэсла і просяць выступіць. На адпаведных месцах двое генералаў, як пеўні распісаныя, з цэлай калекцыяй ордэнскіх калодачак, на дзвюх руках бранзалеткі. Паўднёвыя генералы таксама любяць бразголкі. Вялікія даўгі. Дзясяткі млн долараў з Лацінскай Амерыкі [кладуцца] ў банкі развітых краін. Жахліва наркоцікі паралізуюць краіны.

---

[1] Альфансін Фулькес Рауль Рыкарда (н. 1926–2009), прэзідэнт Аргенціны (1983–1989).

[2] Собалеў Рудавільт Акіндзінавіч (? — 1991), беларускі дыпламат.

[3] Арафат Ясір (1929–2004), лідар Нацыянальна-вызваліцельнага руху Палесціны, вярхоўны галоўнакамандуючы (з 1970). Лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру (1994).

[4] Лусінчы Хайме Рамон (1924–2014), прэзідэнт Венесуэлы (1984–1989).

90 хвілін выступае *ірландзец,* а на крэслах краін, якія маюць статус прысутнасці, лысы негр так блішчыць ілбом, што ні з якога цёмнага дрэва так не адпаліруеш. Словаблуканне і небяспечны адыход ад шматбаковага падыходу.

*Канадзец.* Атава, ад індзейцаў слова *месца сустрэчы*. Атава — месца сустрэчы травы перад тым, як яна знікае да вясны. Спачатку па-англійску, потым па-французску, гэта адзіная краіна, якая дэманструе роўнасць моў. Заўсёды. І тэкст, які раздалі, на 2-х моваў аддрукаваны.

*Калумбіец*. Даўгі. Наркотыкі. «Сёлета быў забіты міністр юстыцыі, бо барацьба з наркотыкамі [прэтэндуе] на сваю долю ў асваенні космасу. Геастацыянарная арбіта служыцьме інтарэсам усяго чалавецтва».

Сіянуку выносілі крэсла жонка і куча баб нейкіх з вузкавокімі позіркамі.

Зараз зброі столькі, што можна знішчыць праціўніка 10 разоў. Не забараніць зброю, а вызваліць дух і рукі чалавецтва.

*Датчанін.* Асцярожны аптымізм.

Сёння ўночы ўжо сны праз акіян пераплылі[1]. Чамусьці снілася, што памёр Кляўко[2], Мядзведзь[3]. Хоць яны даўно мёртвыя. Усю ноч нябожчыкі.

*26 верасня, серада*

*Агляд Time*. Прэса шуміць наконт выступлення Рэйгана. Разбіраюцца прычыны выбуху ў Бейруце. Выбух сёння ўночы ў паўднёваафрыканскім office.

Асабліва старая эміграцыя [руціцца], каб адпавядаў праваслаўны свяшчэннік. Пры армянскай царкве, пры каталіцкай нядзельныя школы, дзе вывучаецца гісторыя, мова. Амерыканскія хімікі знайшлі сродак на барацьбу з тараканамі. Асабліва церпіць дакладная тэхніка. Бралі вожыкаў і запускалі на ноч. Хімікі знаходзяць сродак для стэрылізацыі самак тараканаў.

За вокнамі нарэшце дождж. Першы амерыканскі, хоча змыць негрыцянскасць асфальту.

*ААН. Пленарнае паседжанне*. Зноў запазычанасць. Зноў краіны-донары.

---

[1] Гл.: Я пасылаю сны за акіян (3.10.84, Нью-Ёрк) // Маўчанне перуна. С. 241.

[2] Кляўко Генадзь Якаўлевіч (1932–1979), беларускі паэт, перакладчык.

[3] Нядзведскі Уладзіслаў Іосіфавіч (1929–1973), беларускі паэт.

*ФРГ, віцэ-канцлер*[1]: «Карабель-зямля не зможа болей трымаць на сваім борце чалавецтва. Кіслотныя дажджы, запустыньвасць. ФРГ мае вопыт [барацьбы] з забруджваннем навакольнага асяроддзя, генныя тэхналогіі, меней хіміі. Спадчыннасць пад аховай мусіць быць. Супраць катаванняў і смяротнай кары». Цікава, ён агітуе за мір. Толькі ў адказ прымяніць зброю. Еўропа адчула на сабе жахі дзвюх войнаў. Канцлер [Геншэр] і прэзідэнт Францыі[2] ўшанавалі памяць ахвяр, гэта ўзор дружбы. Цікава, як гладка на словах, як дыпламатыя паветраныя шары запускае. Хоць у перадавы артыкул нашай газеты. «Мы гатовы даваць і гатовы браць — абмен культурай».

*Міністр замежных спраў Кітая*[3]: «Чалавецтва хвалюе пагроза ядзернай вайны. Ядзерныя запасы дасягнулі небяспечных памераў. Дзве супердзяржавы ≈ 95 % ядзерных запасаў усяго шара. Нават трошкі хопіць для сусветнай катастрофы. Ядзерныя выпрабаванні ў космасе. Выступілі з шэрагам жэстаў наконт абмежавання выпрабаванняў і гонкі ўзбраення ў космасе. Пазіцыя Кітая:

1) поўная забарона і зні[штажэнне] ўсяго ядзернага ўзбраення;

2) калі дзьве дзяржавы дамовяцца наконт скарачэння, трэба сабраць усіх — пакет мер;

3) а пакуль усім ядзерным дзяржавам не прымяняць першымі і супроць няядзерных дзяржаў.

Гатовы абмяняцца думкамі ў рамках ААН ці ў іншых выпадках. Пры падтрымцы некаторыя гегеманісты падпарадкоўваюць сабе чужыя тэрыторыі. На зямным шары шмат гарачых кропак, могуць быць іншыя. Маніпуліраванне за сцэнай. Ахаладжэнне гарачых кропак. Мірна страх аб'ядноўвае, а прагнасць прыводзіць да суперніцтва». Кітайскі прамоўца ні слова пра ЗША не сказаў.

«Супроць В'етнама. Супроць гегеманізму Кітай, ніколі не заключыць саюза ні з якой вялікай дзяржавай, з адной супраць другой. Пяць прынцыпаў з Індыяй і Бірмай заключаныя. Усё залежыць, ці прытрымліваюцца пяці прынцыпаў. Кітай здзяйсняе буйнамаштабныя сацыялістычныя мадэрнізацыі. Мы абступіліся і пацярпелі, але і набылі вопыт. Няма мадэлі — кожны па сваім шляху рухаецца. Адна краіна — дзве сістэмы. У рамках сацкраіны ў Ганконгу будзе капіталістычная сістэма 50 год. Кітай хоча жыць у міры з усімі краінамі, уключаючы ЗША і СССР». Але Штаты ўперадзе.

---

[1] Геншэр Ганс Дзітрых (1927–2016), палітычны і дзяржаўны дзеяч ФРГ, дыпламат. У 1974–1992 гг. міністр замежных спраў і віцэ-канцлер ва ўрадзе Г. Коля (1982–1992).

[2] Мітэран Франсуа (1916–1996), прэзідэнт Францыі (1981–1995).

[3] У Сюэцянь, міністр замежных спраў Кітая (1982–1988).

Грамовіч не змог бы сядзець тут, бо ніводнае вуха, не паламаўшыся, не ўлезла б у мікрафон-навушнік.

*Францыя*: «Францыя доўгі час ваявала з суседзямі, але й умее сябраваць. Са сваім суседам — Германіяй наладзіла адносіны. Спыніўся рост. Рынкі не забяспечваюць закупак. Дзіва экспарцёраў нафты знікла. Пайшоў рост даўгоў. Пачаўся спад, скараціўся імпарт. МВФ[1] патрабуе жорсткасці рэжыму выдаткаў».

*Англія.* Тэрарызм. Групы асобныя ўдзельнічаюць, нават [?] урад.

*Японія*. Пра забарону хімічнай зброі. Вольны ход у заліве. Скараціць узровень парога ядзерных выпрабаванняў. У Афрыцы 150 млн чалавек.

Міністр[2] па дарозе расказваў: адзін прыехаў, лічыў — мову ведае і ўсе адпаведна one way (аднабаковы рух). Абышоўся і пытае: дзе one way street?

*Іспанія* (*міністр з[амежных] с[праў][3]*).

Прыём у The Walford Astoria. Бруней Дэрусалам. Гасцей вітае гаспадар з гаспадыняй, прынц, і адпаведна прыём, імітацыя блакітнага неба. Унізе магазіны — рэкламы фірм. Можа вагон спыніцца персанальны.

Пімен (не Панчанка) зрабіў прыём. Нумар ці блок 1000–1500 долараў за суткі. Гэты прыём (бо без гарэлкі — мусульманіста) ≈ 25 тыс.

Вы чуеце:
Ядзерная зіма
Планеце ў патыліцу дыхае[4].

*(13.05.86)*

*

А недзе дома сівер пахне зёлкамі
У свежаразварушаных стагах.
І вымашчаны зябкімі аполкамі
І дымам, і пяколкамі
дрыгвіста
Млечны Шлях.

---

[1] МВФ — Міжнародны валютны фонд, спецыялізаваны ўстановай ААН з мэтай прадастаўлення сярэднетэрміновых плацёжных балансаў і падтрымання валютных курсаў (з 1944).

[2] Гурыновіч Анатоль Емяльянавіч (1924–1999), беларускі дыпламат. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол. Міністр замежных спраў БССР (1966–1990). Узначальваў дэлегацыі БССР на сесіях Генеральнай Асамблеі ААН.

[3] Фернанда Маран Лопес (н. 1926), міністр замежных спраў Іспаніі (1982–1985).

[4] Гл.: Клічнік (13.05.86–10.06.86) // Самота паломніцтва. С. 119.

*Хто чуе?*

Пакуль дабрабыт
Пазяхае зяўма,
Пакуль размнажаецца
Подласць ціхая, —
Хто чуе,
Як ядзерная зіма
Планеце ў патыліцу дыхае?

*[1986]*

*27 верасня, чацвер*

*Агляд прэсы*. Сустрэча Шульца[1] з Грамыкам. Англія аддала правы Кітаю над Ганконгам. На цыгарэтах будуць болей жахлівыя надпісы, каб не курылі. Нягледзячы на тое, што Грамыка гаворыць па-англійску, выступіў па-руску, слухаў па-англійску, рэплікамі абменьваўся па-англійску.

Адзін вар'ят расстраляў каля 30 людзей у маленькім рэстаранчыку ў Сан-Ісідра, і дзеці, і старыя, і ўсе. Ён беспрацоўны. Адна жанчына атруціла 4-х чалавек і сваю маці. Вырашаюць, караць яе ці не. Учора выбух у консульстве Паўднёвай Афрыкі.

*ААН*. Цімур віншуе жонку Грамыкі.

*Панама*. Славаслоўе старшыні [Лусаку]. Міжакіянскія функцыі Панамы.

Кантрастнасць нашых жанчын з паджарымі еўрапейкамі і амерыканкамі.

Канал 15 тыс. судоў штодня выпускае.

Паступова ўся зала запаўняецца, асабліва галёрка, дзе госці, прэса — як вулей. Неўзабаве выступіць Грамыка. Жонка Генсека поплеч з Грамычыхай. Абедзьве сядзяць нага на нагу, заклаўшы з розным эфектам.

Японская прымаўка: добры бізнесмен павінен жадаць, каб яго кліенты працвіталі, — цытуе панамец.

*А. А. Грамыка*. Вітанне. Коратка пра стварэнне ААН. А ўсё роўна беларускае вымаўленне і *г* і цвердаватае *р, дз* і *шч*. Прыемна, як дома! Падносяць чай. Раней нікому не падносілі. І *ў* замест *в* праскоквае — Беларус! Знішчэнне ядзернай зброі. Свет пераступіў тую рысу, дзе накопліванне ядзернай энергіі без сэнсу. *Маршах пратэсту* (падкрэслена *э*). Вакол за шклом — калекцыя фэбээраўскіх ілбоў, як за вітрынай.

«Стварыць сусветную арганізацыю ў выкарыстанні космасу ў мірных мэтах. Частакол ракет ЗША і саюзнікаў. Мы прадпрымаем адказныя

[1] Шульц Джордж Прэтт (н. 1920), дзяржсакратар ЗША (1982–1989).

меры. Мы за раўнавагу, па магчымасці, самага нізкага ўзроўню. Ненажэрныя жорны ваеннай вытворчасці. Арт. 2 ААН — нават не мае права ўмешвацца ва ўнутраныя справы іншых дзяржаў. Прапанова — не дапускаць дзяржаўнага тэрарызму, не пачынаць ваенных дзеянняў з гэтай мэтай». Пасля выступлення Грамыкі адразу пусцее зала.

*Індыя*: «Вочы заліты крывёй, а розум затуманены страсцямі, нянавісць можа парадзіць нянавісць», — Неру[1]. Палітыка недалучэння.

Да Генсека [дэ Куэльяра] падбягае чорна-чорная негрыцяначка ў зырка-чырвоным, як стручок перца. Паліць уяўленне: дакрануўшыся, згарыш — дым пойдзе.

*Індус* пра Шры Ланку. Дзе прыцясняюць тамілаў, шмат бежанцаў-тамільцаў у Індыі. «Ідэю нельга забіць, забіваюць яе прыхільнікаў». Дзясяткі кіламетраў слоў.

*Конга*. Хвала ў гонар старшыні.

Па-афрыканску, па-ўсходняму запаўняецца пярэста вальер дам. Дужа важная дэталь, яна разнастаіць аднастайнасць суму выступленняў. Мяняюцца жонкі, дамы, змяняюцца ўборы на жонцы Генсека, — усё ж нейкі рух.

*Кангалезец*. Зноў апустыньванне, бежанцы, галеча Афрыкі. «Палітыка апартэіду[2] — гэта той жа фашызм, нацызм, шрам на сумленні чалавецтва».

Касмічныя лічбы выдаткаў на зброю ўжо сваім ілбом упіраюцца ў космас, чалавечы розум спрадвеку да зор імкнуўся, а лоб вайны ўпёрся ў іх. Каб не стала самай светлай зоркі Сусвету — нашай Зямлі. Зямля, як маятнік Фуко[3] пад столлю ААН, трымаецца на тонкім валаску розуму, клёку чалавечага[4].

*Чытальня бібліятэкі ААН*, «Звязда» і «Советская Белоруссия» ад 15 верасня. На стэндах «Україна» за верасень па-ўкраінску і па-англійску. Гляджу па алфавіту. Ёсць «Балгарыя» па-англійску, ёсць «Карэя», «Японія» па-англійску. «Беларусі» няма. А варта было б, як украінцы, рабіць хоць тры разы на год па-англійску наш часопіс «Беларусь». Усё-ткі ж член ААН. «Soviet Union», «Soviet Life» ёсць, ёсць «Коммунист», «New Albania» ёсць.

---

[1] Нэру Джавахарлал (1889–1964), прэм’ер-міністр і міністр замежных спраў Рэспублікі Індыя, паплечнік М. К. Гандзі ў барацьбе за нацыянальнае вызваленне.

[2] Апартэід — найбольш крайняя форма расавай дыскрымінацыі. Абазначае пазбаўленне і істотнае абмежаванне палітычных, сацыяльна-эканамічных і грамадзянскіх правоў якой-небудзь групы насельніцтва.

[3] Фуко Жан Бернар Леон (1819–1868), французскі фізік. Здзейсніў вопыт з маятнікам (т. зв. маятнік Фуко).

[4] Гл.: Пакуль не позна (5.10.84, Нью-Ёрк) // Маўчанне перуна. С. 244.

Жанчына, што выдае каталог, звоніць па тэлефоне, па-руску дае ўказанні, як апрануць дачку, увесь час устаўляе о’кэй!

Japan’s sex industry as number one у часопісе «Сучасная Японія». Чалавецтва выдаткоўвае апошняе — сорам, святое святых — на рынак, індустрыйны паток. Гэта ці імпатэнцыя, ці поўная дэградацыя. А ўсё пад лозунгам — свабода чалавека выражаць свае пачуцці. У Японіі ёсць т. зв. турэцкія лазні. Анекдот нават — турак прасіў адвезці яго ў турэцкае пасольства, а яго — туды. Падняў вэрхал, апашленне паняцця турэцкі. Ёсць кафэ, дзе лёгкія напіткі, а афіцыянткі толькі ў спадніцах, за дадатковую плату ў асобным пакоі можна паказаць усё, чым багатая. Секс-фільмы, секс-шопінгі і г. д.

*Люксембург:* «Знешняя помач не можа зрушыць спад 3-га свету». Супроць катаванняў.

*Йемен:* «ЗША — палітыка нарошчвання мускулаў. На зброю мільёны долараў, а мільёны паміраюць ад голаду». Рэзка супроць ЗША, смела: «Палітыка шантажу і запалохвання».

*28 верасня, пятніца*

*ААН*. Ля ўвахода наш каментатар запісваецца для Масквы па тэле. Тэле іхняе. Фатаграфуюць прэсу. Працэс натуральны, усё, як і ў нас. Тэхніка крыху меней грувасткая, чым у нас.

*Перу (прэзідэнт[1]).* Адпаведна крэсла. Ад’ютант з аксельбантамі. Жонка Генсека ў новым уборы. Еўрадолары — зноў крэдыты, даўгі. «Рэжым жорсткай эканоміі паралізуе ініцыятыву людзей, можа выклікаць выбухі; імкнемся да зліцця традыцый індзейскай і еўрапейскай. Тэрарызм. Шмат загінула ахоўцаў параду мірных людзей, гандляроў. Удар па электраэнергетыцы, што балюча для народа. Карані тэрарызму не дома, таксама жах — наркотыкі». Каля ложы, дзе жонка і дама, негрыцянка з бяспекі ахоўвае дам.

Выступаў першы пакуль што без даклада. Генсек [дэ Куэльяр] і старшыня [Лусака] праводзяць прэзідэнта.

*Афганістан. Міністр замежных спраў[2]:* «Штаты націскаюць фінансавым адмаўленнем. Падтрымаць ініцыятыву Манголіі. Падтрымка заявы нашай». Штаты сядзяць уперадзе, а за імі спіной Афганістан.

*Егіпет:* «Імем алаха вялікага і міласэрнага, віншую Вас, пан старшыня…» Праблема Палесціны і Ізраіля.

Чалавецтва хацела падняцца ў космас, каб з вышыні паглядзець на свой агульны дом, на самога сябе, здавалася б, што яшчэ, глядзі на ўзроў-

---

[1] Белаўндэ Тэры, прэзідэнт Перу (1980–1985).

[2] Дост Шах Мухамад (н. 1929), міністр замежных спраў Афганістана (1979–1986).

ні зор, вачыма зор. Дробязі не бач. Дык не — звычка і зброю з сабой. Зямная звычка, што са зброяй спакайней, і захапіць можна куды большы кавалак.

*Ірак.* Слухаюць жонкі раз у тыдзень, што робяць мужы. Жонкі в'етнамкі. Зноў вайна, колькі парушэння граніц, колькі ахвяр.

*Polska. Міністр замежных спраў Альшоўскі*[1] выступае па-польску. *Батсвана* — праект, рэзалюцыя. Сітуацыя ў Паўднёвай Афрыцы.

*Byelorussian SSR* адцягнуць далей па алфавіту. Міністра [Гурыновіча] спыталі: «Вы ўсё-ткі White Russian». — «Не, мы — Red SSR». На шыльдзе не змяшчалася, пацііснулі.

ЗША на галасаванне спецыяльна аднаго негра пасадзілі. A. (39) L. 2. Націскаў зялёную кнопку сам! За 133, устрымаліся 2 (ЗША, Англія). Паўднёвая Афрыка (ЗША лічаць) — гістарычны саюзнік, а Ізраіль — стратэгічны.

*Англія* апраўдваецца і ўсё скрашвае, з ног на галаву ставіць усё.

*Японія* за кансэнсусную рэзалюцыю.

*Канада* супроць 3-га пункта ЗША.

Выступае негр супроць апартэіду, супроць разцуглянай рыторыкі, супроць 3-га пункта (неапраўдана) і не кампетэнцыя ААН адмяняць канстытуцыю. Туман наконт правоў самога народа вырашаць, калі трэба Штатам супроць пуэртарыканцаў выпускаць пуэртарыканцаў. Хай самі сябе.

*ФРГ* віляе. Супроць 3-га пункта.

Міністр [Гурыновіч] расказваў, як вырашалі некалі пастанову аб выдачы злачынцаў і суду іх на месцы злачынства. А прадстаўнік Саудаўскай Аравіі з дня заснавання — нейтральны міжнародны суд. І ніхто нікога не мог пераканаць. Падказаў [прадстаўнік] з малой краіны. Папрасілі параду як мудрага. І ён знайшоў выйсце. Mister маўчаў, а прадстаўнік іншай краіны падтрымаў, — так і была прынята рэзалюцыя.

*29 верасня, субота*

Яшчэ нуль адзін, і канец верасня. Вось доўгі месяц. І ў Полацку быў, і магільнік мамы ва Ушачах наведаў, і ў Мінску накруціўся, і ў Нью-Йорку наседзеўся і крыху пабегаў.

*Metropolitan*[2] — наведванне музея. Шыкоўны, пампезны, багаты. Старажытнасць, Еўропа. Сваё бедненька, як дрэнныя вучні, што разбагацелі і, між іншым, мастацтвам. Каля музея крыху чокнуты, відаць, былы

[1] Альшоўскі Стэфан (н. 1931), міністр замежных спраў ПНР (з 1981).

[2] Метраполітэн-музей, адзін з найбуйнейшых мастацкіх музеяў міра, заснаваны ў 1870 г.

співак оперы ці [пасля] ДТП[1]. Спявае па лістку. Адчынены чамадан. Пазвоньваюць манеты рэдка, а долары не аблятаюць. Наогул, скрыпач на вуліцы іграе — раскрыты футарал побач, — кідай, колькі хто можа. Ля музея нейкі «чудик» расфарбоўвае сябе белай фарбай — каб звярнулі ўвагу. Ідзем далей. Нейкі, як поп-растрыга, бярэ зямлю пальцамі і чэша валасы, — даўні спосаб супроць кузурак у галаве.

*Даўнтаўн.* Негры крычаць так, як быццам пачалася апошняя Сусветная. Прадаюць, хто што можа. Адзін ціскае маленькіх малпачак, зробленых з нечага мяккага, і ў іх вялікія пэнісы выскокваюць.

Уначэлы горад крыху мякчэйшы і цішэйшы, прыгашанае асвятленне збольшага стварае ўражанне вечаровага горада.

*30 верасня, нядзеля*

Апошні дзень месяца. Крыху пахадзілі па вуліцы, зайшлі ў краму. Тавару шмат, народу мала. Цэны вялікія. Амерыканскіх тавараў мала. Усё Японія, Еўропа. Як перакупшчык краіна.

*1 кастрычніка, панядзелак*

*Агляд прэсы*. Сустрэча Грамыкі з Шульцам і Мандэйлам[2]. Мяркуюцца перамовы пад кантролем над узбраеннем на ўзроўні [неразб. 1] краін. У Італіі арышты мафіёзі. 360 ордэраў на арышт. Гэта самы буйны арышт пасля вайны. 4 гадзіны баі ішлі ў Камбоджы. Лех Валенса[3] і яшчэ дзесятак кіраўнікоў прынялі ўдзел у малебне для рабочых, сцягі «Салідарнасці». Мандэйл супроць Рэйгана, крытыка сустрэчы з Грамыкам; назваў Рэйгана «інжынерам гонкі ўзбраення».

*ААН*. *Іарданія.* «ААН стала заложнікам у дзьвюх звышдзяржаў як міжнародны орган; міжнародны адчай і збянтэжанасць. Ізраіль: тэрыторыя ўзамен за мір. Палітыка выцясніла арабаў са спаконных зямель, каб большасць было яўрэяў, чым карэннага насельніцтва».

*Балгарыя* (*Младэнаў Petr*[4]) гаворыць па-руску з моцным акцэнтам. «Першы ўдар — фактычна заклік да ядзернай вайны».

*Сірыйская Арабская Рэспубліка*: «Больш паловы ўсяго раёна паклады энергіі, калыска трох боскіх рэлігій. Сіяністцкія расісты. Нашы воды як міжнародныя».

---

[1] ДТП — дорожно-транспортное происшествие = дарожна-транспартнае здарэнне.

[2] Мандэйл Уолтэр Фрэдэрык (н. 1928), амерыканскі палітычны дзеяч.

[3] Валенса Лех (н. 1943), адзін з заснавальнікаў Незалежнага самакіруемага прафсаюза «Салідарнасць» (1980), з 1981 г. яго старшыня. Лаўрэат Міжнароднай прэміі па правах чалавека, Нобелеўскай прэміі міру (1983).

[4] Младэнаў Петр Тошэў (1936–2000), міністр замежных спраў БНР (1971–1989).

*Албанія*. Сядзіць адзін амерыканец, адна ўкраінка, 1 с. [?]. Шмат выходзіць. Пачынае граміць імперыялістычныя дзяржавы. «Нібыта будучае залежыць ад узбраення дзьвюх звышдзяржаў. Паралізаваць волю народаў. Не трапляць у пастку звышдзяржаў».

Па вуліцы едзем. Вітрына «Геніяльны кравец», магазін «Пакінутая жанчына» (The Forgotten Woman).

*Мазамбік*. Усе супроць узброенага бандытызму. Запусцілі дыпламатычную кампанію супроць ворагаў. Супроць наёмніцкага міжнароднага бандытызму.

*Туніс.* Лопнула лямпа ад перанапругі ўверсе пад высокім купалам. «Мілітарызацыя космасу, які раней быў вобласцю фантастыкі. Ізраіль адводзіць воды рэк з Лівана».

Mister [Гурыновіч] расказваў. Раней перакладалі белаэмігранты старыя. Так граф Арлоў перакладаў аднойчы: «Зноў менціць языком (треплется)», а выступоўца пачуў — і скандал. Арлова адхілілі, а перакладаць няма каму, зноў яго [запрасілі].

*Туніс*. Зноў даўгі, працэнты. «Поўнач — пойдзе [ў] краіны, якія развіваюць Туніс. ! У 1 хвіліну 1 млн долараў выдаткоўваецца на ўзбраенні ва ўсім свеце».

*Бангладэш.* Гавораць на бенгалі. Уздае хвалу старшыні [Лусаку] і ўсім, хто кіруе ААН. «Трагедыя Палесціны — трагедыя нашага часу. Народ вымушаны быў пакінуць родны ачаг. Міжнародны тэрарызм».

*Лівія.* Дагэтуль пакутуе ад мін, якія засталіся ад мінірвання. Лівійская Арабская Джамахірыя. «Трэба адмяніць права вета, перанесці штаб-кватэру ААН у іншую міралюбную краіну».

*Іран*. Прамоўца і ўсе трое ў ложы без гальштукаў падкрэслена, з расшпіленымі кашулямі, у знак пратэсту супроць еўрапейскай культуры. Супроць Ізраіля, выгнаць з ААН. Дужа палка выступае, нават фанатычна. «Ізраільскі рак хутка распаўсюджваецца па арганізме ўсяго ісламскага свету». Нафтадолары. Ісламскі фашызм яшчэ сябе пакажа, гэта нешта жахлівае. Пухне галава ад брэху без перадыху. Як змяніўся свет. Старшыня афрыканец, а ўсе самыя белыя пачынаюць і заканчваюць свае казані са звароту «пан старшыня (Mister)». Слухаю іранца, думаю, як жа гэта нуднавата гарачым людзям слухаць у сябе дома мулу.

*Парагвай:* «У рэспубліцы поўны парадак і дэмакратыя. Няма зняволеных іншадумцаў. Выбіраюць усе ў рамках дэмакратычнай шматпартыйнасці».

Вечарам TV. Мандэйл за жанчыну, супроць гомасексуалістаў. І цэлая праблема. І шум.

*2 кастрычніка, аўторак*

*Агляд прэсы.* Бразілія выдала мафіёзі-кіраўніка, які згадзіўся выдаць сваіх хаўруснікаў.

За вакном паліцэйская машына, а мне здалося — свішча чайнік. Тут усё любіць свістаць, любяць рэзкія гукі, як некалі на неасвоеных тэрыторыях, а на самай справе ўжо цесна. Як ні свішчы, ні небаскробы, ні людзі не рэагуюць: жалезабетон.

Партыя зялёных у ФРГ набірае галасы ў Вестфаліі, антыядзерная, экалагічная партыя зялёных. Удалося ўтапіць у працэдурах.

*ААН*. *Нікарагуа*. *Даніэль Артэга Сааведра*[1] — каардынатар кіруючага Савета ўрада нацыянальнага адраджэння Рэспублікі Нікарагуа, Яго Высокасць камандантэ.

Жонка Генсека ў новым убранні. У калідоры Артэгу сустракаў калідор аанаўскай паліцыі абапал, пад казырок. На фоне высветленых юпітэрам 2-х сцягоў сфатаграфаваўся з Генсекам [дэ Куэльярам]. Стаіць крэсла. Па пратаколу праводзяць.

Супроць ЗША, дакладней, урада Штатаў. «Перад Асамблеяй, перад сумленнем усяго чалавецтва прысягаем, што будзем змагацца за мір, і заклікаем ЗША падтрымаць групу Кантадорс[2], абараняем нацыяналістычную дэмакратыю. 4 лістапада маем намер правесці выбары, а Штаты хочуць сарваць, паўтарыць Грэнаду[3]. Калі вайна будзе, народ Нікарагуа, разуты, раздзеты, падымецца на барацьбу не на жыццё, а на смерць. Нас можна знішчыць, але наш прыклад пераможа, — такі наш уклад у барацьбу за мір, у гісторыю. Працытую Хрыста». Авацыя. Уся галёрка стоячы вітае воплескамі доўга.

Эскалатар гісторыі адных уніз, другіх наверх, і на ім нельга затрымацца болей, чым адведзена часам, пратаколам гісторыі, як бы хто ні намагаўся. Малыя дзяржавы могуць застацца больш-менш незалежнымі, толькі калі маюць даўнюю гісторыю культуры, а так малыя павінны ці за спіной, ці за пазухай у вялікіх быць, якія таксама рана ці позна стануць малыя.

*Зімбабве*. Афрыканская пасловіца: калі б’юцца два сланы, пакутуе трава.

У ложы кветнік рознакаляровы, шматкаратавыя пярсцёнкі. Загаварыўся і па інерцыі пачаў хлопаць у ладкі, як дома, з радасцю, што канец

[1] Артэга Сааведра Даніэль (н. 1945), дзяржаўны, палітычны і ваенны дзеяч Нікарагуа. У 1981–1985 гг. каардынатар Кіруючага савета ўрада Нацыянальнага адраджэння.

[2] «Кантадорская група» — міжнародная пасрэдніцкая група ў Лацінскай Амерыцы ў 1980-я гг., створаная з мэтай садзейнічання мірнаму палітычнаму ўрэгуляванню крызісу ў Цэнтральнай Амерыцы (ваенныя канфлікты ў Нікарагуа, Сальвадоры і інш.).

[3] Уварванне ўзброеных сілаў ЗША на востраў Грэнаду (1983; незалежная дзяржава з 1974 г.).

выступленню, а трэба было не ляскаць. Кепскі з мяне дыпламат. Недалёка насупроць албанцы, як хутаране запалоханыя, насцярожаныя, недаверлівыя і ганарыстыя перад самімі амбіцыямі. Аж шкада. Збоку смешна глядзець.

*Лаос*: «Тайланд захапіў 3 вёскі, зняў слупы дзяржаўныя, прымусіў лаосаўцаў вывучыць тайландскую мову, карыстацца тайландскай валютай, замяніў саноўнікаў». Па-ранейшаму захоп тэрыторый, прэтэнзія на межы і ў пячорны век, і ў ядзерны. Белая кніга.

*Прыём у Аўстрыі* ў рэстаране ААН. Польскі пасол вясёлы і цікавы, жанаты на грузінцы (так бы і сказаў, што зяць — у Грузіі). Бутэрброд — кумпячок з ананасам.

Наогул, нельга пярэчыць ні палісмену, ні суддзю. За пярэчанне дадатак штрафу. Прадстаўнік ТАСС парушыў правілы руху. Выклікалі: «Вы з Расіі?» — «Не, я з СССР». Штраф за тое, што запярэчыў суддзю і за парушэнне. Наогул, ёсць тэрмін да 200 год, па прынцыпу шашлыка надзяваюць правіны.

*3 кастрычніка, серада*

*Агляд прэсы.* Скандал з міністрам працы (Донаван). Шмат увагі Нікарагуа. Нашы касманаўты вярнуліся на Зямлю. У Нью-Йорку арыштавана каля 18 чалавек італьянскай мафіі. Паліцыя «адкрыла» сувязь італьянскай мафіі са сваёй. Сувязь Донавана з мафіяй, каля 8 млн хапнуў. Гэта можа накласці цень на рэйганаўскую кампанію перадвыбарную. У Нікарагуа 7 партый удзельнічае ў выбарах.

Медпункт. Прыйшоў «ЛіМ» за 21.IX, пачытаў Казікавы [Камейшавы] вершы. Цёплы пра маці. Прыемна было бачыць фота і чытаць апавяданне Ул. Арлова[1], якога бачыў у Полацку 1 верасня. У раздзеле «Віншуем!» да юбілею Артура Вольскага. Як быццам дома пабыў, а ён яшчэ [даў] вершы Макаля[2] пра вуліцу Мележа. Магазін Камкіна. Ёсць і нашыя кніжкі: Шамякін, 2-томнік Лось, Кляўко, 2-гі том прыроды Беларусі. Украіна, як заўсёды, багацей выстаўлена. Рудольфу [Собалеву] і Бубену — дзень нараджэння. Віншавалі іх. *Даўнтаўн.* Ярмолкі, пейсы. Як у кіно.

---

[1] Арлоў Уладзімір Аляксеевіч (н. 1953), беларускі паэт, празаік, гісторык. У 1976–1988 гг. карэспандэнт, заг. аддзела, нам. галоўнага рэдактара наваполацкай газ. «Химик». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986).

[2] Макаль Пятрусь (Пётр Міхайлавіч; 1932–1996), беларускі паэт, драматург, перакладчык. У 1980–1983 гг. рэдактар аддзела паэзіі час. «Маладосць». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1980), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1984).

*Пятрусь Макаль*

Як лемяхі для каваля
Каваць — звычайная работа,
Так рыфмаваць для Макаля
Непрымусовая ахвота.
З-за хмар вяртаецца,
Калі
Патрэбен «Дотык да зямлі».

*[1986]*

*4 кастрычніка, чацвер*

*Агляд прэсы.* Пачалася шпіёнаманія. FBI (ФБР[1]) быццам выдаў сакрэтныя дакументы нашым сувязнікам. У пятніцу запуск карабля сістэмы «Шатл», жанчына Салівэн[2], якая першая выйшла ў космас сярод жанчын. Мафія мае строгую структуру ў Сіцыліі. Буш[3] павінен унесці 198 тыс. за схаваныя падаткі. Кітайскі ўрад заверыў: пасля таго, як Ганконг пяройдзе да Кітая, яшчэ 50 год будуць захоўвацца існуючыя парадкі. Шамір[4] заклікаў заняцца барацьбой супроць тэрарызму і не траціць марна слоў. Папандрэу[5] заявіў, што карэйскі самалёт [быў] шпіёнскім на амерыканскае ЦРУ[6]. Святлана Агароднікава (34) нібыта завербавала супрацоўніка ФБР з контразведкі. З хронікі ААН: ААН у сувязі са статыстычнымі запатрабаваннямі вызначае моладзь як насельніцтва ва ўзросце з 15 да 24 год.

Прыхварэў. Сяджу дома. Вучу англійскую. Прыйшлі газеты. У «Звяздзе» пра ўрачыстасць да 50 СП. Прамова тав. Чарненкі[7]. Заўтра, відаць, пайду на пленарнае паседжанне. Раз у жыцці трэба адседзець за ўсе гады. І так мяне бог мілаваў — засядаў мала.

*5 кастрычніка, пятніца*

Традыцыйная пятнічная лятучка. Гудзе ўсё.

[1] ФБР — Федэральнае бюро расследаванняў (ЗША).
[2] Салівэн Кэтрын Дуайер (н. 1951), амерыканскі астранаўт.
[3] Буш Джордж Герберт Уокер (н. 1924), віцэ-прэзідэнт ЗША (1981–1989).
[4] Шамір Іцхак (сапр. Езерніцкі; 1915–2012), прэм'ер-міністр Ізраіля (1983–1984, 1986–1992). Ураджэнец Беларусі.
[5] Папандрэу Андрэас (1919–1996), прэм'ер-міністр Грэцыі (1981–1989).
[6] ЦРУ — Цэнтральнае разведвальнае ўпраўленне (ЗША).
[7] Чарненка Канстанцін Усцінавіч (1911–1985), Генеральны сакратар ЦК КПСС (1984–1985). Герой Сацыялістычнай Працы (1976).

*ААН. Ангола.* Кветнік умераны. Негрыцяначка-сакратутачка ў новым уборы, на галаве як бы чалма белая, сама ў блакітным з белымі палоскамі.

Падтрымлівае кубінскую рэвалюцыю і ўсе народы, якія змагаюцца за незалежнасць. «Неаб'яўленая вайна нам фашысцкім расісцкім рэжымам ПАР павінна быць спынена».

*Ліванская Рэспубліка*. *Прэм'ер-міністр і міністр замежных спраў*[1]*.* Яго па пратаколу праводзяць. Як паўлін — вайсковец. Хоча стаць ля трыбуны, перад гэтым паднёс папку даклада і раскрыў яе, але Цімур яго вядзе ўніз, вайсковец некалькі разоў спатыкаецца, ледзь не разбівае нос і пачырванелы садзіцца ў першы адсек побач з Цімурам. «Акцыі помсты — гэта не дзяржаўная палітыка, гэта асабіста-сямейнае». Усё-ткі вайсковец стаў у паставу, рукі за спіну, а на жываце гузікі могуць вырвацца — актыўна ваюе за сталом з баранамі і іншымі сытнымі стравамі. Праводзяць. Бярэ папку.

*ГДР*: «Такі тэрмін як касмічная вайна — толькі туманны намёк на тую пагрозу, якой яна будзе для ўсяго зямнога шара».

*Уругвай*: «Самы хваравіты эканамічны крызіс. Асабліва ў Лацінскай Амерыцы. Запазычанасць болей, калі не ўсё паглынае, ад экспарту».

«Сяджу і вяду я без стомы запісы…»[2]

*Кенія*: «Паўднёвай Афрыцы далі ядзерную зброю. Матыў для самаабароны не вытрымаў праверкі справамі».

*Бенін:* «Эгаізм, прагнасць, імкненне да ўлады раз'ядаюць нашу планету. Бедныя сваякі эканамічнай сістэмы — 3-ці свет. Развіццё багатых краін на галечы бедных».

Насупроць Новы год [у яўрэяў]. У белых ярмолках. Адны выходзяць і тут жа здымаюць. Другія ідуць. Пузаватая дама запальнічкай прыпальвае папяросу і дыміць; п'яных няма. Адзін выйшаў, пахістваючыся ледзь, невядома, ад градусаў ці ад старасці. Сцяна ў сцяну з сінагогай пажарная. Адны моляцца богу, другія агню. Пажарная ў рыштаванні. Будаўнікі, як і ў нас, абы час ішоў. Праўда, усе ў белых камбінезонах, спяцоўках.

*6 кастрычніка, субота*

Субота. Выходны. Бяруся за ручку — б'е токам. Пад напружаннем жыву.

---

[1] Ваззан Шахік (1925–1999), прэм'ер-міністр і міністр замежных спраў Лівана (1980–1984).

[2] Гл.: Мара (5.10.84, Нью-Ёрк) // Мудрэц са ступаю. С. 52.

Учора расказваў Ш-доў[1]. Наш адзін, што жыў у гасцініцы, заблудзіўся. Паказаў на *pose* вуліцы нейкай міс картку гасцініцы. Яна яго ахвотна прывяла. Ён дзякуе, а яна патрабуе грошы. Паклікаў сваіх. А яна — страціла і час, і месца, думала, што на справу кліча.

Паездка па горадзе, пасля паход, паўсюль sale — сэйл[2]. А мы проса сеялі, *пасеялі па сэйле.* Вечаровая карэйская крамка. На тратуары ўсё — пахучае, чырвонае, у краме ад піва да брытваў.

*7 кастрычніка, нядзеля*

З раніцы ў парк. Вавёрачкі пешшу ходзяць па траве. Крос на дарожцы. Бягуць усе, хто можа і хто яшчэ можа[3]. Два паліцыянты на конях.

На нашай вуліцы зноў крычаць. На дрэвах яшчэ вісяць яблыкі, аж дзічка ў гэтым смуродзе, смогу. У некаторых дварах, калі можна так сказаць, зялёныя памідоры. Пад вечар на тратуары ля «Александрыса» блашыны рынак.

Радыё. Напаў на рускую хвалю. «Тёмно-вишнёвая шаль» — спявае Алена Абразцова[4]. Гары Табачнік[5] [выдаў] кнігу пра Парыж. Можна з аўтографам, калі даслаць чэк. Усё ўперамешку. Далей рэклама, фірма «Саламандра». Боты на цыгейцы, дызайнерскія боты з Германіі «Пітэр Кайзер». Магазін «Джына Вінучы». Даецца адрас і телефон. Пані Вінаградава дзякуе магазіну за культурнае абслугоўванне. Далей Пугачова[6] — і тут! — «Маэстра». «Вы слухаеце мелодыі з папулярнага фільма «Да Мані». Так называецца і мэблевы магазін. Нядорага. Праезд. Для пакупнікоў бясплатная стаянка. Тэлефон. «У магазіне працуюць прадаўцы, якія гавораць па-руску». І далей англійская мова. А песня «Я у бабушки

---

[1] Шэльдоў Анатоль М., нам. міністра замежных спраў БССР. Гл.: Роднасць (6.12.84, Нью-Ёрк) // Дзень паэзіі-86. Мінск, 1986. С. 24. У дзённіку верш прысвечаны А. Шэльдову.

[2] Гл.: Сэйл (1.11.84, Нью-Ёрк) // Маўчанне перуна. С. 254.

[3] Гл.: Бег (8.11.85) // Тамсама. С. 271.

[4] Абразцова Алена Васільеўна (1939–2015), руская оперная спявачка, педагог. У 1964–2015 гг. салістка Вялікага тэатра РФ. Прафесар (1984). Заслужаная артыстка РСФСР (1970). Народная артыстка РСФСР (1973). Народная артыстка СССР (1976). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. І. Глінкі (1973), Ленінскай прэміі (1976). Герой Сацыялістычнай Працы (1990). «Тёмно-вишнёвая шаль», муз. і сл. У. Бакалейнікава (1885–1953).

[5] Табачнік Гары Давыдавіч (н. 1938), рускі журналіст і пісьменнік ЗША.

[6] Пугачова Ала Барысаўна (н. 1949), руская эстрадная спявачка, кампазітар, эстрадны рэжысёр. Народная атыстка СССР (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РФ (1995). «Маэстра», муз. Р. Паулса, сл. І. Рэзніка. *Паулс* Раймонд (н. 1936), латышскі кампазітар, дырыжор, піяніст; палітычны дзеяч. Заслужаны дзеяч мастацтваў ЛатвССР (1967). Народны артыст ЛатвССР (1976). Народны артыст СССР (1985). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола ЛатвССР (1970), Дзяржаўнай прэміі СССР (1977), прэміі Ленінскага камсамола СССР (1981). *Рэзнік* Ілья Рахміэлевіч (н. 1938), рускі паэт. Заслужаны дзеяч мастацтваў РФ (2000). Народны артыст РФ (2003). Народны артыст Украіны (2013).

живу, я у дедушки живу, у меня сестрёнки нет...»[1]. 14 кастрычніка два французскія фільмы: «Жанчына», дзе Марына Уладзі[2] і Высоцкі[3] разам. Англійскія субтытры і па-руску. А цяпер паслухайце «Лошади»[4] з французскай пласцінкі Высоцкага». Танцавальная школа Міхаіла Гусакова «Чачотка». Класічныя танцы. Адрас. Па таму ж адрасу для мужчын, якія хочуць пахудзець па метаду амерыканскай зоркі. Песня «Дождинка упадёт... А мамины глаза...»[5]. Выйшаў «Калейдаскоп». Дарожныя нататкі. «Што ж з былой міс Амерыкі? Выпісвайце і чытайце, дзе няма ніводнай сумнай старонкі». Бясплатныя курсы мовы англійскай Эдзіт Бранман. Песня «Я сегодня весна», [спявае] Сенчына[6]. Медыцынскае страхаванне ад аперацыі, чэк *ар* [?] да аперацыі на сэрцы.

Далей іду вячэраць. Гэтыя перадачы па нядзелях. Патроху пачынаю пісаць. *Ідзі ты ў шопінг, шокінг.*

*8 кастрычніка, панядзелак*

*Агляд прэсы*. Рэйган і Мандэйл — спрэчка. Бюджэт і сацыяльныя асігнаванні. Мандэйл адчувае сябе свабодна, а Рэйган завучана. «Шатл» [запушчаны] у космас, 5 мужчын і 2 жанчыны. Паўднёвая Афрыка: на падаўленне хваляванняў [кінута] армія. У Эфіопіі бярэ верх марксізм. Папа Рымскі ўпершыню выступае супроць мафіі (дагэтуль ніхто з Пап не быў). На Кубе акопы і сховішчы. Капаюць на выпадак нападу ЗША на Кубу. Служачыя ваеннага флоту прадалі сакрэтныя фота ваеннаму часопісу Англіі. І фота савецкай верфі са спадарожніка. Хвароба пчол у 5 штатах. У Фларыдзе спынілі паліць цытрусавыя, шукаючы новага эфектыўнага спосабу супроць заразы цытрусавай. «Хірэюць нейкія галіны [прамысловасці],

---

[1] «Я у бабушки живу...», муз. Э. Ханка, сл. І. Шаферана. *Ханок* Эдуард Сямёнавіч (н. 1940), беларускі кампазітар. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1982). Народны артыст РБ (1996). *Шаферан* Ігар Давыдавіч (сапр. Шаферман; 1932–1994), рускі паэт-песеннік.

[2] Уладзі Марына (сапр. Палякова-Байдарава; н. 1938), французская кінаактрыса і спявачка рускага паходжання. Жонка У. Высоцкага.

[3] Высоцкі Уладзімір Сямёнавіч (1938–1980), рускі паэт, акцёр, аўтар і выканаўца песень. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1987, пасмяротна).

[4] Песня У. Высоцкага «Кони привередливые».

[5] «Мамины глаза», муз. Я. Мартынава, сл. М. Пляцкоўскага. *Мартынаў* Яўгеній Грыгор'евіч (1948–1990), рускі эстрадны спявак і кампазітар. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола (1987). *Пляцкоўскі* Міхаіл Спартакавіч (1935–1991), рускі паэт-песеннік і драматург. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола (1986).

[6] Сенчына Людміла Пятроўна (н. 1950), руская эстрадная спявачка. Заслужаная артыстка РСФСР (1979). Народная артыстка РФ (2002). Заслужаная артыстка Украіны (2003). «Я сегодня весна...», муз. А. Фельцмана, сл. У. Харытонава. *Фельцман* Аскар Барысавіч (1921–2013), рускі кампазітар. Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1972). Народны артыст Дагестанскамй АССР (1975). Народны артыст РСФСР (1989). *Харытонаў* Уладзімір Гаўрылавіч (1920–1981), рускі паэт. Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1973).

і 3 млн беспрацоўных», — Мандэйл, а Рэйган: «Жыць пачалі амерыканцы лепей».

*ААН. Сальвадор.* Нейкі Напалеончык. Хваліцца падкрэслена сваёй дэмакратыяй, значыць, усё ў парадку. «Экспансія, агрэсія. Людзі дыхаюць паветрам свабоды. Віноўных караюць». (А хто віноўны?) Прэзідэнт і генеральны камандуючы ўзброенымі сіламі. Прысутнічае Кірпатка [Кіркпатрык] ў нечым сінім, касматым. «Заклікаю партызан сысці з гор і пачаць перамовы».

*Камерун*: «Наш сусед па стану. Афрыка — калыска цывілізацыі». Славаслоўе у гонар прэзідэнта (старшыні) [Лусакі] Асамблеі. Доўга і нудна. Усім хвалу ўздае. Эканамічнае засушванне маладых краін. Мільён валютнай [запазычанасці ?].

*Ваня з Тайваня*.

*БССР* (*А. Е. Гурыновіч*).

Пасля прыём. Стол доўгі, і здорава дарожка з гваздзікоў. Маё тамад[оўскае] месца, размяшчэнне не цікавае. Замкнуты стол. Замыкаў я стол і Аляксандр.

ААН. *Батсвана*. Чорная лэдзі ў чырвонай кофтачцы і чорным пінжаку. Яшчэ адзін цвік у труну капіталізму. (Здаецца, што чытала Арк. Куляшова «Камуністы».)

Mister [Гурыновіч] расказваў, як выступаў па тэле. [Вядучы кажа:] «Ты без паперкі, а я буду пытанні [задаваць]», — а пачаў (адно пытанне з 4-х) і далей па паперцы. Тады ў эфір. [Кажу яму:] «Я на не сваёй мове без паперкі, а ты на сваёй — па паперцы». Прыйшло некалькі пісем. Змест прыблізна: «Я не згодзен з Вамі, але выступленне падабалася». 30 хвілін і пытаўся, і перабіваў.

*Black lady*: «Гвалт (насілле) — зброя адчаю».

Ззадзі сядзяць амаль голыя негры. Адзін з сівой барадой.

*Гана.* Прадстаўнік — выліты Мікола Чарняўскі, толькі да глянцу чорны.

*Мальдзіўскія астравы*. Прамоўца маленькі, не паднялі падмост, і ён на дыбачках, бо рэгулюецца вышыня, дзе стаяць перад мікрафонам.

Васіль Іванавіч расказваў, як два грузінскія яўрэі з Тэль-Авіва прыехалі і па тэлефоне [абмяркоўвалі], як рабіць грошы. Паліцыя застукала, гатова было ≈ 10 млн долараў аддрукавана. Нітка павяла ў Ізраіль, дзе [неразб. 1] малявалі грошы.

*9 кастрычніка, аўторак*

*Агляд прэсы*. Перавыбары. Пры Картэры[1] і пры Рэйгане [павялічваліся] тэмпы інфляцыі, узровень беспрацоўя. Пры Рэйгане большы працэнт беспрацоўя, дэфіцыт, ніжэй афіцыйнай рысы беднасці. Прэзідэнт не можа быць выбраны, калі яму болей 70-ці год, а перавыбраны быць можа. Рэйгану сівы набожны: «А чаму не ходзіце ў царкву?» — «Баюся, што кінуць бомбу і заб'юць шмат людзей». Тады яму пытанне: «А як жа ў Белы дом ходзіце?» У Штатах прэм'ер]-міністр] Ізраіля Шымон Перэс[2]. Помач ад Штатаў, ад яўрэйскіх абшчын. Лётае «Шатл» (ужо 13-ты палёт), стартаваў ў пятніцу. Павысілася тэмпература, працуюць у шортах. Бывае парад — Ліга купцоў 3-яй авеню. Сафі Ларэн[3] — гранд маршал парада. Калі абрабуюць магазін, гаспадар атрымлівае страхоўку. Не даюць нумары на машыну, калі не застрахована.

*ААН*. *Руанда*. Няма выйсця да мора, няма добрых зямель пад сельскую гаспадарку. («Не хочуць [пусціць] да мора, да акіяна, а акіян труцяць — мусяць, як хто хоча».)

Mister [Гурыновіч] расказваў пра кіраўніка Уганды Ідзі Амін[4]. Сам сабе даў званне маршала, пакаральніка Вялікабрытаніі, сам ордэн [даў]. На сесіі даклад у выглядзе брашуры, дзе яго ў насілках носяць белыя, так любяць. Быў анекдот — перайменаваць Уганду — Амінія — не гучыць, царкоўнае — Ідзія. Тады жыхары — ідзіёты.

*Танзанія.* Асанну старшыні [Лусаку] і Генсеку [дэ Куэльяру].

*Манголія*. Сёлета 60 год.

*Гандурас*: «У 3-ім свеце на імпарт зброі патрачана болей, чым на імпарт харчавання, хоць апошняга якраз яму і не стае».

Недзе цяпер на Ваўчэнскім возеры халодныя хвалі стаміліся біць у бузяністы бераг, дзе каровы ратуюцца ад гізу, смірэюць. Зябка дрыжыць асіта, а рэчка Крывуха набіраецца холаду, які не дае ёй замерзнуць зімой. Поплаў зыбаецца. Там некалі Янка Брыль нёс на спіне Валодзю Караткевіча п'янюткага, а той усё пытаў: «Янка, ці не цяжка табе?»[5] Там паветра столькі, што хапіла б надыхацца ўсёй Асамблеі… а тут ледзь кандышацца…

---

[1] Картэр Джэймс (Джымі) Эрл (н. 1924), прэзідэнт ЗША (1977–1981). Лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру (2002).

[2] Перэс Шымон (1923–2016), дзяржаўны і палітычны дзеяч Ізраіля. Прэм'ер-міністр (1984–1986).

[3] Ларэн Сафі (сапр. Шыкалоне Сафія Вілані; н.1934), італьянская кінаактрыса.

[4] Амін Ідзі (1925 ці 1928–2003), прэзідэнт Уганды (1971–1980). Стваральнік аднаго з самых жорсткіх таталітарных рэжымаў у Афрыцы.

[5] Гл.: Каму пазваніць? ([1991]) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 238.

Ах, гэткую б кубіначку
Ў асобную кабіначку
І, маючы дубіначку,
Маўчаць хаця б гадзіначку.

Шэльдоў расказваў: «Як пан магу і пад сталом сесці, але як пасол Францыі — не сяду». Дзве дамы, жонкі паслоў, адначасова ў дзверы. Тады адна адчыніла дзверы: «Шануючы Ваш узрост…»

*В'етнам*. Антыамерыканскае, рэзкае і адкрытае выступленне.

*Чад:* «Тыя, каго хоць раз укусіла змяя, чуюць страх, калі бачаць вяроўку» (прыказка).

*Савет Бяспекі.* Хочацца верыць, што насупроць небавокая бельгійка не занатоўвае выступленні, а піша вершы радасным верлібрам, падсвечваючы белы ліст блакітным водсветам сваіх вачэй.

Выходзім. Крыжык залаты на ўзгорках смуглых, не зразумець, ці пасмуглеў і ён, і на тугіх, прынадліва акруглых, здаецца, зазвініць, — я чую звон. Выходзім ў ноч, у космас небаскробаў, малой пылінкай, да дрыжыкаў, а ў вачах узгоркі, узгоркі, узгоркі ў залатых да звону — глухну — крыжыках. На небе ані зоркі, атэіст-тэзіс[1].

Хоць дыхнуў паветрам, пакуль ішоў у машыну. Без местачковага дыпламата, які хоча падкрэсліць сваю важнасць, а бегае з адтапыранымі вушамі, як Чабурашка. Мірны час — пасад мала. А паміраюць не заўсёды часта, каб пасаду вызваліць.

*10 кастрычніка, серада*

Ліст ад Сяргея Панізніка перадалі. Як бы дома пабыў. Дзякуй, Сяргейка. Душэўна-далікатны і па забытаму ў наш час узнёслы!

*ААН*. *Ямайка. Міністр без партфеля сената:* «Еднасць неграў Карыбскага басейна і Афрыкі. Знізіўся каля 40 % вываз баксітаў, ад чаго дужа залежыць эканоміка Ямайкі. Выжыванне ў наш ядзерны век».

Негрытутачка-сакратутачка ў новым уборы, у чорна-белую клетачку. На галаве прабор, як белае шво на чорнай галаве.

Ямайка па марскому дну не заключыць міні-дамоў на бурэнне дна, выкарыстанне яго.

*Коста-Рыка*: «Такая маленькая і бяззбройная краіна, якую я прадстаўляю». Мір, развіццё дэмакратыі, дабрабыт і воля прэзідэнта Сальвадора на перамовы.

Калі хто падыходзіць да сакратара Асамблеі, кленчыць (нават наш прадстаўнік у Сакратарыяце). Збоку смешна глядзець на гэта. Дзяржава

---

[1] Гл.: Ааначка (9.10.84, Нью-Ёрк) // Маўчанне перуна. С. 287.

духу. Старая ідэя капіталізму была заменена новай фармуліроўкай супрацоўніцтва.

*Малайзія*. *Прэм'ер-міністр*[1]*.* Цэлы загон жонак ці в. а. іх, не месяцца ва ўсе тры адсекі. Чарнява-смуглыя, з бела-паружавелай падсветкай твару.

«Малыя дзяржавы вядуць войны па даручэнню вялікіх дзяржаў. Уклады малых дзяржаў, можа, і малыя, але ў іхніх бюджэтах яны значныя. І трэба ашчадна да іх ставіцца. Адраджэнне масульманства — іслама і іншых рэлігій. Многія гвалты ў імя ісламa, а хіба хрысціянства толькі з інквізіцыяй, з фашызмам, з расізмам? Калі ўсе грошы і сродкі пойдуць на скажэнне таго, што ў ісламскім свеце, нічога не дасягнем. Узмацненне свабоды, культурнае шматаблічча. Адносіны паміж ісламам і Захадам. Вялікія народы бібліі — яўрэі, мусульмане і хрысціяне ўнеслі ўклад у культуру. Не трэба ісламскай артадаксальнасці, сучаснае скажэнне гэтых рэлігій кепска. Бог жадае, каб яўрэям, хрысціянам і магаметанам было магчыма ўнесці свой уклад у мір, — мы самі паклапаціліся пра акаляючае асяроддзе. Сотні бегемотаў (караблёў вялікіх) не даюць жыць на прыбрэжных землях. Ачыстка мора ад адходаў і смецця».

Шэф пратакола праводзіць.

*Сент-Люсія*: «Дзяржава была створана для чалавека, а не чалавек для дзяржавы. Узаемназабяспечанае знішчэнне. Мы супраць міру, які месціцца ў рулі зброі».

Крыху пасля абеду аўтапрабег па 42-й St. Гэта ўсё нявінна ў параўнанні са Швецыяй. А гэтая вуліца пад забаронай наведвання.

ААН. *Саламонавы Астравы*. Пузаты. Стог валасоў. Думаў, жанчына, але вусы і голас, значыць, мужчына. Не думаў, што з такім жыватом можна быць па-саламонаўску мудрым.

Забруджванне вод.

*Малі*. Каптур-пілотка насычана сіні [колер], сіняваты халат-тога яшчэ страшней падкрэсліваюць чарнату юхту.

«Апустэльванне з цыклічна-ваганне-акаляючага асяроддзя, зялёная лінія Афрыкі адышла на 200 км. Барацьба з засухай, якая стала сусветнай бядой. Апустэльванне можа сцерці Афрыку з карты свету».

*Фіджы*. Сёння 14-ты год з дня незалежнасці. Супроць выпрабавання ядзернай зброі ў акіяне. «Калі так не страшна, чаму не выпрабоўваць на еўрапейскай зямлі?»

*Габон*: «Афрыканцы гуртуюцца, каб замацаваць эканамічнае становішча. Установы [стварыць], якія б дзейнічалі на міжнародным ўзроўні».

---

[1] Махатхір Мухамад (н. 1925), прэм'ер-міністр Малайзіі (1981–2003).

*Каморскія Астравы*: «У імя алаха, пан старшыня…»

*Фэдэральная Ісламская Рэспубліка*. Нацыянальны эгаізм і ідэалагічная ўпірлівасць.

*Дамінікія [Дамініка]*: «Усеагульная бесчалавечнасць. Гісторыя чалавечага выжывання. Шматбаковы гандаль, які разбэшчвае межы дзяржаў і маральна. Дух адчаю і адчужанасці». Манера, голас, інтанацыя і морда, толькі з чорным адлівам, потная, як у Кірэенкі. А я пакуль зразумеў, чым ён так мяне раздражняе.

*Прафсход [*прафсаюзны сход]. Як дома. Толькі дакладчык без паперкі [гаворыць], здорава і канкрэтна. «Пачуццё локця, трэба адчуваць, але не ў сваіх рэбрах. Нам [абыходзіцца] ААН 1/4 млрд долараў штогод».

У більярднай. Фільм пра тэрарыстаў. Прапаганда, аднак прымітыўнажалезабетонная. Усё з ног на галаву. Рэклама начнога жыцця, гіднавата.

*11 кастрычніка, чацвер*

*Агляд Time.* Ізраіль просіць грошы. Белы дом — даклад, нібы мы парушаем дагавор кантроля па ўзбраенні. Барацьба між дэмакратамі і рэспубліканцамі. Аправергнуў Рэйган тое, што яму з узростам цяжэй працаваць. Белы дом апублікаваў: у маі Рэйган прайшоў медагляд, і [прызнаны] здаровым. Рэйган сказаў: «Я не стаміўся, я не прымяняю касметыкі ні цяпер, ні калі быў акторам, каб лепей выглядаць. Не так, як Мандэйл».

Маленькія каманды з рэпарцёрамі для асвятлення будучых знянацкіх ваенных дзеянняў (а то Грэнада не была аператыўна асветлена). Ізраілю дадуць 4 млрд долараў эканамічнай і ваеннай дапамогі. З таго, як атрымаў незалежнасць, Ізраіль (з 1973 г.), атрымаў ад Штатаў 28 млрд долараў. Шульц 10.X быў у Сальвадоры, падб[іў?] прэзідэнта на сустрэчу з апазіцыяй. Сёння дэбаты паміж Бушам і Ферарай[1]. Мандэйл падкрэсліваў, што рэгулярна ходзіць у царкву.

Артыкул пра Аркадзія Райкіна[2], што ён смелы, адважваецца нейкія бакі [высмейваць], сапраўды адзін з самых смелых савецкіх актораў. Папа ў Іспаніі знаходзіцца. Прафсаюз шахцёраў Англіі аштрафаваны і ягоны лідар, але ўнік суда. Штаты не ўхваляюць план Кантадорскай групы па Нікарагуа. Украдзены пасланнік у Бейруце насупроць пасольства свайго. Кіраўнікі галійскай апазіцыі выпушчаны з турмы. Міністр фон Пігіраў [?] прысвоіў ≈ 4 млн долараў, — у турме. У Японіі нейкая арганізацыя пачала труціць цукеркі і клейміла, цяпер перастала. Таму фірма

---

[1] Ферара Джэральдзін (1935–2011), амерыканскі кагрэсмен. Мандэйл прапаноўваў яе кандыдатам на пасаду віцэ-прэм’ера.

[2] Райкін Аркадзій Ісакавіч (1911–1987), савецкі артыст эстрады. Народны артыст СССР (1968). Герой Сацыялістычнай Працы (1981). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1980).

тэрмінова [зачынена ?]. На «Шатлы» ўсё добра. Жанчына выйшла ў адкрыты космас.

*Ол райт*. Памылка непісьменнага прэзідэнта, замест *all correct.* У час дыспуту Рэйгана і Мандэйла. Рэйган на папрок, што ён стары і слабы: «Давай я цябе пакладу на руку, падужаемся».

*ААН*. Адзначыць 150-ю гадавіну адмены рабства ў Вялікабрытаніі. А ў Паўднёвай АР і цяпер рабства. Антыгуа і Барбуда[1].

Бафам [перадаў] запіску Яўстаф'еву: «Калі выстаўку зрабілі, дык я паведамляю, што на беларускім выступленні быў поўнасцю, да канца».

*Маўрыкія*. Эканамічны спад.

*Гамбія*: «Афрыка завозіць прадукты, хоць мала грошы».

Збіраюцца да пояса голыя, з пер'ямі ў галовах прадстаўнікі *Свазіленда*. (Калі прымалі ў ААН, босага праводзіў шэф пратаколу. *Легенда Сквазіленда*.) *Міністр замежных спраў*[2]. Босы, з чырвоным пяром у галаве, кароткая сукрыстая стрыжка, сівая барада ўмеранай даўжыні, чырвона-бела-чырвоная апранаха цераз адно плячо, адно плячо голае, гэта ж адначасова і штаны і смокінг[3]. І па-англійску. Англічане могуць радавацца, да чаго давялі, хоць босы, але міністр. «Ад засухі, ад цыклона Domoina [пацярпелі]. Усе, хто можа, дапамажыце нам, у каго ёсць прадукты. Мудры нябожчык кароль».

Mister [Гурыновіч]: «Да любога тавара прымацавана сістэма, якую здымаюць, калі купіў, а так пры выхадзе — дае сігнал, што ўкраў».

*Экватарыяльная Гвінея*. У гонар Генсека [дэ Куэльяра]. «Змог умела кіраваць караванам мінулай 38-й сесіі».

[*Рэспубліка*] *Вануату. Міністр замежных спраў*. Преподобный, як чорны суслік, з чорнай шчоткай барады-бакенбардаў. «Як мы можам перакацаць дзяцей у здзяйсненні ідэалаў маленства, — само жыццё пад пытаннем. Ніцавокі падыход да гісторыі. Недахоп чалавецтва — самаўпэўненасць і адсутнасць супакутвання. Свае ваенныя сілы [выкарыстоўваем] як самы тонкі інструмент сваёй палітыкі».

Mister [Гурыновіч]: «За групавы гвалт суддзя [дае] на выбар ці 30 год [заключэння], ці кастрацыя; адзін ці два схіліліся да кастрацыі. Кінуў бляшанку кока]-колы], паліцыянт: «Ці 100 долараў, ці 3 мілі дарогі абочыну ўбярэш ад бляшанак». Згадзіўся на апошняе і працаваў тры дні.

---

[1] Астравы (Вест-Індыя), з 1967 г. маюць статус «асацыяваных з Вялікабрытаніяй дзяржаў».
[2] Мнісі Мхамбі (1912–1997), міністр замежных спраў Свазіленда (1984–1986).
[3] Гл.: Басанож (12.10.84, Нью-Ёрк) // Маўчанне перуна. С. 250.

*Цэнтральна-Афрыканская Рэспубліка*. Самы чорны і самы блішчасты лоб. Як самая чорная і самая бліскучая кропка ў заключэнне пленарных паседжанняў.

*Старшыня [ГА] ААН [Лусака]*: «[На] 39-сесіі заслухалі 142 даклады, на дзень раней закончылі. Заклалі добры пачатак. Падзеі 3-х апошніх тыдняў даюць надзею на пэўны поспех сесіі. Дзякуй Асамблееі». Падтрымліваем практыку віншавання выступоўцаў пасля выступлення. (Mister: «За падзякі не дзякуе, прымае як належнае».)

Права на адказ. *Папуа Новая Гвінея*. Прымежнае пытанне з Інданезіяй. «Каб Інданезія паважала правы і тэрытарыяльны суверэнітэт. Парушэнне, калі вяла дарога ў 3-х мясцінах. Самалёт. Салдаты перакрылі граніцы. Пытанне на гэты Аўгусцейшы сход».

*Інданезія.* «Мы зноў і зноў чуем: і кары, і генацыд, а якія вынікі? Мы супроць кампаніі неабаснаваных сцвярджэнняў. Час, каб народ Усходняга Цімора меў незалежнасць. Вануату хлусяць на нас».

*Партугалія*. Адказ на заяву міністра Саламонавых Астравоў. «Ядзерныя выпрабаванні. Вывады буйных вучоных, якія наведалі Новую Каледонію. Радыяцыя ніжэй, чым у Саюзе і Штатах. А вынікі праз 20 пакаленняў, гэта ці так важна?»

Ажыла праз столькі гадоў геаграфія ўсяго свету ў галасах, а галоўнае — у канкрэтных клопатах усіх народаў і краін. Негрытутачка з Сакратарыята ў зялёна-накрапістым уборы, уся, як чароўная жабка з разумнасумнымі чалавечымі вачыма.

Вечар. Вавёрачкі па асфальце скачуць, у ААН правы на поўныя арэхі і на пазніклыя лясы.

*Прыём у Манголіі*. Да 60-годдзя рэспублікі. Більярд. Кіно. Амаль падзіцячы вайна, але нахабна і безапеляцыйна прыватная школа. Бабы, рэклама і тэле. Асабліва гідотна гомікі. Усяму ўсё-ткі ёсць мяжа, а так можна да стаі быдла дайсці.

*12 кастрычніка, пятніца*

Традыцыйны сход-нарада. Як дома лятучка. Закулісныя манеўры Штатаў супроць нашых прапаноў, асабліва супроць дзяржаўнага тэрарызму, накіраваць не ў галоўнае рэчышча, каб перадаць у 6-ты Камітэт стварэнне міжнароднага таварыства, сусветную арганізацыю па выкарыстанні космасу з мірнымі мэтамі. Барацьба французаў за Афрыку, за ўплыў. Ва ўсіх арганізацыях ААН парушаецца фінансавая дысцыпліна па шкале ўзносаў. Пытанне пра Грэнаду не след выводзіць да галасавання.

Наогул, у амерыканскіх фільмах (іх бачыў пакуль мала) заўсёды прываблівае ўнесеная еўрапеінка, нам, еўрапейцам, гэта бліжэй. Бо часта

амерыканскія трукі, прыёмчыкі — гэта ўсё ж недзе ад балагана, ад першазаваёўнікаў. Здаецца, што дагэтуль яны не адчуваюць сябе як дома, адсюль і гэты салдацка-пастойніцкі настрой. А наогул, разабрацца цяжка, а зналёту, зналопу тым болей. Сапраўды, гэта ўсё-ткі другі свет, непадобны на наш, стары, добра-традыцыйны ў астарэлай матухне Еўропе.

*13 кастрычніка, субота*

Сёння першы дзень не засядаю. Аж не хапае нечага. Займаюся англійскай. Нешта спрабую загнаць у рыфму, якую — па Пушкіну — гады гоняць. Па радыё на нейкай хвалі яўрэйскія песні, не такія крыклівыя, як амерыканскія, і па-руску раптам «Ерушалайм, город прекрасный, город святой. Как я люблю свой город родной». Па-руску з местачковай граматыкай, але вымаўленне рускае правільнае.

Вечарам па тэле «Тарас Бульба». Бульба брые асялэдэц і глядзіцца ў патэльню. Па-англійску пяюць «Как по речке, речке Камышинке...»[1], «Калінка»[2]; як дзікія паказаны казакі. Фільм ідзе па праграме фільмаўмільянераў.

На Вашынгтон. Індзейскае лета — бабіна лета. Plus toll [платная дарога] праз кожныя 20–30 міль.

*Вашынгтон*. Пасольства. Першы ліфт у Штатах. Два арыгіналы Айвазоўскага[3]. [Неразб. 1] вал Масквы і нейкая строма. Чарга да Белага дома не [неразб. 1] уражанні. Манумент Незалежнасці, уверсе 2 вокі[4]. «Помнік ку-клукс-клану[5]». «Live by the bomb, die by the bomb»[6]. Палаткі пратэсту сінтэтычныя, як і пратэст. Нож Леаніда Фёдаравіча, кабінеты, сталовыя прыборы. Кожныя прэзідэнты кожны сабе заказваў, як і партрэты першых лэдзі.

*Капітолій. Феміда. Фима из МИДа.* Унутры купал. Сенат. Дужа мала месца. Наш Вярхоўны [Савет] куды большы. Палата прадстаўнікоў большая, лобі — месца на галёрцы, адсюль [неразб. 1] і далбалоб, далбалабізм. Сцяг, які цалуе прэзідэнт на вернасць Палаце Сената.

---

[1] Радок з быліннай песні данскіх казакаў «Ярмак».

[2] Руская народная песня.

[3] Айвазоўскі Іван Канстанцінавіч (сапр. Айвязан Аванес; 1817–1900), рускі мастак-марыніст.

[4] Помнік 1-му прэзідэнту ЗША Джоржу Вашынгтону (1732–1799). Архітэктар Міллс Роберт (1781–1855). Помнік уяўляе сабой чатырохгранны абеліск, уверсе якога размешчана аглядальная пляцоўка з вокнамі (па 2 на кожнай грані), якія пры вечаровым асвятленні глядзяцца як вочы пад куклукскланаўскім капюшонам.

[5] Ку-клукс-клан — ультраправая арганізацыя ў ЗША, заснаваная ў 1865 г., якая адстойвала ідэю перавагі белай расы (белы нацызм).

[6] «Хто да нас з бомбай прыйдзе, той ад бомбы і загіне». Каля Белага дома з 1981 г. (некалькі дзесяцігоддзяў) стаяла жанчына з плакатам з заклікам забараніць усё атамнае ўзбраенне.

У Вашынгтоне некаторыя вулачкі, як у Лойкавым[1] Слоніме. Вечар. Цыкады. Як у нас на поўдні. Дзеткі ў клетцы бегаюць, сумуюць у нейкім быццам скверыку. Нейкія прыцішаныя.

*14 кастрычніка, нядзеля*

Вашынгтон. Нарэшце выспаўся, хоць паветра ёсць. Па тэле перадача дзеткам. Таксама з лялькамі нейкая цётка Мэры. Пяюць песенькі. А пасля мульцік — нейкія звяры, як лялькі зробленыя, нешта заказваюць, гледзячы ў меню.

У Вашынгтоне да 90 % неграў і адзін актор Рэйган.

Ідзе перадача дзеткам. Дзеткі і ў масцы нейкай дзюбатай птушкі актор і многа размовы. Нешта паміж страусам і кураняткам. Перадача для глуханямых, уверсе ў авальным кадры «перакладае» негрытутачка.

*Музей касманаўтыкі* — караблі, што загінулі, магільнік самалётаў і фота тых, хто загінуў з-за перавышэння хуткасці крылатых самалётаў.

Shuttle. На фоне паліцыянт на кані. Мы з Ш[эльдовым]: «Абы садзейнічала гэта міру».

*Мастацкі музей.* Botticelli[2]. The Adoration of the Magi, і на руіне дрэўца расце з абсыпаным лісцем, на руіне ўжо тады старажытнасці. Адзін з аўтапартрэтаў Рэмбранта[3], дужа на Тараса Шаўчэнкі[4] аўтапартрэт [падобны]. De La Tour[5]. Магдалена, чэрап, свечка, маладая. [Неразб. 1] 11 акраў зямлі sale.

У індзейскае лета паедзем, Алесь,
Па-нашаму кажучы — ў бабіна…[6]

Барвянасць, крывавасць, жаўцізна, сівізна, галізна шэдых засохлых дрэў, як алюмініевых.

Папаска. Навесік. Стол. Трыпутнік і дзятлінка. Галодны — аж доўгі, як кнот, кот, даў мяса. І некуды вырай ляціць, як душы змерлыя індзейскія. Жураўліны клін раўнуецца.

Раніца нібы каменная, задае суровы тон. Філасофскі храп Яўменава ідзе [неразб. 1] ў Вашынгтон. Вырай ляціць без дарожнай мыты. Дзяў-

---

[1] Лойка Алег Антонавіч (1931–2008), беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык і літаратуразнавец. У 1956–2004 гг. выкладчык беларускай літаратуры філфака БДУ. Доктар філалагічных навук (1969). Прафесар (1971). Член-карэспандэнт АН БССР (1989). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1990).

[2] Бацічэллі Садра (сапр. Філіпэпі Алесандра; 1445–1510), італьянскі мастак.

[3] Рэмбрант Харменс ван Рейн (1616–1669), галандскі мастак, рысавальшчык, афартыст.

[4] Шаўчэнка Тарас Грыгор'евіч (1814–1861), украінскі паэт, празаік, мастак.

[5] Дэ Ла Тур Жорж (1593–1652), французскі (латарынгскі) мастак.

[6] Гл.: Індзейскае лета (17–29.10.84, Нью-Ёрк) // Маўчанне перуна. С. 260. Верш прысвечаны А. Барушку.

чаткі, як манашкі ў шкляных келлях, выдаюць квітанцыі (калі трэба) і мыту бяруць.

У поймах шэды чарот, як някошаная кукуруза. Рэкламы абапал дарог не даюць забыцца, што прагрэс не дрэмле, што яго можа залюляць індзейскае лета.

У Музеі касманаўтыкі паверхня Марса (бог вайны там), як пасля ядзернай катастрофы. І заінелы алюміній змоклых галаногіх дрэў. А музыка, як з Сусвету трывожная мова душы. Чырвоныя кусты, нібы трапічны бруснічнік. Масты, нібы двухгорбыя вярблюды, як мыцельная дошка чорная — аж затрасе машыну (не хоча) перад мытніцай і на з'ездах, паваротах. Вечарэе. Неба, нібы дрэва зрэзалі фуганкам, і слёзы ружова-блакітныя.

Велізарнейшы мост у Філадэльфіі, надбудоўваюць другі паверх. Судаверф. Траўлеры і ваенныя побач. Начэе, левая лінія, як навагодняя ёлка ў агнях, даўжэзныя правыя машыны, нібы ўхапіўшы мару, бягуць. Машына вязе хатку, дзе конь. Раптоўна дзверы зачыніла ноч. А па-нью-йорску толькі 7 вечара. Між ліхтароў пажоўклыя дрэвы, як шашлык. Небаскробы, як здані ў маскхалатах з агнямі чырвонымі на галаве. Нераст машын. Нарэшце, суцэльны жар стоп-сігналаў і рух, як сонных мух.

*Нью-Йорк!* Змеі замест паліцыі ля ваенных аб'ектаў. Зарплата паліцыянта, іх мала, як прэзідэнтаў, застрахаваны ўсе.

*15 кастрычніка, панядзелак*

*Агляд Time.* Лідэры [сальвадорскіх] мяцежнікаў (як іх называюць) вярнуліся на радзіму і павінны пачаць перамовы. Будуць у царкве ў г. Ла Пальма. Некаторыя былі сябрамі, а потым дарогі разышліся.

20 год назад. Хрушчова[1] помняць у Расіі. 20 год [назад] рабочыя здымалі партрэт чалавека, які кіраваў дзяржавай. Адзіны лідар, які быў зняты са сваёй пасады. Выклікалі з Гагры ўнука, запыталі, як дзед. «Дзядуля плача».

Італія. Здані фашызма ўрываюцца ў сон Калізея. Старыя «фіяты», вагон, бензакалонкі раскіданы. Рэмінісцэнцыя фашызму. Выстаўка: «Італія паміж 2-ма войнамі». Выклікае спрэчкі, як ставіцца да мінулага краіны.

Бомбавая атака на брытанскі кабінет ірландскай арміі на досвітку. Супроць Тэтчэр[2]. Армія ірландскай ударнай арміі ў асноўным брытанцы. Першы напад пасля 1605 г. на ўрад і на парламент.

З Паўднёвай Афрыкі паведамленні. Хоць Шульц і Рэйган афіцыяльна не супроць сальвадорскага лідэра, але хвалююцца, ці не зарана перамо-

[1] Хрушчоў Мікіта Сяргеевіч (1894–1971), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. З 1953 г. 1-шы сакратар ЦК КПСС і адначасова ў 1958–1964 гг. старшыня Савета Міністраў СССР.
[2] Тэтчэр Маргарэт Хільда (1925–2013), прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі (1979–1990).

вы. ФБР падрыхтавала падручнік для Нікарагуа, як вербаваць наёмнікаў для асабліва важных [спраў]. [Выбіраць] Фігуру пакутніка са смерцю, каб пасля абвініць афіцыяльныя ўлады. Падручнік выдала ЦРУ.

Рознагалоссі Мальты і Ватыкана, царкоўныя школы не для налогавых мэт. Брандт[1] [паляцеў] на Кубу. Сустракаў Фідэль[2]. Сусветны дзень харчавання. Барацьба супроць голаду і ўдзел жанчын у гэтай барацьбе. Першая інспекцыя «Шатла»: асаблівых пашкоджанняў няма, пасля 8-мі дзён прызямліўся. Рэйган супроць савецкага падслухоўвання, [стварыць] групу на ўзроўні кабінета. Пра небяспеку курэння. 4 сур'ёзныя папярэджанні ад галоўнага хірурга Штатаў, павінны быць навідку. Рак лёгкіх, эмфізэма, цяжарнасць.

Гартаю падшыўку «Голасу Радзімы». Перачытваю Адамаў [Мальдзісаў] «Лонданскі дзённік». Нібы з Адасём гутару. І тут жа чамусьці ўсплывае сэйл машын, абнесеныя ўчасткі сцяжкамі, як на свяце дзіцячым на катках, машын цана. Конскі кірмаш, дый годзе, толькі коні бензін п'юць, а траву не скубуць, а нішчаць.

Цэлы дзень сядзеў дома. Калі гэта дом. Пад вечар прайшлі ўжо начным горадам. Ціха. На вуглу недзе дама з ключамі на грудзях (цэлае вясла) чакала кліентуры. Узрост не дужа вызначыш, як і колькасць касметыкі. Што страшнае, дык гэта велізарныя негры, у начной цемры асабліва. Віславух даў мне «ЛіМ», і я жахнуўся — спачуванне Міхасю Стральцову, памёр бацька[3]. Хоць бы Міша ўтрымаў раўнавагу! Хоць бы. Газета за 28.IX. Доўга ідуць.

Да 12-ці займаліся рыбай, чысцілі нажніцамі марскіх яджгуроў. Пальцы аж гараць, малому ў акіяне толькі і застаецца што быць калючым. Так і малым народам, і малым дзяржавам.

*Сірэны*

Нібы зямны ратуюць шар,
Заходзяцца сірэны нема.
Няйначай гэта не пажар,
А занялася ўся сістэма.
А што гарыць, і хто згарэў,
Не дужа вылічыць камп'ютар.
Дзе боскі гнеў —

---

[1] Брандт Віллі (сапр. імя Герберт Карл Фрам; 1913–1992), дзяржаўны і партыйны дзеяч ФРГ. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру (1971).
[2] Кастра Алехандра Рус Фідэль (1924–2016), кубінскі партыйны і дзяржаўны дзеяч, старшыня Дзяржаўнага Савета і Савета Міністраў (1976–2008).
[3] Гл.: Міхасю Стральцову (16.10.84, Нью-Ёрк) // Маўчанне перуна. С. 252.

Не скажуць ні Хрыстос,
Ні Лютэр[1].

Як чайнік з д’ябальскім свістком,
Што захлынуўся кіпятком,
Нью-Йорк сірэнамі канае —
Чуваць Гаяне і Канадзе.

Ці варта цішу варушыць,
Ці варта галасіць сірэнам,
Каб патушыць,
Каб пагасіць
Усё, што ўспыхнула імгненна?

Ані зальюць бранспойты страх,
Не варты прах адчайных рызык.
Хай, можа, ўзыдзе новы гмах,
Там, дзе ачах гарачы прысак.

Сірэны выюць — не ўцячы
Ні з хмарадахаў, ні з падвалаў.
Ці хто сагнаў сюды ўначы
Са свету ўсіх, што ёсць, шакала?

Аглух бы тут і Адысей,
Бо не знайшоў бы, пэўна, воску.
У лузе згадак абрасей,
Мчы ў цішу
Сцежкай мроі ў вёску!

Паспееш з козамі на торг —
Вуголле кпіна ў жмені носіць.
Вірыць Нью-Йорк,
Гарыць Нью-Йорк,
Нью-Йорк сірэнамі галосіць.

*16 кастрычніка, аўторак*

*Агляд Time.* Сустрэча партызан з прэзідэнтам у Сальвадоры. 4 гадзіны пасрэднікам архіепіскап Сальвадора. Там, дзе паўстанцкія сілы кантралююць становішча, прэзідэнт без зброі і міністр абароны таксама без зброі. Прэзідэнт не першы прапанаваў перамовы, першыя былі парты-

---

[1] Кінг Марцін Лютэр (1929–1968), амерыканскі баптысцкі пастар, адзін з кіраўнікоў руху за грамадзянскія правы неграў у ЗША. Забіты расістамі. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру (1964).

заны, і факт сустрэчы — прызнанне паўстанцаў як сілы. Будзе створана камісія, каб абмеркаваць узаемна прыемлемае рашэнне, каб ўсё ўладкаваць. Па 4 чалавекі ў камісіі з двух бакоў. Лідэры паўстанцаў, адзін з іх быў памочнік Дзарта Гільерма Усега.

Візіт Колі Чаушэску[1] ў Бон. Першы кіраўнік Варшаўскага пакта, які наведаў Бон пасля размяшчэння ракет. Гэта, бачыш, незалежны знешні курс Румыніі. Румынія не байкатавала і Алімпійскія гульні ў Лос-Анджэлесе. Чаушэску заклікаў Штаты замарозіць размяшчэнне ракет. Падкрэсліў, што Румынія не ўдзельнічала ў манеўрах Варшаўскага пакта. Асад[2] у Маскве, на ім была зімовая шапка рускага тыпу. СССР і Егіпет абмяняліся пасламі. У Францыі шум у сувязі з захопам французскага журналіста, які быў у стане басмачэй. Пакажуць іншым журналістам, як лезці ў Афганістан (быццам бы мы). Да 120 тыс. войск у Анголу прадстаўнікоў Штатаў, каб [падмацаваць] перамовы аб вывадзе кубінскіх войск з Анголы.

*4-ты Камітэт*. Паседжанне. Chairman [старшыня] і тут з малатком, спачатку ўсё ідзе з малатка.

*Індыя*. Славаслоўе ў адрас старшыні. Намібія зноў у цэнтры ўвагі. Асуджэнне ПдАР. Ад народа залежыць, якую ён сам абярэ эканамічную сістэму. Прамоўца ў традыцыйнай чалме. «Свабода недзялімая, свет недзялімы», — Індзіра Гандзі[3].

*Замбія*. Становішча ў Намібіі. Гарантаваць захаванасць прыродных рэсурсаў Намібіі. «ПдАР [гаспадарыць] уразрэз з інтарэсамі народа Намібіі. У імя бога Намібія і яе народ павінны быць гаспадарамі свайго лёсу».

*СССР*. Віншаванні. Цытата Маркса[4] пра капітал. Супроць апартэіду. Расісцкі рэжым ПдАР. Амерыканскія капіталаўкладанні — мільярды долараў. Рабунак называецца дзяленнем транснацыянальных карпарацый, калі белы. Чорны на душу насельніцтва мае ў 24 разы меней. 100 год барацьбы народа Намібіі супроць каланіялізму. Англія і Штаты [маюць] ¾ тэрыторый на зямным шары падапечных і самакіруемых. Адвакат капіталізму. Супрацоўніцтва некаторых дзяржаў у ядзернаўзбраенні ПдАР. Спаўняецца 25 год Дэкларацыі аб дэкаланізацыі.

*Чэхаславакія*. Выступае па-руску з дужым чэшскім акцэнтам. Супроць апартэіду.

---

[1] Чаушэску Нікалае (1918–1989), румынскі партыйны і дзяржаўны дзеяч. З 1965 г. генеральны сакратар, з 1969 г., генеральны сакратар ЦК Румынскай кампартыі; з 1967 г. старшыня Дзярсавета, з 1974 г. прэзідэнт СРР. Расстраляны па прыгаворы ваеннага трыбунала.

[2] Хафез аль Асад (1930–2000), прэзідэнт САР (1971–2000), генерал арміі (1968). Генеральны сакратар Партыі арабскага сацыялістычнага адраджэння (БААС, з 1971).

[3] Гандзі Індзіра (1917–1984), партыйны і дзяржаўны дзеяч Індыі. У 1980–1984 гг. прэм'ер-міністр, у 1983–1984 гг. старшыня Руху недалучэння. Дачка Дж. Нэру.

[4] Маркс Карл (1818–1883), нямецкі мысліцель і грамадскі дзеяч, заснавальнік марксізму.

*Петыцыянеры з Пуэрта-Рыка* пра эксплуатацыю. Суверэнітэт прыродных і мінеральных рэсурсаў. Для большасці намібійцаў не прымяняецца закон аб ахове на працы.

*Іран (Ісламская Рэспубліка):* «У імя алаха вялікага і міласэрнага». Пасля віншаванні ў адрас Chairman'a. Супроць ПдАР, у абарону Намібіі. Знішчэнне некалькіх плямён у пачатку века. У Намібіі алмазы, шмат дужа пакладаў. «У Намібіі не рэшткі каланіялізму, а ўкаранелы кашмар яго».

З правам на адказ *Японія*: «Прадстаўнік СССР сцвярджаў, што супрацоўніцтва Японіі з ПдАР расшыраецца. Не маем дыпадносін, мы супроць бандустанізацыі[1], толькі рамкі звычайнага гандлю. Урад заклікаў абменны банк спыніць падтрымку. Не пастаўляем зброю. Не экспарціруем ядзерныя рэактары і тэхніку. Урад Японіі абмежаваў культурны і спартабмен з ПдАР. У некаторых колах абсалютна вольнага грамадства ёсць, самі хто спрабуе арганізаваць таварыства, асацыяцыі дружбы».

*ЗША*. Хвала Chairman'у. «Саюз сцвярджае, што мы садзейнічаем рэжыму ПдАР. Мы дапамагалі вываду войск ПдАР з Анголы. Мы не [будзем] прасіць прабачэння за ўдзел Штатаў, гэта развівае тэхніку. Наконт ядзернай тэхнікі. Мы не пастаўляем гэтага: ні паліва, ні рэактараў. Атамная станцыя ў Кобарце — грамадзянская станцыя, не на вайсковыя мэты. Мікранезія — падапечная тэрыторыя. Савет Апекі».

*Сінгапур*. Хвала Chairman'у. «Прадстаўнік Саюза абвіняе, што ўдзельнічаем у Намібіі. У нас свая пазіцыя».

*Даўнтаўн*. Як некалі ў нас у мястэчку [гавораць] па-польску з крэсовым вымаўленнем. Прымярае па просьбе вачаста-касціста-зграбная пані з падведзенымі сінімі вачыма. Адзін са Слоніма. Пытаюся пра Лойку, здаецца, чуў, пра вуліцу зялёную. Адзін радуецца за нашую каманду футбольную. *Крамкі-крамкі, розныя напрамкі*. Негр-наркаман просіць хоць 5 цэнтаў.

Вечарам фільм з Бондам. Супермэн выглядае як дзіця, гэта больш на дзяцей разлічана, але дужа шкоднае выхаванне: гвалт, забойствы, тут і ракеты, і туфелькі толькі ад разведчыцы, у якую страляе з ручкі, і конь разам з ім і лэдзі скача ў мора з кіламетровай вышыні.

[1] Бандустан — бедныя, раздрабнелыя кавалкі псеўдадзяржавы, якія выцеснены на горшыя землі ў часы апартэіду.

*17 кастрычніка, серада*

Аблавух [Віславух] «ЛіМ» прынёс. У Васіля Быкава памерла маці[1], толькі перад ад'ездам наведвалі з Васілём. Ужо з зямлёй гаварыла.

Лятучка. І тут, і, відаць, у космасе праводзяцца. У дыскусіі 150 прамоўцаў з 159-ці краін. У асноўным міністры; раззбраенне, нейтралітэт, супроць тэрарызму ў дзяржаўных маштабах. Цяпер і краіны, якія развіваюцца, ведаюць, што і іх тычыцца праблема раззбраення. Краіны 77-мі не зусім хочуць выясніць, хто вінаваты ў гонцы зброі, і віняць дзве супердзяржавы. І крылы недалучаных цвёрда выступаюць супроць імперыялістычных дзяржаў. Амаль усе за паляпшэнне адносін між Саюзам і Штатамі. Па космасе пазіцыя Штатаў слабая, Саюз цвёрда за недапушчэнне мілітарызацыі космасу. Бліжэйшы Усход з пазіцый антыамерыканскіх і антыізраільскіх. Сёлета Афганістан і Кампучыя [згадваюцца] меней, чым летась (102), сёлета 78 — і то часцей у пераліку, так і пра Кампучыю, — змяненне тона трэба расцэньваць не як адмову ад ранейшых намераў. Да Мальвінскіх астравоў інтарэс спаў. Аслабленне ціску слабаразвітых краін у адрас магутаў.

Выказванні наконт умацавання ААН, з канкрэтнай рэкамендацыяй, як павысіць ролю ААН у мэтах міру і гарантый незалежнасці слабейшых краін. Пад гэтым сцягам пераглядзець статут, роля магутных дзяржаў, павысіць ролю Генсека. Праблема правоў чалавека, але болей агульны характар, канкрэтных краін мала ўпаміналі (Польшча ў 2-х дзярж. [?], Люксембург, Ісландыя). Па Лацінскай Амерыцы ўсе разумелі пагрозу дзеянняў Штатаў супроць Нікарагуа. Шмат падтрымала Кампрадорскую групу. Права на ўз'яднанне сямей хочуць заходнікі. Амерыка, Японія і іншыя сочаць за фінансавай дзейнасцю ААН. Ёсць і выпадкі крадзяжу і няма выяўнай справаздачнасці, працуюць кантралёры. Пытанне пра ўзносы, Камітэт 5-ты вызначае шкалу плацяжу, кожны хоча ўрэзаць сваю долю, а плаціць ніхто не хоча.

На бліц-нараду на ланч. І не разумею, і ні слова не чую. Але сяджу, як той акын, што ў туалет прасіўся. Нейкае дваістае пачуццё: і нібы звыкаеш і дамоў пачынае хацецца. Гэтае пачуццё, як трава з-пад пліт забароны прабіваецца і коле так далікатна-балюча, што ў сэрца аж дух займае. Алесь [Барушка] мне яшчэ раз нагадаў: сёння роўна месяц, як мы тут. Бубен расказваў, каля халадзільніка ёсць аўтамат-устаноўка, толькі адчыніш: «Ну што, зноў есці? Зноў будзеш есці? Як табе не сорамна, зірні на сябе, на каго ты стаў падобны? Супыніся!» Барацьба з абжорствам ці праблема ліквідацыі голаду?

---

[1] Быкава Ганна Рыгораўна (1887–1984). Гл.: Ганне Рыгораўне Быкавай (1984) // Маўчанне перуна. С. 52.

*IV Камітэт*. *Kenya*. Славаслоўе Chairman'у. Дым, як у качагарцы. Супроць ПдАР — за Намібію, незалежнасць даць. «Дзяржавы, якія супрацоўнічаюць з ПдАР, павінны спыніць усялякія сувязі. Настаў час, каб свет дапамог чорнаму насельніцтву ў гэтым рэгіёне правесці ўсеагульнае галасаванне».

Чыліец у прэзідыуме дыміць піпкай, нібы партатыўны крэматорый сілкуе. Дакладчык: «Вішую прэпадобнага Туту[1] з Нобелеўскай [прэміяй]».

*Украіна*. Выступае па-руску, як і ўсе тут чамусьці гаворыць «сэсія». ≈ 30 млрд долараў — уклад ЗША ў эканоміку ПдАР. А Уганда побач спіць, заплюшчыўшы вочы ў акулярах.

*Егіпет.* Egypt. Віншуе Бруней. Супроць ПдАР за Намібію. «ПдАР зацягвае пятлю на горле Намібіі. Грамадзяне ПдАР — пасады ва ўсіх установах Намібіі. Лічбы па эканоміцы разам з ПдАР, каб заблытаць карціну сапраўдную. Патэнцыяльныя запасы ўрану ў Намібіі самыя магутныя ў свеце, летась 450 тыс. [тон] адкрытым спосабам здабываюцца».

*Polska*. Па-англійску. (Канадзец просіць закурыць у камерунца, суседа, і кладзе 25 cent.) Незалежнасць Намібіі.

У гонар месяца нашага прабывання сёння адзін аўстраліец скочыў з парашутам. З самага высокага небаскроба, цяпер у паліцыі шмат абвінавачанняў, у тым ліку і замах на ўласнае жыццё, заплаціць штраф 200 дол., а пасля па тэле і радыё заробіць на дарогу назад і яшчэ нешта.

Наогул, цікава, што многія негры так падобныя на пэўных знаёмых ва Ушачах, у Мінску, у іншых мясцінах, людзі рабіліся ўсё-ткі па адной мадэлі, толькі з улікам мясцовага каларыту, а дакладней, сонца, адны бялейшыя, другія цямнейшыя[2]. Колер твару відаць, а якога колеру душа, светлая яна ці чорная, пяшчотна-параненая ці касмата-шурпатая, не даў Бог угледзець. Каб загадкі болей было ў кожным, да канца жыцця свайго нікім не разгаданай, у гэтым сэнс, пэўна.

*Iraq*. Асуджэнне дзейнасці міжнародных капіталаў на чужых тэрыторыях, што перашкаджае дэкаланізацыі. Супроць ПдАР. Супроць Тэль-Авіва.

(Ідзе негр у акулярах у чорнай берэтцы валасоў і з цыбатай піпкай, да жаху смешнавата-недарэчна.)

*Guinea*. Слава ў бок Chairman'а. «Фашысцкая палітыка ПдАР.

Права на адказ. *Штаты*: «Прадстаўнік Украіны шмат [гаварыў] пра капіталаўкладанні Штатаў, як бы гэта асноўнае зло. На змены ў ПдАР, калі будуць абвінавачванні ў наш бок Украіны і іншых, — трэба спачу-

---

[1] Туту Дэсманд Мпіла (н. 1931), рэлігійны і грамадскі дзеяч ПАР. З 1978 г. генеральны сакратар Паўднёва-афрыканскага савета цэркваў. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру (1984).

[2] Гл.: Ці не лепей? (5.11.84, Нью-Ёрк) // Дзень паэзіі-86. С. 27.

ванне. «Прынцыпы Салівана»[1]. З 77-га года яны расшыраны. Сам Саліван дбаў пра чорных. У 1984 годзе да 121 [?], 74 камп[аніі працуюць ?] па прынцыпу Салівана, 3-ці пункт — роўная аплата за роўную працу, белым 14 %, чорным 20 % падвышана зарплата. Год 75-ты — 16 пасад, у 1984-м — 20 пасад чорных, поспеху хлуснёй і міфамі не даб'ешся».

*Украіна*. Адказ: «Усе дадзеныя аб супрацоўніцтве Штатаў з апартэідам паводле дадзеных ААН. Паўночна-амерыканская канферэнцыя супроць апартэіду».

*Рывердэйл*. Вечар Беларусі. Уступнае слова mister [Гурыновіча]. Цікава пра партызаншчыну, бо сам партызаніў, па сучаснасці факты, лічбы — усё сцісла, сцісла і дужа велічна. Зала. Гваздзікі на стале, а на выхадзе чырвона гарыць exit, а не «выхад».

Школа. Парты і крэслы нязручныя (амерыканскія), але моцныя. На трубе крэйдай I love John! Усё з металу, толькі падсрачнікі. Дзверы з металу, стол з крэслам разам металічныя, для першакласнікаў.

Пасля вечара Бубен: «Недакладнасць рыбацкая: *торкнецца ў крыгу* (ільдзіну), а карасі зімой спяць».

*18 кастрычніка, чацвер*

*Агляд Time.* Рэакцыя Штатаў на выступленне Чарненкі ў «Вашынгтон пост». Чатыры варыянты: 1) спыненне гонкі ў космасе; 2) замарожванне ядзернай зброі; 3) спыненне ядзерных выпрабаванняў; 4) абавязак першымі не прымяняць ядзерную зброю. Першы Буш поўнасцю аправерг усе прапановы, бо быццам бы Саюз першы пакінуў перамовы. Міс Ферары, рэакцыя негатыўная: «Першымі не выкарыстоўваць зброю нам не падыходзіць». Дзве партыі буйнога капіталу, нам ад іх няма чаго чакаць. Дзелавы свет навучыўся абыходзіцца з прэсай, з грамадскай думкай. За дэмагогіяй — і рэальнай сілай.

Сёння вялікая кампанія па захопу так наз. тэрарыстаў. Быў выпадак — 8 млн укралі, сярод іх была белая, дачка прафесара. Асобныя групкі з прымяненнем зброі, яны супраць антыгуманнага грамадства. Бацька гэтай жанчыны, прафесар: «Я не асуджаю дачку, у яе свае перакананні». Сёння (каля 300 паліцэйскіх) захапілі 8 чалавек брыніз [?] роберы [?]. Новы закон супроць тэрарызму, які дазваляе шырока трактаваць тэрарызм. Сілы неарганізаваныя, і яны не дужыя супроць дужых.

Рэзкі курс на канфрантацыю з нашай краінай — «імперыяй зла», мы, бач, на грані эканомкатастрофы. Яны спрабуюць нас зламіць гонкай уз-

[1] «Прынцыпы Салівана» — асновы, на якіх павінен будавацца бізнес у ПАР. Яны прадугледжваюць роўныя правы для ўсіх, не залежна ад расы, узросту, полу і г. д. *Саліван* Леан (1922–2001), епіскап ПАР.

браення, з надзеяй, што гэта абяскровіць нас. Дэманстрацыйны ўдар — на тэрыторыі адзін паветраны шар узарваўся і забіў карову (японцы запусцілі) — вось і ўсе страты Штатаў на сваёй тэрыторыі ў вайне. Цяпер хваляванне рэальнай вайны, 75 % за кантроль узбраення дарослага насельніцтва, прадстаўнікі сярэдняга класа: 56 % не бачаць розніцы між гітлераўскай Германіяй і СССР, 61 % лічаць, што Саюз рэагуе толькі на сілу, 67 % лічаць Саюз [неразб. 2], каб узмацніць сваю магутнасць, 74 % лічаць, што Штаты павінны адвергнуць любыя згоды без інспекцыі на месцах. Рэйган ім уяўляецца як жорсткі каўбой, што нібы ў фільмах адным ударам рушыць і вырашае ўсё.

Дэмакратычныя сілы: Саюз падтрымаў рэвалюцыю ў прагрэсе ў Афганістане. Усе бакі ведаюць — свет настолькі нестабільны, што ўсё можа рухнуць і зрабіцца некіруемым. Зброі столькі, што адзін пралік — і ўсё ляснецца. Усе баяцца, што іх абвінавацяць у пракамуністычнай арыентацыі, — усё паралізуе мірны рух у Штатах. Рэспубліканская партыя цяпер ультракансерватыўнае крыло, паднялася ніжэйшая частка сярэдняга класа. Яна апора рэспубліканскай партыі. Прагноз: 30 % дэмакратаў прагаласуе за Рэйгана. Моладзь з 18-ці да 24-х 60% Рэйгана падтрымлівае. Мандэйл больш правы, чым Картэр. Пагаворваюць, што Рэйган непісьменны кадр (хоць як актор выглядае), ён ўсе ваенныя праграмы [прыняў ?] да 2000 года; цяпер, здавалася б, лепей умеранага, але нічога не дасць. «Лепей быць мёртвым, чым чырвоным». Better to be dead than red.

Аналіз у Кангрэсе Саюза: магутная эканоміка, дынамічная, меней чым хто залежыць ад знешняга рынку. З трубаправодам пераканаліся, што ўсялякае эмбарга недарэчна. Бачаць у нас моцнага праціўніка. Бжэзінскі[1] некалі [казаў], што Штаты, калі застануцца адны з капсістэмай, яны змогуць існаваць самі.

Што такое амерыканскі высокі ўзровень жыцця? За час Рэйгана ўзровень беднасці [павысіўся] да 15,2 %. Калі адзін чалавек штогод [атрымлівае] 5066 дол., калі сям’я з 4-х чалавек — 10 078 дол., калі і 1000 дол. на месяц — гэта дужа мала, кватэра, самалёт 150 дол., bus 70 cents. На 2,2 % узрасла беднасць у параўнанні з Картэрам, ≈ 6 млн, усяго па краіне 35,6 млн. узровень ніжэй рысы беднасці, большасць працуюць full-time — фул-тайм — поўны дзень. З лічбамі як хочуць гуляюць. Сярэдняя зарплата амерыканскай сярэдняй сям’і за вылікам федэральных падаткаў [павысілася] з 17 тыс. у 70-х да 21 тыс. 500 дол. у 1984-м. Калі ўлічыць інфляцыю, рэальная магчымасць скарачаецца.

Рэйган [зрабіў] магутны ўдар па прафсаюзах, яны захаваць работу толькі імкнуцца. Пакуль наш праціўнік дужы, але яму штогод складаней і складаней, штогод 270 тыс. эмігрантаў, да 150-ці тыс. палітбежанцаў

---

[1] Бжэзінскі Збігнеў (1928–2017), амерыканскі сацыёлаг, палітолаг і дзяржаўны дзеяч ЗША.

і нелегальна пераходзяць межы. Нашы яўрэі — Саюз інвалідаў і калек Вялікай Айчыннай вайны і Саюз інвалідаў і ветэранаў вайны, дык кіраўнік апошніх заявіў: яны не калекі, не інваліды, яны [звярталіся] да народаў свету — прасілі на пракорм, на жытло і на святло.

Сёння па тэле інтэрв'ю NBC [тэлеканал], дзве савецкія жанчыны, журналістка і настаўніца, што чытала дома пра амерыканскае жыццё, тое і ўбачыла: 60 % вучняў ад 7-мі да 12-ці ўжываюць наркотыкі. У Штатах жанчын спыталі: «Ці захацелі б вы тут застацца?» Настаўніца: «На захадзе ці на ўсходзе, але дома лепш за ўсё!» East or west home is best.

*Fourth Committee. Pakistan*. Падтрымка Намібіі, адной з асноўнай у свеце дзяржавы, дзе незлічона ўрану, алмазаў.

*Kuwait*. «У імя алаха ўсемагутнага і справядлівага». Супроць расісцкага рэжыму ПдАР.

*Nigeria*. Пытанне Намібіі. «Няма сувязі з вывадам кубінскага войска з Намібіі і надаццём ёй права на незалежнасць».

*China*. У албанца за спіной Кітай. Вітае Бруней. «Капітал рабуе калоніі. Падтрымка Намібіі. Прыродная кладоўка ўрану, алмазаў і каракулевых шкур. Савет па Намібіі дэманстраваў фільм — галеча, голад. Кітай асуджае ПдАР і іншыя капіталістычныя колы, якія закабалілі і рабуюць Намібію. Кітай ведае, які цяжкі шлях да волі. Капіталісты не могуць нічога даць, апроч галечы і няволі. Капіталізм і расізм мусяць быць знішчаны».

*Syrian Arab Republic*. Не выступіла.

*Mexico*: «Не трэба працэс дэкаланізацыі звязваць з канфрантацыяй Захаду і Усходу».

Дома чытаю ў «ЛіМе» Мальдзіса «Торбу смеху»[1]. Увесь час з Адасём апошнім часам.

У магазіне прадуктовым пры ўваходзе дровы перавязаны матаркамі белымі, ахапачкі ладныя, дровы парэзаны не каротка, як ў нас, пабіты таксама буйна, паліць запіску на кухні.

Перадвечаровыя вуліцы тут, у Манхэтане, дужа прыглухлыя. Чэргаў нідзе. Засынаюць рана ці да бярлогаў тэлевізараў цягнуцца.

Раніцай лятучка.

*IV Камітэт. Zimbabwe:* «Супроць ПдАР, надуманая палітыка апякунства. Апартэід замаскаваны пад шматнацыянальнасць».

Так надакучылі сінтэтычныя мяккія кілімы, штучнае паветра, што хочацца недзе каля Ваўчэнскага возера патрапіць пад золкі — да коль-

[1] Мальдзіс А. «Торба смеху» Кароля Жэры // ЛіМ, 1984, 5 кастр.

каў вецер і завязнуць, калі аж падэшвы трашчэлі, у разбітую машынамі і трактарамі гліну. І самому, як трактар, пыхкаць, дыхаць і чхаць, начхаўшы на ўсю гаварыльню.

*GDR*: «У Намібіі спецыяльна сыравіну [не перапрацоўваюць], каб замарудзіць перапрацоўчую прамысловасць. 100 тыс. акупацыйная армія ў Намібіі. Нацыянальныя карпарацыі рабуюць».

*Albania.* За Намібію, за незалежнасць яе. «Імперыялістычныя дзяржавы, праліваючы кракадзілавы слёзы, люта эксплаатуюць слабаразвітыя дзяржавы. Расісцкі рэжым нават атрымаў ядзерную зброю. Імперыялісты новыя і старыя. Новае закабаленне развіваючыхся краін, продаж навейшых дасягненняў у тэхніцы, каб прымкнуць іх да сябе. Раздзяліць сферы ўплыву. Савецкія сацыял-імперыялісты не ўступаюць Штатам, нажываюць мільярды. Дзве супердзяржавы — перашкода развіваючыхся краін у іх развіцці».

*Afganistan*: «Намібію трэба вызваліць ад усіх, [ад] панавання капіталістычных дзяржаў».

*Uganda*. Спаў на ўкраінцу, сваім суседзе, цяпер прачнуўся, член парламента, а спіч па традыцыі ўсіх кіраўнікоў. «Эканамічная пятля ПдАР у Намібіі душыць горла гэтай краіны. Распрацоўваць старыя руднікі, а не адкрываць новыя; не рыхтуюць кадры з намібійцаў. 80 % зямлі захапілі белыя пасяленцы».

*Lao People's Democratic Republic*: «Па 1 салдату на кожных 20 намібійцаў ПдАР трымае».

Сінтэтычная нацыя Штатаў мае адпаведна сінтэтычную камунікатыўную мову, пра духоўнасць, пра душэўнасць не можа быць і размовы. Мова павінна быць першароднай, якая нарадзілася на гэтай зямлі, як трава, як вада, як дрэвы, тады яна толькі можа выявіць найтонкія зрухі душы. А прынесеная мова сінтэтычна-зябкая.

*Cuba*. Дама выступае па-іспанску.

*Papua New Guinea.*

*Чылі*: «Дэкларацыя абвяшчае: усё, што звязана з мірам, важна Асамблеі». Учора падпісалі дагавор Чылі і Аргенціна, бо ў іх самая доўгая граніца ў свеце праходзіць праз доўгую тэрыторыю. Чылі падтрымлівае прынцып Статута. «Лацінскія краіны даказалі, што можам вырашаць спрэчкі і падзякаваць яго Свяцейшасць Папу за пасрэдніцтва».

*Аргенціна*. Задавальненне дагаворам паміж Аргенцінай і Чылі і падзяка Папу Паўлу ІІ. Прыклад, як вырашаць спрэчкі.

Трохі займаўся падрыхтоўкай да выступлення 23-га ва ўніверсітэце. Ездзілі ў вялікі склеп-лядоўню, усё расфасавана, холад, прадаўцы за самым халодным месцам, як палярнікі, і капюшоны на галаву. Другі аддзел

з гароднінай і садавінай трохі цяплейшы. На цялежку і ў машыну. Прадаўцы чорныя і смуглыя амаль усе. Потым Рудольф [Собалеў] наладжваў Sharp, ці падабаецца Ілоне, ці не — купіў, і ўсё!

Уночы сніліся і Ояр[1], і Еранім[2], і Веян, што мы пілі. Пад канец Міхась, Лявонаў сын [Стральцоў], таксама п'яны і кідаўся нейкімі мясістымі чырвонымі гарбузамі. Хаця б ён так не захварэў, не задурэў, дружа мой залаты. А можа, усё на змену надвор'я?

*20 кастрычніка, субота*

Чарговая субота. Ні лятучак, ні аглядаў прэсы, аглядаў сябе, ці вытрымаеш без паветра ў сценах і аглядаў па баках, калі на вуліцу з некім выйдзеш. Няблага б было перачытаць Тараса Рыгоравіча [Шаўчэнку] ў арыгінале, яго вершы і дзённікі ў салдатчыне.

Па радыё харвацкая перадача. Усё-ткі душы´ славянскія мовы бліжэй, бо на дражджах латыні — мёртвай мовы нейкія робатныя, як бы паўправаднікі ці схемы якія ўключаюцца. Іх, гэтыя мовы, лягчэй за ўсё будзе засвойваць робатам.

У парку бегаюць з шэдымі хвастамі вавёрачкі, дахадзягі цалуюцца на камяні. І на ўвесь парк дагарае клён. Зырка, жарыста, нібы сонца заходзіць. Пад нагамі, навокал ужо шмат пасохлага лісця. На вуліцы перад некаторымі дамамі штучная зялёная лапікла травы. Чэшам па 5-й Ave[3]. Чаго толькі няма. І негрытосікі на жываце танцуюць, як нашыя цыганяткі. У бляшанкі інвалідаў і слепакоў зрэдку нешта бразгае. Цікава, што на вуліцы прысядаюць мужчыны, як у нас на поўдні. Прадаюць «гарачых сабак», 1 долар. Шатландзец у спаднічцы ў валынку [дзьме]. З касцёла маладзёны [выходзяць], іх асыпаюць рысам. Нейкі пафарбаваны гомік з завушніцамі з брыльянтамі ці пад брыльянты. Замест таго, каб пракалваць вушы, няхай бы лепей калоў, што трэба!

*Карласу Шэрману*

На злосць хваробам,
розным спробам
Яшчэ паўсотні творча мрой,
Хай найвысокім небаскробам
Стаіць няўлежны твой настрой!

---

[1] Вацыецiс Ояр (1933–1983), латышскі паэт, празаік. Народны паэт ЛатвССР (1977). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1982).

[2] Стулпан Еранім (1931–1981), латышскі паэт, нарысіст. Гл.: Памяці Ераніма Стулпана (5.04.86, Рыга) // Самота паломніцтва. С. 218.

[3] Гл.: Пятай авеню (30.10.84, Нью-Ёрк) // Маўчанне перуна. С. 265.

*21 кастрычніка, нядзеля*

Нядзелька! І прыгадваецца Колас: «Дзень быў святы, яшчэ ад рання блінцы пякліся на сняданне». Учора Вольга Лаўрэнаўна[1] ставіла квасіць капусту, я на тарку моркву драў, Мікола крышыў і таўкачом стараліся. Амаль як дома. Як дзіва тэхнікі ўспамінаецца шыткаўніца, хадзіў пазычаць да Апёнкаў ці да Міклашэўскіх[2]. Смачныя храпачкі! Сядзім каля тэліка, мульцік. Ул. Антонавіч кажа: «Тут нейкі *закату́лак,* што ўраз надзьме, аж не павернеш шыю». І сюды з сабой [узяў] мясцовае, роднае слова, хоць столькі год вучыць Mister [Гурыновіча] гаварыць амаль па-руску, а сваё, як трава з-пад жалезабетону праб’е, вырвецца, нават у вымаўленні Андрэя Андрэевіча [Грамыкі] на Асамблеі.

Супроць місіі ўжо трое збіраюцца, лепей бы паўлітра на трох, а яны, зябнучы, вяла выкрыкваюць рускі хой, а хто х.й, ледзь зразумеў. Не ведаюць мову, а бяруцца лаяцца.

The Riverside Church of New York City. 20 паверхаў ліфтам, а пасля колькі паверхаў сходцамі. Арганіст грае на званах самых неймаверных паверхаў. Шапэн[3] нудзьгуе па долі Польшчы, як [з] XXI стагоддзя, з 21-га паверха. Аглядная пляцоўка, смог над Гудзонам, унізе высокія дамы, як запалкавыя хацінкі.

Grant’s tomb, дзве труны, Грант[4] з жонкай, фота, дзе яшчэ дрэвы і палаткі, яшчэ камяні растуць з зямлі. У двары негры іграюць у рэгбі, непадалёк цэлафанавыя мяхі, дзе сабраны жаўталіст, прададуць і мець будуць на пабразгачы. У царкве ідзе служба. У квартале ціха, як уночы ці пасля катастрофы. Нібы гэта зусім не вар’яцкі Нью-Йорк.

Дома руская перадача. Пяе Ніна Бродская[5]. Перад гэтым магазін «Диамант» рэкламуюць. Музей Рэрыха[6]. Кніга Ус. Іванава[7] ў Рызе 1937 г. пра Рэрыха, шмат кніг, якія выйшлі пра Рэрыха. Два паверхі, але невялікі. Некалькі рэдкіх карцін, на другім паверсе зала сына Усевалада[8].

---

[1] Панкова В. Л., беларускі журналіст, нам. старшыні Брэсцкага аблвыканкама. Гл.: Чаканне зімы (10.84, Нью-Ёрк — 6–10.12.85) // Маўчанне перуна. С. 290.

[2] Апёнкі — суседзі; Міклашэўскія — сям’я маткі хроснай Рыгора Іванавіча Філіцыі Антонаўны (Ушачы). Гл: Філіцыя (1.02.83, Каралішчавічы) // Маўчанне перуна. С. 104.

[3] Шапэн Фрыдэрык (1810–1849), польскі кампазітар і піяніст.

[4] Грант Уліс Сімпсан (1822–1885), амерыканскі генерал; у Грамадзянскай вайне ў ЗША (1861–1865) галоўнакамандуючы арміяй Поўначы. Прэзідэнт ЗША (1869–1877).

[5] Бродская Ніна Аляксандраўна (н. 1947), савецкая эстрадная спявачка. У 1979 г. эміґравала ў ЗША.

[6] Рэрых (Рёрых) Мікалай Канстанцінавіч (1874–1947), рускі жывапісец і тэатральны мастак, мысліцель, археолаг, пісьменнік, ініцыятар руху ў абарону помнікаў культуры. Акадэмік Пецярбургскай АМ (1909). З 20-х гадоў XX ст. жыў у Індыі.

[7] Іванаў Усевалад Вячаслававіч (1895–1963), рускі пісьменнік.

[8] Рэрых (Усевалад памылкова; Рёрых) Святаслаў Мікалаевіч; 1904–1993), рускі і індыйскі мастак і грамадскі дзеяч. Сын М. К. і А. І. Рэрыхаў. Ганаровы сябра АМ СССР (1978).

Руская перадача. Галіч[1] — «Парамонаўна». Запіс з Ізраіля. Сустрэчы ля мікрафона, Гары Табачнік, і раманс «Не говорите мне о нём…» спявала Сара Горбі[2]. Высоцкі — «Девушка из Нагасаки». Таварыства славян [неразб. 1] балгар., беларус, польс., украін. у каляровых касцюмах. Пяе Шульжэнка[3] «Эта песня на два сольди, на два гроша…». І мне адразу Бабруйская вуліца, танцы ў інтэрнаце і мой любы Зайчык, малады, пакрыўджанагубы, танклявенькі, таўстакосы…

Курсы англійскай мовы бясплатна. Студэнтам першаправа на паступленне. «Мая Марусенька, танцуем мы с тобой…»[4]. Хто хоча ў Ізраіль, місіс Лэвін, хто хоча ў Ізраіль на раскопкі — па тэл. Нілі Тур, вартасць паездкі 575 дол. Далей маруднае танга. Канец перадачы — «Амурскія хвалі»[5] гучаць. І напамінанне пра перадачы, калі слухаць, і музыка «Падмаскоўныя вечары»[6].

*Ванкарэму Нікіфаровічу*

Як адсвяткуеш 50,
Хадзіць часцей рыхтуйся ў сад,
Не ў той, дзе цыпачкі,
А ў той,
Што называецца дзіцячы.
Спяшайся,
Ды падчас прыстой,
Бо спадабацца лэдзі ўдачы
Да ста надзей не траць яшчэ,
Бо ўсё змяняецца, цячэ.
Мы ўсе,
Што лёс дае, бярэм.

---

[1] Галіч Аляксандр Аркадзьевіч (сапр. Гінзбург; 1918–1977), рускі паэт, сцэнарыст, драматург, празаік, аўтар і выканаўца ўласных песень. З 1974 г. жыў у Францыі.

[2] Горбі Сара (сапр. Горбач; 1900–1980), французская эстрадная спявачка. Ураджэнка Бесарабіі. Раманс «Не говорите мне о нём…», муз. і сл. М. Перроце.

[3] Шульжэнка Клаўдзія Іванаўна (1906–1984), руская эстрадная спявачка. Народная артыстка СССР (1971). «Два сольди…», муз. італьянскага кампазітара Даніда Карло (1920–1998), сл. італьянскага паэта-песенніка Дж. Пероцці (1900–1971).

[4] «Мая Марусечка …», муз і сл. румынскага кампазітара Вільнова Герда (Герхарда; 1897–1970).

[5] Вальс «Амурскія хвалі…», муз. М. Кюсса. *Кюсс* Макс Авелевіч (1874–1942), рускі ваенны музыкант і капельмейстар. Тэкст напісаны салістам Далёкаўсходняга ансамбля песні і танца *Паповым* Серафімам Аляксандравічам у 1944 г.

[6] «Падмаскоўныя вечары…», муз. В. Салаўёва-Сядова, сл. М. Матусоўскага. *Салаўёў-Сядой* Васілій Паўлавіч (1907–1979), рускі кампазітар. Народны артыст СССР (1967). Герой Сацыялістычнай Працы (1975). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1943, 1947), Ленінскай прэміі (1959). *Матусоўскі* Міхаіл Львовіч (1915–1990), рускі паэт-песеннік. Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1977).

Пакуль даюць,
Старайся, Рэм!

*22 кастрычніка, панядзелак*

*Агляд Time.* Мандэйл падкрэсліў, што Рэйган праваліўся як прэзідэнт у Лацінскай Амерыцы, не забяспечыў правы ў Ліване, не мае сілы над ядзерным узбраеннем. У Маскве выпаў снег на 1 месяц раней, чым звычайна. «СС-25 у заходніх раёнах Саюза, 100 новых ракет, — Мандэйл, — пакуль мы дэбатамі [займаліся]». Лех Валенса выражае гнеў, што ўкрадзены папулярны каталіцкі свяшчэннік, які падтрымліваў малітвай «Салідарнасць», Папялюшка[1] Джэрсі ля Торуня. Энвер Ходжа[2] на мітынгу на стадыёне [сабраў] 24 тыс. маладых людзей (76 год яму). У Бейруце ўразаецца састаў пасольства. Саветнік па бяспецы заявіў, што Рэйган уб'е ўсіх, хто распаўсюдзіць памятку для забойцаў у Нікарагуа.

Сёння Кулінін малец, ушацкі малец, павінен выступіць у IV Камітэце. Не думаў, што так буду хвалявацца. Але трэба — уперад!

*IV Камітэт.* Прапанова венграў [выбраць] намеснікам чэха. Выбралі Пулса.

1. *Guinea Bissau.*
2. *Democratic Yemen.*
3. *Bulgaria*. Па-англійску выступае.
4. *Ukrainian SSR:* «Усе ўзбройваюць ПдАР, асабліва Ізраіль. Яны стварылі міжміністэрскі камітэт, каб дапамагчы ПдАР ядзерна ўзброіць. У ПдАР [вядуцца] работы па выпрацоўцы сваёй крылатай ракеты».
5. *German Democratic Republic:* «Гэта будзе жахліва, калі ПдАР атрымае ядзерную зброю. Становішча ў Мікранезіі, мілітарызацыя яе — пагроза краінам Афрыкі і Азіі».
6. *Mongolia*. Па-англійску *lady* з кароткай стрыжкай і ў акулярах.
7. *Hungary*. Па-англійску.
8. *Syrian Arab Republic*: «Саюз ПдАР і Ізраіля асуджаны сусветнымі канферэнцыямі».
9. *Singapore:* «Нібыта памагла краіне карпарацыя ПдАР. Я супроць гэтага. Дэкаланізацыя і рэкаланізацыя».
10. *Malaysia.*
11. *Byelorussian SSR (Ryhor Baradulin).*
12. *Libyan Arab Jamahiriya.*

Права на адказ. *Штаты*: «Падтрымліваем эмбарга на зброю ў ПдАР, толькі тыя віды зброі, якія не прадугледжаны эмбарга». На [выступлен-

[1] Папялушка Ежы (1947–1984), польскі каталіцкі святар, актыўны прыхільнік «Салідарнасці», забіты супрацоўнікамі службы бяспекі МУС ПНР.

[2] Ходжа Энвер (1908–1985), 1-шы сакратар ЦК Албанскай партыі працы (1954–1985).

не] ГДР [адказваюць] Штаты: маюць ваенныя базы ў Гаяне, а насельніцтва за іх. Афганістан 20 дывізій.

Першае выступленне ёсць. Mister [Гурыновіч] сказаў, што няблага.

*23 кастрычніка, аўторак*

*Агляд Time.* Не зніжаць цану на нафту, а знізіць здабычу, каб захаваць цану. ЦРУ заявіла, што ніякой рэдакцыі інструкцыі па тэрарызму не было, толькі 12 экз. Беламу дому. Японская танцгрупа ўніз чалавека на вяроўцы спускаюць (фота), каб прыцягнуць увагу нью-йоркцаў. Рэйган у тэледыскусіі [выказаўся] наконт Філіпін, у Філіпінах абурэнне. Кітай крытыкуе В'етнам за падтрымку Камбоджы. Шульц: «Становішча яўрэяў у СССР па-ранейшаму змрочнае».

*Fourth Committee.* Выступае петыцыянерка, нейкая miss. На маленькіх астравах у Ціхім [акіяне] народ [трымаюць], як паддоследных трусоў. [Востраў] Гуам разам з Філіпінамі і Пуэрта-Рыка перададзены Штатам Іспаніяй. Пентагон [захапіў] 1/3 зямлі, эканоміка залежыць ад ваенных мэт Штатаў. Яны з Пуэрта-Рыка [неразб.1] Рэйган.

*Петыцыянер* Кансаліс Кансаліс.

Старшыня [Лусака] вітае Генсека СВАПО[1].

1. *Cyprus*. Чытае. Замаўкае. «Прабачце, у маім тэксце няма адной старонкі».

2. *Czechoslovakia*. Пасол. Выступае па-руску, з моцным акцэнтам. «На 12 чалавек у Намібіі адзін салдат акупацыйнага войска».

3. *Vietnam.* Па-англійску. «Пасля паражэння ва В'етнаме Штаты асаблівую ўвагу [звярнулі] на астраўную тактыку».

*Oman:* «У імя алаха ўсявышняга!»

*United Kingdom:* «10 тэрыторый, а не 11, як сказаў калега з Саюза, Бруней атрымаў незалежнасць. Замежныя капіталаўкладанні паскорылі развіццё эканомікі. Статыстыка болей на тое, што хаваецца за ёй, а не тое, што яна адлюстроўвае. Самавызначэнне застаецца нашай палітыкай у справе дэкаланізацыі. Выступленне Чэх[аславакіі], як плынь, вузкая ў пачатку, шырокая далей. Я не раблю гонару каменціраваць выступленне, гэта лухта».

*Argentina.* Фалклендскія астравы.

*Cuba.*

Права на адказ. Брытанія — Аргенціна.

---

[1] СВАПО — Народная арганізацыя Паўднёва-Заходняй Афрыкі (Намібія).

6.30 p. m. *Queens College* сустрэча. Чытаў вершы, расказваў. Данчык[1]. «Ці дом Купалы ёсць? Я там жыла», — старэнькая. Адзін з Бягомля, Свірку чытае. Брат Пушчы[2]: «Ці ёсць касцёл у Каралішчавічах?» Тлумачу, што «Каралішчавічы» — Дом творчасці, гэта не тая вёска. Адамовіч[3] пра Дубоўку[4] і пасля Дубоўкі. Чаму ў Мінску турысты не чуюць беларускую мову? Адказваю: мова вуліцы — не мова дому. Сяднёў[5] пытае пра Пісьмянкова[6], адкуль? — што ён таксама з Белага Каменя. Якія тыражы кніг беларускіх аўтараў на замежных мовах? Адказваю: залежыць ад заказаў. Дзе беларускія дзіцячыя кніжкі? — «Межкнига», [можна] заказаць. Бібліятэкарка паказвае, што заказала мой двухтомнік, чаго, ведаю, не зрабілі мае родныя Ушачы. І ўбачыў, хто такі Клёнаў[7]. Стары, падношаны. Маці з Магілёва, бацька з Вільні. «Я нямы», — рэакцыя на мову сэйл.

*На сустрэчы ў Квінс-коледжы*

Гаркотна пытаюцца землякі,
Гаротна пытаюцца суайчыннікі,
Развязваюць памяці вузялкі,
З сабак асцярогі здымаюць ашыйнікі.

Мае суайчыннікі, землякі,
І хто з іх ніякі,
І хто такі,
Як трэба пэўнай анкеце,
Не ведаю,
Ды я павінені адказ трымаць.
Яны не коні,

---

[1] Андрусішын Багдан Паўлавіч (н. 1958), беларускі спявак (Данчык), журналіст, грамадскі дзеяч (ЗША). Яго бабуля — Яніна Каханоўская — пляменніца Івана і Антона Луцкевічаў, беларускіх грамадскіх дзеячаў І пал. ХХ ст.

[2] Пушча Язэп (сапр. Плашчынскі Іосіф Паўлавіч; 1902–1964), беларускі паэт. Быў рэпрэсаваны.

[3] Адамовіч Антон Яўстаф'евіч (1909–1998), беларускі літаратуразнавец, гісторык, публіцыст, празаік. Быў рэпрэсаваны (1930–1938). У час Другой сусветнай вайны член Цэнтральнай рады Беларускай народнай самапомачы, рэферент па справах прапаганды і прэсы пры Генеральным камісарыяце Беларусі. Пасля вайны жыў у Заходняй Германіі, з 1960 г. у ЗША.

[4] Дубоўка Уладзімір Мікалаевіч (1900–1976), беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык. Быў рэпрэсаваны. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1962).

[5] Сяднёў Масей Ларывонавіч (1913–2001), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Быў рэпрэсаваны. З 1943 г. пражываў у Германіі, з 1950 г. у ЗША. У 1969–1983 гг. працаваў на радыёстанцыі «Свабода» (Мюнхен).

[6] Пісьмянкоў Алесь (Аляксандр Уладзіміравіч; 1957–2004), беларускі паэт. У 1982–1990 гг. рэдактар аддзела навукі і мастацтва час. «Полымя».

[7] Клёнаў Андрэй (сапр. Куперштох Арон Ільіч), рускі пісьменнік, эмігрант.

Ды болей масць
Я заўважаю сівютка-шэдую.

Джэнтльмен,
Няйнакш Язэпу Пушчу радня,
Пытаецца пра царкву ў Каралішчавічах.
А ў маладзейшага праблема дня,
Як блінец на патэльні тугі,
Напрышчылася:
Чаму ў нас ў Мінску не ўчуеш нідзе
Ні беларускага слова, ні выразу?
Хто абзац аб галоўнай бядзе
Тупымі нажніцамі з класікі выразаў?

Айцец Аляксандр з крыжом залатым,
Прыгажавіты дзяцюк з Беласточчыны,
Сцвярджае, што ўлада зямная — дым.
Я тут не абражаны, не растоўчаны.
Не зала,
Дзе першыя тры рады
Упамінаюцца ў вершы Сіманава, —
А вечарына, сяло.

Малады
Данчык — спявак,
З кім далёка грымнула
Крэўная песня,
А поплеч з ім
Па-беларуску дзяўчо пытаецца,
Што ў нас спяваюць.
З абраным сваім
Яна — як з песні вясельнай чаіца.

Гаркотна выпытваюць землякі,
Гаротна пытаюцца суайчыннікі,
І што ў нас, і як?
Ды чуваць скразнякі,
Хоць наша хата шчыльна зачынена.

Пытаюцца, лашчачы, кволячы, колячы,
У самым цэнтры Нью-Йорка, ў Квінс-коледжы.
І ўсё ім дакладней, як мне, вядома…
Яны і я пабывалі дома.

*1984–13 жніўня 1988, Нью-Ёрк–Мінск*

*24 кастрычніка, серада*

*Агляд Time.* 55–60$^0$ = 10–15$^0$. Генеральны пракурор Вільям Смайс: «Федэральны ўрад хоць і дасягнуў поспехаў супроць звычайных злачынстваў, новыя хвалі злачынства коцяцца з Азіі», — заявіў на камісіі арганізаванага злачынства, злачынных груп кітайска-японскага паходжання.

3 высокія афіцэры сальвадорскай арміі і другія загінулі ў авіякатастрофе. Пасол Штатаў спачуванне выказаў. У верталёце загінулі яшчэ 14 чал. Пасля выбуху ў Ліване пасольства Штатаў атрымліваюць папярэджанні аб нападах і з Усходу, і з Лацінскай Амерыкі. Кааліцыя хрысціян і іудзеяў асуджае ядзерны архагіён. Дзе і як загінуў Рычард Спайсер, — мясцовы карэспандэнт заявіў, што ён памёр у Фларыдзе ў пятніцу. Лічаць, што Спайсер працаваў у ЦРУ і што памёр у Сальвадоры і забіты там разам з іншымі калегамі ў аўтакатастрофе.

Пленум ЦК КПСС. Чарненка [пра] шматтэрміновую праграму аб высакароджванні зямлі паліўнымі, арашаемымі, асушаемымі [метадамі]. Змены ў вышэйшым эшалоне, новыя назначэнні. Мандэйл атакуе Рэйгана з прычыны гібелі марской пяхоты ў Бейруце. Каталіцкая Польшча паведаміла — 4-ты акт «Салідарнасці» ўкрадзены і пабіты. Французская кампартыя парвала адносіны з кампартыяй Афганістана ў сувязі з арыштам французскага журналіста.

«Материалы научной экспедиции Московского Императорского университета по исследованию в июне 1866 г. могилы книгини Рогнеды в местечке Заславле Минского уезда и губернии». Возеро Рогнедзь.

«Писцовая книга», «Россия», 9-й том «Верхнее Поднепровье и Белоруссия» (СПг. 1905, ст. 454, 474). Адтуль маскалі, а стуль шведы, дзе пасбыцца такой бяды? Юдзеніч[1] бел. паходам 15 тыс. [неразб.1] 4383. Сураж, дзед: «Братка Галубок[2]. Вось гэты мой кажух так не грэе, як твае «Плытагоны» мяне сагрэлі». 1503 г. Сігізмундава[3] грамата: «Также витеблянам жите в Витебску добровольно всякому по старому звычаю их отцов и дедов доколе хочет кто, а которому витеблянину от нас будет не добро и станет ему не любо, так нам его силой не держати, а путь ему чистый, куда хочет без всякой от нас задержки, но перед тем святому Благовещенью челом ударив». Лілея замест цыбуліны. Рукапіснае Еван-

[1] Юдзеніч Мікалай Мікалаевіч (1862–1933), расійскі царскі генерал. Удзельнік Грамадзянскай вайны (1918–1922). У 1919 г. — глаўкам белагвардзейскай Паўночна-Заходняй арміяй.

[2] Галубок Уладзіслаў (сапр. Голуб Уладзіслаў Іосіфавіч; 1892–1937), беларускі паэт, празаік, драматург; акцёр і рэжысёр Першага беларускага таварыства драмы і камедыі (1917–1920). З 1920 г. — кіраўнік вандроўнага тэатра («Трупа Галубка»), які ў 1932 г. атрымаў назву БДТ-3. Народны артыст БССР (1928). Рэпрэсаваны.

[3] Жыгімонт I Стары (1467–1548), кароль польскі і вялікі князь літоўскі (з 1506).

гелле 1508 г. Успенскі сабор. «Двайны партрэт» Шагала[1]. «Чорная царква» на Пескавацiку між іншымі кампанестамі [?] на столі «Гранд-Апера» (Шагал); сінагогу ў Магілёве ўнутры распісваў прадзед Шагала.

Mister [Гурыновіч]: «Цікава, перадаюць, што ў касманаўтаў выхадны. Які? Так і ў дыпламатаў».

*IV Камітэт*. Амерыканскі жучок перад выступленнямі на каленьках перад чорнымі — падкрэслена і нешта ўгаворвае, а чорным яўна даспадобы гэта.

*Algeria:* «Праклятыя на зямлі — так называюць маларазвітыя краіны. Банкі і ТНК — гідры ХХ стагоддзя».

*Congo.*

*Ghana*: «У ПдАР расавая дыскрымінацыя ўведзена ў ранг афіцыйнай палітыкі».

*USSR:* «У 1985 г. ПдАР [выдаткуе] 3 млрд долараў на ўзбраенне, ваенныя выдаткі з 20 млрд нацыянальнага прадукту. Поўдзень Афрыкі — сфера жыццёвых інтарэсаў ЗША. Занятасць у ваеннай прамысловасці ПдАР да 100 тыс. чалавек, валодае дадатковым тэхнічным патэнцыялам на вытворчасць ядзернай зброі».

*Mozambique.*

*Indonesia:* «Старшыня [Лусака] з нашай часткі свету», — ідуць вітанні.

У неграў і плешыны чорныя, як выцертыя рукавы на лацканах вельветавай чорнай курткі.

*Yugoslavia.* Пасол па-англійску.

*United States:* «Пасол, скіраваўшы ўвесь гнеў супроць апартэіду, ці не ўпускае з поля зроку далёкадзейныя мэты? Лёгка чапляецца за любыя магчымасці, не думаючы, ці дапаможам мы Паўднёвай Афрыцы. Байкот і да т. п. ці прывядзе да добрых вынікаў? Лёгка ізаляваць урад, калі вы асабіста не пад пагрозай — ні вы, ні жонка, ні радня. Чорныя рабочыя маюць работу. Хто пацерпіць, калі настане беспрацоўе? Кодэкс Салівана заснаваны на добраахвотным удзеле дзяржаў з узносамі добраахвотнымі. Многія кампаніі апраўдваюць сябе, прызнаюць прафсаюзы чорных. Падрыхтоўка чорных, жоўтых да кіруючых работ. Штаты дапамаглі ў барацьбе з засухай. Усё ў млн доларах, як бухгалтар падлічвае. Замест [таго], каб стаяць убаку, выступаць з лозунгамі, рэзалюцыю 435 канкрэтна ў жыццё праводзім. Афганістан і Кампучыя. Ваенная прысутнасць не абавязкова затрымлівае працэс дэкаланізацыі. Мы не купляем зброі ў ПдАР, не пастаўляем. Нас называюць і грэшнікамі, і іначай, падвярга-

---

[1] Шагал Марк (1887–1985), беларускі і французскі мастак і графік. Зрабіў размалёўку плафонаў тэатра «Гранд-Апера» (Парыж).

юць ганьбаванню. Гэта тактыка халоднай вайны. Тыя, хто праз прызму халоднай вайны [глядзяць]. Краіна 100 тыс. войска ў Афганістан [увяла], у наш адрас абвінавачванні. Міфічную статыстыку знаходзяць і прыводзяць лічбы».

*Ethiopia.*

*Tunisia:* «Ухваляем дзейнасць Камітэта 24-х. Каланіялізм паняцце не адназначнае».

*Venezuela:* «Чорныя жанчыны ў Намібіі найболей бяспраўныя».

Права на адказ Інданезія. Наконт Цімора.

*Злучанае Каралеўства, Фалклендскія астравы.*

*СССР* (падымае аловак): «Вялікабрытанія вяла вайну за аднаўленне Мальвінскіх астравоў».

*United Nations Day.* [Дзень ААН]. The Pittsbugh Symphony Orchestra Conducted by Lorin Maazel. Victor Tretyakov (violin [Пітсбургскі сімфанічны аркестр, дырыжор Лорын Маазель[1]. Віктар Трыцьякоў[2] (скрыпка)]). Канцэрт, дамы, як у нас, хто ў чым, абы вылучыцца. *Батура — сабачая шкура*. Ст. Баторы[3] — да моманту закрыцця Віленскага ўніверсітэта з 47-мі прафесараў 36 беларусаў і 2 палякі.

*25 кастрычніка, чацвер*

*Агляд Time*. Філіпінскі генерал пакідае пасаду. Нікарагуанскі епіскап [абверг], што сандзіністы[4] прыгнятаюць народ. Амерыканцы ўварваліся на [востраў] Грэнаду, называюць — выратоўчая місія. Камп’ютарнае дасье на белакаўнерныя злачынствы ФБР прапануе [збіраць], асабліва звязана з «белакаўняровымі злачынствамі» ў адносінах фінансаў. Мітэран заклікаў Саюз і Штаты на перамовы пра скарачэнне ўзбраення, па-французску ў англійскім парламенце, толькі 10 % разумелі. Толькі Рэйган і М. Хрушчоў выступалі ў галерэі, а цяпер Мітэран. Скотленд-Ярд[5] сабакамі праверылі, выбуховае нешта ў французскім прадстаўніцтве ў падвалах [знайшлі], рэзідэнцыя французскага пасла. Французамі [закладзена], каб праверыць пільнасць англійскай паліцыі. Новыя абмежаванні на прэсу

---

[1] Маазель Лорын (1930–2014), амерыканскі дырыжор, скрыпач, кампазітар.

[2] Трацьякоў Віктар Віктаравіч (н. 1946), рускі скрыпач, дырыжор, педагог. Народны артыст РСФСР (1979), народны атрыст СССР (1987). Лаўрэат Ленінскага камсамола (1967), Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Глінкі (1981), прэміі «Трыумф» (2002).

[3] Баторый Стэфан (1533–1586), польскі кароль (з 1576), палкаводзец.

[4] Сандзіністы — паслядоўнікі А. Сандзіна. *Сандзіна Аугуста Сесар* (1895–1934), нацыянальны герой Нікарагуа. У 1926 г. узначаліў нацыянальна-вызваліцельную барацьбу народа супраць войск ЗША, якія акупавалі краіну у 1912 г., і якая прывяла да перамогі ў 1933. Быў падступна забіты.

[5] Скотленд-Ярд, штаб-кватэра англійскай паліцыі.

ў Чылі. Нікарагуа пратэстуе супроць Штатаў з прычыны падручніка ЦРУ. Рэйган усхваляў мужнасць амерыканцаў на Грэнадзе і ў Бейруце.

Аляксандра II 1сакавіка 1881 г. забіў і сам загінуў «ціхі і спакойны беларус[1]» з Мінскай губерні. Смаленска-полацкі [дыялект] склаўся на аснове мовы крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў, падмурак сучаснай беларускай мовы. Іван Грозны[2] з полацкай Сафіі бібліятэку захапіў з сабой і «толмачей» — перакладчыкаў. «Гордыя Рогваложыя[3] ўнукі». Ольгерд[4] (1345–1377) беларускую мову як дзяржаўную прызнаваў. Папскі легат Эразм Вітэлій[5] да Папы ў лісце 1501 г.: «Летувісы маюць сваю ўласную мову, але ў сувязі з тым, што русіны (беларусы) складаюць сярэдзіну дзяржавы, усе звычайна карыстаюцца іхняй мовай, як болей лепшай і лёгкай». Яцвягі і голядзь растварыліся сярод беларусаў, зніклі. Адсюль і літоўскія словы «Фрынас» («Плач») Мілецыя Сматрыцкага[6]: «Вы, злые изменники, обнажили меня и теперь издеваетесь над моим телом, из которого однако вы все вышли. Но помните: проклят всякий, кто обнажает наготу своей матери», — пералічвае дзясяткі беларускіх і ўкраінскіх прозвішчаў. Аляксей Міхайлавіч[7] «Книги литовской печати на пожарех сжечь, чтобы та ересь и смута в мире не были». Указ Пятра I[8] з Украіны і на беларусаў (1720): «Не печатать книг на местном языке». Рэформа 1935 года: «…уничтожить барьер, отделяюший белорусский язык от русского»; сцёрта 30 асаблівасцяў, аж 1178 назваў беларускіх кніг і часопісаў, 12 млн экземпляраў, «сеющих стрелы Гориславичав», па імю Рагнеды[9], якая празвана ў народзе Гарыслаўай.

*IV Камітэт.*
1. *Afghanistan.*
2. *Byelorussian SSR (R. B.) [Рыгор Барадулін].*

---

[1] Расійскі імператарАляксандр II (1818–1881) быў забіты нарадавольцам Грынявіцкім Ігнатам Іаахімавічам (каля 1856–1881).

[2] Іван IV Васільевіч Грозны (1530–1584), вялікі князь усяе Русі (з 1533), першы рускі цар (з 1547).

[3] Рагвалод, полацкі князь (960-я — 970-я).

[4] Альгерд (1345–1377), вялікі князь літоўскі.

[5] Вітэлій Эразм (Цёлк; 1474 (?) — 1522), дзяржаўны, рэлігійны і культурны дзеяч Вялікага княства Літоўскага і Польшчы; публіцыст.

[6] Мялецій Сматрыцкі (каля. 1578–1633), украінскі і беларускі вучоны-філолаг, царкоўны і грамадскі дзеяч.

[7] Аляксей Міхайлавіч (1629–1676), рускі цар (з 1645).

[8] Пётр I (1672–1725), рускі цар (з 1682), першы расійскі імператар (з 1721).

[9] Рагнеда (?–1000), полацкая асветніца, дачка полацкага князя Рагвалода. Пасля захопу Полацка (980) і забойства яе бацькі і братоў была вымушана стаць жонкай кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча (?–1015).

3. *Dominican Republic.*

4. *Angola.*

5. *Bangladesh.* Супраць палітыкі бандустанізацыі, 92 % чорнага насельніцтва — рабочыя, сяляне, гандляры [даюць] толькі 16 % прыбытку.

6. *Bulgaria*: «Ваенныя базы амерыканцаў не для таго, каб карміць і даваць народам работу, а каб плацдармы мець для нападу».

Слова на адказ. *Ізраіль:* «Іран, Ірак, Лівія, [Народная] Дэмакратычная Рэспубліка Йемен не па сутнасці парадку дня [выступалі], я іх не перабіваў, бо ў іх няма вопыту, як паводзіць сябе на такіх форумах. Што да Сірыі і Украіны — супрацоўніцтва Ізраіля і ПдАР, то сёлета 0,6 % гандлю. Наконт ядзернай зброі — спасылка на даклад Генсека ААН [дэ Куэльяра]. Ірак хай навядзе парадак дома, а пасля да нас [звяртаецца]. Мы супроць расавых забабонаў. Вялікі вопыт расавай дыскрымінацыі і цкавання маем».

*Сірыя*: «Супрацоўніцтва Штатаў з ПдАР і Ізраіля ў ваеннай ядзернай вобласці. Ізраіль [на] 1 млрд [паставіў] зброю, партнёрам Штаты, не канкурыруеце з намі».

*СССР*: «Сінгапур аспрэчваў дадзеныя даклада пра ўдзел кампаній Сінгапура ў гандлёва-эканамічных адносінах з ПдАР. Ахмед Халіф (даклад) даў поўны пералік. 4 кампаніі Сінгапура маюць сувязі з ПдАР».

*Аргенціна*. Адказ Англіі наконт Фалклендскіх астравоў. «За палітыкай чэсці ідзе палітыка чэснасці, чаго жадаю Англіі».

*Штаты. USA:* «У выступленні Сірыйскай Арабскай Рэспублікі [прагучалі] абвінавачванні ў халоднай вайне. З 1963 года падтрымліваем эмбарга на зброю ў ПдАР, раней за пастанову ААН. Мы даем інфармацыю па тэхнічнаму пытанню заводам. Мірнаму прадпрыемству на гарантыю МАГАТЭ[1] апіраемся. Лічба 28 млрд долараў — гэта электронныя машыны, запчасткі гаўбіцы прададзены карпарацыяй Штатаў суседняй краіне, а тая трэцяй краіне, а яшчэ адна прадала гаўбіцы ПдАР. Карпарацыя плаціла штраф, вялікую суму. Адны з’еднічаюць, а другія маўчаць — гэта ў Камітэце. У фінансавы год 84-ты ЗША выдзелілі 81 млн долараў на харчаванне галодным чорным».

*Ірак.* Супроць Ізраіля. «Ваеннае супрацоўніцтва Ізраіля і ПдАР выяўна адлюстравана ў дакументах. Экспансіяністкая палітыка Ізраіля на акупаванай арабскай тэрыторыі».

*Сінгапур*: «Рады, што прадстаўнік заўважыў маю краіну, — зарэзервірваю права на адказ».

*Сірыйская Арабская Рэспубліка*. Адказ Штатам: «Мая інфармацыя дакладная».

[1] МАГАТЭ — Міжнароднае агенцтва па атамнай энергіі.

*Ізраіль*. Супроць Сірыі. «Даваць дакладныя лічбы 1984 года, як праверыце лічбы, дакладзіце. Ірак назваў маю краіну сіяніскім образованием, сіяніскай. Сіянізм — вызваленчая барацьба яўрэйскага народа. Але краіну след [называць] краінай, а не ўтварэннем».

*Штаты* сірыйцу: «Павагу выказваю да цывілізацыі, што выйшла за межы краіны і пакінула глыбокі след у гісторыі. Што тычыцца пракаменціраваць выступленне 3-яй краіны, — мы за іншых не адказваем. Мы за сваіх часта не адказваем. Мы эмбарга на зброю захоўваем з ПдАР».

*Англія* аргенцінцу: «Сёлета летам спроба на перамовы, калі пачаліся перамовы, урад Аргенціны захацеў толькі адну праблему [вырашыць] — аддаць ім Фалклендскія астравы, не ўлічваючы пажаданняў народаў астравоў».

*Ірак:* «Чаму Ізраіль [названы] сіяніскім утварэннем. Сіянізм ганьбаваны ААН. Хай ізраільскі прадстаўнік укажа на межы сваёй краіны».

*Аргенціна*. Пра перамовы: «Упор трэба рабіць на пазітыўныя аспекты».

*Старшыня*: «Быў крануты ўчарашнім канцэртам. Музыка без лінгвістычных папракаў. Каб мы ігралі адну мелодыю (хоць мая краіна шматмоўная), каб нашыя галасы гучалі ва ўнісон, каб рознагалоссі за гэтым пакоем зніклі. Жадаю добра правесці вечар».

*Вечар Украіны*. Выступае ўкраінка з Тарнопаля [Цярнопаля], гаворыць па-руску з акцэнтам і раптам *як ні поплюжить нас;* і нейк ласкавей і цыплей стала ад гэтага дужа ёмістага, да дрыжыкаў нервовага слова. Сімпатычны як чалавек і як гумарыст Алег Чарнагуз[1]. Фільм пра Салаўяненку[2] зацягнуты, як украінскі стэп без меж. Кінастудыя імя Даўжэнкі, адным словам.

Па паходжанні беларусы Сапегі, Пацы, Чартарыйскія, Вішнявецкія, Сакольскія, Корсакі[3], Касцюшка[4], Міцкевіч[5], *Глінка*[6], Дастаеўскі, «кающие-

---

[1] Чарнагуз Алег Фёдаравіч (н. 1936), украінскі пісьменнік-гумарыст. Заслужаны дзеяч мастацтваў Украіны (1996).

[2] Салаўяненка Анатолій Барысавіч (1932–1999), украінскі оперны спявак. Народны артыст СССР (1975). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1980), Нацыянальнай прэміі Украіны імя Т. Шаўчэнкі (1997).

[3] Сапегі, Пацы, Чартарыйскія, Вішнявецкія, Сакольскія, Корсакі — баярска-магнацкія і княжацкія роды ВКЛ, Польшчы, Расіі, Украіны.

[4] Касцюшка Тадэвуш (1746–1817), ваенны і палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, удзельнік Вайны за незалежнасць у Паўночнай Амерыцы (1775–1783), кіраўнік польскага вызваліцельнага паўстання 1794 г. супраць Расійскай імперыі. Нацыянальны герой Польшчы, Беларусі, ЗША.

[5] Міцкевіч Адам (1798–1855), польскі паэт.

[6] Глінка Міхаіл Іванавіч (1804–1857), рускі кампазітар.

ся дворяне» — беларуская шляхта. Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква. Праваслаўе ў Беларусь [прыйшло] праз Візантыю. Вільна: «...сооружена гетманом Литвы Константином Острожским[1] в честь победы православия над М[осквой] у 1514 г.» [Аршанская бітва]. Кірыліца — рускі варыянт старамакедонскай кірыліцы. Пскоў продкамі беларусаў — крывічамі заснаваны. «Мсьцислав не аднаго сьциснув». Грозны радзіміцкі бог Дзіва. Дзявочая гара ў Мсціслаўі, паводле падання яе найменавалі так у гонар тутэйшых дзяўчат, якія перад варожым нападам за адну ноч нацягалі сюды у сваіх хвартухах зямлю. «Россия», 9-й том (СПб., 1905) пра Мсціслаўль. М. Без-Карнилович[2] «Исторические сведения о примечательных местах в Белоруссии» (СПб, 1855). З Мсціслаўля скульптар Сцяпан Палубес[3], «дворцовых ценных дел мастер» — называлі яго ў Маскве.

З князем Курбскім[4] беглі з Масквы некаторыя з аддадзеных яму казанскіх татар, але калі адзін з іх, а менавіта Іван Келемет, быў забіты ў 1572 г. князем Дзмітрыем Булыга-Курцэвічам, дык у гарадскі суд Слуцка, які разбіраў справу, князь Курбскі, як ісцец, з'яўляўся ў суправаджэнні адваката — «приятеля своего, пана Федора Достоевского, земянина его королевской милости повета Пинского». Данііл Раманавіч (ці — Іванавіч) Рцішчаў[5], беларускі праваслаўны патомны шляхціч герба Радван. 6 кастрычніка 1508 г. ва ўзнагароду за свае ратныя заслугі перад вялікім князем літоўскім ён атрымаў ад пінскага князя Фёдара Яраславіча дарственную грамату на маёнтак Палкацічы і вёску Дастоева, ад якой ужо яго дзеці імянуюцца Дастаеўскімі. Пётр Дастаеўскі ў 1599–1628 гадах насіў выбранае званне маршалка (предводителя дворянства) Пінскага ўезда, з'яўляючыся адначасна членам Галоўнага трыбунала Вялікага княства Літоўскага, дзе, выступаючы ў якасці дэпутата ад Пінска, заўсёды адстойваў інтарэсы сваіх землякоў.

---

[1] Астрожскі Канстанцін (Васіль) Канстанцінавіч (1527–1608), палітычны і культурны дзеяч Украіны, Беларусі, ВКЛ.

[2] Без-Карніловіч Міхаіл Восіпавіч (1796–1862), беларускі гісторык, краязнавец і этнограф, вайсковы тапограф, статыстык. Генерал-маёр рускай арміі.

[3] Палубес Сцяпан (сапр. Іваноў), майстар паліхромных маёлікавых рэльефаў. Ураджэнец Беларусі.

[4] Курбскі Андрэй Міхайлавіч (1528–1583), рускі князь, баярын і ваявода, палітычны дзеяч, пісьменнік. У 1564 г. перабег на службу да польскага караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста.

[5] Родапачынальнік Ірцішчавых (Рцішчавых) — татарскі мурза Аслан-Чэлебі, які перайшоў на службу да рускага князя (1389), прыняў праваслаўе, ажаніўшыся з дачкой стольніка Маўрай (Марыяй) Жытовай. У 1456 г. род Ірцішчаў перасяліўся ў ВКЛ і ў 1506 г. Даніла Іванавіч Ірцішч атрымаў ад пінскага князя Фёдара Іванавіча Яраславіча некалькі дворышчаў у розных вёсках (у тым ліку Дастоева) Пінскага павета Мінскага ваяводства. Яго ўнук Фёдар Іванавіч у пошуках працы перабраўся на Падолле (пазней на Валынь, Украіна), адкуль родам (з сям'і ўжо патомнага праваслаўнага святара) і паходзіў бацька Ф. Дастаеўскага.

Сам пісьменнік успамінаў свайго другога продка — Стэфана Дастаеўскага — трэцяга сына гарадскога пісара, якому належыў маёнтак Сенніца пад Мінскам. Пазней, праз два стагоддзі, гэтым маёнткам валодаў Дамінік Луцэвіч[1], бацька Купалы. Сам Дастаеўскі колькі раз намагаўся наведаць Полибино на Віцебшчыне, дзе жыла ягоная каротчасовая нарачонка Анна Васільеўна Корвін-Крукоўская[2]. Часткова вобраз яе [адбіўся] ў вобразах Ахмаковай у «Падростку» і Кацярыны Іванаўны ў «Братах Карамазавых». Працаваў над «Злачынствам і пакараннем», але ў пісьме ад 17 чэрвеня 1866 г. піша: «Мне бы очень, очень хотелось погостить у Вас в Полибине». Яе сястра, тады 12-ці год, Соф'я Кавалеўская[3], іх бацька генерал-лейтэнант у адстаўцы і губеранскі прадвадзіцель дваранства, вёў род ад венгерскага караля Корвіна.

Рэпін[4] у Здраўневе [напісаў] эцюд «Беларусь» (1896), карціна «Пропаведзь Іасафата Кунцэвіча ў Беларусі» і вобразы Хрыста і Боскай Маткі. У 1897 г. Рэпін запрашае Тарханаву: «Не заедите ли к нам погостить в деревне попросту? Простейший из хуторов — Здравнево, Малое Койтово. Езды от Витебска на лошади два часа. Дорога идёт: на Бервин (тут пором через Двину), на Слободу и Большое Койтово, отсюда Вы увидите нашу башеньку и скоро доедете, и Вам все наши будут очень, очень рады и я так же».

Адна з прывілей вялікага князя літоўскага Вітаўта[5] адзначае: іхні ж звычай пачынаць усялякую справу, спачатку «святому Благовещенью челом ударив».

*26 кастрычніка, пятніца*

Нарада. Потым да абеда вольны. Па радыё: «Татэ, мамэ...» — яўрэйская песня нейкая, і далей англійская мова.

Пайшлі ў магазін па прадукты. Цялежкі коцяцца роўна, лінолеум яшчэ не ўздзьмуўся. Цяжка выбраць, бо шмат. Адна агаворка — дарага. Другая: нам. Меркаваць пра цану, не пажыўшы доўга і не ведаючы побыту, цяжка. Смелыя людзі, якія, пабыўшы колькі дзён, адразу сякуць ісціну, што дарага, што танна, што добра, што блага.

---

[1] Луцэвіч Дамінік Ануфрыевіч (1846–1902), бацька Я. Купалы.

[2] Жаклар (Корвін-Крукоўская) Анна Васільеўна (1843–1887), руская рэвалюцыянерка, пісьменніца. Сябра Рускай секцыі 1-га Інтэрнацыянала (1870), удзельніца Парыжскай Камуны (1871).

[3] Кавалеўская (Корвін-Крукоўская) Соф'я Васільеўна (1850–1891), рускі матэматык, першая жанчына член-карэспандэнт Пецярбургскай АН (1889).

[4] Рэпін Ілья Яфімавіч (1844–1930), рускі мастак.

[5] Вітаўт (1350–1430), вялікі князь ВКЛ (з 1392).

*IV Камітэт. Сінгапур* (права на адказ): «Наконт кампаній у Сінгапуры. Дзякуй прадстаўніку Саюза, што дапамог нам знайсці, бо ў нас малыя сродкі, але мы й самі правялі даследаванні. Даведнік Міжнароднага валютнага фонда 355 стар., сувязь Саюза з ПдАР гандлёвая 82 г. Саюз і Саюз 72 млн дол. Штатаў».

*СССР*. Адказ Сінгапуру. «Мы [ставімся] з даверам да яго [даведніка], але яшчэ з большым даверам да дакументаў ААН. Тады і павіншуем, калі дакажа».

*Сінгапур*. Адказ Саюзу. «Дакумент не з Прэторыі, а з МВФ, у бібліятэцы ААН. Я не думаю, што дакументы фальшывыя».

*Старшыня*: «Цяпер прыступаем да сур'ёзных пытанняў (і ў зале смех, як быццам усё раней сказанае — лухта). Прыступаем да галасавання».

Папраўку прапануюць Штаты: «Убраць ЗША і Ізраіль. Самалёты Штаты да эмбарга прадалі. Адна кампанія, якая прададзена з ядзерным рэактарам, які не для ваенных мэт, не Штаты прадалі. (Штаты яўна віляюць.) Ёсць некаторыя, што лічаць IV Камітэт зручным для нападак на ЗША. Тактыка халоднай вайны. На жаль, Штаты не могуць разлічваць на справядлівасць у ААН, у стварэнні якой Штаты зрабілі шмат».

*Дакладчык. Іран*: «Мы адстойваем пазіцыі нашых урадаў, ёсць і свае, хоць яны ў нечым і адхіляюцца. Я прасіў бы Штаты (прадстаўніка) абапірацца на сваё сэрца болей».

*Штаты:* «Я казаў, абапіраючыся на сваю ўласную свядомасць. Дзякую і прымаю за камплімент. Што тычыцца Сірыі. Мы маем права крытыкаваць свой урад, і жыхары яго горада таксама маюць надзею на такое права. Нобелеўскі лаўрэат архіепіскап Туту заклікаў да згоды, без крыві і рэвалюцый».

*Ірландыя*: «Ад 10-ці дзяржаў еўрапейскай супольнасці эканамічнае развіццё — важны фактар для далейшага самавызначэння».

*Данія*: «Падтрымка любых крокаў, якія не разыходзяцца з рашэннямі ААН. Данія ўстрымліваецца ад галасавання рэзалюцыі».

*Японія*: «Праект не збалансаваны. Мы ўстрымліваемся ад галасавання».

*Заір*: «Усе, хто нясе адказнасць за самавольства ПдАР, павінны быць указаны пайменна. Але трэба ўсіх, і таму не будзем галасаваць».

[*Рэспубліка*] *Батсвана:* «Будзем галасаваць за дадзены дакумент».

*ФРГ:* «Не падтрымліваем праект рэзалюцыі».

*Канада:* «Спрэчкі ўсё болей і болей [становяцца] малаплённымі. Рызыкуем прымаць рытуальныя рэзалюцыі і нават можам перашкодзіць дэкаланізацыі».

*Новая Зеландыя*: «Устрымліваемся ад галасавання».

*Францыя*: «Ад галасавання па 1-му пункту ўстрымліваемся, па 2-му пытанню падтрымліваем Ірландыю. Мы за праўкі ЗША, а па правілах будзем супроць».

*Турцыя*. Супроць упамінання краін ў тэксце.

*Уругвай, Нідэрланды* і доўгі пералік краін (рука забалела).

*Выступае швед,* перакладчык: «Мы разбирали это в саду, извините, в суду...»

Пакуль выступаюць спікеры, каб заблытаць след здаровай думкі, амерыканцы шнырацць па зале, як цыганы, угаворваюць, прапануюць, пагражаюць. Ва ўсіх усмешка, як у варшаўскіх афіцыянтаў.

*Галасаванне*: за 113, супраць 4, устрымалася 23 (не спрацавала ўся сігналізацыя). Нехта не тую кнопку [націснуў].

За 62 64 115

супр. 47 47 11

устр. 24 24 15. І далей выступленні.

*Італія.*

*Фіджы*. За дзейнасць эканамічных колаў, гэта не супярэчыць дэкаланізацыі.

*Канцэрт*. Негры адзін у адзін здаравенныя, адліваюць такой чарнатой, аж страшна, каб не прысніліся — у сне скрычышся. Спяваюць, касцюмы блішчаць па-сучаснаму, як начныя галасы самой Афрыкі, і тамтам пазвоньвае, як ланцугі, якія звінелі на руках і нагах, калі іх вялі. Бас — здаецца, чорны бог не праспаўся, а пасля, апахмяліўшыся, у скокі, і ходзіць хаданём зямля, і ў ладкі б'юць азёры і валуны, і хрыпнуць у суперніцтве званы. Спяваюць негры, не трэба слоў разбіраць — Афрыка пяе з глыбіні вякоў, і ў чорных пячорах ратоў да холаду белы агонь зубоў высвечвае цемру.

Спявае кітаечка. Шатландзец на валынцы ў спадніцы. Раптам «Карабейнікі»[1], потым амерыканскую песню і яўрэйскую, а ў заключэнне на трох мовах салісты амерыканскую песню [выконваюць]. Пасля пасол Кейсі віншаваў і сувенір перадаў.

Збіраюся ехаць на Ніягару. Па радыё знаёмая мова. Літоўцы пра бажніцу ў Клайпедзе, пасля на англійскую мову [пераходзяць], і дужа шчымлівая літоўская песня, і ростань, і працяжная туга ад Нью-Йорка да Вільнюса, дзе недзе мой дружа Балтакіс[2] пацягваецца, бо ў нас і ў Літве недзе

---

[1] «Карабейнікі» (ці «Каробушка»), руская народная песня на словы М. Някрасава. *Някрасаў* Мікалай Аляксеевіч (1821–1877/78), рускі паэт, празаік, крытык.

[2] Балтакіс Альгімантас (н. 1930), літоўскі паэт, крытык, перакладчык. Народны пісьменнік ЛітССР (1986). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛітССР (1966).

каля 7 раніцы. Добрай раніцы, дарагі Альгіс! Ці паклаў ты сала сваім сінічкам за вакном — зялёнага сала (па-літоўску зялёнае — свежае).

*Альгісу Балтакісу*

Балтакіс з Балтыкай на «ты».
Яму сам-брат і він круты.
І, перайшоўшы «Чортаў мост»,
Ён «Марафон» вядзе наўпрост.

*1984*

*27 кастрычніка, субота*

4.15. Аўтобус — на Ніягару. Яшчэ хлопцы дамоў вяртаюцца, там-сям крамкі адчынены. Едзем з горада. Машына, як паголены вожык, у лісці, здаецца, зафыркае лычом і страсе лісце. Горад канчаецца, цемра. Паступова ў імжыстую раніцу едзем. *Адных песцяць, другіх бэсцяць.*

Хачу задрамаць і не магу. А як певень на жэрдцы?

Пайшоў лес восеньскі, блізкі да нашага. Увесь час выступы скальных парод. Трывалы падмурак прыроды ў края. Вятрак двухпавярховы, як павук — чакае авадня ветру, каб залыгаць, а пакуль распята на крыжах цішыня. Недзе хаткі. Таполі, як на Украіне.

1679 г. *Ніягара, г. Бафала*. Казіная падкова, Казіны востраў. Вэлюм нявесты. Па дарозе. І хацінкі з дошчак, сухарэбрыя дамы, дзе ў дварах машыны, не коні і не авечкі. Чым бліжэй да Канады, ямы, хмызы, як і ў нас. Двухсуковыя дажджавалкі працуюць самі без дагляду, на акладзе. Возера Эры недзе як Завячэлле. Некаторыя лічаць, што Ніягара не вадаспад, а праліў, бо злучае два водныя масівы. Niagara Falls. Вадаспад. Амерыканскі і канадскі вэлюм нарачонкі.

Кідаецца ў прорву хмара,
Не вяртаецца назад.

Быццам вар з крапасных сцен льюць на галовы асаджэнцаў. Скалы чарнеюць праз зялёныя хмары, як крылы птахаў, што павінны зрынуцца ў ахвяру гневу. Унізе чайкі, як срэбныя манеты, што кінула вяртанне першародства. Як белая грыва шалёнага скакуна, як валасы расчэсвае. Дзе той дзівак з гузам на галаве, на ілбе? Як экран нацягваюць для ночы. Хмары зрываюцца і ўнізе ўжо зноў дымяцца хмарамі белымі, ад зялёных да белых, закіпелых. І вечар падае, і белы змрок гатуецца, кіпіць ў чанах вялізных, аж хочацца дзьмухнуць, каб пастудзіць, як малако ў нас на газавай пліце, ці закурыў вялікую цыгару адвячорак — пускае белы дым. І толькі і таго навару, што свежы кіпецень. І галасы гарластых чаек глухнуць, і нават рэактыўны — ад гулу гнеўнай турбіны, што выпрацоўвае

бунтоўнасць ток, каб па жылах індзейцаў цячы, як памяць пра іхніх продкаў. І з конскае падковы зялёная вада спадае, мыючы, каб не заіржавела, скакала абуджаць камп'ютарна-транзістарную глухасць і сэрцы да буйнасці вяртаць.

Цямнеецца на канадскім беразе. Вечарнеецца, +19°, і час 5.19, а хмара белая ўздымаецца з цёмнымі, па нізкіх тут, нябёсах, каб зоркі — прыбярэжныя агеньчыкі, як знічкі, як светлячкі, што гарэлі ў мяне нядаўна, здаецца, на далані каля Доўжыцы, дзе быў Анікейчык, мая Заінька, тыя светлячкі, і халодным святлом аж тут грэюць, даланя аж засвярбела, здароўкацца бадай што буду са снамі пра радзімую старонку.

А вадаспад так прыемна грыміць, што не надакучыць ніколі, слухаў бы і слухаў. Ні радыё навокал, ні лозунгаў, ёсць зялёная яшчэ трава, атава, і зыркія кветкі, цэлы трохкутнік, дрэвы часткова з зялёнымі лістамі, чайкі, якія пацямнелі ў змроку, зялёная вада з падковы падае — і Ніягара. Слухаў бы цябе, вадаспад, вечна-найлепшы прамоўца, які ніколі не надакучыць, хоць адно і тое шуміш, каб падкрэсліць цішыню. Шумі, не змаўкай у сусвеце цішыні!

Цёмна-белую бараду расчэсвае пан. Нарэшце падсветка то чырвонымі, то глыбока-рунёва-зялёнымі адценнямі, а адна пасма белая, не падсвечаная. Як бывае ў прычосках ці натуральна. Бывай, Ніягарскі, шумі з падручніка, хвалюеш з Ушач і з верша Пімена Панчанкі.

Аднапавярховы зручны гатэль. Проста і выгодна. Мы маглі б такімі забудаваць і поўдзень, і поўнач. Ездзіце, людзі, каб у вершах гуло!

*28 кастрычніка, нядзеля*

На дварэ яшчэ цёпла, як маладая-маладая восень у Беларусі. А ў нас недзе сняжок наважваецца сыпануць з азяблай жмені халодных белых манетак, абскубсці гуся.

*Ніягарскі форт*. Частка пад жыллёвымі дамамі, быццам мірныя дамы, а на самой справе ваеннае збудаванне, каб ашукаць індзейцаў. Байніцы — дзве далані вузка сыходзяцца, гарматы. Сухая парахавая вежа. І недзе авадзень, як у паўдзень, зумкае.

*Музей каланізацыі*. Спачатку з крыжам, а пасля сцяг уздымаюць, і ўрэшце адны заваёўнікі перад гэтым і нейкія ўмовы падпісваюць, уяўная дэмакратыя. Так заўсёды — замкі́, грошы, стрэлы, наручнікі, кайданы.

Турысцкі цэнтр, як могілкі заўчасныя, дзе галасы жывыя наведвальнікаў толькі напамінаюць, што было, гуло і гаварыла.

Па асфальтаванай дарожцы жоўты ліст каштана, як мышка, якую хвост пераважвае і не дае рухацца хутка, вецер няважкай лапай без кіпцяў ловіць мышак рудых. Паўзе сучок, галінка з правадкамі — сяміножка. І мы поўзаем, адзін ступ нагі вышэй, і няма нас таксама. Кляновы [ліст]

цераз Антарыю з Канады перапалены ляціць. І плыве па возеры Эры, як да Хрыстовай, у нашай эры.

Ветраязыкі, дасканалы,
Нібы з дахрысціянскай эры,
Дубовы ліст ляціць з Канады
Бы ў Лету,
Падаючы ў Эры.

* * *

Мільгаюць праезджыя гарады,
А ў сэрцы цяпельца трапечацца.
Бярэмца бярозавых дроў з грады
Узяць наўзваж і спаліць у печачцы,
Каб аж учарнеў саганок-таўстунок,
Каб бульба запахла прыгаркамі,
Каб пара дастала да аблок,
Каб сабакі прысмакаў прагаўкалі,
А матчына хата адна і адна,
З хляўком перамшоным, з тынянкаю,
І сэрца, нібы ад ствала карына,
стаянкаю[1].

Плёнка маркоты, велічынёю на ўвесь Атлантычны, праяўлена, кожны дзень выяўлены, і сцежкі, і абліччы, і нават галасы[2].

Цэлы дзень у дарозе, каб яшчэ адчуванне бязважкасці, яно пад канец пачыналася, поўнае б адчуванне было касмічнага палёту.

*** На гэтай зямлі ў тых жа рытмах калоцяцца і прышэльцы. Дух індзейцаў жыве і цвеліць чужакоў.

*29 кастрычніка, панядзелак*

*Агляд Time*. Учора ў Нью-Йорку марафон 15-ты, 18 тыс. [удзельнікаў], Арланда Піцалата перамог. 26-гадовы студэнт італійскі. Хоць і жывот балей, і ногі, і нарвежац, 40 км, 25 тыс дол. + Мерседэс-бенц (22 тыс. дол.). Душна было, потна, 99% прабеглі. З Польшчы — 50 тыс. чалавек прысутнічалі на месе ў гонар украдзенага польскага святара Ежы Папялюшка. Ерусалім, абстралялі араб. аўтобус. Памятка па правядзенню партызанскай падрыўной дзейнасці для Нікарагуа на аснове матэрыялаў в'етнамскай вайны. Дзіцё з сэрцам гарылы добра сябе адчувае. 16-дзённы хлопчык у крытычнай, але стабільнай сітуацыі, Медцэнтр універсітэта

[1] Гл.: Шукаю сябе (4.12.84, Нью-Ёрк) // Маўчанне перуна. С. 256.
[2] Гл.: «Маркоты даўняя плёнка...» (30.10.84, Нью-Ёрк) // Тамсама. С. 263.

Лома-Лінда. Рэйган ухваліў сіянізм як манументальную з’яву яўрэйскага народа.

З самай раніцы пачаліся турботы, нешта падпісваць. [Час.] The New York Times Magazine. Наш сцяг з сярпом і молатам на ўсю старонку і чалавек на каленях сагнуты прыўзнімае як заслону і глядзіць як з-пад паднадолка. Загаловак: What We Really Know about Russia [«Што мы на самой справе ведаем пра Расію»]. У іншым дадатку статуя Свабоды, і на ёй этыкеткі рэклам, заклік ахвяраваць на рамонт Свабоды, сапраўды, свабоду след рамантаваць. Гутаркі — што, як, хто, дзе.

Сяджу да заўтра дома. Вечарам прыехала жонка Алега Мікалаевіча Пашкевіча. Усім пісьмы. Мне няма. Ці не званілі, ці не маглі дазваніцца. […]

Вольга Лаўрэнаўна [Панкова] цікавыя, дакладней, жахлівыя гісторыі [расказвае]. Прасніцу спалí — сыны пойдуць. (Што жонка ў пасаг [прынясе]? — прасніцу. Значыць, дочкі.) З вайны ацалела прасніца. Маці нарадзіла сына. А я шукаю, дзе прасніца. Дзецям немцы ў канцлагеры далі хлеб з шклом. Бацькі давалі, маткі ад сябе адрывалі самым меншым, і 1933–1935 года [нараджэння] недзе ўсе памерлі ў жахлівых пакутах, шкло раз’ела страўнікі.

Халера! Не думаў, што так буду чакаць, што і мне дадуць ліст. Як голы дуб лістоў вясною, чакаю я лістоў з хларафілам хатніх рэалій.

*30 кастрычніка, аўторак*

Адкаціўся адзін поўны месяц. Марудна коцяцца. І нічым не падгоніш.

*Агляд Time*. Следчы па ахове акаляючага асяроддзя — каля Ніягары ўцечкі далі таксічныя рэчывы. Рэйган і Мандэйл. Параўнаў з перамогай Трумэна[1] ў 50-я гады Рэйгана, ён можа ў 50-ці штатах перамагчы. У Чылі 12 выбухаў [здзейсніла] антыўрадавая апазіцыя. У Жэневе Сесіл Ор (крадчы прас нафты) [прапануе] скараціць здабычу нафты, каб супыніць зніжэнне цэн на нафту. У Чылі 140 чалавек [адправілі] у ссылку, бо [тыя] хацелі звароту да дэмакратычнай формы кіравання. Супроць урада цяпер і царква. Перапахаваны астанкі Фёдара Шаляпіна[2] на Навадзевічым магільніку (памёр у Парыжы ў 1938). У Польшчы шукаюць трупы забітых святароў у Вісле. У ФРГ мясцовыя выбары. Партыя зялёных дасягнула поспехаў. Штаты і Кітай [вядуць] перагаворы, каб ваенныя караблі 7-га флоту маглі заходзіць у парты Кітая. Гавана. Фідэль [Кастра] адкрыў канферэнцыю (сход) кампартыі, рэзка крытыкаваў Штаты за заяву сцер-

---

[1] Трумэн Гары (1884–1972), прэзідэнт ЗША (1945–1953).

[2] Шаляпін Фёдар Іванавіч (1873–1938, Францыя), рускі спявак, рэжысёр, мастак. Народны артыст Рэспублікі (1918, Расія).

ці сацыялізм з вобліку зямлі. Прэзідэнт Балівіі[1] закончыў галадоўку на 5-м дні і дасягнуў клімату паразумення, будзе піць ваду датуль, пакуль не здымуць (кангрэс) забарону па наркотыку. Ваенныя — В'етнамская вайна — вяртаюцца дамоў у бронзе, устанаўліваюць помнікі. У Нью-Йорку 410 бяздомных зарэгістраваліся для ўдзелу ў выбарах. Грэта Вейц (Veic) — нарвежка, пераможца марафону сёлета. На тэрыторыі Кеніі даўно хадзілі чалавекападобныя істоты (яны і цяпер там ходзяць!).

*IV Камітэт*. Пытанне Фалклендскіх (Мальвінскіх) астравоў.

*Венесуэла* (дакладней, венесуэлачка з хлапчукоўскай стрыжачкай, гнуткая, у чырвонай вязанай сукенечцы): «Астравы належаць Аргенціне».

Выступаюць *петыцыянеры:* «Меркаванне, што мы не народ, — лухта. Хто бываў, пераканаўся, што маем культуру, што далучаны да цывілізацыі. Астравіцяне адзінадушна лічаць, што, застаючыся перад уладамі Англіі, мы за сувязі з Аргенцінай. Брытанія ўстанавіла 200-мільную зону нашай свабоды. Ператварылі астравы ў абшчыну, нам не трэба новай дэмакратыі, пра якую мы чуем. Англічане падарылі нам мір і падтрымліваюць яго, новы аэрапорт — важны фактар эканомікі, хутка рыбу можна збываць, турысты, якім хочацца пазнаёміцца з нашай дзікай прыродай. Фермеры аддзяляюцца ад буйных ферм і свае фермы засноўваюць. Усё насельніцтва за самавызначэнне. Мы не хочам быць задворкамі Аргенціны».

Пытанне *Венесуэлы:* як паляпшалася становішча.

*Петыцыянер:* «31 млн. Англія дала, мы будзем апрацоўваць сырую воўну. Многім зразумела, што цана на канечны прадукт вышэй, чым на сыравіну». Цікава, [гавораць] пра супердзяржавы, пра ядзерную зброю і яшчэ праблема ваўначосак і да т. п. Яшчэ далёкая ступень развіцця.

*Аргенціна*. Пытанне вялікабрытанскім петыцыянерам: каланіяльны каланіялізм цяпер на Фалклендах?

Выступае *петыцыянер,* ён жыве ў Аргенцыне, родам з Фалклендаў, ён за Аргенціну. Другая *петыцыянерка:* тэатр для міжнароднай канфрантацыі.

Няўжо адсюль,
З адкормленай,
З аштучненай краіны
Пачнецца Трэцяя,
І гэта ўжо апошняя.
Яна ўяўлялася
Туманнаю і смогавай,

[1] Сілес Суасо Эрнан (1914–1996), прэзідэнт Рэспублікі Балівія (1982–1985).

І д’яблавай,
І нават трошку богавай.
Цяпер жа, ўбачыўшы
Яе рэальную…

*Англічанін*: «Каго прадстаўляе петыцыянер?» Адказ.

*Аргенціна*. Пытанне астравоў Генасамблеі. «Там і будзе яно разбірацца. Але чаму не ідзем насустрач просьбам Генасамблеі?»

*Група правоў меншасці*, выступае (дама). Становішча ў Палау.

*Прадстаўнік Маршалавых астравоў*: «Месца выпрабавання з найменшай рызыкай. Наймагутнейшыя выпрабаванні атамнай моцы ЗША. Смерць ад лейкіміі. ЗША заявілі, што ўсе, хто апраменены, адчуваюць сябе добра».

*Агенцтва ядзернай абароны*: «2 астравы Бікіні заражаны. Выпрабаванні [каштуюць] млрд долараў Штатам, але яны акупіліся». Англічане і штатаўцы прадбачліва загадзя выйшлі, праўда вочы коле. «Жыхары Бікіні жывуць як ізгоі. (*Прафесар радыяцыённай біялогіі,* новыя прафесіі.) Амерыканцы сказалі, што жыхары Бікіні як дзеці Ізраіля, і яны іх завядуць у зямлю абетаваную. І адвялі. Дагэтуль яны не дома. Радыялагічную чыстку атола Бікіні трэба правесці. Пытанне чысткі Бікіні — пытанне маралі і закона».

Дома заданне — артыкул у «Русский голос». Хоць пэнкнеш… робіцца сумней і сумней. Як на зборах пасля ўніверсітэта, толькі дужа доўга. Сумныя вершы эмігрантаў, туга беспраглядная. І крыўда, і адчуванне віны, у якой не хочуць прызнацца. Працяг традыцый беларускай паэзіі. Уплыву і сутыкнення з іншымі паэзіямі, дзе жывуць і пішуць эмігранты, дужа мала. Пра што б ні пісалі — дамоў, дамоў, куды шляху няма. Самыя дробныя рэаліі так абагоўлены, аж цяжка падумаць. Ростань, адлегласць, чужына дыктуюць словы жалю і тугі. Хочуць недзе ў палітыку ўлезці, але гэта атрымліваецца надта ўжо няўклюдна. Мова ў старэйшых дужа прыстойная, сакавітая, з мясцовымі слоўцамі. З забытымі ў нас выразамі і формамі. Што стварае ўражанне даўніны і музейнасці.

*31 кастрычніка, серада*

*Агляд Time*. Забойства Індзіры Гандзі. Сікхская арганізацыя тэрарыстаў узяла на сябе ўсё. Абодва [тэрарыста] забіты другімі ахоўнікамі, амерыканскі варыянт. Знайшлі цела святара [Папялушкі] ў Польшчы ў вадасховішчы. Лех [Валенса] заклікаў да спакою. Амерыкана-савецкія адносіны ў сувязі з замахам на Папу[1], быццам бы з Балгарыяй звязана.

[1] У 1981 г. замах на Іаана Паўла ІІ здзейсніў Агджа Мехмет Алі (н. 1958), турэцкі тэрарыст, але заходнія палітыкі шукалі савецкі ці балгарскі след.

Тэтчэр [заявіла] шахцёрам-забастоўшчыкам, што на перамовы не пойдзе. Мы спынілі пастаўку паліва Англіі ў сувязі з забастоўкай шахцёраў. Засуха і голад у Эфіопіі. Заклік да Штатаў пазбіраць грошы і дапамагчы. У Ліване ў Трыпалі расстралялі некалькі чалавек за расстрэл дэманстрантаў. Учора ў ААН пытанне аб Кампучыі. Рэзалюцыя антыв'етнамская, антысавецкая за быццам бы самавызначэнне. Індыя, Пакістан, Бразілія, Аргенціна на мяжы вытворчасці ядзернай зброі — мяркуюць спецыялісты. Магчыма, Ізраіль і ПдАР ОПЕК[1] дабілася зніжэння вытворчасці нафты ў 13-ці краінах.

Тамаш Няверны.  
Кіненая жменя медзякоў,  
мястовы вечар.  
Пакуль навесіць ноч на чорным небе ветах,  
я кужалем сівым няўзнак  
датку мой верш.  
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .  
Жыццё,  
вярнуцца з паўдарогі  
было б мо жартам невясёлым.  
Дык дай мне роднага парогу  
даткнуць,  
пакуль самкнецца кола!  
Свет на ахвярніку ахвяры паліць.

Прафесар у барахле рыўся, як мяснік.

У *Рывердэйл.* У Сакалоўскага ў гасцях. Жонка армяначка з Ташкента. Усё дамашняе, хоць і гатовае з магазінаў. Зноў прыправа да мяса — брусніцы салодкія, як дома ў мамы некалі. Журавінавы сок.

Кіно ўнізе. Як муж у дом свой да жонкі [прыходзіць]. Мёртвы дух з'яўляецца, і яна спачатку думала, што хто іншы гвалціць, а гэта мужнябожчык. Пад канец — гэта ўсё было [на самой справе], і жанчына — прозвішча, імя — жыве ў Тэхасе, і цяпер дух з'яўляецца, — цітры тлумачаць.

*1 лістапада, чацвер*

Новы месяц. *Дзень добры, лістападзе. Што ў душы тваёй, што ў тваім паглядзе? Лістоў не дужа, нешта ападзе — туга і скруха, будзе сэрца глуха шчымець, туды імкнуцца, дзе на вятрах галіны гнуцца, дзе дагарае лісцеў медзь. Першы дзень золата, другі серабро, трэці медзь — і дадому едзь.* У мяне ўжо на другі месяц пераваліла. Калі ж ён, трэці, — ад'ездачны?

---

[1] ОПЕК — Арганізацыя краін-экспарцёраў нафты.

У поце аблічча, разглядаць усупор, няма патрэбы саромецца й далікаціцца, малочна-мляўкая Эльза, павіннасць ветласці, у зусім цеснай блізіні, за гэтай зюканінай забыўся на гэтую небяспеку, пярэдых, д'ябліца.

Трохі кіно. Прыгоды Шурыка[1], толькі па-амерыканску — усе іхнія супермэны. Забава ідыётам — кэч. Як клоуны б'юцца на рынку, а гледачы ажно шалеюць.

Зноў крычалі ля нашага дома словы з трох і з пяці літар. Хоць бы павучыліся правільна вымаўляць.

Неўпрыкмет падступіла туга зялёная, раблю, стараюся [зрабіць] яе каляровай[2].

*2 лістпада, пятніца*

Учора з Алесем [Барушкам] прайшлі па лістападаўскім Ёрку. У вітрыне на мяккіх стружках сабачаняткі ў двух кодлах, дзвюх парод ляжаць. Маленькія, грэюцца адзін ад аднаго.

…Аздараўленне хворых,
Прыпынішча грэшных,
Пацеха сумных,
Маліся за нас!

[Падобна, тут і далей выпіскі з тэкстаў беларускіх пісьменнікаў Амерыкі.] Зярнё. Як спараліжаваная чарапаха. Сувязьні. На каго Гэра, на таго і ўся халера. Кішкі гаркаюць. Зубы ляскаюць. Роскаш і сунеча зацішных гарэмаў. Хаця прысмак смаліць глытаўку, адылі, сьцёбнуўшы крыху, чалавек ажыўляецца. І шчупачка таксама прыпёк. Усё — за выняткам людзей. Мул, які вёз біф, скаціўся ў протхлю. Дарожкі вузюткай, рабіны почат. Няпослух.

*IV Камітэт*. Старшыня пачынае спачуваннем і добрым словам згадвае Індзіру Гандзі. Найвысокая ацэнка яе дзейнасці, жыцця, лідэр недалучаных краін. Выступаюць Японія, Польшча, Турцыя, Аргенціна, Уганда, Штаты — спачуванне Індыі ў сувязі са смерцю Індзіры Гандзі.

*Старшыня*: «Смерць аб'ядноўвае ўсе народы, каб ісці разам у інтарэсу чалавецтва».

Выступленне *БССР (Ул. Каралёў).*

*Петыцыянеры.*

---

[1] Герой фільма «Каўказская паланянка, або Новыя прыгоды Шурыка» (1967) Л. Гайдая. *Гайдай* Леанід Іавіч (1923–1993), рускі кінарэжысёр, акцёр, сцэнарыст. Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1969). Народны артыст РСФСР (1974), народны артыст СССР (1989). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя братоў Васільевых (1970).

[2] Гл.: Зялёная туга (19.11.84, Нью-Ёрк) // Маўчанне перуна. С. 268.

[Выпіска:] Заплодненыя сподзевам сады рубяць, бо вогненны выліў вулкану. Высокае места — Траецкая гара ў Мінску. І пахне ля хмелевай зямлі. Аскепак-маладзік. Няўсподзеў. Уладзімір Дудзіцкі[1]:

А з хаты прышлыя ўкралі восці.
Да слёз расчулены з такой бяды,
Мой кот, прывучаны да рыбы, посціць
І часта нюхае мае сляды.

Вечарам трохі кіно. Японцы ў кроў [б'юць] адзін аднаго, з прыёмамі і дзікімі крыкамі.

*3 лістапада, субота*

Паездка па горадзе. *Даўнтаўн*. Руская мова, польская, руска-польская. «Слава Богу, дошли до дяди Коли!» На магазіне шыльда (з паперы) па-руску. У прэсе: Алілуева[2] вярнулася ў Саюз. Каментары ўмераныя. Паход з Алесем [Барушкам] па 5-й авеню. Шатландзец аж пасінеў ў спадніцы. Ляжыць драбяза і папяровыя долары. Можа, і сагрэецца пад вечар. На вуліцы збоку перасоўная магутная ўстаноўка тэлевізійная. Апытанне думкі наконт кандыдатаў [у прэзідэнты]. Поўнае ўражанне, што ўсе самі галасуюць. Крычыць нейкая вар'ятка: «Уперад!» У касцёле святога Патрыка служба. Людзей мала. Турысты ці разявакі ёсць. Пад столлю сцяг Ватыкана і Штатаў.

У кніжны магазін. Дужа багата. Паэзіі сціплы вугалок, куточак. Серыя класікі шыкоўная. Шмат біяграфій, цэлыя стэлажы «Кар'еры» — як рабіць. Кар'ерыстам бы добра было і ў нас павучыцца. Магазін на два паверхі, дакладна другі накшталт цокальнага. Выбар вялікі. Казлабароды Салжаніцын[3], паборнік «единой и неделимой», Мусаліні[4], біяграфія Чэрчыля[5] (дужа падобны на кінача Андрэева[6]).

---

[1] Дудзіцкі Уладзімір Ермалаевіч (сапр. Гуцька; 1911–1976 ?), беларускі паэт, празаік, перакладчык, публіцыст. Быў рэпрэсаваны (1933–1936). У час Другой сусветнай вайны ўваходзіў у склад Беларускай Цэнтральнай Рады. З 1944 г. служыў у Міністэрстве прапаганды Германіі. З 1960-х гг. жыў у ЗША. Па ўспамінах жонкі, магчыма, сумуючы па радзіме, перабраўся ў СССР у 1972 г., і сляды яго згубіліся.

[2] Алілуева Святлана Іосіфаўна (1926–2011), дачка І. Сталіна. З 1966 г. у эміграцыі — у Індыі, Англіі, ЗША. У 1984–1986 гг. зноў часова жыла ў СССР.

[3] Салжаніцын Аляксандр Ісаевіч (1918–2008), рускі пісьменнік. Быў рэпрэсаваны (1945–1953). У 1974 г. пазбаўлены савецкага грамадзянства. У 1974–1994 гг. жыў у Швейцарыі і ЗША. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1970), Дзяржаўнай прэміі РСФСР (1990).

[4] Мусаліні Беніта (1883–1945), фашысцкі дыктатар Італіі (1922–1943).

[5] Чэрчыль (Чорчыл) Уінстан Леанард Спенсер (1874–1965), дзяржаўны і палітычны дзеяч Вялікабрытаніі. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1953).

[6] Андрэеў Барыс Фёдаравіч (1915–1982), рускі кінаакцёр. Народны артыст СССР (1962). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1948, 1950).

На вуліцы адносна не многа градусаў, але марскі вецер робіць паветра асабліва зябкім. Хто ў чым. Адны ў зімовым, другія з кароткім рукавом. Адным словам, свабода рукавая і безрукавая. Выбірай, хто што хоча. На вуліцах стаяць з плакатамі, патрабуюць спыніць мілітарызм. Негры супроць апартэіду, супроць Паўднёвай Афрыкі (урада яе).

Зайшоў да Алеся ў гасцініцу. Такі ён душэўна-далікатны. Ягоны новы сусед з вайскоўцаў (я нават адгадаў, што бацька артылерыст), зблізку не такі і пыхлівы. Проста па маладосці заносіць, як зайца са слановым хвастом. Частаваў чаем, малочнымі стравамі, курынымі ножкамі. Сам сабе гатуе. Выходзілі з гасцініцы, па сквапна-дрыгатлівых руках і па безлічы пакункаў пазнаў у цемрыве прафесара-ідыёлага, які разаблачае іх быт, іх нораві. Ну а рукі заняты (і думкі) як рэчавымі доказамі антычалавечага ладу.

*4 лістапада, нядзеля*

Ад'езд у *Філадэльфію* (Братэрская любоў), Пэн[1] (Пенсільванія). Умова з індзейцамі 1683 г.: «Лепш яма, чым цямніца, лепш пячора, чым ненавісная турма». Першы і адзіны дагавор, які ніколі не быў парушаны. Ратуша, рынак, зручная турма, не было жабракоў, ні старых дзеў, старадзевак, калі Пэн прыехаў глянуць на горад. У 1768 годзе ўбіралася смецце, [створана] першая пажарная каманда і страхавая кампанія супраць пажараў. Знакі страхавой кампаніі і сёння трапляюцца. Пад уплывам квакераў[2] грубыя і шумныя відовішчы былі забаронены. Пасля назвалі горадам дамоў — самым прыгожым горадам Штатаў. Блакірваўся імпарт з-за падаткаў. Сваё «чаяпіцце»[3] адбылося. Дэкларацыя незалежнасці аб аддзяленні ад Англіі, — званіў звон на ратушы і гарэлі кастры, квакеры былі пацыфісты, а Дэкларацыя [выклікала] вайну, але многіх пераканалі. Першы Канвент пра адмову рабства неграў быў у Філадэльфіі, горад бок паўночных [штатаў] прыняў. Гомеапатычная медыцына старэйшая ў Штатах. Жаночы дызайн, бібліятэка ў 1892-м[4], буйнейшая бібліятэка — абанемент [меў] Франклін[5] і яго сябры.

---

[1] Пэн Уільям (1644–1718), англійскі палітычны дзеяч, заснавальнік англійскай калоніі, названай Пенсільваніяй. На гэтых землях увёў рэлігійную цярпімасць і прыязныя адносіны з індзейцамі. У 1682 г. заснаваў г. Філадэльфію.

[2] Квакеры — члены рэлігійнай хрысціянскай абшчыны, заснаванай у сяр. XVII ст. у Англіі.

[3] Параўнанне з так званым «Бостанскім чаяпіццем» (1773), эпізодам барацьбы англійскіх калоній у Паўночнай Амерыцы за незалежнасць.

[4] Памылкова, першая ў паўночна-амерыканскіх калоніях Публічная бібліятэка была заснавана Б. Франклінам у 1731 г.

[5] Франклін Бенджамін (Веніамін; 1706–1790), амерыканскі асветнік, дзяржаўны дзеяч, вучоны; адзін з аўтараў Дэкларацыі незалежнасці ЗША (1776) і Канстытуцыі (1787).

*Музей мастацтва* буйнейшы ў свеце на пляскатым схіле. Аддзел яго — Музей Радэна[1]. Фазпатроны [?] — шкляныя пласціны, устаўленыя ў рухомыя ўстаноўкі. Домік Эдгара По[2]. Каланіяльны і федэральны стыль архітэктуры з простымі лініямі, з ячэістымі Салівена[3]. Міжнародны мадэрнізм, функцыяналізм у архітэктуры.

Уязджаем у Філадэльфію. Магільнік, слупкі. І свежая, падрыхтаваная, як крот нарыў пяску. Чакае некага. Так і жыццё ўсё мітусіцца, а магіла чакае. Домік швачкі, якая сшыла першы незалежны сцяг Штатаў. Таверна-музей, А[?]-стрыт, 39. More Music, More Magic [»Больш музыкі, больш чаравання»]. Vincent van Gogh[4] «Sunflowers» [»Сланечнік»]. Рэнуар[5] (1841) «Купальшчыцы». Marc Chagall, French, b. Russia [Марк Шагал, французскі мастак] «Purim» (1916–1918). Шагал: «Ох, боже» — па-руску, галава, уніз галавой.

*Музей Радэна*. The Cathedral (дзве рукі, якія вось-вось злучацца пальцамі, і рух агню і палу, і ад ветру затуленне. The Hand from the Tomb (адчай здзіўлення і цяга зноў да жыцця, да працы). The Secret — зноў зведзеныя пальцы. Colossal Hand of Balzac[6] — прорва вачэй і хмара чарнагрывых валасоў папа. Аголены Бальзак, заземлены [малюнак трохкутніка] мужчынскаю асновай. The Hand of God (глыба і канвульсійныя фігуры яе і яго). Betsy Ross' House «Stars and Stripes» [Дом Бэтсі Рос, швачкі, якая пашыла першы зорачна-паласаты сцяг].

Месца, дзе суд ішоў, паседжанне, дзе падпісана Дэкларацыя размяшчэння з поўначы на поўдзень. Крэсла ўзыходнага сонца. Гусіныя пёры. Зала прыёмаў, клавесінаў. Гід і расказвае (усмешка Толі Емяльянава[7]), і грае.

*5 лістапада, панядзелак*

*Агляд Time.* Апошнія дні перад выбарамі. Кожны сапернік на тэрыторыі ворага, кожны на радзіме канкурэнта. Пакуль большасць у Сенаце ў Рэйгана, 55 на 45. У Нью-Дэлі загінула каля 1000 чалавек. Шмат бежанцаў сікхаў, дамы іхнія спалены былі. ФБР арыштавала 4-х чалавек, якія забілі ў Нью-Джэрсі гвардзейца. У Японіі ёсць небяспека, што ў дзіцячыя падарункі перад Новым годам будзе зноў падсыпвацца яд. Папялюшка мёртвы быў кінуты ў ваду. 250 тыс. чалавек [прысутнічалі] на пахаван-

[1] Радэн Агюст (1840–1917), французскі скульптар.
[2] По Эдгар Алан (1809–1849), амерыканскі паэт, навеліст, крытык.
[3] Салівен Луіс (1856–1924), амерыканскі архітэктар.
[4] Ван Гог Вінсент (ван Гог; 1853–1890), галандскі мастак.
[5] Рэнуар Агюст (1841–1919), французскі мастак, графік, скульптар.
[6] Бальзак Анарэ дэ (1799–1850), французскі пісьменнік.
[7] Емяльянаў Анатоль Серафімавіч, аднакашнік; выкладчык беларускай мовы Віцебскага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава. Кандыдат філалагічных навук.

ні. Алілуева [прыляцела] ў Маскву. Карэспандэнтам не ўдалося звязацца. Францыя [здзейсніла] новы атамны выбух у Акіяніі (6-е выпрабаванне атамнага прыстасавання). У Індыі пахаванне, прыязджаў прэзідэнт Пакістана[1]: новы прэзідэнт, можа, новы падыход [будзе] у перамовах паміж дзвюма краінамі. У «Правде» артыкул Аўчыннікава[2] наконт забойства Індзіры Гандзі — амерыканскі ўдзел там. Выбары ў Нікарагуа. У раёне Лос-Анджэлеса зрабіць раён, дзе кіраўнікамі ўлады будуць гомасексуалісты. Каліфорнія наогул славіцца гомікамі.

*Ранішнік*. Дзеткі скакалі, спявалі, дэкламавалі вершы (за большасць аўтараў трэба было б пакідаць на права працягу роду). Наша Анечка самая сціплая, затурканая. Некалькі мам з малымі на ручках made in USA (2000 дол. роды). З каляровымі лісцікамі дзеткі, «Тачанку» танцавалі ў будзёнаўках хлопчыкі. Дзед з бабай пяклі калабок. Падарункі дзяўчаткам — лялькі, хлопчыкам — машынкі. Адзін малы пытае: «Гэта назусім?» Звык, што часцей для сцэны. І весела, і сумна. Як у клетцы тут малыя. Без паветра ў асноўным, без выгулу (зрэдчас у сад). Але вырастуць з іх і людзі, і кар’ерысты, нелюдзі і пакутлівыя сэрцам чалавекі. Усё, як у жыцці, як у людзей.

Адчуванне няпэўнасці, нейкай крыўдлівай раздражнёнасці немаведама на каго. Усё з таго, што ні ў дзеўках, ні замужам. Навязалі на пашы і ўвесь час сочаць за канём. «Конь гуляў па волі», — хай Стральцову пішацца ягоная даўно абвешчаная аповесць![3] Прыеду — разгуляюся, як сабака ў торбе.

Схадзілі з Міколам-архангелам у краму купіць цукру. На вуліцы душна-парна-спякотліва. А праз вакно з раніцы дождж, і ўяўляецца, што золь. Учора па нядзельнай Філадэльфіі людзей амаль не відаць. Перад канцом квартала не выкінулі дэфіцыт, таму і не штурмуюць дзверы ЦУМаў і ГУМаў. Недзе ў садзіку аркестр. Адна фурманша як грудзьмі тумбу не абваліць, чакае пасажыраў, другая, болей гонкая, запрашае праехацца на фаэтончыку. Адпачываюць заклятыя капіталісты!

---

[1] Зія-уль-Хак Махаммад (1924–1988), пакістанскі ваенны дзеяч. Прэзідэнт Пакістана (з 1978).

[2] Аўчынікаў Усевалад Уладзіміравіч (н. 1926), рускі журналіст, публіцыст, усходазнавец.

[3] Задуманая М. Стральцовым аповесць не была напісана. Вымушана заўважыць, што і ў самога М. Стральцова, і ў анонсах часопіса, і ў назвах успамінаў Р. Барадуліна, і ў згадках многіх іншых аўтараў зафіксавана назва «Конь гуляў *па волі*» (радок з народнай песні!) — па ўпартай самаволі паважанага складальніка М. Скоблы і тома «Выбраных твораў» Р. Барадуліна (2008), і кнігі пра М. Стральцова «Выгнаны патрыцый» (2017) выпраўленая на «Конь гуляў *на волі*». На даўнюю нязгоду і апошнія гарачыя спрэчкі ён адказваў проста: што так яны спявалі некалі ў арміі, дый наогул так правільней па сэнсу (?!). Ніякі даследчык ці складальнік не мае права на гэткае самавольства і парушэнне *аўтарскага права*.

У *Клубе рускай кнігі* ў ААН вечар, прысвечаны Кастрычніку. Выстаўка пра Азербайджан. Выступала Эльміра Міхайлаўна Кафарава[1] — міністр замсправаў Азербайджана. У Нобелеўскай прэміі таксама грошы за нафту Азербайджана, бо Нобель[2] і Ротшыльды[3] асвойвалі нафту Баку. На 200 тыс. чалавек адзін даўгавечнік за 100 год. Пасля дакументальны фільм пра Азербайджан, як дома пабыў.

«Усе пыталі, чаму Беларусь пяцікутаю зоркай гарыць. М. Kavye (М. Танк) слова праўды — ражанец і меч. Замяло нам дарогу парошаю, а дарога ў магілу адна. Хай жыве і красуецца трэцяя на зямлі між людзьмі вайна. Мне ўсё роўна, куды ні ідзём мы, над усім стаўлю кропку адну. Чую: мне пахавальнік знаёмы забівае цьвякі у труну». «Нітка Арыядны» (Уладзімір Клішэвіч[4]).

*6 лістапада, аўторак*

Хадзілі на выбарчы ўчастак у школе. У асноўным ідуць, хто ўжо і хадзіць не можа. Маладых мала. Аўтаматычна галасуюць рычагамі, засланяецца абавязкова фіранка. Недзе за 30 секунд галасуе. Бывае, калі не правільна рычаг [націснуць], то ўпустую, а другі раз нельга. Спісы выбаршчыкаў, перад кабінай стаіць жанчына, якая бярэ квіткі-жэтончыкі. Спіс вялікі, адразу за многаорганную сістэму [галасуюць]. Блакіруецца ў 9 вечара. Можа зняць у любы момант і праверыць, колькі галасоў, але такое не робіцца. Маладая грудастая негрыцянка-мяшанка, відаць, тлумачыла нам. Кіношнікі нешта здымалі, пасля ціснулі ёй руку. Усё-ткі дама, нягледзячы, што ўся абвешана, як планета нашая, зброяй.

*IV Камітэт.* У гэтай зале ў нас самае афрыканскае месца — юпітэры смажаць на шашлык. Бурундучку хоць бы што, а мне гарачавата.

*Tunisia.*

*Czechoslovakia*. Становішча ў Мікранезіі.

*Iraq.* Супроць ПдАР, супроць рэжыму Прэторыі. «1 млрд 1млн дол. Штаты далі на МВФ, далі пазыку. Замарозіць трэба. Міжнародная супольнасць атамнай энергіі павінна даць звесткі».

*New Zealand*: «Такеланцы знаёмыя са сваёй Канстытуцыяй, бо яна была перакладзена на мову такелаў і раздадзена кожнай сям'і».

---

[1] Кафарава Эльміра Мікаіл казы, міністр замежных спраў АзССР (1983–1987).

[2] Нобель Альфрэд Бернхард (1833–1896), шведскі прамысловец, вынаходнік дыніміту. Яго суродзічам належылі нафтапрамысловыя прадпрыемствы ў Баку.

[3] Ротшыльды — вядомыя прадстаўнікі фінансава-прамысловай групы Заходняй Еўропы і ЗША.

[4] Клішэвіч Уладзімір Сідаравіч (1914–1978), беларускі паэт. Быў рэпрэсаваны (1936–1939). У час Другой сусветнай вайны жыў у Слуцку, служыў нам. старшыні гаруправы, рэдагаваў «Газэту Случчыны». З 1944 г. жыў у Германіі, з 1948 г. у ЗША.

*Japan*: «Японію назвалі каланіяльнай дзяржавай. Мы супроць апартэіду. Праграма ААН навучанню маладых спецыялістаў».

*Ukrainian SSR*. Супроць апартэіду ПдАР.

Да мяне падыходзіла сакратарачка, спытала, калі наша дэлегацыя выступае, адказаў, што заўтра. Хоць трохі ведаю англійскую, а ўсё ж не высокапастаўлены нямко.

*Venezuela*. Каб ААН выяздныя місіі пасылала на падапечныя тэрыторыі, каб выявіць гатоўнасць іх да дыялогу, да выказвання сваёй волі.

*Egypt*: «25 год назад [прынята] Дэкларацыя незалежнасці каланіяльным краінам і народам. За Намібію. Павысіць і пашырыць дапамогу праграмам ААН (пакуль толькі 35 дзяржаў). Усе спрэчкі на Афрыканскім кантыненце павінны вырашацца ў рамках гэтага кантынента і ў рамках ОАЕ[1]».

*USSR (Маргарыта Аляксееўна).*

*Францыя.* Супроць петыцыянераў падапечных тэрыторый.

*Вялікабрытанія*: «Падапечныя тэрыторыі (стратэгічныя), петыцыянеры могуць звярнуцца ў адпаведныя саветы — [Савет] па апецы».

*Штаты*. Права на адказ — чэху, [аб] нападку на Штаты: «Назваў іх па імені і назваў ціхаакеанскія астравы, а падапечныя тэрыторыі разглядаюцца ў Савеце па апецы і ў Савеце па бяспецы. Трэба і факты [прыводзіць]. І чэх пра самавызначэнне. Мы помнім, як паспрабаваў чэшскі народ [выказаць] права на самавызначэнне гадоў 16 назад[2]. Палітычныя згоды з падапечнымі тэрыторыямі Штатамі былі ўзгоднены з народам гэтых краін». Цытуе артыкул аб праве ствараць базы. «Мы закрылі базы пасля вайны, адзіная на Гуаме і Гаваях. Стратэгічная падапечная тэрыторыя — маюцца лізы на зямлю, выпрабоўваюцца ракеты. Што тычыць плебісцытаў, то яны [праводзіліся] падназіраннем місіі ААН. Чэх звык да выбараў, дзе высунуты дэпутат атрымлівае 99,9%, і тады ён ніякага супраціўлення [не выказвае]».

*Чэхаславакія:* «Штата віцэ — паклёпы і дробязі. Дадзеныя не выдуманыя, яны са сродкаў амерыканскіх крыніц. Праблема Мікранезіі абмяркоўваецца ў Камітэце 24-х».

*Штаты:* «Не жадаю спрэчак па падапечных тэрыторыях. IV Камітэт традыцыйна не прымаў рэзалюцый па падапечных тэрыторыях. Я з адкрытым ротам слухаў оптавую вытворчасць фактаў. На Палау няма ніякой зброі, нават ручных гранат. Тыповая лухта наконт плебісцыту на Палау. У супрацьвагу некаторым краінам у нас будзе 3 кандыдаты, а не адзін з Палау».

---

[1] ОАЕ — Организация африканского единства = Арганізацыя афрыканскага адзінства.

[2] Маецца на ўвазе ўвод войскаў СССР, НРБ, ВНР, ГДР і ПНР у Чэхаславакію ў жніўні 1968 г. з мэтаю прадухілення перамены дзяржаўнага ладу.

*Старшыня*: «Пытанне Какосавых астравоў заўтра раніцай [будзе абмяркоўвацца]».

*Штаты*: «Чэх абвініў мяне, што нападаю і чарню яго радзіму. Я і мой народ паважаем і народ, і дзяржаву Чэхаславакію, якую мы хацелі арганізаваць яшчэ ў 1918 годзе».

*Старшыня*: «Праца камітэта на сярэдзіне. Дух супрацоўніцтва і ўзаемаразумення. Мы хочам быць адным хорам, які пяе песню міру ўсім народам».

*Рывердэйл*. Перадсвяточны вечар. Дошка аб'яў. Прадаецца стэрэа, паліто скураное, дзіцячы манеж, мыцельная машына. І ўсе цэны ў доларах. А так, як дома. Почаркі і інтэлігентныя, і пасудамыйныя. Увесь разрэз.

Выстаўка дзіцячых малюнкаў. 1 клас, дзяўчынка. Сцягі. Аддае чэсць левай рукой, і памылка да цеплыні кранае — «Ленен». У гэтай памылцы шмат сказана. І наогул расфуфыраныя дындукі. Жонка Рузвельта[1] ў адной са школ на карце неабазначанай тэрыторыі, гэта забаранялася вымаўляць. Так, бач, заўважылі СССР у 1933 г.

Бяседа ў Пятра Рыгоравіча, яму падабаецца Генадзь Аўсяннікаў, літперадачы радыё нашага. Вучыў украінскую мову ў Данбасе. Таму і беларускую разумее. Жонка сыну рабіла нацыянальны касцюм, скакаў і спяваў «гоп-гоп, чаравік». Адзін слупок, а рэшту з Чарота. Хрэстаматыя па беларускай літаратуры 7 класа. Класікі з партрэтамі і паэма Генадзя [Бураўкіна] (бо жонка ў выдавецтве), без партрэта і без (пакуль што) біяграфіі міністра.

Ехалі дамоў, [...] Яўменаў расказваў пра Лежэ[2] цікавыя факты. Пасля Mister [Гурыновіч] каментаваў (перакладаў) тэлеперадачы па выніках выбараў. Мандэйл адразу пазваніў актору [Рэйгану] і павіншаваў. Трэба працаваць разам у імя вялікай Амерыкі (шавіністычны чад, як з камунальнай, яшчэ прымуснай, кухні). Пасля Ферара. Дзякавала ўсім, жэсты завучаныя і сугуба жаночыя, раптам. Потым артыста [Рэйган]. Увесь час стаяла (і пераціяжка твару выдавала старэчасць) жонка, першая лэдзі ля трыбуны, пазіравала. У Бураўкіна жонка куды прыгажэйшая і, вядома, маладзейшая. Радаваўся. Зноў пра вялікі народ, самую шырокую дэмакратыю, што ўсё зрабіў народ.

У перапынках рэклама. Тканіну рэжуць нажніцамі. Касцюмы на мужчынах. І весь апрануты, і ўвага на ногі ў шкарпэтках. Фірма не абувае,

---

[1] Рузвельт Франклін Дзелано (1882–1945), дзяржаўны і партыйны дзеяч ЗША. Прэзідэнт ЗША (1933–1945). Жонка — Рузвельт Анна Элеанора (1884–1962).

[2] Хутчэй, гаворка пра жонку французскага мастака і графіка Ф. Лежэ (1881–1955). *Хадасевіч-Лежэ* Надзея Пятроўна (1904–1983), французская мастачка. Ураджэнка Беларусі.

апранае да ног з галавы. 200 дол. веласіпед, бясплатна, калі купіш плітку газавую і нейкую радыёпрыладу. Усе дэпутаты з сем'ямі і жонкамі ў штаб-кватэрах. Па 2 млн доларaў затрацілі на кампанію.

*7 лістапада, серада*

Дзень добры, свята Кастрычніка! Дома недзе дужа святочна і хораша. А тут з раніцы гулі аўто — пробка, і зараз ні то вецер, ні то маторы.

*Агляд Time*. Большасцю галасоў Рэйган [прайшоў] у 48-мі штатах. Мандэйл толькі ў адным штаце ў Калумбіі 86 % (дзе Вашынгтон, большая палова тут неграў і каляровых). Рэспубліканцы на выбарах у Кангрэс не зусім бліскуча [выглядалі]. Каб Палату прадстаўнікоў мець у кішэні, трэба было 25 месцаў уварваць, тады б усё было. У Сенаце дэмакраты захавалі свае 45 месцаў. Кангрэс і Палата прадстаўнікоў не рэйганаўская. З галоў — прэзідэнт, Кангрэс, Вярхоўны суд.

Перамовы між СССР і Штатамі па гандлю ў студзені. У Нікарагуа верталёты і МІГі (як у Афганістане), нібыта паставіў СССР. Кірпатачка [Кіркпатрык]. Толькі прыватны сектар можа выратаваць сельскую гаспадарку. Тэтчэр [паведаміла], што Брытанію наведае адзін з кіраўнікоў СССР — М. Гарбачоў[1] (53 гады). Наймагчымая кандыдатура на змену цяперашняга. У складзе будзе і Грамыка. Візіт у сувязі са скарачэннем зброі масавага знішчэння. Каралева Альжбета[2] [звярнулася] да Парламента. Загадвае перадаць тыя галіны прамысловасці, што былі ў дзяржаве, у прыватныя рукі — private hands — аўтобусная кампанія, авіяматоры, сталеліцейныя заводы, судаверфі, аэрапорты. Ярузельскі[3] пад кантроль узяў органы ўнутраных спраў. У Індыі Р. Гандзі[4] заявіў на сустрэчы з сікхамі: «Сікхскі народ не павінен цкавацца за забойства Індзіры Гандзі». Двое стралялі, адзін жывы, ён заявіў, што ён павінен быў забіць і сына, каб [калі б] той ішоў з Індзірай. Двое мелі заданне ад святога айца сікхаў забіць. Гэты святы айцец пакінуў Індыю за 2 тыдні да забойства. «Шатл» павінен стартаваць 8.25 AM [раніцы].

Усеагульныя выншаванні ў місіі. Свята, але рабочы дзень.

---

[1] Гарбачоў Міхаіл Сяргеевіч (н. 1931), савецкі дзяржаўны і палітычны дзеяч. У 1978–1985 гг. сакратар ЦК КПСС, у 1985–1991 гг. Генеральны сакратар ЦК КПСС. Лаўрэат Нобелеўская прэміі міру (1990).

[2] Лізавета II (н. 1926), каралева Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі (з 1952).

[3] Ярузельскі Войцэх Вітольд (1923–2014), ваенны, дзяржаўны і палітычны дзеяч Польшчы. 1-шы сакратар кіруючай Польскай аб'яднанай рабочай партыяй (ПАРП; 1981–1989), прэм'ер-міністр ПНР (1981–1985).

[4] Гандзі Раджыў (1944–1991), палітычны і дзяржаўны дзеяч Індыі. Сын І. Гандзі. З 1983 г. адзін з 5-ці генеральных сакратароў партыі Індыйскі нацыянальны кангрэс (Індзіра). У 1984–1989 гг. прэм'ер-міністр і міністр замежных спраў (1984–1988).

*IV Камітэт. Аўстралія.*

З Мікалаем у кафэ Сакратарыята. Ён, выходзіць, заўтра едзе ў Маскву. Шчаслівы! Можа перадаць ліст дадому.

*Аўстралія:* «Пласцікавыя грошы былі заменены на аўстралійскія, і амаль усе астравіцяне наведалі Аўстралію. Выбары былі. Паколькі бальшына не чытае, мы кожнаму чыталі. Какосавыя астравы добраахвотна далучаюцца да Аўстраліі».

*Югаславія*. Па-англійску.

*Польшча*. Па-англійску.

*Кенія. Малі. Калумбія.*

*БССР (Семілетнікаў[1]).*

*Шры Ланка.*

Заўтра едзе дамоў Мікола (просьба, каб Mister [Гурыновіч] сказаў, каб мяне [адправілі], а паслалі раней яго).

*Прыём місіі СССР*. Святочна, шматлюдна, урачыста, і цяжка доўга стаяць на нагах. Пасля праводзілі архангела Міколу. Запрасіў да сябе [шафёра] Віктара з Вялікіх Стралкоў, у іх ёсць і Малыя Стралкі. Расказваў, як першы раз бацька трактар даверыў, сам пайшоў падыміць, а сусед: «Твой трактар сам ідзе», — (бо не відаць было — малы). З прыемнасцю ўспамінаў, як акучваў бульбу, як разводзіў плугі. «А што тут бачу, нават дыскваліфікавацца стаў, бо сам машыну не рамантую. Працаваў бы цяпер дома. Хоць бы вынік сваёй працы бачыў. Але хадзіў бы там замазучаны, мурзаты. Калгас у даўгах, плату ўразаюць». Малады яшчэ, 24 гады, і маленькая. Прыгожы, [казаў] што ў сясцёр валасы горшыя, хай бы ім. У бацькі з-пад шапкі чуб на фота ў арміі. Гэта фота любіць. Шчыры хлопец. Як на прывязі тут сядзіць, дый як едзе адзін — вока ды вока, каб на хвасце не сядзелі. Бо сякуць.

На праводзінах піражок з шампіньёнамі з рук пасла Шэльдова, спечаны самой пасліхай. Я яму намякнуў, што мне бутэрброд рабіла Ніна Лявонаўна на бакеце Быкава. Ну, гэта жартам. Рудольф [Собалеў] выразаў ліле з яблыкаў, грушаў (некаторыя акалачвалі), нават з агуркоў. Лявон [Яўменаў] чорны — сябрук па «працы» едзе. Шэльдоў [едзе на святкаванне] 67-й гадавіны [Кастрычніцкай рэвалюцыі] на 67-й St.

*8 лістапада, чацвер*

*Агляд Time.* Рэйган 59 % выйграў у 49 штатах, ён лічыць, што гэта згода з яго эканамічнай палітыкай ва ўсіх штатах, акрамя Вісконсін. Раздел галасоў 66 % галасоў белых, 62 % пенсіянераў, 60 % [тых], хто ўпершыню галасаваў. За Мандэйла 90 % чорных, 68 % беспрацоўных і

[1] Семілетнікаў Мікалай Аляксеевіч, беларускі дыпламат.

70 % ліберала. Мандэйл вырашыў да адвакацкай дзейнасці вярнуцца, трэба займацца нечым іншым. Наш сухагруз ля берагоў Нікарагуа. Баяцца, што вязе МІГі. Неспакой у Індыі. Падпольная арганізацыя заявіла, што ўзарвуць. Усе амерыканскія інтарэсы ў Лівані. Арганізацыя свяшчэннай мусульманскай вайны. У Індыі 125 дзяцей зніклі, калі вяровачны мост абарваўся ў паўднёвых раёнах. Чалавек, на вачах якога [гэта адбылося], ад разрыву сэрца [памёр]. Артур Рудольф[1] — стваральнік ракет у Германіі, дзе вязні працавалі. Адмовіўся ад амерыканскага падданства і ў ФРГ [вярнуўся]. Быў дырэктарам «Першынг», «Сатурн» у Штатах. Коль[2] падарунак [зрабіў] — 53 тыс. долараў для сваёй партыі — ад канцэрна. Адміністрацыя Рэйгана заявіла, што згодна на перамовы, найболей канструктыўных адносін з Масквой. Грамыка: «Мы гатовы на перамовы са Штатамі, калі канкрэтныя крокі Амерыкі будуць, каб за перамовы адказвала адна асоба, назначыць чалавека па-за Сенатам і Пентагонам, каб ні Уайнбергера[3], ні Шульца не мяняць». Калі Рэйгана спыталі, ён не адказаў. Парад на Краснай плошчы, але Усцінава[4] не было, з верасня не з'яўляўся, яго замяніў Сакалоў[5]. У Міжнародны суд упершыню [звярнуўся] кітаец (78 год). Нікарагуа супроць, што Саюз не пастаўляе МІГі. У космас [выправяцца] 5 чалавек, жанчына, у яе дачцэ 14 месяцаў — упершыню [ляціць] замужняя. Хочуць зняць 2 спадарожнікі, якія не працуюць. Касмічны бізнес. Канадцы запускаюць спадарожнікі і гатовы іх прадаваць.

*IV Камітэт*. Big brother (Вялікі брат). Чорныя так называюць.

*Cuba, Madagaskar, Lao People's Democratic Republic, Ukhainian SSR, Hungary, Bulgaria, India, Uganda.*

Спікер перш чым выступіць, стукае алоўкам па мікрафоне, нібы спрабуе яйка на зуб, зубіць на Вялікадне, каб пасля гуляць, чыё паб'е.

*Jamaica, German Democratic Republic, United Kingdom*.

Калі падпісваліся пад нашым кіраваннем — 43 дзяржавы, а цяпер ≈ 10.

*Kuwait*: «Імем алаха ўсемагутнага».

---

[1] Рудольф Артур, нямецкі інжынер, адзін з кіраўнікоў лабараторыі ракетабудавання ў часы нацысцкай Германіі.

[2] Коль Гельмут (1930–2017), германскі палітычны і дзяржаўны дзеяч. Доктар філасофіі. У 1982–1998 гг. федэральны канцлер ФРГ.

[3] Уайнбергер Каспар Уіллард «Кэп» (1917–2006), міністр абароны ЗША (1981–1987).

[4] Усцінаў Дзмітрый Фёдаравіч (1908–1984), савецкі дзяржаўны, партыйны і ваенны дзеяч СССР. Маршал Савецкага Саюза (1976). Герой Сацыялістычнай Працы (1942, 1961). Герой Савецкага Саюза (1978). Міністр абароны СССР (1976–1984).

[5] Сакалоў Сяргей Леанідавіч (1911–2012), савецкі дзяржаўны і ваенны дзеяч СССР. Маршал Савецкага Саюза (1978). Герой Савецкага Саюза (1980). У 1984–1987 гг. міністр абароны СССР.

Архангел так спешна ад'язджаў, што нават не развітаўся з Вольгай Лаўрэнаўнай [Панковай]. Фізкультурны інстытут плюс зоркі — гэта яшчэ не адукацыя, тым больш, адкуль родам. Хоць увесь век пражыві ў цывілізаванай Еўропе — прах ўсё гэта. Бульдог мангольскага разліву сумуе ад злосці, бо аднадумец па слухслужбе з'ехаў.

Слухаю, слухаю спікераў, і руская рыфма: *тот может выжить, кто может выжать.* Нібыта чорны дзьмухавец, прычоска ў афрыканкі. У калідоры Эльвіра Міхайлаўна [Кафарава] і яшчэ нехта з саюзнікаў сказалі, што бачылі Агурца [Агурцова] і мяне па 5-й праграме пад час выбараў на выбарчым участку. За каго, кажуць, галасаваў? — адказваю: ні за кога. Калі гэта маглі зняць? Праўда, тэлевізійнікі круціліся.

*Штаты*: «Выдуманая статыстыка хунтай дэлегацыі халоднай вайны была выказана. Сахалін — былая японская тэрыторыя. Хунта халоднай вайны. На астравах галасавалі за свае ўлады. Тавары на рынкі Штатаў без пошліны. Каб астравіцяне мылі бялізну ці займаліся натуральным абменам між сабой альбо працавалі на дзяржаўную вытворчасць. У краінах, дзе шмат недахопаў у сістэме, прадстаўнікі блока халоднай вайны. Мы і за пазыку В'етнаму — вялікаму сябру, з якім у нас такія цёплыя адносіны. Нельга «мабілізаваць грамадскую думку» ў Штатах. Таталітарныя дзяржавы Усходняй Еўропы. Канферэнцыя Анголы і ПдАР. Штаты праводзяць цярплівую перспектыўную дыпламатыю», — пасол Фельдман Штатаў.

Сядзяць побач насупроць таблічак фээргэшнікі і гэдээравец, гэдээравец частуе цыгарэтай суседа. Далей Ірак і Іран (падкрэслена без гальштукаў усе). Ірак аддзелены ад Ізраіля Ireland. Выступае іракавец і лупіць Ізраіль. А фармальна-вонкава ўсе спакойныя.

На стэндзе ААН фота: дзеці — адны косці і ніякога цела. Голад. Жахліва. А побач фота, дзе ўсё ломіцца ад садавіны, ад дастатку. Фота: маленькі высахлы афрыканчык, як па зморшчаным кіліме, ідзе па пустыні. За ім колькі слядоў, а ўперадзе ўсё сцёрта пяскамі. Няшчаднасць жыцця.

*Штаты*. Права на адказ. «Я на 8 краін [адводжу] па 10 хвілін, так што ў мяне 80 хвілін, паколькі балгарын сабе дазволіў 80 хвілін. Я выкажу сваё аслупяненне. Я з аслупяненнем і захапленнем слухаў свайго калегу, які на некалькіх мовах гаворыць. Няма многіх, хто выступаў, а па закону яны мусяць пажынаць плён сваіх выступленняў. Пра ціхаакіянскія астравы гаварылі толькі з сацлагера, з адной групы, сістэмы, належылі адной догме. А ніхто іншы не выступіў. Я хачу ўстрымацца ад таго, каб сказаць: самавызначэнне не з'яўляецца фактам незалежнасці. Выпрабанне ў Сібіры. На Бікіні 139 чалавек было».

*Англія*. На адказ. Цытата з Шэкспіра[1]. «Віншую пасла Балгарыі, каб ён так выступіў і па Фалклендскіх астравах. Пра ўзбраенне і пра базы. База з аднаго афіцэра і славутага сабакі, і тая закрыта. А дзе ёсць, са згоды».

Прыйшоў «дамоў», а тут зноў, як там выступаў па тэле. Лухта!

*9 лістапада, пятніца*

Хоць трошкі выспаўся. Чарговая нарада, лятучка. Працяг паседжання. Наступае Сахара, расшырае свае ўладанні. Афрыканцам няма чым працэнты плаціць. Яны банкроты. Дай! Дай! Дакладчык эфіоп нават дзякуй не сказаў нам, хоць дапамаглі дужа.

Памочнік сакратара па 80 тыс. у год [атрымлівае], а іх 300 па ўсіх установах. 100 тыс. штогод Ustinov, наш памочнік. Да 62-х тыс. пенсія, Р-5 47 тыс. пенсія, а зарплата 50 тыс., а ЗША — 30 тыс. долараў штогод.

Праглядваю «Русский голос». «Похоронное бюро Питера Яремы. Русский погребальщик — лючшие похороны за самую дешевую цену, бесплатное пользование часовней [адрас]». Ніжэй: «Похоронное бюро Metropolitan Funeral Service, inc Вуди Парчук. Круглосуточное обслуживание» [адрас]».

Тэрміновае паседжанне Савета Бяспекі. Пісьмо.

*Нікарагуа:* «Чаму сярод нас няма сталага прадстаўніка Штатаў (Кірпатачкі [Кіркпатрык])?». За яе [іншы прысутнічае] да такога часу позняга, а яна іграе відную ролю ў нагнятанні напружанасці ў нашым раёне. Ужо ў 11-й раз прыбягаем да гэтага высокага форуму». Намесніца нікарагуанца — сімпатычнейшая смуглянка ў чырвоным, а прозвішча Манкада, хоць стань кубінцам і на чале з Фідэлем штурмуй. «Раптам возв[ели] на Грэнадзе аэрадром, які здольны прымаць вялікія самалёты. Парушэнне паветранай прасторы Нікарагуа амерыканскімі самалётамі тыпу SR-71 шпіёнскага назначэння. 7 лістапада зноў парушыў самалёт SR-71. Праляцеў над некалькімі раёнамі. Савецкі гандлёвы карабель суправаджаўся 2-ма амерыканскімі караблямі. Фрэгаты амерыканскія [праходзілі] ў 6-ці мілях ад гандлёвага судна Саюза. Былі папераджальныя стрэлы Нікарагуа, а калі б трапілі ў цэль? Дык гэта як абэлка для канфлікту. Сёння зноў SR-71 парушыў. Т. зв. «чорная птушка» МІГі (у скрынках) і верталёты. Балгарскі карабель Штаты [суправаджалі]. Праблема Нікарагуа вырашана праз 3 месяцы пасля выбараў. Рэйган пагрозлівую заяву [зрабіў] і ракеты тыпу SAM.

! Мы выкарыстоўвалі нават камяні нашых дарог, каб звергнуць эксплуатататараў. Манеўры Штатаў — кодавая назва «Ахоўнікі карабля». Ніво-

---

[1] Шэкспір Вільям (1564–1616), англійскі драматург і паэт.

дзін самалёт не быў зніжаны на тэрыторыі Нікарагуа. Гэта падрыхтоўка, каб напасці на нас. Учора 20 тыс. юнакоў былі дэмабілізаваны [?], хоць яны ўбіралі каву — крыніцу прыбытку краіны, яны далучаны з поўдня да поўначы, хоць каву трэба збіраць».

У зале сядзіць пастаянны прадстаўнік пры ААН Палестыны з бародкай амаль маёй, а побач з ім пасол Йемена разуўся і шавеліць пальцамі ў шкарпэтках, а туфлі за пятамі ззаду, а ён выцягнуў ногі ўперад, як у сябе дома. «Чаму Нікарагуа да Савета Бяспекі [павінна звяртацца], дзе Штаты [маюць] права вета?» (Вітаваць, а не вітаць; цікавы зямляк тут ёсць.)

*Штаты*: «Няма надзвычайнай сітуацыі. Няправільнае вытлумачэнне палажэння. Наш кантынгент устанавіў свабоду на Грэнадзе. Галава хунты ў поўнай вайсковай форме вяшчаў [пра] напад Штатаў 15.X. Сёння новыя лічбы міфічныя. Генерал Рок, якога шмат цкавалі, не афіцыйны прадстаўнік улады Штатаў. Трэба час, каб адказаў. Мілітарызацыя краіны — курс Нікарагуа».

*Нікарагуа:* «Буду коратка [казаць], каб не занімаць час высокага схода. Я не хачу, каб ён чытаў нашу прэсу, але ці чытае ён сваю прэсу, дзе ўсё ёсць, ці не гэта крыніцай нашага неспакою і крыніцай непасрэднай агрэсіі? Што б рабілі Штаты ў нашай сітуацыі? Наш кіраўнік у вайсковай форме камандантэ рэвалюцыі, які непасрэдна ўдзельнічаў у змаганні. У якой форме бачыць ён хацеў нашага кіраўніка? Мае ўражанні, калі я ўбачыў прэзідэнта Штатаў, апранутага каўбоем. Выбары і нашы, і амерыканскія — розніца. Каго вызвалялі Штаты ў Грэнадзе? Там жа амерыканцы. Усе могуць прыбегнуць да Савета Бяспекі, каб небяспека».

*Штаты*: «Што тычыць лічбаў галасавання, успамінаецца 10 красавіка 1938 года, калі 98 % прагаласавалі за ўключэнне ў фашысцкую Германію Аўстрыі ў Вене. Успаміналі сябе маладыя».

Трохі кіпа. Перадаў Алегам [Пашкевічам] ліст Івану Фёдаравічу [Драчу] ў Кіеў (павіншаваў) і Зайчыку.

Рэкламуюць сябе жанчыны, як машыны ўсе хадавыя магчымасці. А лесбіянкі да агіднасці. Нераст, толькі са слінай, бо пал асліны. Даць бы ім сустрэчны план, як рукой бы зняло б усё, што падымае жаданне. Але, з другога боку, гэта старажытнае, як свет, мастацтва, хоць і вывернутае, як кароўе вымя. Штучныя члены, электрачлены. Гомікі ў маім уяўленні ў норму не ўкладываюцца — адхіленне і не па адной фазе. Рэкламуецца ўсё, нават sale ёсць.

Самі наплылі пытанні, колькі сярэдні ўзрост жыцця дыпламатаў, у які 99% на самаз'яданне, самасачэнне, самабслугоўванне, адным словам. Ды планаванне сям'і па разліку, каб падыходзіла, каб выязная была жонка. І аднаго працэнта не застаецца на дзяржаўную, асноўную працу, для

якой пасылаюцца, за якую дзяржава плоціць валюту. А праца па шопінгах. Сумна, але так.

У «ЛіМе» падборка Сцяпана Гаўрусёва[1]. Усёй вялікай учэпістай пяцярнёй бярэ жыццё, нешта высыпаецца, нешта валіцца, але ў аснове багата і цікава. Вялікі талент ад прыроды, ад Бога. А як ён ім выдаткоўваецца, ягоная, паэтавая, зямная справа. Галоўнае — паэт. Пах гарэлкі, закусі забярэ ад кожнага жывога жвір, а зробленае, напісанае застанецца. Думка і вобраз без пабочных, бытавых пахаў, яны звысоку і здалёку, што зоры, свецяць, высвечваюць, вабяць. Не кожнага [лёс] стаць зоркай, не кожнаму да зоркі дацягнуцца, дапасці. Абраных і для абраных. А што зоркі, што вугалькі-дзьмухаўцы — толькі час можа адказаць, бо ягоны вецер умее і хоча затушыць, усё пагасіць, нетрывалае, хліпкае, успыхлівае. Доль, Божа, Сцяпану яшчэ здароўя і вершаў. Гэта не Нілок[2] са сваімі гарлавымі спевамі, дзе лозунгі зарыфмаваны.

*** [Падараваны машынапіс верша С. Гаўрусёва, без даты.]

* * *

*Рыгору Барадуліну*

Адпушчаныя дні
Ўстаюць на поўны вымах.
Відаць, з тваёй радні
Ўсё ж нехта быў алхімік.

Над попелам вайны
Ты прычашчаўся справе,
І далечы відны
У залатой аправе.

Крыніца-азярцо
Спагады не шкадуе.
Купаліцца слаўцо
І шчодра калядуе.

Перад агнём стаім,
Вятрамі сэрца студзім.

---

[1] Гаўрусёў Сцяпан Захаравіч (1931–1988), беларускі паэт, перакладчык, крытык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1987).

[2] Гілевіч Ніл Сымонавіч (1931–2016), беларускі паэт, фалькларыст, перакладчык. У 1960–1986 гг. выкладчык кафедры беларускай літаратуры БДУ. У 1980–1989 гг. 1-шы сакратар праўлення СП БССР. Народны паэт БССР (1991). Кандыдат філалагічных навук (1963). Прафесар (1978). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1980), Міжнароднай прэміі імя Хрыста Боцева (1986).

Ты ўсё рабіў сваім,
Каб засталося людзям!

*10 лістапада, субота*

Чакаў Алеся [Барушку]. Ён не прыйшоў. З Рудольфам [Собалевым] і Антонавічам па горадзе шукаў жылку [леску]. Нейкую знайшоў Драньку]-Майсюку] і Шкляру [Шклярэўскаму]. У піцэрыю [зайшлі]. Сціпла, але ўтульна. І, вядома, дурні не п'юць з-пад стала. А такое раздолле — прынесці з сабой і выпіць. Такое адчуванне, што большасць дыпламатаў намыліліся ў лазні, а вады не стала. І таму выслізгваюцца. Усе тым і занятыя, каб нанесці як большы ўрон капіталізму праз шопінгі. Поспехаў ім на нялёгкім і высакародным шляху! У крамах поўна барахла, а таннае — кепскае. Рэклама тут дапамагае трошкі разабрацца, дзе што. У нас прывыклі, што рэкламуюць заляжалы тавар, і таму рэакцыя адпаведная. Тут рэкламуюць ад перанасычанасці таварамі.

*11 лістапада, нядзеля*

З рання чышчу бульбу, як некалі ў сябе дома ва Ушачах, у якіх я, па сутнасці, і пражыву да канца дзён сваіх: усе карані, усе ўспаміны, уся шчырасць і спагада там, туды думкі хінуцца, надзею маючы, што там мама. Штогод яна бліжэй і бліжэй душы маёй. Здаецца, пайшла некуды, паехала. А павінна вярнуцца. І там жыву чаканнем.

Думаецца, паэзію чытаюць толькі ў маладым ўзросце, калі і самі, па сутнасці, пішуць усе. А пасля гэта толькі ўспамін маладых уражанняў ад паэзіі, аб яе летуценнай туманнасці.

З аўторка (першы 2 а. м. фільм «Джон і Мэры»[1] канца 30-х гадоў), цэлы тыдзень фільмы з Рэйганам. Рэклама. Засумаваў пасля выбараў.

Па тэле Бой Джордж[2] з нафарбаванымі губамі, з распатланай дамскай прычоскай. У Англіі цэлую гадзіну правяралі, ці бой Бой. Да мярзотнасці гомікаў ненавіджу. Ці сам гомік Бой, ці на гэтую публіку працуе. У Амерыцы прыказка: сама безгустоўна апранаюцца Бой Джордж і англійская каралева, каб падкалупнуць каралеву за кансерватыўнасць ва ўборах.

Mister [Гурыновіч] запрасіў да сябе. Па тэле выступленне міністра абароны Штатаў (цывільны, а начальнікі штабоў вайскоўцы). Абцякаемыя адказы і пытанні карэспандэнта, як бы вострыя, а на самой справе падрыхтавана-эстрадныя. 40 каналаў тэле.

*Чай*. Mister [Гурыновіч] пра рабоў ААН. «Дзякуй вам, што вашыя мужы прыходзяць на работу не затузаныя ці дужа хаваюць. Але на ўсякі выпадак прыберажыце гэта для дома». На традыцыйным чаі выступалі

[1] Магчыма, памылка, і гаворка пра фільм 1969 г. рэжысёра Пітэра Йетса.

[2] Бой Джордж (сапр. О'Дауд Джордж Алан; н. 1961), англійскі спявак і кампазітар.

Mister, Вольга Лаўрэнаўна [Панкова], Лявон [Яўменаў], я. Жонкі нашых пасланнікаў, работнікаў, сакратаркі ААН, машыністкі. Сімпатычныя кабеткі і дзяўчаткі. Як ні апрануліся, а па тварах відаць, што нашы. Ёсць у многіх яшчэ шчырасць.

*12 лістапада, панядзелак*

Учора па тэле розная рэклама. Як штучна рыбу [разводзяць], выпускаюць малокі і потым ліюць і мяшаюць рукамі. Так недзе ў XXII стагоддзі будуць замешваць людзей. Перадачы накшталт нашых вясёлых, таксама на мяжы клоунства. Паказвае язык і ўвесь час хоча адчыніць дзверы і адрывае ручкі.

Усё здзіўляе, як гэта пасля фізкультурнага інстытута пасылаюць у слухачы? Дзе трэба хоць чуць пра літаратуру, культуру. Другая справа, калі даюць дах доктара філасофіі, прафесара, а ты ў перапынках паміж думкамі, што б яшчэ ўхапіць таннага ў шопінгу. Выразаеш нажніцамі падшыўкі і свежыя газеты і клеіш разумнае, добрае, вечнае. Гэта іншая справа. Два сябручкі. Аднаго раней выслалі, а другі застаўся. Трэцяга навучаюць. Таксама кандыдат навук. Патроху расце творчая думка пільнасці.

*Агляд Time*. Ізраіль [вядзе] перамовы пра вывад акупацыйных войск з Лівана. Рэйган адкрыў мемарыял ахвярам в’етнамскай вайны. Назваў сімвалам уміратварэння, сімвалам мінулых і наступных войнаў. У Брукліне згарэла царква, якую наведвала чорная паства. Памёр бацька Лютэра М. Кінга ў 84 г. Баптысцкая царква ў Варшаве [выступіла] ў падтрымку забароненай «Салідарнасці», лозунг «Bóg, Naród, Веліч». У Гане новыя міністры многіх галін. У Канадзе за новаўвядзенне смяротнай кары за пэўныя злачынствы, раней было. Попел над Гімалаямі на вышыні 7 км.

Пераклалі нашы: шафер — святое месца не пустуе. Знялі высокі штыль.

Малы з перасаджаным сэрцам гарылы, але пачаўся працэс адвяржэння перасаджанага сэрца, але даюцца моцныя лекі, каб змякчыць працэс.

На пліце Невядомаму салдату надпіс: «Вядомы толькі Богу».

*IV Камітэт. Livia.* Апошні прамоўца ў агульнай дыскусіі супрацоўнік ПдАР. Галасаванне за праект рэзалюцыі. Штаты [даюць] папраўкі, дзе прапануюць апусціць канкрэтнае ўпамінанне Штатаў і Ізраіля. То на заходнія краіны, то на МВФ усю абэлку зваліць. Я магу ўявіць, што будуць гаварыць прадстаўнікі гэтых краін (мае на ўвазе) праз некалькі хвілін. Гандлёвыя адносіны Саюза і Усходняга блока ўзраслі, а ў Штатах зменшыліся.

А цяпер на Ваўчэнскім возеры недзе дужа халодныя хвалі, у высечаным барку вятрыста. Крывуха сама азябла ад уласнага холаду, ад сваёй сцюдзёнай вады, ад настылай плыні.

110 тыс. у Afghanistan быццам бы мы паслалі — перабівае мае лірычныя думкі штатавец. Муціць ваду, як вопытны і хітры дыпламат, паклаў канец практыцы навешвання ярлыкоў.

*Англія*: «Насельніцтва астравоў Узнясення сёння — мігрыруючыя птушкі, чарапахі і маржы. І адзін аэрадром, а не ваенная база». Англійская казуістыка і тут у наяўнасці. Абы адвесці ўбок увагу. Многія пасля галасавання пытаюцца: «За што мы галасавалі?»

Цікава, калі ААН [была] заснавана, немцаў пазбавілі голасу і мовы — Deutch не рабочая мова ў ААН.

Дома чытаю «Русский голос». Карэспандэнт піша: «Я нядаўна наткнуўся на цэлы мех маек вайсковага ўзору з надпісам: «Уступайце ў корпус марской пяхоты! Выкіроўвайцеся ў далёкія экзатычныя краіны. Сустракайце там цікавых, незвычайных людзей. І забівайце іх». Вытрымка з настаўлення «Выхаванне характару», па якім амерыканскія салдаты праходзяць на базах курс вайскова-палітычнай муштры. Вось як вучыць яно адказваць на пытанні інструктара:

«— Хто вы?

— Салдаты!

— Хто вы па-сапраўднаму?

— Тыгры!

— Што вы ясцё?

— Сырое мяса!

— Што вы п’яцё?

— Чырвоную кроў!

— Што хоча салдат?

— Забіваць! Забіваць!»

Заўтра засядаць па абедзе. 15-га дзень Беларусі ў Клубе рускай кнігі ў ААН. Трэба казаць нейкае слова. Сяджу ў пакоі. Толькі радыё. У калідоры ціха, хто засядае, а хто вольны ад спраў — па шопінгах — асноўная і самая цяжкая праца. Асабліва стараецца камсамолец. З сям’і былых кіраўнікоў (бацька на пенсіі, а дзядзька ў амгандлі), аж пахудаў, а сябручок паляцеў, не загробшы ўсяго, што можна.

Месяц застаўся да адлёту, і такі стан наступае, што ні да чога рукі. Відаць, перыядычна трэба праходзіць праз такі чысцец, каб пасля болей цаніць магчымасць распараджацца сабой, рабіць, што хочаш, хадзіць, куды хочаш, апранацца, як хочаш. Гэтае невялікае і дужа вялікае права

пачынаеш цаніць, калі губляеш яго хоць на момант. Ніколі б з мяне не выйшаў вайсковец, які паступова ідзе ўгору па прыступках пагонаў, па паркету ці падлозе прасветаў, дзе залатымі цвічкамі зоркі ўбітыя. І чым яны большыя, тым на душы святлее. Пра чыноўніка і казаць не даводзіцца. Сабачымі вачыма ў якіх адзначана і паказная ліслівая паслухмянасць, і схаваная, штомомант гатовая да рыўка злосць, і чаканне, што ты заменіш начальніка і высока-высока пойдзеш.

Усе нашыя літаратары хірэлі, вычэрпвалі сябе, калі падымаліся па службовай лесвіцы, залюляўшы свой гнеў і сваю незадаволенасць, у першую чаргу сабой. Збоку яны раслі, а ў душы пусцелі. Ды літаратура такая хітрая штука, адразу пакажа рожкі хлусня і няшчырасць. Фаўстаўская праблема прадажы душы вечная. У адносінах да ўсіх людзей, а да паэтаў — у першую чаргу.

Паэт як бы слуга двух паноў — уласнай душы і натоўпу ў пушкінскім разуменні. А апошнія — страшэнныя антаганісты і эгаісты. Раздвойванне ўвесь час прыводзіць да таго, як расшчэпленае напал дрэва ўрэшце да асновы расшчэпліваецца і падае, паказаўшы высыхлую дуплаватую сарцавіну. Дзякуй Богу, неяк удавалася мне заставацца самім сабою, не дужа хлусіць самому сабе і сумленню свайму. Дай Божа і да апошніх дзён дажыць таксама. Можа, яшчэ ўдасца нешта сваё сказаць, тое, што ў прытоі душы, што саромеюся сказаць, не ўмеючы сказаць проста і да сябе бязлітасна.

Далёка тут ад дому, ад усіх сваіх, а ўражанне, што яны ўсе са мной, што ўсё маё, роднае, са мной. Ніколі яшчэ не ўдавалася мне ўцячы, ад’ехацца ад сябе, ад свайго, ад сваіх.

*13 лістапада, аўторак*

*Агляд Time*. Р. Гандзі будзе працягваць лінію Нэру і маці, працягваць будаўніцтва ў краіне недалучэнне ў мі[літарызацыі ?]. Два [амерыканскіх] касманаўты выйшлі ў космас і знялі заблуканы спадарожнік. Спецкамісія па этыцы ў бальніцах. Выратаваў заўчасна народжанага, выдаткі на яго 400 тыс. долараў, ён у поліэтылене. Новыя ўласцівасці святла ўплываць на здароўе. Аўтобус і метро 90 cents. Уцекачы аб’явіліся. Парад ветэранаў [хто ваяваў] у В’етнаме, прайшлі амаль адны. У іх начныя кашмары, прыступы раптоўнай агрэсіі, — урачы заключылі. У касманаўтаў раней і рухавікі на галаве. Механічнай рукой захапілі спадарожнік ≈ 400 кг, так і другі хворы спадарожнік захопяць. У Італіі 2 мафіёзі схоплены, яны ж бізнесмены, злачынствы ў Сіцыліі арганізоўвалі. У Варшаве група дысідэнтаў. Умовы Штатаў з Японіяй — японцы [не павінны] палявацьме кітоў у амерыканскай акваторыі. У Югаславіі 6 дысідэнтаў. У Нікарагуа верталёты нашыя для абароны, тып МИ-24. Дзіця з сэрцам гарылы — аб-

гаршэнне сэрца. Урачы будуць новае перасаджваць, але не малпінае на гэты раз.

13-е. Лічба не так, а чысло, і калі яшчэ ў панядзелак, самае шчаслівае ў мяне. Сёння меў настаўленне ад А. М. [Шэльдова], як выступаць у Клубе рускай кнігі. Вядома ж, перакладчыка з беларускай на англійскую няма. Вядома, трэба выступаць па-руску ў Дзень Беларусі, каб падкрэсліць самастойнасць рэспублікі, — што яшчэ скажа Mister [Гурыновіч]?

*IV Камітэт.* Дзве гадзіны млелі, пакуль надрукавалі папраўкі да праекта рэзалюцый. Выступае ў белай тозе і паласатым каптуры мой сусед Cameroon ад афрыканскай групы.

*Ізраіль*: «Селекцыйнае асуджэнне не павінна быць».

*Іран*: «Я звяртаюся да алаха, каб уратавацца ад сатаны. О алах, адчыні маё сэрца і дапамажы мне выказаць, што я хачу», — (па традыцыі без гальштука). Да Штатаў: «Што сталася з вамі, раней вы супрацоўнічалі з усімі народамі, а не з сурагатамі».

У цэлым рэзалюцыя прынята.

Вечарам да Рудольфа [Собалева]. Хоць адзін нармальны, не намылены з прылазніку звышпільнасці. Кіно. Чаму лёд яму клалі, невядома.

*Працуе сесія*

А недзе сеюць,
А недзе косяць,
А тут, на сесіі,
Паперкі носяць.
Жах міжпланетны,
Як звер калматы.
А тут кампліменты
Раздаюць дыпламаты.
Часамі здаецца,
Што ў цёмным лесе я.
Смех крывіцца:
— Трасца! Працуе сесія.

*1984–1985, Нью-Ёрк–Мінск*

*14 лістапада, серада*

*Агляд Time*. Нагнятанне нервознасці ў Цэнтральнай Амерыцы. Нікарагуа. Карэспандэнт амерыканскі [паведамляе], што нікарагуанцы рыхтуюцца [ўвайсці] ў Сальвадор і Гандурас, амерыканскія караблі ля Нікарагуа. У Індыі Р. Гандзі вырашыў [правесці] парламенцкія выбары датэрмінова, каб стабілізаваць становішча ў краіне. Амерыканскае тэле — свята сікхаў. Рэакцыя такая, як амерыканскі яўрэй на гібель Гі-

тлера, — заявіў кіраўнік сікхаў. Амерыканскі «Шатл» вярнуў два спадарожнікі, якія заблукалі, а раней рамантавалі. Паклалі ў адсекі і вязуць на Зямлю. Дзіця з малпіным сэрцам мучаецца, вымушаны вярнуцца да штучнага сэрца[1]. Калі нарадзілася, было выразана. І ныркі таксама. Ужо ў трубку лапатала нешта маме. Распрацавана замена суставаў, касцей. Медыцына шмат дасягнула. Джон Кенэдзі[2] яшчэ ў вайну меў тры сталёвых хрыбетнікі (пазванкі), бо афіцэр марской пяхоты. Рэйган забяспечыць лідэрства Штатаў да канца стагоддзя.

З Алесем [Барушкам] пахадзілі па гарадскім парку. Вавёркі, галубы і вераб'і пеша ходзяць, кормячыся амаль з рук. Вавёркі наогул па ўсім парку, цягнучы па зямлі хвасты, падмятаюць дарожкі, у лісці шукаючы нейкі спажытак. Парк велізарнейшы, сапраўдны.

Цяпер трэба на прыём. Дае 4-ты Камітэт саюзны. Ну, мне не трэба бранірванай камізэлькі, як Рэйгану, да сваіх іду. У адной белай кашулі лягчэй.

*Прыём.* Цікавая размова наконт эмігрантаў, Мікіта Раманаў, тэлевізар у страўнік. Прыйшоў — і аглушылі — памёр Лабанок. 5-га пахавалі. Светлая памяць, Вам, Уладзімір Елісеевіч, пухам зямля! А яшчэ перад ад'ездам казаў мне, як сябе паводзіць, клапаціўся, каб я добра быў апрануты. Апошні з броўкаўскай кагорты спагаднікаў маіх. Адзін за адным, адзін за адным. Пуста, як на расцяробах, робіцца на гэтым часовым прыстанішчы, якое завецца зямным жыццём. Меней і меней блізкіх сяброў і старэйшых таварышаў...

Па тэле апошнія навіны. Бяжыць з індычкай. Гэта будзе ў Дзень падзякавання. Бо калі галадалі каланісты, індзейцы параілі есці індыкоў. І індзейцаў з'елі, і індыкоў, і цяпер ядуць.

* * *

У вяснушках жаўталісту сцежкі,
Сунуцца здалёку халады.
Ходзяць па імхах вавёркі пешкі.
Дзе прастылі нерушаў сляды.

Дзе мядзведзь для пэўнай мэты
Меты
На ствалах пакінуў — зараслі.
Рыжыя хвастатыя каметы
Сцеляцца па сцішанай зямлі.

*1984*

---

[1] Гл.: Хто? (23.11.85) // Маўчанне перуна. С 286.
[2] Кенэдзі Джон Фіцджэральд (1917–1963), прэзідэнт ЗША (1961–1963; забіты ў Даласе).

*15 лістапада, чацвер*

*Агляд Time.* Палёт «Шатла» [праходзіць] нармальна. Усё заняло 8 дзён. У грузавым адсеку 2 спадарожнікі, якія знялі з арбіты. Рэйган шмат паабяцаў, а на справе не так. Павялічаць падаткі, і гэта павялічыць розныя прамысловасці. А дэфіцыт можа да 200 млрд падскочыць, бо замаруджаны розныя прамысловасці. А ён ўпіраў на ажыўленне прамысловасці. Арыштавана шмат з асабістай аховы І. Гандзі ў Індыі. Індзіры Гандзі пасмяротна прэмія Дж. Нэру за міжнародную палітыку. Жонка[1] брата Р. Гандзі мае намер балатавацца ў Сенат. Яна сікх, муж С. Гандзі загінуў. Запытанне бацькі наконт Вольгі Петэрс[2] — дачкі Алілуевай, нават сама Алілуева лічыць, што дачка амерыканка, як яблыка ад яблыні, яна практычна не можа гаварыць па-руску. У Польшчы ўрад папярэдзіў прадстаўнікоў Камітэта па правах чалавека. Штаты сказалі, што Японія ў 1988 г. перастане [здзяйсняць] прамысловасць кітоў, а Японія запярэчыла.

Рэкамендацыя па пытаннях бяспекі, распрацаваная паліцэйскім камісарам Нью-Йорка: «Не спыняйцеся, каб памагчы іншым вадзіцелям ці пешаходам незалежна ад абставін. Званіце ў дам.]?] Калі вы рухаецеся пешкі, не дазваляйце сабе адцягнуцца ўвагай, заўсёды думайце пра бяспеку і пра тое, куды вы ідзяце. Заўсёды будзьце начыку, за вамі могуць сачыць. Як правіла, да звяршэння злачыннага акта за ахвярай сочаць некалькі дзён. Ліквідуйце дрэвы, кусты ці штучныя перашкоды, якія могуць служыць укрыццем для вторгнувшейся асобы ці асоб».

*Клуб рускай кнігі Сакратарыята ААН*. Дзень Беларусі. Фотавыстава. Ідуць старыя дзяды, болей бабулек і тут. Сказаў колькі слоў пра рэспубліку. Перадаў кнігі. Фільмы. Падсела дама, пахне болей выпітым, чым моцнымі духамі. Пачала каменцірваць, са злосцю, што не можа вярнуцца. Быццам бы жонка Ан. Кузняцова[3]. Пасля напіткі. Французы цікавіліся, адкуль беларуская мова, як даўно. Што можна чытаць, у арыгінале спачатку. Параіў Багдановіча[4], Купалу, Коласа, Быкава. Лаўрэнаўна [Панкова] ішлі са старэнькімі, пакуль яны дайшлі — усё размялі (старэнькія ўспаміналі, як садзейнічалі адкрыццю Другога фронту). Адзін — Пётр Бурак. Нарадзіўся тут, а маці недзе з нашых краёў. Цікавіцца, як наведаць Беларусь. Кажу, што проста. Адкуль маці? Не ведае, помніць шмат кветак. Пры выхадзе падышоў адзін, вучыўся ў 13-й школе з М. Цікоцкім. Расказваю пра метро, пра парк Чалюскінцаў. Ён: «Гэта выстаўка. Ленінскі

[1] Гандзі Манека Санджай (н. 1956), індыйскі палітычны дзеяч. Жонка Санджая Гандзі.

[2] Пітэрс [Петэрс] Вольга (н. 1971). Пазней змяніла імя на Крыс Эванс.

[3] Кузняцоў Анатолій Васільевіч (1929–1979), рускі празаік. У 1969 г. выехаў у творчую камандзіроўку ў Лондан і папрасіў палітычнага прыстанішча.

[4] Багдановіч Максім Адамавіч (1891–1917), беларускі паэт, перакладчык, крытык, літаратуразнавец.

праспект». Называю Захар’еўскую. Ён кажа: «Гэта бацька помніць». Маці хоча пахаваць на магільніку на Бабруйшчыне. Ужо мае дазвол. Пад час дэманстрацыі фільмаў зала добра рэагавала. Туга па родных, адных па беларусах, другіх па славянскім духу і краявідзе дае сябе адчуць. Нават мая суседка, калі можна так сказаць, п’янавата каментавала сыну: «Беларусы — тонкі народ. «Лявоніха» (у яе разуменні ўсе нашы скокі) ад грэчаскіх танцаў».

*16 лістапада, пятніца*

Чарговая пятніца. Яшчэ іх багатавата. Замена касет. У Галандыі эксперымент. Хто хоча, колюць, даюць таблеткі — рабіся наркаманам! Лічаць, што гэта панізіць розныя выпады, каб здабыць дарагакаштоўныя прысмакі пад забаронай.

Прагледзеў «ЛіМ» за 2 лістапада. Шчырыя вершы Раісы Баравіковай[1]. Ёсць адсутнасць густу, дзе «баравік ля крохкіх сыраежак адважыўся на смелы піруэт...», і біятокі тут, і ўсё на фоне грыбоў. Эсэ Міхася Барэйшы[2] «Памяць» добрае, спроба выйсці на публіцыстыку, нават удалося трошкі. А мова — як дома пабыў. Наша, паўночна-ўсходняя. Праўда, непарадак. Куды глядзіць браток Міколка[3] — няма нават аднаго здымка з Нілам Гілевічам. Гэтак можна і назву страціць — «Лагойскі лісток». Ну, думаю, у наступных нумарах дагоняць. Пацучыная валтузня, калі карабель смела і ўпэўнена апускаецца на дно.

Адчуваеццца хуткасць ад’езду. Дыпламаты «шарпізуюцца», дужа шмат працуюць, не шкадуюць сябе, бедалагі.

*Раіса Баравікова*

Адчай кахання хітралісы,
У кайданы сябе закоўвай,
Схмялеўшы ад радкоў Раісы
Раскутае Баравіковай.

*[1984]*

[1] Баравікова Раіса Андрэеўна (н. 1947), беларуская паэтэса, перакладчыца. У 1983–1988 гг. літкансультант рэдакцыі газ. «Чырвоная змена». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1988), Дзяржаўнай прэміі РБ (1993).

[2] Барэйша Міхась (Міхаіл Уладзіміравіч; 1950–1990), беларускі празаік. З 1983 г. нам. рэдактара полацкай аб’яднанай газ. «Сцяг камунізму».

[3] Гіль Мікола (сапр. Гілевіч Мікалай Сымонавіч; н. 1936), беларускі празаік, перакладчык. У 1982–1990 гг. нам. галоўнага рэдактара газ. «Літаратура і мастацтва». Брат Н. Гілевіча.

*17 лістапада, субота*

Субота. Выходны. Роўна 2 месяцы, як мы знаходзімся і ў пашчы, і ў чэраве «жоўтага д'ябла»[1]. Дужа ж блішчаць д'ябальскія зубы! Некаторыя слепнуць. З раніцы з Алесем [Барушкам] пахадзілі па гарадскім парку. Шмат бегаюць. У сажалцы пускаюць, кіруючы імі, паруснікі маленькія. Аркестра на вуліцы парка рэжа рок. Парачка абколваецца. Законны танчык рок — танец нашай маладосці. Відаць, зноў у модзе будзе. Усё кругамі ідзе. На 5-й avenue, як у нас на праспекце, і іграюць, хто на чым, і з бляшанкамі стаяць, каб хто падаў. Вецер да касцей абмацвае. Амерыканцы апрануты цёпла і лёгка, зручна. Іграюць, каб гучней. Нейкі негр на нейкім тазе такія выкрунтасы выдае, нашаму Дзямешку з «Песняроў» далёка. Адвал башкі!

Прыехаў па мяне Андрэй Саннікаў[2]. Ведаў дзеда[3], бацьку[4]. І ўнук — інтэлегентны, разумны, па-беларуску далікатна-чулы. Партрэт кошкі Клёпы. З Егіпта, натуральна сіямская[5]. Імя сапраўднае ў яе — Клеапатра. Праўнук названы ў [гонар] прадзеда — Канстанцін. Крапіва[6] яму падпісаў кніжку. Манаграфія пра дзеда.

У амерыканскім доме. Дамы́ лічацца па спальнях, кватэры дакладна з адной спальняй, з двума. Малы Косця ў самадзейнасці. Па спадчыне схільнасць ідзе. Угаворваў Андрэя, пакуль малады, займацца еўрапейскім і амерыканскім тэатрам, стаць кандыдатам. Жонка з Дрэтані, амаль зямлячка. Стол па-беларуску багаты. Доўга ў духоўцы ножку тушылі. «Белавежская» як сімвал дому. Прыемна было пагаварыць з нармальным чалавекам, якога не пачала біць ліхаманка барахла і не ахапіла «шарпізацыя». І як з-пад зямлі вырас архангел — спадкаемца вечнай памяці «сямівочнікава». Па прыціхлым начным горадзе на машыне назад. Ледзь машына стала, пакуль будзе званіць уночы пра дапамогу, ураз негры распрануць, — таксама ж дама.

---

[1] Вобраз з нарыса М. Горкага «Горад жоўтага д'ябла» з кнігі «У Амерыцы» (1906).

[2] Саннікаў Андрэй Алегавіч (н. 1954), беларускі грамадскі і палітычны дзеяч. У 1982–1987 гг. перакладчык Службы рускіх перакладаў ў Сакратарыяце ААН.

[3] Саннікаў Канстанцін Мікалаевіч (1896–1965), беларускі рэжысёр, акцёр, выкладчык. Прафесар (1960). Народны артыст БССР (1949). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1948, 1952).

[4] Саннікаў Алег Канстанцінавіч (1928–1983), беларускі літаратуразнавец і тэатразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1961). У 1975–1983 гг. заг. кафедры Мінскага інстытута культуры.

[5] Радзіма сіямскай пароды кошак Таіланд (старажытная назва Сіям).

[6] Крапіва Кандрат (сапр. Атраховіч Кандрат Кандратавіч; 1896–1991), беларускі паэт, драматург, лексікограф. Народны пісьменнік БССР (1956). Акадэмік АН БССР (1950). Доктар філалагічных навук (1953). У 1982–1989 гг. вядучы навук. супрацоўнік-кансультант у аддзеле лексікалогіі і лексікаграфіі Інстытута мовазнаўства імя Я Коласа АН БССР. Герой Сацыялістычнай Працы (1975). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1951, 1971).

*18 лістапада, нядзеля*

Перад вокнамі збіраецца паліцыя. Некалькі коней, дагледжаных, вычасаных, паліцыянты са шпорамі, як з кіно даўняга. Адзін выцягвае з сумкі бліпічасты грабеньчык і расчэсвае хвост каню. Рыхтуецца нейкая дэманстрацыя. Усё загадзя ўзгоднена з паліцыяй, дзе, колькі. Старыя крыкі. Лозунгі, яшчэ свастыка і серп і молат. Дайшлі яўрэйчыкі! Толькі «Смірноўская» можа сагрэць на такой халадэчы. Рэклама ў Лондане. З-пад трыбуны апошні вылязае.

«Упіцца ўдосытак пад мурамі-хмарадзёрамі. Так душа мая, прарочыца прышлых дзён. Мне здаецца: гмахі хіляцца, абдымаюцца яны. І зыходзяцца, як сківіцы, дзве даўжэзныя сьцяны», — [падобна, цытата].

Перадача на рускай мове. Пазыўныя «Падмаскоўныя вечары». «Говорим на вашем родном языке». Пласцінка Толі Магілёўскага[1] «У нас в Одессе это не едят...».

Амерыканцы ўмудраюцца, калі над калонай глобус, дык на ім толькі Амерыка і відаць, а болей нічога.

Любімы лозунг маіх архангелаў-арганістаў, у прыватнасці, камсамольца: «Лепш стукаць, чым перастуквацца». Гісторыя паказала, што і яны часцяком перастукваліся.

*19 лістапада, панядзелак*

Нарада ў Mister [Гурыновіча]. Пагодная вайна. Фармальна тэхнічна чалавецтва далёка пайшло, але як яшчэ на месцы — разбіраюцца пытанні на ААН і пра кары (допыты), і пра рэлігійную цярпімасць, і пра жанчын. Усё, як у Сярэднявеччы і яшчэ далей у дрымучасць. А тут яшчэ наступ пустынь, голад. Па тэле паказваюць: як трупікі, адны косці, кладуць на насілкі, як адны косці яшчэ ледзь рухаюцца — у Эфіопіі.

Вечарам *кактэйль* наша рэспубліка наладжвала. Два дакументальных фільмы: «Вызваленне Беларусі», новая рэдакцыя з халаднаватапатэтычным тэкстам Вялюгіна, але кадры па-ранейшаму да дрыжыкаў уражваюць. Малады Лабанок. Кадры Ушаччыны ваеннага часу. Другі — святкаванне сёлета вызвалення. Мала тых, хто ваяваў, у кадрах урачыстых. Затое пратакол захаваны. Лабанка недзе з-за галоў паказваюць. Трэба было тады наперад, а цяпер — табель. Цікава пагутарыў з палякам Новакам, цікавіцца беларушчынай, шмат ведае. Паходзіць з Украіны.

*20 лістапада, аўторак*

*Агляд Time*. Нікога з вядомых не было забіта. 3000 беглых злачынцаў было злоўлена. 400–500 тыс. у турмах, турмаў мала. І таму [адпускаюць] на парукі. 3 тыс. збеглі толькі ў 8-мі штатах. У Нью-Йорку тэл. паслугі

[1] Магілеўскі Анатоль Ісакавіч (н. 1943), савецкі эстрадны спявак. У 1978 г. эміграваў у ЗША.

на 16,5 % павышаны. Абвіняюць Кадафі[1] ў замахах на буйных дзеячаў. У Лівіі лёгкая нафта і вялікі попыт усіх краін. Дэбаты наконт скарачэння дэфіцыту, зараз 200 млрд дыфіцыт федэральнага бюджэту, да канца другога тэрміну прэзідэнта да 50 млрд скарачэнне сацыяльных праграм (помач ветэранам ваенным, медыцынская страхоўка, падтрымка студэнтаў, пазыка студэнтам пад банкаўскія працэнты, выдаткі на школы, не наймаць новых федэральных служачых, акрамя Пентагона). Бастуюць пекары: гаспадары скарачаюць зарплату на 15 %. Наступ на прафсаюзы, кожны пяты, хто працуе, член прафсаюза. Сталеліцейныя зачыняюцца, каб атрымаць 25 тыс. у год, мала месцаў, ад 15 тыс. — гэта мідлклас, ніжэй 5 тыс. 61 долара штогод — рыса беднасці, а сям'я з 4-х чалавек 10 тыс. долараў. Кожны 6-ты жыхар Штатаў ніжэй рысы беднасці. У Нью-Йорку 66 тыс. бяднейшых. Мэр Нью-Йорка: «Мы адзіны горад, які дае начлежкі, а ў Штатах 2,5 млн бяздомных». Каля 1 млн кватэра ў цэнтры Манхэтана. Утрыманне 18 тыс. штогод, сёлета хто найбольш аплочан — кіраўнікі кампаній, 3552 тыс. у 1980-м, да 775 тыс. сёлета. У 1983 г. 2 % сямей [маюць] 56 % акцый на біржы. Цяпер рынак рэгулюе цэны.

Папраўдзе ([казаў] Артур Яўгенавіч), кожны 6-ты таксіст — эмігрант, можа, будзе і кожны 5-ты, эмігранты з Саюза ўнізе Брукліна ≈ 250 тыс. 3 хвалі: да 17 года эканамічная эміграцыя ў Штаты, Канаду (без адукацыі — цесляры, столяры, сяляне), у раёне новабудоўляў, малых гарадоў Ніягара, Таронта і Аляска — беларусы.

2-я [хваля эміграцыі]: з немцамі ўцяклі і захопленыя немцамі прыхвасні. Нацысты, паліцаі — яны ў буйных гарадах, у Нью-Йорку, на ўзбярэжжы, андэрсаўцы[2], духавенства, з палону, якія паслугамі немцаў [карысталіся]. Малалетнія, якія [неразб.1] жаніліся. Многія і прозвішчы, і адкуль яны схавалі. Кніга Лофтуса[3] «Белорусский секрет».

3-я хваля: вяршыня ў 1979-м — 51 тыс. На XI.84 г. выехала з Саюза 800 чал. Быццам бы з раднёй злучацца, не ў Ізраіль, у Нью-Йорк. Самае горшае становішча медыкам, дыпломы сацкраін не прызнаюцца. Юрысты — дыпломы не прызнаюцца савецкія. Занава не навучвацца, а дыплом не дае права на работу, і зноў праз 2 гады экзамены па англійскай

---

[1] Каддафі Муамар (1942–2011), палітычны і дзяржаўны дзеяч Лівіі. Адмовіўшыся ад усіх пасад, фактычна з'яўляўся адзінаўладным кіраўніком краіны, галоўнакамандуючым узброенымі сіламі як кіраўнік Рэвалюцыяй 1 верасня 1969 г. Забіты пад час грамадзянскай вайны, спароджанай ЗША і НАТО.

[2] Андэрс Уладзіслаў (1892–1970), польскі генерал. У 1941–1942 гг. камандуючы сфарміраванай у СССР польскай арміяй (з рэпрэсаваных, сасланых палякаў), у якую рознымі шляхамі траплялі і беларусы.

[3] Лофтус Джон Джозеф (н. 1950), амерыканскі палітычны пісьменнік; пракурор.

мове пісьмовы, вусны, 100 пытанняў за гадзіну і 2,5 гадзіны на 200 пытанняў тэсты.

Помнік Калумбу[1] — месца дэманстрацый, урачыстых дат, тут і рамізнікі для турыстаў. Брадвей. Кожны горад свой брадвей мае, шырокая вуліца. У Нью-Йорку не толькі ў Манхэтане. Але тут самы вялікі. З 50-й стрыт да 41-й — сексіндустрыя. Перад секс on stage — секс на сцэне. Тры топлес — адсутнасць верха, толькі ў трусіках — trunkswear. Вялікі бізнес. Калі хацелі знесці 42-ю вуліцу з сумніцельнымі дамамі — закацілі суму. Каштуе не так дом, як зямля. Небаскробы там, дзе зямля самая дарагая, да дэцыметраў. 42-я да 6 дол. і садысцкія фільмы. Тут і наркотыкі, марыхуана, прастытуткі, пар Harlem +++ (тры крыжы), штучныя члены і спажыўцы членаў, і ўваходы ў метро, схапіў і прэч. 25 цэнтаў [плаціш] і глядзіш, і гомікі, стрып-бары толькі для мужчын, і стары ідзе, ледзь хіліцца. Рэстараны толькі для лесбіянак. Гомікі дабіваюцца свабоды шлюбаў, рэгістравання. Клуб гомікаў, клуб лесбіянак. Клубы побач. Бываюць лізачкі ўдзвюх і па 8, адна па адной поўзае. Прастытуткі строга па раёнах. Сутэнёры ахоўваюць, выручку аддаюць усю. Калі ўтаіла, заб'юць, і канцы. Будуецца 64 паверхі і вузенькая будпляцовачка, бо за яе плоцяць, пакуль будуецца, таму хутчэй. US Armed Forces [узброеныя сілы ЗША] — вярбуюцца ў армію. 250–300 доляраў topless. Адзін у будцы відэакіно [паказвае за] 25 с. Прастытутка толькі талпой прыстае. Публічных дамоў няма, ёсць масажныя кабінеты ўзаемнапрыстыжнага праводжання часу. Нудзісты, бары, таксы ад 15–20 дол., у машыне мінет. Сама называе, колькі каштуе, і да 1000 дол. клубы. Зябнуць прастытуткі, холад. За 30 дол. двое. Страшная, чорная да бляску. Артур Яўгенавіч: «Колькі?» — «30 за дзвюх». Многа на панэль [ідуць] з эмігрантаў. Сігналім — уключае фары вачэй, ходзяць ахоўнікі. У пальчатках з кастэтамі. Купляюць участкі і нарашчваюць па́лямі ўчасткі.

Стаяць гамасекі.
Белая адубелая,
І чорная порна.

Сіці-хол — муніцыпалітэт, а побач прастытуткі, [неразб. 1]. Магутныя паліцэйскія ўпраўленні — цэлы горад, як бастыён.

*Чайнтаўн* — 1,5 млн кітайцаў. Пахавальнае бюро. Арка памінавення загінулых кітайцаў. Высокая злачыннасць, банды, мафіі. І стральба вечарам. «У памяць кітайцаў амерыканскага паходжання, якія страцілі сваё жыццё за вольную Амерыку». Секс высокі — усё ў падвальчыках і рэста-

[1] Калумб Хрыстафор (1451–1506), іспанскі мараплавец. У 1492 г. перасек Атлантычны акіян і дасягнуў в. Сан-Сальвадор (афіцыйная дата адкрыцця Амерыкі).

ран. Закон абмяжоўвае прыток кітайцаў. Помнік Канфуцыю[1], надпісы пакітайску і па-англійску. І побач вялізныя будынкі ФБР, праца на кітайскія долары.

Увесь Манхэтан на скалах, таму лёгка будаваць. Манхэтан, Бруклін, металічныя шыпы ад аледзянення. Будаўнікі мастоў [маюць] прывілеі, перадаюць свае па спадчыне. Даглядцы мастоў Бруклін-бора (бора — раён). У порце столькі пацукоў, што капітаны на караблях з вострым дротам [ходзяць], каб не запаўзалі, хоць нічога не дапамагае.

Пункты набору ў армію ў самых злачных месцах. Чорту душу прадасі. Пешаходаў няма, паясная [?] хуткасная лінія, хоць марудная, бо шмат машын. Сеткі з калючым дротам, каб самагубцы не кідаліся на праезжую частку, як у канцлагеры. Царква аддзелена ад дзяржавы. Ракфелер[2] ці хто аддзяліў суму на ААН, каб не дзяржаве, каб славіцца. Аўтобусы без вокнаў, без дзвярэй. Змрочныя будыніны-карабкі. Дарогу ніхто не саступае, хай вэй, моў, і горад ўнізе, Бруклін шэры, недакуркі шэрыя дамоў. Брайтан-біч — Зіхоткі бераг, вецер і шэрыя хвалі, хоць трохі пахне паветрам. Сабачка ў камізэльцы. Адзін друг. Лепі збіць чалавека.

Мост Верацана-брыдж[3] (як балалайка Бога). Масты ў Амерыцы ў асноўным рускія будавалі. На атаве буйны град чаек выпаў. Дом да дома — і ад ветру, і ад страху. Былыя дамы маракоў закінутыя, цяпер эмігранты па блату; тавар нават танней для вывезеных неграў, пасля эмігранты, яўрэі, вялікі працэнт у кабале трымае. За кватэру ≈ 300 дол, тэл. 45 дол., за святло 80 з чалавека, страхоўка аўтамабіля 1300 дол. штогод. І яўрэі, лацінаамерыканскія эмігранты — шматпавярховае гета. Пыт[анне] па-руску: «Уважаемый, где здесь Брайтан-біч-авеню?» Адказвае па-англійску. Б'юць мафіёзі і негры, паліцыя крыху ратуе. Паходка тая ж, хусткі. Брайтан-біч-авеню, як старая Няміга да рамонту. Кафэ «Ташкент», «Белая акацыя». Наш шалік на шыі. Ідзе яўрэйскі *Капказ.* У сметніцы найшла нешта. Цэнтр Брайтан-біч — гета. Уверсе метро, як вагоны з палоннымі ў вайну ў Германію, без усмешак, як быццам з пажару вайны [едуць] і толькі астылі.

Аб'явы ў газетах: «Я з работы еду, тады хто разам…» — бо страшна. Аптэка Рабіновіча. Ветэран скілет. Крамкі вывезенага барахла, кнігі, бібліятэка паэта Аксёнава. Летнія дачы. Дача за медальён [дазвол таксісту на працу], па таксе 40 тыс. дол. штогод і страхоўка і бензін. Тут у асноўным жывуць таксісты. Па таксе ўсё гаспадару, а сабе на чаявыя, 1,1 до-

[1] Канфуцый (Кун-цзы; каля 551–479 да н. э.), старажытнакітайскі мысліцель, заснавальнік канфуцыянства.

[2] Ракфелер — прадстаўнік адной з буйнейшых фінансава-прамысловых груп ЗША.

[3] Мост Верацана-Нарроус, адзін з найбуйнейшых вісячых мастоў, які звязвае Бруклін і Стэйтэн-Айленд. Названы ў гонар італьянскага мараплаўца Джаванні да Веррацана.

лара пры пасадцы і з кожнай 0,9 мілі 10 с. Плошча Арміі, праспект-парк. Паліцэйскі з пісталетам за нейкім мафіёзі аўтагонку [усчынае]. 16 St. 7 West. Бруклін негрыцянскі, пуэртарыканскі раён і так чорны і яшчэ чарней ад галечы. Цёмна, як пасля атамнай вайны, адны мёртвыя дамы. Муніцыпалітэт Брукліна, як сава, з чырвонымі вачыма стрэлак гадзінніка, зеленавата-шэдая. Раён загнаных, зацкаваных вачэй. Барахол — муніцыпалітэт Брукліна.

З апалым лісцем разам кладуцца спаць — апалае лісце людства. Прастытутка з маленькім, яшчэ не зусім падшая. Сутэнёры на пасту, як нашы дружыннікі, педэрасты, гамасекі. Агонь у бочках, грэюцца. Баўэры, інтэлігенты для Грынвіч-Вілідж, гомікі, лесбіянкі, студэнты, паэты, венерычныя — захапілі цэнтр.

«Увага! Христос приходить скоро». Самопоміч. Мафіёза для запалохвання, блішчыць зялёны купал. Кожная на сваім месцы строга стаіць, бялявая з нейкай міскай прапануе сілкавацца. Як здані на рагах вуліц. Зліваюцца са змрокам. Побач з метро ўхапіў і пад зямлю, стаіць чакае. Начны Брадвей. Pussycat. Прафсаюз педэрастаў і гомікаў на неграх разам у адзінай шарэнзе і лесбіянкі. Мэр Кэч [абяцаў, што будзе] апека і падтрымка.

Вылезлі з машыны ля місіі — халадзюдзя (як Ілонка кажа) да касцей працінае. А як жа там на скразняках начным прамыслаўчкам? Нічога і не захочацца, а працаваць трэба.

Дома камсамолец пачаў чытаць лекцыю пра высокую місію ААН, а днём, можа, правяраў швы дамскіх трусікаў. Рукі трасуцца, калі грошы атрымлівае, а болей — калі выпускае з рук. І раптам высокія матэрыі. Хочаш да карыта — паўзі. Можа, і дапаўзеш. Бацька хоць ваяваў.

Фільм пра студэнта і студэнтку, пра футбол, і паміж гэтым крыху сексу. І як заўсёды амерыканскі happy end. Рудольф [Собалеў], гуляючы ў шахматы, задаў пытанне, каб не перашкаджаў яму: якая розніца паміж ідэялістам і рамантыкам? А сапраўды?

*21 лістапада, серада*

*Агляд Time.* Сустрэча Шульца з Грамыкам мяркуецца. […] Федэральны ўрад [прыняў] новыя абмежаванні на пенсіі былых служачых. Прадстаўнікі 60-ці цэркваў і сінагог [выказалі] пратэст Кэчу (Coch), што няма клопатаў пра бяздомных. Хартман[1] сустрэўся з Грамыкам. Геншэр[2] ануляваў візіт ў Польшчу, 192 палякі ў Гамбургу пакінулі карабель, нялоўкасць, але

---

[1] Хартман Артур Адэр (1926–2015), амерыканскі дыпламат, пасол ЗША ў СССР (1981–1987).

[2] Геншэр Ганс Дзітрых (1927–2016), палітычны і дзяржаўны дзеяч ФРГ, дыпламат. У 1974–1992 гг. міністр замежных спраў і віцэ-канцлер ва ўрадах Г. Шмідта (1974–1982) і Г. Коля (1982–1992).

не гэта прычына адмены візіту. Журналісту пры Геншэры не далі візу, адмянілі ўскладанне вянка на магілу нямецкага салдата пад Варшавай і на магілу Папялюшка. Спад валавага нацыянальнага прадукта ў Штатах. Кірпатачка [Кіркпатрык] пакідае ААН і вяртаецца да прыватнага жыцця, спадзявалася [на] пасаду саветніка па нацыянальнай бяспецы атрымаць.

У Эфіопіі паўстанцы захапілі горад, адкуль прадукты ідуць у помач. Чыноўнікі ЦРУ [атрымалі] дысцыплінарнае спагнанне за падручнік па барацьбе ў Нікарагуа. У Мехіка ≈ 500 чалавек [загінулі] — выбух газасховішча. 100 тыс. эвакуіравана. Начлежкі 18 тыс. 500 чалавек даюць улады, сёлета 34 тыс. па-ранейшпму маюць патрэбу ў страсе.

Mister [Гурыновіч] расказваў. Можна ў рэстаран са сваім прыйсці, толькі трэба папярэдзіць. За адкрыццё корка столькі ж, як і за выпітае тут.

Сядзеў як воўк дома, калі можна гэта назваць домам. Вечарам кіно, трохі секс па тэлефоне. Не, а філалогія, расказваюць, адзіная.

*22 лістапада, чацвер*

*Агляд Time.* У Штатах атамная электрастанцыя ў раёне курорта. За знішчэнне запасаў хімзброі. Чарненка — пераходная эра ад Сталіна[1] да Андропава[2], — так піша газета. Перыяд няпэўнасці і слабасці. Спроба навесці палітдысцыпліну. Прынц[ыповы ?] вінаўнік ва Усходнім блоку Хонекер[3], які няправільна зразумеў указанні Масквы і спрабаваў [наладзіць] адносіны з Заходняй Германіяй. Штаты выгароджваюцца ад прычыннасці ў забойстве І. Гандзі.

На індыччын дзень [Дзень падзякавання] хочуць паўтарыць шлях першаадкрывальнікаў і праходцаў.

Учора *на прыёме ў Алжыра.* Пасол Алжыра пытаўся пра Беларусь, расказваў, як яны змагаліся за сваю незалежнасць і волю. Ім прыдалася тактыка партызанскай вайны. Цікавая гутарка з югаславам наконт славянскасці, наконт культуры, народа, урада. Агульнасць нашых культур. Крыху адарванасць ад заходняй культуры наша і разам з тым славянская

---

[1] Сталін Іосіф Вісарыёнавіч (сапр. Джугашвілі; 1879–1953), адзін з кіраўнікоў Камуністычнай партыі СССР і Савецкай дзяржавы.

[2] Андропаў Юрый Уладзіміравіч (1914–1984), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Генерал арміі (1976). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). У 1982 —1984 гг. Генеральны сакратар ЦК КПСС, адначасова з 1983 г. старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.

[3] Хонекер Эрых (1912–1994), партыйны і дзяржаўны дзеяч ГДР. У 1976–1989 гг. Генеральны сакратар ЦК САПГ, старшыня Нацыянальнага Савета абароны і Дзяржаўнага Савета ГДР.

еднасць. Глыбей [уведваць] інтарэсы народа, а не кіраваць ім. Прадстаўнік Фронту ПОЛІСАРІО[1] наконт афрыканскага пытання.

Сёння з Алесем [Барушкам] прайшліся па асеннім парку. Самая залатая часіна, калі яшчэ і не зіма, і ўжо не восень. Толькі бадзёрасць, толькі халадок, які напамінае, каб сумавала душа, пра нядаўняе спелае цяпло восені. Каменнае лісце шапаціць. Крыху Брадвей. Індустрыя сексу.

Чакалі. Нарэшце прыйшла пошта аказіяй. Мне [лісты] ад Зайчыка і ад Дуронкі [Ілоны]. І раптам вялікі канверт. Мікалай-архангел прыслаў «Звязду», дзе ўказ пра ўзнагароды. Мне далі «Дружбу народаў». Дзякуй ураду, асабліва Івану Іванавічу[2], Сяргею[3], Карамазаву. Гэта іхнімі клопатамі.

[Аўтограф:] « Григорий Иванович, прими сердечные поздравления в связи с высокой правительственной наградой. Желаю доброго здоровья, успехов. При встрече на родной земле смогу пожать вашу руку. Рад за такую оценку вашего труда.

*NN*».

Гэта цікавае віншаванне асабістага архангела майго ў горадзе д'ябла.

Тэле ўнізе. Цікавая форма падачы. Рэйган ідзе ў самалёт. Абступіўся. Падае. Потым паскораныя кадры: бяжыць у машыну як шалёны з усімі. Недзе ў кавярні есць з нейкім хлопцам побач. Усё гэта як бы набліжае да простых. Бачыце, і ён такі, як вы. Мандэйл выступае, і побач за трыбунай Мандэйл спрачаецца сам з сабой. Кур'ёзна-вясёлая перадача і разам з тым прапагандысцка-накіраваная. У прэсе: Штаты экспартуюць прылады допытаў і катавання.

*** Электронныя абмацаванні, рэнтген, могуць зазвінець асколкі не толькі металу, але і асколкі абразы. Пакуль што і ніколі не будзе вынайдзены рэнтген душы. Яна недасяжная, як для месяца венераход і для астранаўтаў.

Радыеактыўныя дажджы ападаюць на дол, радыеактыўныя ліўні вяшчання на душу і раз'ядаюць яе таксама, як кіслотныя дажджы.

---

[1] POLISARIO Front — вайскова-палітычны рух, які з 70-х гг. XX ст. вядзе вайну за незалежнасць рэгіёну Заходняя Сахара. У 70–80-я гг. — Сахарская Арабская Дэмакратычная Рэспубліка была прызнаная шмат якімі краінамі (СССР, Алжыр, Мексіка і інш.), але большая частка Заходняй Сахары знаходзіцца пад кантролем Марока і Маўрытаніі. У выніку ААН так і не даў згоды на рэферэндум аб статусе краю. Лідар руху генеральны сакратар Фронту ПОЛІСАРІО і прэзідэнт САДР (з 1976) Махамед Абдэльазіз (1947–2016).

[2] Антановіч Іван Іванавіч (н. 1937), беларускі філосаф. Доктар філасофскіх навук (1973). Прафесар (1977). У 1977–1987 гг. на партыйнай рабоце.

[3] Законнікаў Сяргей Іванавіч (н. 1946), беларускі паэт. У 1979–1986 г. заг. сектара мастацкай літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ, у 1986–2002 гг. гал. рэдактар час. «Полымя». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1982), Дзяржаўнай прэміі РБ (1992). Гл.: Сіла дабраты (1985) // Парастак радка, галінка верша. С. 274.

*23 лістапада, пятніца*

З ранку нарада.

*IV Камітэт.* Ушанаванне памяці старшыні Савецкай Рады Украіны Ватчанкі[1].

*Польшча. Японія. Турцыя. Аргенціна. Буркіна Фасо.*

*Штаты* (прымаючая краіна): «Мой род з Украіны, з Кіева, прынамсі да 1905 года». Спачуванні ўсе перадалі Украіне.

У адказ Украіна. Старшыня: «Смерць асабліва аб'ядноўвае. Народы, сем'і, нацыі».

Абед. Сяджу. Думаю, а што, калі б Яўменаву да ўсіх званняў дадаць — старшыня Беларускага аддзялення «Союза русского народа»? І сам з Бабруйска, і ў маленстве ці пазней нечым яўрэі ўкрыўдзілі? Але ж яны розум не раздаюць. Выхаванасць — таксама.

IV Камітэт. Просьба заслухоўвання пра Заходнюю Сахару.

*Мараканец*: «Пагаворка: вораг майго ворага мой сябра. Лепш адзін раз выкарыстаць праўду, нячым увесь час карыстацца маной. Мы са зброяй у руках узняліся на барацьбу ў адпаведнасці з інструкцыяй нашых каралёў».

(Хораша гучыць фраза ў ХХ стагоддзі. І канцылярызм, і мінулы век.) Сахара — гарызантальная стужка, якая дзеліць Афрыку напал. Каланіялізм не можа мець адценкаў колеру. Звычайна лічаць [што бываюць] толькі белыя каланізатары. Але цяпер далёка не так.

*24 лістапада, субота*

З Алесем [Барушкам] доўга пахадзілі паркам. Лісце доле жоўтае, адно ўжо згарэла — дымнае, гатовае стаць тленам, адно яшчэ зялёнае на галінах трымаецца моцна, як на пасадзе, маючы валасатую руку, як кажуць у наш час. Адзін ставок без вады ў чорнай араллі лісця апалага, змоклага, і па дне белым пухам ходзяць чайкі. Усе спакойна адпачываюць. Дзікуны — каб дзе рэпрадуктар, каб дзе дыярама росту, як першабытныя людзі... Знайшлі вялікае возера, узятае ў сетку агароджы, берагі выкладзены каменем. Чайкі купаюцца. Побач дарожка для выездак, прагулак конна.

Далей назад прайшлі, знайшлі ў выглядзе замка абсерваторыю былую. Сто гадоў назад пабудавана на выступах скал. Скалы не абражаны апрацоўкай. Спускаемся да стаўка-возерка, як першапраходцы. Лаздзінай [раён Вільнюса] літоўцы ў фінаў вучыліся рабіць, а фіны таксама

[1] Ватчанка Аляксей Федасеевіч (1914–1984), старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета УССР (1976–1984).

з улікам скал, камянёў будуюць свае дамы, а не абавязкова хочуць паказаць каменную нязломнасць натуры. У сэнсе — прыроды перашапачатковай.

На азярцы першы цэлафан лядку. Дзівосная зімнаватая восень. Зімавосень. Дні пачынаюць пад канец адʼезду цягнуцца марудней, прысталі і яны. Надакучыла быць, як бычкі на вяровачцы, а вяровачка на беспардонна-моцным калку. Пад вечар з Рудольфам [Собалевым] і архангелам Уладзімірам паехалі да Бубна. Далікатная, інтэлігентная беларуская сямʼя. Ягоны Бубенчык ходзіць, Бубянок, у другі клас. Спаць кладзецца з робатамі. Будучае нашых прапра. Нанач чай з белавежскімі зёлкамі, якія збірала сама гаспадыня вобласці Вольга Лаўрэнаўна [Панкова].

*25 лістапада, нядзеля*

Нядзеля. Яшчэ дзве — дамоў, дамоў, дамоў! Астабрыдзела да дʼябла. На машыну і ўніз па Нью-Йорку! У краме, куды нам не рэкамендавана [заходзіць], аўтографы Кубасава[1], была Зыкіна[2], быў прафесар Вішнеўскі (паказвае Коля, дзе ён сядзеў), у апошні сёлета прыезд Зорына[3]. Потым па вуліцы другога года вайны [42-й]. Шум, сэйл. Трусік беленькі, азяблы, у набрушнічку на ланцужку, яго трымае негр. Будуць нешта штукарыць.

Вечарам кіно пра крыважэрна-разбойніцкую лэдзі, якая забівала, рабавала, і шчаслівы амерыканскі happy end. Вечарам заходзіў Алесь [Барушка]. Ён ужо амаль на крылах самалётных і на крылах радаснага адлёту. Перадам ім хоць ліст Зайчыку свайму.

*26 лістапада, панядзелак*

Бліжэй дамоў штодзень. На кухні і ў ванне бегае ўсё, што можа. Трэба ж было ехаць за акіян, каб пабачыць жывых прусакоў, пра якіх у нас толькі даўнія ўспаміны ды ў фальклоры. Хай і яны будуць у іх. У нас набыліся. Не трэба ж, каб выводзілася зусім нешта жывое.

*Агляд Time.* Перасадка штучнага сэрца з пласціка і металу (52 гады) пачало крыватачыць. Бо дзірачкі засталіся. Пасля зноў [захапілі ?] са-

---

[1] Кубасаў Валерый Мікалаевіч (1935–2014), лётчык-касманаўт СССР (1969). Кандыдат тэхнічных навук (1968). Герой Савецкага Саюза (1969, 1975). Герой Венгрыі (1980).

[2] Зыкіна Людміла Георгіеўна (1929–2009), руская спявачка. Заслужаная артыстка РСФСР і Бурацкай АССР (1963). Народная артыстка СССР і АзССР (1973), Удмурцкай АССР (1974), УзССР (1980), Марый Эл (1997). Герой Сацыялістычнай Працы (1987). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1970), Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Глінкі (1983). Ганаровы прафесар МГУ (2002).

[3] Зорын Валянцін Сяргеевіч (1925–2016), рускі журналіст-міжнароднік, палітолаг, гісторык-амерыканіст. Доктар гістарычных навук (1963). Заслужаны работнік культуры РСФСР (1973). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1976), Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя братоў Васільевых (1982).

малёт самалійскай авіялініі і трымаюць 160 пасажыраў. Калі не вернуць палітвязняў, узарвуць разам з людзьмі. У Лісабоне ўзарваліся некалькі гранат у амерыканскага пасольства. У Польшчы меса ў памяць Папялюшкі. У Італіі супроць мафіі.

Унізе выказванне жалобы Украіне. Роспісы ў кнізе смутку. Наш Mister [Гурыновіч распісаўся], за ім усе. Лусака прыйшоў, паклоны перад партрэтам да і пасля распісвання.

*IV Камітэт*. Біч — бераг, пляж і сука. Сан ов а біч — найвышэйшая лаянка. Перад пачаткам Бубен павадзіў па разарыю ААН. Ружы ўжо на зіму спаць кладуцца. Цікава — ля сцяны расцягнуты дрэвы, як суставы чалавеку: [малюнак] рознай формы.

Выступаюць *петыцыянеры* па сахáраўскаму пытанню.

*Мараканец* прыгадвае даўнія бітвы.

Чалавецтва настолькі, думаеш з сумам, падарослела, што былыя бітвы — дзіцячыя забавы. Цяпер можна націскам кнопкі знішчожыць усё чалавецтва. І ў простым значэнні слова каменя на камені не пакінуць. Не пакінуць нават надмагільнага каменя. Уся планета можа стаць магілай. Жах. Не вера, не сіла трымае чалавецтва, а страх, — і так з века ў век. Толькі страх мацнее, шматаблічнее да неўявімасці.

Прамоўца: «Мы будзем на гэтай зямлі мараканцамі, пакуль гэтая зямля не пяройдзе Богу». Зялёны марш. Разбурэнне філасофіі народа.

*Прыём.* Давала *Беларусь.* Быў Генсек ААН [дэ Куэльяр] і [Старшыня] ГА [Лусака] і інш. Самай большай папулярнасцю [карысталіся] дранікі. Лепшай дыпламаткай — бульба. Прыйшла адсюль і нашай стала.

Гутаркі. Рукамі хто есць, было пытанне. На першым месцы — амерыканцы, за імі — кітайцы. Шмат яды на хапку. А дома наогул рукамі ўсе пераважна. Ракфелер снедае чаем з лімонам. Лёгкі абед. П'е мала. Калі, дык трохі віна белага.

Венгерцы расказваў пра Віцебскую школу мастацтва, пра Віцебшчыну, пра Быкава, вядома. Вечарам паклікаў Mister [Гурыновіч]: «Пачытай што-небудзь для душы, а рэштку дома. Што ты там, дакладней, напісаў». Сёння вечарам чытацьме, як ён расказваў амерыканцам, як жэняцца ў нас. Партыя не выбірае, але калі развальваецца сям'я — мачаляць, даюць наганяй. Так і скрозь, так і рэлігія. Дужа ім спадабалася ягонае выступленне, 4 гадзіны раскатвалі. Недзе ў 60 гадзін.

Рэйган нядаўна сказаў пра амерыканцаў: «Усе мы — эмігранты».

*27 лістапада, аўторак*

*Агляд Time*. Перасадка сэрца рэагуе на святло, вокавы яблык рэагуе на мову. Новы план абкладвання падаткамі ўводзіцца ў Штатах. Раней і цяпер чым болей прыбытак, большы падатак. За млн — болей паловы. Лазейка — грошы, укладзеныя ў мастацтва, падатку не падлягаюць. Так замкі перавозілі з Шатландыі, з Англіі, калекцыі, а пасля здаюць у арэнду дзяржаве. Стан у чалавека з перасаджаным сэрцам крытычны, але стабільны. Міністр фінансаў будзе даступна тлумачыць Рэйгану новую сістэму абкладання падаткамі, каб зразумеў актор.

Збіраўся выступіць у школе Рывер*бардэйле,* але адклалі на пятніцу. З Алесем [Барушкам] пахадзілі па вуліцах, у ААН, пафатаграфаваў ён мяне, я — яго. Аж ногі гусці сталі. На 42-й негры прапаноўвалі заняцца мілосцю. Уздагон плюнулі: «Русо догматик!»

Вечарам Misteru [Гурыновічу] чытаў свае новыя вершы. Пры ягонай занятасці знайшоў час паслухаць мяне. Старая любімая гвардыя высокасных душ. Даў заўвагі. Перад тым, кажа, крыху пачытаў Барадуліна для самаадукацыі. Такі і выхаванасць незвычайная. Можа, [сказаў] мала ўдзяліў увагі, заняты быў. Я ўдзячны яму надзвычайна за ягоную светлую ласку, добрую ўпэўненасць. Добрая нацыянальная інтэлігенцыя, родная, яе меней і меней. Замяняюцца сінтэтычна-камсамольскай зменай. Карані нацыі і культуры на асфальце службовай бюракраціі засыхаюць, ніцеюць. Дарэчы, нагружаны і перагружаны: «Напішы дамоў пісьмо, калі прыедзеш, хай ведаюць. Як напішаш, вершы прынясеш мне пачытаць».

Да гадзіны з Рудольфам [Собалевым] чай. Сямівочка і яму казаў папрасіць «бацьку» адправіць мяне раней: ён (гэта я) можа выкінуцца з 13-га паверха. Хоць жывем на 4-м. Пыльным мехам перацяты пільнікархангел. Да канца дзён будзеш жыць, як на перадачы тэлебачання, дзе ўключаны і слуханне, і бачанне. Мае біёграфы нястомныя, як пісаў сябра мой, светлай памяці Яўген Ляцюк[1].

*28 лістапада, серада*

*Агляд Time.* У Чылі асаднае становішча. У Індыі забіты брытанскі дыпламат, бо ён нібыта адносіны меў з ЦРУ. Шчаранскі[2] пераведзены ў лагер з турмы. На 14 % выдаткі на вайну Саюз [выдзяляе]. Іспанія і Англія [спрачаюцца] наконт Гібралтара[3].

---

[1] Ляцюк Яўгеній Мікалаевіч (1929–1976), украінскі паэт. Гл.: Яўген Ляцюк (2004) // Дуліна ад Барадуліна. С. 66.

[2] Шчаранскі Анатолій Барысавіч (сапр. імя Натан; н. 1948), савецкі дысідэнт; дзяржаўны дзеяч Ізраіля. Быў рэпрэсаваны. У 1986 г. абменены на (двух) чэхаславацкіх, савецкага, польскага і гэдээраўскага разведчыкаў. Жыве ў Ізраілі.

[3] Гібралтар — тэрыторыя на поўдні Перынейскага паўвострава каля Гібралтарскага праліва. Брытанскае валоданне (з пач. XVIII ст.), ад Іспаніі аддзелена нейтральнай зонай.

З Алесем [Барушкам] у парк. Вавёркі, як ажыўшыя валунчыкі. Адна закапалася ў лісце і зноў угору. Шмат кляновага лісця, канадскі клён, доўга дагарае лісце нават на зямлі.

Нарада ў Mistera [Гурыновіча]. Падвядзенне вынікаў. 80 выступленняў Беларусі. Дух шчырасці, гаварылі канкрэтна адзін аднаму, эканомячы час адзін аднаго — у нашым калектыве. На пленумах пры галасаванні адзначана, як галасавалі мы, Штаты, Кітай.

*IV Камітэт*. Пытанне Заходняй Сахары.

Выступленне *Марока.*

*Штаты:* «Мы прыйшлі, як гэта часцяком у ААН, не вырашаць праблему, а прыняць рэзалюцыю».

Галасаванне. Раптам голас: «Мы адсутнічаем, а табло паказвае — ёсць». Старшыня чытае паэму-гімн. «Вы, мудрыя старцы, глядзіце, што мы робім... — заключае старшыня, звяртаючыся да ўсіх, — мы разам спявалі песню дэкаланізацыі». Узнёсла гаворыць і нават крыху квяціста. Відаць, піша вершы. «Мы павінны выступаць як аркестр, дзе кожны займае сваю пазіцыю».

Дома глухавата — усе на прыёмах. Раней лягу — раней устану, як у цэлі.

*29 лістапада, чацвер*

Здароваму зарадка не патрэбна, а хвораму шкодна.

*Генеральная Асамблея.* Паседжанне. Даклад Савета ААН па Намібіі.

*Камерун.* Генсек СВАПО. З сівой барадой, і толькі бронзавы да чарнаты Кнут Скуеніек[1], здаецца, за трыбунай. 18 год у турмах сядзеў. «Пад выглядам закона пра тэрарызм караюцца барацьбіты за волю, свапаўцы. Намібійцы — не паўднёваафрыканцы, і ім належыць Намібія. Нацысцкія калабарацыяністы памылкова былі названы Рэйганам саюзнікамі. 26 жніўня 1966 года ўзнікла СВАПО. Зняволеныя павінны разглядацца як ваеннапалонныя. І міжнародная ўстанова павінна даць гуманітарную дапамогу. У 50-х гадах у кнізе «Востраў скарбаў»[2] даслаў у ААН плёнку з запісам сваіх патрабаванняў. Намібія — нацысцкі канцлагер для патрыётаў».

*Індыя*: «Адна з першых [узняла] пытанне пра Німібію. Колькі год ААН, столькі падымаецца гэтае пытанне».

---

[1] Скуеніек Кнут (н. 1936), латышскі паэт, перакладчык, крытык. Быў рэпрэсаваны (1962–1969).

[2] Раман Р. Сцівенсана. *Сцівенсан* Роберт (1850–1894), англійскі пісьменнік.

Крыху паперадзе. Рана цямнее. Ля магазіна стаяць і звоняць у шаргункі ў форменных шапках, форме. Думаў, куды? — а гэта заклікаюць у магазіны. Як у даўнасці.

*30 лістапада, пятніца*

Нарада. «Знойдзем працоўных эскімосаў», — камсамолец Яў[мена]ў (3-ці Камітэт).

*IV Камітэт*. Працяг дыскусіі.

Уладзімір і ягоны сябар павіншавалі з указам, што ў «Литгазете». З Рудольфам [Собалевым] дамоў, у краму. Пасля ў Рывердэйле перад дзецьмі выступаць. Ад самых маленькіх да 8-х класаў. Трохі расказу, трохі вершаў. У краме *bigbrother*ская [вялікабратэрская] саранча. Нідзе не прабіцца.

Вечарам цырк. Як у нас пасля вайны. Гарланне, носяць салодкую вату вялізную, напіткі, лёды, і равуць, як быццам іх вось-вось злегчаць. Спачатку вяла, а пасля выдатныя нумары пад купалам, цыганка, слон напіўся і слон паліцэйскі, за хобат і павёў. Слон у цыліндры закалваў, заказваў і назаказваўся. Клоун з туалетнай паперай і пыласосам — сучасна па-амерыканску. Другі нумар: клоун матылька на сэндвіч ловіць, і прылятаюць усе, і нарэшце, слон з крылкамі. На ім і едзе. Нумар «руская палка». Акрабаты і акрабатачкі — страшна аж, калі такая вытанчана-гнуткая разаб'ецца! Усе рэагуюць. Усе толькі цыркам у дадзены момант [жывуць]. Наогул чалавецтва ходзіць у цырк ахвотна. Усё жыццё цырк, толькі клоуны розныя[1].

Пасля невялічкая бяседа за «Смірноўскай». Сам пасол [Гурыновіч] даў шампанскае. Ён жа і павіншаваў мяне і на памяць «Литгазету» даў. Была і жонка ягоная, і ўсе нашыя з паверха. Дзякуй усім за ўвагу і спрыяльнасць!

*1 снежня, субота*

Добры дзень, месяц, калі нарэшце буду дома!

З раніцы паездка ў «хлеў». Сапраўды, як стадола, будыніна. У прынцыпе ўсё ёсць. Адпаведна і добрае, і дрэннае. Пасля кружлялі, кружлялі, і новы «хлеў», але дарагі надзвычай. На вуліцы полькі падтаптаныя, але з гонарам. Як сваю, польскую мову паўсюль прыемна мне пачуць, дзе б ні быў. Любоў да Польшчы ў мяне даўняя і складаная. Але заўсёды дарагая мне і мова, і краіна, і польскія паненкі асабліва. Яны ўсё-ткі для беларусаў нейкім чынам парыжанкі.

---

[1] Гл.: У цырку ([1986]) // Маўчанне перуна. С. 280.

Вечарам (добра, што не забыўся) прыехаў Андрэй [Саннікаў], як быў — у куртачцы, у вельветавых штанах. Я пытаюся, куды? У тэатр. Паехалі ў раён багемы Нью-Йорка. Тэатр самы мадэрновы. Як хлеў ці гараж, толькі ў рыштаваннях. Поўная зала. Хацеў сесці на сходках, але прымасціўся на ярусе. Тэатр называецца La Mama. Аснавала негрыцянка. Ігра выдатная. На ўсю выкладку. На сцэне няма лішняга антуражу. Усё гранічна сціпла і практычна. П'еса сучаснага амерыканскага драматурга (ён сам актор па прафесіі, мне між волі балюча ўспамінаць Шабана[1]) Sam Shepard[2] «Back bog beast bait». І містыка, і д'ябальшчына, і праекцыя на чалавецтва.

У акрузе з'яўляецца страшыдлішча, якое есць малых дзяцей ці легчыць іх, каб звесці чалавечы род, хлопчыкаў нішчыць. Маладзіца цяжарная наймае двух каўбоеў вартаваць яе, яны даведваюцца, што не мае, чым разлічыцца, спрэчка. Адзін пераконвае: трэба застацца, бо нас не будзе, калі знікнуць хлопчыкі. З'яўляецца лаціноска, прыносіць грыбы, адзін з'еў і атруціўся, ледзь уратавалі. Яна ж і вядзьмарыць. Негр з адрэзанай рукой з'яўляецца, цытуе біблію, трохі рука адрастае. Малога хлапчука, сына маладзіцы, страшыдлішча знішчыў. З'яўляецца страшыдлішча, усе каменеюць, есць малое на вачах ва ўсіх. Цыганка-лаціноска тлумачыла, што назбірала грыбы ў гарах. Адзін ідзе правяраць, ці ёсць горы. Гораў няма. Вяртаецца. Чары цыганкі, яна і на скрыпцы [грае].

Ігра цудоўная, 6 актораў, тры аркестранты. Поўная зала з 250-ці чалавек. Білет 1500 дол. Насупраць тэатр «Гараж». Сцэна ў Ля Маме мяняецца, можа быць і ўсярэдзіне, у залежнасці ад п'есы. У трох памяшканнях ідуць спектаклі, у адпаведнасці з п'есамі.

У гэтым жа тэатры сям'я эскімосаў ставіла «Антыгону». Андрэй не паспеў паглядзець, бо памёр у сям'і дзядуля, і тэрмінова паляцелі, пакуль не адляцела душа нябожчыка. Бо калі родных няма, праз трое сутак душа адляціць і не вернецца ў род, а так застаецца са сваімі. Які Андрэй тонкі і інтэлігентны, гэта ўжо беларуская інтэлігенцыя ў 3-м калене. Сапраўдная.

Прыйшоў Рудольф [Собалеў]. Яўрэйскі тэатр. Чуў звон пра Брадвей: «Ой, мама, я закаханы! — у іх усе яўрэі». Аж смешна.

---

[1] Шабан Яўген Пятровіч (1936–1982), беларускі паэт, драматург, сцэнарыст, перакладчык. Гл.: Чакаю (23.12.86) // Самота паломніцтва. С. 246.

[2] Шэпард Сэмюэл (н. 1943), амерыканскі акцёр, сцэнарыст, кінарэжысёр, драматург, пісьменнік. Лаўрэат Пулітцэраўскай прэміі (1979).

*2 снежня, нядзеля*

З раніцы ўніз горада. Як у нас у дарэвалюцыйным мястэчку, кіношнікі маглі б здымаць спакойна, толькі шыльды памяняць з яцямі і г. д. Настрой ні дома, ні ў гасцях[1]. Ні чытаць, ні пісаць, усе думкі ўжо ў дарозе.

Да Алега Астапкова[2]. Сын круціўся-круціўся (3-ці клас) і пачытаў мне вершы. У заапарку, белым вершам: бачу малпаў, «мне смеющихся в лицо». Пачаў сам перакладаць па-беларуску. Малайчына, не забыўся мову, хоць толькі вучыць пачаў. Жонка Тамара Анатольеўна, сяброўка жонкі Сержа Панізніка. Адыходзілі, малы, як калега калегу, зрабіў мне з малаком кукурузных каляровых колцаў, каб я пасмакаваў. Давялося не адмаўляцца. Калега, можа, будучы.

*3 снежня, панядзелак*

Агляды скончаны. Валізавы настрой. Сёння засядаць цэлы дзень і заўтра, відаць, таксама.

*Генеральная Асамблея. Пленарнае паседжанне*. Выступленні доказна-правільныя і вечныя. І раптам заходзіць Манкада. Так і хочацца на штурм за барадачом Кубы. Нейкая ўся з электрычнасці, матэрыялізаванай у эмацыянальна-выбуховую прывабнасць. Не дзіва, што Штаты збаяліся назначаць яе пастаянным прадстаўніком ад Нікарагуа. Што той генерал паліцыі, яна ўвесь Пентагон магла б разлажыць і маральна, і пачуццёва-фізічна. Нічога свет не даў лепшага, як прыгажосць у жаночым абліччы! А паліцэйскага генерала кокнулі ў пасцелі, адчыніліся дзверы, і два боі выраслі як з-пад зямлі. Доўга ішоў ці мала да генеральскіх зор, а пагляду аднаго хапіла, каб ўсё апала, каб усё знікла, а яна, чароўная, ходзіць, і ўсю Асамблею бянтэжыць, хто яшчэ можа бянтэжыцца.

Успамінаю пад цурчэнне прамоў. Едзем назад з La Mama з Андрэем [Саннікавым], прыгадваем Шабана, і між волі на Караткевіча[3] пераходзім. Ён расказвае, што многія студэнты з іншых рэспублік, асабліва з Расіі, чыталі Уладзіміра Сямёнавіча ў арыгінале ўжо пасля другога, негуманітарнага, філалагічнага курса, каб адчуць водар мовы беларускай.

*Працяг дыскусіі*. Этнічная біялагічная зброя, якая павінна заражаць толькі чорных пры дапамозе спецвіруса — у Намібіі хоча прымяніць ПдАР.

1. Мадагаскар. 2. Гаяна. 3. Танзанія. 4. Сінгапур. 5. Гана. 6. Мексіка. Гляджу на шыльдачкі дзяржаў. Кароткія імёны і доўгія. Ці ў адпаведнасці

---

[1] Гл.: «Пакуль іх няма, датуль...» ([12].84, Нью-Ёрк) // Маўчанне перуна. С. 284.

[2] Астапкоў Алег, беларускі дыпламат.

[3] Гл.: У вянок жалобы Уладзіміру Караткевічу ([07.84]) // Маўчанне перуна. С. 174; Вечна. Крынічна. Зорна (1984) // Парастак радка, галінка верша. С. 229.

з тэрыторыяй дзяржавы: наколькі доўга ляціць па гэтай зямлі рэха выгукнатага слова, ці ў адпаведнасці з характарам сціпласці народа, які пра сябе не хацеў доўгагучна гаварыць, хай рэха глыбока ў грудзях гучыць. А наогул, як паэма з геаграфічным ухілам, гучаць назвы розных дзяржаў.

7. Экватарыяльная Гвінея. 8. Калумбія.

Нарэшце з самай высокай трыбуны і *ўшацкі малец* выступіў. Хваляваўся. Ледзь акуляры выкалупаў з кішэні, прайшла хвіліна, а здалося — вечнасць. Зала амаль пустая. На трыбуне ветрык свежы. Як конь, галавой матляў у бок пана старшыні. Адбарабаніў неяк — і з плячэй далоў! Прыйшоў дамоў — сам пасол Шэльдоў запрасіў на чай. Дужа ён разумны і кемлівы, шмат ведае. Жонка з інтэлігентнай вартасцю трымаецца. На стале ўсяго і заморскага, у сэнсе сала (праўда, сказаў, беларускае выйшла, гэта ўкраінскае), і каўбаса цвёрдага вэнджання, і сваё, мясцовае — аранжа ў скрылях, і аранжа джус. Дзякуй ім за ўвагу. І, вядома, славутыя яе піражкі, пяльменькі маленькія.

*4 снежня, аўторак*

Крыху па ніжнім горадзе. Як дарэвалюцыйнае ці даваеннае нашае нейкае мястэчка. На вуліцах хлам, які называецца аддзеннем. Колеры і фарбы нібыта і прывабныя, а якасць часовая. Даўні выгляд у Даўне. Ехалі шукаць фламастэр Куксе [Куксо]. Трапілі ў такое тхло машын, што ледзь вынырнулі. Ездзяць на ўсім, што круціцца і рухаецца. І страшны вадзіцелю менавіта такія машыны, бо яны спецыяльна хочуць, каб іх струшчылі, каб атрымаць страхоўку.

*Працяг Пленарнага паседжання*. Дэкаланізацыя В’етнама: новы від калектыўнага каланіялізму, які яшчэ страшней.

Вечарам *украінская місія* давала *прыём*. У асноўным эмігранты былі гасцямі. Паказ фільмаў. Са мной побач сядзеў былы рэдактар газеты ўкраінскай, зараз гісторыю эміграцыі Украіны піша. Чаму, кажа, беларусы не аб’ядналіся ў асобную супольнасць эміграцыйную? Насупроць зямлячка з Беларусі, аднекуль з Брэсцкай вобласці, дакладней, з Гродзенскай. Бацька яе ўспамінаў Віцебск. Пасля пачостка на шырокую нагу і вялізны жывот. Малады святар недзе з 1959 года родам. З чорнай барадой, вусамі, з густой шавялюрай. Перад такім і любая бязбожніца не ўстоіць, спакусіць верай.

*5 снежня, серада*

Дзень сталінскай Канстытуцыі. «Дзень Канстытуцыі сягодня, вялікі дзень», — некалі дэкламаваў я ва ўшацкай школе на ўсіх вечарах урачы

стых. А сёння пакуюся, узважваю вагу барахла, каб не перавышала нормы, хвалююся. Ад духоўнага да прымітыўна-матэрыяльнага рэзкі спад адбыўся.

*Паседжанне.* Выступаў *англічанін* і ў адрас рэспублікі нашай наконт свабоды і незалежнасці. Бяляеў добры адказ даў.

Вечарам гутаркі з Рудольфам [Собалевым]. Цяжка яму. Не складзецца сям'я, гіне чалавек, асабліва інтэлігентна-чулы і тонкі. З Астапковым хадзілі ў ААН і знайшлі фоталабараторыю. Заказаў сабе некалькі фота на самай высокай трыбуне.

*6 снежня, чацвер*

Цяжка на душы. Нічога не міла, нічога не люба. Добра, што Алесь [Барушка] прыйшоў ды пахадзілі паркам. Вавёркі дарогу перабягаюць. Як з-пад зямлі скалы ілбы паказваюць, нібы ў лесе баравікі. Камяні скальныя робяць уражанне. Па абгароджанай тэрыторыі, дзе звычайна загараюць, пеша ходзяць чайкі, тлустыя, важныя. Качачкі ў вадаёме між чароту якраз як у нас недзе на Вечаллі. Вечарам віншаваў вершам Шэльдова (54 — яму). Ён дыпламат высокага класа і высокай вышкаленасці, калі можна так сказаць. Вядома, беларусы маглі мець хоць трохі беларусаў у Міністэрстве замежных спраў сваёй рэспублікі. Адно суцяшэнне — Андрэй Андрэевіч [Грамыка], наш зямляк!

*7 снежня, пятніца*

Апошняя нарада на 6-м небе. Мілітарызацыя космасу. Зандзіраванне Зямлі з космасу і пасля свабодны рынак дадзеных пра зандзіраванне Зямлі, прычым амерыканцы хочуць аддаць гэта ў прыватныя рукі. Слабаразвітыя краіны хочуць, каб загадзя дадзеныя пра запуск спадарожніка [паведамлялі] на выпадак падзення і ўтрая штрафу. Геастацыянарная арбіта сутыкнення інтарэсаў розных краін.

З Алесем [Барушкам] па Пятай авеню. Скразнякі рэбры лічаць, лядок першы паблісквае. Сонца смаліць у вочы, не столькі грэе, колькі слепіць. Са званочкамі стаяць і грэюцца халодным, настылым звонам прадстаўнікі Арміі выратавання[1], негры ў асноўным. Зіма паказвае, якая яна скразняковая, не такая ўжо, відаць, і снегавітая, як скразістая. Як цяжка было прывыкаць, так і сумнавата расставацца з горадам, дзе ўжо ніколі не будзеш, ніколі не вернешся сюды ў новы і нам не зразумелы свет. Чвэрт-

[1] Армія выратавання — Міжнародная рэлігійная дабрачынная арганізацыя, створаная ў Вялікабрытаніі для дапамогі бедным у 1865 г.

ка года прайшла тут, чвэртка жыцця, якое дакляраваў 84-ты год. Дзякуй яму, мірны быў, хоць і пагрозлівы, і нервовы, але ўсё-ткі мірны. Нельга звыкнуць да яды, да безпаветра, да многіх звычак, а да горада можна звыкнуць на нейкі час. Бо ведаеш, што ў цябе ёсць дом, ёсць роднае, крэўнае асецішча. Пад канец і не такі ён гарласты, крыклівы, як спачатку, асабліва не такі, як па традыцыі падае наша журналісцкая брація. Каб разабрацца, трэба ўдосыць пажыць, узважыць. Людзі ў добрым значэнні гэтага слова паўсюль нечым падобныя. І клопаты адны, і праблемы адны. Яны, безумоўна, хочуць міру, хочуць спакою. Ваду муцяць заправілы, каму ўлады мала, міражу ўлады, далягляду, па меры набліжэння да якога ён няўхільна аддаляецца. Нават спакойна пачынаеш глядзець на тэлерэкламу. Тэле ў іх дужа дынамічнае, рэкламы, пры многім дуракоўстве, ёсць дасціпныя. Галоўнае, што яны кароткія. І каб запомніліся, трэба памазгаваць, пакруціцца, каб круцілася ў мазгах ці вачах пакупніка, спажыўца. Так, барахла хапае, але ловіш сябе на тым, што ў краме купляеш што танней, пачынаючы ад хлеба, а дома пачынаеш перабіраць, ці свежы хлеб, ці чыста жытні. За гэты не значны ў вялікім паняцці і даволі вялікі адрэзак так і не зразумеў Амерыку, чым болей жывеш, тым цяжэй пазнаць. Лацвей збоку, зналопу, тады ўсё ўяўляецца зразумелае.

Леанід Сцяпанавіч дапамагае пакавацца. Па радыё яўрэйскія перадачы, песні, у якіх сусветны сум і туга народа, які ўсе вякі ганяюць. Цяжка народу без сваёй зямлі, без свайго грунту, дзе б ні жыў, дзе б ні працаваў, паўсюль — прыбыш, прышэлец. Якому б народу мазгі і талент ні аддаваў, усё роўна як той шавец босы ходзіцьмеш. Уся хваля радыё еўрапейская і іспанская мова, і ідыш, і літоўская. Можа, гэта не зусім іспанскае, але еўрапейскай душы, славянскай душы нейк утульней і па-хатняму добра, бо да амерыканскіх перадач, да суцэльнага наплыву амерыканскай музыкі дужа цяжка звыкнуць, перанасычаны раствор атрымліваецца. А наогул, ці не лепей меней ездзіць, а болей назіраць, назіраць спакойна, без спешкі, без похапу, слухаць наўколле ад птушак да кузуркі (учора з Алесем ішлі паркам, а вавёрка клікала сябра ці сяброўку нейкім сваім і нянаськім голасам), слухаць сябе, слухаць душу сваю. Мама мая болей ведала і зямлю, і людзей, хоць не дужа далёка ад'язджалася ў жыцці сваім. Не стала мамы, не стала спакою душэўнага майго, меней стаў чуць, меней стаў бачыць, меней стаў ведаць. Мама — сусвет, які заўсёды з табой, без якога ты знічка. А доўга гэтай знічцы падаць, усё ў руцэ божай…

У парку,
 што ў цэнтры Нью-Йорка,
Дзе шум, і той на патоку,
Вавёрка кліча вавёрка,
Як гараджанка патомная.

*8 снежня, субота*

З раніцы крыху па горадзе машынай. Пад вечарам школьным аўтобусам у Рывер*бардэйл*, адтуль да Андрэя [Саннікава]. Фільм «Рускія тут». Больш агітацыі за наш лад і не бывае. [Вымаўляюць] На *скаўю* [скамью] падсудных. Р-п скаўю [?] Клёпа. Настолькі разумныя вочы, што аж страшна. Па начным Брадвеі, у якога секс з вушэй сочыцца на рэкламах. Заўтра дзень гібелі Ленана[1]. У скверыку ля дома яго шмат моладзі, паліцыі. Нью-Йорк — вялікі яблык. Спазніліся ў La Mama. Перапруджаныя вуліцы. Каля 300 долараў, каб кот з коткай, а пасля клёпянят можна прадаваць. У Андрэя том шырмаўскіх[2] запісаў беларускіх народных песень.

*9 снежня, нядзеля*

Апошняя нядзелька ў Нью-Йорку, горадзе «жоўтага д'ябла» ў палосачку. З Алегам Мікалаевічам трохі горад паглядзелі, трапілі ў такое машыннае тхло, ледзь выбраліся. Пасля вячэра ў яго дома.

*10 снежня, панядзелак*

Нарада ў шэфа.

З Пятром Рыгоравічам [у] *Чайнтаўн.* У ракаўцы запіска-тэст: карп у карычневым соусе. Лобстэр дужа во]?] смак. Гульцы пасля 101–103 вул. *Гарлем.* У верхнім горадзе некалькі раёнаў, у некаторых па пад'езду, ёсць кватэры ≈ 80 тыс. штомесяц, з аховай. Рака Гарлем. Раней быў заселены галандцамі. Такі вялікі сад, масу дамоў набудавалі. Але індустрыя павялічыла прыток у Нью-Йорк. Злачынства выціснула белых, самазасяленне неграмі гэтых дамоў. Нават багатыя негры з'ехалі. Раён стаў некантрольны. Аварыйнасць. Ацяпленне не прадугледжана, бо было запланавана як дачныя домікі. Наркаманія, прастытуткі, злачынцы знайшлі прытулак. І цяпер Гарлем наступае з поўначы на поўдзень. Кідаюцца праваслаўныя храмы, утвараюцца мячэці, паганскія храмы, бо і лаціносы, і рабы. Дамы не зносяцца, пакуль не купяць участак, а зямля прыватызаваная. Пацёмкінскія дамы, вокны заклеены густа і пабелены. Ёсць частка і рускай эміграцыі, суцэльная звалка.

Наркаманы — попельны колер твару. Армія здае ці прадае танна абмундзіраванне. Ходзяць часта ў аднолькавым. Хвароба дауна, венерычныя, мафіёза. Пальчаткі, пласцінкі на грудзёх — ад нажа абарона. Серыял шпіталяў для разумова адсталых, непаўнацэнных. Рэклама. Дзед Мароз, кока-кола і цыгарэты. І ўсё — мара здзейсненая. Вышэй не падымаецца

---

[1] Ленан Джон (1940–1980), англійскі рок-спявак, гітарыст, кампазітар, паэт. З 1956 г. удзельнік вакальна-інструментальнага квартэта «Бітлз». Забіты фанатам у Нью-Ёрку.

[2] Шырма Рыгор Раманавіч (1892–1978), беларускі харавы дырыжор і фалькларыст. Народны артыст БССР (1949). Народны артыст СССР (1955). Герой Сацыялістычнай Працы (1977).

мара. Разводзяць кастры ў дамах, і таму ў пажарнікаў работа ёсць. Крама, фільмы і чыпсы, і ўсё. Царква, паліцыя, бардак — усё ідзе ў адну шарэнгу. Зачуханы бар «Гармонія»! Дома холадна, усе на вуліцы грэюцца. Закінутыя цэрквы. Хоча спіхнуць слуп, набраўся наркотыкаў. Будысцкі храм толькі і царква стараюцца хоць неяк паўплываць, іншых сродкаў няма.

Армія выратавання. Бульдозер узрыхліў, каб прадэзінфікаваць. Агенчыкі чырвоных лямп пагрэцца запрашаюць. І тут ідзе 5-ая авеню. Медысан-парк авеню. Каралеўскі хол як здзек гучыць. Муніцыпалітэт — раён светлы. Грэюцца ля бочкі. Артуру Яўгенавічу крычаць «ол райт», значыць, усё ў парадку, прывыклі, што паліцыя часта правярае. Прастытуткі ў розныя колеры [фарбуюць] галаву — зялёны, чырвоны, карычневы. Ад прастытутак аж чорна. Сама называе цану, ідзе старая, вывела маладых на стажыроўку. «Колькі?» — «За што?»

З сумкай з працы, каб па-паходнаму. Паліцыя не можа прачэсваць дамы, трупы гніюць. Смурод. Машыну цягне на штрафпляцоўку за няправільную паркоўку. Эмпайр State Building — аловак. Гандлёвы цэнтр, 102 паверхі, і яшчэ зарэзервавана 50 паверхаў, каб быў самы высокі ў свеце, каб ніхто не пераплюнуў. Як сцямнее, выхад жанчыны ў раёне 42-й і як выхад на работу, кепскі тон лічыцца. На работу ў вячэрнюю змену ідуць прастытуткі, гарачыя дзяўчаты — hot stuff girls, секс на французскі, на секс іспанскі, на еўраманер — рэклама фільмаў. Медпаліцыя, калі гараць чырвоныя ліхтары — уваход у метро забаронены, небяспечна, жоўты на ўгледжанне вас. Live nude revue — секс на сцэне. Клуб для гомікаў, клуб для лесбіянак. Full moon salon — пры поўні. Навукова-даследчы цэнтр рэлігіі. Kenny's (бар).

«Начны Брадвей запаліў свае акуляры, — Артур Яўгенавіч, — і папраўляецца — агні, а акуляры паэты». Многія вадзіцелі [прымаюць] допінгі, бо не вытрымліваюць нервы[1]. Live nude revue — кафэ «Чырвоны рубін», голыя афіцыянткі. Прастытутка завяшчала кафэ, праца ладзіцца. Каханне робіць амерыканцу по[?] яблычак — чарвівы з чорнымі чарвякамі. Клуб «Плэйбоя», сімвал — галава зайчыка. Толькі мільён [?] дзяўчына пад канец багатая [?]. Міс Студзень, міс Люты і г. д.

*Нарада*. Дзякаваць богу, апошняя. Гандаль дадзенымі дыстанцыйнага зандзіравання з космасу. У Мальвінскім канфлікце карысталіся разведдадзенымі амерыканскіх разведспадарожнікаў. З тэрыторыі паветранымі для авіяліній усё ясна, а вось космас. Дзе канчаецца паветра, а дзе пачынаецца космас — пытанне.

---

[1] Гл.: «У кожнага акуляры свае...» (11.85) // Маўчанне перуна. С. 282.

*11 снежня, аўторак*

Дзень цягання скрынак. Дзень тлуму, развітанняў. Мілая Алена, Пятрова жонка, прыходзіла ў місію. Ледзь знайшоў бутэлечку чарніла (не таго, што п'юць) паркераўскага. У магазінах абедам даўгавата стаяць у касах. Вечарам развітанне.

Шалёны Рудольф [Собалеў] зрабіў мне найшчодры падарунак — Анталогія амерыканскай паэзіі 1912–1977 гг.

*12 снежня, серада*

Бывай, Нью-Йорк, гуд бай, Нью-Йорк. З тваімі ўздрыглівымі брыджамі, як ты завеш свае масты. Даруй, што да цябе на «ты». Апошнія развітанні.

Аэрапорт Кенэдзі. Вятрыста, золка, зябка. Як свойскія качкі, па горадзе, па асфальце, валюхаюцца сытыя і здаравенныя чайкі. Побач ужо акіян спрабуе на трываласць бераг. Кігічуць з яўным амерыканскім слэнгам. Самалёт рухаецца па зямлі. Дэманстрацыя выратоўчай камізэлькі і свістка ад акул.

Пад намі воблакі патлатыя,
Пад намі гуд і вышыня,
Пад намі Атлантыка.

Утрамбавана-парэпаныя аблокі. І нарэшце *Гандэр,* другі раз яго наведваю. Некалі маладой зімой, а сёлета перадзім'ем. Золка, імжыста, сыравата. Той раз было ў зале больш урачыста. А ўсё роўна знаёмае прыемна пабачыць зноў, асабліва перад радзімай. Да Масквы 6 тыс. 300 км, — аб'яўляе сцюардэса зmененага экіпажа. 950 км/час хуткасць самалёта. Ляцім у ноч праз акіян.

І тут не спяць архангелы, пачынаючы ад сапселага цёзкі Аляксея Максімавіча (гнида из МИДа), канчаючы эканамічным саветнікам і так званым філосафам доктарам. Ад пільнасці вочы пацеюць, а значыць, мазгі адсырваюць, таму ўсё замяняе магнітафонная стужка, яна кіламетры адлічвае[1]. Дзякуй, тэхніка, кожны, хто зацікавіць тук-тукачоў, распрануты. Яшчэ адна душа непадуладна іхняму вуху, па якім можна пускаць каналізацыю.

Узыходзіць сонца. Настолькі аднолькава многа ўнізе аблок, што ўражанне — самалёт ледзь-ледзь сунецца.

*** *Кожны бязродны — без роднай зямлі.*
*Лютні крыло анёльскае грэшныя пальцы лашчаць.*

---

[1] Гл.: Незнаёмым знаёмым з ФБР (12.84–7.11.85) // Маўчанне перуна. С. 272.

С Рыгором хорошо вдвоём —
И дома, и за рубежом!

*24.09. — 16.12.84 Р. Соболев*
*Минск–Москва–Нью-Йорк*

*28 снежня, пятніца*

Міністэрства замежных спраў. Mister [Гурыновіч]. Вынікі сесіі. Штаты ўзмацнілі націск на краіны, якія развіваюцца. Пытанне Намібіі. Канструктыўнае супрацоўніцтва з ПдАР. Забалаціравана Манголія ў Савет Бяспекі. Штаты вылучалі для крытыкі, якія падтрымлівалі сацкраіны. Большасць дэлегацый за мірны космас, супраць дзяржаўнага тэрарызму, супраць мелітарызацыі касмічнай прасторы, — ініцыятыва СССР па асваенню космасу ў выключна мірных мэтах. За раззбраенне большасць, толькі Штаты ўстрымаліся, 54 пытанні па раззбраенню. БССР — аўтар праекта аб забароне новых відаў зброі масавага знішчэння. 26 краін сталі суаўтарамі нашай рэспублікі. Беларусь была суаўтарам яшчэ 26-ці рэзалюцый.

Далей шмат лічбаў (усё трэба пачытаць у артыкуле Mistera, што будзе ў «Звяздзе»). Меры давер'я ў акваторыі мораў і акіянаў. Штаты прагаласавалі за 7 рэзалюцый у поўнай адзіноце. Кітай за 29 рэзалюцый. Выхаванне народаў у духу міру. Пытанне пра Антарктыку. Права народаў на мір. Міжнародны год міру ў год 40-годдзя ААН (1985). Кампрадорская група. Беларусь суаўтар па Блізкаму Усходу (па прапанове Сірыі). Беларусь у ліку 47-мі краін [сааўтараў] пісьма Генсеку ААН [дэ Куэльяру] аб правамоцнасці [ўдзелу] Ізраіля ў арганізацыі, бо агрэсар. Абвяргаецца так званая канстытуцыя ПдАР. Штаты да пытання пра Намібію — 11 папраўак, але ўсе яны адхілены. Правы чалавека. Рэзалюцыя аб праве на жыццё. Забарона прапаганды вайны. 8–9 мая [прызнаць] Днём Перамогі над фашызмам і барацьбы супроць розных спроб вайны. Адмена смяротнай кары. Канвенцыя супроць катаванняў. Дапамога краінам, што пацярпелі ад засухі і апустыньвання. Супроць вярбоўкі і абучэння наёмнікаў. Ахова персаналу. 335 рэзалюцый і 34 рашэння на сесіі, 99 выступленняў. Празрыстаць ваенных бюджэтаў. Не падмяняць праблему прадухілення ядзернай вайны, вайны наогул.

*** [Сяброўская эпіграма Валянціна Тараса з падборкі «Кпіны»:]

*Барадулін у Нью-Йорку*

Нью-Йорк з рання пачынае ішачыць,
гне за далары спіну да вечара.
Там я зразумеў, што Нью-Йорк не Ушачы
і Гудзон — не возера Вечалле.
Брадвей цыгару рэкламы смаліць.
Мяне бачыўшы, не расчуліцца,
не плясне ў ладкі: «Кулінін малец!»
Дурная вуліца.

*Лістапад, 1988, «Літаратура і мастацтва»*

## 1985

*9 студзеня, серада*

*п. Ушачы.* У Марыі Рыгораўны [Трафімавай]: Капусту бяры ад гэтага берагá, тады сцэдзіш. А без капусты і няма чаго есці. Нада есці, каб пад’есці. Мы з ім абáдва есці хацелі. Цапý-лапý [на хапу]. Каб гэта хата стаяла і мы ў ей жылі. Нясе мяне ў плечы, хапіла скразняком. На Максімішыну ёсць наракание.

Прыйшоў Коля Максімаў (Шымук), з 23-га года, — іх у краіне пасля вайны 5 % [засталося ў жывых].

[Рыгор Іванавіч пра сябе:] Мяне стрыч некалі пачалі [малога, плакаў]. Маня — сястра [Колі прыносіла] суніцы. «Маня-Маня»[1][, —пяяла мама, каб не плакаў ці засынаў]. Некалі [Коля мяне] вёз на трактары з Полацка.

Цяпер у пасёлку ўсе наездныя.

*** [Без даты:] *Філосаф той, каму ў каханні не шанцуе.*

Нясноцце, слізгота, хлюпаніна. Доўг не вяроўка.

Папса — псаваць.

*10 студзеня, чацвер*

Марыя Рыгораўна: Я б печку пракýрыла. Хай растуць ваіцелі. Чаго вы свае душы калоціце (на холадзе)? Бабы сядзелі — адправіліся калом дамоў. З печы ні рукі, ні ногі не сцягні. Капуста капусціцца, паднімецца — апусціцца. Яна ж як шэрае лісце расцець, а потым савіваецца. Там цеплата, прыпаркі ў лесе.

Мікола Верын[2]: «Расцем. Уверх не бяруць, дык расцем ушыркі».

*** [Без даты.] *Цёпла будзіць...:* Прывёз Марушцы нейкія пашлапні на зіму. Разглядае і кажа: «Гэта й на смерць абуць — там цёпла будзіць хадзіць». Клопат зямны і па незямным жыцці.

*Проста хацеў*: Званок у вушацкую міліцыю — у Сарочыне (вёрст з дзесяць ад мястэчка) аварыя. Міліцыя. «Хуткая дапамога». Прылятаюць — нікога няма, нічога не стрэслася. Выходзіць спакойны дзядзька: «Ды нічога не было, я проста хацеў заехаць у Вушачу...»

Давезлі. Заехаў дзядзька на 15 сутак у райцэнтр.

---

[1] Гл.: На таку майго веку ([1994]) //Аратай, які пасвіць аблокі. С. 240.

[2] Смолікавы Мікалай і Вера Фёдараўна, дваюрадная сястра В. М. Барадулінай, некаторы час працавалі ва Ушачах і кватаравалі ў хаце Барадуліных.

*11 студзеня, пятніца*

*в. Забораўна, в. Тарапкі´.* Абшчапіў карчаком ці кіем. У Забораўне снег рыпіць балюча, пранізліва.

[Чужой рукой каментары да падрыхтоўчых матэрыялаў альбома: Барадулін Р., Ждановіч В. Вяртанне. Мінск, 1988.] Марчанка Пётр Сцяпанавіч, 2–14–98.

1. Усе п’яніцы з альбома выкінуты.

2. Выкінуты «лішнія» крыжы.

3. Зняты (выкінуты) Халіпскі, хоць дарэмна, гэта самы моцны кадр у адносінах да перажытага, антыфашысцкага. Гэты кадр спадабаўся Батаву[1] і Марэсьеву[2], за што Ждановіч атрымаў падзяку і грамату за іх подпісам (Савецкі камітэт ветэранаў вайны).

4. Нельга выкідаць купанне партызанскіх коней — любімы кадр Лабанка.

5. Нельга даваць так многа і шырока дасягненні калгасаў — на фоне дасягненняў рэспублікі гэта не глядзіцца — *кніга не пра гэта*.

6. Няхай ходзяць каровы на былой Раллі — гэта не зніжэнне тэмы — гэта жыццё, праўда, трагізм.

7. Слайд на пачатак — тыповы — знойдзены.

8. Растлумач ідэю кнігі — *«Вяртанне ў бой — вяртанне ў боль».*

9. Лось[3], Гарбук[4] Генадзь — ні пры чым, яны не партызаны.

10. Клопаў[5] — уся яму пашана! — не партызан. Пра Клопава «Маладосць», № 6, 1984.

11. Наогул — кніга не энцыклапедыя.

12. Папрасі пісьмовую згоду на кнігу Марчанкі [ушацкі раённы начальнік].

[Рыгор Іванавіч:] Дакласці першаму ці, лепей, другому сакратару РК.

---

[1] Батаў Павел Іванавіч (1897–1985), савецкі генерал арміі (1955). Герой Савецкага Саюза (1943, 1945). З 1942 г. камандуючы 65-й арміяй, якая ўдзельнічала ў вызваленні Беларусі.

[2] Марэсьеў Аляксей Пятровіч (1916–2001), савецкі ваенны лётчык. Герой Савецкага Саюза (1943). Кандыдат гістрычных навук (1956). Збіты ў паветраным баі (1942), цяжка паранены, 18 сутак поўз за лінію фронту. Пасля ампутацыі ног асвоіў пратэзы і вярнуўся ў авіяцыю.

[3] Гл.: Еўдакія Лось (11.06.86) // Самота паломніцтва. С. 87.

[4] Гарбук Генадзь Міхайлавіч (н. 1934), беларускі акцёр; аднакласнік. З 1962 г. акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Народны артыст БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1966), Дзяржаўнай прэміі СССР (1984), прэміі РБ «За духоўнае адраджэнне» (2007).

[5] Клопаў Анісім Андрэевіч (1914–1995), поўны кавалер ордэна Славы. Ураджэнец в. Навaселле Ушацкага р-на Віцебскай вобл.

*12 студзеня, субота*

Гаспадарыць дзяцел на магільніку,
Правярае змерзлую сасну:
Ці на дошку пойдзе у прымыльніку,
Ці на свежую труну[1].

Марыя Рыгораўна: Прыродныя ўшацкія. Гаспадыня бліны пячэць, пальчыкі ліжаць, і сытая, і пад'есць. Усе сытыя, але чужое нечым другім пахніць. Не за тое мы пабяднелі, што ў нас людзі пілі-елі, а як дасць бог. Хваціць пары́, што яму паказаў Бялевуш такое сярдзітае? Мужык робіць, дзе гантарэзка. Дачка нейкая няскладная — дзяцей няма, позна прыходзіць, п'ець, паняла́ верх над мужыком. Яна цягнецца ў гэтых капытах, слабі́зна гэткая.

А ці гэта розум ад мазгоў? А што гэта — адразу мазгуець ці галава варыць? З патыліцы мне ішло ў лоб. Мусіць, розум ад мазгоў. А пазваночнік робіць аж у мазгі, і з мазгоў у пазваночнік. З галавы бонць (боўць) мазгі, пазваночнік усяму крэпасць, і ўсяму чалавеку.

Як прыдзіць, ды агонь яго знаіць. Харошы такі мужчына ён, уважыцельны. Гразны, дзюравы, смярдзючы прышоў да Бялевуша. У кожнага сваё гора. Ад смерці не адкупісся. Шэўчанка не хацеў і ўзяў ды храпнуў [памёр]. Перажывайце свой век здаровенькія.

*13 студзеня, нядзеля*

Мінск. Белая пазёмачка. Адлягло троху ў мароза ад сэрца.

«Абхітрыўшы пільны сон…»

*Радуйся!*

Ад шчасця цвіцеш, што за мужа
Цябе развядзёнка ўзяла.
Пілуе зацята дужа
Разведзеная піла.

Ты радуйся, што за мужа…

*Карласу Шэрману*

І ў Нью-Йорку, і ў Гаване
У адзіным парыванні
Свет танцуе carleston.
Паяднаў мацерыкі

[1] Гл.: «Гаспадарыць дзяцел на магільніку…» (12.01.85–16.05.86) // Самота паломніцтва. С. 93.

Карлас Шэрман іспаньёлай.
Хай ягоныя радкі
У наступныя вякі
Рушаць грамадой вясёлай!

*25 студзеня, пятніца*

У трамваі вялікі гурт вясковай радні едзе да гарадской. Малады бацька: «Адзін Пятрок не спіць, а ўсе скруціліся, звіліся. Як лісціначкі на дрэве зялёныя». Колькі святла і зялёнага ў слове.

*27 студзеня, нядзеля*

Пімену [Панчанку] званю. «Як памром, і вы адразу станеце старымі. Неяк мне Кандрат [Крапіва] званіў, па голасу не пазнаў — такі ценькі-ценькі...»

*4 лютага, панядзелак*

Цясляр з домакіраўніцтва, з-пад Вязынкі: «Дарога благаватая». Амаль калька і разам з тым каларытна па-беларуску гучыць.

Голуб сізы, голуб сізы,
Галубка сінейша.
Татка любы, татка любы,
Матулька мілейша.

*(З песні маці П. Дубашынскага[1].)*

*9 лютага, субота*

*Валянціну Тарасу[2]*

Ёсць дзве пяцёркі (55),
І яшчэ хай дзевяць раз па пяць
Рака твайго жыцця цячэ,
А сам не думай спаць у шапку,
Кемны партызан,
Паэзіі салдат,
Бо найвысокі маеш сан —
Двухмоўя словадат.
Па-беларуску ты Тарас,
Па-руску Валя Тáрас.
У моры тлуму вадалаз.
Не паслабляй увагі пас,

[1] Дубашынскі Павел Піліпавіч (1931–2000), беларускі акцёр. У 1967–2000 гг. акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Народны артыст БССР (1989).
[2] Гл.: Валянцін Тарас (1986) // Парастак радка, галінка верша. С. 318.

Бо ў вір нырнуць хоць зараз
Гатоў,
Каб вынырнуць ураз,
Аднітаваўшы ад акрас
Суровай праўды гарус.
Грымі перунамі, сын Яфімаў,
Грымі з крытычнх клюшак
Пустыя шайбы ананімаў,
Граза манюк і падхалімаў,
Сляза дзяўчат — Валюшак!

*11 лютага, панядзелак*

*Васілю Макарэвічу*[1]

Не каньяком нутро старое грэючы,
Рыпіць на восі вясёла Зямля.
Яна і пахмяляецца, і нашчыцца
У Евінай туманнай апранашцы
Радком вясновавокім Макарэвіча,
Сцяпанавага сына Васіля.

*Івану Бурсаву*

Хто, як хлапчук,
Зацірку славы мурзаў,
Хто хапаў з-пад Пегаса камякі,
Адзін Іван — працяг Цярэшкаў —
Бурсаў
Пісаў і чытачам, і на вякі!

*[Люты]*

*13 лютага, серада*

Сустрэча Новага года ў партызан. [Накід сцэнарыя дакументальнага фільма.] Частушкі, пажаданні свайму народу. Зямлянка нізкая. З яе выходзіць шмат партызан (50), бубен і гармонік.

— Ну, яшчэ раз з Новым годам. Якія пажаданні, не толькі жарты, але сурёзна, а цяпер пойдзем павіншаваць фашысцкага гада, падарунак.

Сцэна павінна быць пераломная, выклікаць усмешку. Казла ў ролі Гітлера, казу дояць. [Упоперак старонкі:] 4 хвіліны.

1. Выхад з зямлянкі.

2. Заспявалі.

---

[1] Макарэвіч Васіль Сцяпанавіч (н. 1939), беларускі паэт, нарысіст. У 1979–2003 гг. спецкарэспандэнт Беларускага радыё.

5. Камандзір: «Якія будуць пажаданні прозай?»
6. Частушкі з танцамі.
7. Перад адыходам на марш. Песні. Каза — даяр. Казёл.
«А цяпер пойдзем павіншаваць фашыстаў з Новым годам».

Лучанок[1]: «Заўтра а 10-й раніцы буду ў кабінеце рэктара», — (хоць сам рэктар кансерваторыі). Выдатная сціпласць. Чыста беларуская!

Грэшнічкам люціць смалу чанок,
Грэшнікам — чан акіянапузы
Ігар Міхайлавіч Лучанок.

*

Шчодра Гітлеру-сабаку
Мы насыплем, быццам маку,
Пораху бяздымнага —
Каб далёка грымнула.

Размах рублёвы, а ўдар яловы.

Легенда Бягомля — планеры, самалёты [вазілі] зброю ва ўсе канцы, нават Лабанку, і літоўцы садзіліся ў Бягомлі на планерах. Мост ад Масквы да Бягомля, вазілі зброю, параненых.

Партызанскі раён. Манькові раздаваў зброю, сакратар РК. Трымаў на Беразіне пераправу. З Ушацкага прарыву на Бягомль. У блакаду Ушачы з тылу білі з Бягомля. Уся Радзіонаўская армія перайшла на бок партызан.

За самалёт 3 планера, кожны 3 тоны патронаў, толу; самі планерысты па 17 год хлопцы з аэраклуба, ці ў партызаны, ці назад у Маскву.

100 км ад Мінска — паўсюль гарнізоны, а тут партызаны, і Лабанок, і Машэраў[2], і Казлоў[3]. Братэрства між партызанаў, дружба. Самалёты штоноч, а ў блакаду — планеры. Былі партызанскія сталіцы, дзе [вісеў савецкі] сцяг, — Ушачы, Акцябрск, Расоны, Бягомль.

---

[1] Лучанок Ігар Міхайлавіч (н. 1938), беларускі кампазітар. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1973). У 1982–1986 гг. рэктар Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. Луначарскага. Народны артыст БССР (1982). Народны артыст СССР (1987). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[2] Машэраў Пётр Міронавіч (1918–1980), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1941–1944 гг. камандзір партызанскага атрада, камісар партызанскай брыгады, сакратар падпольнага абкама ЛКСМ Беларусі. У 1965–1980 гг. 1-шы сакратар ЦК КПБ. Герой Савецкага Саюза (1944). Герой Сацыялістычнай Працы (1978).

[3] Казлоў Васіль Іванавіч (1903–1967), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. З 1941г. 1-шы сакратар Мінскага абкама і гаркама. Генерал-маёр (1943). З 1948 г. старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Герой Савецкага Саюза (1942).

*17 лютага, нядзеля*

*Адаму Мальдзісу*

З Адама пачынаўся свет,
А ў Беларусі ўся навука.
Нікому гэта не сакрэт,
Што Мальдзісаў глыбокі след
Пралёг да здзіўленых планет,
Звышіснай ісціны зарука,
Што думка мудрага Адама,
Як вечнасць,
Вечная таксама.
Пакуль на свеце ёсць Адам,
Сябе свет разумее сам!

*20 лютага, серада*

*Міхаілу Іванавічу Дзяльцу*[1]
*[да дня нараджэння]*

На ніве кніжнай рупны жнец,
На дудцы лірыкі ігрэц,
Нашчадак вечнага Скарыны,
Наш найгалоўны выдавец
Міхал Іванавіч Дзялец
І незаменны, і адзіны!

*22 лютага, пятніца*

*У альбом Рыгору Барадуліну*

Наследаванне Мамерту Рэніеру

Ушачыч дарагенькі, дай бог табе здароўя!
Каб да сканчэння веку не знаў ты безгалоўя!
Хоць да сканчэння веку,
Ды не сканчэння лёсу,
Бо мае лёс бясконцы твой спеў звонкагалосы.
Жадаю, каб на сонцы сваім не меў ні плямы,
Каб аж гула акруга, як бразнеш медалямі!
Хачу, каб не спісаўся ты, дружа, аніколі
І каб табе балела адно салодкім болем,
Каб у цяпле кахання і шчырага сяброўства
Табе не гнула плечы цяжкой вагою ўзросту,

[1] Дзялец Міхаіл Іванавіч (1918–1999), старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю (1973–1989).

Каб соладка пілося і елася са смакам!
А хто цябе не любіць, таму каб дулю з макам!
Ушачыч дарагенькі, дай бог табе здароўя!
Каб да сканчэння веку не знаў ты безгалоўя!

*З пашанаю і любоўю Фелікс Баторын*[1]

*24 лютага, нядзеля*
[Аўтограф Назармата[2]:] Рыгор! [ Далей тэкст па-ўзбекску.]

З усіх радасцей на зямлі
Найлепшыя — гэта сустрэча сяброў.

*Назармат*

*Ілью Фанякову*[3]

І караваны таварнякоў
Не перавязуць — дарэмныя спробы —
Усяго, што стварыў Ілья Фанякоў,
Прадукцыя ўся найвышэйшае пробы!

*Ілью — грамавершцу*

*** 50-годдзе. «Грышка, усё гэта глупства, пішы пра каханне», — [П. Панчанка на святкаванні юбілею Р. Барадуліна ў СП].

Да наступных пакаціўся нуль,
Да маіх наступных аднагодкаў.
Мне паўсотні ўжо, а не пакуль,
А нулі, як тыя дэнцы ў сподках.

[Аўтограф В. Іпатавай:]

* * *

*Рыгору Барадуліну*

Над усмешкамі, справамі, лёсамі
Калісьці там, на Свярдлова,
Маладзікова-ўзнёслае
Узышло Барадуліна слова.

---

[1] Баторын Фелікс Барысавіч (сапр. Хаймовіч; н. 1948), беларускі і яўрэйскі паэт і перакладчык; урач.
[2] Назармат (Ігамназараў Назармат; (1917–2009), узбекскі паэт. Заслужаны дзеяч культуры Узбекістана.
[3] Фанякоў Ілья Алегавіч (1935–2011), рускі паэт, журналіст.

Здавалася цудам гэта:
Як ён, улюбёнак музы,
Чароўныя самацветы
У моўным знаходзіў друзе.

Заззяе слова адценнямі,
Роднае, крэўнае, наша.
І мудрае, летуценнае
Само за сябе пасля скажа.

Аб славе народа — і горы,
Аб лёсе яго суровым…
Кружыла ўсмешка Рыгора
Дзявочыя нашы галовы.

Ды толькі ў паэта — Валя,
Як зернетка, спее Ілона…
Рыгор Іванавіч, Вамі
І сёння быць запалоненым.

Любуючыся, захапляцца,
Не знаючы, якім грузам
Кладзеццца, якою працай
На плечы яго дар музы…

Ах, словы — іскрынкі, цацкі!
Кідай з далоні ў далоні.
Чаму ж у Паэта заўчасна
Ссівелі, ссівелі скроні?

Якая пакута — быць роўняй
Веку — і песні матулінай!
Залатой сёння ззяе поўняй
Паэзія Барадуліна…

*В. Іпатава*[1]

*26 лютага, панядзелак*

Секцыя перакладаў. К. Шэрман: «Філасофія рыфмы. Не можа быць аналіз перакладу толькі з пазіцыі лінгвістыкі, трэба і філасофія, і канцэптуальнасць».

---

[1] Іпатава Вольга Міхайлаўна (н. 1945), беларуская пісьменніца.У 1985–1989 гг. гал. рэдактар літаратурна-драматычных перадач Беларускага тэлебачання.

*** Перакласці — не з месца слова, перакласці нанова сцяну мура ці замка, ды адмыслова, каб захаваць цагліну, каб кладку…

*[28 лютага, чацвер]*

* * *

*N.*

Дзякуй за тое, што ты была
Блізкаю ў веснім маім парыве.
Ды сівізна замяла дабяла
Квеценню зімнай сляды ад крыла,
Тыя, што шлях паўтарылі.

*8 сакавіка, пятніца*

П. Панчанка: «У дачкі [Ілоны Барадулінай] разумныя вочы, мілы твар».

* * *

Няхай і вясна, і надзея
Акрыляць журботны радок
Твой, што і нядзеліць, і грэе,
Адчуўшы спагады выток.
Шалее зняверу завея,
А радасці чуецца крок.

*R.*

*18 сакавіка, панядзелак*

*в. Пуцілкавічы.* Настасся Юльянаўна[1]: «Штырык-штырык, кот здалі, бачу, ідзець. Цэлы дом інвалідаў. Кот без лапы, курыца без нагі, гаспадыня. Спачатку лапа безжыццёвая была, хаваў, як парася грук-грук». Развітваемся. «Хачу дажыць да адкрыцця музея Петруся. Як бывае, хоць на хвілінку заскочыць».

Пётр Сцяпанавіч (райкомаўскі прыклад): «Жанчына ў кіраўніцтве, так, як і каза ў гаспадарцы, — ад слабасці».

Адзін трактарыст: «Гэта нацыянальная беларуская хвароба — смага».

[1] Пярэдня Настасся Юльянаўна, дваюрадная сястра П. Броўкі. Гл.: Юльянішка ([1986]) // Маўчанне перуна. С. 138.

*23 сакавіка, субота*

*Геворг Эмін*[1]

Заходзіць пра Арменію гаворка,
Мы ўспамінаем мудрага Геворга,
Бо ў краі родным з небам у Эміна
І камень варты песні і ўспаміна.

*25 сакавіка, панядзелак*

*Сяргей Міхалкоў*[2]

Трылогія пра Дзядзьку Сцёпу
Ускалыхнула ўсю Еўропу,
І ў перакладах Крапівы
Ён сена не зрабіў з травы.
Але чытаць абавязкова
Ў арыгінале Міхалкова.

*Мустай Карым*[3]

Радкі прачула-шчырыя
Славутага Мустая
Не толькі ўся Башкірыя —
Увесь Саюз чытае.
А «Ноч зацьмення месяца»
І ў Беларусі свеціцца!

*Віталь Кароціч*

І ў страху ўвесь капсвет калоціцца
Ад публіцыстыкі Кароціча.
Хадзіў чупрыністым паэтам,
А быў заўважаны Хікметам.
Канада, Францыя, Італія
Завучваюць радкі Віталія.

---

[1] Эмін Геворг (сапр. Мурадзян Карлен Грыгор'евіч; 1919–1998), армянскі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951, 1976).

[2] Міхалкоў Сяргей Уладзіміравіч (1913–2009), рускі паэт і грамадскі дзеяч. Акадэмік АН СССР (1971). Герой Сацыялістычнай Працы (1973). Лаўрэат Дзяржаўнай прэмі СССР (1941, 1942, 1950, 1978), Ленінскай прэміі (1970).

[3] Карым Мустай (сапр. Карымаў Мустафа Сафіч; (1919–2005), башкірскі паэт і драматург. Народны паэт Башкірскай АССР (1963). Герой Сацыялістычнай Працы (1979). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1972), Ленінскай прэміі (1984).

*29 сакавіка, пятніца*

У Навума[1]. «Шкляра [Шклярэўскі] пераклаў М. Багдановіча левай нагой у сне».

*30 сакавіка, субота*

На *Ушачу.* Працуе на адлігу снег. У нас яшчэ зябкая вясна. Едзем назад. Начэ. У белым маскхалаце переразяблы туман ідзе па белым снезе. У кулаку ў Міхася Стральцова акурак зоркі[2]. Зоркі ў небе.

[Адрасы:] [Мінск] Уладзімір Васілевіч Крываблоцкі[3], 56–28–71; Люся Мяцёлка, 22–14–06; Небышынец[4] Вадзім Канстанцінавіч, 52–29–01; Усцін Сяргей Селівестравіч [зямляк], 34–87–40.

*31 сакавіка,нядзеля*

*Віктару Шніпу*

Няхай уяўны класік шэжыць хіб,
Набыткі белакроўныя сумуе,
Араты крэўных гоняў, знаўца скіб,
Мой сябра маладзейшы,
Віктар Шніп,
Няхай арэ глыбей і не сумуе!

*[Сакавік]*

*Для «Братэрства — 85»*

*Паўль Куусберг[5]*

І «Сцены» ўзвёў, ды мала гэта,
Трывогай загулі званы,
І рупнік «У разгары лета»
Пайшоў дарогамі вайны.
Ашчадна памяць тых дарог
Для ўздзячных чытачоў збярог.

---

[1] Кіслік Навум Зіноўевіч (1925–1998), рускі паэт, перакладчык. Гл.: Хвала паперы (8.03.86) // Самота паломніцтва. С. 248.

[2] Гл.: Вяртанне з Вушачы (1.11.92) // Дзень паэзіі-93/94. Мінск, 1993. С. 17; // Руны перуновы. Мінск, 2006. С. 253.

[3] Крываблоцкі Уладзімір Васільевіч (н. 1952), беларускі мастак-манументаліст. Аўтар размалёўкі ў Музеі народнай славы г. п. Ушачы.

[4] Небышынец Вадзім Канстанцінавіч (н. 1938), беларускі літаратуразнавец, перакладчык.

[5] Куусберг Паўль (1916–2004), эстонскі пісьменнік. Народны пісьменнік ЭССР (1972). Герой Сацыялістычнай Працы (1984). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЭССР (1965, 1975).

*Юрый Бондараў*

Ён не з пароды шпаркапёрых,
Што ўсё хутчэй дзяўбуць пяром.
Ю. здагадкі ўбачыў «Бераг»,
Адкуль не сам паплыў паром
У класіку,
Не ў «Цішыню»,
Бо ён прывык прасіць агню
Не ў першыню.

*Іван Навуменка*[1]

І на пасадзе Коласа
Свайго не страціў голасу.
Навуменкавы логіі
Чытаюць сёння многія.

*Уладзімір Паўлаў*[2]

Яго не гнала муза розгаю
За стол пісьмовы,
Рупны Паўлаў
У воз з паэзіяй і прозаю
Запрогся, мужнасці хапала,
Ажно скрыпуча палазам.
І пераклад ён цягне сам.

*3 красавіка, серада*

*Масква*. Маладыя пачынаюць памалу самі сябе перакладаць. Успамінаю, калі карова пачынала сама сябе ссаць, даіць, яе ці збывалі, ці на шыю нешта калючае і рагатае вешалі, каб не магла да вымя дапасці.

Не цераз, а праз Беларусь
Ляжала дарога Пушкіна...[3]

---

[1] Навуменка Іван Якаўлевіч (1925–2006), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік Беларусі (1995). Доктар філалагічных навук (1969), член-карэспандэнт (1972), акадэмік АН БССР (1980). Прафесар (1971). У 1982–1992 гг. віцэ-прэзідэнт НАНБ. Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1972).

[2] Паўлаў Уладзімір Андрэевіч (н. 1935), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1972–1985 гг. заг. рэдакцыі паэзіі, потым збору твораў і выбраных твораў выд-ва «Мастацкая літаратура», у 1986–1988 гг. літкансультант СП БССР.

[3] Гл.: Пушкін: Трыпціх. ІІ. Дарога Пушкіна (6.03.86) // Самота паломніцтва. С. 231.

*Валянціне Шчадрыной*[1]

І ў Маскве,
І ў Сусвеце Адной,
Валянціне, дачцы Ніканора,
Беларускай душы —
Шчадрыной
Ад ушацкага мальца Рыгора.

*** А. Рэвіч[2]: «Слова адказвае само за сябе без цвікоў, без накатанага рытму. Слова сказанае праз зубы больш уражае (так у скандынаваў)».

* * *

Дадому вяртаецца вырай,
Гукае гняздоўе свае.
І сум,
Што зімоваю гірай
Чужэў на душы,
Адтае.
Над Гутай, Завыдранам, Плінам
На вырай загадвае лёс.
То лукам напятым,
То клінам
Знікае ружанец нябёс.

* * *

Аднаму чалавеку кепска зусім,
Гора аднаму, адзін — не воін.
Кожны дужы панам над ім,
І нават слабыя, калі іх двое.

[Адрасы:] [чужой рукой] Алла Марченко[3], [Москва] Б-61, 107061, Б. Черкизовская, д. 6, кор. 3, кв. 100, тел. 161–30–46; Наталля Кашчук[4], Кіеў-54, вул. Чкалава, 52, кв. 2, тэл. 24–64–51; [чужой рукой:] Шавкута[5] А. Д.

---

[1] Шчадрына Валянціна Ніканораўна (1927–2008), руская перакладчыца. У 1968–1987 гг. кансультант па беларускай літаратуры ў сакратарыяце СП СССР. Заслужаны работнік культуры БССР (1977). Ураджэнка Беларусі.

[2] Рэвіч Аляксандр (сапр. Шэндэровіч Рафаэль Міхайлавіч; 1921–2012), рускі паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РФ (1999).

[3] Марчанка (Мураўёва) Ала Максімаўна (н. 1932), рускі крытык, літаратуразнавец.

[4] Кашчук Наталля Амяльянаўна (Кананенка; 1937–1991), украінская паэтэса, празаік, перакладчык.

[5] Шаўкута Анатолій Дзмітрыевіч (н. 1937), рускі пісьменнік.

Москва-107076, ул. Стромынка, д. 21–1, кв. 22; Ян Пробштейн[1], Москва-125047, ул. 4-я Тверская-Ямская, д. 20, строение 6, кв. 85, тел. 250–28–18.

*5 красавіка, пятніца*

*На Полацк, в. Пліска*. На вяршыні абеліск. Спрагае: жывеш, жыві, жыву. Ля возера Гомля.

Бібліятэка. Выступае камісар Кім пра разгром немцаў у вёсцы Кульгаі. Цікава гучыць назва.

І. І. Стрыкель: «Ідуць парсюка біць, а ён вішчыць, а немец наеўся нашага сала, і яго дужа фінкай не возьмеш, трэба СВТ[2] і кляп у рот, каб не каўкнуў, кавалак мяха ў рот уторкнуць».

Заяц выскачыў пад фару.

*** 1) Помнікі беларускага дойлідства, архітэктура;

2) пластыка Беларусі, арган, галава др[аўляная ?];

3) фальклор, касцюм, танцы;

4) азёрны край;

5) сувеніры, саломка, ткацтва;

6) званы памяці, мемарыял ком]?].

Запрашаем ў Беларусь; край легенд, партызанскай славы.

Канстанцін Вашчанка[3], Алена Вашчанка[4].

*6 красавіка, субота*

Дзербаком уздзяром глебу і пасеем, колам цыбуля ляжыць і лычы не пускаіць.

Напісала былая дзетдомаўка: «Вы мяне Шпулькай звалі (малая была)».

*7 красавіка, нядзеля*

Ля магазіна цётка пытаецца ў малога, як завуць сабаку.

— Што, ён табе сказаў, як яго завуць?

У магазіне. Пажарнік. Здаравіла — хоць прыкурвай ад морды. Да чароўнай касіркі:

— Давай з табой яйцы качаць.

[1] Прабштэйн Ян Эмільевіч (н. 1953), рускі і англійскі паэт, перакладчык, літаратуразнавец, выкладчык. Кандыдат філалагічных навук (2000, Масква), доктар літаратуразнаўства (ЗША). З 1989 г. жыве ў ЗША. Ураджэнец Беларусі.

[2] СВТ — самазарадная вінтоўка Токарава.

[3] Вашчанка Канстанцін Гаўрылавіч (н. 1961), кніжны і станкавы (літаграфія) графік, плакатыст.

[4] Вашчанка (Зуева) Алена, беларуская мастачка.

— Калі мы з табой будзем яйцы качаць, увесь Мінск згарыць, — і зачырванелася ад смеху, — толькі іскры будуць.

(Сёння каталіцкі Вялікдзень.)

*11 красавіка, чацвер*

Вул. П. Глебкі, д.116, школа 150, 13 гадзін.

*13 красавіка, субота*

*п. Ушачы. [*М. Р. Трафімава:] А я нагбом выхлібаю, мне тады здаецца, што гэта чай (поліўка). Пагібла дзеўка на хаду нядумана. Я ж бы ей два яечкі ў кішэню ткнула. Ты яе голлю прывяла?

Павёз [пляменніка] у сваты [і кажа]:

— Ты ж, не пажваўшы, не гавары.

[Той] жваў-жваў [ды ляпнуў]:

— Дзядзька, ці помніш, як мы свінню смалілі, а падхвосніца лопнула…

Такія песні, як дзеўкі пяюць, любезныя:

Не любіце, дзеўкі,
Хто ходзіць у кепкі,
Праклятая кепка —
Заўлікаіць крэпка.

*

Я, бывала, заўлекала
То Ярому, то Фаму,
А цяпер я заўлекаю
Начальніка ГПУ.

*

Што-та, што-та дым валіць,
Не Ушача лі гарыць?
Не згарэў бы божы храм,
Дзе вянчацца, дзеўкі, нам.

*

! А я малада,
Як ягада (!),
Як выкупіш —
Дамоў вядзі,

Ня выкупіш —
Дамоў не йдзі.

*

Перавозчык, дай мне лодку,
Ты вязі майго залётку.

«Ці там, у Амерыцы, неба і сонца такое, як ў нас, ці другое?»

*15 красавіка, нядзеля*

[М. Р. Трафімава:] Другая [баба] сама сабе хату глінную выляпіла цагляную. У яе яна дахварэла, яна яе і дахавала.

*

Адчыні, мілы, вароты,
Адчыні калітачкі,
Я цябе любіць не буду —
Тоненькія лытачкі.

*

Ой ты Пеценька дружок,
Не знімай галошы з ног.

*

Я раней быў рыбаком,
Закідаваў сеці,
А цяпер я камісар —
Сяджу ў кабінеце.

*

А мой мілы Р(э)К(а)П(э) —
Харошае званне,
Носіць брукі-галіфе,
Ходзіць на сабранне.

*

Я раней быў басяком
Па карманнай часці,
А цяпер я камісар
Пры савецкай ўласці.

Па дарозе Саша (шафёр Міколы) [пытаецца]:

— Ці ёсць рай і пекла?

Бацюшка:

— Рай ёсць, а пекла няма. Бо ўсю смалу на дарогу вылілі, а ўсіх чарцей на скрыжаваннях паставілі.

Старшыня калгаса — інструктару РК (якога выжалі, а перад гэтым на пасяўной не даваў яму жыцця):

— Адукацыя?

— Вышэйшая парт[школа].

— Дзе працаваў?

— Інструктарам.

— Мала таго, што ты без адукацыі, дык яшчэ нідзе не працаваў. Такі мне не трэба.

*22 красавіка, панядзелак*

*Барысу Алейніку*[1]

Хай згіне вецер-сухавейнік,
Ліст веры ўзеляніць галіны.
Хай славіцца Барыс Алейнік,
Сумленне Нэнькі-Украіны.

*28 красавіка, нядзеля*

*Ілью Фанякову*
*(падпісваючы «Изранное»)*

Из комплиментных слов колье
Хотел бы нанизать Илье,
Но улыбается Илья,
И говорит Илья: — Иль я
Стал манекеном в ателье?
Коль я
Противник литжулья
И не эспэвский Ришелье, —
Приятна искренность Илье!

*А. Вольскаму і Л. Горцавай*

А я чала не хмуру,
Не звыклы да тамін.
Ларысе і Артуру

[1] Алейнік Барыс Ільыч (1935–2017) , украінскі паэт, публіцыст. Акадэмік АН УССР (1990). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1975), Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі (1983), Міжнароднай прэміі імя Г. Скаварады (1994). Герой Украіны (2005).

На малады ўспамін
Пра тое, што калісьці
Было і што цяпер,
Мы дружбе не кляліся,
Нас запрасіў давер,
І добрае застолле,
Суседства, дабрыні.
Нас не ўбрыкне ніколі
Разладу авадні!

*[Красавік]*

*12 мая, нядзеля*

*Аркадзю Маркавічу Саўчанку[1],*
*народнаму [артысту] СССР*

Віншую, дарагі Аркадзь!
Я за цябе гарэлкі кадзь,
А трэба — цэбар асушу.
Табе, народнаму, шукаць
У вечнасць сцежкі
І гукаць
Народную душу.

*21 мая, аўторак*

* * *

*[N.]*

Ты — мой гарачы вецер, —
Спёкай слоў
Здалёку апякло тваё дыханне,
І маладая радасць стрымгалоў
Імчыцца, ног не чуючы,
Да гаю.
Я гэты гай прыдумаў сам, —
Няхай
На лоб гарачы ліст халодны ляжа!
Што ж, пані сталасць,
Трохі паўздыхай,
Пакуль не знойдзецца твая прапажа.

---

[1] Саўчанка Аркадзь Маркавіч (1936–2004), беларускі спявак. Народны артыст БССР (1976). Народны артыст СССР (1985). З 1960 г. саліст Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.

Ты — мой гарачы вецер,
Па складах
Твайго настрою словы паўтараю.
Сум, зачакаўшыся на халадах,
Раздзьмухаў жар —
Пажар да небакраю.
Агонь агнём затушыцца.
А здзіў
Мяне прачне аднойчы на дасвецці
Спалохацца,
Ці я не астудзіў
Маленне слоў:
Ты — мой гарачы вецер?..

*25 мая, субота*

У Пімена [Панчанкі] ў Лечкамісіі. «Слова…»[1] добра пераклаў, толькі так памылку не дараваў». [Рыгор Іванавіч:] ? [П. П.:] «А дзе Ушачы, ушацкі?..»

**** Пімен Панчанка*. Званю, кажу — пішу прадмову з кароткай назвай «Народны».

— Зусім коратка — як цар.

Далей Пімен кажа:

— Ты знаёміў [бы] тэлегледачоў з маладымі. Цяжка штогод штораз знаёміць. Мала каго засталося.

У кніжнай краме, кажу, браў.

— Нельга казаць — у краме пісьменніка, дзе крамніну даюць. Крамніна ці крамнік паходзіць ад крамы, а кнігі — толькі ў кнігарні.

Абураецца:

— Як я настаўнік? — нельга навучыць пісаць. Час дае талент, а не вучаць. Вайна дала таленты, а не зрабіла іх.

*30 мая,пятніца*

*Васілю Зуёнку*
*ў дзень 50-годдзя 3 чэрвеня*

Лірычна, казачна, паэмна
Мужнеў твой талент дзень пры дні.
Ты з першых крокаў недарэмна
Уцёк хутчэй ад мітусні,
Ад штурхатні ў чарзе па славу.
Сам-насам з думкай, як ратай,

[1] Слова пра паход Ігаравы. Мінск, 1986. Пераклады Дзмітрыя Ліхачова, Мікалая Забалоцкага, Максіма Рыльскага, Янкі Купалы, Рыгора Барадуліна.

Рабіў маўкліва-ўдумна справу.
Бяры, чытач, гартай, чытай
Пра «Лукам’е» і пра «Сядзібу»,
І пра маўклівую траву.
Зімовым днём прахуквай шыбу —
І ўскружыць казка галаву.
Імчыся палазнёй гарачай
На капанях, адчуўшы смак.
Зачытвайся, чытач, як «Начай»
Нядаўна ў космасе зямляк.

Васіль Васілевіч Зуёнак,
Жадаюць плёну ад душы
Табе і чытачы «прадлёнак»,
І тэлегледачы.
Пішы!
Не любіш, як на полі гола,
І сам ідзеш у плугары, —
Як па пуцёўцы камсамола,
Падаўся ты ў сакратары.
Рабі разумныя даклады,
Вядзі паэзію далей,
Карчуй заспакаення ляды,
Святкуй цвярозы юбілей!
Хай «Жніўны дзень»
Абыдзе бура,
Гучы, паэце, ў сотні моў!
«Мастацкая літаратура»
Чакае будучых тамоў!

*Да кірмашовага гадзінніка*
*інструкцыя-пажаданне*

Мой любы дружа,
Слаўны імяніннік,
Васіле, браце,
Вораг мітусні,
Хай шчодра лічыць час
Гадзіннік
І ў цішыні ляжыць у кішані,
А ўсё няхай яшчэ паўсотні год
Стаіць і рве
Цвярозых думак ход!

*На «Избранном»*

Враг словославистых иконок,
Широких плеч,
Косматых рук,
Василь Васильевич Зуёнок
Мой верны друг.
Слава ему!

*1 чэрвеня, субота*

Пімену [Панчанку] званю. Між іншым мне зазначае: «Міністр асветы БССР па-руску выступіла па тэле. Зрухі.

Дужа густы ліст сёлета, якраз як перад вайной той. Бачыш, якія я табе прыкметы сказаў сумныя».

*9 чэрвеня, нядзеля*

*Верш*

да апошняга радка
увесь — у гонар Лучанка!

Даверыўшы святлу чаўнок,
Не зашпіліўшы гузікі,
Парыўны Ігар Лучанок
Плыве па моры музыкі.

Плыве і маладым слыве
З кагорты тых, што ранні я
Стаялі і на галаве,
А славу пратараніла.

У кабінеце, громалюб,
Не запінаўся шторамі,
Як той прадукт «Гавана Клуб»[1],
Вітацца ўмеў са штормамі.

Пачуў бы, пэўна, Бах стары[2],
Як дол наўкол уздрыгвае,
Бо «Песняры»,
Што весляры,
Вяслуюць славу Ігару.

---

[1] Кубінскі ром.

[2] Бах Іаган Себасцьян (1685–1750), нямецкі кампазітар і арганіст.

Каму ўздае хвалу чынок,
Нібы часнок катлу таму,
Ды ўладалюбствам Лучанок
Пакуль што не аплутаны.

Сагнуўся ад адзнак,
Аднак
Душу мар’інагорскую
Збярог.
Смачнейшы свой праснак
За патаку заморскую.

І не забыўся пах атаў,
І сцежку за адрынаю.
«Алесяй»[1] Ігар свет вітаў,
І ўслед — «Александрынаю»[2],

Бо Аляксандра ўсё дала —
Жыццё і песню матчыну.
А Саша з іншага сяла
Ігарчанятак няньчыла.

І заспяваеш ад калег,
Яшчэ й закукарэкаеш.
Ды ў час,
Нябёсам дзякуй,
Збег,
Хлеб паспытаўшы рэктарскі.

І ў маладзейшых галавах
Мазгі, дальбог, — не пакулле!
Спачнеш на лаўрах —
Справа швах! —
Маэстрыцца няма калі!

Бадзёрыць праца,
Рупіць страх.
Яна,
Што ўсё пабачыла,
Смяецца вечнасць:
Слава — прах,

[1] «Алеся», муз. І. Лучанка, сл. А. Куляшова.
[2] «Александрына», муз. У. Мулявіна, сл. П. Броўкі.

А застаецца
«Спадчына»[1]!

*25 чэрвеня, аўторак*

*Алесю Адамовічу*
*(на «Абразах без абразы»[2])*

Хай будзе ў шане Шматтамовіч
І Поўназборавіч — пасля —
Змагар за праўду Адамовіч,
Вытлумачальнік Васіля.

*Сяргею Законнікаву*

У музы — мачыхі і мамы
Не злічыш пестункоў, дуронікаў,
Ды ўсё ж з сынкоў любімы самы
Сяргей, Іванаў сын, Законнікаў,
Таму што ён — ушацкі малец.
Ідзе — з-пад пят маланкі смаляць!

*1985*
*12 ліпеня, пятніца*
[Аўтограф першага ліста П. Пранузы[3] з вершам М. Сурначова[4]:]

*Дарагі Рыгор!*
Высылаю верш Сурначова ў першай рэдакцыі. Узяты з пісьма.

Не вярнуцца ніколі
Хлапцу маладому
К заросшаму мохам
Забытаму дому.

Над ім асыпаюцца
Слуцкія краскі.
Абсмалены колас
Схіліўся да каскі.

Ляжыць ён, забіты,
У стоптаным жыце,

---

[1] «Спадчына», муз. Лучанка, сл. Я. Купалы.
[2] Барадулін Р., Куксо К. Абразы' без абра́зы: Сяброўскія шаржы і эпіграмы. Мінск, 1985.
[3] Пранузa Паўлюк (Павел Кузьміч; 1918–2007), беларускі настаўнік, паэт, перакладчык.
[4] Сурначоў Мікола (Мікалай Мікалаевіч; 1917–1945), беларускі паэт. Загінуў пад Берлінам.

Маці спаткаеце, —
Лепш не кажыце.

*28.VIII.42 г.*

*16 ліпеня, аўторак*

* * *

У хмурай вечнасці імгненне выйграй,
І вырві ў забыцця
жыцця кусман,
З надзеяй расчыні вясны вароты.
Ляціць у вырай адужалы вырай,
І адлятаюць душы партызан
На супакой,
у вырай незваротны.
Прадвеснем птушкі вернуцца дадому
Нябеснай сцежкай да астылых гнёзд,
Каб вырай несканчона паўтарыўся.
Пупышкі важка схіляцца да долу,
І промень босы пусціцца наўпрост,
Каб пяткі апячы на чахлай крызе.
І паўтарацца будуць партызаны
У праўнуках малых, у згадках сноў,
У галасах сваіх лясоў і птушак,
І выбух болю — конь незакілзаны,
Іржу гадоў ударамі падкоў
Знясе з платоў,
як з кулямётных стужак.
Удзячны смутак, памяць пратрасіруй,
Пакуль на спінах згорбленых магіл
Яшчэ ўзвышаецца трава жалобы.
Чаму ты так спяшаеш, люты вырай?
Хай вецер малады здымае пыл,
Што ўпаў на партызанскія шаломы.

*21 ліпеня, нядзеля*

*п. Ушачы.* Марыя Рыгораўна: У лагеры былі каля Лепля ў Докшыцах; у Леплі паслеплі. З богам не біцца, жывеш-жывеш ды хлёп.

Ішла Купала па вуліцы,
Са сваім Іванам жартуючы,
А ўвазнала —
У яго піва наганёна.

*

Ай ты зязюля ты шэрая,
Не кукуй рана на дуброве,
Не будзі мяне, маладое.

Авечка белая, авечка чорная, а дух адзін. Так і гарэлка. Дробныя статкі — свінні, авечкі.

А запрашайце авечку-пузатку,
А запрашайце авечку сівую.
А наша бабка паездзінкі любіць.
Тады ж яна нам гарэлачкі купіць.

*** Выдавец папярэджвае, што чытанне вершаў зборніка шкодзіць вашаму здароўю.

* * *

І толькі голас чуць
І ўбачыць мець надзею,
Так многа для душы,
Так мала для вачэй.
І ўраніцы, і ўвечары
Падумаю: няма —
І сонца халадзее,
Як уяўлю: са мной, —
Прамень звініць званчэй,
Якім наскрозь прасвечаны.

*29 ліпеня, панядзелак*

*Міхасю Стральцову*
*(на «Избранном»)*

Литературных огольцов
И всех мастей критинов
На место ставит маг Стрельцов,
Мишель неукротимый.

*** *Калі агнявіца ў цёмным небе агнявіцца.*

Чытаю фотаадбітак «Тарас-палясоўшчык»[1], Коўна, 1920. Больш правільны пн.-ўсх. [паўночна-ўсходні] дыялект, не засмечаны праўкамі.

[1] Сатырычна-гумарыстычная паэма «Тарас на Парнасе» (1855), якая лічылася ананімнай, належыць пяру Канстанціна Вераніцына (1834–1904 ?), жыхара Віцебска.

Нясе вялікі мех пан гэты,
Паўным-паўнюсенькім набіт,
Усё там кніжкі ды газэты,
Ну, як каробачнік той, жыд!

Ар. Куляшоў збіраўся перакласці «Коробейники», а ўсё не мог знайсці адэквату слову.

Прыгожа дужа дзеўка Гэба
Гарэлкі ў чаркі наліла
І, як жарон, букатку хлеба
Прынёсшы, бразь ! серад стала.

Ушацкая прымаўка: па дастатку пякуць букатку. Кароў яшчэ ў нас так завуць, і Букетка яшчэ.

У тлумачэннях да грэцкіх багоў: «Зевес (чы Юпітэр) — бацька багоў, бог усяго жывучага, чы галоўны бог, якім быў у беларусоў у балванскія часы бог грымот Пярун». Балваны — у «Слове [пра паход Ігаравы]». А. Пупко [народны разьбяр] казаў, што ён робіў балваноў. Сівая даўніна мовы ў нашыя дні грукаецца.

Бел*оксвордскае* вымаўленне.

[Адрас:] г. Маладзечна, завул. Палярны, дом № 1. Каханоўскі[1] Генадзь Аляксандравіч (кнігі яму і музею Караткевіча з аўтографам).

*7 жніўня, серада*

Па тэле Г. Цітовіч[2]: «Раней пешкі [хадзілі], закурыш з дзядзькам, распытаеш, дзе хто спявае. З самалёта таго не ўбачыш. Радуе, што ёсць мае *спаткапе́рцы,* е пераемнікі».

*19 жніўня, панядзелак*

* * *

*[N.]*

У твайго недаверу
На марудным агні
Я ахвотна падсмажваюся.
Запярэчыць ласкавай яго дабрыні

[1] Каханоўскі Генадзь Аляксандравіч (1936–1994), беларускі гісторык, літаратуразнавец, фальклярыст, краязнавец. У 1981–1989 гг. навук. супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Доктар філалагічных навук (1992).

[2] Цітовіч Генадзь Іванавіч (1910–1986), харавы дырыжор, музыказнавец, этнограф. Народны артыст СССР (1968). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР (1978).

Не асмельваюся,
Не адважваюся.

Ты глядзіш,
Каб дачасна агонь не дачах,
І памалу варушыш вугольчыкі.
Я сачу,
Каб агонь не пагас у вачах,
Смажуся, не скуголячы
Аніколечкі.

Кпін тваіх незласлівых
Павейным дымком
Вэнджуся, як падвешаны,
Хоць ратунак завецца
Звычайным рыўком,
Мне рашуча не хочацца ў бежанцы.

Ведаю, ў недавера багата радні,
Дроў наломяць яны
І ў паўдзён, і ўвечары.
У твайго недаверу
На марудным агні
Я гару,
У агонь неадумны верачы.

*23 жніўня, пятніца*

*Ларысе Горцавай*
*(падпісваючы Г. Містраль)*

Свой пераклад,
Што быў ля рысы
Святой нахабнасці і страху,
Я аддаю на суд Ларысы
І галаву кладу на плаху
Са спадзяваннем —
Пашкадуе
Заснежана-немаладую.

*29 жніўня, чацвер*

*Зварот*

Прасветленае людства, чалавецтва,
Скажы,

За розум возьмешся калі?
Ці не даволі люцтва, самаедства,
Ці не хапіла смерці на зямлі?
Толк невялікі з цьмянага прароцтва
Пра дзень наступны,
Пра апошні дзень.
Лепш паглядзі на ўдоўства, на сіроцтва
І нітку ў голку памяці прадзень
Ад суравеяў жаху суравую
І на канцы вузельчык завяжы,
Раўней прагрэсу хісткую крывую
Выпроствай, быццам здрайцу на крыжы.
Калі зямлю атуліць змрок і ціша,
Яе ніякі не ўратуе цуд.
Пад абажурам атамным падпіша
Свет звар'яцелы сам сабе прысуд.

Застанецца чорная скрынка маёй душы, у якія глыбіні і хто яе вылавіць?[1]

*3 верасня, аўторак*

*Тамары Залатухінай*

Кому стихи, как божья кара,
А Вам наоборот как раз.
Кричу в безмолвие: — Тамара,
Тома
ра
ботаю на Вас!

*12 верасня, чацвер*

*г. Мурманск.* Агляд парада. Дурны помнік Алёшу[2]. Дрэвы садзім. Рабіну. У герб можна было б рабіну. Па ёй, як птушкі прылятаюць, вызначаюць, якая будзе зіма. Помнік удзельнікам краін антыгітлераўскай кааліцыі. З граніту. Шар зямны ў далані. А падножжа пафарбавана, як камяні, пад колер травы ў хатынскім «Партызанскім бары». Магільнік і пірамідкі над паддадзенымі Брытаніі. Крапіва вакол і лебяда — незвычайная расліннасць для гэтых мясцін. Садзім рабіну ў алеі пісьменнікаў.

[1] Гл.: «У скрусі прашу суцяшэння...» (27.04.86) // Самота паломніцтва. С. 144.
[2] Помнік Савецкаму салдату ў Плоўдзіве (Балгарыя) у народзе ласкава прazваны Алёшам. Скульптары Васіл Радаславаў, Любамір Далчаў, Тодар Басілкаў, Аляксандр Кавачоў; архітэктары Мікалай Марангозаў, Барыс Маркаў, Пётр Цвяткоў. Правобразам стаўся Аляксей Іванавіч Скурлатаў, які ваяваў пад Плоўдзівам. Па аналогіі так называлі і іншыя падобныя помнікі.

Абком. А 144 кв. км [плошча вобласці], 1100 тыс. [насельніцтва]. 20 тыс. штогод. 420 тыс. — у Мурманску прырост нараджальнасці. Развіццё вобласці на аснове мінеральных рэсурсаў і рыбных на суму 4 млрд 400 млн рублей у год вырабляе вобласць. «Паўночнанікель» — пераўзышоў «Нарыльскнікель» 9999. Парашковая металургія, шмат трэба электараэнергіі. Штогод 10 тыс. электарпліт. Электраэнергію [пастаўляе] ў Фінляндыю і Нарвегію. Па электраэнергіі першае месца ў краіне. Мяркуецца вялікая здабыча нафты і газа — Баранцава і Карскае моры. Нафтагазавая прамысловасць — будучае Мурманска. Інстытут па вывучэнні шэльфаў. Арыентацыя на тэхніку. Зарплата ў 2 разы вышэй. Звышплана — і дазвол прадаць за мяжу, і таму тэхніка. Трэба сельская гаспадарка на Поўначы, збалансаванае харчаванне насельніцтва з улікам Поўначы. 16 тыс. кароў, 7 тыс. га зямлі: выкарчоўка, збор камянёў. Бройлерная фабрыка. 260 млн штук яек.

Па жыллю на 54-м месцы ў рэспубліцы, а па спажыванню прадуктаў на 1-м месцы. Вахтавы метад [адышоў] у мінулае — стабільныя кадры з'явіліся. У палярную ноч паўночны стрэс з'яўляецца. Трэба адцягнуць працай, спортам, кнігай; культура, традыцыі ленінградцаў, масквічоў.

70 тыс. аленяў у ўсходніх тундравых раёнах. Аленеёмкасць, а ў Фінляндыі 250 тыс. Нарвежцы вырошчваюць 220 тыс. тон ласося.

* Мурманск. Думаў, што толькі снег муркае: мур-манск, мур-манск. Аж тут яшчэ склыгат лябёдак, партальных кранаў.

*13 верасня, пятніца*

Рыбакамбінат, рыбапрадукты, медтлушч, мука. У сувязі з 200-мільнай зонай змяніўся характар рыбы. Мойва. Крыветачны цэх, пельменны. У асноўным тэхнічны і ветэрынарны тлушч. Медыцына забараніла тлушч з печані траскі і іншых рыб, бо ў печані скапліваюцца атрутныя рэчывы, — забруджванне мора. Крыветку чысціць навучыліся — амерыканскае абсталяванне. Кальмары, марская капуста. Самы буйны камбінат у свеце. Перапрацоўка мойвы, анчоўсаў у бялок. Інжынер: «10 гадоў на бязрыб'і — без траскі працавалі». Раней быў белакоры палтус, лябёдкамі выгружалі. Цяпер не помніць інжынер. Развядзенне рыбы ў моры. У Нарвегіі закупляем завод.

70 млн тон рыбы ўвесь свет [мае], з іх 10 млн [мы]. Мы [здзяйсняем] рознаглыбінны лоў. Рыбе няма куды падзецца. Мы яе паўсюль возьмем. З 1974 г. 76 тыс. тон траскі вылаўліваў Паўночны флот. ≈ 100 тон ў суткі дымляніны. Будзем лавіць усё, што ёсць. Можна з фаршу сёмгу [рабіць]. Марскія гаспадаркі — разводзіць рыбу. Чалавецтва вернецца да культуры гаспадарання. Самалёт з прыборамі для разведкі рыбы. Падводныя лодкі з прыборамі глыбей за атамныя: дзе рыба. Навуковая разведка,

толькі 56% флоту працуе. Няма запчастак, верфяў, каб рамантаваць. Не ставіць на завод карабель 10 год — бесперапынны рамонт на плыву. Карабль недзе каля Перу, а каманду самалётамі мяняем. Ураджайныя гады на кожную рыбу. Трэба даваць акіяну адпачыць».

У Мурманску першы ў Саюзе жаночы працвярэзнік, вэнджальны завод першае месца [трымае].

*14 верасня, субота*

Могільнік караблёў, мора па калена, на сіверы перакалелі караблі — магільшчыкі неба, [неразб. 1] белахвальных паляў, чайкі з надзеяй, што нешта кінуць. Музей, самалёты баявыя. Пух чаек лятае, як на курасадні. Хатка, дзе жыў Гагарын, дровы ў бакоўцы, бочка на ваду. Раніцай лёд давodзілася біць.

Віцэ-адмірал Варгін[1]. [Авіянясучы крэйсер] «Кіеў».

* * *

Я ваўком самотным завываю,
Тым, што вырваўся з халодных зім,
Забываю ўсё і называю
Ўсіх іскрыстым іменем тваім.
Імем, што і за Палярным кругам
Грэе так, што кругам галава,
Звоніць капяжом і хмеліць лугам,
Дзе гаворыць з небам мурава.
І з журбою — ластаўкай паштовай
Пасылаю просьбу да цябе:
Разняволь мяне і арыштоўвай,
Рэўнасць,
Што адчай-траву скубе,
Выкрасае іскры кабыліца
З памяці капрызнай і з вачэй,
Абганяе ўяву небыліца,
Недавер давер’е —
Хто хутчэй.
Хто каго абгоніць,
Хто прыскача
Растрывожыць —
Розніцы няма.
Ёсць тваё імя,
А гэта значыць,
Хай далёка — ёсць і ты сама.

[1] Варгін Сяргей Паўлавіч (1926–2009), савецкі віцэ-адмірал. Начальнік Палітычнага ўпраўлення Паўночнага флоту (1985–1990).

Чырванню заходзіцца рабіна
Ад падумкі
Ці ад сцюж.
Што б ты неадумна ні рабіла,
Лёс малю:
Адзіным імем скруш!

*15 верасня, нядзеля*

Тэлеграф з 10-ці, Азія. У думках тэлеграма. Выхад у мора. рознакаляровая тундра. Цепляць бярозкі, якія дагараюць цьмяна-жоўтым полымем. Канферэнцыя ў кают-кампаніі вартавога пагранічнага карабля.

Мора прымае вянок.
Хвалі варочае цяжка
Чорнай жалобай фуражка.

Пагранічнікі: «Няма сувязі з зямлёй, толькі вадой. У нас няма зямлі». Калі ў Североморску ≈ 1,5 гады назад ухнулі запасы зброі, афіцэры кінуліся (шыбы выбіліся) ратаваць хто прыёмнік, хто што, а забыліся, што ёсць баявыя пасты.

Пагранічны атрад 22 чэрвеня [1941 г.] — 3.15 збіты нямецкі самалёт.

*Сцюдзёнаморскае*

Маяка зялёная зорка
На шурпатых нябёсах мора
Усміхаецца зырка і горка.
На вятрах вечарэе змора.
Абапёршыся астравамі
Аб прадонне
Да хрусту ў локцях,
Неба выстуджанае астывае,
Не пазначанае на лоцыях.

*16 верасня, панядзелак*

*г. Кола*. Калала́. Колола. Сакратар Іван Герасімавіч (сябра Віктара Уноковіча). Анна Міхайлаўна Губарэвіч (з Кармы).

Сёлета -60$^0$ у Шангуі (кітайцы, якія будавалі дарогу). 48 тыс. выбаршчыкаў. Усяго ≈ 70 тыс. сяльгасвытворчасць. Сваё мяса, малако, бройлеры, яйкі. Даліна смерці называецца цяпер Далінай Славы. Аленяводства падае. Толькі падтрымліваецца колькасць ≈ 6 тыс. галоў. Дужа ранімая прырода Поўначы. Пасля сельскай гаспадаркі [ідзе] гідраэнергетыка. Па электраэнергіі самая забяспечаная вобласць. Чырвоная цэгла. Кільдзінская цагельня. Раней усе пенсіянеры ў Еўропу, назад, а цяпер 60 % застаецца.

Як курачка сакоча. Другая птушкафабрыка «Снежная». Мазур (з Любаншчыны). Птушкафабрыка мясцовага значэння адна на Кольскім паўвостраве. Не скарыстоўваецца толькі пеўневы крык. Звыш 3 тыс. штогадзіны забіваюць курэй.

Мурманскі цяплічны камбінат. Цяпліцы. Агуркі, памідоры, вінаград. Усё смачнае. Выходжу з птушкафабрыкі. Галоўны энергетык з Ветрына, бацька ў прарыве загінуў. У парніках беларуска навучыла сяброўку есці агуркі з мёдам. Варэнне бруснічнае. Саамі да вайны ў Нарвегію ездзілі. Мянялі, гандлявалі. Калгас спачатку [быў], пасля саўгас.

Пасёлак *Тулома.* [Насценгазета] «Маланка» ў дзвярах: «Дзякуй механізатарам, якія скасілі аднагадовыя травы». У саўгасе 650 чалавек 12 нацыянальнасцей. Жывёлагадоўля малочнага напрамку, ≈ 7,5 тыс. тон малака штогод. 14 тыс. шкур пясца. Пясец нарвежскі і традыцыйны кольскі. Сілас, асушка балот. У Саратаве на паліўных землях сена [косяць] для Туломы. Сярэдні заробак 330 рублёў на чалавека. Ёсць 13-я зарплата. Хлопцы застаюцца, а дзяўчаты не дужа густа. 2 даяркі Героі Сацпрацы на ўсю Мурманскую вобласць.

*17 верасня, аўторак*
Пасёлак *Скальны. Верхнецерыберская.*

*У тундры*

Нібыта пасля атамнага выбуху
Свінцовая вада і камяні.
Бярозкі тундра з апраметнай выпхнула
Датлець на суравеістам агні.

Ліпіць зялёная надзея ягеля.
Сплыў далягляд хмурынаю густой.
А напамін — заложнік вока — звягае
Пра маладую рунь, пра травастой.

Лішайніка сняжыстыя праплешыны
Пабушлаваць пацягнешся рукой,
І ўбачыцца сагнуты стан алешыны
Над смелай беражыстаю ракой.

*21 чэрвеня 1986*

Як кароткае лета тундры,
І пяшчота твая секунды.

*Пас. Ладзейнае*. У магазінах, у бібліятэках скрозь пад нагамі сеткі, якія адслужылі, ногі выціраць.

Пераплываем на кацярку. Адно шчанё адстала, бяжыць, пад нагамі блытаецца па насцілу. Хлопец бярэ ў другую руку, у адной руцэ ўжо брацік яго. Пераплылі, і насуперак плыні плыве сучка, даганяе сваіх дзетак.

Вечарэе, выступы скал, абгладжаных дажджамі, снягамі, вятрамі. Хмары нізка. Нейкі касмічны краявід. Страшнавата, холадна-шэра-сінефіялетава. Пасёлак *Туманны* выплывае з халаднаватай беспрытульнай імглы.

*18 верасня, серада*

п. Туманны. Сюды ж і каскад Церыберскай ГЭС. Ёсць і атамная, 330 па ўсёй сістэме. Станцыя эксперыментальная, ≈ 300 чалавек. Да зімы падрыхтоўка. У Мурмашах свінарнік пабудавалі і гандлёвы цэнтр. Рака Вароняя з Лаўвозера. Жыллё практычна вырашана. 2,5 тыс. чалавек у пасёлку. Каля тысячы дзяцей. Уладзімір Аляксандравіч Ціхаміраў, сёлета будзе 40 гадоў, нам. дырэктара электрастанцыі.

Конечно, Колу забуду не скоро я.
И свет умноглазого лика,
И неповторимую, ту, которую
Зовут всемогуще Виктория
И более ласково Вика.

[Адрас чужой рукой:] Мурманск-183042, ул. Ломоносова, 17–1, кв. 82, Семёнов В. П.

*19 верасня, чацвер*

Мурманск. Раніцай горадам з Шаўкутам. Камяні-самакіды (якімі кідаюць у сабак і ў гасцей, што прыязджаюць з сталіцы), гэта ў Манчагорску. Шаўкуту паліто купілі. Званіў у Мінск Заю.

Моя строка набы́чена,
С плеч просится одежда,
Когда со мною, которая Надежда.

*

Прырода прадумала мудра —
На выпадак крайні зямлі:
Пакінута стыглая тундра,
Каб людзі на момант змаглі
Задумацца, што іх чакае,

Калі ад прыроды чакаць
Не будуць літасці.

Вечар літаратурны. Акцябрына Воранава[1] (саамская паэтэса) пісаць стала таму, што душа пяе і плача. Пяе верш, мелодыя накшталт ушацкай цярэшкі.

*20 верасня, пятніца*

Адлёт. Калі бог паспрыяе. Заходзіла Акцябрына, прыносіла падрадкоўнікі. Пяюцца нават казкі, калі едуць на аленях.

[Адрасы чужымі почыркамі:] Мурманская обл., п. Мурмаши, ул. Позднякова, 2–69, дом. тел. 7–31–03, Мурманск, дом. тел. (моих родителей) 4–34–71. Чачина Виктория Владиславовна; Мурманск-183038, ул. Коминтерна, 15–86. Анищенко Нина Иосифовна, тел. 2–69–18, сл. 5–66–89; Чирейчик Леонид Николаевич, 41–42 (у Мінску ў пракуратуры, знайсці радню, стрыечны брат); Мурманск-183012, ул. Софьи Перовской, 39, СП Мурманский; Маслов Виталий Семёнович (50 лет 25 сентября, нач. радиослужбы атомохода «Ленин»); Мурманск-183038, пр. Ленина, д. 55, кв. 19. Смирнов Владимир Алекс.

*Не самі*

Хваінкі ў тундры вырaслі не самі,
У гонар дочак садзяць іх саамі.

Малая нарадзілася сляпая,
Ля самай сцежкі —
Цёмная яліна.
Як страх незацугляны галапае,
Яна здалёк пачуць яго павінна.

У кожнага сваё у тундры дрэва,
Якое кволасцю абараняе
Душу ад злога духу і ад гневу.
Яно другое я
Альбо радня яго.

[1] Воранава Акцябрына Уладзіміраўна (1934–1990), саамская паэтэса. Адна са стваральнікаў саамскага буквара.

*24 верасня, аўторак*

* * *

*[N.]*

Мне да цябе расці, расці,
Не дарасці ніколі;
Мне да цябе ісці, ісці
Не дабрысці ніколі;
Мне з-за цябе сябе клясці,
Недаклясці ніколі.
А ты адна ў маім жыцці,
Ялінка ў наваколлі,
Што ўгрэтым летам,
Злой зімой
Зялёная, як смутак мой,
Загадваеш сабе самой:
Хай гнеў ігліцай коле!

*26 верасня, чацвер*

*Васілю Быкаву*

Колькі важыць слава,
Скажуць гэта плечы,
Што прыгорбіліся рана,
Памяць,
                дзе трывогаю ракеты
Цішыня спадманная ўзарана.

Важыць столькі,
Колькі важыць смеласць,
Рызыка парыўнага адчаю,
Усеадумная незразумеласць
Згоды,
Што выгодай прывячае.

Славу можа ўзважыць
Толькі гора,
Што сняжок зімы
Кладзе на скроні,
Заўтра ўпартае,
Чарствое ўчора,
А незапабежлівае сёння.

Не трывожна заслужонай славе
У сумлення на падсуднай лаве[1].

*27 верасня, пятніца*

*Л. Горцавай і А. Вольскаму*
*(падпісваючы «Абразы без абразы»)*

Засылаю рыфмаў агентуру
Выведаць настрой у імянінnікаў,
Каб жадаць Ларысе і Артуру
Весніх пошукаў,
Асенніх вынікаў.

*10 кастрычнік, чацвер*

*Успомніўшы граматыку*

*[N.]*

Ты, толькі ты ў мяне адна,
Адным адна, адзіная,
Цябе з відна і да відна
І з апраметнай бачу з дна,
Табе крычу я: «Дзіўная!»

Цябе, цябе забыць хачу,
Забыць, заўсёды помнячы,
Табою дні свае лічу,
Табою падаю, лячу
Ад досвітку да поўначы.

Бо аб табе і склоны ўсе
Граматыкі забытае.
Хай сон імя твайго ў лясе
Зайздросны вецер не страсе,
Сляды бяды заблытае.

Табе, табою, аб табе —
Скланяю ў радасці, ў мальбе.

[1] Гл.: Васілю Быкаву (24. — 26.09.85) // Маўчанне перуна. С. 167.

*13 кастрычніка, нядзеля*

* * *

Характарам і норавам крутая,
Адна ўладарыць на зямлі
Яна.
Каго бярэ, ніколі не вяртае.
З усіх калысак
Ёй бліжэй труна.

Бясстрашным
Робіць страхам палахліўца,
Аддаючы пятлі, агню, вадзе.
Галінам дазваляе нахіліцца,
Паслацца лістам,
Кленчучы бядзе.

Палуднуе на беленым абрусе,
Плачом смяецца
І плачом пяе.
Чым я далей жыву,
Тым больш баюся
Падумаць нават
Пра імя яе.

*19 кастрычніка, субота*

*Івану Бурсаву*
*(на «Абразах без абразы»)*

Музаю каранавана
Мудрае чало Івана.
Казачніку, чарадзею
Кажуць дзякуй за надзею
Дзеці ўсіх мацерыкоў.
Бурсаў — лепшы твор вякоў!

«А што калі пасля столькіх слоў нас не перажыве слова?» (Сесар Вальеха[1]).

*** Сцэнар на тэле. Сядзіць журы. Панарама па членах. Каласавіны Генадзю Тумашу[2].

[1] Вальеха Сесар (1892–1938), перуанскі паэт і празаік. Гл.: Вальеха С. Чорныя геральды. Мінск, 1993. Пер. Р. Барадуліна.

[2] Тумаш Генадзь (сапр. Тумас Яўген Змітравіч; н. 1940), беларускі пісьменнік. У 1974–1987 гг. супрацоўнік Літаратурнага музея Я. Коласа, з 1987 г. нам. дырэктара Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР.

*22 кастрычніка, аўторак*

*Мікалаю Казлову*
*(падпісваючы «Абразы без абразы»)*

Са слоў — удзячнасці паслоў —
Рыфмую думку мас такую:
Хай мудры Мікалай Казлоў
Штукарыць,
Марыць,
Мастакуе!

*23 кастрычніка, серада*

* * *

Паўторна штогод прайсці
Па чатырох
вечназялёных залах музея,
Па каляных праталінах,
Па мройлівай мураве,
Па залатым лісці,
Па сцежках,
што падмяло памяло завеі,
Радасна, бо верыцца,
што ўсё наперадзе,
Сумна,
бо павінна прыспець канчына,
Суцешна, бо крок наступніка
На след твой наступіць.
Музей трывае,
І гасцей, дзякуй богу,
штогод гусцей.

*25 кастрычніка, пятніца*

*Уладзіміру Паўлаву*

Зацятасць слуцкая,
І скразняковы жэст,
І цвёрдая хада ратая.
І, колячыся, рэўнасці агрэст
На Любаншчыну любую вяртае.
З маленства слова шчырасці граніў,
Пачуўшы над Арэсай спеў Купалы,
І ўзлётнай паласой ад родных ніў
Ніколі не адгараджаўся Паўлаў.

Гарой стаяў за праўду, за сяброў
(Яшчэ рашучых хлопцаў род не вымер)
І пераскочыў паўстагоддзя роў,
Як плот суседаў колісь, Уладзімір.
Яшчэ далёка стылы ледастаў,
Цяплей, душа, ад ямбаў і харэяў,
Балючым сынам Беларусі стаў
Бескампрамісна-рэзкі сын Андрэеў.

*2 лістапада, субота*
[Аўтограф другога ліста П. Пранузы з вершам М. Сурначова:]

*Дарагі Рыгор!*
Высылаю табе верш Сурначова ў аўтарскай рэдакцыі.

Не вярнуцца ніколі
Хлапцу маладому
К заросшаму мохам
Забытаму дому.

Над ім асыпаюцца
Слуцкія краскі.
Абсмалены колас
Схіліўся да каскі.

Ляжыць ён забіты
У стоптаным жыце.
Маці спаткаеце —
Лепш не кажыце.

*P. S.* У яго пасля *спаткаеце* была коска. Думаю, што лепей *паставіць працяжнік*. Пасля «не кажыце» стаіць кропка. Думка і верш закончаны. Але ў многіх урыўках з гэтага верша *чамусьці стаіць шматкроп'е*. Навошта яно? Трэба зняць.

Віншую цябе са святам Кастрычніка! Здароўя і поспехаў.

З павагай *П. Прануза*.

*26 лістапада, аўторак*

*Тацяне Кузьмінічне Іваніцкай*
*(на «Абразах без абразы»)*

У гэтай кніжцы шматтвары — й
Рознаімённы кантынгент,
Ды наш пісьменніцкі віварый

Займае важкі свой працэнт.
Ён вам вядомы лепш, як мне,
Закон тут:
Хто каго глыне.

*Пімену Панчанку*
*(на «Абразах без абразы»)*

Француженка,
Іспанчынка,
Дзе Беларусь,
Пытаюць.
А там,
Дзе Пімен Панчанка…

*1985*

*30 лістапада, субота*

*Юрыю Тууліку*
*(на «Избранном»)*

Усе паэты — ветракі,
А Юры Туулік не такі.
Ён перамеле слова так,
Што Абрука адчуе смак.

*Закі Нуры*[1]
*(на «Избранном»)*

Нам забывацца не з рукі
Руку, што помніць чаша.
Закі!
На доўгія вякі
Трывае дружба наша!

*Васілю Сёмуху*
*(на «Абразах без абразы»)*

Зусім сур'ёзна гавару,
Што попыт ёсць на Сёмуху,
Як на чырвоную ікру
Альбо на сёмгу!
Хай так і далей будзе.

---

[1] Нуры Закі (сапр. Нурутдзінаў Закі Шарафутдзінавіч; 1921–1994), татарскі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры РСФСР (1982). Удзельнік партызанскай барацьбы на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

*2 снежня, панядзелак*

*Якаву Хелемскаму*
*(на «Абразах без абразы»)*

Ва ўдзячнасці,
Як і няма праблемы з кім,
Дык гэта з беларусам дарагім,
Самаахвярным Якавам Хелемскім,
Бо кожны верш яго
Гучыць, як гімн.

*7 снежня, субота*

*Хуту Берулава*[1]
*(на «Избранном»)*

Сын гордай Грузіі, Хута,
Прызнаны светам Берулава.
Яго паэзіі хада
Пачута — паспрыяй ім слава!

*Замест рэцэнзіі на «Пяшчоту»*[2] *Бураўкіна*

Хай ліўні клопатаў, інтрыг
Трасуць свае рашоты,
Не забывайся ні на міг,
Ты — любы сын
Пяшчоты.

І славы звон — кароткі сон,
Знікае пазалота.
Датуль трывалы будзе плён,
Пакуль з табой
Пяшчота.

Хутчэй плывуць чаўны гадоў,
Ажно рыпяць качоты,
Спяшайся адусюль дамоў
Да родных рук
Пяшчоты!

*31 снежня, аўторак*
У ЦУМе. Мішура 15 кап. А колькі жыццёвая мішура? Яна не даражэй.

---

[1] Берулава Хута Міхайлавіч (1924–2004), грузінскі паэт.
[2] Бураўкін Г. Пяшчота. Мінск, 1985.

Малы: «Я ўжо ў тры гады ўмеў чытаць. Я два малюнкі ў кніжцы прачытаў. А баба прачытала тры малюнкі».

*** Хай долу неба падае.

*Сяргею Законнікаву*
*(на «Избранном»)*

Обращаясь к Сергею Законникову
С рифмою самой спокойною,
Желаю терпенья ушачского
И в жизни везенья всяческого!

*1985*

## 1986

*7 студзеня, аўторак*

З Быкавым! «Такая ў яго самастасць».

З Панчанкам. «Калі не балелі ногі, [хадзіў] у Батсад. Не забывай, што ў бацькі абход Бягомельскі [быў], з маленства лясныя звычкі».

*** Вялікія вочы, маленькія ручкі. Вялікія рукі, маленькія вочкі[1]. *Сабака вартуе пустэчу.*

*9 студзеня, чацвер*

*Анатолю Кудраўцу[2] на 50 год*

Пачаўшы трыццаць шосты,
Ты адкаркоўваеш гады,
Няхай цяпер не тыя тосты,
Не тая роля тамады.
Ты ў Клічаве ўсміхнуўся музе,
Як Еве некалі Адам.
Ты першы быў з касой у лузе,
Цяпер ты не ў хвасце ў саюзе,
Хоць больш, чым дзірак у папрузе,
Дарадцаў мудрадумных там.
Хвала той курыцы, якая
У школе заляцела ў верш.
Ты ведаў — класіка чакае,
Хай рыфма выблісне найперш.
Дзядзькі паціснуліся ў прозе,
Калі паміж газетных стром
Ты «На зялёнае дарозе»
Абначаваў, як першы гром.
Багатым на зямлю аратым
Звык працаваць да нематы,
Падоўжаўшы «Дзень перад святам»,
І «Радаўніцу» ўспомніў ты.
Да спраў адказных дачыненне
Меў
І не забываў кіно.

---

[1] Гл.: «Як добрая вестка...» (14.01.86) // Маўчанне перуна. С. 216.

[2] Кудравец Анатоль Паўлавіч (1936–2014), беларускі празаік, перакладчык. У 1978–1997 гг. гал. рэдактар час. «Нёман».

Пісаў ахвотна сачыненне —
На тэму вольную яно.
Не з дужай дапамогай ліфта
Ты ў гору ўзняўся — сам ішоў.
Меў час — вучыў белмове Свіфта,
Як Лермантава Куляшоў.
З рэдактарскага ветраломня
Надоўга ты знікаць не звык,
І ў віратлівай плыні ў «Нёмне»
Шчырэў галоўны вадзянік.
Вітаем вершам і завершым,
Што ўвесь наш дружны калектыў
Тым і магутны, што ты першым
Рэдактарам галоўным быў.
Будзь з поспехам у шчырай згодзе,
Не забывай пра карані
І дваццаць першага стагоддзя
Год трыццаць шосты [...]
P. S.
Няхай цябе шануе мова
І ўсё прыемнае ў жыцці,
Але не прымушай Стральцова
К дванаццаці на службу йсці!

*13 студзеня, панядзелак*

*Міколу Чарняўскаму*

Лацвей Чарняўскаму Міколу,
Яму хадзіць не трэба ў школу,
Даўно ў «Бярозцы» іншых вучыць
І сам сабе не надакучыць!

*17 студзеня, пятніца*

*Генрыху Вагнеру*[1]

Зайздрослівых глытае багна,
А шчодрамройных любіць слава.
Хай свет здзіўляе Генрых Вагнер,
Як даме,
Музе ў ім цікава.
І рэха вечнасці ў легендах
Адно імя люляе: Генрых!

---

[1] Вагнер Генрых Матусавіч (1922–2000), беларускі кампазітар, педагог. У 1962–1995 гг. выкладчык Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка. Прафесар (1988). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1963). Народны артыст БССР (1988).

*18 студзеня, субота*

*Паўвекавому Васілю Сяргеевічу Сёмуху*

Ты цёзка прозвішчам з зялёным святам,
Якое нашы продкі шанавалі.
У роднае культуры стаўшы сватам,
Ты робіш блізкімі любыя далі.
З табой без перакладчыка размову
Прыемна мець Тувіму, Рыльке[1], Гётэ[2].
Сам разгінаеш поспеху падкову
Як ненавіснік фальшу, пазалоты.
Да сёмага, ці сёмухава, поту
Патрэбна працаваць, каб быць каханым
У славы!
Каб да справы мець ахвоту,
Патрэбна быць з уласным часам ханам.
Не давяраеш пахвалы бязмену,
Сам любіш важыць крытыку фунтамі.
Сабе ў замену росціш густа змену —
Хай наступае новым франтамі!
Ты ў кожнай справе ўзважлівы дарадчык,
Вядзеш усіх
І сам ідзеш угору.
Шаноўны перакладчык,
Пан загадчык
Васіль, Сяргееў сын,
Жадаем спору!
*P. S.*
І ў дзевяноста ля ляжанкі
Жадаем не патупваць хмура!

*Усе калегі, каляжанкі,*
*«Мастацкая літаратура»*

*У Заслаўі*

Не возьме забыццё, ні тлен
Наш беларускі габелен,
Калі дзявочымі рукамі
Пачаў ён гаварыць з вякамі.

*[Студзень]*

---

[1] Рыльке Райнер Марыя (1875–1926), аўстрыйскі пісьменнік, перакладчык.
[2] Гётэ Іаган Вольфганг фон (1749–1832), нямецкі пісьменнік, мысліцель, прыродазнавец.

*19 студзеня, нядзеля*

* * *

*[N.]*

Крысо настрою прапаліць
Каля агню чужога,
Хай светла боль перабаліць,
Хай прапыліць трывога,
Якая да цябе вяла
І думала спыніцца,
А ёй ісці, шукаць жытла,
Дзе дрэмле аканіца,
Каб позняй радасці крыло
Пагрукалася ў шыбы,
Каб я забыў тваё святло,
Цяпло
Тваёй сядзібы.

*21 студзеня, аўторак*

*Масква.* [Нарада, прысвечаная перакладам «Слова пра паход Ігаравы»[1].]

Уступ *Ягора Ісаева*[2].

Выступленне *Ліхачова*[3]: «Слова...» як бы геральдычны знак цэлай культуры. Хоць ён самы маленькі сярод усіх помнікаў. Ёсць думка, што на ўсходнеславянскія мовы [пераклады] непатрэбныя, а на еўрапейскія немагчыма [перакласці]. Так думала і Ахматава[4]. Пераклады, асабліва са старога на новыя і тэрміналагічны спіс кожнага слова. *Уступіць у стрэмя, у паход накіраваліся* — трэба яшчэ і каментарыі. Такі пераклад-парадкоўнік зрабіў і я, назваўшы яго тлумачальным; асацыяцыйная, меладычная, рытмічная плоскасць арыгінала, трэба шматлікія пераклады «Слова...» на адну і тую ж мову. Знікае, як лістроўка пры рэстаўрацыі.

Амерыканскі вучоны Роберт Ман з вясельным абрадам у рускім, украінскім, беларускім фальклоры. Восполняющий пераклад, гэта не

---

[1] Гл.: Слова пра «Слова» (1986) // Парастак радка, галінка верша. С. 300.

[2] Ісаеў Ягор (Георгій) Аляксандравіч (1926–2013), рускі паэт. Герой Сацыялістычнай Працы (1986). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1980).

[3] Ліхачоў Дзмітрый Сяргеевіч (1906–1999), рускі літаратуразнавец і гісторык культуры. Член-карэспандэнт (1953), акадэмік АН СССР (1970). Член шэрагу замежных АН і ганаровы доктар універсітэтаў. Быў рэпрэсаваны (1928–1932). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952, 1969), Міжнароднай прэміі імя братоў Кірыла і Мяфодзія (1979), Дзяржаўнай прэміі РФ (1993).

[4] Ахматава Анна (сапр. Гарэнка Анна Андрэеўна; 1889–1966), руская паэтэса, перакладчыца.

тлумачальны (М. Забалоцкі[1]). Дапаўняльны, бо дапаўняе страты пры перакладзе на сучасную мову. Забалоцкі апрануты ў сучасныя паэтычныя формы. Сучаснае ўспрыняцце болей маруднае. Усе паражаюць сваім лаканізмам. Паэт усераднняе свае магчымасці. Лепшыя [пераклады] Тувім[2], Рыльке.

*Дзмітрыеў*[3]: Гістарычны агляд. Гербель[4] на [неразб. 1]. Колькасць песень.

*22 студзеня, серада*

ЦДЛ. *Андрэй Чарноў*[5], рэканструкцыя слова.

*Найдэн Вылчаў*[6] [даслаў] запіску: «Старабалгарская мова». У Чарнова цікава, але вымушанае адцягванне націску на канец — дужа штучнае. Рыфма не такая была, відаць, у часы арыгінала. А сучасная іспанская *а* і *и* -]?] не ўсе рэдуцыраваныя трэба агучваць. Дасюль у паўночна-ўсходніх дыялектах рэдуцыраваныя. Націскі трэба, улічваючы беларускія, украінскія, ставіць у «Слове…».

*А. А. Касарукаў*. «Пра гісторыю слова «сіні». Сінец — д'ябал, цёмнаскуры чалавек. Для русіча колер нябожчыка — цёмны колер. Афанасьеў[7] «Паэтычныя погляды славян на прыроду». Сіне мора — краіна смерці, хвароба, яшчэ морам-акіянам і нябесны купал, і падземны свет. Сіне мора — варожы свет, незразумелы, як светаабазначнае паняцце, замежны метай [?] сінь, сіні, сінец — пра эфіопаў. Паступова неба вызначалася з эпітэта сіні. У «Слове…» сіні — 8 разоў. Палавецкая, чужая старана, Дон — палавецкую зямлю азначалі, і сіні Дон — як варожы. Сінія маланкі — палавецкія атакі, сіні — старадаўні эпітэт маланкі. Чарпахам сіняе віно з трудом змешан (! труды з табой; вёска Труды полацкая) як крывавае віно здаецца, што ў полаўцаў любімы колер.

У казахаў і башкіраў цяпер сіні колер улюбёны. Обеисе син — паэт на баку кіяўлян, і здраднік таму ў сіні колер. 7 разоў светаўспрыманне і 1 раз колераўспрыманне, полаўцы маглі быць аднесены да сінцоў. Светаабазначнае значэнне сіні пацвярджае старадаўнасць».

---

[1] Забалоцкі Мікалай Аляксеевіч (1903–1958), рускі паэт. Быў рэпрэсаваны.

[2] Тувім Юліан (1894–1953), польскі паэт, перакладчык.

[3] Дзмітрыеў Леў Аляксандравіч (1921–1993), рускі літаратуразнавец. Член-карэспандэнт АН СССР (1984), член-карэспандэнт РАН (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РФ (1993).

[4] Гербель Мікалай Васільевіч (1827–1883), рускі паэт, перакладчык. Пераклаў «Слова пра паход Ігаравы» (1854).

[5] Чарноў Андрэй Юр'евіч (н. 1953), рускі паэт, перакладчык, гісторык літаратуры.

[6] Вылчэў Найдэн Станеў (н. 1927), балгарскі паэт, перакладчык, эсэіст, журналіст. Узнагароджаны медалём Ф. Скарыны РБ (2000).

[7] Афанасьеў Аляксандр Мікалаевіч (1826–1871), рускі гісторык, літаратуразнавец, фалькларыст.

А што калі сіні ад хіна (Кітай)? Тады як тэорыя Касарукава? На бенгальскай Усевалад — [чужой рукой] Всеволод «Вришо» (Vrsa), «Волод» (Valada).

А калі Ясеніна [перакласці]: кожнай працы паспрыяй, удача; кожнай справе паспрыяй, удача; кожны клопат благаславі, удача; благаславі любую справу, ўдача.

Пераклады Хелемского [вершаў Барадуліна]: «Слово» + «Америка», «Ульянишка» [«Ульяновна»], «Ожидание», «К повторам…», «Песня тишины», «Индейское лето», «Тебя послал [густой туман]…».

[У газ.] «Правда»: «Дом [над Свислочью]», «Кая», «Я старомоден…», «Позабытые, как хутора…».

*23 студзеня, чацвер*

Двухмоўе, а раней двухвер'е, паганскія толькі ідалы палі, а памяць славян у паганстве.

*Румын*: У пятніцу дзея і зняцце Хрыста, і ў Дантэ[1] ў пятніцу песня Дэборы; плач Яраслаўны.

*Тамара Раманік (Вялікабрытанія)*: «Старая англійская мова болей гнуткая, лягчэй перадавала ўсе адценні вобразаў гераічных твораў усіх народаў. Руская зямля толькі rushn land. Тут няма і эмацыянальнай, і паганскай афарбоўкі».

*Вар'ям Сінг*: «Слова…» на хіндзі. Пачатак «Слова…» ў духу індыйскіх класічных твораў. «Па надуме Баяна». Кампактнасць кампазіцыі. Чытае: «На мой *возгляд* (цікава) рускія багі блізкія нашым багам».

*Сіры Лундэн[2] (Нарвегія)*: «Нельга і не трэба да канца рэстаўраваць Акропаль. Мора для шведаў іншае, чым для кіяўлян. Алітэрацыя там, дзе яна гучыць натуральна. Нельга перадаць рытмічнасць арыгінала, а толькі дзе натуральна атрымалася рытмічная проза».

*Кнут Скуеніекс*: Зігзіца, ратай.

*Фларыян Няўважны[3]*: «Міцкевіч на 15-ці лекцыях у Парыжы [гаварыў пра «Слова…» ?]. Паэма заўсёды будзе лічыцца народнай».

*Пан [?] Іта (Японія)*: «Па кітайскай і па стараяпонскай [міфалогіі ?] чырвоны — поўдзень, чорны — поўнач, белы — захад, адсюль і Беларусь пасля мангольскага нашэсця». Італьянская карта XII ст., дзе Беларусь ён бачыў. Выходзячы, пяе: «Ці не дудка мая, ух, я. Весялушка мая, ух, я».

---

[1] Дантэ Аліг'еры (1265–1321), італьянскі паэт, празаік, аўтар філасофскіх і палітычных трактатаў.

[2] Лундэн Сіры Свердруп (1920–2003), нарвежскі славіст. Выкладчыца. Прафесар універсітэта ў Осла.

[3] Няўважны Фларыян Ян (1929–2009), польскі літаратуразнавец, русіст і ўкраініст, перакладчык. Доктар габілітаваны. Прафесар Варшаўскага ўніверсітэта.

*Д. С. Ліхачоў*: «Немаўля пачынае разумець паэзію да слоў. Вуснамі немаўляці ісціна прамаўляе. «Вонзите в землю мечи вережени» [«... вонзите свои мечи вережени»], — асноўны тэкст «Слова...». «Слова...» да нас, як усялякі немаўля да будучага. Платон[1]: «Правіцелі павінны стаць філосафамі, а філосафы правіцелямі». Цяпер павінны ўсе. Навука і паэзія злучаны ў перакладзе «Слова...»».

*Міколу Улашчыку*[2]

У падрыфмаваным плашчыку,
Ад сараматы палаючы,
Долу кланяюся Улашчыку
Мікалаю Мікалаевічу.

Пакуль з табой патурукаем, кроў вадой зробіцца. Кроў на ваду перавядзём с табой.

*29 студзеня, серада*

*Разміку Даваяну*[3]

Вся наша жизнь —
Весёлый праздник,
Летит, роняя стремена,
Умчится
И вернётся заново,
Да будет вечно славен Размик
Во все века и времена.

*Колонный зал*

Довоенные и Давояновы.

*30 студзеня, чацвер*

Ідзём, адзін пытае, як да кансерваторыі [прайсці], а ў чарзе вулічнай нехта: «Дзе магазін кансерваў...»

Пабег за шалікам у ЦУМе.

---

[1] Платон (428 ці 427 да н. э. — 348 ці 347), старажытнагрэчаскі філосаф.

[2] Улашчык Мікалай Мікалаевіч (1906–1986), беларускі гісторык, археолаг, этнограф, краязнавец, літаратар. Доктар гістарычных навук (1964). Быў рэпрэсаваны (1930, 1933, 1941, 1949–1955).

[3] Даваян Размік Нікагосавіч (н. 1940), армянскі паэт і грамадскі дзеяч. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі АрмССР (1985).

*3 лютага, панядзелак*

*Розныя дарогі*

У паэзіі кожны па-свойму люцее.
На перадавую агню прыцэльнага
Аляксанр Пушкін ішоў з ліцэя,
Ігар Шклярэўскі — з цэха ліцейнага.

*6 лютага, чацвер*

СП БССР (секцыя паэзіі).

*Васіль Вітка:* «Той імпульс, які націсне, каб мова загучала, дзе ён? Дэвальвацыя паэтычнага слова. Чым большая падборка, тым большае ўражанне ў чытача — памылковая. Малавата ў нас індывідуальных вершаў. Уздымаць вартасць слова з верша. Патрэба пачытаць сваім таварышам вершы».

*Наталля Татур[1]. Святлана Яўсеева[2].*

*Мікола Мятліцкі:* «Купала вадзіў у свой дом. Чый парог пераступалі маладыя».

*Валянцін Тарас*. Адпор Татур. «Раней не было размоў пра кватэры».

*Алесь Бажко[3]*. Падтрымаў думку Вал. Тараса, каб абмеркаваць прадукцыю газет.

*Уладзімір Някляеў[4]. Станіслаў Шушкевіч. Анатоль Вярцінскі.*

*Анатоль Грачанікаў*: «Мова і інтанацыя — аснова паэзіі. Выданне «Дня паэзіі» хірэе, трэба, каб падключыліся паэты. Каб секцыя рабіла большы ўплыў на дзейнасць паэтаў, якія ездзяць па Бюро прапаганды».

*Васіль Зуёнак*. Пра «Дзень паэзіі».

*7 лютага, пятніца*

Пасля вайны абразлівае самае было і слова «перакладчык». У партызанскім краі яно было роўнае «паліцэйскаму». Выкладчыцу нямецкай мовы, нейкі час перакладала [ў немцаў], звалі нямецкай аўчаркай. І колькі слёз было, калі за тое, што сказаў маці ([што з хлопцамі] ката пахавалі),

---

[1] Татур Наталля Мікалаеўна (н. 1949), беларуская паэтэса, журналіст. Жыве ў ЗША.

[2] Яўсеева Святлана Георгіеўна (н. 1932), руская паэтэса і перакладчыца.

[3] Бажко Алесь (Аляксандр Цімафеевіч: 1918–2013), беларускі паэт, празаік, нарысіст. Заслужаны работнік культуры БССР (1977).

[4] Някляеў Уладзімір Пракопавіч (н. 1946), беларускі паэт, празаік, эсэіст, грамадскі дзеяч. У 1978–1987 гг. ст. рэдактар Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання, у 1987–1999 гг. гал. рэдактар час. «Крыніца» («Родник»). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1979), Дзяржаўнай прэміі РБ (1998). Гл.: Старанне (30.08.86) // Самота паломніцтва. С. 257.

дражнілі мяне лютым словам «перакладчык»; пазней, у школе, даведаўся я пра паштовых коней прагрэсу.

А ў маленстве мама мяне, чарнявенькага, звала няйначай як шпачком. А калі вышывала на машынцы Zinger на падушцы бацьку «Спакойнай ночы», калі не спаў — дадавала: «Бачыць шпаковы вочы», — пакуль дадумаешся, якія ж вочы ў шпака, — заснеш. І, ушацкі шпачок, стаў я пераймаць спеў паэтаў і нават звык да некалі абразлівага слова «перакладчык», [зразумеў], што перакладчык таксама з песні на песню [перакладае], са шчэбету на шчэбет. Дзе трэба, прысвісне, выдаўшы гэта за аўтарскі свіст.

*6 сакавіка, чацвер*

*Васілю Шаранговічу*

Шэрае з абшараў гонячы,
П'е ён брагу злосці квартаю,
Бо ў шарэнгах Шаранговіча
Толькі крэўнае і вартае!

*8 сакавіка, субота*

* * *

*[N.]*

Цябе няма, няма, няма, няма —
Сябе самога слаба пераконваю,
А верад ціхі ўпражкай параконнаю
Вяртае хіб да светлага ярма.
Я той адзін, што толькі твой і твой, —
Цябе пераканаць спрабую марна я.
Спакой працяўшы,
Ты, страла захмарная,
Ляціш, адпушчаная цецівой.
Самотны лёс — быць цесным калчаном,
Які трымаць стралу дарэмна тужыцца,
Хай калчану маркоціцца і тужыцца, —
Напята цеціва вясновым сном.

*29 сакавіка, субота*

*Марыне Высоцкай*[1]
*(на «Абразах без абразы)*

Марына Канстанцінаўна,
Заступніца адзіная
Літаратуры нашай,
Паймённа і пажанрава
Няхай Вас лёс пашанліва
Вітае поўнай чашай.

*3 красавіка, чацвер*

*З'езд пісьменнікаў Латвіі 9-ты.*

*Яніс Петэрс*[2], даклад — экалогія мовы, пра яе павінен быць таксама клопат.

*Кнут [Скуеніек]:* «Фальклорныя зборнікі каб каменціравалі аграномы, урачы, біёлагі і г. д., гэта павысіла б нашыя веды».

У доме Крыш'яна Барана[3] шафа, дзе як у вуллі мёд даўна. Крэсла-гайданка, на стале гэблік, стамеска. Маленькая са свечкай пяе.

Ціха-ціха над морам
Падымаецца гром,
Не замінае ні чаромсе цвісці,
Ні ратаю за плугам ісці.

*Яніс Петэрс*

Ён з песняю ў народ ішоў
Вяртаць да мовы латышоў.
І ўсе за Янісавы словы
Гатовы палажыць галовы,
Каб толькі Латвія жыла,
Дарма не хілячы чала.

*1989, «Братэрства»*

---

[1] Высоцкая Марына Канстанцінаўна, супрацоўніца Галоўліта. Варта ўдзячна адзначыць — сапраўды добры памочнік у справах выд-ву «Мастацкая літаратура» (*заўв.* Н. *Давыдзенка).*
[2] Петэрс Яніс (н. 1939), латышскі паэт, публіцыст; дыпламат, грамадскі дзеяч.
[3] Баран (Баранс) Крыш'ян (1835–1923), латышскі фальклярыст, пісьменнік, дзяржаўны дзеяч.

*4 красавіка, пятніца*

*Міколу Грынчыку*

Навошта ляманту рэклама,
Навошта лішняя палеміка,
Навука — базісная дама
І любіць Грынчыка таксама
Як рыцара, як акадэміка!

*5 красавіка, субота*
Андрыс [Веян] ад бабкі [чуў]: чаму ў чалавека два вухі і адзін язык?

*6 красавіка, нядзеля*

*Васілю Зуёнку*
*(на «Абразах без абразы»)*

Заўсёды Васілю я
Узношу алілую,
Хай поўніцца ў Зуёнка
Са славаю даёнка!

*7 красавіка, панядзелак*
16.00 — Шупеньку — 50.

*Генадзю Шупеньку*
*на 6 красавіка*

Шаноўны шэф Шупенька,
Генадзь, сын Серафіма,
Хоць крытыкаў тых жменька,
Ды ўсе страляюць міма.
Ты аўтараў не цвеліш,
Па сэнс ідзеш глыбока.
Ты дужа цалка цэліш,
Б’еш не ў брыво, а ў вока.
Як гарманіст вясковы
Ты адчуваеш змалку,
Як важка важаць словы,
Што ўсыпаны ў сявалку.
Сей у раллю ад сэрца,
Жні на крытычнай ніве,
Будзь шчодры ў спорнай мерцы
І малады ў парыве.
Сумленны твой набытак
Відзён на роднай ніве.

Ды толькі белых нітак
Няма ў старанным швіве.
Шаноўны шэф Шупенька,
Генадзь, сын Серафіма,
Сто першая апенька
Гадоў
Твая, магчыма.
Убач пасля паўвека
Свет поўнымі вачыма.
Дзявочая апека —
Найлепшая аптэка,
Генадзь, сын Серафіма.

*8 красавіка, аўторак*

16.00 — СП. Камісія. 100 [год] Зм. Бядулі[1].

Як па-вясноваму пахне зямля.
Просіць зямля-зямліца
Ціха спыніцца, схіліцца.

*9 красавіка, серада*

[Санаторый] «Аксакаўшчына», Бураўкін 99–72–03.

*10 красавіка, чацвер*

16.30 — БДУ, пакой 206, выступленне.

*11 красавіка, пятніца*

10.00 — з Ганадам [Чарказянам] на ўчастак. 18.40 — радыё, узяць рукапіс «Беларусь — мая мова і песня»[2]. Верш Зд. Нядзелі[3] пра Беларусь «ЛіМ», 1972 г., 22 ліпеня, № 30.

*12 красавіка, субота*

*Экспромт*

*[N.]*

Сустрэў цябе,
Адзіную ў жыцці,

[1] Бядуля Змітрок (сапр. Плаўнік Самуіл Яфімавіч; 1886–1941), беларускі пісьменнік.

[2] Радок «Беларусь — маё слова і песня» з верша Р. Барадуліна «На Беларусі пчолы, як гусі...» (1963). Гл.: Беларусь — маё слова і песня: Паэты свету пра Беларусь. Мінск, 1987. Пер. Р. Барадуліна.

[3] Нядзеля Здзіслаў (1931–1996), польскі выкладчык. Доктар габілітаваны. Прафесар Ягелонскага ўніверсітэта. Ураджэнец Беларусі.

Адзіную
Згадаю пры растанні.
Мне без цябе
Упоцемку ісці,
Пакуль
Хмурынка крыўды
Не растане...

*14 красавіка, панядзелак*
12.00 — СП, прэс-канферэнцыя з эстонцамі; да Гардзіцкага[1].

*15 красавіка, аўторак*

*Павел Шруб[2].*

Он встал.
Пегас вознёсся быстрый,
По ветру грива, и летит,
И сыплются стихи, как искры,
Из-под сверкающих капыт.

*Мікалай Гумілёў[3]*
*«Литературная Россия», 11.IV.86*

15.IV.86–100 год Гумілёву.

*16 красавіка, серада*
15.0 — БДУ, аўд. 206. 17.00 — Равіч Уладзімір Барысавіч, 20–05–68.

*17 красавіка, чацвер*
Рэм [Нікіфаровіч] прынясе казахаў [пераклады].

*18 красавіка, пятніца*
12.00 — нарада ў Галоўліце. 14.00 — помнік Караткевічу[4].

*19 красавіка, субота*
Суботнік!

---

[1] Гардзіцкі Аляксей Кузьміч (1934–1999), беларускі пісьменнік. Аўтар кніг дыялогаў, інтэрв'ю, гутарак пра літаратуру, складальнік біяграфічных даведнікаў. З 1972 г. працаваў літкансультантам СП БССР.
[2] Гл.: Пад жаўруковым крылом... (1986) // Парастак радка, галінка верша. С. 314.
[3] Гумілёў Мікалай Сцяпанавіч (1886–1921), рускі паэт. Рэпрэсаваны.
[4] Аўтар надмагільнага помніка Ул. Караткевічу А. Анікейчык.

*20 красавіка, нядзеля*
Накідаць выступленне.

*21 красавіка, панядзелак*
Да М. Стральцова. Ан. Клышку — артыкул, Цвірку[1] — пераклады.

*22 красавіка, аўторак*
14.30 — па спадчыне Ул. Караткевіча.

*Парада маладому*

Каб было імгненне спынена,
Каб раднела рыфма-падчарка,
Пачынай спачатку з Пімена,
Бо старэць не ўмее Панчанка.

*23 красавіка, серада*
З’езд. [гас.] № 542, Каюм[2].

*24 красавіка, чацвер*
10.00 — з’езд [СП БССР][3].

* * *

Дзе трэба, там кашэль дубцоў
Прывалачэ Мішэль Стральцоў,
Калі настрой харошы,
Натопча стог пакошы.

*Уладзіміру Ліпскаму*[4]

Скачыце, зайчыкі і ліскі,
З настроем будзьце, таты, мамы.
Няхай жыве Ўладзімір Ліпскі —
Сярод дзяцей
дарослы самы!

---

[1] Цвірка Кастусь (Канстанцін Аляксеевіч; н. 1934), беларускі паэт, даследчык, выдавец. У 1984–1996 гг. рэдактар аддзела паэзіі час. «Полымя». Кандыдат гістарычных навук (1972). Гл.: Ліст у Зялёную Дуброву (20.04.84, Мінск — Старыя Дарогі) // Маўчанне перуна. С. 178.

[2] Тангрыкуліеў Каюм (н. 1930), туркменскі паэт, празаік, перакладчык. Народны пісьменнік ТССР (1984).

[3] Гл.: Слова на пісьменніцкім з’ездзе (1985 [у сапраўднасці 1986]) // Парастак радка, галінка верша. С. 281.

[4] Ліпскі Уладзімір Сцяпанавіч (н. 1940), беларускі пісьменнік. У 1978–1988 гг. рэдактар час. «Вясёлка».

*Леанід Дайнека*

Я — стомленае века
вока века,
Адкрыты радасці
Лявон Дайнека.

*25 красавіка, пятніца*

20–05–21 Я. Хелемскі 8–9.00 раніцы званіць.

*26 красавіка, субота*

Перакласці Каюма [Тангрыкуліева] і Сеітава[1].

* Жанчына пасвіць у скверы коз: «Сімка, назад! Ты што, настолькі дурная?»

Помніць кожнай масніцы спеў,
Кожны кут у прыціхлай хаце,
Лёсу дзякаваць, што паспеў
Ты пачуць блаславенне маці.

*27 красавіка, нядзеля*

Прадмова да М. Танка. Тоўсцік[2] Аркадзь Апанасавіч, 32–38–21, двухтомнік і майскі верш.

*28 красавіка, панядзелак*

Пытанні па Броўку ў выдавецтве «Беларусь».

*1 мая, чацвер*

Валянціна Кузьмінічна Сушкова, Ольга Владимировна 291–27–45, 291–62–41 [Масква].

*2 мая, пятніца*

17.45 — на *Ушачы*.

Тбілісі 24.V — 27, рэйс 7759, ля бюро даведак 9.50–10, адпраўленне 11.40, Мінск-2[3].

*** [Без даты:] Старога Барыса, 120 год (?), сын прыехаў, каб у Разань везці. У Маскве [перасадка]. А бацькі няма. [А той пытаўся у праходжых і дзівіўся з іх:] «Ходзіць, галаву задраўшы, бытта не знаець, дзе тут Грыш-

[1] Сеітаў Сагінгалі (1917–2007), казахскі паэт, празаік, літаратуразнавец, крытык, перакладчык. Кандыдат філалагічных навук.

[2] Тоўсцік Аркадзь Апанасавіч (1925–2009), беларускі журналіст, грамадскі дзеяч. У 1973–1986 гг. рэдактар газ. «Звязда». Старшыня Саюза журналістаў БССР (1973–1987). Заслужаны работнік культуры БССР (1979).

[3] Паездка ў Грузію так і не адбылася (*заўв. Н. Давыдзенка*).

чашкі жывуць, Кавалеўскіх не знаець! — І смяецца: — Яны ж тут 20 гадоў жывуць!»

*5 мая, панядзелак*

«Абразы [без абразы]» узбечцы.

* * *

І ўраз адчуў,
Што я стары,
Што гутарыць з самотай
Хараша,
Што марна ўспыхліваму хворасту
Шапчу: «Гары!»
А ён сыры.
І ўсё-ткі цягнецца яшчэ
Душа падатліва да полымя,
А скроні белымі таполямі,
І пасмы лістабой сячэ.
Здаецца, сонца без святла.
Няўжо тады душа ачулася?
Чаму раптоўна ўсё адчулася?
Ты не прыйшла.

*Іван Бурсаў*

Піша, быццам б'е з рагаткі,
Вершы, казкі-самаскладкі,
Пераклады сапраўды
Важыць Бурсаў на пуды.

*Былому знаёмаму*

*A. N.*

Што я не сад,
Я аб адным шкадую.
Сад не дрыжыць
Ні па якім суку.
Адсек бы я,
Нібы галіну тую,
Што некалі падаў табе руку[1].

[1] Гл.: Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. 2. 1970–1978. Мінск: «Кнігазбор», 2015. С. 410.

*6 мая, аўторак*
Аніскові чу[1] — Гільена[2].

*7 мая, серада*
БДУ, 14.00 — па кнізе М. Тараткевіча[3].

*9 мая, пятніца*
На лехі! [Дача Барадуліных на Лысай Гары каля Заслаўя.]

*12 мая, панядзелак*
Прыезд Пятра [Трафімава] (зямляк застрэліў начальніка канвоя, пахаваць маці).

*13 мая, аўторак*
На магільнік — Валодзя [Караткевіч], Бярозкін[4], Лось, Куляшоў.

*14 мая, серада*
29–35–07, Эдуард Мартынавіч Скобелеў.

*15 мая, чацвер*
9.45 — Бібкалектар. З Віктарам[5] на лехі.

*16 мая, пятніца*
Васілю Вітку 75 год. Агульны палітдзень. 22–46–17.

* * *

Вяртанне ў маладосць —
Кароткае вяртанне,
Будзённымі вятрамі
Астудзіцца мілосць,
Якую да вясны
Мілосць абратавала,

[1] Аніскові ч Уладзімір Ігнатавіч (1932–2016), беларускі пісьменнік, перакладчык, крытык. У 1984–1992 гг. рэдактар выд-ва «Юнацтва». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).
[2] Гільен Н. Падарожжа да сябе самога. Мінск, 1978.
[3] Тараткевіч Міхаіл Васільевіч (н. 1925), беларускі філосаф, сацыёлаг, публіцыст. У 1969–1991 гг. выкладчык Мінскай вышэйшай партыйнай школы. Доктар філасофскіх навук (1977). Прафесар (1978). Заслужаны работнік вышэйшай школы БССР (1985). Ураджэнец в. Чарсцвяды Ушацкага р-на.Тараткевич М. Такой и должна быть легенда. М., 1985.
[4] Бярозкін Рыгор Саламонавіч (1918–1981), беларускі крытык, літаратуразнавец. Быў рэпрэсаваны. Гл.: Рыгор Бярозкін (6.01.91) // Міласэрнасць плахі. Мінск, 1992. С. 151.
[5] Шрамякоў Віктар Рыгоравіч (н. 1930), беларускі мастак.

Якой святла ставала
Да першай сівізны,
Дзе сталасцю пакуль
Завецца старасць хітра,
Міргне: «Хатуль пакуй!»
І ў свет нязнаны кроч,
Адкуль вяртацца ўлегцы.
Хай з неба згоды льецца,
Як чорны лівень, ноч.
Датуль жыве душа,
Пакуль вяртацца можа,
Каб зноўку з раздарожжа
Усё пачаць спярша.

*17 мая, субота*
З Артурам [Вольскім] «Снайге» купіць.

*18 мая, нядзеля*
*Ракуцёўшчына.* [Свята паэзіі.]

*19 мая, панядзелак*
«Братэрства» 15.00. Пазваніць Мушынскаму наконт урэзкі.

*Аляксандру Чакоўскаму*

Як даў нялёгкай працы раду,
Не верыць сам сваім вачам.
Нялёгка і яго «Блакаду»
Прарваць адважным чытачам.

*Анатолю Грачанікаву*
*(на «Абразах без абразы»)*

Было,
Пілі не толькі з чайнікаў
І з поўных пузаноў-чаноў.
Шаноўны Анатоль Грачанікаў,
Калі за стол збярэмся зноў,
Каб моцнай глыктануць гарбаты…

*21 мая, серада*
14.00 — радыё пра Беларусь.

*22 мая, чацвер*
15.00 — Карлас Шэрман.

*23 мая, пятніца*
З Пушкіным[1] на ўчастак.

*24 мая, субота*
У Грузію. Прэм’ера кнігі Стральцова.

*** Свята паэзіі, май, у скверыку Янкі Купалы сустракаю Максіма Танка, пытаюся пра здароўе.

— Вось дажджу няма, а з нашых паэтычных кніжак дужа не націскаеш вады. Праўда, з прозы яшчэ можна.

Падпісвае свае зборнікі, на хаду правіць радкі — слова няправільна надрукавалі. Напрыклад, замест штукар — штукатур.

[Адрас:] Юхноўскі М. А. вул. Я. Коласа, д. 45, корп. 3, кв. 260, 31–56–30, 56–85–54.; Яжоў Уладзімір Уладзіміравіч[2], тэл. хат. 120–25–80; Русецкі[3] Аркадзь Уладзіміравіч, 29–35–41.

*26 мая, панядзелак*
12.00 — Івану Іванавічу А[нтановічу] звон, 17.30 — ЦК.

Небаскробы — глыбы надмагільныя.
Людзі, як мурашкі, доле, доле.
Самалёта лёгкая бахіліна
Тупаноса сцену неба коле.

*[Май]*

*28 мая, серада*
8.20 — Міністэрства культуры. Талін! Tere! [Прывітанне!]
* 1973 — Э. Бээкман[4] «Чародка белых варон»,
1976 — зборнік «Эстонская навэла»,
1980 — Тамсаарэ[5] «Аповесці»,
1983 — Л. Метсар[6] «Мары не паміраюць»,

---

[1] Пушкін Яўген, беларускі журналіст.
[2] Яжоў Уладзімір Уладзіміравіч, рускі рэжысёр Дзяржрадыё СССР (Масква).
[3] Русецкі Аркадзь Уладзіміравіч (н. 1942), беларускі гісторык, культуролаг. У 1978–1985 гг. 2-гі сакратар Віцебскага гаркама КПБ, у 1985–1991 гг. 1-шы нам. загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі, заг. ідэалагічнага аддзела, сакратар ЦК КПБ. Доктар гістарычных навук (1990). Прафесар (1996). Акадэмік Нацыянальнай Акадэміі адукацыі РБ (1998).
[4] Бээкман Эме (н. 1933), эстонская пісьменніца, драматург. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЭССР.
[5] Тамсаарэ Антон (сапр. Ханзен; 1878–1940), эстонскі пісьменнік.
[6] Метсар Леа (1924–2010), эстонскі празаік.

«Братэрства-82» — Ю. Туулік,

1985 — Арві Сійг[1], сёлета зборнік.

*Талін*. Стары горад. Асабліва сакавітая марскімі вятрамі прасоленая зяляніна дрэў. Цвіце халаднаваты бэз. Чайкі па вуліцах лётаюць, як у нас вароны. Кігіканне чаек зліваецца з птушынай мовай эстонцаў. Яе ўсё больш і больш перагружае, перакрыквае больш рэзкая мова прыбышоў. Цэнтральная плошча спачатку Сянная, пасля Пятра [I], пасля Волі і цяпер.

Вятрак [круціцца] на руках, як ад радасці. Востраў Мугу. Чарот, страха, 61–100 год [расце], як чалавек. На страсе падлесак, чарот за [неразб. 1], платы з камянёў, чаўны на пенсіі[2].

Мазинт Леонгард, характар і граматыка беларускай мовы (канспект лекцыі), ≈ 1879 г. Fond 43, адзінка захавання 146, 81 ліст.

Музей калгаса імя Кірава. Viinistu (сядзець за гарэлку), кантрабанда спіртам у Фінляндыю[3].

Кветкі, як птушак, кальцуюць фальгой, не ў цалафане, калі даюць некалькі кветак. Сціпла і шчыра.

*29 мая, чацвер*

8–0172+Мінск+эст. Марыя Канстанцінаўна. 51–19–63 (Артур [Вольскі]).

*30 мая, пятніца*

Пушкін [Яўген].

*31 мая, субота*

У Грузію. 12.30 — Музей Янкі Купалы (Стральцоў). [Папярэднія паметкі.]

*2 чэрвеня, панядзелак*

*Тарту*. СП. Універсітэт. Бібліятэка.

*4 чэрвеня, серада*

Кадрыорг[4]. Спеўнае поле. Сакавіты прыём.

---

[1] Сійг Арві (1938–1999), эстонскі паэт, перакладчык. Заслужаны пісьменнік ЭССР (1986). Лаўрэат прэміі камсамола Эстоніі (1974). Сійг А. Гняздоўі вятроў. Мінск, 1986. Гл.: Арві Сійг (05.2004) // Дуліна ад Барадуліна. С. 34.

[2] Гл.: Успамін пра востраў Мугу (05.86–8.08.89) // Міласэрнасць плахі. С. 137.

[3] Вііністу — вёска на поўначы Эстоніі. Самі жыхары жартуюць, што назва вёскі паходзіць ад viin — гарэлка і istu — сядзі, — з-за іх кантрабанднага промыслу.

[4] Кадрыорг — палацава-паркавы ансамбль у Таліне.

*5 чэрвеня, чацвер*
Адлёт на Мінск.

*6 чэрвеня, пятніца*
Праца. Адкрыццё помніка Петрусю Броўку.

*7 чэрвеня, субота*
З Артурам [Вольскім] у лялькі[1], прэм'ера.
Жэні — белы берэт 56–57! з Эстоніі.

* * *

Тоіцца ў снезе лядок,
Хустачка буданіцца,
І правярае лядок
На слізгату будаўніца.

Снежыцца камбінезон,
Бразгае гулка вядзерца.
Маці трывожны сон
Сніць, як спакон вядзецца.

Што там з яе дачкой
Вытварыць горад вялікі?
Дробненькай, во тачкой —
Хай абмінуць упікі.

Робіцца гарадской
Ціхая вёскавячанка,
Не пераб'ецца траской
З матчынай печы мачанка.

Паліць яшчэ сняжок
Шчок маладых суніцы.
Быццам з маленства глыжок
Лёг пад нагу будаўніцы.

*10 чэрвеня, аўторак*
У Музей Янкі Купалы рукапіс і кніжку пра Цётку[2].
*** *Паэтам карануецца народ, народа не бывае без паэта.*

---

[1] Беларускі Дзяржаўны тэатр лялек.
[2] Цётка (сапр. Пашкевіч Алаіза Сцяпанаўна; 1876–1916), беларуская паэтэса.

*12 чэрвеня, чацвер*
15.00 — тэлестудыя і «Слова пра паход [Ігаравы]».

*13 чэрвеня, пятніца*
Вечар Е. Лось.

*15 чэрвеня, нядзеля*
На ўчастак.

*16 чэрвеня, панядзелак*
Праца.

*17 чэрвеня, аўторак*
Карэктура «Кахаць — гэта значыць…»[1].

*18 чэрвеня, серада*
Выступленне ў школе.

*20 чэрвеня, пятніца*

* * *

*[N.]*

А можа, я табе чужы,
Як быў яшчэ не так даўно?
Тады малю: адваражы,
Блукаць самоце ўсё адно.

А можа, я да той мяжы
Дайшоў,
Дзе ўсё душы відно?
Тады прашу: заваражы,
Кружы,
Мне вір пакажа дно.

Агонь павымятаў лаўжы,
І прарасло ў вадзе стырно.
Прашу: нічога не кажы,
А можа, так ляпей яно…

*21 чэрвеня, субота*
Nach Moskau! Навея — гурба. 21400. 8271+

[1] Барадулін Р. Кахаць — гэта значыць… : Старонкі з паэзіі свету. Мінск, 1986.

*24 чэрвеня, аўторак*
[*Масква].* VIII з’езд СП СССР.

*25 чэрвеня, серада*
9 гадзін Сакра[тарыят]. Аўрэлій Бусуёк[1], Кугульцінаў. ! А. Бусуйку кнігі паслаць (пераклады). С. Кошачкіну[2] верш пра С. Ясеніна і «Слова [пра паход Ігаравы]»! Андр. Яаксоо[3] — двухтомнік.

*29 чэрвеня, нядзеля*

* * *

*[N.]*

Павінна смуткаваць душа,
Павінна сэрца гулка біцца,
Каб шчодрай даланёй каўша
З крыніцы існасці напіцца.

Напіцца радаснай вады,
Што пройдзе ўсе кругі зямныя,
Згубіўшы ў воблаках сляды,
Забытай крыўдаю заные,

Заные, каб вярнуць цябе
На незабытыя сцяжыны,
Каб звечарэлай варажбе
Калоцца, быццам куст ажыны.

Ажыны, што пяе душа
Хвалу, як сонны стэп кібітцы.
Павінна смуткаваць душа,
Павінна сэрца гулка біцца.

*30 чэрвеня, панядзелак*
Наконт Караткевіча В. Быкаву, каб павялічыць аб’ём.

---

[1] Бусуёк Аўрэліу Аляксандравіч (1928–2012), малдаўскі паэт, празаік, драматург, кінасцэнарыст.
[2] Кошачкін Сяргей Пятровіч (1924–2000), крытык, літаратуразнавец; ясенінавед. Кандыдат філалагічных навук. Заслужаны работнік культуры РСФСР.
[3] Яаксоа Андрас (н. 1945), эстонскі пісьменнік, перакладчык.

*Аўрэліу Бусуйку*

Не верю ни апрелю я,
Ни декабрю,
Лишь Бусуйку Аурелиу
Я верю, как похмелью.
Судьбу благодарю,
Что с ним свела когда-то.
Чту честь собрата свято!

*1 ліпеня, аўторак*
Вечар Цёткі.

*3 ліпеня, чацвер*
Вечар Міхася Стральцова.

*8 ліпеня, аўторак*
Узбекская кніга.

*9 ліпеня, серада [1980]*[1]
Распырскаў мак кроў зарэзанага лета[2].

Цаджу з прыцмокам sveiki![3]
Ляжу на мураўцы,
Сланечнік жаўтавейкі
Ад сонца жмурыцца.

*Сімферопаль*

*17 ліпеня, чацвер*
Рэдкалегія на «Полымя» 15.00. Участак з Артурам [Вольскім], «Snaige».
* Толькі адчыніўся парфумны магазін. Тры Васі на вуліцы. Адзін кладзе на шалю касы рублі й драбязу: «Тры па 80. Не — 4!» — Азіраючыся, бярэ ласьён «Грэзы», хутчэй на вуліцу. Усе чацвёра радасныя. Вадаправодчыкі ці НТР.

*18 ліпеня, пятніца*
19.00 — да Ганада [Чарказяна].

[1] З-за неразборлівасці запісу і года (а тэксты ў блакноціку «перамешаны» ад 1980-га да 1994 г.!) тэкст ад 9 ліпеня 1980 г. трапіў у 1986 г. Але хочаццца захаваць яго! (*заўв. Н. Давыдзенка*).
[2] Гл.: Нашча: Заходзіць лета (19.09.92) // Евангелле ад Мамы. С. 376.
[3] Sveiki — прывітанне (*лат.).*

*23 ліпеня, серада*

16.00 — Дом літаратара. Сустрэча з амерыканскім пісьменнікам.

* Сустрэча з амерыканскім пісьменнікам Джэем Хігіботам. Ніл [Гілевіч] уступ. Пасля госць: «Толькі 600 слоў».

*24 ліпеня, чацвер*

18.30 — сустрэча з кубінцамі.

*26 ліпеня, субота*

*в. Ляўкі.*

У бібліятэцы [ўзяць] «Каласы пад сярпом тваім» [У. Караткевіча] на расклейку.

* * *

Званок твой з роднай стараны,
Як той з расой званочак,
Збудзіў мае лясныя сны,
Вярнуў маленства з прочак.
Наноў прайшоў я, абышоў
Ранейшыя мясціны,
Мне ў торбу слоік спарышоў
Насыпалі ляшчыны.
Твой з ранішняй зямлі званок
Мне радасцю багаты,
І слова ціхае «сынок»
Паклікала да хаты.

* Тэле:

1) Интернационал[1]. «Интернационал»[2] на белорусский язык сразу после революции в Домике I съезда РСДРП[3].

2) Интернационал с поездом в Финляндию. Стихи.

3) Главный урок-завет — интернациональная дружба народов, литератур, конкретных рабочих, мастеров и подмастерьев литературы.

---

[1] Інтэрнацыянал (Міжнароднае таварыства рабочых) — першая масавая міжнародная арганізацыя пралетарыяту. Заснавальнікі К. Маркс і Ф. Энгельс (1864).

[2] «Інтэрнацыянал» — міжнародны пралетарскі гімн. Муз. П. Дэгейтэра (фр.), сл. Э. Пацье. Пераклад на беларускую мову Я. Купалы і А. Александровіча. *Александровіч* Андрэй Іванавіч (1906 —1963), беларускі пісьменнік. Член-карэспандэнт АН БССР. Быў рэпрэсаваны.

[3] Дом-музей створаны ў 1923 г. у Мінску ў доме, дзе ў 1898 г. адбыўся 1-шы з’езд Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (бальшавікоў; 1912–1918).

4) На I съезде Горький[1], Алексей Толстой[2], Купала.

5) Пленум поэзии 1936 г. в Минске.

Пророк национального возрождения.

1) Поэт в первом значении слова — проповедник, пророк (помните одноимённое стихотворение Пушкина). Потом на секции поэзии, прозы, критики и т. д. верны заветам Скорины. Янка Купала «зваў з путаў на свабоду, зваў з цемры да святла». Стихи о Грузии, Украине, поэма «Тарасова доля»; переводил Некрасова, Броневского[3], под редакцией Купалы [издан] «Кобзарь» [Т. Шаўчэнкі].

2) Магия слова Купалы, труднее, чем атом расщепить.

3) «Хлопык і лётчык» [Я. Купалы] — Гагарина в космос.

4) Лётчик авиаполка и командир эскадрильи Тамара Козарнова[4], не о ней ли стихотворение «Алеся» [А. Куляшова], ставшее народной песней, и её записали фольклорной [песней] Украины.

Мікіта Казлоў, які вазіў Пушкіна, у ссылцы быў з ім, беларус.

14 студзеня 1943 года не стала вёскі Літавец, што на Дзяржыншчыне. 42 двары і 196 мірных душ нямецкія фашысты знішчылі[5].

*28 ліпеня, панядзелак*

5.00 — Музей Купалы.

*29 ліпеня, аўторак*

Радыёзапіс.

*30 ліпеня, серада*

Партсход на працы. Правіць тэлемасквічоў.

*2 жніўня, субота*

Да Пімена [Панчанкі] па рукапіс.

*8 жніўня, пятніца*

16.00 — з Міхасём С[тральцовым]. Да Юзефа [Пучынскага] дамоў.

---

[1] Горкі Максім (сапр. Пешкаў Аляксей Максімавіч; 1868–1936), рускі пісьменнік і грамадскі дзеяч.

[2] Талстой Аляксей Мікалаевіч (1882–1945), рускі пісьменні. Акадэмік АН СССР (1939). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1943, 1946).

[3] Бранеўскі Уладыслаў (1897–1962), польскі паэт, перакладчык.

[4] Дакладней, Казарынава Тамара Аляксандраўна (1906–1956).

[5] Гл.: Надпіс на месцы вёскі Літавец, што на Дзяржыншчыне (3.03.86) // Самота паломніцтва. С 69.

*Юзефу Пучынскаму*
*(на «Абразах без абразы»)*

Будзеш гол як сакол
Ці ў разводзе з лiраю —
Паспяшайся ў Юзiк-хол:
Знойдзеш тут гасцiнны стол
I спагаду шчырую!

*10 жнiўня, нядзеля*

* * *

Дай мне наламаць, як калосся,
З бярозы кашлатай вiшша,
Каб перад спякотай чысца
Спрачаўся пан венiк з плячыма,
Каб ты перад тым адпачыла,
Як брацца с пачатку, з канца
За новы свой боль, за адчай,
За нованароджаны верад.
Чаго ты спяшаеш наперад?
Чакай,
Мне задумацца дай.

*11 жнiўня, панядзелак*
11.00 — Галоўпаштамт (з будаўнiкамi).

* * *

Пакуль маладыя,
Iмчымся, не чуючы ног,
Захапляемся, страцiўшы галаву,
Усё аддаем ад сэрца.
З гадамi ступаем, пра ногi помнячы,
Жывем, усё беручы ў галаву,
Крыўды малыя да сэрца прымаючы,
I ўспамiнаем сябе маладых.

* Званю Пiмену [Панчанку], вiншую з лiмаўскай падборкай, чытаю верш «Душа пачынае сцiха́...»[1]. Хвалiць. «Каб i сам чытаў, пазнаў бы, што твой. Добры верш. Стрыманая глыбiня».

---

[1] Гл.: «Душа пачынае сцiха́...» // Самота паломнiцтва. С. 146.

*12 жніўня, аўторак*
15.00 — тэлебачанне пра Семашкевіча[1].

*14 жніўня, чацвер*
19.00 — да Якава[2] (Быкаву інтал).

*15 жніўня, пятніца*
Абласная тыражная камісія. 13.00 — Быкаў на рабоце ў мяне (інтал), Валодзя [пра Караткевіча]).

*18 жніўня, панядзелак*
Зайца на Сочы. З Артурам [Вольскім] 7.00.

*19 жніўня, аўторак*
Звон Аркадзю Русецкаму (тыраж «Вяртання»).
* Трэба ж, каб было *склёпіста.*

*25 жніўня, нядзеля*

* * *

Жоўтыя лісцінкі — папялінкі
Вераснем раздзьмуханых кастроў.
Павуцінка з восеньскай хусцінкі —
Нітка пераблытаных махроў.

*27 жніўня, серада*

*Леаніду Дранько-Майсюку*

Пакуль маладыя гады
Бунтуюць, пярэчуць спакою,
Паэце, не сцішвай хады
З нішчымнай душой трапяткою.

Адважвай адчай на пуды,
Сусвет не дзялі на пакоі,
Хай страх уцякае ў хлуды,
Хай скручвае пыха глузды,
Хай будзе радок пад рукою.

---

[1] Семашкевіч Рыгор Міхайлавіч (1945–1982), беларускі паэт, празаік, літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1970). Гл.: Рыгор Семашкевіч (1986) // Парастак радка, галінка верша. С. 312.
[2] Серпер Якаў Абрамавіч (1938–1994, ЗША), аднакашнік; фармацэўт.

Радок, як руплівы пруток,
Чым вяжа зіма рукавіцы.
Хай розум свой першы глыток,
Хай смутак апошні глыток
Абнашчыць ля родных латок
З крыніцы, з крыніцы, з крыніцы.
Не смеласць бярэ гарады —
Бяруць маладыя гады!

*** 552–32–27 [Масква], Ігар Электрынавіч Астрайкоўскі[1], у верасні быць, а так пазваньваць; Віцебск, зав. Железнодорожный, д. 6. Плавінскі[2] Мікалай Хведаравіч.

[Аўтограф з адбіткам губной памады:]

Не магу расказаць і матулі,
Як мяне цалаваў Барадулін.
І ўтульна, і цёпла, як летам,
У пяшчотных абдымках паэта.

*В.*

*7 верасня, нядзеля*

*Генадзю Бураўкіну*
*[на 50-годдзе]*

Мы рады, як і радыё, нагодзе,
І выдавецкі наш гудзе вулей —
Бураўкінавай музе паўстагоддзя,
У сына Мікалая юбілей.
Хай можа класік быць аднойчы хворым,
А Вы заўжды на ўзводзе, як курок.
Нарада, мітынг, Міжнародны форум —
Ваш полацкі паўсюль паспее крок.
Вы будзіце нас пазыўнымі рана,
Спаць тэлекалыханкай кладзіцё.
Без Вашага блакітнага экрана
Ні дзед сябе не ўявіць, ні дзіцё.
А Вашай песні конь незацугляны
Імчыць па сэрцах, па тэлемастах,
І кіраўнік, і шчыры закаханы,
Вы ўсё рабіць прывыклі як мастак.
Мы, выдаўцы,

---

[1] Астрайкоўскі Ігар Электрынавіч, урач-гомеапат (Масква).

[2] Гл.: На змярканні (4.09.93, Віцебск) // Евангелле ад Мамы. С. 355. Верш прысвечаны М. Плавінскаму.

Да Вас адно з «Пяшчотай»,
«Гняздо для птушкі радасці» глядзім,
Каб раззлаваны ад бяссілля ўпотай
Туды пісьмо не кінуў ананім.
Сам просіцца да Вас у рукі жораў,
Што візг літаратурных парасят.
Шлях ад двухтомніка да Збора твораў,
А там і Поўны збор праз пяцьдзесят![1]

* * *

Прымі, мой дружа, рог дастатку,
Хай твой цябе не падвядзе.
Ім, сум прагнаўшы да астатку,
Прытульніц падганяй да статку —
Не так мычаць у чарадзе.

Хай рог маладзіка надзеі
Трывае доўга над табой.
Дзвіной люляны чарадзею,
Хай статак кніжак чарадзее,
Імчыць наўскач настрой-каўбой.

І як бы юныя казулі
У ельнік рыфму ні вялі,
Ты зразумееў: найлепш ад Юлі
Няма на ўсёй зямное кулі
І там, дзе зоры, як чмялі.

Табою край наш ганарыцца,
Край беларускі ўвесь і той —
Ад Каракумаў да Нарыльска,
Хай злоснікам пушок на рыльца
І трон — гарачаю плітой.

Хай крэслацеруны ў адрыны
Пруць змучаных радкоў гніллё,
Святкуючы свае хітрыны.
Жыві, нашчадак спраў Скарыны,
Ты трубку не паклаў —
Алё!

*28 верасня*

---

[1] Гл.: Цвёрдая цана слова (1986) // Парастак радка, галінка верша. С. 286.

*10 верасня, серада*

Здаць грузінскую паэзію (ІІ том), Чаўчавадзе[1], Чантурыя[2], Чыладзе[3], Гагуа[4].

*18 верасня, чацвер*

Рэспубліканская тыражная камісія.

*19 верасня, пятніца*

* * *

Цябе гадуе твой узрост,
Ты сам свае гады гадуеш,
Пасля акрыленых шкадуеш,
Што птушанят,
якія з гнёзд
Павыраслі, павыпадалі,
Пасватаўшы вачыма далі.

І за табой твае гады
Ідуць і валакуцца цугам,
Ім, беспрытульным валацугам,
Каб волас да тваёй бяды,
Што ты без іх,
Як ствол без голля,
Дзе сарцавіну тленам коле.

Гады, што тых сыноў, гадуй,
Рыхтуй, як і належыць, торбу,
Каб плён,
пакутлівую торбу,
Развеяў нейкі ветрадуй.
Гады апошнія з табою
Звыкаюць, як і ты,
да болю.

*23 верасня, аўторак*

* *Белавежа*. Пугінал [зубр] стаіць з памытымі капытамі, паліняль, вычасаны. Помню жывога. Можа, я той апошні зубр, што рыкае. Жалу-

[1] Чаўчавадзе Аляксандр Гарсеванавіч (1786–1846), грузінскі паэт, грамадскі дзеяч. Генерал-лейтэнант расійскай арміі.

[2] Чантурыя Тарыэл Пракоф'евіч (н. 1932), грузінскі паэт.

[3] Чыладзе Атар Іванавіч (1933–2009), грузінскі паэт, празаік, драматург. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ГССР імя Ш. Руставелі (1975). Намінант Нобелеўскай прэміі (1998).

[4] Гагуа Хута (Хухуці Лаўрэнцьевіч; н. 1935), грузінскі паэт.

довы дождж у Белавежы, уржавелы ад лістоў дол. Падаюць жалуды. Дуб 700-гадовы, сасна 450 гадоў.

* * *

Ліставейны дождж у Белавежы,
Градзінамі рэха жалуды
Глуха падаюць на дол руды.
Іржавее ліст апала-свежы,
Укрывае дзікія сляды,
Што бягуць заблытацца
ў бязмежжы.

* * *

Каб не была засвечанаю плёнкай
Цяжкая памяць пана-мужыка,
Што панаваў над цёмнай араллёй,
Апанаваўшы зорныя разлогі,
Што мог павесіць ветаху на рогі
Сушыцца лапаць з цёплаю зямлёй.

Музей Багдановіча[1]. Дануся[2] — гаспадыня Нёмана. Каложа[3].

*30 верасня, аўторак*
94 гады Зосьцы Верас[4].

*8 кастрычніка, серада*

*Зайчыку*
*(на «Кахаць — гэта значыць...»)*

Пакуль я перакладаў
Сусветную класіку люта,
Груз клопатаў перакладаў
На плечы твае, Валюта,
Мая неразменная Валя.

---

[1] Дом-музей М. Багдановіча — літаратурны аддзел Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея (з 1982).

[2] Бічэль-Загнетава Данута Іванаўна (н. 1938), беларуская паэтэса, празаік. У 1982–1998 гг. ст. навуковы супрацоўнік, заг. літаратурнага аддзела Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1984).

[3] Гродзенская Барысаглебская царква (Каложская; 2-я пал. XII ст.). Гл.: Каложа (20.08.87) // Самота паломніцтва. С. 105.

[4] Верас Зоська (сапр. Войцік Людвіка Антонаўна (1892–1991), беларуская пісьменніца, грамадска-культурніцкая дзеячка. Гл.: Бяседа (22.11.82) // Маўчанне перуна. С. 102.

На тым і на гэтым вяку
Святой справядлівасці шаля,
Яна на тваім баку.

*Карласу Шэрману*
*(на «Кахаць — гэта значыць...»)*

Калі б не Карлас,
Верны сябра,
Дык гэтай кніжкі б не было,
І рукі б крэплі,
Сэрца зябла,
Радка б не слухала сціло.
Пакуль на свеце дужы Шэрман,
Мы зоры знізім,
Горы звернем.

*12 кастрычніка, нядзеля*

* * *

Пералётамі кароткімі
Мы за продкамі ляцім,
Каб самім зрабіцца продкамі,
Каб успомніцца самім.

Не бязроднымі сіроткамі
Мы на гэты свет прыйшлі,
Мы за продкамі, за продкамі
Ходзім следам па зямлі.

Шумнаплыннымі паводкамі
Наплываем штовясны,
А над продкамі, над продкамі
Ведунамі валуны.

Прагна маладымі глоткамі
П’ем да дна ваду з крыніц,
Жудасна клянемся продкамі
І сініц бярэм з пляніц.

І плывем сваімі лодкамі,
Каб Харону памагчы,
Каб сустрэцца ўрэшце з продкамі
На праталіне начы.

*20 кастрычніка, панядзелак*
25-га званіць Івану Іванавічу [Антановічу].

*31 кастрычніка, пятніца*

*Міхасю Стральцову*
*(на «Кахаць — гэта значыць...»)*

Мішэлю дэ Стральцу,
Шаноўнаму Стральцову,
Таемнасцей лаўцу,
Аддадзенаму слову,
Маэстру,
Майстру,
Мэтру —
Жадае кайстру ветру
Пад крылы цёткі Ўдачы
Адзін дзівак з Ушачы.

*Сын дзядзькі Якуба*[1]

Любіць здаўна перагуквацца слова
Гукамі,
Быццам бярвеннем вянец.
Журыцца пушкінскае Бярнова,
Смуціцца коласаўскі Бервянец.

Вырай, тугой даляцеўшы да Ніла,
Вернецца радасцю ў роднасць мясцін.
Ціха Альбуццю ступае Даніла,
Дзядзькі Якуба здарожаны сын.

Парассялілася ў свеце шырока
Шчодрая коласаўская радня,
Голас разважлівы, кемнае вока
І аратайная даланя.

Рупна збірае Даніла даніну
З сэрцаў гарачых, як з мазаля.
Хараша сыну,
Жывому ўспаміну,
Бачыць,
Як рупна бярэцца зямля.

---

[1] Міцкевіч Даніла Канстанцінавіч (1914–1996), беларускі дзеяч культуры, вучоны-хімік. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1970). Сын Я. Коласа.

*4 лістапада, аўторак*

*Васілю Сёмуху*
*(на «Кахаць — гэта значыць...»)*

Па подыху, па помаху
Чытач пазнае Сёмуху.
Смакуюць Гётэ з Рылькаю
З Пружанаў бульбу з кількаю.
Сівую галаву хілю
І шлю падзяку Васілю.

*6 лістапада, серада*

*Марыне Наталіч*[1]
*(на «Кахаць — гэта значыць...»)*

Марыне Наталіч,
Харошай Наташы,
На веліч, на далеч,
На ўдачу на пашы,
Дзе б'е капытом
Наравісты Пегас.
Каб промень натхнення
Ніколі не гас!

*10 лістапада, панядзелак*
50 [гадоў] Раіса Панцялееўна [Хмялеўская].

*16 лістапада, нядзеля*
* *п. Бараўляны.* Размова з хворым. Быў у Саўміне ў аддзеле па скаргах (прапіска сельская, на іншую працу).
— Запішыце на прыём.
— Не буду.
— Гэта ж бюракратызм!
— На бюракратызме наша дзяржава трымаецца, — нехта ў Саўміне Пастухоў.

Выў вывам; знік, як порткі з плоту; як абслухалася — нічога; ушацкая вёска Зялёны Ручай.

[1] Наталіч Марына (сапр. Давыдзенка Наталля Аляксееўна; н. 1950), руская і беларуская паэтэса, празаік, перакладчык. У 1984–1997 гг. рэдактар рэдакцыі крытыкі, літаратуразнаўства і драматургіі выд-ва «Мастацкая літаратура».

Калёсы на колы,
А лёсы на кругі
Свае павяртаюцца
Ўсе спакваля.

Як далёка ў прастору звініць ушацкае празвішча Ланцунцэвіч! І ланцуг са студні, і спутаныя коні, і цмокае са смакам язык ласунка.

І вось ужо зазелянела
Пустэльня памяці маёй.

*Рабіндранат Тагор*[1]

*** [Адрасы:] Егоров[2] Александр Дмитриевич, 33–55–47; Міркін[3] Георгій Ізраілевіч, 69–61–38 (праца), 65–42–21 (хата); 194021, Ленінград, пр-т Шверніка, д. 34, кв. 16, Ліхачоў Дзмітрый Сяргеевіч.

*24 лістапада, панядзелак*

*Але Сямёнавай*
*(на «Кахаць — гэта значыць...»)*

Тут кожны аўтар у арыгінале
Не здолеў болей утрымаць жаданне
Сваё замілаванне выдаць Але.
Я пераклаў —
і выканаў жаданне.

*26 лістапада, серада*

*Уладзіміру Шахаўцу*[4]

Партызан,
Пісьменнік,
Выдавец —
Зразумела кожнаму з анкеты —
Гэта Уладзімір Шахавец.
І яшчэ адметныя прыкметы:
Не спыняе шпаркае хады,
Піша шмат

[1] Тагор Рабіндранат (Рабіндранатх Тхакур; 1861–1941), індыйскі пісьменнік, кампазітар, мастак, грамадскі дзеяч. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1913).
[2] Ягораў Аляксандр Дзмітрыевіч (н. 1940), беларускі матэматык. З 1974 г. супрацоўнік Інстытута матэматыкі НАНБ. Доктар фізіка-матэматычных навук (1992). Прафесар (2002).
[3] Міркін Георгій Ізраілевіч. Кандыдат медыцынскіх навук.
[4] Шахавец Уладзімір Міхайлавіч (1918–1991), беларускі празаік, перакладчык. Заслужаны работнік культуры БССР (1979).

І ўсмак перакладае,
І хвалюецца, як малады,
Муза з ім таксама маладая.
Каб з гадамі ўпоплечкі тамы
Крочылі,
Жадаем шчыра мы.

*30 лістапада, нядзеля*

* * *

Імчацца дні нявогляддзю,
Таму
Прыходзіць недарэчнае жаданне
Зваліцца ці ў бальніцу, ці ў труну,
Там іхняя паспешлівасць прыстане.

Бясконцасць дні твае лічыць пачне,
І здасца кожны дзень даўжэзным годам.
Адно змяняцца будуць у вакне
То дзень, то ноч,
Вартуючы твой одум.

І будзеш думаць: толькі б уцячы
На волю,
Дзе хвіліны, а жывыя,
Мільгнуць, —
Дарэмна ўслед ім не крычы.
А сум па ўцекачу ваўком завые.

Імгненні вечнасці — рупліўцы-дні
Усе твае, што толькі засталіся.
Цяпер іх за паспешнасць не віні,
Згадай, як сам
Прыспешваў дні калісьці…

*Бараўляны*

*2 снежня, аўторак*

*Арлен Кашкурэвіч*[1]

Аскет Арлен у мітусні не лёкай,
Ён для вякоў мастацтва выратоўвае,

---

[1] Кашкурэвіч Арлен Міхайлавіч (Арсен; 1929–2013), беларускі графік. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1973). Народны мастак Беларусі (1991).

Нібыта старажытнасці далёкай,
Пяро ў руцэ маэстра чаратовае!

*5 снежня, пятніца*

*Адаму Мальдзісу*

Адаму — доктару навук
Жадаю выкупацца ў шчасці,
Напнуць тужэй старання лук
І — ў акадэмікі папасці
Стралой-маланкай з Гудагая.
Дарога ў вечнасць не даўгая!

*Аляксандру Міхайлавічу Панчанку*[1]

Хай там нейкі пан чынку
Аддае паклоны.
Б'ю чалом я Панчанку,
Слаўлю дар ягоны
Думаць, мысліць і дружыць.
Хай жа вораг наш дрыжыць!

*Міхасю Стральцову*
*(на «Маўчанні перуна»)*

Ты — бог,
Ты — маг.
Ва ўсіх тамах
Тваіх,
Нібы ў святое крыпце,
Размах
І думак-расамах
Аб сутнасць
Востраныя кіпці.

*9 снежня, аўторак*

*Уладзіміру Някляеву*

Табе араць ляпей, глыбей
Загон паэзіі, Валодзя.
Гуляй і дбай,
Карпей, гарбей

---

[1] Панчанка Аляксандр Міхайлавіч (1937–2002), рускі філолаг, даследчык рускай літаратуры і культуры. Доктар філалагічных навук (1973). Акадэмік РАН (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РФ (1996).

І помні,
Што ў тваей гасподзе
Парыж, Смаргонь,
Нью-Йорк, Бамбей,
І ты душы не скажаш:
«Годзе!»
Шчыруй шчырэй,
Лютуй люцей,
І будзеш свой сярод людзей,
Як той сланечнік на гародзе,
Заступнік сонца ў суравей.

*«Іслач»*[1]

*17 снежня, серада*

*Іосіфу Хаўратовічу*[2]

Хто вершы першыя мае
У свет пусціў даўно,
Таму хвалу душа пяе,
І слова я кажу адно:
«Дзякуй!»

*18 снежня, чацвер*

*[Г.] на «Маўчанні перуна»*

Кожны дзень чакай той дзень, калі
Анямеем раптам ад здзіўлення,
Ходзячы па высмяглай зямлі,
Асачы на чорнай аралі
Юрты аблачын, дымы малення.
Лепшай на зямлі й на небясі,
Одумнай, парыўнай, рызыкоўнай,
Радасць затрымацца папрасі
У цябе законнаю князёўнай[3].

---

[1] Новы Дом творчасці СП БССР «Іслач» каля Ракава.
[2] Хаўратовіч Іосіф Пятровіч (н. 1929), беларускі гісторык. Кандыдат гістарычных навук (1966). У 1975–1996 гг. нам. галоўнага рэдактара выд-ва «БелЭ». Заслужаны дзеяч культуры БССР (1983). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).
[3] Гл.: «Лепшай на зямлі й на небясі...» (18.12.86) // Міласэрнасць плахі. С. 177.

*19 снежня, пятніца*

*Міколу Грынчыку*
*(на «Кахаць — гэта значыць...»)*

Аддам адсекчы і мізінчык,
І, калі трэба, галаву,
Каб паўтараць: Мікола Грынчык
Не любіць славу-удаву.
У славы-нарачонкі ён
Адзін абраннік з ранніх дзён.

*Уладзіміру Конану*

Я пераконана шаную Конана,
І кон ікон маўчыць,
Ды ісціна
Жадае вольнай рэчкай
Плы́сці на прасторы
Спрэчнасці і вечнасці
У Беларусь,
Каб больш сустрэч знайсці!

*25 снежня, чацвер*

* * *

Калі не хочаш,
Каб душа чарствела,
Каб не прасіла
Ласага кавалка,
Даверся плоці,
Не зважай на цела,
Хай заказыча
Да слязы русалка.
Абы ляцела
І не даляцела
Абразай злоснай
Кінутая палка.

*Леаніду Дранько-Майсюку*
*(на «Маўчанні перуна»)*

Парыўнаму і маладому
На радасць,

На поспех,
На стому,
На шчодрасць
На ўдачу радку.

*Але Сямёнава*
*(на «Маўчанні перуна»)*

Рабіна Туманаўна,
Альбіна Іванаўна,
Світальна-вітальная Ала,
Радку узнёсламу,
Чаўну лёгвавёсламу
Вас столькі вякоў не ставала.
Да Вас так ахвоча мы
У чорнарабочыя
Ідзем
І чакаем загаду,
Ад Вас, празарлівіцы
(Хай злоснік не крывіцца),
Адвадзім падступнасць і здраду.
Ацэнка Вашая
Праменна ўзважвае
Раманы, аповесці, вершы.
Да ўвагі Сямёнавай
Імкнуцца самотныя,
Я, чолапахілены,
Першы!

*28 снежня, нядзеля*
14.00 — на радыё.

* * *

Каханне, як дзіцё,
Яно да ўсіх з даверам.
Будуе забыццё
З паветра светлы церам.
Каханне, як дзіцё,
А здрада — маладзіцца,
Ёй хочацца пладзіцца…

*Сяргею Бельцюкову*[1]

Паперы нотнай бель цюкоў
Хай запаўняе знакамі
Сяргей Пятровіч Бельцюкоў,
Каб слухачы не плакалі.
Няхай крытычных асцюкоў
Не пабаіцца Бельцюкоў.

*29 снежня, панядзелак*

*Васілю Быкаву*[2]

Прыпынак яшчэ за высокай гарою,
І пошуку сцежка яшчэ не ўалеена.
Стасуецца хораша з Зоркай Героя
Высакародная прэмія Леніна!

*Сяргею Законнікаву*

Нясхібны шчырун,
Сяргей,
Паэце,
Саколе,
Зямляча,
Азябла «Полымя» —
Сагрэй!
Чакае Беларусь
І Ўшача!

*[Снежань]*

Для навагодняга «Вожыка»

*Васіль Быкаў*

Не любіць слава пералікаў,
Любімцы першыя ў яе.
Не любіць чынавенства Быкаў,
Яму ўзаемнасці стае.

*[Магчыма, 1986]*

---

[1] Бельцюкоў Сяргей Пятровіч (н. 1956), беларускі кампазітар. У 1982–1989 гг. заг. музычнай часткі Беларускага рэспубліканскага ТЮГа.
[2] З выпадку ўзнагароды В. Быкава Ленінскай прэміяй.

*Пімен Панчанка*
*[накід]*

У Панчанкі крутыя словы
На прайдзісветаў, таўстасумаў.
Задоўга да перабудовы
Казаў ён і пісаў, што думаў.
Адна ў народнага паэта
На…

*[Магчыма, 1986]*

## [Навагоднія віншаванні калегам:]

*Міхаілу Іванавічу Дзяльцу*

Наш родны бацька і айцец
Духоўна-выдавецкі,
Міхал Іванавіч Дзялец
У кожнай справе дока, спец
І прадстаўнік важнецкі
На ўзроўні ўсіх як ёсць нарад.
Наіўнай крытыкі снарад
Хай абміне яго чало,
Каб ціха старшыні было
У крэсле, ў важным кабінеце.
Хай дбае старшыня аб свеце
І ў спрэчны прыміяльны час
Не забываецца на нас!

*Дзяржкамвыдату*

Шпарка бегчы перад паравозам
Любіць рупны наш Дзяржкамвыдат.
Трэба верыць чуткам і прагнозам,
Чуйным быць да юбілейных дат
Ды не забываць адзін закон —
Ведаць звон, з якой званіцы ён.

*Выдавецтву «Беларусь»*

Прасілі б мы калег сваіх
Прыняць душэўную нагрузку —
Каб выдавалі болей кніг
Пра Беларусь па-беларуску.

*

Выдавецтва БДУ —
План малы,
А гвалту — ууу!
Як бы планам не гартацца —
Пыльна ў ім ад дысертацый.

*

Зірнеш на нябёсы, на долы, наўкола
Высокая школа — «Вышэйшая школа».
Жадан[1] для жанчын і начальства жаданы,
Ад прэмій трашчаць кашалькі чамаданаў.

*

Усім
Ад сельсавета да сусвета
Цікавіцца «Народная асвета».
З Бураўкінай вышэйшых перамог
Руплівы калектыў дабіцца мог.

*

Тыражнымі уколамі
Бадзёрыць трэба «Полымя»,
Сучаснымі, культурнымі,
А больш — макулатурнымі.

*

Таму, хто ўжывае
                    ўраджай «Ураджаяю»,
Даўно небяспека адна пагражае,
Чытаючы, можна забыцца, дарэчы,
Як пішуць і думаюць па-чалавечы.

*

Чароўны камень вынайшла «Юнацтва»,
І гэта не наіўнае дзівацтва.
Жадаем, каб і класіку гусцей
Давалі ў роднай мове для дзяцей.

[1] Жадан Анатоль Аляксеевіч, дырэктар выд-ва «Вышэйшая школа» (1976–2003).

*Упраўленню кніжнага гандлю*

Дэфіцыт, дэфіцыт, дэфіцыт,
Ён на ўсё — ад гарэлкі да пасты.
Дэфіцыт мае хіжасць і спрыт,
Ён нахабны, гарласты, зубасты.
Дэфіцыту нахабная сіла
Выклікае развагу на бой.
Кніжны гандаль,
Тавар наш — не мыла.
Дык застанемся самі сабой!

## 1987

*7 студзеня, серада*

*Ілоне*

Хай веры пер'іна
Даверыцца пашане,
«Маўчанне перуна»
Дачушцы роднай Лане
Падношу на Каляды,
Прашу ў яе спагады.
Да дзён сваіх астатка
Люблю дачушку.

*Татка*

*Валянціну Тарасу*

Дарагому Тарасу,
Роднаму Валюшу,
Як газета нарысу,
Я маліцца мушу.
Ён адзін і маг, і бог
Для наступнейшых эпох.
Думкі тряпяткі трыснёг
Зрэзаць
Мудрай рыфмай змог!

*(На «Кахаць — гэта значыць...»)*

Хай гоніцца за намі серый воўк,
Як шэры той,
Што па начах не дрэмле,
Каб вечны голас класікі не змоўк,
Старацца нам патрэбна
І нядрэмна!

*15 студзеня, чацвер*

*Бюракратычны бумеранг*

Па гарах, па марах,
А без пеленга, без лейцаў

Скача ўзлётна бумеранг,
Думка хітрая індзейцаў.

Што адгор'е, што скала,
Ты размах бяры крытычны,
Лепш лунае за арла
Бумеранг бюракратычны
Ад стала і да стала.

*21 студзеня, серада*

*г. Слаўгарад*. Дарога на Сычын. Па лясной дарозе, як па Марсу, едзем, хоць бы след які-такі — ці сарочы, ці ласіны. *Зычым Сычын.* Буслянка. Панеўка (палонка) на крыніцы [неразб. 2], бярозка. У хаце Мішынай мамы латачкі шпалер, шапка бацькі, зборнік Вярбы («Белыя пісьмы»), фота маладога Мішы. Скураны і брэзентавы, акуратненькі, думае, дзе ўзяць мянташку. Бацька палец параніў, сам шыў, майстар. Буслова гняздо стыне. Стыне гняздо Стральцова.

«Сож замёрз» (тлумачыць настаўнік: значыць, ёсць зносіны з Прапойскам [Слаўгарадам]. «Сож ускрыўся», — запісы бацькі[1].

Пераязджаем Пыцікаў мост (быкаўскія Штундаравы героі).

* * *

Па лясной дарозе,
Як па Марсу,
Едзем —
Хоць бы след на снезе.
Птушка не ляціць,
І звер не йдзе.
Неба нізкае,
Хоць ты не хмарся.

*** в. Голацк Пухавіцкага раёна (тэлеперадача):

Абселася дзецьмі,
Люлі-люлі-люлясі.
Пасварыліся два Ясі
За якую такую прычыну?
За Мікітаву дзяўчыну.

*8–9 лютага, нядзеля–панядзелак*

*Дубулты.* [Дом творчасці. Сяброўскія эпіграмы ў «Дзень паэзіі — 87»:]

---

[1] Гл.: Светла і роздумна (1987) // Парастак радка, галінка верша. С. 322.

*Пімен Панчанка*

Безабаронны рыцар,
Зняўшы латы,
Ён пратае ўсю погань.
Як і пратаў.
Б’е Пімен перунамі бюракрата,
Ды вершаў не чытаюць бюракраты.

*Янка Брыль*

Усё загадкі, згадкі, сны і
Смех нёманскага рыбака
Трапляе ў кніжкі запісныя
Нястомнага працаўніка,
А з іх — у важкія тамы,
За што і ўдзячны Янку мы!
Ад Вольскага да Макаля
На свет глядзім мы
З-пад Брыля.

*Міхась Стральцоў*

Ні воўны, ані малака
З Пегаса, —
І паэт натхнёна
Дагэтуль смаліць вепрука,
Аж дым ідзе да Альбіёна.
Навэндзіць лірык кумпякоў
І зноў за працу — для вякоў.

*Генадзь Бураўкін*

Ад кіруючай работы
Цягне ўночы да «Пяшчоты»,
Гэта ведае Генадзь —
Чым палохаць,
Чым кранаць!
Песень конь незацугляны
Спадабаў тэлепаляны.

*Віктар Казько*

Палескі хлопец не лянько,
Расу ў сюжэт страсе да кроплі.
СП хваліў: «Казько, Казько», —
Ды ў сакратарскія аглоблі.

Дакладаў, рэзалюцый «Неруш»
Адкрыўшы,
Ў талент зноў паверыш!

*Васіль Шаранговіч*

Усіх заслуг не высветліць пражэктар,
І ўсе здабыты працай, а не так.
Васіль — прафесар, лаўрэат, прарэктар
І ў вольны час ад дзейнасці — мастак.

[Варыянт:]

Пасад і званняў — аж пражэктар
Не высветліць, пагасне ўраз.
Прафесар, лаўрэат, прарэктар,
І ўсё за працу, не за так,
Бо ў вольны ад загадаў час
Васіль — мастак.

*Сяргей Законнікаў*

Меў пункт апоры і прыдбаў рычаг,
Каб часам «Прысак часу» не ачах.
Збег па агонь у «Полымя» хутчэй,
Аж іскры сыплюцца.
З чыіх вачэй?

*Вольга Іпатава*

Ні цытатамі, ні дэбатамі
Не спалохаеш Вольгу Іпатаву.
Як паэт,
Як празаік,
Як крытык
Бачыць ісціну
Ў спрэчках адкрытых.

*Алесь Жук*

Стаіць Алесь ля літруля,
Паседжанняў, як спраў, багата:
Ад МХАТа[1] да кінапраката
Палюе ўсё на жураўля.
Ляціць фартуны калясніца,
А па начах сініца сніцца.

[1] МХАТ — Московский Художественный академический театр СССР им. М. Горького.

*Мікалай Казлоў*

Дэфо[1], Някляева ці Лукшу
Аформіць — і не сядзе ў лужу.
На свет з’яўляюцца двайняты?
Ну што ж,
Казлоў — мастак заняты.

*Уладзімір Савіч*[2]

Пры чым той аўтар —
Савіч ёсць!
Пісьменнік тэкстам назаляе.
За недакладнасць мае злосць —
Хай сам сябе і афармляе!

[Варыянт:]

Пры чым той аўтар —
Савіч ёсць,
І да ўсяго бяда малая.
На мастака ён мае злосць, —
Хай сам сябе і афармляе!

*Вадзім Спрынчан*[3]

Ён клапоціцца пра ўсіх,
Толькі болей кніг сваіх
Хоча, каб было ў Вадзіма,
І сям’я, і ўся радзіма.

*Мікола Мятліцкі*[4]

Без вершаў радасных Міколы
Сумуюць гарады і сёлы.
Ён выступае, выступае,
Сабе на пяты наступае.

---

[1] Дэфо Даніэль (каля 1660–1731), англійскі пісьменнік.

[2] Савіч Уладзімір Пятровіч (н. 1952), беларускі графік. З 1976 г. выкладчык, заг. кафедры графікі Беларускай Акадэміі мастацтва. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1990). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (2009).

[3] Спрынчан Вадзім Браніслававіч (н. 1950), рускі паэт, перакладчык. У 1982–1989 гг. заг. рэдакцыі паэзіі выд-ва «Мастацкая літаратура».

[4] Мятліцкі Мікола (Мікалай Міхайлавіч; н. 1954), беларускі паэт. у 1983–2002 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Дзяржаўнай прэміі РБ (1998).

*Дыялектыка*

Блядней рашучых сіл запас,
Душа глушэе, адсмылеўшы.
Ідуць каханыя ад нас
Да маладзейшых,
Да смялейшых.

Дачытваючы дзён тамы,
І сны спыняюцца на гейшах.
Ад даўніх адыходзім мы
Да маладзейшых, ласкавейшых.

*13 лютага, пятніца*

* * *

*[N.]*

А без цябе,
Як без жывой вады,
Галінка развітання засыхае.
А без цябе
Страшней лічыць гады,
Пакуль часіна бавіцца ліхая.
А без цябе
Няма хады туды,
Дзе радасць чуйная,
Бяда глухая.
Цябе прымаю гэткаю, як ёсць,
Капрызную і грэшнасцю зямную.
Свой гнеў ламаю,
Верачы ў мілосць,
Непараўнаную,
Да ўсіх раўную,
Як той сухмень,
Сваю трымаю злосць,
Малюся
На хмурынку праліўную.

*14 лютага, субота*

*Міхасю Стральцову*
*замест тосту на сябрыне*

Прывыкай на свет глядзець з абрыва,
Думай: пяцьдзесят — яшчэ палова.

Парадзела нашая сябрына
Як сябрына матчынага слова.

Як лісцё на голлі, аддрыжым
І сваё з жыццём сваім аддружым.
І, чужыя ў гомане чужым,
Па сабе адтужым
Сумам дужым.

Нашых год дружына палысела,
Кожны валасок цяпер нам дораг.
Маладыя будуць шум зласела
Варушыць
Ды варажыць па зорах.

Смела аддадуць лісцё агню.
Восенню рудою ці вясною
Дню паверацьа не груганню.
Дым растане першай сівізною.

*14–26 лютага, Мінск–Дубулты*

*24 лютага, аўторак*

* * *

Ні серабра, ні бабра,
Ні велічбы
Сэрца не прагне —
Хай шаны пасцяць.
Вось пераставіць бы
Месцамі лічбы:
Двойку наперад,
За двойкаю — пяць!

*25 лютага, серада*

*Міхалу Дубянецкаму*
*на 60-годдзе (4 сакавіка)*

Спакой абрынуў кабінецкі,
І рупна ўзяўся за пяро
Скарынадухі Дубянецкі —
Рабіць не серабро — дабро!
Трымай, рука, настрою млён.
Засекі планаў поўні, плён!

*27 лютага, пятніца*

*Лідзіі Абухавай*[1]

Я голас неба слухаю,
Паклоны б'ю ілбом,
За Лідзію Абухаву
З карца жыцця — нагбом!
Не поле нас насеена,
Сумесна ўсе адны.
Мы ўсе, свет Аляксееўна,
Вас любім без маны.

*2 сакавіка, панядзелак*

* * *

Нічога не было,
Не верыцца, што будзе.
Адкуль прыйшло святло,
Каб засвяціцца ў цудзе?
Адкуль прыйшло цяпло
І перазябла ў гудзе?
Дзе сілу ўсю ўзяло
Сіло,
Каб, як сяло,
Загаманілі грудзі?
Нічога не было?
Было!
І будзе!
Будзе!

*8 сакавіка, нядзеля*
*Дубулты.*

*Даўняя гульня*

*[N.]*

Завязваць вочы — даўняя гульня,
Калі нічога не відаць наўкола,
Калі як ёсць усім
Зусім вясёла,
Апроч таго,
З каго і цішыня,

[1] Абухава Лідзія Аляксееўна (1922–1991), руская пісьменніца (г. Віцебск).

Здаецца, кпіць, нібы са слепака,
Вялікімі вачыма бессаромна.
Забытая гульня,
Але ўсё роўна
Не прыгадаць,
Калі твая рука
Мне вочы завязала без вузла.
І хоць прашу я развязаць павязку,
Нашу ў сабе спагадлівую ласку —
І добра ў цемры,
І крычу: «Святла!»
А ты,
Калі табе я не чужы,
Павязку ці патуж,
Ці развяжы!

*13 сакавіка, пятніца*

*У несканчоным свеце…*

*N.*

Я дзякую за твой давер,
Што спагадае і чакае,
Калі тугі рука цяжкая
Адчыніць дзверы адзіноты.
Ды мусіш зразумець адно ты,
Што разумею я цяпер:
Сцяжынкаю, прыкметнай ледзь,
Ісці нам і не разысціся,
І наша зорка — хоць аксціся —
Ад здрады будзе бараніцца.
Яна заранка, вечарніца
Завецца — гэта як глядзець…

Я дзякую за твой дазвол
І помніць, і забыцца часам,
Што ты зусім адна, бо я сам
Баяўся — а было былое, —
Што не забыў тваё святло я.
І паўнапраўны, як пасол
Дзяржавы жалю,
Смутак мой
Ішоў ахвотна і самохаць
Сябе самога напалохаць,
Сваёй наіўнасці ўсміхнуцца

І непрыкметна размінуцца
З няпрошанай сваёй зімой.

Пачуй мой дзякуй і тады,
Як спыняцца ісці гады…

* * *

*[N.]*

А ты ў мяне адна,
А ты ў мяне апошняя,
Я над табой звідна,
Як жаўранак над пожняю,
Звіню,
звіню,
звіню
Да вечара штораніцы,
Твайму ўсміхнуцца дню
Дапамагчы стараецца
Мой непачуты спеў.
А ў сэрцы радасць лашчыцца —
Расінкаю паспеў
Твайго імя
Абнашчыцца…

*Вадзіму Небышынцу.*
*Перакладаючы Дж. Байрана*[1]

Цень лорда небашыі
Са мной.
Сцяжыну мацаю,
Дно блізка,
Заадно й
Хачу, каб Небышынец
Быў задаволен працаю
Маёй перакладной.
Чытаю Джорджа Гордана.
Я гэткі ж без Вадзіма,
Як Сачанка[2] без ордэна,
Без Байрана радзіма.

---

[1] Байран Джорд Наэл Гордан (1788–1824), англійскі паэт.
[2] Сачанка Барыс Іванавіч (1936–1995), беларускі празаік, перакладчык. У 1976–1986 гг. сакратар праўлення СП БССР, у 1986–1993 гг. заг. рэдакцыі перакладной замежнай літаратуры выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1982), Літаратурнай прэміі СП Беларусі імя І. Мележа (1991).

*Анаталу Иммерманису*[1]

Где радужные времена?
Где денег полная мошна?
Теперь лишь х.р в кармане-с
Имеет Иммерманис.

*14 сакавіка, субота*

*Перадразвітальнае*

Мая дачка — галінка тая,
Што я пусціў,
Як бацькаў вяз,
На свет, —
Хай свет цябе вітае,
Няхай табе спрыяе час!
Хачу, каб пошумам шумела,
Каб і сваю дала пагонь,
Каб ты ў абсяг шугала смела,
Цярэбячы блакіту скронь.
Каб да цябе не прытуліўся
Адчай у даўняй варажбе.
Каб доўга вырай жаўталісця
Шукаў дарогу да цябе.
І веру,
Верны летуценням,
Аднойчы, дужая зусім,
Падзелішся ў спякоту ценем
З прымоўклым курганком маім.

*15 сакавіка, нядзеля*

* * *

Голас твой,
Як з іншае планеты,
Мне гучыць,
Вяртаючы жыццё.
Як каметы,
Падаюць манеты,
Несучы мой сум
У небыццё.
Што міргае там,

---

[1] Іммерманіс Анатал (Анатолій; 1914–1998), латышскі пісьменнік, сцэнарыст, кінадраматург, журналіст.

Што дагарае?
Зорка
Ці апошняе святло,
Тое, што аднойчы,
Дарагая,
Нас, няхай на час,
Але звяло.

Душы нашы вечныя,
І вечна
Жыць ім,
Тое помнячы святло,
Што аднойчы,
Млечна,
Быстрацечна,
Нас дваіх
Далёка завяло.

* * *

І дрэвы, і трава — яны жывыя,
І клопат свой у кожнай галаве жыве.
І свой свет бачаць чэрві дажджавыя
У нам не зразумелым хараstве.
І рухаецца ўсё,
Ідуць дажджы,
Спяшаюцца смаўжы.

*18 сакавіка, серада*

* * *

Здалёку голас твой,
Як з берага другога,
Мяне гукае: стой!
А ўжо мая дарога

Пайшла па сівізну
І запрасіла стому,
І выгнала вясну,
А следам —
Восень з дому.

Ніхто ўжо не саб'е
Дарогу спанталыку,

Бяжыць сама сабе,
А я — дзеля прыліку.

Лягчэй гукаць жуду
Гадоў прыстылых совам.
Дарогаю іду
Вандроўнікам часовым.

*Асару Эппелю*[1]

Надвину шляпу ль, кепи ль,
Ко всем чертям пойду,
Улыбкой встретит Эппель —
Он всех имел в виду.
Гонцы культуры массовой,
Побойтесь божьей кары:
Не ударяйте А′sari,
В честь Эппеля Asa′ri.

*Дубулты*

*[Красавік]*

[г. *Віцебск*.] Мураванка на вуліцы ціхай, хата Марка Шагала. Бальзамінкі гараць на акне.

Хто з кім,
Хто над, хто пад,
Да тэле падкі тэлепат,
Збіраць гатоў з сукоў маны
Старога саду звадкі.

*

Пра жывога, здараецца, кідаем:
Сябра былы.
Так не скажаш пра мёртвага,
Бо ён жыве для цябе,
За яго жывеш ты, зрэшты.

*12 мая, аўторак*

*г. Гродна.* Інстытут удасканалення настаўнікаў.

*Віктар Казько*: «Не будзь вас, настаўнікаў, не было б і нас, пісьменнікаў. Іск на школу амерыканскую, што не навучылі ні чытаць, ні пісаць — у «Вашынгтон пост» [дасланы]. Наша слова пустое без вас, наша зерне падае на пустую глебу без вас».

---

[1] Эппель Асар Ісаевіч (1935–2012), рускі паэт, празаік, перакладчык.

*Міхась Стральцоў*: «Не ведаю, хто тут настаўнікі, хто тут вучні. Наша пакаленне перасела адразу са школьнай парты за лаўкі ВНУ. Задумаліся, хто такія мы, калі пачалі думаць пра пяро, тады ўсведамілі — нашыя карані ў ваенным і пасляваенным маленстве. Нашае знітаванне з народам узняло нас. Людзей у паэзію ідзе шмат, але хвалюе нас усіх іхняя раскіданасць. Без матчынай мовы не вартыя мы ні ўвагі сярод людзей, ні нават будучыні».

[*Пытанне:*] «Над чым працуеце, чаму на першы план [выйшла] публіцыстыка і што гэта такое?»

*Віктар Казько*: «Я і сам выйшаў на гэтую публіцыстыку. Мы разгубіліся: куды нас вядзе жыццё? Літаратура спынілася, каб адказаць на пэўныя пытанні, і часова пайшла ў публіцыстыку».

[У нататніку Рыгорам Іванавічам занатаваны верш. Гл.: Выкладчыцы роднай мовы (30.10.74) // Свята пчалы. Мінск, 1975. С. 290.]

*5 чэрвеня, пятніца*

[*г. Пскоў.*] Святая Улляна, XV ст., чырвоны — пера[вязь?], зялёны пояс. Чырвонафонныя іконы старадаўнія. Мярожа (наша Каложа ?). Дзіва!

*Міхаіл Гейчанка*[1]*:* «Я стары пузаты пацук…

Чалавецтва — суцэльная мафія у барацьбе з прыродаю[2]. Зноў зерне ёсць [неразб. 1] рацыянальнае».

г. Пскоў. Вежа Кутэкрома; кром — крэмль (вуглавая вежа).

Часопіс «Жизнь» 1899 г. (у Музеі Леніна 3 разы на месяц выходзіў, працаваў Галоўліт шустра).

*Ігар Шклярэўскі:* «Чым адрозніваецца Надзя Кандакова[3] ад Пушкіна? Пушкін пісаў і жыў на адным паверсе, а Надзя на двух. На адным піша, а на другім жыве. Ды і ўсе мы».

*7 чэрвеня, нядзеля*

*с. Міхайлаўскае.* Пальчыкі [?], елачкі на ўспамін. Ад'язджаем; цяпер разумею, чаму раней шукаў падабенства дома з радкамі Пушкіна. У нас адна прырода Ушаччыны і Міхайлаўскага, нават возера як Ваўчэнскае пры выездзе. І яшчэ адны крывічы.

---

[1] Дакладней, Гейчанка Сямён Сцяпанавіч (1903–1993), рускі празаік, літаратуразнавец. Дырэктар Мемарыяльнага музея-запаведніка «Міхайлаўскае». Заслужаны работнік культуры РСФСР. Герой Сацыялістычнайй Працы (1983). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя Н. К. Крупскай (1989), Дзяржаўнай прэміі РФ (2001, пасмяротна).

[2] Гл.: Сумны вывад (20.07.89) // Міласэрнасць плахі. С. 128.

[3] Кандакова Надзея Васільеўна (н. 1949), руская паэтэса, перакладчык, драматург.

*10 чэрвеня, серада*

*Пімену Панчанку*
*(на «Маўчанні перуна»)*

Хай кленчыць нейкі пан чынку,
Як маразам азіміна.
Піў некалі за Панчанку,
Цяпер, цвярозы, Пімена
Набожліва шаную
Як скібу аржаную.

*(На «Кахаць — гэта значыць...»)*

Ад аўтара «Слова»
Да Пабла Нэруды[1]
Усе адмыслова
Вядуць перагуды
На мове Купалы,
На лютасці Панчанкі
Пасрэднік няўдалы,
Хадзіў я на пальчыках,
Абы не растрэсці
Данесці, дапасці
І ў форме, і ў змесце
Прымаў, як прычасце.

*12 чэрвеня, пятніца*

У Панчанкі. Падарунак ад Машэрава — гадзіннік.

[Панчанка:]

— Купала адчуваў агульны тон славянскі, ён мог і нават вор зрабіць, таму яго пераклады Пушкіна лепшыя.

Раней думаў, што палякі здорава ўсе рытуалы [прыдумалі], а пасля паглядзеў на французаў — усё ад іх пытанні.

*— Як Вы разумееце адказнасць паэта перад часам і людзьмі, якраз паэта?*

— Дом паэта — і кабінет, і зямны шар.

*— Ці маглі б Вы не пісаць? Бо цяжка жыць за ўсіх, ці лепей паберагчы сябе, проста пажыць.*

*— Ваш працяг, унукі, ці ўсе яны хочуць ведаць, ці дзеляцца сакрэтамі? Што такое дом для паэта, жонка?*

---

[1] Нэруда Пабла (сапр. Рэйес Басуальта Рыкарда Эліэсер Нефталі; 1904–1973), чылійскі паэт, грамадскі дзеяч. Лаўрэат Міжнароднай Ленінскай прэміі (1953), Нобелеўскай прэміі (1971).

— У джайранаў вочы прыгожыя, як у дзяўчат. Асноўнае сказаў, а астатняе — божая воля.

*19 чэрвеня, пятніца*

Званю Быкаву, падымае трубку Ірына Міхайлаўна[1]. Віншую і сёння з днём нараджэння.

— Вы не першы. А 4-й гадзіне раніцы прынеслі тэлеграму. Дык мы ад радасці так і не заснулі.

Што значыць пастарацца…

*22 чэрвеня, пятніца*

*Анатолю Анікейчыку*
*(на «Маўчанні перуна»)*

Хай крытык — шэры верабейчык
Чырыкае сваё чырык.
Па Беларусі Анікейчык
Прайшоў, як новы ледавік.
Імгненне запыніў ўжо ў глыбах,
З вякоў чуваць падзякі выбух!

*7 ліпеня, аўторак*

У Пімена [Панчанкі].

Духоўнае жыццё духоўкі,
Нябеснае быццё дахоўкі.
Адной сціраюць дых, другой
(Град) лівень, градабой.

*** Трэба жываты развіваць, каб камплекцыя была.

*20 ліпеня, панядзелак*

*Васілю Зуёнку*
*(на «Маўчанні перуна»)*

У цябе трава маўчала,
У мяне маўчыць пярун,
Хай жа крытыкун-гырчыла
Не бярэ басовых струн.
Прарастае ў цішыні
Лепей слова дабрыні.

[1] Быкава Ірына Міхайлаўна, беларускі журналіст; жонка В. Быкава.

*(На «Кахаць — гэта значыць...»)*

Нахілю квасіку
Васілю — класіку,
Дораг мне Зуёнак —
Вораг аднадзёнак.

*27 ліпеня, панядзелак*

* * *

Цябе ні злосцю, ні маной
Ніхто ніколі не запляміць,
Ты чыстая была са мной,
Як боль,
Як маладая памяць.

Смыліць да скону першы боль,
Раўнуе памяць маладая.
На знічку загадаць дазволь,
Яна з нябёс табе спадае
Стаць папялінкай нематы,
Якую згубіць часу замяць.

Мне чыстай застаешся ты,
Як боль,
Як маладая памяць.

*31 ліпеня, пятніца*
*г. Плешчаніцы*, універмаг, адна з жанчын:
— На работу насіць сабралася, кашуля і цёмная, і не гарачая.
Другая:
— А дзе гузікі?
— Дык гэта ж халат для ванны.
— Усё роўна з гузікамі лепей.

Згараюць падлеткі буслоў на высакавольтных лініях.

Міхайлаў Алег Міхайлавіч, тел. [Масква, Цэнтральнае тэлебачанне]; Центральное телевидение. Муштаев[1] Владимир Павлович, тел. раб.; Ионас[2] Мисявичюс, тел. раб., дом.

---

[1] Муштаеў Уладзімір Паўлавіч (н. 1934), рускі журналіст, пісьменнік, тэлесцэнарыст. Супрацоўнік Цэнтральнага тэлебачання (Масква).
[2] Місявічус Ёнас Вітаўтас (?–2009), літоўскі і расійскі кінарэжысёр-дакументаліст, грамадскі дзеяч. Аўтар фільма «Брэсцкае гета», які быў намінаваны на прэмію «Оскар» (1995).

Г. Краснікаў[1], частушка (нейкая бабка прыслала М. Старшынаву[2]):

Не пойти ли в монастырь
Помолиться богу,
Не пошлёт ли мне Господь
Х.. с баранью ногу.

*1 жніўня, субота*

*п. Ушачы.* У *Паўвірках* гаспадар спраўны — Апёнак: «Гэта *бацькоўшчына,* я тут вырас».

*9 жніўня, нядзеля*

* * *

*[N.]*

Што ж, буду грызці камяні,
Каб крык мой анямеў.
Ты не кляні,
А памяні,
Змяні на літасць гнеў.

Ты памяні таго імя,
Хто жыў табой адной.
Каўчэг даверу між лам'я
Хацеў трымаць, як Ной.

Але каўчэг на дно ідзе,
На самай глыбіні,
Шчаслівая,
А не ў бядзе,
Аднойчы памяні.

Паверу крыўдзе і мане,
Вазьму ў дарадцы злосць,
Забудуся,
Каб помніць мне,
Што ты была
І ёсць!

[1] Краснікаў Генадзій Мікалаевіч (н. 1951), рускі паэт.
[2] Старшынаў Мікалай Канстанцінавіч (1924–1998), рускі паэт, перакладчык.

*21 жніўня, пятніца*

*Дазвольце*

Ні Вашага званка, ні Вас
Мне болей не чакаць
Дазвольце.
Сябе аброкам не нявольце
Якраз,
Як першы раз!

Пазвоніце —
Зноў буду рад,
Прыедзеце —
Шчаслівы буду
І не забуду,
Не забуду
І Ваш спадман,
І Ваш пагляд.

*Лехі*

*6 верасня, нядзеля*

*«Nida»* [Дом творчасці пісьменнікаў, Куршкая каса, Літва].

Krikštai — гэта прафіліраваныя дошкі з выявамі галоў коней, кветак, сілуэтаў людзей. Эдуардас Йонішас[1]. І птушкі, нябесных рос пітушкі, звяркі прытомленыя рукі апусцілі долу, і прасніцы, з якіх прадзецца дух продкаў, што вядзе вякі; у новай апранасе на Нідзе куршы трывалыя з дрэва, якое мусіць згнісці (даць выйсце) і стаць зямлёй і крыжам яшчэ племені, каб пасля закрэсліць; паганскі дух цэментавала камянёва дол, як склеп зачынілі; сціраюцца даты, імшэць, буцьвея, каб дань імшы (як імшы вякоў) упамянуць, згадаць[2].

Шчырэюць кіпцюркі, і па ствале ляціць угору вавёрка, хвастатая камета, ветразорка на міг знікае ў смаляной імгле, шчырэе дзюба, лечыць хворы ствол лясных навук аглухлы акадэмік. Парашуты семак на дол дарвінізму, дзервянізму, як вынік палемік[3] [неразб. 2].

Прэлюдыя кашмару[4].

---

[1] Ёнішас Эдуардас, літоўскі мастак, разьбяр.

[2] Гл.: Крыкштай (21.09.87, Ніда) // Міласэрнасць плахі. С. 108.

[3] Гл.: «Шчырэюць кіпцюркі...» (20.09.89, Ніда) // Самота паломніцтва. С. 110.

[4] Гл.: Прэлюдыя кашмару (21.09.87, Ніда) // Тамсама. С. 250.

*8 верасня, аўторак*

* * *

Да каранёў,
Да тых пластоў
Дапасці,
На якіх
Дасюль трымаецца прастор
І нас трымае ўсіх,

Прастор бязмежнай шырыні,
І вышыні, і дна.
На быстрыні,
На вірыні
Трымаецца адна

Трывога клопату
І сноў,
Нервовых прамянёў —
Дапасці
Да асноў высноў,
Да самых каранёў.

*18 верасня, пятніца*

* * *

*[N.]*

Адна, адна, адна,
Да дна, да дна, да дна
Хачу цябе адну я,
Хмурынку праліўную,
Піць,
Не прагнаўшы смагу,
І да цябе раўную
Штогод, штодзень, штоміг
Усіх, усіх, усіх
І — ўласную увагу.

*23 верасня, серада*
* 23 верасня 1987 года Быкаў бачыў у выдмах Nidy зялёны прамень.

*26 верасня, субота*

Nida. З Васілём Быкавым. «Ці такі лёс, ці што, але так здаралася, хто давіў мяне, цкаваў, кепска канчаў (Савіцкі і інш.). У арміі палкоўнік хацеў расстраляць (і які ўжо раз ад 41-га года), але неўзабаве яму адарвала абедзве рукі».

*21 кастрычніка, серада*

З Піменам [Панчанкам] па тэлефоне: «Кланяйся плошчы Згоды, Трыумфальнай арцы, востраву Сітэ (сабор Парыжскай Багамацеры), касцёлу На крыві (Манмартр).

* * *

Ялінку пасадзілі на паляне
У снег,
Каб не азябла маладая.
Непаліваная,
Яна не вяне,
Дрыжыць ад нецярпення
І чакае,
Калі ўпрыгожаць гожую
Дзівосы —
Арэхі, шышкі, яблыкі, цукеркі,
Калі прыскача ўрэшце заяц босы,
Каб паспытаць іглінку
Для праверкі.
Ды кемны заяц абгрызаць не стане
Ні лапкі дрыгатлівыя, ні крону.
Ялінка, што смяецца на паляне,
Вечназялёная,
Уся з капрону.

*** Дэ Люі[1], галоўны рэдактар [час.] «Аквіён паэзіі»; пан Акар.

«Няма такой самоты, у якой бы не знаходзіўся яшчэ нехта. Не часу, самоты мне не хапае», — Грыгорэ Віеру.

[1] Дэлюі Анры (н. 1931), французскі паэт і перакладчык.

[Адрасы і тэл.:] Роўба[1] Іван Сцяпанавіч [Ушача]; Чакалава Іна Аляксееўна [Масква]; Хлебников[2] Олег. Москва, Дмитровское шоссе, 52, корп. 1, кв. 55, тел. раб., дом.; Аня Саед-Шах[3].

*25 кастрычніка, нядзеля*

*Масква* (у Івана Бурсава).

Д. Карнегі[4] «Як заваяваць сяброў і рабіць уплыў на людзей». Гюго[5] хацеў перайменаваць Парыж у яго гонар. Шэкспір стварыў фамільны герб. Лёсткі — гэта выказванне другому чалавеку таго, што думаеш пра сябе. Выраз твару жанчыны шмат важней за яе ўбранне. Нішто не з'яўляецца добрым ці благім, толькі нашыя ўласныя ўспрыняцці праводзяць такое размежаванне (У. Шэкспір).

Кітайская пасловіца: «Чалавек, які не мае ўсмешкі на твары, не павінен адчыняць краму».

22.55. [Чужой рукой:] колледж Декарт. г. Блан-Менил.

*Парыж.* Аэрапорт Шарль дэ Голь.

* Hotel Feenrie. Нарэшце. Не традыцыйнае, а праз трое сутак чакання на Шарамецьева-ІІ вымучанае слова.

Ушчэнт знерваваная Сцяпанава Вольга [супрацоўніца пасольства] вядзе машыну з жаночай зацятасцю. Так, відаць, вадзіў бы і мой Зайчык. Парыж прыцемнены. Увесь свет эканоміць электраэнергію, каб ёй жа і знішчыць сябе. За рулём п'яныя едуць з рэстаранаў — абы паліцыя не сцапала, а яе тут мала, не ў прыклад роднаму Мінску, дзе кожны 3-ці мент, 2-гі — «сувязіст».

І адразу Трыумфальная арка, кавалак Луўра, Гранд-Апера з усіх бакоў аб'ехалі. І, вядома ж, Эйфелева вежа ўся ззяе, як навагодняя ёлка. Фантаны на паўстаўкі б'юць. Вуліца, дзе блакітныя хлопчыкі чакаюць спатканняў. Іх малавата. Наогул, Парыж у нядзелю рана кладзецца.

І наша гасцініца. У калідоры рэпрадукцыя рублёўскай Тройцы.

Загаварыўся. Ліфт адчыніўся, і я паляцеў кулём-потарчма, — добра, што кілімы. Так сустрэў Парыж. Змусіў пасці долу, у ногі гораду над гарадамі. Праўда, пакуль з першага ўражання крыху стараваты, засцянковы перад франтам — Новым Ёркам. Але трэба глядзець, хадзіць. А цяпер па

---

[1] Роўба Іван Сцяпанавіч (1936–2006), інжынер-будаўнік; Рыгор Іванавіч лічыў яго сваяком па мамінай радні.

[2] Хлебнікаў Алег Мікітавіч (н. 1956), рускі паэт, журналіст. Кандыдат матэматычных навук. Лаўрэат Новай Пушкінскай прэміі (2013).

[3] Саед-Шах Анна Юдкаўна (н. 1949), руская паэтэса, сцэнарыст, журналіст. Жонка А. Хлебнікава.

[4] Карнегі Дэйл (1888–1955), амерыканскі псіхолаг. Аўтар кніг, напісаных у жанры рэкамендацый і павучанняў.

[5] Гюго Віктор Мары (1802–1885), французскі пісьменнік.

французскаму часу 1 ночы. У нас 3 ночы. Зялёны чай і сон. Падушка круглая, як Валіна канапэ, на даўжыню ўсяго ўзгалоўя.

*26 кастрычніка, панядзелак*

Paris. Эйфелева вежа, Белая вежа. Негр прадае заваднога галуба. Прапануе Мары́й.

«Паэзія — кавалак цукру для галоднага (М. Аввакумава[1]). Навошта ім паэзія, калі вакол адна паэзія» (яна ж).

Выступленне ў школе. 8 француженачак, 2 негры, адзін рослы-пераРослы. Сама настаўніца слаба па-руску [гаворыць]. Адна вучаніца, калі прачытала Грыга [Віеру], сказала, што яе ўзяло за жывое (яшчэ мацней — як казла за матузы). Грыг тлумачыць, чаму пра вайну, пра якую вайну (ім незразумела, якая вайна. Для іх гэта ўсё гісторыя, літаратура). Грыг тлумачыць і дадае: «Я сам гавару па-руску слаба».

Настаўніца: «Рускі чытач актыўней чытае, сам стварае нават тое, што не даказаў аўтар».

Паскаль, наша перакладчыца: «Вы ведаеце Васіля Быкава, ён выступаў у нашым універсітэце і адказваў на пытанні. — Перад гэтым запытала: — Вы беларус?» Пасля адразу пра Васіля Быкава: «Быкаў і Беларусь не толькі па літарах блізкія. Яны родныя, адназначныя».

Паэзія траціць чытача. Паэзія — віно вытрыманае, а шырспажыў — мацаванае віно, і чытач — дэгустатарам робіцца, а не запойным алкаголікам, якому абы болей барматухі.

Пытанні. Пра замкі. Прыбалтыка. Беларусь. Якая музыка. Ці ёсць пласцінкі, якія чытаюць лазерам. Каго ведаеце? Талстога, Пушкіна, пад пласцінкі Булата [Акуджавы] добра вучыць рускую мову (выкладчыца).

Мэр: «Парыж — не Шырак[2], а Парыж — Гаўрош[3]». Мэр Fregossy Robert. Дошка і ўсе мэры [імёны] з 1801 да 1965 г.

*Добры душ. Пакойчык цесны, але ўтульны.

І ў Парыжы можна жыць!

Пайшоў будзіць Грэгорэ [Віеру]. Ён спаў быццам на нармальнай падушцы. Пытаюся, адкуль? У шафе ляжала. А я, целяпень ушацкі, праспаў на валіку. Ну, нічога. Валік, Валя. Недзе сугучна. Ілья Мурамец[4] не гэтак спаў. А яшчэ рад камення, рад палення, жалезную ступу пад галаву [клаў]. І, як на ступе, то мяккай, спаў я.

---

[1] Аввакумава Марыя Мікалаеўна (н. 1943), руская паэтэса.

[2] Шырак Жак Рэнэ (н. 1932), дзяржаўны і палітычны дзеяч Францыі. Прэм'ер-міністр Францыі (1974–1976, 1986–1988).

[3] Гаўрош, герой рамана В. Гюго «Адрынутыя».

[4] Былінны герой рускага фальклору.

Успомніў, як у самалёце ляцела група. Гляджу — літоўка. Адкуль, пытаю, — з Дзукіі. Блізка. Едзе выкладаць на 2 гады літоўскую мову ў Парыж. Ёсць і ўкраінкі. Толькі нашы далбалобы нічога не хочуць. Перадам, кажу, паклон Балтакісу. Смяецца. У аэрапорце Шарль дэ Голь пажадаў ёй viso gero![1]

Развіталіся. Побач са мной ехала ў Парыж Галя (28 год), выйшла за камерсанта. Першы раз едзе і назусім, пэўна. «Мальбара» не супакойвае. Пытае, ці будзе настальгія? Усё будзе, кажу. І не гэта яшчэ думаю. Цяпер візы хутка афармляюцца.

Каледж Дэкарт. *г. Блан-Меніл*. Музычная школа. Ад пачатковачак да старэйшых у класе Айседоры Дункан[2], заняткі. Такая выкладчыца! Халера, адчувае, што прывабная. І такую паставу прыняла. Назад вяртаемся; вул. Сан Луі.

Стаяць карыятыды
Начной мілосці,
І аспіды,
І спіды, —
Заходзьце ў госці.
Чарнюткія панчохі
І лісцік фігавы
У час былой эпохі,
Як строгі выгавар.

*27 кастрычніка, аўторак*

Раніца пасля ўсялякага белага і салодкага ў сняданні асабліва прыемная ў Парыжы, каб не чакалі выступленні, арганізаваныя накшталт нашых Дзён літаратуры.

***Реми Уркад*** [?] Прыём у мэра. Карэспандэнт «Литературной газеты» паклоннік Быкава. Чаму мала на вачах у грамадства, калі напіша пра сучаснасць? Мэра турбуюць праблемы, каб запасы халадзільнікаў раздаць галодным. Шмат без працы і грошы каля 10 тысяч [атрымліваюць].

Ліцэй. Спачатку маленькія цягнуць рукі: «Здравствуй». Грыг [Віеру] вядзе ўрок. «Фарфор» і «Авадня» чытаюць. Дарослейшыя. «Алёна лён трэ»[3].

На сустрэчы з актывістамі два старых з Варшавы. Ён забывае польскую, яна папраўляе. Сын у [газ.] «Юманітэ» [працуе]. Напісаў [?] у сав. [неразб.1] партызан о [?] Вілей [?] стары француз.

---

[1] Viso gero — усяго добрага (*літ.*).
[2] Дункан Айседора (1878–1927), амерыканская танцаўшчыца. Адна з заснавальніц школы танца мадэрн.
[3] Гл.: Традыцыі (1.08.87) // Самота паломніцтва. С. 194.

*Ліцэй Рамэна Ралана. Жонка Хейфіца[1] першая, цяпер Цалкова[2].

Вечар у тэатры. Дырэктрыса. Алег [Хлебнікаў] па вачах пачытаў мяне.

Праз столькі год па тэлефоне
Вяртае голас у гады
Калі мы
Былі гарачыя і маладыя.

*28 кастрычніка, серада*

*Мантрэй*. Бібліятэка. Ivan Naumenko, Janka Koupala et Jakoub Kolass. Poètes bièlorusses messidor/temps Actuels. У бібліятэцы наш склад 4 + 1 (перакладчык) і 8 слухачоў. Інтым. Адна выкладчыца рускай мовы, бібліятэкар (маці в'етнамка, бацька француз), дзяўчына з аголенымі нагамі.

У Анры [Дэлюі] вечар. Па-царску [?]. Адзін нумар ак [?] паэта кухні прысвечаны: «Да здравствуют советские кролики!» Трусіка прынесла гаспадыня.

Славіст: «Падае цікавасць да паэзіі. Бо слаба ведаюць мову. Народ ужо не гаспадар мовы».

*29 кастрычніка, чацвер*

*Сэн-Дэні*. У школе. У кожнага на рускі манер імёны. Пра касу верш просяць пачытаць. Хлопчык Барыс. Ацэнкі ад 0 да 20-ці балаў.

Рэстаран «Трапеза каралёў». Урачыста. *Французскі смех, то жаваранак, то… але не матор, не стэрэа[3].*

У саборы, дзе каралеўская усыпальніца, імша ідзе пад дыск-запіс, французская мова гучыць у высокім гатычным лесе, як аперэта.

*Анн Перро*. «Горад мёртвых королей и животного пролетариата» (пераклад).

Метро. Як на цымбалах, жоўтатвары, ці нешта іншае, іграе. Рэдка падаюць франкі[4].

Тэатр Фалі Бержэр[5]. Паменей нашай філармоніі. З цыганшчынай, голыя грудкі. У трыко. Прабіты цвічкамі саскоў.

Размова з Ірынай[6]. Голас той жа.

---

[1] Хейфіц Леанід Іосіфавіч (н. 1934, Мінск), тэатральны рэжысёр, педагог. Прафесар. Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1983). Народны артыст РСФСР (1993). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР (1991), Міжнароднай прэміі імя К. Станіслаўскага (2008).

[2] Цалкоў Алег Мікалаевіч (н. 1934), рускі мастак. З 1977 г. жыве ў Францыі.

[3] Гл.: Французскі смех (20.01.88) // Самота паломніцтва. С. 197. Верш прысвечаны А. Дэлюі.

[4] Гл.: Білет ў парыжскае метро (1.01.88) // Тамсама. С. 189.

[5] Фалі Бержэр, знакамітае вар'етэ і кабарэ.

[6] Заборава (Басава) Ірына Барысаўна (н. 1937), журналіст, руская паэтэса; жонка Б. Заборава.

*Гуканне Парыжа*

Шапчу, вядзьмарачы:
— Парыж…
А рыфма цвеліцца хітрушча:
Калі гукаў мяне,
Бяры ж —
Парыж — спарыш,
Парыж,
Нібыта наша пушча.
Яго глыбока карані,
Як Белавежа,
Ён адвечны.
Ну чым не белая,
Зірні,
Як вежа Эйфелева,
Ўсвечана яліна,
Якую выслаў Новы год,
Ірына.

*1 студзеня 1988*

*30 кастрычніка, пятніца*

З намі Ніколь[1]. Немка з Баварыі. Цэнтр Пампіду[2]. На дварэ сярэдневекавое відовішча. Гарганцюа[3] такі разрывае ланцугі. Кладзецца на цвікі, на бітае шкло ад бутэлек, якімі ён паснедаў, абнашчыўся, жарты, адпаведныя ягонай вазе. «Кідаеце франкі, маркі, долары; ліры не трэба!» Выклікае з натоўпу, каб станавіліся на яго: «Гэй, ты, шпагаціна!» Пасля агонь з рота. Вясёла, ненавязліва.

Залы мастацтва. Малевіч[4], Кандзінскі[5], Пікасо[6], Матыс[7]. І наш Марк Шагал. Тры рэчы. Двайны партрэт, а ўнізе «Віцебск», 1943 года рэч. Вайна, гараць валасы рыжым полымем. І зноў згубленая шагалаўская галава. Нешта непаўторнае, местачковае, не як правінцыйнае, а як мадэль свету, сусвету[8].

---

[1] Лейкауф Ніколь, нямецкі рэжысёр-дакументаліст.

[2] Цэнтр Пампіду — Нацыянальны цэнтр мастацтва і культуры Ж. Пампіду. *Пампіду* Жорж (1911–1974), прэзідэнт Францыі (1969–1974).

[3] Тоўсты, мажны, як герой рамана Ф. Рабле «Гарганцюа і Пантагруэль». *Рабле* Ф. (1494–1553), французскі пісьменнік.

[4] Малевіч Казімір Севярынавіч (1878–1935), рускі мастак.

[5] Кандзінскі Васілій Васільевіч (1866–1944), рускі мастак і графік.

[6] Пікаса Пабла (сапр. імя Руіс; 1881–1973), французскі мастак іспанскага паходжання. Лаўрэат Міжнароднай прэміі міру (1950), Міжнароднай Ленінскай прэміі (1962).

[7] Маціс Анры (1869–1954), французскі мастак, графік, майстар дэкаратыўнага мастацтва.

[8] Гл.: Сустрэча (2.01.88) // Самота паломніцтва. С 191.

*Pantin.* Тэатр-студыя. Будучыя акторы. Разыгрываюць сцэнкі. Даволі прафесійна. Пасля мы на падлозе ў першых радах на думачкі [сядаем]. Малыя сядзяць. Нешта накшталт Усходу.

Кнігаўкамі,
　　　　кнігаўкамі,
　　　　　　　　кнігаўкамі,
Як на ўшацкай лугавіне
У зялёных купінах,
Перапоўнены Парыж
Клічнікамі згодлівасці,
　　　　　　　　выгукамі
У няспынлівай лавіне.

Уі, уі… Сэн-Дэні. Стаяць на варце сэксасірэны[1].

*31 кастрычніка, субота*

Апошні дзень месяца. Можа, імпарт выкінуць у Парыжы ад нас. Во будуць чэргі! Гэбкаў прыроды не хавае. Ля рэчкі ў лесе.

Паход па шопінгах. Шэф з Марыяй [Аввакумавай] згубіліся. Ледзь знайшліся.

Выступленне ў АРК, у зале чалавек 50 (не болей). І гэта ўсё. Перад пачаткам адна дзьмухавіца пыталася, дзе будзе чытанне. Нарэшце соладка спіць у першым радзе, вось-вось акуляры зваляцца. Падымае галаву, падмахвае перадзёнкам. Пасля чытання паэмы Алегам [Хлебнікавым] і Анры [Дэлюі] — масавы адплыў слухачоў. Зала ў прыглушаных танах, уверсе метал. Усё з густам. Утульна. Так утульна, што паэзія тут спіць. Няма жывога слова. Змяшайце салон з аўтакабінай ці салонам у самалёце. Лепей было паэзіі ў саломе, у салоне, чым у металазале сёння.

Маласалонныя агуркі.

Чытаюцца пераклады Сідзітаса Гяды[2].

Тэатр. Утульны. Добрая рэакцыя. Крыху начнога Парыжа. Бона.

*1 лістапада, нядзеля*

Нотр-Дам[3]. Служба. Музей Радэна. Радэн. З мармуровага туману праяўляецца.

[Адрас:] Nicole Leykauf. 89, BD. Richard Lenoir, 75011, Paris.

---

[1] Гл.: Турыстычны верш (27.12.87) // Самота паломніцтва. С. 204.

[2] Гяда Сідзітас (1943–2008), літоўск паэт, драматург, эсэіст, крытык, перакладчык.

[3] Гл.: Нотр-Дам (17.12.87) // Самота паломніцтва. С. 199.

З Ірынай [Басавай] і мэтрам[1]. Ёсць сум, ёсць хаценне паказаць нешта. А ўвогуле такі ж. У чай ваду падлівалі. Кавалачкі цукру з сабой. Разлік чэкавай кніжкай.

*2 лістапада, панядзелак*

На Марсэль. Па дарозе Ліон. Рона. Наш [абрыў фразы]. *Марсэль.* «Торчу, как шпала…» Мора. Цёплая і дужа салёная вада. Як агурок на свята. Порт. Яхтавы лес markрознакаляровы з металічных ствалоў. Прыём у генконсульстве. Паэт Іў Брусар прыехаў з юбілею Чаўчавадзе. Перадаваў прывітанне Максіму Танку.

Vitour Gelu (1806–1885), апошні правансКі паэт у Марселе паміраў. І такі беларускі ж хуткі ў порце вечар. Кацяркі, яхты мачтамі растуць у глыбіні зыбкімі расткамі.

Вечар. Сустрэча з паэтамі, літаратарамі. Марсэль[2] толькі што з Мінска. Геаграфічнае і нацыянальнае пытанне. Смяецца з аб’яўлення станцый метро. Размова пра тое, што не бачыць перспектывы і магчымасці актывізацыі паэзіі. Аўтобусам вакол Мінска [правезлі].

Ірына Сокалагорская[3] хоча перакласці Быкава «Знак бяды».

Французы толькі ў фільмах гэвелт падымаюць, а так стрыманыя. Нідзе не знайшоў біблію па-беларуску.

*3 лістапада, аўторак*

Марсэль. Некуды едзем. Вечарам свяціўся і ў [абарваны сказ].

*г. Касіс.* Хто бачыў Парыж, але не бачыў Касіс — нічога не бачыў.

Лазурны бераг. Касіс. «Меланк*оліе*»[4] *коліе* дэ Касіс выконвае Ратару[5]. Сонца, горы, і Грыг [Віеру] сумны. Купанне!

Палудзень у таверанцыі. Shopping. «Приходи ко мне сюда, подарю тебе сада́». Цяплейшая вада ў заліве і чыстая, відно дно. Рамантуюць сеткі. На Захадзе прагрэс сумеў ужыцца са старавеччынай. І маторы, і камп’ютары на ашыйніках у катоў. І рыба плавае ў вадзе, дзе ледзь прыкметна смуга смогу. Калі нацыя перад сконам ад страшнейшай хваробы — заўсёды геніяльны вынік.

---

[1] Забораў Барыс Абрамавіч (н. 1935), беларускі мастак. З 1980 г. жыве ў Францыі. Гл.: Салют Парыжу (31.12.87–1.01.88) // Самота паломніцтва. С. 198.

[2] Перэс Марсэль (н. 1956), французскі музыказнавец, кампазітар, дырыжор, спявак.

[3] Сокалагорская Ірэна, французскі славіст, заснавальнік дзвюхмоўнага час. «Русская литература».

[4] «Меланколіе», сл. Г. Віеру, муз. П. Тэадаровіча. *Тэадаровіч* Пётр Хрыстафоравіч (1950–1997), малдаўскі кампазітар.

[5] Ратару Сафія Міхайлаўна (Ратару-Еўдакіменка; н. 1947), эстрадная спявачка. Народная артыстка УССР (1976). Народная артыстка МССР (1985). Народная артыстка СССР (1988). Герой Украіны (2002). Народная артыстка Расіі (2013).

Сапраўднага паэта прызнаюць пасля смерці, але трэба, каб жыццё пражыў як сапраўдны чалавек. Па-сапраўднаму, а не вонкава.

Вечар. Стрыманы. Прафесар зацікавіўся Віеру. Крыху [гаварылі] ў кавярні наконт верлібра зноў. Гэта новы верш, яшчэ не вызначаны.

*4 лістапада, серада*

Зноў на Парыж. У цягніку, як у самалёце. Белыя каровы на лугах. Травы лістапада.

*Abbaye de Royaumont*. Абатства. У зале бібліятэкі, пад скляпеннямі, пажаданне за пустыя месцы на паліцах гэтай бібліятэкі. Прынцып семінара. Паэт прапануе тэксты, прыкладны пераказ даецца, спрабуюць перакласці. Пасля рэдагуецца. Спачатку чытаюць, цяпер (на ксераксе ўсім па экземпляры), пасля ўдакладняюць, і ўсе раяцца, кожны сабе піша, потым зводзяць у адзін тэкст. Накшталт брыгаднага метаду ці цяперашняга нашага сямейнага падраду.

Далёка ад дому дробязнымі здаюцца ўсе літзвады, усе нашыя нападкі. Ніякой эквілібрыстыкі славянскай не выедзе, толькі думкай, толькі нечым новым. І хочацца адмовіцца ад усіх сваіх вершаў і быць вольны, як вецер!

А браты французы забыліся рыфмаваць, амаль увесь вечар пайшоў на пошук некалькіх прыблізных рыфмаў. Атрафіравалася ў іх яшчэ і рыфма. І адкуль толькі дзеці? Імпарт?

Вячэра ў трапезнай. Першы раз суп, накшталт супу нешта. (Праўда, у Гольдэнберга буряк з воцатам.) Вечар абышоўся крыху ціха, утульна.

*5 лістапада, чацвер*

Royaumont. Як звычайна, за паэтычны пераклад не плацяць ці плацяць такія дробязі, што не варта галаву ламаць на рыфмы. Рыфмаванне — хутчэй простая цікаўнасць ці разгадванне красворда. А пасля ўсё стала традыцыяй, і пачынаюць тлумачыць, што рыфмаванне не гучыць. Так і хочацца параіць: «А вы падстаўце тазік!»[1]

Паэзія ў Еропе з трыбун, з плошчаў, са стадыёнаў перайшла ў пакоі, пакойчыкі, у кабінеты, каб сумаваць, самотнець і задумацца, што з ёй будзе, куды ідзе, куды прыйдзе. Усё вяшчанне прароцтва, не заклікі, а дэгустацыя, смакаванне і захаваная глыбока ў душы вера.

Выезды такія трэба і як можна раней, каб падумаць, зразумець, што застаецца пасля цябе, калі наогул застанецца, што табе трэба сказаць на рэшту дзён сваіх. А ці ёсць яна? І ўсё-ткі хоць для аднаго свайго чытача беларускага, кроўнага, які з прадаўнасці ўспрымання ідзе і які зразумее цябе. Дзякуй яму!

[1] Гл.: Іскра ў попеле ([1995]) //Аратай, які пасвіць аблокі. С. 171.

Верлібр — зададзенай рытмікі, рытму, утвараючага пачатку, усё само ўплывова, кожны раз стварае новы верш. А ў нас — гэта перакладчыкі верлібра, верлібр перакладаюць так, што знікае верш (свабодны верш, свабодны ад традыцыі, вольны). Леон Рабель[1].

Баратынскі[2] першы пераклаў сябе амаль верлібрам, каб чытаць у парыжскім салоне свае верш.

У свеце нешта адбылося, але яшчэ не праявілася, чалавецтва ўступіла ў новую стадыю развіцця.

Перакладаюць пра Шагала. Макар цялят пасвіў у чорта (д’ябла на рагах), пасля бальзамінка[3] — так і па-французку. Цёплы космас гучыць як інтымны космас. Шагалу ў пашпарце напісалі ў Расіі Шагалаў. Ён запярэчыў у Парыжы.

Пад скляпеннямі гатычнымі гучыць здорава царкоўнае хваласпевам, Віеру спявае малдаўскую песню, і я паспрабаваў «Ой, лятала перапёлачка…» Нашы далбалобы забралі нашых дзяцей і ў нас інкубатарамі і догмамі, і забралі іх у іхняй, дзяцей нашых, зямлі.

*6 лістапада, пятніца*

Абатства. Шарль Дабжынскі[4], галоўны рэдактар «Europa». Славуты паэт Бернар Нуэль[5].

Назваць нізку «Абраза самоты»[6].

Чытаюць пераклады ціха і паволі, нібы смакуюць віно, як дэгустатары.

Пытанне жонкі Дэлюі, як у нас глуханямыя, як узаемаразумеюцца, як і што. Здзівілася, што ведаю колькі жэстаў.

Ірэн-перакладчыца. Рускую мову выкладае, часта [бывае] ў Ленінградзе. Дзед з Украіны, маці ў Італіі нарадзілася, бацька з Польшчы Астроўскі, Урмаш па нябожчыку мужу (яўрэй з Кішынёва, піяніст). Як і я, не можа без супу, сумуе па чорным хлебе, дужа любіць хлеб.

Паэтэса-багемшчыца, была на стыпендыі. Стыпендыя скончылася. Любая праца, апроч панелі, ёй па душы. Худзенькая, з цэлай капой валасоў, пытае пра нашу Мар’ю […] Аввакумаву: «Паэт ад чаго, гэта праца ці што?» Наша […]: «Гэта дар ад неба». Тады яна: «Так казалі (лічылася) ў XIX ст.».

---

[1] Рабель Леон (н. 1928), французскі славіст, літаратуразнавец, паэт і перакладчык.

[2] Баратынскі Яўгеній Абрамавіч (1800–1844), рускі паэт.

[3] Гл.: Марк Шагал (1988) // Самота паломніцтва. С. 254.

[4] Дабжынскі Шарль (1929–2014), французскі паэт, празаік.

[5] Нуэль Бернар (н. 1930), французскі паэт, празаік, крытык.

[6] Гл.: Абраза самоты (6.11.87) // Самота паломніцтва. С. 203.

*7 лістапада, субота*

Раніца. Сэн-Дэні, Парыж. Нарэшце смажаныя каштаны[1].

Авоська, магазін, і выцягнуў з кішэні. Калі ў Ленінградзе лічаць за свата. Калі згубіў авоську, радня жонкі шукала.

Быў вечар, чыталі вершы. Мае ў перакладзе чытаў Рабель. Пасля кажу Віеру: «Добра ад'ехацца, каб адчуць, як шмат лухты напісалі. Каму трэба паравозікі ў нашых кнігах, ні нашым, ні ім». З пачуццём горычы і разгубленасці едзем. Трэба да еўрапейскай культуры цягнуцца. Наогул, семінар (ці што іншае) паказаў карысць калектыўнага перакладу. Яны ўсе дужа дружныя, як адна сям'я. Кажуць, што ўпершыню разам, адзін аднаго дагэтуль слаба ведалі. Гэта іх згуртавала.

[Адрасы:] Pierre et Angella Oster[2]. 101, rue de la Convention. Paris 75015 tel. 45.54.06.44; Léon Robel. 1,1 rue de Rungis, 75013 Paris, tel. 45.80.57.71.

*8 лістапада, нядзеля*

Будзяць абацкія вераб'і, у іх свой нядзельны базар. Дома, ва Ушачах, даўно ўжо не чуў іх, бо хіміі пераелі[3].

Апошні дзень. Заўтра «Люфтвафэ». Шлях абраз і зняваг на мытніцы, на вагах, замнога набраліся не той ідэалогіі — аж чамаданы новыя купілі.

Хадзіў крыху. Абатства абысці нельга, бо скрозь упіраешся ў слова «прыватнае». І дрэнна, і добра. А як у нас на насавых хустачках участкаў садова-агародных.

[Адрасы:] Marie Florence Ehret. 50 rue de la Goutte d'Or 75018 Paris tel. 42.58.64.34; Marcel Pèrés. 15 bis, rue de la Source 60500 Chantilly France (паслаць ноты «Полацкага сшытка»[4] ў [абацтва] Раямон).

*9 лістапада, панядзелак*

Канец семінара. З Крысцін па горадзе. Асабняк Сюллі, мальераўскі асабняк перыяду Мальера[5]. Жоўта-чырвоны шалік машын Елісейскіх палёў. Манмартр. Мастакоў 2–3. Пуста. З прагляднай пляцоўкі туманна. Горад як бы павінен прарэзацца[6]. Пляц Пігаль. Бледная копія Брадвея — сапраўднай індустрыі. Зазывала з мордай і камплекцыяй Вялюгіна[7].

---

[1] Гл.: «Здорава пад ушацкую завіруху...» (2.01.88) // Самота паломніцтва. С. 187.

[2] Астэр П'ер (н. 1933), французскі паэт і выдавец. Астэр (Сусцева) Анжэла, жонка П. Астэра.

[3] Гл.: Абацкія вераб'і (10.04.88) // Самота паломніцтва. С. 201.

[4] «Полацкі сшытак» — зборнік нот барочнай беларуска-польскай музыкі XVII ст., знойдзены ў 1962 г. А. Мальдзісам у бібліятэцы Ягелонскага ўніверсітэта.

[5] Мальер (сапр. імя Жан Баціст Паклен; 1622–1673), французскі драматург, акцёр, тэатральны дзеяч.

[6] Гл.: «Парыжам трэба загрузіцца...» (14.11.87) // Самота паломніцтва. С. 209.

[7] У канцы 80-х гг. Рыгор Іванавіч заўважна «ахаладзеў» да любага старэйшага сябра. Пасля адыходу А. Вялюгіна ён выказаў сваю горкую крыўду: нехта перадаў яму, што быццам бы

*10 лістапада, аўторак*

Ад’езд. І — дай бог — адлёт з прылётам! Пасля мітусні на вакзале. Негр ў наручніках.

У паветры. Шмат маладых нашых ці спартсменаў, ці самадзейнаць. Тарарышы са стамлёнымі позіркамі.

Зноў Грыг [Віеру] згубіў усё, што можна. Мытніца. Заблытаўся ў магах класік Малдовы.

Я ў Бурсавых!

*23 лістапада, панядзелак*

Раніца. Некалькі маладых (цяпер старых амаль няма, каб атрымаць кватэру, ідуць у прыбіральшчыкі і дворнікі) пераступаюць з нагі на нагу па маладым марозіку. Кавалак фразы: «Ні лапаты, ні скрабка. Вось табе і перабудова».

*28 лістапада, субота*

Аб’ява па радыё ў ЦУМе: «Хто забыўся папяровыя кветкі, звяртацца ў Бюро знаходак».

*2 снежня, серада*

*Душанбе.* Такога палёту яшчэ не помню, колькі жыву. Двое сутак ада Мінска. Гатэль «Душанбе», дом калгасніка ЦК. У калідоры (дзве ночы) ў шырачэзных трусах і ў майцы босы каханак абкомаўскі выскачыў ад дуні. Убачыў мяне, назад. Надзеў нейкія штаны.

Тры гадзіны розніцы цяжкавата.

У стале гасцініцы: «Паважаны госць! Не пакідайце адкрытымі вода-разборныя краны, не ахаладжайце напіткі і садавіну ў ракавіне і ванне, для выключэння затаплення нумароў пры выхадзе з нумара выключай-це электрапрыборы. *Адміністрацыя*». А ў прыходжай вялізны халадзіль-нік.

На вуліцы двое: «Калега, колькі часу? Вы чэх? Deutsh? Бізнес?» Як жа трэба бедна жыць, каб мяне прыняць за замежнага.

У кнігарні. Раздзелы: навука, мастацкая літаратура, слоўнікі, як і ва ўсёй краіне, толькі — руска-, а не наадварот. І ўся таджыкская прадукцыя «Мясцовыя выданні». Вялікадзяржаўныя меркі пранiклі паўсюль, як не было 70-ці [гадоў] савецкай ўлады!

---

Вялюгін пасмяяўся, што маці знайшла яго ў час вайны, кінутага яўрэйскага хлопчыка. «Як ён мог?! Ён ж маю маму ведаў!» Але на маю заўвагу, што так яму маглі нахлусіць нядоб-разычліўцы, каб іх развесці, Рыгор Іванавіч разгубіўся: «А маглі ж...» — і моцна засмуціўся (*заўв. Н. Давыдзенка).*

На базары. Такі шчэбет вераб'іны, нібы, баючыся аглухнуць ад цішыні, базар надзеў шапку з вераб'ёў. Даюць шашлык — ён вараны, прапануюць кампот і кавы з малаком.

*3 снежня, чацвер*

Паседжанне юбілейнае ў СП Таджыкістана.

Украінец Шакала[1] даказаў, што Лахуці[2] ад украінскага Лахуценка, ад украінскага кораня ўсё.

Прысутнічае жонка сакратара ЦК кампартыі Ірана. Яна член СП Таджыкістана. Тут двое дзяцей, адзін жаніўся. Яна ўжо бабуля. А ён ў ГДР.

Выступае госць з Індыі: «Кветка расцвітае не таму, каб заявіць пра сябе, ёй трэба расцвітаць. Паэт не думае, які верш напіша. Прадуманы верш не доўга жыве».

Вітаўтас Рубавічус[3] (Літва).

Немец Лоранц у аспірантуры, са студэнтамі збіраў бавоўну. Іранец прыехаў у Саюз лечыць вочы, а тут юбілей Лахуці.

«І ад ўсяго, што ўбачыў, вочы мае палепшалі. Урачы забаранілі чытаць і пісаць. Таму не рыхтаваўся канспектна. Буду гаварыць пра Лахуці і рэвалюцыю».

Заварваць зялёны чай са слоў Убайда Раджаба[4], знаўцы зялёнага чаю, які п'е не толькі чай:

1) Тройчы паласкаць чайнік кіпятком;

2) на літровы чайнік 3 чайных лыжкі і ў памеры 1 піялкі кіпяток [заліць] і закрыць рушнікам і трымаць да 1,5–1 хвіліны. У гэты час, каб кіпяток кіпеў, а пасля наліць кіпяток поўнасцю;

3) тры разы піялкай [пераліваць і казаць]: лай, май, чай;

4) калі занадта горкі, дзве піялкі даліць кіпяток. Калі хочаш, каб даўжэй была свежая заварка, накрыць чайнік.

[Аўтограф:] «Заверяю подписом без печати, которой не имею.

*У. Раджаб. Душанбе*».

---

[1] Шокала Аляксандр Андрэевіч (н. 1949), украінскі перакладчык.

[2] Лахуці Абулькасім (1887–1957), таджыкскі паэт. Гл.: Босы бог (1988) // Самота паломніцтва. С. 45.

[3] Рубавічус Вітаўтас (н. 1952), літоўскі паэт, крытык, перакладчык. Доктар філасофскіх навук.

[4] Раджаб Убайд (сапр. Раджабаў Убайдулло; н. 1941), таджыкскі акцёр, паэт. Народны артыст Таджыкістана (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Таджыкістана імя А. Рудакі (1998).

«Братэрства-89»
*Сённяшні дзень таджыкскага слова*
Паэзія

1) Убайд Раджаб,
2) Лаік Шыралі[1];
3) Камол Насруло[2],
4) Саідалі Мамур[3];
5) Рахмон Назр [паэт];
6) Хадыса Курбанава[4];
7) Нізом Касым (самы малады; [паэт]);
8) Халімшо Салімшо[5];
9) Шохмузафар Ёдгары [паэт].

Проза
1) Абдулхамід Самадаў[6];
2) Сарбон[7] (які вядзе караван);
3) Джанібек Акабіраў[8];
4) Урун Кухзод[9] (сын гор).

Мумін Канаат[10], як сухафрукт, усох ад промняў славы, услравы кінатэлепражэктараў, юпітэраў, — урадавы сухафрукт.

[Адрасы:] Київ-74, вул. Попова, 6, кв. 96. Тел. дом. Шокало Олександр; 232001, Литва, Вильнюс, ул. Ю. Палецкёс, 5–13. Тел. раб., дом. Витаутас Рубавичюс.

*4 снежня, пятніца*

Прыём у ЦК. Мы з Юрыем Грэкавым[11] за двухмясцовым сталом. На маім манаграма тов. Латифов Д. Л., тов. Ахмедова З. М.

---

[1] Шэралі Лаік (Лаік Ш.; Шэраліеў; 1941–2000), таджыкскі паэт. Народны паэт Таджыкістана. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Рудакі.
[2] Насруло Камол (н. 1950), таджыкскі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Рудакі.
[3] Мамур Саідалі (н. 1944), таджыкскі паэт. Народны паэт Таджыкістана.
[4] Курбанава Хадыса (н. 1940), таджыкская паэтэса. Народная паэтэса Таджыкістана.
[5] Салімшо Халімшо (н. 1937), таджыкскі паэт.
[6] Самад Абдулхамід (н. 1947), таджыкскі празаік. Народны пісьменнік Таджыкістана.
[7] Сарбон (сапр. Хамраеў Аблакул), таджыкскі празаік.
[8] Акабіраў Джанібек, таджыкскі празаік. Народны пісьменнік Таджыкістана.
[9] Кухзод Урун (сапр. Джумаеў Урунбой; н. 1937), таджыкскі празаік.
[10] Канаат Мумін (Канаатаў Муміншо; н. 1932), таджыкскі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1977).
[11] Грэкаў Юрый Фёдаравіч (1931–2010), рускі празаік (Кішынёў).

Адкрывае Лучынскі[1] (з Малдавіі), гляджу, ці пазнае Юрыя Грэкава. Спецыяльна селі з ім на першы рад па цэнтры, а з бакоў Мумінчык [Мумін] і Баруздзін[2], іранскія паэты.

«Задача — накарміць людзей. 93 % горы, 7 % для сельгас. Хутка будзе 5 млн чалавек [насельніцтва]. Больш трацiны Памір займае. Самы жыхар! На душу кв. км Паміра найбольшая жыллёвая плошча. Як і належыць саноўнай асобе.

5–6 цэнтнераў звычайна, калі суха — больш бавоўны, калі сыра — меней бавоўны, болей зерня. Калі дажджы, сель — *сель а ві* (французска-таджыкскае). 1,2 млн [тон] хлеба спажываюць, 300 — вытворчасць. Комплексы (ў Гісарскай даліне былі), індывідуальны падрад і сямейны (ён у літаратуры даўно). Вытворчасць цытрусавых. Вінаград болей выгод з 1 га, чым бавоўна. Да 2000 года як больш людзей прыцягнуць па вінаградарству, па садаводству.

(Лепей ад гор лепей толькі горы[3].) Многія вяртаюцца ў горы. Асваенне гор складаная праблема (трэба электрычнасць, умовы. Успамінаецца, як у Находцы казалі, што цяжка з турэмнікамі, патрабуюць умоў. Вось народ стаў для кіраўнікоў! Пры Сталіне ўсё прасцей — загад!). Абуць і апрануць і вытворчасць вытворчасці. Раней усё [лічылі] ад 13-га года. Цяпер гэта гумар.

Багацце гідрарэсурсаў ≈ 900 рэк. Нурэкская ГЭС, вышэй Рагунская. Дамы будуюцца на 9 балаў. Сейсмічная зона. Вялікія азёры вісяць над усёй Сярэдняй Азіяй. Вібрацыя выклікае землятрус. Выкарыстоўваюць ветракі, гелеўстаноўкі. Можна гарачую ваду [атрымліваць] да 80° ад гелеўстановак. Экалогія.

Алюмініевы завод і хімічныя прадпрыемствы. Алюмініевы завод за асновы [ўзяў] французскую тэхналогію. Але не так развівалі буйныя прадпрыемствы, таму не так страшна сярэднюю вытворчасць развіваць. Таму і экалогія крыху захавана.

Рагун. Акрамя электраэнергіі раз на 5 год бядуем ад бязводдзя. Рагун дае магчымасць адрэгуляваць Нурэк. (У вокны ЦК глядзяць заснежаныя горы. Дрэвы ў жоўтых лісцях.)

Сацыяльная сфера. На малой плошчы людзей шмат. Сярэдні ўзрост сяла 22 гады, уся рэспубліка 24 гады. Самая маладая рэспубліка. Школы, бальніцы, дзіцячыя сады, жыллё — праблема. Самая нізкая плошча на чалавека, сярэдняя сям'я — 6–7 чалавек. Самая высокая нараджальнасць

[1] Лучынскі Пётр Кірылавіч (н. 1940), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1986–1989 гг. 2-гі сакратар ЦК Кампартыі Таджыкістана. Ураджэнец Малдавіі.

[2] Баруздзін Сяргей Аляксеевіч (1926–1991), рускі пісьменнік. У 1966–1991 гг. гал. рэдактар час. «Дружба народов».

[3] Пераклад радка песні У. Высоцкага «Развітанне з гарамі».

у краіне. Праблема школ, бальніц, падрыхтоўка ўрачоў. Раней толькі бавоўна, а ўсё не галоўнае. Няма будаўнічай індустрыі. А магчымасці фінансавыя ёсць. Ёсць пакуль кінаканцэртныя залы. Астатняга амаль няма. Яшчэ на год адкладваецца балетная школа. Кнігачытанне збівае тэлебачанне. Горныя раёны глядзяць тэле больш, чым Пскоўская вобласць, напрыклад».

Музей Лахуці, Якуб Колас [бываў], яшчэ нехта ў Лахуці.

[Чужой рукой:] «Зелёного чаю надобно брать два раза больше, чем обыкновенного. Незабываемую ложечку сахара положить. Вода побелевшая почти до половины чайника доливается. Потом кипятится новая вода и заливается чуть больше половины. Новая вода кипятится третий раз и тогда доливается не до самого верху. Держать минут пять. Всё разлить и пить, причмокивая (это возбуждает и объединяет). Можно и разговаривать».

[Нерасчытаны невялікі аўтограф на літоўскай мове В. Рубавічуса. Падобна, што і рускі тэкст належыць яму.]

*5 снежня, субота*

Па дарозе ў горад *Турсунзадэ.* Гісарская даліна. На араллі снег, як несабраная бавоўна. Дуддзё ад бавоўны дужа добра гарыць, доўга трымае цяпло. Ідзе нарыхтоўка зімовага паліва. Тутоўнік і малы, і высокі, стары куксарукі. Ішачкі. Птушкі накшталт сарок выскубваюць поўсць. Стаіць сумны ішачок пад паласатай папонай.

Па дарозе. Сустрэча. Як заўсёды піянеры. Дзве дзяўчынкі танцуюць.

Алюмініевы завод мужчынскі. Непадалёк фарфоравы завод — жаночы. Каб два полюсы былі, каб іскру давалі. Куплены ў французскай фірмы. Завод выпускае алюмінія больш, чым уся Францыя. 3-е месца. Кокс і *пек* перамешваюцца. (Рыфма для *чалавек.*)

ПТВ, тэхнікум, вучэбны камбінат па павышэнні кваліфікацыі. 1,5 тыс. ІТР. Школа мастацтва: музыка, жывапіс, англійская мова, класы фартэпіяна, народны ансамбль народных інструментаў. Маленькія чарнавокія, спачатку маленькая чытае Лахуці так выразна і натхнёна, мова жывая (яна ж пасля і салістка, танцуе і пяе). Усе падпяваюць і іграюць. Хораша гучыць тут роднае слова на роднай зямлі. Толькі на роднай зямлі можа гучаць роднае слова натуральна і глыбінна, паўнакроўна і пранікнёна. У цэнтры, як цымбалы (чокі), пяюць узбекскую песню.

Усё пад снегам. Дуддзя набраць, каб грэцца ў зіме.

Пад снегам твой горад спакойны,
Пад снегам і ўсмешкі, і смех.
Пад снегам прыгоды,

Пад снегам забыты начлег.
Пад снегам ласкавым.

*6 снежня, нядзеля*

*Масква.* Таранцава [?]. Маёр вязе ў Брэст з-пад Байкала маленькую сібірскую кошачку — Маруся. Ёй душна. Есць каніну, ялавічыну, свініну не есць. Маёр міліцыі. Яшчэ не забыўся беларускага вымаўлення. Кляне маскоўскую мафію.

*8 снежня, аўторак*

Мінск.

Яны дарадчыкі,
Упарадчыкі,
Апаратчыкі,
Бо ў апарата
Мазгоў палата.

*Вітаюць дзеці Бурсава*

Вочы ты не хмур, сава,
Палічы, а колькі ўсіх
Выдадзена Бурсава
Для дзяцей вясёлых кніг?
Памажы саве, вядзьмар,
Бараду цярэбячы,
Бурсаў сёння юбіляр,
Наш Іван Цярэнцевіч!

*9 снежня, серада*

*г. Барысаў.* Сустрэча з Васілём Быкавым у ДК.

— *Чым адрозніваецца наша сучаснасць ад мінулага?*

— У саюзных часопісах шмат твораў, якія напісаны раней. Гэта вымушанае шчасце. «Апошняе прызнанне», «Дзеці Арбата»[1], «Начавала тучка [залатая]»[2]; [творы] Іосіфа Васілеўскага[3], Твардоўскага, Ахматавай. Яшчэ Булгакава, Набокава[4], Гумілёва. Беларуская літаратура адклікнулася скупа. Адзінкі. Проза Мікуліча[5] у паэзіі рэдка, гэта не значыць, што ў нас

---

[1] «Дзеці Арбата», раман А. Рыбакова. *Рыбакоў* Анатолій Навумавіч (1911–1998, ЗША), рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951), Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя братоў Васільевых (1973).

[2] «Начавала тучка залатая», аповесць А. Прыстаўкіна. *Прыстаўкін* Анатолій Ігнацьевіч (1931–2008), рускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1988).

[3] Васілеўскі Іосіф Іосіфавіч (1911–1994), беларускі паэт, перакладчык.

[4] Набокаў Уладзімір Уладзіміравіч (псеў. Сірын; 1899–1977), рускі і амерыканскі пісьменнік.

[5] Мікуліч Барыс Міхайлавіч (1912–1954), беларускі празаік. Быў рэпрэсаваны.

няма ўспамінаў. Выйдзе Алесь Гарун[1]. Рэвалюцыйны рух у літаратуры, ні ў якія гады такога не было, магчыма.

Адказы на пытанні (мае адказы [носяць] суб'ектыўны характар. Мая асабістая прыватная думка).

— *Як да сучаснай моладзі [ставіцеся]?*

— Стаўлюся добра. Неўзабаве гэта сталасць нашай краіны, грамадства і значнасці.

— *Ваша мэта і ацэнка пяра?*

— Не буду [даваць ацэнку].

— *Які твор задумалі напісаць ў будучым?*

— Якраз і думаю. Задума — этап значней за сам твор. Многія не суразмяраюць магчымасці і задумы, задумаюць 4 тамы, а хапае на 1 том.

— *Жыццё вашых твораў ў кіно?*

— Гэта ўжо іншае жыццё. Атрымліваецца іншае, чым меў на задуме пісьма. Найлепш «Восхождение»[2].

— *Чаму назвы вуліц толькі па-руску?*

— Мова адмірае, а мы не прапагандуем мову. Каб толькі праблема ў аб'явах станцыяў метро — гэта паўбяды. Татальная праблема. Можа, цяпер нешта зрушыцца. Вінаваты ўсе. У першую чаргу мы, беларусы, мы самі ад яе патроху адышліся. Начальства не спрыяла, не заахвочвала адыход ад роднай мовы. Ёсць захады ЦК. Канчаткова пры ўдзеле ўсяго насельніцтва.

— *Творчыя адносіны да Шукшіна[3]?*

— Іх шмат.

— *Якое месца наша літаратура [займае] ў свеце? Ці ведаюць на Захадзе? У Францыі, у Сарбоне?*

— Не надта ведаюць. Кніжнага буму няма. Кнігарні завалены гожа выдадзенымі кнігамі. Здаецца, у 9-м Інстытуце ў Сарбоне выкладаюць мовы Савецкага Саюза, а беларуская мова не выкладаецца.

— *Які твор найбольш аўтабіяграфічны?*

— Проста спісанага з жыцця няма. Найбольш «Трэцяя ракета», «Мёртвым не баліць».

— *Як шмат часу [аддаецца] збору матэрыялу?*

— Я не гістарычны пісьменнік. Увесь мой матэрыял у душы, у галаве. Прэса, успаміны, кніжкі ўздзейнічаюць. Спецвышукаў не рабіў.

---

[1] Гарун Алесь (сапр. Прушынскі Аляксандр Уладзіміравіч; 1887–1920), беларускі паэт, публіцыст; рэвалюцыйны і грамадскі дзеяч.

[2] «Узыходжанне» — фільм Л. Шапіцька па аповесці «Сотнікаў» В. Быкава. *Шапіцька* Ларыса Яфімаўна (1938–1979), рускі кінарэжысёр. Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1979).

[3] Шукшын Васілій Макаравіч (1929–1974), рускі пісьменнік, кінарэжысёр, акцёр. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1971), Ленінскай прэміі (1976, пасмяротна).

— *Вобраз Сцепаніды, ці ведалі такую?*

— Гэта блізкая мая цётка Сцепаніда, але ўсё ж ён «сочинённый».

— *Сучасная моладзь — панкі, рокеры?*

— Не маю адносін да іх, [яны] мяне [не] інфарміруюць аб сваіх накірунках. Але калі там моладзі цікава, моладзь будзе займацца, незалежна ад старэйшых і нават ад міліцыі! (*Воплескі*.)

— *Ці верыце ў нас, юных? Што параіце блуждающим?*

— Знайсці сваё шчасце.

— *Раскажыце пра сваё юнацтва, пра сваё каханне.*

— Юнацтва далёкае, забыўся. Нічога асаблівага не было. Паглядзіце на сваіх бацькоў.

— *Адносіны да «Апошняй пастаралі».*

— Алесь Адамовіч разумны, таленавіты, праявіў [сябе] як публіцыст. Кнігі яго заўважаны ў свеце. Шматстаночнік. Яму б хапіла публіцыстычных, крытычных [прац]. «Пастараль» твор цікавы. Выбіваецца з рэалістычнай плыні. Але ці толькі фантазія гэта? Можа, блізка да ісціны ў час усеагульнай пагрозы. Супроць атамнай бязглуздзіцы.

— *Да «Плахі»*[1] *адносіны, да Аўдзія?*

— Твор выдатны. Выдатны празаік сусветнай велічыні. Самая лепшая рэч «Плаха». Вобраз Аўдзія не бянтэжыць мяне. Гэта шукальніцтва бога ў самім сабе. Бо мы абязбожыліся за вайну. У маральным сэнсе вышэйшая апора павінна жыць у чалавеку.

— *Пра сустрэчы з Сіманавым.*

— Некалькі. Пасля вайны. Ездзілі па рэспубліках. Выдатныя дакументальныя творы. Самы харошы з ваенных савецкіх пісьменнікаў.

— *Калі і як пачалі пісаць? Ваш першы твор?*

— Ручку [узяў], сшытак і пачаў пісаць. Першае апавяданне [надрукаваў] ў «Гродзенскай праўдзе». Пасля перапынак. З сярэдзіны 50-х зноў — да сёння.

— *Працэс перабудовы [як падзейнічаў] на Вас?*

— Рыгору [Барадуліну] паверыў і не перабудаваўся.

— *Як пішуцца творы, як узнікаюць задумы?*

— Задума кожнага твора па-рознаму [ўзнікае]. Можа ў тралейбусе, можна, слухаючы радыё. Кожная задума па-новаму, індывідуальна, на ранейшую не падобна. Лепш з раніцы, не адрываючыся, мэтанакіравана пісаць. Даводзіцца адрывацца на паездкі. Пасля цяжка ўваходзіць у

[1] Раман Ч. Айтматава. *Айтматаў* Чынгіз Тарыкулавіч (1928–2008), кыргызскі і рускі пісьменнік, грамадскі і палітычны дзеяч. Народны пісьменнік КіргССР (1968). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Герой Кыргызскай Рэспублікі (1997). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1963), Дзяржаўнай прэміі СССР (1968, 1977, 1983), Дзяржаўнай прэміі КіргССР (1976), Літаратурнай прэміі «Этрурыя» (Італія, 1980), Міжнароднай прэміі імя Дж. Нэру (1985), Еўрапейскай літаратурнай прэміі (1993).

атмасферу. Іншы раз і не ўвойдзеш, і тады не напісаў. Вяртаўся «Дажыць да світання». Чым больш у пісьменніка вопыту, [тым] цяжэй. «Трэцюю ракету» за тры месцы [напісаў]. Цяпер гадамі адну аповесць [пішу].

*— Да вайны хацелі стаць мастаком, а сталі пісьменнікам?*

— Вайна перашкодзіла. Мастаку штодзень трэба практыкавацца. На вайне алоўкам маляваў. Толькі ў 55-м годзе развітаўся з арміяй.

*— Што можаце сказаць [пра] Адамчыка, Чыгрынава[1]?*

— Гэта нашы знакамітыя раманісты. Раманы праўдзівыя. Падабаецца пластыка Адамчыка. «Плач перапёлкі» [Чыгрынаў] разгарнуў. Скончыў няпэўна. Вымагае яшчэ столькі ж тамоў.

*— Ці памагаюць пісьмы чытачоў, ці перашкаджаюць?*

— Я чытаю, ды не маю магчымасці адказваць, бо не маю часу. Гістарычны шырокавядомы факт скоўвае пісьменніка, завужае яго магчымасці.

*— Чаму не адбыўся Дзень паэзіі Сіманава ў Беларусі?*

— Наша пісьменніцкая бюракратыя належна не адрэагавала. Справа будзе папраўлена.

*— Пімен Панчанка ў апошнім «ЛіМе» зняверыўся ў перабудове?*

— На нашу перабудову першы адгукнуўся. Калі выказаў трывогу, дык яна не ўзята са столі. Выдатна, калі такі момант заўважылі чытачы. Трэба больш прыслухоўвацца да нашых патрыярхаў.

*— Як [ставіцеся] да вершаў, і Ваш любімы паэт?*

— Вершаў не пісаў, паэзію чытаю не ўсю, а сваіх любімых. У Беларусі Пімен (яго ў першую чаргу), ягоны нерв чуйны. Можна не чытаць перадавіцу, а толькі Панчанку. Распісаўся Сяргей Законнікаў, у росквіце. З рускіх. Многа паэзіі Слуцкага[2]. Усім раю. Усе выдатнейшыя вершы. Як мог трымаць іх у стале? Не пад[трымала] яму [яго ?] грамадства, недадало, вінавата перад ім.

*— Вашы кнігі [аб] вайне. Ці збіраецеся [пісаць] пра сённяшні дзень?*

— Можа, напішу. Ёсць задумы.

*— Вобраз Джуліі, ці ёсць прататып?*

— Я ўжо адказваў у прэсе.

*— Ці згодны, што зберагчы беларускую мову памаглі выкладчыкі, у барацьбе з дырэктарам, з бацькамі? Цяпер узяліся за настаўніка, і мы як недалужныя нявесткі ў злой свякрухі.*

---

[1] Чыгрынаў Іван Гаўрылавіч (1934–1996), беларускі празаік. Народны пісьменнік РБ (1994). У 1976–1986 гг. сакратар праўлення СП БССР. У 1987–1996 гг. старшыня праўлення Беларускага фонду культуры. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1974), Літаратурнай прэміі імя А. Фадзеева (1979).

[2] Слуцкі Барыс Абрамавіч (1919–1986), рускі паэт.

— Найперш заслуга настаўнікаў. Цяжка ў вёсцы, асабліва ў горадзе. Вышэй галаву.

*— Кар[эспандэнт] газеты Аляк. Быкаў. У «Знаку бяды» калектывізм, ужо адыходзіце ад ваеннай тэмы?*

— Хачу звязаць з перадваеннымі 30-мі гадамі.

*— Як спадабаўся горад?*

— Горад з традыцыямі, даўні. Новы горад напалову цывілізаваны. Горад павінен мець сваю даўніну. Шануйце яе.

*— Хто ўплываў на творчасць з пісьменнікаў?*

— Уплывае не адзін пісьменнік, адзін твор, а комплексна.

*— Што такое паскарэнне для пісьменніка?*

— Не значыць — шпарчэй на нагу.

*— Чаму [пішаце] толькі аповесці?*

— Не люблю вялікія і чытаць, акрамя класікі. Аповесць хутчэй чытаецца.

*— Важна Вам уласная мараль ці паводзіны?*

— І мараль, а чалавек і паводзіны — галоўнае ў літаратуры.

*— Над чым [працуеце]?*

— Думаю над новым творам. Колькі буду думаць, не ведаю. Можа, да Новага года.

*11 снежня, пятніца*

Сустрэча з іспанскім паэтам — Леапольда Кастылля.

*19 снежня, субота*

*Івану Бурсаву*
*Эспромт*

У дзень свайго шасцідзесяцігоддзя
Сказаць не паспяшайся, дружа,
Годзе
Жыццю, быццю,
І шчасцю, і пакуце.
Надзею май трымацца тут
Пакуль
Там на кут
Займаюць іншыя чаргу.
І на закоце сонца
Досыць ласкі.
Вер у ману жыцця —
Салодкай казці.

У рукі качаргу —
Гані каргу!

*20 снежня, нядзеля*

*Ігару Лучанку пра саюз*

Творчы саюз можа быць, —
Падкрэслівае Лучанок, —
Без сакрэтаў працы
І паху пялёнак,
Саюзам творцаў —
Мужчын і жанок,
А не саюзам жонак[1].

*(Пасля Лучанка)*
*** Ёсць толькі агонь і тло, а болей няма нічога[2].

---

[1] Гл.: Пра творчы саюз ([1990]) // Дзень паэзіі-91. Мінск, 1991. С. 221.
[2] Гл.: «Ёсць толькі агонь і тло...» (14.12.87) // Самота паломніцтва. С. 132.

## 1988

*3 студзеня, нядзеля*

Васіль Быкаў: «Калі мая дэмакратычная душа была выпрабавана на асялку дэмакратыі».

*10 студзеня, нядзеля*

Нудная паездка ў душным вагоне ў *Віцебск.* Бабуля, двое ўнукаў. Яе дачка. Унук дуроны. У Віцебску садзімся ў аўтобус, яна зноў: «Ці багаты на білеты?» Як маслам па сэрцы такая форма!

Ул. Папковіч[1]: « У ГДР чуў: лепш з сакратаркай грудзі ў грудзі, чым з партыйным сакратаром плячо ў плячо».

[Адрас чужой рукой:] Віцебск, 210035, вул. Праўды, 63, кор. 6, кв. 40. Калінін[2] Вальдэмар Ілліч (Ром); Віцебск, 210022, вул. Чкалава, 24, корп. 3, кв. 48. Ан. С. Емяльянаў.

*12 студзеня, аўторак*

Па дарозе на Ушачу. Ала, аднакласніца, пра дачку: «У яе добрыя паносы (нацяжку). Няскураная, няспітая дзяўчына».

* Карову [глядзяць] — па рагах, жанчыну — па нагах, ногі — твар жанчыны.

*13 студзеня, серада*

*п. Ушачы, в. Баркоўшчына.* Крыніцы, вадаправод з дрэва, бярвенне, унутры жалабы і злучаныя цікава адно з адным. Не меней як XII ст., *в. Пулкавічы.* Музей Броўкі, дзверы, кручок ад вакна, — усё, што ад хаты засталося.

У Марыі Рыгораўны: калядніца; малы запа́длівы; стушкувалі яе.

*Мярлог — мурог.*

*15 студзеня, пятніца*

Не можа быць былых бл.дзей і былых кэгэбістаў — гэта занятак да скону.

---

[1] Папковіч Уладзімір Антонавіч (н. 1935), беларускі пісьменнік, перакладчык.

[2] Калінін Вальдэмар Ільыч (н. 1946), цыганскі паэт, перакладчык. Лаўрэат Міжнароднай прэміі Херасімы (Швецыя), Літаратурнай прэміі «Цыгаская прэмія» (Венгрыя). Ураджэнец Беларусі.

*20 студзеня, серада*

Паэзія заварушылася (Ул. Гніламёдаў[1]).

*23 студзеня, субота*

*Навуму Кісліку*
*(на «Парастку радка...»)*

Развагі ЦУМ,
Спагады ГУМ
І клёку —
Імпартная база
Змяшчаюцца ў табе,
Навум,
Жыві,
Хай згіне ўся зараза!

*27 студзеня, серада*

*Міколу Грынчыку*
*(на «Парастку радка...»)*

Малюся:
Шлі ты, Божа, сілу,
Каб наскі дух
Не быў раструшчаны, —
Міколу Грынчыку —
Свяцілу
Навукі, клёку Беларушчыны!

*30 студзеня, субота*

*в. [Старая] Мётча*. Наведванне Мётчынскай школы-садка, дырэктарам якой быў У. Лайкоў[2].] Малодшыя класы.

— Ваша любімая казка?

У зале школы:

— Вы часта дома бываеце, а ці не забыліся, што рабілі раней. (У адказ на пытанне, які бок у каровы з пашы выпаўзе).

Едзем па дарозе, за рулём:

---

[1] Гніламёдаў Уладзімір Васільевіч (н. 1937), беларускі крытык, літаратуразнавец, празаік. З 1976 г. нам. дырэктара Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР, з 1977 г. адначасова заг. аддзела тэорыі літаратуры. Доктар філалагічных навук (1987), член-карэспандэнт НАНБ (1994). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя У. Калесніка (1996).

[2] Лайкоў Уладзімір Піліпавіч (н. 1953), беларускі настаўнік, краязнавец. З 1979 г. дырэктар Мётчынскай адукацыйна-выхаваўчай установы «Школа-садок» Барысаўскага р-на Мінскай вобл. Кіраўнік музея «Літаратурны космас Мётчы».

— Тут хутка ехаць не магу — загінуў малы.

У вёсцы Смаленшчыны [расказвае, кажа адзін:] «На краі жыве ненармальны, трымае свіней, курэй...»

*1 лютага, панядзелак*

*Нэлі Тулупавай*
*[на 50-годдзе]*

Люты пачынаецца табою,
А ў самога сэрца халадзае,
У каханні лютаю да болю
Будзеш ты,
Як песня, маладая.
Зробяць лугам недаверу гурбы,
Сэрца захлынуць у перапудзе
Неліны спакуслівыя губы,
Нэліны, як сквар паўдзённы, грудзі,
Каб жаданнем хлопцы не ўлянелі,
Каб яснелі пачуццём пачутым,
Як пралеска гомельская, Нэлі
Узышла — у дакор снягам
У лютым.

*Марине Наталич*
*(на кн. «Кошки в лукошке»[1])*

Марине Наталич,
Любимой Наташе
Из жизненной чаши
Пить счастье,
Летая,
Летая в заоблочной выси,
Желаю,
И, выйдя из чащи
Мелькания,
Чаще
Одно повторяю:
— Наташу желаю!

[1] Бородулин Р. Кошки в лукошке: Весёлые стихи и сказки. Минск: «Юнацтва», 1985. Пер. И. Бурсова.

*9 лютага, аўторак*

*Валянціну Тарасу*
*[на дзень нараджэння]*

Аж валіць чад
З літаратурных люшак,
Хістаюцца пакою каміны,
Яшчэ з вайны
Вайну вядзе Валюшык
З прыспешнікамі
Фальшу і маны.

*10 лютага, серада*

*Паўлу Шрубу*
*(на «Парастку радка...»)*

Паэзія — трывалы зруб
Ды надруб з подрубам, дарэчы.
Любому зрубу Павел Шруб
Сваё бярно ўзваліў на плечы.

*13 лютага, субота*

* * *

Я з ёй загаварыць
Да холаду баюся.
З ёй піва не зварыць —
Капрызная бабуся.

Дарэмна патакаць,
Дарэмна ў полі гнуцца.
Да часу б не спаткаць,
Да часу б размінуцца.

*15 лютага, панядзелак*

Званю Васілю Быкаву, кажу, што пераклаў вершы Шагала.

— Я вершаў не перакладаў, але ведаю, што гэта такая смалістая работа.

*18 лютага, чацвер*

О, гэтая перабудова —
Усе адчулі волю (голад) слова.

Схапіць літлейцы[1].

*19 лютага, пятніца*

* * *

Таямніца макавага зерня.
На калінавых мастах.
Містыка, містэрыя, майстар,
Маці.
Маціевіч[2].
Маг.
Мастак.
Таямніца прыцемка і зерня.
Здані на калінавых мастах.

*20 лютага, субота*

*Міхаілу Іванавічу Дзяльцу*
*З нагоды юбілею*

У кніжным моры ас і спец,
Рыбак і паляўнічы зоркі
Міхал Іванавіч Дзялец
На кіраўнічыя пагоркі
Глядзей не дужа,
Болей дбаў
Пра план і плён,
Пра значнасць спраў.
Яго жыццёвы небасхіл
Не засцілала звадаў хмара.
Духоўных і дзялецкіх сіл
Яшчэ зашмат у юбіляра.
Фугуючы за томам том,
На дзяржвыдат глядзіць няхмура
Найбольш любімая Дзяльцом
«Мастацкая літаратура».

*24 лютага, серада*
*[Дубулты.]* Паездка ў *Рыгу* Дазваніцца дамоў[3].

---

[1] Гл.: Але ([1989]) // Дзень паэзіі-89. Мінск, 1989. С. 285.
[2] Маціевіч Алег Мікалаевіч (н. 1947), беларускі мастак.
[3] Гл.: ? («Я сніў чужыя гарады?..»); Лёс (24.02.88, на свой дзень народзінаў; Дубулты) // Самота паломніцтва. С. 216; 102.

*25 лютага, чацвер*

Па гаспадарцы і за пераклады Карласа [Шэрмана].

*26 лютага, пятніца*

Паход з Віктарам[1], пасля вячэра — сала з гарэлкай пасквічам [?].

*27 лютага, субота*

Пазваніць дамоў, Быкаву. Кіно «Вакно ў спальні». Рудзітэ[2] кветкі.

*28 лютага, нядзеля*

Крыху пабасцяцца па *Юрмале.* Падагнаць Карласа [Шэрмана]. Госці ў Віктара [Ліўземніека].

*29 лютага, панядзелак*

Сазваніцца з Мінскам. Кіно «Прывіды ў замку Шпекарт». Матэрыялы пра Скарыну. Рыце[3] — пан[?].

* ≈ 6 сакавіка 1486 — у дзень сонечнага зацьмення ў Полацку, бо на гравюрах у выданнях Скарыны часта сустракаецца выява сонечнага дыску, аслоненага маладзічком. Franciskus Luce de Ploczko (Францыск сын Лукі з Полацка). Геаметрыя — землемерие. Астраномія — звездочети. «Пахвальнае слова ерасі». «Запозненая падзяка Гутэнбергу»[4]. Прычасце і віном, і хлебам. Гараскоп Скарыны.

Люд паспаліты з Белай Русі,
Колькі яшчэ стагоддзяў
Ты на алтар забыцця аддасі.

Садоўнік [вырошчвае] свой сад ідэй. Знайсці траву, што ад забыцця лечыць і ад сурокаў.

*1 сакавіка, аўторак*

Дазваніцца да Мінска (ура, Хаям ёсць!). Калі прыедзе Ілона.

*2 сакавіка, серада*

У Віктара [Ліўземніека] дзень нараджэння. Дабіваць Карласа [Шэрмана].

[1] Ліўземніек Віктар (сапр. Ліўзеніек; 1936–2015), латышскі паэт, празаік, перакладчык, крытык.

[2] Ліўзеніетэ Рудытэ, жонка В. Ліўземніека (Ліўзеніека).

[3] Рыта Маркаўна, жонка І. Бурсава.

[4] Гл.: Запозненая падзяка Гутэнбергу (5.03.91, Дубулты) // Міласэрнасць плахі. С. 114.

*Віктар Ліўземніек*

Усё рабіць прывык як след
Даследчык, крытык і паэт.
Пра Упіта[1] да нашых дзён
Даўно задумаў кнігу ён.
Ды кнігі той дасюль няма —
Ніяк не пішацца сама.

*1989, «Братэрства»*

*3 сакавіка, чацвер*
Напомніць Ілоне і Валі пра Хаяма, пра карэктуру, пра гарэлку.

*Экспромт у Дубултах*

Усмяглы дружа Карлас Шэрман —
За перакладам пераклад.
Ані адзін яшчэ фужэр нам
Цадзіць да дна на добры лад.
Фужэр надзеі і адчаю,
Фужэр самоты і тугі.
Няхай супольнасць нас лучае,
Як цеціва свой лук тугі.
Каб наша радасць спеўнастрэла
Дала святло чужой душы,
Каб нас само жыццё сустрэла
На гэтым тлумным кірамашы!

*4 сакавіка, пятніца*
Сустрэць Ілону, [цягнік] «Кіеў — Рыга».

*5 сакавіка, субота*
18.00. Вечар у юрмальскім Доме піянераў (прыедзе Вія [Артманэ]).

*6 сакавіка, нядзеля*
З Ілонай у *Слоку.* Пазваніць ў Мінск.

*7 сакавіка, панядзелак*
З Ілонай у Слоку. Падарунак прыбіральшчыцы. Дазваніцца ў Мінск.

---

[1] Упіт Андрэй Мартынавіч (1877–1970), латышскі пісьменнік, літаратуразнавец, дзяржаўны і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік ЛатвССР (1943). Акадэмік АН ЛатвССР (1946). Герой Сацыялістычнай Працы (1967). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946).

* * *

*[N.]*

Кожнае крыло падцятай гірай
У цябе таксама,
Што ў мяне,
Прагнецца душы
На волю, ў вырай,
Прытаміўшыся ў святой мане.
А чаму мана святая наша?
А таму (за гэта ёй хвала!),
Што пяшчоты перазяблай паша
Хоча пасвіць табуны цяпла.
Пашу кроілі абразы плугам,
Ад яе чакалі барыша.
Жураўы лятуць у вырай цугам,
Ім услед маркоціцца душа.

*8 сакавіка, аўторак*

Павіншаваць ў Мінску Заю, Галю [Шаранговіч], Карласаву Тамару[1].

*9 сакавіка, серада*

Званіць наконт Хаяма. Закончыць Карласа [Шэрмана] і карэктуру дачытаць.

*10 сакавіка, чацвер*

Правадзіць Ілону ў Мінск. Перадаць Карласу [Шэрману] пераклады, карэктуру Хлебавец[2].

*11 сакавіка, пятніца*

Сазваніцца з Карласам [Шэрманам], з Сёмухам, з Зайцам.

*12 сакавіка, субота*

Пазваніць рабёначку [Ілоне], Карласу [Шэрману]. Дабіваць «Сабор людзей»[3].

---

[1] Ніканава Тамара Вячаславаўна, жонка К. Шэрмана.

[2] Хлебавец Валянціна Мікалаеўна (н. 1951), у 1985–2002 гг. рэдактар, вядучы рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[3] Першапачатковая назва паэмы «Самота паломніцтва».

*13 сакавіка, нядзеля*

Карласу [Шэрману], рабёначку. Дакончыць «Самоту паломніцтва» («Сабор людзей»).

*14 сакавіка, панядзелак*

Сазваніцца з Мінскам, аформіць на Зайца.

* * *

*[N.]*

Пачынаю цябе забываць…
І са дна забыцця ўсплываюць
Рукі, якія мяне ад цябе
Не адштухнулі ўвечары;
Вочы, якія, уранні зірнуўшы,
Ува мне ўсе віры ўзвірылі;
Грудзі, якія вострымі рожкамі
Забалі, забалі, забалі;
Вусны, якія ўсё адамкнулі
Словам нязмушаным.
Са дна забыцця ўсплываюць
Драбязінкі,
Ажно да радзімкі,
Якую дацалаваць спадзяюся.
Пачынаю цябе забываць,
Якая ты ўсё-ткі?

* Ад лаўсана і звер бяжыць.

*15 сакавіка, аўторак*

Сустрэць Зайчыка. Да Колберга[1] наконт Куксо

*Андрыс Колберг*

Дэтэктыўна-аб’ектыўна
Колберг бачыць свет актыўна.
Ён дакладны ўлік вядзе,
Хто, каго, за што і дзе.
На экране і ў рамане
Зблыталіся людзі, здані.

*1989, «Братэрства»*

---

[1] Колберг Андрыс (н. 1938), латышскі празаік, кінасцэнарыст.

*16 сакавіка, серада*

Пазваніць Быкаву, Карласу [Шэрману].

*17 сакавіка, чацвер*

Карласу [Шэрману], каб Марціновічу [ў] «ЛіМ» з французскай падборкай.

*18 сакавіка, пятніца*

12.00 — з Янісам Рокпелнісам наконт «Братэрства», Іммерманіс, Людміла Ганчарова.

*19 сакавіка, субота*

Ліст Ул. Калесніку[1] ў Брэст.

*20 сакавіка, нядзеля*

Свята вясны ў Юрмале.

*21 сакавіка, панядзелак*

Закончыць Амара Хаяма.

*22 сакавіка, аўторак*

Рыга, тэлеграма Калесніку, званок Лане [Ілоне], Навуму [Кісліку], Куксо.

*23 сакавіка, серада*

Правесці Зайца ў Рыгу на Мінск. Навуму [Кісліку] — грошы папрасіць.

* * *

*[N.]*

Я кахаю цябе адну,
А за што,
Невядома самому.
Ці за тую святую ману,
Ці за тую святочную стому,
Што даўно ачмурыла мяне,
Без якіх не ўяўляю сябе я
Ні наяве,

---

[1] Калеснік Уладзімір Андрэевіч (1922–1994), беларускі крытык, літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук, прафесар. У 1956–1994 гг. заг. кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Пушкіна. Заслужаны работнік вышэйшай школы БССР (1979). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1980).

Ні ў марах, ні ў сне,
Без якіх не жыву, а гібею.
Я кахаю цябе адну,
Невядома самому, завошта.
Ці за тую віну,
Дзе вясну
Пераблытала з восенню пошта.
Пошта руху вачэй і рук,
Пошта пошапту, немасці, крыку.
Ды не каркай, зацятасці крук,
Памаўчы хоць на час для прыліку.
Давяраць пачынаю дну,
Дзе жахліва і духу злому.
Я кахаю цябе адну,
Што са мной,
Невядома самому...

* Руская народная песня «Санта *Лучына*».

Толькі вырас адзін куст ракітавы,
Без вады, без расы ён пакінуты.

*(Народная рыфма.)*

*24 сакавіка, чацвер*
Атрымаць ад Навума [Кісліка] перавод. Купіць Лане блакноцікі.

*25 сакавіка, пятніца*
Поштай адаслаць кнігі ў Мінск, рукапісы.

*26 сакавіка, субота*
Сустрэць Куксо, тэл. Куксо 21–65–03. [гас.] «Рыга».

*27 сакавіка, нядзеля*
Падрыхтоўка, нарыхтоўка.

*28 сакавіка, панядзелак*
Rīga. З Куксо, у Дубулты сустрэць.

*29 сакавіка, аўторак*
Цягнік. З Косцем [Куксо] у Дубулты.

*30 сакавіка, серада*
Хелемскія, Веяны, Ліўземніекі, Руі[1] — вячэра на развітанне.

*Андрыс Веян*

Што шчыраю рукой пасеена,
Узыдзе шчодрым ураджаем.
Мы ў працы і ў асобе Веяна
Канкрэтна дружбу паважаем.
Хай Андрысу на поспех латвее —
Жадаюць Беларусь і Латвія.

*1989, «Братэрства»*

*Валдыс Руя*

Мэтаўпэўнены Валдыс Руе
З лёгкай славаю не сябруе.
Пра латышскіх стралкоў радкі
Болей думаюць пра вякі.

*1989, «Братэрства»*

*31 сакавіка, чацвер*
12.00 — машына. СП Латвіі. 15.16 — на Мінск.

*1 красавіка, пятніца*
На працу. Да Навума [Кісліка] аддаць доўг.

*2 красавіка, субота*
Атрымаць на пошце бандэролі. Быкаву звон — віншаваць з цікавым артыкулам.

*3 красавіка, нядзеля*
Каталіцкі Вялікдзень.

*4 красавіка, панядзелак*
Праца. Хелемскаму званіць, [спытаць] адрас Берынскага[2]. Да Косці [Цвіркі] ў «Полымя», забраць паэму Пруднікава[3].

---

[1] Руя Валдыс (сапр. Крыкіс; н. 1928), латышскі паэт і перакладчык.
[2] Берынскі Леў Самуілавіч (н.1939), рускі і яўрэйскі паэт, перакладчык.
[3] Пруднікаў Павел Іванавіч (1911–2000), беларускі паэт, празаік, публіцыст. Быў рэпрэсаваны.

*5 красавіка, аўторак*

Пасля 2-х чакаць Мішу Мінковіча[1].

*7 красавіка, чацвер*

Быць у Брэсце на сустрэчы. Калеснік 6–54–86. 20.00 — вечар у палацы [?].

*8 красавіка, пятніца*

10.00 — ад'езд у *Каменюкі.* Школа, выступленне.

*9 красавіка, субота*

Магазін «Паліткніга», узяць [альбом] «Вяртанне». Тэлеграмы Берынскаму, А. Ганчару[2].

*10 красавіка, нядзеля*

Прылюдзіць паперы такія-сякія.

*11 красавіка, панядзелак*

Праца. Да Лёлі (бухгалтэрыя). Узбекістон.

*12 красавіка, аўторак*

10.00 — выдавецкая лятучка. Нарада (мова, школа). Оптыка — акуляры.

*13 красавіка, серада*

10.00 — ЦК. Нарада (мова, школа), нарада манекенаў[3]. Да Та́раса.

*14 красавіка, чацвер*

Праца. 16.30 — філфак. Вечар Дж. Г. Байрана. 19.00 — вечар Ігара Лучанка.

*15 красавіка, пятніца*

Праца. Тэлеграму Сурскаму[4].

---

[1] Мінковіч Міхаіл Ліпавіч (н.1923), беларускі фотакарэспандэнт.

[2] Ганчар Алесь (Аляксандр Цярэнцьевіч; 1918–1995), украінскі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Акадэмік АН УССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі ( 1962), Ленінскай прэміі (1964), Дзяржаўнай прэміі СССР (1948, 1949, 1982). Герой Украіны (2005, пасмяротна).

[3] Гл.: Манекены (15.04.88) // Бервенізацыя. Мінск: Выд-ва ЦК КПБ (Бібліятэка «Вожыка»), 1988. С. 60.

[4] Сурскі Алег Аркадзьевіч (1928–2012), беларускі дызайнер, мастак, мастацтвазнавец. Гл.: Вязень (18.04.88) // Самота паломніцтва. С. 229.

*16 красавіка, субота*

Суботнік. Лехі [дачны ўчастак Барадуліных у Заслаўле]. 60-годдзе Сурскага, быць.

*17 красавіка, нядзеля*

Дабіць праўкі Пруднікава.

*Пімену Панчанку*
*(на альбоме «Вяртанне»)*

Гэта — наша Ушаччына.
Прыміце, Пімен Емяльянавіч, яе.
Жаўранак начуе ў тым блакіце,
У той душы,
Дзе дабрыні стае!
У бягомельскіх стае лагоды,
Родніць лесуновая радня.
Душы ўшацкія бягуць заўсёды
Бегма аж да Бегамля да дня.

*(На «Парастку радка...»)*

Парастак радка, галінка верша —
З панчаўскага яны ствала.
Пімен быў, і ёсць, і будзе першы,
Рэшта — гэта цемра без святла.

*18 красавіка, панядзелак*

10.00 — пасяджэнне з кнігагандлярамі. 15.00 — атэстацыя [супрацоўнікаў выдавецтва].

*19 красавіка, аўторак*

Атэстацыя. Марыя Людкевіч[1], Аксана Сенатовіч[2].

*20 красавіка, серада*

Праца. Атэстацыя.

*21 красавіка, чацвер*

11.00 — сустрэча са Шнарэвічам[3]. 15.00 — атэстацыя.

---

[1] Людкевіч Марыя Ёсіпаўна (н.1948), украінская паэтэса.
[2] Сенатовіч Аксана Паўлаўна (1941–1997), украінская паэтэса, перакладчыца.
[3] Шнарэвіч Уладзімір Сяргеевіч (н. 1946), беларускі мастак і гісторык.

*22 красавіка, пятніца*
Атэстацыя. Роўбу званіць.

*23 красавіка, субота*
Перадрук Хаяма.
*24 красавіка, нядзеля*
Перадрук Хаяма для «Вожыка».

*Рэму Ткачуку*[1]

Заўсёды раіў Рэм Ткачук:
Працуй у асалоду,
Пакуль трывае твой плячук,
Каб мець натхнення згоду
Падрыхтаваць як больш папер
І падпісаць адразу,
Меў Рэм Ткачук намер,
Цяпер
Мяняе рэзка базу.
Там, дзе жыруюць акуні,
Дзе нарастуюць плоткі,
Праводзіць можна мірна дні
І не вычытваць зводкі,
Хто даў, хто ўзяў,
Хто недадаў,
Хто ўперадзе, хто ззаду.
Сядзі пасмейвайся ў рукаў,
Склікай сваю нараду,
Дзе старшынёю пан настрой,
Лагода сакратаркай,
А міласэрнаю сястрой
Усмешка з поўнай чаркай.
А ў чарцы напітак той.
Якога сэрца прагне.
Як чарка зробіцца пустой,
Застогнуць чэрці ў багне.
Цяпер кантакты за мяжой
Наладжаны што трэба,
Наступнік не з пустой душой
Хай паглядзіць на неба.
Рабіў надвор'е Рэм Ткачук,
Якога любяць людзі.

---

[1] Ткачук Рэм Аляксандравіч, 1-шы нам. старшыні Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю.

Наш беларускі кнігадрук
Удзячны Рэму будзе.

*25 красавіка, панядзелак*

Да Якава Абрамавіча [Серпера]. На пошту. Ждановіч [час.] «Беларусь». Атэстацыя.

*26 красавіка, аўторак*

10.00 — атэстацыя. Дзень нараджэння ў Анны Навумаўны[1].

*27 красавіка, серада*

Да Яшы [Серпера]. Партсход.

*28 красавіка, чацвер*

12.00 — кінастудыя, верш пра Шагала[2].

*29 красавіка, пятніца*

11.00 — запіс на тэле [да] 1 Мая.

*30 красавіка, субота*

9.00 — на лехі з Артурам [Вольскім].

*1 мая, нядзеля*

Дакончыць Шагала для малюткі [малафарматнае выданне][3].

*2 мая, панядзелак*

У Тáрасаў. Дамоў, у Мінск.

*3 мая, аўторак*

Да Яшы [Серпера]. Забраць «Сорок сорок»[4] у кнігарні.

*4 мая, серада*

10.00 — лятучка.

*5 мая, чацвер*

17.00 — у А. Фомчанкі[5], да Ждановіча.

---

[1] Кіслік Анна Навумаўна, маці Н. Кісліка.

[2] Гл.: Марк Шагал ([1988]) // Самота паломніцтва. С. 254.

[3] Шагал М. Паэзія. Мінск, 1989. Пер. з мовы ідзіш Р. Барадуліна і Л. Бярынскага.

[4] Бурсов И. Сорок сорок. Минск, 1988.

[5] Фомчанка Алег Сямёнавіч (н. 1932), беларускі журналіст, пісьменнік.

*6 мая, пятніца*
Падагнаць рукапіс.

*7 мая, субота*
Праца.

*8 мая, нядзеля*
Міры[1] дзень нараджэння.

*9 мая, панядзелак*
Кіно «Ракасоўскі».

*11 мая, серада*
Вечар [прысвечаны выхаду альбома] «Вяртання».

*12 мая, чацвер*
Андрэю Вазнясенскаму 55. 11.30 43-я аўдыторыя філфака, Лойка.

*18 мая, серада*
10.00 — СП. Сустрэча з французамі.

*19 мая, чацвер*
К. Лібкнехта, 32. 14.15.

*27 мая, пятніца*

*Васілю Быкаву*
*(на альбоме «Вяртанне»)*

Маці наша Ушаччына
Свету цябе дала.
Мужны,
Душой не растрачаны,
Быкаў — апора зямлі,
Той, што сябе
Беларускаю лічыць,
Сівая, як быль.
Вечнасць павекам плюскае:
Дзе ўзгадаваўся Васіль?
Толькі з ўшацкай зямлі
Могуць прыйсці Васілі.

[1] Салавей Міра Захараўна (Залманаўна), зямлячка; жонка Я. Серпера.

*29 мая, нядзеля*
«Калыханка» [праграма Беларускага ТБ].

*30 мая, панядзелак*
Латышы. Раздаць [тэксты на пераклад].

*31 мая, аўторак*
19.00 — кінастудыя.

*2 чэрвеня, чацвер*
Секцыя паэзіі 15.00. Ганад Чарказян.

*6 чэрвеня, панядзелак*
15.00 — «Домак» [?]. 17.00 — Мастацкі музей, кубінец.

*Ігару Лучанку на 50-годдзе*

Як вецер для ветрака,
Для генія трэба пашаны пагоркі.
Спявае свет Лучанка
Ад Мар'інай Горкі
Да мройлівай зоркі.

*** *Што ж ты загруз, што заскаруз, беларус?* Чара роспачы. Чужы рот — не гарод, не паставіш плот.

[Малюнак быка А. Бембеля; подпіс:] «Алег Бембель[1]. К'ённі». 32–03–01. Я. Коласа, 299.

Леў сканаў.
Адкінуў хвост.
І ацішаліся да часу —
Хто ў абдымкі спяшаў наўпрост,
Хто ўздымаў хвалапенны тост,
Чосу ў скоках даваў абцасу…

Рот чужы не гарод,
І плот
Не паставіш,
Не зробіш нічога.
Толькі круціць насамі народ,
Бо ад мёртвага льва смурод

[1] Бембель Алег Андрэевіч (н. 1939), беларускі філосаф, паэт, публіцыст. У 1984–1986 гг. супрацоўнік Інстытута філасофіі і права АН БССР.

Наймацнейшы,
Нячым ад жывога.

[Адрасы:] Сіроцін[1] Давід Барысавіч, х. 20–77–32, сл. 62–0830; Симуров[2] А. Т. К. Маркса, д. 50/13, 3-й подъезд, 6-й этаж, тел. 29–39–73.

*8 чэрвеня, серада*

На лесвіцы Дома кнігі. Самаўпэўнены Вал. Лукша: «Еду ў Маскву на Міжнародную брахалаўку». (Міжнародная фігура. Лясны тэхнікум. Два дні п’янак на ўстановачнай сесіі. Завочная партшкола.)

Каля пераходу метро мастак Ул. Місун. Ледзь пазнаў. Перанёс інсульт. Нясе форму, адліць барэльеф на магіле маці. Ледзь ідзе. Ледзь нясе форму. «Трэба паспець…»

*18 чэрвеня, субота*

*г. Віцебск.* 80 жыхароў на вёску, змяншаюцца вёскі. На 300 тыс. менш зямлі, чым да вайны. Сям’я ў вобласці 3 чалавека. 3 школы беларускія ў Віцебску, па школе ў Полацку, Оршы. Каб кожны ідэалагічны работнік валодаў і рускай і беларускай мовай.

*в. Глыбачка*. Бацька Сяргея [Законнікава]: «І бацьку шкода, і клёцак хочацца».

*12 ліпеня, аўторак*

*г. Магілёў.* Абком. Сакратар: «Мы маглі б збываць свае тавары і на капіталістычным рынку».

[Афтограф Р. Казаковай[3]:] «Перестройку надо начинать с себя… А перестрелку — с правительства».

Ала Кірэева[4] 593–13–22 [Масква].

*13 ліпеня, серада*

*г. п. Бялынічы*. Выступае Сульянаў[5]: «Шчолакаў[6] 72 тысячы на жанчын [патраціў]». Быкаў: «72 тысячы на жанчын лепей, чым мільёны ў Афганістане».

---

[1] Сіроцін Давід Барысавіч, беларускі адвакат.

[2] Сімураў Аляксандр Трафімавіч (1921–2007), заг. карэспандэнцкага пункта газ. «Правда» па Беларусі.

[3] Казакова Рыма Фёдараўна (1932–2008), руская паэтэса, перакладчыца. Заслужаны работнік культуры УзбССР і Каракалпакскай АССР (1981).

[4] Кірэева Ала Барысаўна (1933–2015), руская журналістка; жонка Р. Раждзественскага.

[5] Сульянаў Анатоль Канстанцінавіч (н. 1927), рускі празаік. Генерал-маёр авіяцыі, ваенны лётчык 1 класа. Заслужаны работнік культуры БССР (1985).

[6] Шчолакаў Мікалай Анісімавіч (1910–1984), міністр унатраных спраў СССР (1966–1982).

Васіль Быкаў — «Трэцяя ракета», «Мёртвым не баліць» цалкам аўтабіяграфічныя. Пра вайну ў Афганістане, хто ваяваў, хто ведае.

*24 ліпеня, нядзеля*

*Дачарнобыльскі краявід*

Адлігі нервовыя пальцы
Барабаняць дрыгліва па снезе.
Вераб'ю б хутчэй пакупацца,
Не дбаць аб цёплым начлезе.

З-пад заінелых веек
Бярэзінкі грэюць даверам.
Ранак адвыкла неяк
Апошнія цені дамераў.

Льдзіну капеж праколе,
Пара́ туману падымацца.
Яліны ў белым ваколлі
Зялёныя — аж дымяцца.

Марозна скрыпяць сарокі.
Кропляй блакіту сініца
Падае ў свет шырокі
І не баіцца разбіцца.

*Найпрыдатнае прымяненне*

Яго патугі марныя
На мудрасць
Па парадку
Павыбіваць бы на мармуры
Ягонага ж азадку.

*Лехі*

*29 ліпеня, пятніца*

*Міколу Грынчыку*

Яшчэ маладзічком стагоддзе
Ты жнівень пачынай штогод.
Будзь любым у сваім народзе
І май да славы падыход.
Цябе, Мікола, сын Міхала,
Вітае Мінск, Бытэнь, Нью-Йорк.

Пі з поўнай чаркі мудрасць дбала.
Каб мёд надзеі не агорк.

*[Ліпень]*
На адкрыцці помніка Ул. Караткевічу[1].

1) Злучыў ланцуг часін, разарваны гадамі, якімі заканчваліся сямёркамі, гэта было гістарычна неабходна для нацыі.

2) Не стаяў навыцяжку перад часам, перад эпохай, а, як роўны з роўным, быў з ім. Як сапраўдны талент па традыцыі вякоў прызнавацца пачынае пасля смерці.

3) Тая глыба, якую дала беларусам вечнасць, каб на ёй трымаўся, як на падмурку, дух нацыі, дух народа. Розныя марнапатужнікі ад літаратуры, ад бюракратычна-чыноўніцкай адміністрацыі ўсіх паверхаў спрабавалі абчасаць на свой капыл, падправіць, — усё марна. «І коскі з месца не зрушу», — стаяў на сваім. І выстаяў.

*Гунару Цырулісу[2]*

Літаратура — не ціхі хутар,
Мала тут аднае натужбы, —
Гэта добра ведае Гунар —
Тэарэтык і практык дружбы.

Ён увагі не звяртае
На прыліў ухвалы шквальны,
І яго народ чытае
Інтэлектуальны.

*8 жніўня, панядзелак*

*Але Сямёнавай [на 50-годдзе]*

У жніўні хораша згадаць вясну,
Калі далёка да завеі,
Калі заход, як яблык, ружавее
І спавядацца хочацца вяслу
Перад вадой у Свіцязі святой.
А замка Навагрудскага руіны
Памогуць устаяць перад слатой
І абмінуць маланак каляіны.
Гадам не верыць шчырая душа —

[1] Гл.: Валун Караткевіча (26.07.88) // Самота паломніцтва. С. 217.
[2] Цырулісь Гунар (сапр. Цыўян Гаўрыіл Яфімавіч (1923–2002), латышскі празаік, драматург, сцэнарыст.

Сястра вясновай раніцы таропкай,
Пакуль з нябёс чарніла з ледзяша
Дол хоча прапячы нервовай кропкай.

* * *

Было, што хвастоў было
у лесе, ў паветры, ў вадзе
даволі,
адно не было солі,
каб пасыпаць на тыя хвасты.
Цяпер солі даволі
не толькі пасыпаць,
а развесці расол круты,
ды няма ўжо хвастоў
нідзе
на волі.

*26 жніўня, пятніца*

Васіль Быкаў: «Чаму пра мінулае мала ведаем? Бо даносчыкаў мала было і яны непісьменныя былі…»

*** [Без даты] В. Быкаў: «Усё ў жыцці смешна звязана. Антырэжымнікі, апазіцыя ўскосна працуе на КГБ, на іхнія зоркі на пагонах, на прэміі. Бо трэба ж справаздачы, дзейнасць».

Першы паход на Курапаты[1]. Самсон[2], Ларына[3], Карлас [Шэрман]. Маладыя Карласу: «Мы цябе на ліхтары павесім, жыдоўская морда». А тады мы: чаму яўрэі не хінуцца да нашага руху.

Калі б тое, што мёртвым, казалі жывым. Даўжэй бы пражылі, відаць.

*(Цяпер)*
*Не тыя клопаты*

Паэзію родную з даўніх дзён
Займалі клопаты розныя:
Як бульба ўрадзіла,
Як вырас лён,
(Які працадзень)
І страта, і плён,

[1] Курапаты — лясны масіў на паўночнай ускраіне Мінска, дзе былі выяўлены масавыя пахаванні людзей, растраляных НКВД ў 1937–1941 гг. З 1993 г. Курапаты занесены у Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў РБ. Гл.: Памяці ахвяр у Курапатах (28.08.88) // Самота паломніцтва. С. 42.

[2] Палякоў Самсон Германавіч (1938–2012), беларускі журналіст, кінасцэнарыст. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя А. Адамовіча (1995).

[3] Ларына, жонка С. Палякова.

Буслы, салаўі
І сцяжыны росныя.
Цікавіў надой…

«Ці многа апала цэзія?» —
Пытае цяпер паэзія.

[Накід верша жніўня 1988 г. з праўкамі 1994-га]

*31 жніўня, серада*

У магазіне «Сінтэтыка» прадаўшчыца да мужчыны. З ім яшчэ маладзіца. «Мы з тваёй маці разам у канцлагеры былі, у аршанскім». Маладзіца: «Там цяпер санаторый, Дом адпачынку».

*17 верасня, субота*

Дзень добры, *Варшава*! Адвячорак. Алеі Ерусалімскія. Некалі ў 58-м здаваліся цудам. Цяпер шырокая вуліца. Каля музея Войска Польскага старая корміць ледзянцамі ці нечым іншым сабак. «Цала псярня», — заўважае другая з ашыйнікам у руцэ. Хутка цямнеецца. Вуліцы цёмныя. Сацыялізм эканоміць. Сум, стома. Пад канец падыходзяць нашыя вандроўкі. Вось і прыйшлі канцы к гародам. Цямнее, і тут большае чорных на вуліцы, як і ў Амерыцы.

Паклон кужэльнаму сувою —
Бярог і ў сквар, і ў маразы.
Іголцы з ніткай суравою
Хвала.
А іх за абразы
Паклаў быў на покут
                пакут…

*

О камянёвая мазаіка
Віхрастых вулак,
Брукаванак.
Яна разчуліць і празаіка,
Як варшаўскі ранак.
Дождж імжысты,
Імжыст імажыніст…

*18 верасня, нядзеля*

Warszawa. Блытаніна ў часе. Не ведаю, ці пераспаў, ці недаспаў, як з тым недаперапіццем некалі. Пераблытаў — без 15-ці 9 з 9 гадзін 15 хвілін. Перахваляваў пані Еву. V sesja wojskowych kół literackich. Паседжа-

нне пачаткоўцаў. Вайскоўцы, дзяўчаткі, хлапчукі. Палкоўнік робіць даклад, не палкоўнік, а генерал. Ад СП Мар’ян Рэняк[1]. Gen. bryg. Albin Żyto[2], M. Reniak.

Старэ Място ў параўнанні з Прагай, як ушацкая пралетарыя. Фурманы з коньмі па-польску, у нас некалі паноў вазілі мужыкі, і з коньмі па-беларуску. Парк. Не збіваюць каштаны. Дзеці, бацькі. Жалудамі ўсё ўсыпана. [Неразб. 1] нашых салдацкіх у кавярні zupa pomidorowa. Ледзь знайшоў кручу. Дом таваровы, што некалі здаўся вяршыняй, — звыкласць.

Упершыню з дому ўсё чужое большае, цікавейшае, і таксама чужое з чужым — болей, лепей. А пад канец жыццёвага вандравання ўсё лепшае і вышэйшае дома. Сцежачка, балотца, рачулка, пагорачак.

Перакладаў Тараса[3], доўг Галіне Шаранговіч.

*19 верасня, панядзелак*

Сустрэў Паўла Сцяцко[4]. Не ведае, што купляць за мільёны.

У склепы ўваход з сабакамі забаронены. У парку сажалка. Хлопчык — двайнік нашага з Купалаўскага скверу трымае за горла лебедзя. У гэтага горла цэлае.

Нарэшце знайшлі Дом літаратара. Адкрыццё. Усё як заўсёды. Шмат называюць па спісе, а іх няма.

Вечар аўтарскай песні ў Палацы культуры. Усё інтымна, шчымліва, без нашых абавязковых фанфар.

У рэстаране вечар паэзіі. Як на ўшацкіх сейміках. Кактэйль, закусь па-польску (так і ў Марсэле). Усе рушылі плячыма да яды.

Начны бар. З Э.-П. Рума[5] (ён з старым сцягам — акуратны значок) пасядзелі. Стрыптыз. Як Хаймовіч казаў: «Сару аглядаюць, і што яны знаходзяць? Сама пад бландзінку, а кунічка чарнявая, яшчэ густая».

*20 верасня, аўторак*

З раніцы некуды на выступы. Як па Бюро прапаганды. Сістэма адна.

Дарэчы, учора ноччу Польшча была без жонду. Трэба якія «галасы»[6] паслухаць. Выступленне перад навучэнцамі з машынным-маторным ухілам. Усё да лямпачкі, здаровыя, як коні, хлопцы.

---

[1] Рэняк Мар’ян (1922–2004), польскі пісьменнік.

[2] Жыта Альбін (н. 1924), брыгадны генерал узброеных сіл ПНР.

[3] Шаўчэнка Тарас Грыгор’евіч (1814–1861), украінскі паэт, празаік, мастак.

[4] Сцяцко Павел Уладзіміравіч (н. 1930), беларускі мовавед і педагог. Доктар філалагічных навук (1980).

[5] Рума Пауль-Эрык (н.1942), эстонскі паэт.

[6] Паведамленні замежных радыёстанцый, напрыклад, «Голас Амерыкі» і інш.

Актор Возьняк[1] расказваў. Маці як ні выйдзе з дому, куды ні гляне — Палац навукі. Любіла, калі імгла: «Хоць цяпер не відаць».

Андрэй Бень, перакладчык Васіля Быкава, слова пра Беларусь. Бацька з Гомеля.

У вайскоўцаў у першы дзень Мечыслаў Варона з Беласточчыны: «Бацька мой добра гаворыць па-беларуску, а я горай». Бацькі і будуць гаварыць. А бацькі нашых беларусаў?

У Старым Месце сустрэў Пауля Рума. Даў мне тэлефон Фларыяна [Няўважнага]. Але, бач, яму сказалі, што Фларыян кепскавата пераклаў ягоныя вершы, дык яму не хочацца званіць сябру. У эстонцаў знешняя еўрапейскасць і мястэчковая зацыкленасць на ўласнай персоне ў незлічоных масштабах маленькай нацыі. Вялікаамбіцыйнасць малых народаў збоку смешнавата выглядае, але яна іх і ратуе!

*21 верасня, серада*

*На Беласток.* Беларускі ліцэй імя Бр. Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. На беларускай мове шыльды на дзвярах. Добрыя вучні. Некалькі пытанняў. Пад час «Салідарнасці» чырвонымі крыжыкамі былі пазначаны пакоі беларусаў (праваслаўных), нават і тых, што палякамі пісаліся. Дырэктар Карпюк.

*г. Гайнаўка*. Беларускі ліцэй. Сустрэча. На сценах ручнікі. Кошыкі з саломы. За шклом старыя выданні Пімена Панчанкі, Петруся Броўкі. Няма ніводнага экземпляра новых падпісных. Няма Ул. Караткевіча! Чаму б не зрабіць бібліятэку і не паслаць сюды?! Дырэктар: «Прыязджалі з Таварыства «Радзіма» і г. д., ніхто ні слова па-беларуску. Масква і Мінск глядзяць на нас як на агентаў Захаду, а Варшава як на агентаў Масквы».

У «ЛіМ» ад Гайнаўкі актыву [пісалі] — не адгукнуліся. Важна, каб прызнавалі, каб былі абмены дэлегацый, каб актыў і ў Полацк, і ў Мінск [мог з’ездзіць]. Група з Гайнаўкі ліцэістаў у Свіслач [ездзіла], а там ні слова па-беларуску, беларуская школа па-польску, калі ласка.

*22 верасня, чацвер*

Начлег у Гайнаўцы. Варшаўская газета ўчарашняя сённяшнім чыслом — уражанне хуткасці — для аддаленых раёнаў.

*Белавежа*. Вятрак, пуня. Студэнты з Варшавы, з Беластоку — 10 студэнтаў — купілі 4,5 га зямлі няўдобіцы, перавезлі вятрак, пуню, (у камянях) хатку, борці ў саламяных капелюшах, усё перавезлі, працавалі самі, без дапамогі дзяржавы.

Новая мадэрновая царква ў Гайнаўцы, бацюшка на добрай беларускай [размаўляе], вольна грэк размалёўвае, маскоўскія халтуршчыкі ке-

[1] Возьняк Ежы (1939–2015), польскі актор.

пска [зрабілі ?]. У бацюшкі клопат: аднаму — даляры (цяпер 1 даляр — 2000 zł.), другому рублі. Бетон, чорная бляха.

*в. Шчыты*. Царква, запаветная ўжо рунь жыта.

*в. Орля*. Будуецца новая школа, маленькая школка старая. Дырэктар Анатоль Сцяпанавіч Мартыновіч. У Гайнаўцы Аляксандр Іванюк (дома быў Васіль Сакоўскі, выкладчык з Гайнаўкі). Дырэктар Бельск-Падляшскага ліцэя імя Тарашкевіча Аляксей Карпюк. Школе новай хочуць надаць імя маршала Сакалоўскага (каля Заблудава нарадзіўся). А чаму б нашай школе не надаваць імёны землякоў, пісьменнікаў, вучоных, ваёўцаў?

Сустрэча з дзеткамі. Некалькі дзяўчатак ў нацыянальных мясцовых уборах. Зацікаўленыя вочкі, разінутыя роцікі. Кафляная грубачка, пацьмелыя шпалеры, як пасля вайны ў нас школа. Наогул, як бы вяртаешся ў паваенны час, у маленства. Дзеткі чытаюць па слупку: «Прыбавілася клопату ў шпакоў...»[1], большая — «У Пароніне»[2]. Пяюць: «Цячэ вада ў ярок...», такія ўсе маладыя, прыгожыя, беларускія. Чытае верш рослая дзяўчына Віктара Шведа[3]. Зноў песні — «Ціхі вечар», «Да цябе не сама прыйшла...».

*в. Пашкоўшчына*. Школа (з беларускай мовай навучання). Дырэктар Добаш Янка. Віншуе гасцей і знаёміць з бацькамі, членамі бацьк[?], магістр хемія [?], філ. Ірына, Ірына Жменька, Добаш, Стэпан Пракаш [?] і ў белай кашульцы Юрка Жменька, Сосна, пані ўбіральнца Кулік Тамара. «Школка наша старэнькая, можа, але душой дзейнічае. Настаўнікаў усяго 8 чалавек. Усе дзеці, пачынаючы з 2-га класа, вывучаюць беларускую мову. Ёсць гурток беларускай мовы. Мы бярэм іх [не] пад прымусам, а па сваёй ахвоце». На сцэне пасцілачкі, капа зялёнага колеру, хатняга, нібы з Ушаччыны.

«Выязджаем у вёскі з баларускімі песнямі, вершамі, п’есамі. Калектыў «Зярняткі» існуе год часу пры школе, дзеці наймалодшых класаў. Сімвал — прывязаць да роднай глебы, да Беласточчыны, каб далі плён». Пяюць дзяўчаткі «А калі той вечар ды павечарэе...». Кіраўнік Юрка Жменька. Песні і польскія, і ўкраінскія, і рускія. Вось дзе інтэрнацыянал трэба, каб на нашым тэле рабіць нацыянальную эстраду.

в. Кнаразы′, в. Дзяніскі, пасля Забудова, Козлікі, Астраўкі, Схольнікі, Звяркі, Лубнікі, Дойліды.

Сябра Галёнка Фёдар [расказваў], як ішлі ад баўэра 120 км. 2 тыдні. Дзяўчат [?] па чарзе. Быў брат гэтай дзяўчыны адной, 6 дзяўчат, іх двое. Апрануліся пад нітачку, а пасля ў нацельнай кашулі, кірзавічках і шы-

---

[1] Гл.: Восенскае (1958) // Маладзік над стэпам. Мінск, 1959. С. 76.

[2] Гл.: У Пароніне (1958) // Тамсама. С. 87.

[3] Швед Віктар Мікітавіч (н. 1925), беларускі паэт, грамадскі дзеяч (г. Беласток, Польшча). Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1971).

нялі выцертым. Як у Швейцарыі самыя страшныя частнікі [?], па 20 штук штомесяц каля 4-х год. Nie tylko rządem Polska stoi (Не толькі на ўладзе трымаецца Польшча).

*23 верасня, пятніца*

[Варшава.] Лазенькі. Прыём мэрам. У саюз. Знайшоўся Фларыян [Няўважны]. У яго дома. Сын цікавы хлопец (28 год). Ён у Чэхаславакіі дамовіўся з чэхам размаўляць кожны на сваёй мове. Шмат двухзначэнняў, і паразумеліся толькі на англійскай мове (не на рускай!). Павевы часу.

Nam nie trzeba Bundeswehru,
Nam wystarczy minus cztery[1].

*24 верасня, субота*

Варшава. Апошні дзень. Па склепах і да Фларыяна а 8-й. У склепах і ёсць нешта, і няма нічога. Адзіны тавар, які можа даваць валюту Польшчы — полькі. Яны сапраўды зграбныя, вабныя, прыцягучыя!

Ледзь Сяргей сам дастаў білет на цягнік на Мінск, арганізацыя польская шмат гвалту і мала кшталту.

[Адрас чужой рукой:] Florian Nieuważny. 00–020, Warszawa, ul. Rutkowskiego, 34, m. 20, tel. d. 27–16–65 ([пасляць] дзіцячыя кніжкі).

*25 верасня, нядзеля*

Warszawa. Нядзелька святая. Апошнія гадзіны ў Варшаве. А другой на Мінск.

Ptaki [птушкі] — блакітныя. Галёнка: «У Польшчы ўрад адказвае за ўсё, але не кіруе, касцёл кіруе, але не адказвае».

Рушылі. Па дарозе якія назвы — Есяніца, Тлушч. У нас бы абавязкова Тлушч замянілі на Сірэнеўку, на Лазурнае. Так трэба, каб у народа не было ніякой памяці, каб ён збязмозглеў, каб вечна быў малодшым братам у старэйшага, які дагэтуль без штаноў ходзіць босы і галодны.

У вагон сядае маладая кабетка. З ёй дзядзька. Ад дзядзькі чую беларускія словы. Беларусы з Гайнаўкі. Едуць у Сургут, бо толькі туды маюць запрашэнне. Радня ў Слоніме не адгукаецца, а яны набівацца не хочуць. Трэба купіць тэлевізар, і бенза- ці электрапілу, і нажы, і перац, і пярсцёнак, і кіпяцільнік, каб гарбату кіпяціць. Мова беларуская сакавітая, захаваная, дзелавы пласт лексікі паланізаваны. За сценкай п’яныя варшавякі. Не любяць іх. Зноў расказвалі пра чырвоныя крыжыкі на дзвярах, якімі пад час «Салідарнасці» палякі мецілі беларускія хаты. Чым не фашысты?

---

[1] «Нам не трэба Бундэсверу, хопіць мінус чатыры (марозу)». Іранічны выраз 80-х гг., які ілюстраваў грамадскую незадаволенасць палякаў уладамі.

Яна нагадвае Калабкову Кошку[1], пані Геня. Ён Сямён, па-польску Шыман. Няма ў нас айчызны: і палякі не прымаюць, і рускія за сваіх не лічаць. Усе савецкія — рускія. «Ніву»[2] выпісваюць. У беларускай мове дзяцей выхоўваюць, каб мова не заняпала. Яна вясёлая. Мытнік, як убачыў, мову адняло. «За мной ўсе хлопцы. Муж спачатку плакаў, бо рэўнуе, а цяпер звыкся, сам хахоча: «Не прывязі мне з Сыберыі Ваню!» Меншая дачушка вельмі любіць «Калыханку». Файная песня. Асабліва: «Баю-бай, баю-бай, чарны вочкі заплюшчай». Без натугі перароблена на народны лад.

Пад'язджаем да Гародні. Нёман. Заспявала: «Каціць удаль Нёман чыстыя воды…». Дужа баялася мытнікаў за турэцкія сподкі («вываркі»). Даў ручку запісваць. «Бярыце сабе». Цягне нейкі сувенір. Ледзь адбіўся. Дзядзька (матчын брат ейны) Сымон пра гаспадарку, пра клопат па хаце, як быццам я пабыў дома на Ушаччыне, калі ўсе мае дарагія суседзі і мястачкоўцы жывыя былі яшчэ.

[Адрасы чужой рукой:] 22–60–79, Rīga, 79. P. Dauges, 17–22, tel. 46–60–33, ср., четв. 11–14.00. Laima Līvena; Hanna Harasimowicz, Warszawa, Wolfkego 18/21. Tel. 26–31–78 (Zwiprek Likvo[?]) pani Katarzyna Kaźmierczak.

*3 кастрычнік, панядзелак*

*Гісторыя*

Там, дзе расце трава,
Усё калісьці расло:
Клопаты, пакуты, дзятва.
Спрачаліся жвір і жарства,
Хто мае правы на сяло, —
І ўсё забыццё ўзяло
У травяное сіло.
І толькі ў ракі з рукава
Шурпата цячэ жарства.

*10 кастрычніка, панядзелак*

На Варну. Дэманстрацыя выратавальнай гумовай камізэлькі. Дэманстрантка ў целе, але формы звабныя. Не ведаю, як будзе, калі, не дай бог, пачнем падаць у мора. А на сушы з такой і дужа прыемна. «Наш самалёт мае 10 запасных выйсцяў, і канаты ёсць». Усё, каб ляцець уніз.

---

[1] Сяброўскія мянушкі М. Чарняўскага і ягонай жонкі Алены.

[2] «Ніва», літаратурны штотыднёвік на беларускай мове, які выдаецца ў Польшчы з 1956 г. (г. Беласток).

*г. Варна*. 10.15. +10°. У Доме творчасці. Першага, каго бачу, — Ігар Шклярэўскі. Прыехаў да Ліды [жонкі]. Заўтра да Леўчава[1]. Хацеў мяне пасяліць у пакой, дзе жыў Леўчаў. Не трэба. У мяне выдатны пакой 313. І панядзелак, і 13-е. Шчаслівыя дні і лічбы.

*11 кастрычніка, аўторак*

Раніца. Прыехаў Найдэн Вылчаў. Пасяджэнні. Чарга дайшла і да мяне.

Вечар. Кактэйль. Распавяданне Найдэна, як падносілі кнігі, манускрыпты Тодару Жыўкаву[2] штогод. 200 чалавек аховы. Мы ў думках [неразб. 1] (ахоўнікі з машыны прынеслі). Дачка і Жыўкаў. Бацьку назвала Леўчава з паэтаў і аднаго мастака, каб не дужа забіваць дзяржаўную галаву. «Леўчаў — балгарскі Блеўчаў. Прадукт культа аднаго з двух балканскіх самураяў», — (па выразу Андропава).

* Балгарская паэтэса і перакладчыца: «Мне, народжанай у пачатку 50-х гадоў, уяўляецца, што Ясенін заўсёды існаваў. Мне цяжка паверыць, што ён некалі замоўчваўся».

[Чужой рукой:] Лудосей (лудост) — сумашедство [вар'яцтва]. Лузда, лудзіць, з глузду з'ехаць.

Топер (?): «Чрезвычайная скромность Марины Петровых[3] продолжает жить и после смерти странным образом». Переводчик — водхлебиза [перакладчык]. «Возьму любую ерунду [И враз её переведу]...» Современный перевод и академический, научный метод перевода, во Франции групповой. У нас в «Братэрстве» конкурс одного стихотворения, перевод с болгарского, Нил Гилевич — целая школа, Алесь Рязазить [Рязанов[4]], Вертинский, Буравкин, Сахарчук[5] пяе «Я ворог» (?), «Ой на гори на вершечку...».

Перакладчык — артыст, які ўмее пераўвасабляцца. Перакладаць натхненне на натхненне, а не літару на літару. Пераклад, як выціснуты лімон. Каб не засушаныя кветкі гербарыя. Птушку трэба чуць у часе спеваў.

---

[1] Леўчэў Любамір (н. 1935), балгарскі паэт, празаік.

[2] Жыўкаў Тодар Хрыстаў (1911–1998), дзяржаўны і партыйны дзеяч НРБ. У 1954–1989 гг. 1-шы сакратар, Генеральны сакратар ЦК БКП, у 1971–1989 гг. старшыня Дзяржсавета НРБ. Герой Сацыялістычнай Працы НРБ (1961), Герой НРБ (1971, 1981), Герой Савецкага Саюза (1977).

[3] Петравых Марыя Сяргееўна (1908–1979), руская паэтэса, перакладчык.

[4] Разанаў Алесь (Аляксандр Сцяпанавіч; н. 1947), беларускі паэт, перакладчык. У 1974–1986 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[5] Сахарчук Васіль Якаўлевіч (1953–2003), беларускі паэт, перакладчык. У 1979–2003 гг. карэспандэнт газ. «Сельская праўда» (г. Жабінка Брэсцкай вобл.).

*12 кастрычніка, серада*

Спарка — прыпынак, ушацкае спірко, напірыцца не даець. Бележка — заўвага, ці не адсюль і наш Беліжэнка, заўвага Віцебшчыны?

Вечар паэзіі ў Варне. Зала ў рэстаране «Старая Варна». Утульна, цёпла, па-хатняму. Паэты не крычаць. Пасля кактэйль. На сценах віды Варны на пачатку стагоддзя. З паштовак, відаць. Чаму б і ў нас у Мінску не зрабіць падобнае.

Бажыдар Бажылаў[1]. У Штатах у Мілаша[2]. Мілаш ведаў за 4 гады наперад, што атрымае Нобелеўскую. Бажыдару казаў: «Застанься (ён сам пераклаў сябе на англійскую). У нас паэты ўсіх краін сацыялізму ёсць, толькі няма балгарына».

Усё-ткі не ўтрымаўся і пакупаўся ў Чорным моры з варненскага берага.

*13 кастрычніка, чацвер*

Варна. Раніца. Зборы. З Найдэнам [Вылчавым]. Запытаць наконт яго кнігі ў Ніла [Гілевіча], даслаць новую рэч Быкава.

Ад'язджаем з Варны, Найдэн: «Бывай, мора». — «А што, у Сафіі мора няма?» — «Там мора графаманаў».

*Тэрмінова* бібліяграфічную даведку, зборнікі беларускія і рускія даслаць.

Вячэрняя Сафія, у раёне гасцініца «Родина». Кавярні на вуліцах нагадваюць Баку. Моцна пахне туркамі, твары змучаныя, вочы патухлыя. Чэргі па мяса, рыбу.

[Адрас ружой рукой:] 1606, София, бул. «Тотлебен», 11. Проф. Христо Дудевски.

*14 кастрычніка, пятніца*

Сафія. Прыём у ледзі Мілевай[3]. Буду чытаць, бо баюся рускай граматыкі.

Дзм. Білавус[4]: «Калі бачу, як хочуць знішчыць беларускую мову, адну славянскую кветку, я не хачу быць ўдзельнікам самага вялікага злачынства веку».

---

[1] Бажылаў Бажыдар Барысаў (1923–2006), балгарскі паэт, празаік, драматург, перакладчык, крытык. Лаўрэат Дзімітраўскай прэміі (1951).

[2] Мілаш Чэслаў (1911–2004), польскі паэт, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1980), Праведнік Свету (Ізраіль).

[3] Мілева Леда Геа (1920–2013), балгарская пісьменніца, перакладчык; грамадскі дзеяч.

[4] Білаус Дзмітрый Грыгор'евіч (1920–2004), украінскі паэт, перакладчык, крытык; грамадскі дзеяч. Лаўрэат прэміі імя М. Рыльскага (1976), Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі (1990), прэміі імя Л. Украінкі (1997).

«Што аднолькавага ў Дунаі і перабудовы? Яны не праходзяць у Балгарыі».

Вячэра пасля вячэры ў Найдэна. Пакой маці. Старое крэсла заслана посцілкай, якую мама сама выткала.

*15 кастрычніка, субота*

Сафія. З асаблівай паспешнасцю з Арві [Сійгам ?] па горадзе. Цэлыя табуны і старэйшых, і мал-мал няpycкіх.

Са Стэфанам[1] і Арві ў рэстаране «Севастопаль». Цыганшчына з балканскім акцэнтам. Пад Еўропу. Жанглёры. Танцаўшчыцы, якія адбіваюць усякае жаданне.

*16 кастрычніка, нядзеля*

Сафія. Адлёт. Моцнае толькі першае ўражанне альбо калі доўга бываеш, а налётнае толькі разжалоблівае, нават гняце. Бывай, Сафія! Дунай, як і перабудова, цябе абмінае.

Утро вечера модернее. У гутарку слоўнік, падручнік на англійскай мове.

[Адрас чужой рукой:] Съюз на преводачите в България [Саюз перакладчыкаў Балгарыі], ул. А. Рипски, № 5, 1000, София. Елисавета Кузманова[2].

*19 кастрычніка, серада*

Дом кіно. Устаноўчы сход «Мартыралог Беларусі»[3]. Праект эмблемы — з дзіцем маці і па краях дзве літары: М Б (Валя прачытала як Матка Боска).

*22 кастрычніка, субота*

*п.Ушачы.* Магільнік. На пліце: «Апошні падарунак ад пляменнікаў». Побач: «Апошні падарунак ад унукаў».

Марыя Рыгораўна: «Як зяця завуць?» — «Косця». — «Значыць, Касцюк».

[Загадка:] У левай руцэ трымаюць, правай кідаюць, на ўсю зіму хапаіць (бульба).

---

[1] Паптонеў Стэфан Дзімаў (1928–2004), балгарскі пісьменнік, перакладчык.

[2] Кузманова Елісавета (1934–2010), балгарская перакладчыца.

[3] «Мартыралог Беларусі» — Грамадскае гістарычна-асветніцкае таварыства памяці ахвяраў камунізму і сталінскіх рэпрэсіяў у Беларусі (1988).

*24 кастрычніка, панядзелак*

Ушача, возера Усвея. Першая ў Саюзе здабыча сапрапеля, пантонны, ліставы, такі толькі ў ГДР [здабываюць] (Мікола Іванавіч Міхальчанка). Запрасілі Арабскія Эміраты, для кветак у гарэмах.

Стэрылізацыя мужчын, стэрылізацыя зямлі, ні чарвяка, ні лічынкі. Азот забівае ўсё, аміяк з кароўнікаў, гной, як і куды — усё ў азёры, забіта ўсё.

Рака Выдрыца. Што лепей, ці марудная смерць ад хіміі, ці хуткая ад голаду? Палітычная культура — маслічная рэдзька, прымушаюць сеяць, а яна не расце.

Адзначалі юбілей Брэжнева[1]. Ушацкі дзядзька: «Я такіх жа гадоў, панясу вядро, вярнуся назад з хлява — не ведаю, каму выліў, ці карове, ці свінні. А ён жа дзяржавай кіруе».

* М. Герчык[2]: «Стилистика явно нуждается в карандаше».

*Міхаіл Герчык*

Хоць водзіць убакі ад стомы,
Хоць ад турбот пасекся чуб,
М. Герчык добра ўсім вядомы
Як самы шчыры кнігалюб.
Ён можа ўсё дастаць старанна,
Апроч класнага рамана.
Пакуль штурмуюць чытачы,
Пішы наступны,
Не маўчы!
Гатовы прысягнуць паліцы —
І новы твой не запыліцца!

*[80-я гг.]*

*27 кастрычніка, чацвер*

Перабудова ў Беларусі, як падлёдны лоў рыбы. Тхло пракруцяць, рыбіна хапіць паветра высунецца, а яе пабаешкай — ку´кай, як у нас ва Ушачах казалі, па галаве чах!

*Да Васіля Быкава*: Былі толькі нацыянальныя класікі, але толькі Васіль Быкаў стаў нацыянальным класікам, якога слухае свет. Васіль Быкаў беларускі еўрапеец па сіле таленту, па крыштальнасці сумлення, па не-

[1] Брэжнеў Леанід Ільіч (1906–1982), савецкі палітычны і дзяржаўны дзеяч. У 1964–1982 гг. 1-шы сакратар, Генеральны сакратар ЦК КПСС, адначасова з 1977 г. старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Герой Сацыялістычнай Працы (1961), Герой Савецкага Саюза (1966, 1976, 1978).

[2] Герчык Міхаіл Навумавіч (Майсей Беньямінавіч; 1932–2008), рускі і беларускі пісьменнік. У 1972–1992 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

пахіснасці ў барацьбе з хлуснёй і цемрашальствам і дома ў Беларусі, і ва ўсім свеце. З Быкавым мы пазбыліся правінцыйнасці.

* Дыша духами й атаманами.

*4 лістапада, пятніца*

СП. Сход. Будзінас[1]: «Партыйны архіў».

Ул. Дубоўка: «Лапікла з сабакі».

*7 лістапада, панядзелак*

*Пра «Талаку»[2]*

Ад ісціны ў спрэчцы адкрыты ключы,
Спрадвеку яднае супольная праца.
Нячым талакоўцаў франтальна таўчы,
Найлепей дэтальна ва ўсім разабрацца.

*12 лістапада, субота*

У Васіля Быкава. «Уступаць у дыялог няма ніякай карысці, бо гэта хлусы без маралі.

Нехта, хто сядзіць пры М. С. [Гарбачове], сячэ сук, на якім ён сядзіць, а яму тлумачыць, што мацней прыбівае».

*16 лістапада, серада*

*Уладзіміру Круку[3]*

Ул. Крук — сапраўдны паэт:
Яго чарадзействам, магчыма,
Забыўшы гады, на свет
Глядзець маладымі вачыма.

* * *

Адступалі і адступалі,
Адступалі штодня, штоначы,
Адступалі ад лініі жалю,
Адступалі ў адчаі, ў запале,
Ад надзеі гублялі ключы.

---

[1] Будзінас Яўгеній Дамінікавіч (1944–2007), рускі празаік, публіцыст. У 1982–1991 [?]) гг. спецыяльны карэспандэнт час. «Дружба народов» па БССР і Прыбалтыцы.

[2] «Талака» — моладзевае культурна-асветніцкае таварыства (1985–1990).

[3] Крук Уладзімір Андрэевіч (1929–1991), беларускі фотамайстар.

*17 лістапада,чацвер*

ЦК КПБ. Каго на лафеце, каго на лапаце.

*Яфрэм Яўсеевіч*[1]: «Нічога не ідзе самацёкам». «Хаця б за тое, што прыкрываем».

Аргкамітэт. «Адшчапенцы» Быкаў, Панчанка, Гілевіч, Мальдзіс, Якавенка[2] (чаму катэгарычна: не?!).

1) Хто аўтары расправы ў прадмесці?[3]

2) Хто аўтары расцуглянага цкавання Адамовіча, Быкава, пісання слова выпрацоўваць «пісьменнік» у двухкоссі?

3) Адарваліся ад народа. Што гэта — гузікі? Хто мае права прышываць?

4) У Вярхоўным Савеце кідаюць пасведчанне.

Аднабаковы дыялог.

*Лук'янаў*[4]: Бо яно [пасведчанне] па-беларуску. Колбін[5] можа вывучыць мову, а нашы кіраўнікі? Фрунзенскі нарсуд.

Сцяг і Пагоня. А ў Прыбалтыцы?

Беларуса ад рускага пад мікраскопам не адрозніш. Не трэба смакаваць Курапаты.

Чаму выступленне 1-га сакратара СП па БелТА, а Брыль, Ялугін[6].

*Яфрэм Яўсеевіч* [... Сакалоў]: «Нельзя превращать перестройку в трепологию».

*В. Каваленка*[7]: «Сіндром правінцыйнасці».

---

[1] Сакалоў Яфрэм Яўсеевіч (н. 1926), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1987–1990 гг. 1-шы сакратар ЦК КПБ. Герой Сацыялістычнай Працы (1986).

[2] Якавенка Васіль Цімафеевіч (н. 1936), беларускі публіцыст, нарысіст. З 1990 г. прэзідэнт Беларускага сацыяльна-экалагічнага саюза «Чарнобыль». Лаўрэат альтэрнатыўнай Міжнароднай прэміі імя Ф. Нансена (1994).

[3] 20 красавіка 1986 г. у Траецкім прадмесці гараджане адзначалі свята «Гуканне вясны». Падгавораныя былыя воіны-«афганцы» — нібыта тут сабраліся ледзь не маладыя неафашысты — збілі навучэнцаў Мастацкай школы імя І. Ахрэмчыка, якія вадзілі карагоды. Па чутках, пасля бойкі яны накіраваліся ў будынак ЦК камсамола. Гэтае здарэнне мела доўгі розгалас. Па ўспамінах мастака Р. Сітніцы, які адшукаў «афганцаў» і гаварыў з імі, хлопцы пашкадавалі, што былі ўведзены ў зман.

[4] Лук'янаў Анатолій Іванавіч (н. 1939), савецкі дзяржаўны дзеяч. У 1990–1991 гг. старшыня Вярхоўнага Савета СССР. Доктар юрыдычных навук (1979). Заслужаны юрыст РФ. Рускі паэт (псеўд. Анатолій Осенеў).

[5] Колбін Генадзій Васільевіч (1927–1998), партыйны і дзяржаўны дзеяч СССР. У 1986–1989 гг. 1-шы сакратар ЦК КП Казахстана.

[6] Ялугін Эрнест Васільевіч (н. 1936), беларускі празаік, нарысіст, сцэнарыст.

[7] Каваленка Віктар Антонавіч (1929–2001), беларускі крытык, літаратуразнавец, празаік. Доктар філалагічных навук (1978). Член-карэспандэнт АН БССР (1984). Акадэмік АН БССР (1989). У 1982–1997 гг. дырэктар Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ. Заслужаны дзеяч навукі БССР (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СП СССР (1976), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1980).

*Генерал*: ! «Кнігі на беларускай мове ў воінскія бібліятэкі».

*Таразевіч*[1]: «Не падкрэслены адносіны да партыі ў праграмах аб’яднанняў, у прыватнасці, кіруючая роля партыі, адыходзім ад устояў і прынцыпаў».

*Сакалоў*: 1) Каб размова была асэнсавана і пасля вывады, не дапускаць умоў для прарастання сямян эпохі Сталіна. Каб у нас была думка пасварыць пісьменнікаў з рабкласам, сялянамі і т. д., нам трэба было б пакласці партбілеты.

Калі будзем выпрацоўваць яд, абазленне, гэта не будзе працаваць на згуртаванасць. Чаму будынак СП пад штаб так званага Народнага фронта? Няма іншага сцяга і герба, акрамя дзяржаўнага. Планамернае, мэтанакіраванае дзеянне ў адносінах да мовы. Будзе беларуская мова дзяржаўнай. Дайце час. Мы не падтрымліваем Народны фронт, мы не пойдзем на змыканне з Прыбалтыкай. Мы бачым, як ствараўся Народны фронт Прыбалтыкі і як і да чаго ён дайшоў. Народ запытае: супраць каго Народны фронт, за што ён? Чаму не прымаем рашучых мер да тых, хто пачынае заблуджацца. Усім трэба наступ.

Як Ніл Гілевіч.

*19 лістапада, субота*

*Івану Бурсаву*
*(на альбоме «Вяртанне»)*

Ушаччына —
Ты піў яе ваду,
Ушаччына —
Твае шапталі губы,
Ушаччына —
Ты з ёй дзяліў бяду.
Ушаччыне
Ты, верны дружа,
Любы.
Прымі адбіткі Ушаччыны,
Іване,
Паклон ушацкі
І замілаванне!

---

[1] Таразевіч Георгій Станіслававіч (1937–2003), у 1985–1989 гг. старшыня Вярхоўнага Савета БССР.

*23 лістапада, серада*

*Ларысе Горцавай і Артуру Вольскаму*
*(на зб. «Мудрэц са ступаю»)*

Душа, красе скарыся!
Вяшчуй, няўрымснасць, буру!
Пал, тлей пад сэрцам купаю
Чароўнейшай Ларысе,
Шаноўнаму Артуру
Ад мудраца са ступаю.

* «Парыж, ты мой другі Віцебск!» — Марк Шагал. «Маленькі Гофман[1] калявіцебскіх трушчоб», — Луначарскі[2], «Маладая Расія ў Парыжы».

Пархоменка[3] пяе: «Маё калечка у траве звярцелася…»

Індыя: Дэлі, Бамбей, Мадрас, Калькута, Варанасі; Непал: Катманду. Падоўжыць спадніцы, не загараць на сонцы, купацца можна; узяць лекі, па бутэльцы адэкалона праціраць рукі, абеззаражваючае нешта, па глытку гарэлкі.

«Што яны ў яго — пяро адбяруць?» — пра Быкава Л. Р. Міхайлаў[4].

Сталін нарадзіўся [21 снежня] — самая доўгая ноч.

Раніца — пацягваецца, маладзіць, утро — хрулит.

Тваё Палессе асушылі,
Зчарнобілі,
А ты адна…

*1 снежня, чацвер*

*п. Ушача.* Па шкле каціліся, як велікодныя яечкі па жалабу, з Мінска да Ушачы 3 гадзіны. Райкомаўскія асы ўсё могуць. Пайду да Пятра [Трафімава]. Здалёк гляну ў зімовай цемры на маю і не маю нямую яшчэ хату, на мураванку. Пабойваюся. Ці захаваўся там дамавік, ці не збег, ці не скарчанеў?

Ушацкая зіма самая сапраўдная. З комінаў дым, як узбіты снег, усё ў снезе. Дрэвы, нібыта засушаныя лісцінкі з акрэсленымі пражылкамі заінелага веццяя.

---

[1] Гофман Эрнст Тэадор Амадэй (1776–1822), нямецкі пісьменнік, кампазітар, мастак.

[2] Луначарскі Анатолій Васільевіч (1875–1933), савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, пісьменнік, крытык, драматург. Акадэмік АН СССР (1930).

[3] Пархоменка Валянціна Васільеўна (н. 1956), беларуская спявачка. У 1981–1992 гг. салістка Беларускага тэлебачання і радыё і ансамбля народнай музыкі «Жывіца». Заслужаная артыстка БССР (1985).

[4] Міхайлаў Леў Рыгоравіч, нам. старшыні Ушацкага РВКа.

Сыходджу з гары ад пажарнай, і дом, хата наша ў агенчыках, аж захаладала пад сэрцам. Прыгледзеўся — суседская, Зоіна[1]. Мая пад страхой і пад страхой снегу, асада ёсць, шыб няма. Няўтульна.

Іду да Пятра. Хата Марыі Рыгораўны глухая і цёмная. Пятра няма. Іду на пошту. Няма той пасляваеннай і даваеннай, драўлянай. З халоднага акенца халодныя вочы дзяўчыны. Няма Мані, дачкі Максімавай, якая мне малому суніцы прыносіла. Засынаў, мама казала, калі паўтаралі адно слова: «Маня, Маня, Маня…»

*2 снежня, пятніца*

Прачнуўся ад сіверку ў гасцініцы. Але цёпла на душы. Я дома, у сябе, на той зямлі, якую ўпершыню адчуў нагой і да скону чую.

Марыя Рыгораўна: «На пер'ю расу выйду».

Індыя ад і да я.

Жураўліны клін ды я
У паўдзённай стоме.
Чуеш, Маці Індыя…

* Лекцыя ва Ушачах. Сахараў з пединстытута Віцебска, кандыдат навук: «Навошта гэта мова…»

*12 снежня, панядзелак*

[Масква, аэрапорт Шарамецьева.] На Дэлі. 0.40 (па савецкаму часу).

*Дэлі* 12.00. На дарозе ў гатэле гірлянды календул, кіпцюркі.

*13 снежня, аўторак*

Дэлі. Свяшчэнныя каровы[2]. Гэта з паслявайны, калі ў нас на іх аралі. Жалезны слуп. Калі абхопіш рукамі за спіной — будзе шчасце. Танец на нажах, уся з гукаў танца. Ёга. Паказвае настаўнік.

*14 снежня, серада*

Как бы вы ни поглядели,
Ничего такого
Странного в том
В самом деле —
Встретить утром
В самом Дели
Юру Сапожкова!

[1] Касцючэнка Зоя Канстанцінаўна, суседка ва Ушачах.
[2] Гл.: Святая карова ([1989]) // Міласэрнасць плахі. С. 185.

Гэта, Юра, наш тэрарыум — на успамін[1].
Музей. Мастак робіць копію — паўтарае вякі.

Робіць копію мастак
У музеі ў Дэлі,
Пераносіць праз вякі...

З Юрам дома.

*15 снежня, чацвер*

На Агру. Фізічна, як журавы, ходзяць. Базары. Як бежанцы, голь. Жах. З прычоскай хіпаватай пальмы.

*г. Агра*. Гатэль Mughal Sheraton. Тадж-Махал[2]. Карона свету. У гонар любай жонкі. Было 4 [жонкі] і 400 наложніц. Хацеў яшчэ пабудаваць і чорную ўсыпальню сабе, сын зняволіў; сядзеў і глядзеў на Тадж-Махал.

Паўсюль чэнч, адбою няма. Барыс з Украіны, сустрэў, малады хлопец танцор. «Дзве крамы ювелірныя ў мяне ў Кіеве». Людміла — сябар. Барыс: «І ў мяне жонка высокага чыну». Яшчэ крама. Тут жа побач мыюць. Стары на тапчане. Могуць памяняць мыла на шыла і Шыву на мыла.

Перад вачмі стаіць малы з абразанымі пальцамі і куксай, у ветравое шкло тыцкаецца. У адзін зрасліся пальцы, на пальцы ходзіць.

*16 снежня, пятніца*

г. Агра. Калі хочаш быць начальствам, 1 гадзіну выпі віна, 3 дні жаніся, 8 дзён забі свінню і з ёй палі вечную [?], стань [неразб. 2] і буйныя, а наш павінен быць буйнейшы.

Шыльда ў садзе, ружы і іх значэнні. Кветкі — сімвалы краін. СССР — сланечнік. Флейта голасам мулы заклінае змяю мудрасці.

Перад «Шэратонам» слон для фатаграфавання, вярблюд з выцертымі каленькамі. Блізкасць да першалюдскасці, да маладой веры; каровы, козы, дзеці. Сеюць і нешта на сіце, а ў сіта сеў верабей, і ў сіце, і ў [неразб. 1] ў вёску[3].

Цэлы караван брыдзе без вярх[?] [неразб. 2], і валы цягнуць. Так хочацца цоб-цобе крыкнуць. Жанчыны на галаве [нясуць] чарот, нейкае лісце ў хусткі загорнутае. Маленькі трактар, як «Беларусь», за ім металічны прычэп, у ім, як бульбы, дзяцей, старых. Грузчык, як з [неразб. 1], прыгорбіўся. Цвіце гарчыца — далікатны шоўк.

---

[1] «Тэрарыумам» Рыгор Іванавіч часам менаваў Саюз пісьменнікаў, калі падпісваў кнігу-малютку «Абразы без абразы».

[2] Тадж-Махал, помнік індыйскай архітэктуры, маўзалей султана Шах-Джахана і яго жонкі Мумтаз-Махал (каля 1630–1652, архітэктар, верагодна, Устад Іса і інш.).

[3] Гл.: Пад'язджаючы да Агры (9.10.89, Ніда) // Міласэрнасць плахі. С. 181.

Мёртвы горад. Бітва [ў] 1527 годзе. Фатэхпульх стары горад называецца. Бабур[1] — 4 гады прапалі ў Індыі. Горад пакінуты з-за недахопу вады. Жывыя шахматы — прыгожыя дзяўчаткі, іх перастаўлялі. Надтрунне на магіле слана. Слон вырачанага затоптваў нагой. Каго не — памілвалі.

Трэба растапыранымі пальцамі маліцца небу.

Барыс-ювелір так горача і са смуткам гаворыць, што ў Арменіі загінула 110 тысяч[2]. Азербайджанец перабівае, робіць выгляд, што не чуе, пытаецца пра цэны. Прафесійны гандляр больш адчувае, чым кінатурак.

Па дарозе начныя базары, як жабрацкі Брадвей. Каровы, козы, авечкі, сабакі, дзеці, чаратовыя фанзы, [неразб. 1] крамы. Верыш, што Біблія пісалася натуральна, з натуры, з канкрэтных прататыпаў, як дайшла да нашых дзён. Гэты пыл, які ўздымаецца. Гэты дым, што курыцца ад цяпельцаў (аж хочацца напісаць no smoking у неба, an sky!). Пергаментна-глінабітна-ганчарная існасць. Малыя, як вераб'і, шчабечуць чынч-чынч, іх адганяе нехта кіем, здаецца, яны пытаюць: чым-чым!

Прылятаем у *Бамбей.* Рассыпаныя каралі начных агнёў у цёмных далонях соннага горада.

*17 снежня, субота*

*г. Бамбей.* Гасцініца. На беразе Індыйскага акеяна на каленях мужчыны бялізну пратаюць. «Як пайшоў я на сіне мора платкі праць…» Аравійскі [неразб. 1]. Ашмоцце ад бялізны рознакалёрных, як стужачкі ці піянерскія гальштукі. Могільнік ля самай вады[3]. Рыбакі ловяць, жанчыны прадаюць. Ранішні пік, аўтастатак [неразб. 1] за пастухоў клопат. На зыгарадзях зверху бітае воргшкло, калючы дрот.

Джайнісцкі[4] храм 6 в. н. э. Нешта варыць, рот завязаны, каб не праглынуць камара, бо вегетарыянец, б'ець у звон, каб звярнуць увагу бога на сябе. Сандалавыя палы паляць, [неразб. 1] рум, вачастыя святыя, вочы з камянёў. Дрэва папая, як пальма. Вогнепаклоннікі ёсць 7 %.

Збіраюць дажджавую ваду і прадаюць як пітную, летам цяжка напіцца. Водазабеспячэнне залежыць ад дажджоў. Вісячыя сады ў выглядзе фігур — слон, жырафа. Бутэлькі стаяць, як па кселафоне праводзіць палачкай, пэпсі.

---

[1] Бабур Захірэддзін Мухаммед (1483–1530), заснавальнік дзяржавы Вялікіх Маголаў. У 1526–1527 гг. заваяваў большую частку Паўночнай Індыі.

[2] У снежні 1988 г. у Арменіі здарыўся мацнейшы землятрус, г. Спітак быў цалкам зруйнаваны.

[3] Гл.: Бамбей ([09–10.89]) // Міласэрнасць плахі. С. 180.

[4] Джайнізм, адна з індыйскіх рэлігій. Заснавальнікам лічыцца Вардхамана, называны Джынай і Махавірай (VI ст. да н. э.).

Вежа маўчання, куды нябожчыка [прыносяць], каб не здзяўбалі грыфы — вежапаклоннікі Заратустры[1].

Абшчына парсі — з Ірана выхадцы. З касцей лекі, мяса грыфа.

*Музей Гандзі*. Упартасць у ісціне, а не насілле. Гандзі ткаў на ручных кроснах тканіну, і паслядоўнікі пачалі насіць вопратку з тканіны. Айчына, а не замежжа. Упахатма — вялікая душа. Сціпла ўсё, а не нумезматычныя грудзі нашых парткіраўнікоў накшталт Лёні [Брэжнева].

*Акварыум*. Чарапаха плыве, як ляціць, з арліным профілем.

*Музей прынца Уэльскага*[2]. Самавар-пагада, суцэльны кавалак [неразб. 3]. Вароты Індыі (арка) у гонар Георга V[3].

Мамбай (Бамбей). Багіня супроць чумы. Як венікі ў лазню з паўліных хвастоў, як з вішша ва Ушачах. Спёка пад 30°+. Колькі цяпер ва Ушачах? Плынь людзей, паліцыянт вяроўку перакідвае — стаяць.

Films division — сустрэча з кіношнікамі Індыі.

Жабракі і валацугі грэюцца,
як на чарэні.
Тут і ў снежні не стыне дол.
Прыгадаеш блакаду, бежанцы,
гора з галечаю,
Скалечанае наваколле.
Жабракамі на свет мы прыходзім голыя,
Жабракамі ў зямлі мы ляжаць будзем.
Толькі пыл прахам ног тых,
хто да нас тут прайшоў,
Асядае і падымаецца нанова[4].

Мастачка з групы — губы, лоб, зачос валасоў, як у мамы.

Адабралі дажджы,
Адабралі снягі,
Адабралі азёры, крыніцы.
Ты калі ўстаў не з той нагі,
Каб такое тварыць,
Даў дазвол…
Каля чужых агнёў,
Каля чужых цяпельцаў
Хацеў…[5]

---

[1] Заратустра (Заратуштра — іранск., Зараастр — грэч.; паміж X і 1-й пал. VI ст. да н. э.), прарок і рэфарматар старажытнаіранскай рэлігіі, якая атрымала назву зараастрызм.

[2] Прынц Уэльскі (1841–1910), англійскі кароль Эдуард VII (з 1901).

[3] Георг V (1865–1936), англійскі кароль (з 1910).

[4] Гл.: На ўскраіне Дэлі (1.04.91]) // Міласэрнасць плахі. С. 181.

[5] Гл.: «Адабралі дажджы…» (24.03.89) // Тамсама. С. 111.

Ноч. Поўня над самай галавой, над самай макаўкай, аж баішся, што на лысіну пякуча ці холадна зваліцца.

*18 снежня, нядзеля*

г. Бамбей. Па ўзбярэжнай. Чаўны на чорнай зямлі, як чарнязём і яшчэ тлусцей, чакаюць прыліву. А пакуль выглядаюць недарэчна. Нешта прадаецца. Вяроўка падпалена, канец смыліць — адганяе камароў. З пальмы спускае на вяроўцы бабаны, як звязкі гранат. Сам на вершаліне, адзін какос адкупорвае, п’е — чарэп’е кідае доле.

Кафэ «Oceanic». За сталом сядзяць, тапкі без заднікаў, басаנож, тапкі скінуў, босымі нагамі па халодных мармуровых плітах-масніцах за колькі дзён да Каляд. Толькі тут, у нас так не пасядзіш. Каму што: хто ў храмы, хто ў крамы. Адны моляцца іконе, другія Мамоне[1].

Каплічка блізка каля берага, магільнік, відаць, пад час прыліву заліваецца і крыжы з-пад вады, як прывіды, расстаўляюць рукі, просяць ратунку. Ушацкае — крычаць ратунку.

Па дарозе на Мадрас мне ведзьма белая (вайт віч — white witch!!!) варажыла, лічыла зоркі на далані. Мяне залічвала ў даўгажылы, раздваенне з павароту жыцця. Лінія рамяства з лініяй жыцця супала[2].

Калі будуюць ці рамантуюць, прымяняюць на рыштаванні бамбукавыя жэрдкі, моцныя, лёгкія.

Прылёт у *Мадрас*. Па дарозе хацінкі, як у кнігах. Душна. Парна.

*19 снежня, панядзелак*

Акіян. Плыты, як пястачкі.

Дакументальная студыя. Гаспадар, жонка. Адзін усё робіць, штодзень 20 хвілін пра нацыянальна-вызваленчы рух з серыяла Krishnaswamy associates. Студыі 25 год. Спачатку толькі тэлефільмы, а цяпер па заказу тэле і забаўныя. Першыя 10 год рэкламныя і дакументальныя. Адмовіліся ад рэкламных фільмаў. 14 частак серыял (на [мове] таміле) пра вызваленчы рух.

З рынкаў адыходы ў Ганг. І месца паломніцтва, і фармацэўтычны завод з нашай дапамогай [пабудаваны]. У Індыі зялёная рэвалюцыя.

На сцэне танцы, музыкі доле злева на сцэне, як заклінальнікі мікрафонаў.

---

[1] Гл.: Спрадвеку (24.09.89, Ніда) // Міласэрнасць плахі. С. 186.

[2] Гл: Белая ведзьма (12.10.89, Ніда) // Тамсама. С. 184. Верш прысвечаны Дж. Фірсавай. *Фірсава* Джэма Сяргееўна (1935–2012), руская актрыса, кінарэжысёр, грамадскі дзеяч. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1973), Ленінскай прэміі (1980).

*20 снежня, аўторак*

г. Мадрас. Лакшмі — багіня багацця. Калі камплімент дзяўчыне — [казаць] прыгожая, як Лакшмі. Іканастас — гапарам [?], б'юць арэхі і аскялепкі прыносяць багам. Жонка заглядзелася на паўліна, і ён, Шыва,ператварыў яе ў паўліна, потым зноў [у жанчыну]. Пакланяюцца 1 дзень — сонцу, 2-гі — зямлі, 3-ці — прыладам працы, быкам, увешваюць гірлянды на рогі.

Мінск t 23°, сёння — + 33°.

Там, дзе вялікі рух, няма свяшчэнных кароў амаль.

Армянская царква (1772 г.), усе ў Аўстралію [з'ехалі], [святар] адзін з жонкай застаўся. Прыводзіць, б'е ў званы. Сум, адчай. Адчуванне, што знікае жывое з душы[1]. Кладу значок Багдановіча побач. З псалмамі Новага Запавету на англійскай. Мы як армяне знікаем. Багдановіч наш апошні [неразб. 1], які застаўся ахоўваць мову і нацыю.

На плоце-дувале моліцца богу па-свойму — вые сабака ў неба. Абед на беразе акіяна, рыба смажыцца на агні, на талерку пальмавы ліст, на яго страву, зялёная сурвэтка.

Купанне ў Індыйскі акіяне.

Індыйскі акіян,
Як белагрывы леў,
На бераг зубы шчэрыць.
І ў ашчэрах
Сінее неба.
Акіян прымлеў.
І размарыла,
Як падпаска,
Бераг.
Пастух,
Што пугу звіў сабе
З вятроў,
Пераганяе
Тлустыя атары
Валоў і хваляў.

На туалетах у аэрапорце віновы кароль і віновая дама.

Гідша «камплімент» нашым актрысам: «Сярод вас няма зорак, бо вы так апрануты і едзеце аўтобусам. Нашы толькі машынай. Каб так, як вы, ніводзін бы рэжысёр не ўзяў, пры такім убранні».

*г. Калькута.* 23.50 гатэль. У гадзіну ночы шведскі стол. Вячэра. Гатэль.

[1] Гл.: Армянская царква ў Мадрасе ([12].88) // Міласэрнасць плахі. С. 182.

*21 снежня, серада*

г. Калькута. Музей. Каменная зыгарадзь II в. да н. э. Слон цягне зуб, малпа робіць манікюр. Ступа — под. Ад ступні Буды і на тым месцы храм, і стаў наогул *ступа*-храм[1]. Кола жыцця, кола — сімвал рэлігіі, чалавек паўтараецца, ён бясконцы. Ганеша — са сланоўім носам, [неразб. 3].

Паштоўкі, календары — Ленін, Хрыстос, Гандзі.

Малога маці вылізала і выцірае анучкай.

Служэнне радзіме бізнесам, толькі па пратаколу, што трэба, а так сціпла, мецэнацтва развіта.

Ганг. Галяком мыецца. Тут жа чысціць зубы. Плыве ўсё і падвялыя водарасці.

Першы англіканскі сабор. Калькута заснавана ў 1696 [1690] г. (наш Тураў, Полацк, Ушачы [старэйшыя]).

«Чаму я такі бедны, што вялікі пан даў мне 1 рупі, чаму мяне абразіў?»

— Мумед.

— Ахмед.

— Муслім.

— І я Муслім.

— Камуніст.

Купіў падручнік і ўцякаць.

Кінатэатр «Nandan» — райскі сад. West Indian Curtural Centre. Бібліятэка і кінаархіў. У зале вентылятар у выглядзе свастыкі. Спажыўцы сур'ёзнага кіно і спажыўцы камерчаскага кіно, і першых не меней, а мабыць, болей.

5 тысяч босых рыкш[2]. Калі вучыў геаграфію на здачу ў БДУ каля Ваўчэнскага возера. І цяпер гэтыя гарады ажываюць канкрэтна. На прасціне ва Ушачах ішоў «Ураган».

*22 снежня, чацвер*

г. Калькута. У гатэлі ўсюды стаіць Дзед Мароз пузаты (там падарунак), у пальчатках, з ліхтаром. Навагодняя ялінка рунява-зялёная, сінтэтычная.

Палац каралевы Вікторыі[3]. Галерэя партрэтаў і Рэд'ярд Кіплінг[4]. Статак коз супроць палаца Вікторыі.

20.10 — *г. Катманду* (даслоўна — драўляная ікона).

---

[1] Гл.: Прысмеркі (24.09.89, Ніда) // Міласэрнасць плахі. С. 187.

[2] Гл.: Рыкшы (21.12.88, Калькута) // Трэба дома бываць часцей... Мінск, 1993. С. 275.

[3] Вікторыя (1819–1901), англійская каралева (з 1837).

[4] Кіплінг Джозеф Рэдзьярд (1865–1936), англійскі пісьменнік.

Ханум (ідзем з вячэры). У маім нумары нехта храпе, мужчына. Мы з ёй. Яна раптам: «А мы хіба не на 3-м паверсе? Я паўсюль жыла на 3-м». Пераблытала паверхі.

*23 снежня, пятніца*

Стары палац Княства Патан (Patan) — раджа выкарыстоўвае для аб'яднання ўсіх княстваў, каралеўстваў басейна. Кожны меў права на 1 жонку, а кароль — 8 жонак, 8 дзвярэй да жонак. Упрыгожванні — разьба па дрэве. Кароль мусіць штодзень абмывацца ў балеі, а пасля нірвана.

Бог малпаў Хануман. Эратычная разьба, на фігуры эратычныя не глядзелі, а прываблівалі багоў. Ахвяры — насарог, казлы, і на кафлі яшчэ кроў, бо і цяпер ахвяруюць. У Непале сваё золата.

Храм Крышну (1648 г.). Фігуркі выразаныя — сюжэты «Махабхараты» і «Рамаяны», каб, хто не чытае, — ведаў. Птушка Каруда — на ёй лётаў Вішну.

Тыбетцы (дзеці, дзяўчаты) ткуць кілімы. Слуцкія ткачыхі. Лозунг: «Тыбет для тыбетцаў».

Шэймбанад. Ступа (II тыс. год назад). Даліна Катманду раней была, вечарам велічны Лотас расцвіў. Лазі [?]. Хто бачыў Лотас, сыходзіліся і сяліліся на гарах, штодня маліліся Лотасу. Аднойчы прыйшоў палюбавацца лотасам, усю[ды?] была містычная сіла. Ён хацеў убачыць Лотас у гразі, але Лотас рос на возеры, і тады ён [зрабіў] вадзяны мост і падышоў да Лотаса. Вада знікла, і ён пабудаваў на тым месцы храм, Манджушры́ (пабудаваў храм па легендзе). І па каналу ваду [пусціў] — стаў вадаспадам. Храм Сваямбхунатх (! народжаны з сябе). Ступа — сімвал матэрыяльнага свету. 14 колцаў і вянчае Лотас — азарэнне. Чалавек, які жыве ў матэрыяльным свеце, немагчыма азарэн е. Трэба імкнуцца да ўнутранага жыцця, жыць у ім. Буда: «На 4 канцы свету ніводзін грэшнік не ўцячэ». [Намаляваны значок] — аб'яднанае неба з зямлёй. Кожны Буда [мае] сваё імя, у розных паставах, кожны можа свой сцяжок павешаць.

Малпы ватагай. Адна ў бажніцы хапае блін-аладку і есць. [Неразб. 2]. Стары храм, пасля якога горад стаў называцца Катманду, кату — дрэва, манду — храм. Санкрытык — (непальск.) культурны. Сустрэча з непальскім тэлебачаннем (4 гады тэле Непала).

У hotel Shankar. Вечарэе. Дзяўчаткі маленькія танюсенькімі галасамі просяць бон-бон, ненахабна, помесь мяўкання і шчэбету. Пагады, як шматпавярховыя птушкі, некуды хочуць узляцець. Машыны, каровы, пешаходы, веласіпедысты, матацыклісты пераблыталіся ўсе, суіснуе, суседнічае. Пагады падымаюць крыльца, каб не абрасіцца. Пазвоньваюць званочкі ступ (храмаў) у тумане, у змроку, як каровы на пашы, каб не згубіліся, ідуць да Гімалаяў.

За вячэрай. Дзеці (з Чылі, Італіі, ФРГ, Даніі) праспявалі калядныя песні, віншаванні, і на рускай мове. «Хрыстос у сэрцы маім!» Абшчына 7 сямей, 35 дзяцей, жывуць на ахвяраванні. Пагады, як шляхцянкі на фэсце.

*24 снежня, субота*

*г. Катманду*. Баўдханат (народжаны Будай), будысцкая ступа V ст., самая буйная ў Азіі. ! *У Непале няма ніводнай палітычнай партыі.* ! І тры ўраджая ў год. Да XVII ст. раздробленыя княствы. Кароль Тначка [?] аб'ядноўваў Непал з 1771 г.[1] Аб'ядналы. Храм Буды ў іпастасі Майтрэя (місія).

Галоўная магі [?] самы прыгожы Буда, а ля дзвярэй кароль і каралева. Пагады-манастыры каля прадгор'я Гімалаяў. Багіня ведаў і бог, які карае невукаў.

Рака Багхмаці. Шамшан [?] — др. Спальваюць трупы. Шыва — у выглядзе лінгава [лінге]-фаласа. Крэмацыя. Паляць галавешкі і топяць у ваду. Цела [складаецца] з 5-ці элементаў: вада, паветра, зямля, агонь і святло. Калі чалавек памірае, павінны быць накіраваны на ўз'яднанне з гэтымі элементамі. І куля'мі мятуць, шастамі счашчаюць, як под у печы. Частку праху, які не згарэў, яны не могуць [скінуць] у ваду і закопваюць, каб птушкі [не] здзяўблі. А вышэй па плыні мыецца, пад трусы рукі, падрабяззе праціраe — ачышчаецца ад грахоў.

Дзверы ў храм з чыстага срэбра, купал з золата. Востраў, дзе можа быць крэміраваны кароль. Калі Шыва раскрывае 3-е вока — усё разбураецца. Фалас — Шыва. Права паднесці агонь стары [перадае] сыну; калі не — тады нехта з братоў, калі не сам святар запальвае агонь; калі малалеткі — запальвае агонь святар. Жанчына дома, не пускаюць на месца крэмацыі. Усе мыюцца, хто датыкаўся да цела. Жалоба 1 год. Белы [колер] — жалоба. На працягу года ніхто з членаў сям'і ні ў якіх забавах не ўдзельнічае. Прах у рэчку; вера ў рэінкарнацыю. Калі чалавек як жывёла, то як жывёла і ўродзіцца. Раней і жанчын палілі — саці (sati) — традыцыя (паленне жонкі). [Неразб. 1] Хахгапур — горад, угодны богу. Людзі на зямлі [сядзелі], на дрэвах, размышлялі пра бога. Жанчыны [рабілі] татуіроўкі — зло абміне іх тады.

*Непальскі абразок*

На памосце, як на эшафоце, паляць труп,
І чадам мяса пахне.
Аж пацее цемраю страхоцце
Халадацца ў апраметнай багне.

---

[1] У 1769 г. Прытхві Нараян Шах аб'яднаў тэрыторыю Непал ў адзіную дзяржаву, заснаваўшы дынастыю Шахаў.

Дасмылела, дадымела ўрэшце
Тое, што было нядаўна целам.
Датухаюць галавешкі ў рэчцы,
Попел разляцеўся ў свеце цэлым.
Стаў зямлёй, вадой, агнём, паветрам,
Стаў святлом,
Зноў вернуты стыхіям.
Адыходзіць, верны запаветам,
Дух у неба
З дымавітым кіем.
Пабыла душа ў гасцях у долі,
Як бабылка ў незапёртай хаце.
З вечнасці ў нябыт ідзе паволі
Рэчка, Богам чутая Багмаці.

*16 чэрвеня 1994*

1700 да н. э., XVII ст. храм пяці стрэх. Быў землятрус. Малыя [просяць]: «Давай-давай!» 3 ураджаі на год. У гарах матрыярхат, у братоў адна жонка. Тэрасы, як амфітэатр. 2,6 % прырост. Тэраснае земляробства, толькі рукамі. 100 год — цёмны час сямейства Рана[1]. 1547 м над узроўнем мора.

Хрыбты гор, нібы волатаўскія лісцінкі. Стог сена каля дрэўца, як уцяпленне. Хацінкі тэракотавага колеру, стрэхі з саломы. Хрыбціны гор — вялізныя лісціны з пражылкамі сцяжынак і лагчын, дзе хораша нястрымным ліўнеспадам, хацінкі квадратовыя крышталікамі. Тэрасы, як крэпасныя сцены. Самотнае дрэва, як зарунелая хмурынка, якая прарасла. Тэрасы, як сляды адступлення хваль на беразе мора ці нашага Вечалля, як пральная дошка.

Над галавой вялікае інжырнае дрэва і інжырынкі, як зялёныя катовы мудкі. Валасатыя пальцы кактусаў. Лехі на тэрасах, як пісьмёны. Смарагд пшанічнай руні. Тэрасы, як бясконцастрэхія пагады. Два кашы на каромысле, як дзве шалі правасуддзя, насе на плячах.

Эверэст — культ[урны?] Dresents — непальскія класічныя і народныя танцы:

1) з плошкай [?];

2) босыя хлопцы і дзяўчаты басанож; саліст з мікрафонам;

3) салістка ў паветраным і саліст босы з канцамі шаліка, куляюцца на руках;

4) у бубен [неразб. 1]; карона з паўлінавых пер’яў; другі з маскай, глытае агонь, выдыхае агонь, зноў глытае, абвешаны зван[очкамі];

---

[1] У 1846 г. уладу ў Непале захапіў род Рана, які ўстанавіў ваенна-феадальны рэжым (да 1951).

5) дзве пары даўгалыгіх хлопцаў і дзяўчат сцёгнамі [вырабляюць] лепш ад парыжанаў;

6) з каляровым пугаў'ём саліст свішча, і з'яўляецца чорны як;

7) пара танцуе, бубен, талеркі, жалейка, [неразб. 1] з кошыкаў кідаў у залу кветкі;

8) жахлівая маска, колеры ўбрання зоркія; бубны, саліст б'е ва ўсё, так бы і рук Шывы не хапіла;

9) чорны доўгі, чырвоныя з блакітным рукавы ў дзяўчат, хлопцы ў футравых шапках, у бурках, як пасля вайны;

10) паўлін танцуе, распускае веер;

11) усе на сцэне, спевы і акампанемент.

Каралеўства без партый, а тэхніка японская, ходзіць тралейбус прыгарадны, яшчэ далёка да нашай светлай будучыні.

*25 снежня, нядзеля*

г. Катманду. Каталіцкі храм, з дрэва выявы па краях. Спяваюць на непалі. На птушцы драўлянай кліча пастыр, дае чытаць юнаку ў сучаснай вопратцы. Дзе алтар — пагада з цёмнага дрэва, у ясельках Хрыстос, як лялька з пластмасы. Хрыстос і Дзева Марыя, як фігуркі з пластмасы. Хто сядзіць на падушачках, хто на лавах. Усе разутыя. Чытае другі па [неразб. 1], у джынсах, расхлістаная кашуля, свэдэр, чытае па-англійску.

Кума́ры — жывая багіня, багіня-дзіця. Паказалася каралева, замучанае дзіця. Стары каралеўскі палац.

Ахапку дроў заплеччу на продаж нясе.

Кумары — ахоўніца краіны, пакравіцельніца, у XVIII ст. культ устаноўлены. Адзін з каралёў XVIII ст. меў містычную сілу голас бога пачуць: трэба [стварыць] культ жывой багіні-дзіцяці, каб спрыяла краіне. Кароль штовечар размаўляў з багіняй. Аднойчы багіня знікла, тады кароль [правёў] шмат цырымоній, каб ублажыць багіню. І нарэшце багіня з'явілася ў сне: «Шануй мяне як багіню ў абліччы малой дзяўчынкі». Калі дзяўчынка вырастала, замяняюць, каб стала Кумары. Гэта гонар і слава сям'і, дзе нарадзілася.

Спаборніцтва [неразб. 1] у ног Дурхакапуджа. Шмат экзаменаў, спачатку журы, як выглядаець галяком, пасля 44 характарыстыкі: прыемныя вочы, рукі, абрысы, ніякіх шрамоў, рубцоў на целе, не хваравітая, моцныя зубы, конкурс красы. Калі выбіраюць, яна ўвасабленне [багіні] на Зямлі. Прыносіцца ахвяра — галава буйвала. Плача — не можа быць багіняй. Дзеці ноч [праводзяць] у цёмным пакоі, дзе галава адсечаная буйвала, а святары ў страшных масках і пугаюць. Заплакала — усё. Не мусіць нічога палохацца, каб гараскоп супадаў з каралеўскім. Узрост —

4 гады. Калі дзяўчынка вырастае — вяртаецца да бацькоў і ніколі ўжо не выходзіць замуж, бо яна боскай сілай надзелена, і ніхто з мужчын не датыкаецца, бо калі выйдзе [замуж] — праз 6 месяцаў памрэ. Пенсія. Усім распалагае, акрамя свайго цела, усе жаданні выконваюцца. ≈ 1000 дзяўчынак у спаборніцтве [удзельнічаюць]. Дома — першапачатковае імя сваё, і Кумары не называюць. Калі захварэе, яна не багіня, і багіняй [становіцца] дзяўчынка № 2. Калі захворвае, значыць, не валодае боскай сілай. На свята ў калясніцы ўсыпаюць кветкамі, народ долу [падае], не датыкаецца. Ходзяць маліцца на Кумары з сям'і індуісцкай, і яна багіня індуісцкая. Бацькі наведваюць, шануюць як багіню, ім дазволена наведваць храм. Настаўнік прыходзіць і [дае] пачатковую адукацыю. Адукацыю малую, каб не адчула, што мужчына вышэй жанчыны. Звыш 15 чалавек абслугі. Ні тэле, ні радыё.

У Індыі каровы свяшчэннымі [становяцца], калі не даюць малака, іх выганяюць з дому, і яны робяцца свяшчэннымі. У Непале мала свяшчэнных кароў, усе гаспадары даражаць імі.

! У Непале цяпер 2045 год (пасля вайны).

Кінастудыя 5–6 мастацкіх, ≈ 15 дакументальных [фільмаў здымае].

Культурны цэнтр рускі. Кароль і Міхаіл Сяргеевіч [Гарбачоў]. На сцяне партрэты Маякоўскага, Пушкіна, Талстога, Горкага.

Мігалкі, рух спыніўся на колькі хвілін — кароль.

За вокнамі спорны дождж, гром, калядная навальніца.

*26 снежня, панядзелак*

г. Катманду. Дач Калі — паўночны палац багіні Калі. Штосуботу, штонядзелю ахвяры прыносяць — усё, што хочуць. Просяць, каб жаданні збыліся. Жывёлу прыганяюць, калі жаданае збываецца. Насарог, зал. авечка, толькі самцы нялегчаныя. Певень, сабака, казлы. Жывёлы павінны [быць] здаровыя і дагледжаныя. Пасля ахвярапрынашэння [глядзяць], ці памерла жывёла, каб не мучалася; сутаргі — памёр, забіраюць дамоў і ядуць. Не можа прадаць гэтае мяса. Яшчэ ў ахвяру — яйцы. Яйцы значыць жыццё. Разбіваюць і разліваюць.

Калі — жонка Шывы, поўня — Дурга, а жывое ўвасабленне Кумары, калі дрэнна карае. Д'яблы — слугі бога.

Рысавая салома на стрэхі [неразб. 1] прыйшла. Сена на дрэвы, як верацёны. Тыбецкая культура. Поўдзень [неразб. 1] Індыя, поўнач Тыбет. Ганеша ў Індыі вегетарыянец, а ў Непале — няма вегетарыянцаў. Тэрарыстам — галаву з плячэй, забойца — 30 год [атрымлівае]. Эканоміка — сельская гаспадарка, турызм — валюта, каб купіць, чаго не вытварае краіна. За турызм жыве 100 тыс. чалавек. На гарах мазалі камянёў адшліфаваныя дажджом. Нева́ры — асноўная нацыянальнасць.

Снежаньскі шчодры лівень.

Пасля дзённых пакут нарэшце ў самалёт каралеўскай непальскай авіялініі. Дужа духмяна пахне нейкімі травамі — гэта разносяць маленечкія насовачкі-рушнічкі, махровыя, сінія, вільготныя, каб выцерці твар і рукі перад ежай, ідаць.

Палёталі-палёталі і назад у Kathmandu[1].

Кароль малюе, каралева піша вершы, пяюць яе песні.

*27 снежня, аўторак*

Kathmandu.

У гатэлі «Блакітная зорка»,  
У здажджэлым ушчэнт Kathmandu,  
Нас чакае каньяк і ікорка,  
Дзе тры зоркі разгоняць нуду.

А 2-й ночы прынеслі чай і хлеб.

Зноў аэрапорт. У чакальні багі з чырвонаконцымі фаласамі пад жыватом. Зноў узлёт. Няўжо зноў назад?

Маленькі армянскі хлопчык 9 дзён жыў тым, што маці парэзала руку і сілкавала сваёй крывёй, пакуль іх адкапалі.

Нарэшце мы ў Дэлі. Гвалт, мітусня. Юры [Сапажкова] няма. Перадаў праз хлопчыка-андропаўца [прывітанне]. І мы — у небе. «Як не разбудзіць сон?»[2]

[Адрасы:] Москва, 125319, ул. Усиевича, д. 9, кв. 59, тел. 151–45–55. Фирсова Джемма Сергеевна; Баку-12, Тбіліскі пр-т, д. 75, кв. 55, тел. 31–60–95. Муса Багіраў; 107113, Москва, Сокольнический вал, д. 48, кв. 18. Быстрицкая[3] Э. А.; Вильнюсский р-н, Дуйвидишкес, ул. Ряричу, 1–15, тел. Дом. 58–33–70, раб. 76–38–91. Эдвардас Кундавичюс.

*31 снежня, субота*

*Пімену Панчанку на новы, 1989, год*

Дзе Панчанка, там бюракрат  
Самім сабою быць не рад.  
Паэт і ў снах страшны́х не мроіў,  
Што жыцьме між сваіх «герояў».

---

[1] Гл.: «Нялётнае надвор’е ў Катманду…» (26.12.88) // Міласэрнасць плахі. С. 185.

[2] Гл.: Як сон не разбудзіць? (1988–1.04.89) // Грышка, Мішка і Шчыпай ехалі на чоўне. Мінск: «Юнацтва», 1996. С. 11.

[3] Быстрыцкая Эліна Аўраамаўна (н. 1928), руская актрыса. Заслужаная артыстка РСФСР (1962). Народная артыстка РСФСР (1966). Народная атрыстка СССР (1978). Народная артыстка ГССР, АзССР, КССР.

Адзін на Пуліхава ён
Паэт-змагар на ўвесь раён.

*

Хай Панчанку спрыяе плён,
Яго героям сніцца сон,
Што ім прыйшоў нарэшце скон.
Няхай паэту добра будзе
У Новым і ва ўсіх гадах,
Няхай нябёс спадманны дах
Над панчанаўскімі радкамі
Стаіць пагодліва вякамі,
А мудрасць вучыць па складах
Чытаць наступнага паэта.
І гэта будзе.
Веру ў гэта!

## Змест

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Рыгор Іванавіч Барадулін

**Дзённікі і запісы**
*Выпуск 4. 1983–1988*
*Выданне 2-е*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *Н. Давыдзенка*
Тэхнічны рэдактар *Я. Мальдзіс*
Набор *Н. Давыдзенка*
Камп'ютарная вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктары *Н. Давыдзенка, І. Сляповіч*

Падпісана ў друк 14.10.2020. Фармат 70х100 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Друк лічбавы.
Гарнітура Cambria. Ул.-выд. 16,07 арк.
Ум. друк. 30,79 арк. Наклад 40 асобнікаў. Зак. 348.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.




Саюз беларускіх пісьменнікаў — найстарэйшая творчая арганізацыя Беларусі. Ён быў заснаваны ў 1934 годзе. Гэта прафесійная грамадская арганізацыя, якая актыўна ўдзельнічае ў сацыяльным і культурным жыцці краіны дзеля прасоўвання і развіцця беларускай літаратуры.

Мэтамі ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» з'яўляюцца: абарона аўтарскіх правоў і прадстаўленне інтарэсаў сваіх сяброў, адстойванне свабоды слова і захаванне беларускай літаратурнай спадчыны.

СБП заснаваў і выдае кніжныя серыі: «Кнігарня пісьменніка», «Пункт адліку», «Каляровы ровар».

Сайт арганізацыі: www.lit-bel.org




Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"» дзейнічае з 1990 года і супрацоўнічае з беларускімі арганізацыямі ў больш чым 20 краінах свету.

Сярод асноўных задач арганізацыі: кансалідацыя беларусаў, якія пражываюць у краіне і за мяжой, на глебе павагі да беларускай культуры і гісторыі, паглыбленне нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў.

У 2004 годзе Згуртаванне заснавала спецыяльную кніжную серыю, прысвечаную беларускай дыяспары, — «Бібліятэка Бацькаўшчыны», у якой ужо выдадзена 29 кніг і 3 кнігі ў падсерыі «Людзі Беларусі».

Сайт арганізацыі: www.zbsb.org

З 2008 года МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"» каардынуе грамадскую культурніцкую кампанію «Будзьма беларусамі!».

Сайт: www.budzma.by